*Гэтую працу прысвячаю Яначцы –*
*маёй любай унучцы, гарадзенцы, дачцэ абодвух народаў.*

*Тадэвуш Гавін*

# Пад прэсінгам палітыкі

Польская нацыянальная меншасць
у Беларусі ў 1919-2017 гг.




Беласток 2018

Рэцэнзенты:
*праф. д-р габ. Яўген Мірановіч, Універсітэт у Беластоку,*
*д-р габ. Дарота Міхалюк, праф. Універсітэта Мікалая Каперніка, Торунь,*
*д-р габ. Марыюш Машкевіч, Універсітэт кардынала Стэфана Вышыньскага, Варшава,*
*Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне (1994-1997),*
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Мінску (1998-2002)*

Рэдакцыя:
*Віталь Луба, Кацярына Крот, Таццяна Касатая*

Імянны і геаграфічны індэксы:
*Віталь Луба*

Праект вокладкі і тытульных старонак:
*Мацей Скіндзер*

Вёрстка:
*Зміцер Гупянец*

Дызайн вокладкі:
Адзін з многіх польскіх надмагільных помнікаў,
пашкоджаных людзьмі і часам, на каталіцкіх могілках у Беларусі.
Фота: *Яраслаў Ксёнжак*

Фінансаванне:






Konsulat Generalny
Rzeczypospolitej Polskiej
w Grodnie



STOWARZYSZENIE
„WSPÓLNOTA POLSKA"



POMOC
POLAKOM
NA WSCHODZIE



ISBN: 978-83-64474-08-8
ISBN: 978-83-64474-09-5



Беласток 2018

Выдавецтва:
Wydawnictwo Prawo i Partnerstwo
15-213 Białystok
ul. Mickiewicza 1/101
Tel.: +48 85 745 72 07
Fax.: +48 85 745 72 03

Druk: Zakład Poligraficzny ARES S.c. R. i A. Józefowicz

# Змест

# Уступ

Польская прысутнасць на былых усходніх землях Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў на працягу многіх стагоддзяў была істотным фактарам беларускай гісторыі. Блізкае суседства беларусаў і палякаў абумовіла перапляценне гістарычных лёсаў двух народаў і ўзаемныя ўплывы[1]. Барацьба за польскасць для палякаў і беларускасць для беларусаў дагэтуль не скончылася. У зменлівых палітычных умовах вось ужо сто гадоў яна працягваецца. Роля русіфікатараў гэтай зямлі ад царскай Расіі перайшла да Расіі савецкай, пазней да Савецкага Саюза, а ў цяперашні час да кіруючага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Палітыка Расійскай імперыі ў адносінах да палякаў выбудоўвалася такім чынам, каб спачатку істотна абмежаваць (пасля 1831 г.), а потым (пасля 1864 г.) цалкам ліквідаваць іх прысутнасць у грамадска-палітычным, культурным і эканамічным жыцці[2]. Бязлітасная і бескампрамісная палітыка царскіх улад на беларускіх землях праводзілася аж да канца 1904 г. У пачатку 1905 г. з'явіліся першыя прыкметы змякчэння антыпольскай палітыкі ў рэлігійнай і моўнай сферах[3]. У верасні 1905 г. выйшаў першы нумар "Kuriera Litewskiego" на польскай мове[4]. З 1906 да 1913 г. палякі бралі актыўны ўдзел у працы Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнага Савета, дзе цалкам адкрыта маглі гаварыць пра свае праблемы і адстойваць свае правы, не баючыся за наступствы[5].

1 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Jurkowski, *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich 1864–1904. Działalność społeczno-gospodarcza,* Warszawa 2001; J. Bardach, *O dawnej i niedawnej Litwie*, Poznań 1988; J. Jurkiewicz, *Osadnictwo polskie w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle badań historycznych*, "Acta Baltico-Slavica", 1994, t. 22; R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.*, "Biuletyn Historii Pogranicza", 2000, nr 1; А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.*, 2-е выд., Санкт-Пецярбург 2004; ён жа, *"Краёвая ідэя" ў беларускай гісторыі,* Мінск 2017; L. Zasztowt, *Europa Środkowo-Wschodnia a Rosja XIX–XX wieku. W kręgu edukacji i polityki,* Warszawa 2007.

2 Асноўнай мэтай гэтай палітыкі было "канчатковае знішчэнне польскасці ў Літве і Беларусі", а галоўнай марай генерал-губернатара Канстанціна фон Каўфмана, які лічыў польскую мову сабачай, было пераўтварэнне Гродна ў Тамбоў. Гл.: А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.,* с. 64, 100.

3 Тым не менш царскія чыноўнікі на месцах да самай Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. рабілі ўсё, што ад іх залежала, каб перашкодзіць у справе выкладання польскай мовы ў школах, адкрыцця польскіх школ *ва ўсходняй* Беларусі, а таксама вывучэння рэлігіі на польскай мове. Істотны прарыў у адкрыцці польскіх школ адбыўся толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі. У 1917–1918 навучальным годзе толькі ў адной Мінскай губерні створаныя 243 польскія школы, у тым ліку дзве сярэднія – у Койданаве і Нясвіжы. Больш падрабязна на гэту тэму гл.: D. Tarasiuk, *Między nadzieją a niepokojem. Działalność społeczno-kulturalna i polityczna Polaków na wschodniej Białorusi w latach 1905–1918,* Lublin 2007, s. 29–47.

4 Падрабязней на гэту тэму гл.: D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939,* Gdańsk 1999, s. 3–141.

5 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Jurkowski, *Sukcesy i porażki. Ziemiaństwo polskie Ziem Zabranych w wyborach do Dumy Państwowej i Rady Państwa 1906–1913,* Olsztyn 2009.

Адраджэнне польскага руху было звязана пераважна з дзейнасцю сацыяльных “вярхоў” мясцовых палякаў. Да пачатку XX ст. “нізы” (сяляне і мяшчане) амаль не праяўлялі грамадска-палітычнай актыўнасці[6].

Першая сусветная вайна (1914–1918 гг.) паспрыяла пераўтварэнню “польскага пытання” ў актуальную праблему агульнаеўрапейскай палітыкі[7]. Актывізаваўся польскі нацыянальны рух[8]. Польская дэмакратычна-нацыянальная партыя (ПДНП) у пачатку вайны рабіла стаўку на перамогу Расіі, якая, на думку Рамана Дмоўскага, павінна была прывесці да аб’яднання ўсіх трох частак этнічнай Польшчы[9].

Увосень 1915 г. значная частка беларускіх і літоўскіх зямель апынулася пад уладай нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. У гэты момант Вільня перастала быць адзіным цэнтрам польскага руху. На ўсход ад лініі фронту ролю такога цэнтра пачаў адыгрываць Мінск. Гэтаму паспрыяў масавы наплыў у горад бежанцаў з Каралеўства Польскага. Аднак расійскія ўлады па-ранейшаму абмяжоўвалі праявы не толькі палітычнай, але таксама культурнай дзейнасці польскіх арганізацый[10].

Зусім па-іншаму выглядала сітуацыя на тэрыторыі, акупаванай германскімі войскамі. У канцы 1915 — пачатку 1916 г. нацыянальна-культурнае жыццё літоўскіх і беларускіх палякаў значна актывізавалася. Тут была створана сістэма польскай адукацыі[11]. Пры гэтым польская культурна-асветная дзейнасць непасрэдна закранала інтарэсы беларускага і літоўскага рухаў, якія таксама разгарнулі актыўную культурна-асветную дзейнасць[12]. Па-

6 Выключэннем было толькі выразнае незадавальненне палітыкай уціску Каталіцкага касцёла. Сітуацыя пачала змяняцца ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. Менавіта ў гэты час назіраліся першыя масавыя выступленні сацыяльных “нізоў” літоўскіх і беларускіх палякаў, якія датычылі праблем культурнага і рэлігійнага жыцця польскай грамадскасці. Гл.: А. Смалянчук, *Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг.*, Гародня 2000.

7 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Jurkiewicz, *Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905–1922,* Poznań 1983.

8 Першая сусветная вайна з пункту гледжання беларускіх палітычных і нацыянальных інтарэсаў, як лічыць прафесар Беластоцкага ўніверсітэта Яўген Мірановіч, пачалася заўчасна, заспеўшы беларускія палітычныя эліты без дакладнай канцэпцыі дзеянняў у выпадку парушэння існуючага геапалітычнага парадку, а беларускае грамадства — на этапе ўступлення на шлях народна-стваральных працэсаў. Гл.: O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, Białystok b.r.w, s. 127; D. Michaluk, *Białoruska idea narodowa. Od federalizmu do państwa narodowego*, [y:] *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich,* Warszawa 2017, red. T. Gawin, s. 53–65.

9 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Dmowski, *Polityka Polska i odbudowanie państwa*, Warszawa 1988, t. 1, 2.

10 D. Tarasiuk, *Między nadzieją a niepokojem. Działalność społeczno-kulturalna i polityczna Polaków na wschodniej Białorusi w latach 1905–1918*, Lublin 2007, s. 13–112; D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939,* s. 3–141.

11 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 гг.*, Горадня 2001, с. 366; ён жа, “*Краёвая ідэя” ў беларускай гісторыі,* с. 55. Падрабязней на тэму нямецкай акупацыі гл.: S. Glaser, *Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915–1918. Stosunki prawne*, Lwów 1929.

12 R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX wieku,* “Biuletyn Historii Pogranicza”, nr 1, Białystok 2000, s. 21–30; D. Szpoper, *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939,* s. 3–141; J. Jurkiewicz, *Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905–1922,* Poznań

зіцыі прыхільнікаў міжнацыянальнага паразумення сярод мясцовых палякаў, беларусаў і літоўцаў у гэты перыяд значна аслабелі[13].

У 1915–1916 гг. распачаўся новы этап эвалюцыі "польскага пытання" ў беларускай гісторыі. Ваенна-палітычныя падзеі ў рэгіёне ў 1915–1917 гг. паспрыялі ягонай пераарыентацыі. На першы план у мясцовым польскім руху выйшла ўласна польская нацыянальная ідэя, непарыўна звязаная з адраджэннем польскай дзяржаўнасці[14].

Беларускае пытанне ўпершыню на міжнароднай арэне было паднята ў красавіку 1916 г. у г. Стакгольме на канферэнцыі народаў Расіі. Іван Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі, якія прысутнічалі на канферэнцыі, прадставілі патрабаванні палітычнай і культурнай аўтаноміі для Беларусі ў межах расійскай дзяржаўнасці[15].

Працэс барацьбы за стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы быў працяглым у часе, супярэчлівым і дастаткова складаным[16]. Фармальна ён скончыўся 25 сакавіка 1918 г. абвяшчэннем Радай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) незалежнасці Беларусі. У склад беларускай дзяржавы павінны былі ўвайсці Магілёўшчына, беларуская частка Міншчыны, Гродзеншчына (з Беластокам), Віцебшчына, беларуская частка Віленшчыны, Смаленшчына і Чарнігаўшчына, а таксама памежныя тэрыторыі суседніх губерняў, дзе жылі беларусы.

Устаўная грамата аб абвяшчэнні незалежнасці БНР была падтрымана не ўсімі членамі Рады, некаторыя з іх былі супраць разрыву адносін з Расіяй. Польская Рада Мінскай зямлі па-ранейшаму прыхільна ставілася да дзейнасці Рады БНР. Яна прывітала III Устаўную грамату, заўважыўшы, што *"перад Радай БНР доўгі і цяжкі шлях да беларускай дзяржаўнасці. Аднак першыя крокі сведчаць, што абраны большасцю Рады накірунак добра прадуманы і палітычна рацыянальны"*[17].

---

1983; А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй*, с. 331–360; W. Sukiennicki, *East Central Europe during World War I*: *from foreign dominantion to national independence*, red. M. Siekierski, t. 1, New York 1984.

13 Дамінуючай тэндэнцыяй міжнацыянальных адносін стала абарона выключна ўласных нацыянальных інтарэсаў. Спроба краёўцаў дасягнуць польска-беларуска-літоўска-жыдоўскага паразумення пры дапамозе Часовай Рады Канфедэрацыі ВКЛ скончылася няўдачай. Гл.: O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 130; А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй*, с. 329–330; M. J. Karp, *W poszukiwaniu współpracy między narodami byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego podczas I wojny światowej*, [у:] *Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The Foundation of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe. International Conference Rome, 28 April — 6 May 1990*, red. J. Kłoczowski, Lublin 1994; А. Станкевіч, *Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення*, Вільня 1934, с. 83.

14 Падрабязней на гэту тэму гл.: D. Tarasiuk, *Kwestia białoruska w poglądach mińskich Polaków (1917–1918),* [у:] *Нацыянальнае пытанне. Матэрыялы III міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый",* Мінск 2001, с. 186–193; Тамсама, А. Смалянчук, *Палякі Міншчыны і беларускі нацыянальны рух (1916–1918),* с. 171–185.

15 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 130.

16 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości,* Toruń 2010; яна ж, *Białoruska idea narodowa. Od federalizmu do państwa narodowego*, [у:] *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich,* red. T. Gawin, s. 53–65; O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 127–137.

17 Падрабязней на гэту тэму гл.: D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości,* Toruń 2000; яна ж, *Białoruska idea narodowa. Od federalizmu do państwa narodowego*, [у:]

БНР, нягледзячы на ўсе намаганні яе палітычных дзеячаў, не змагла пераўтварыцца ў прызнаную на міжнароднай арэне дзяржаву. Тым не менш беларусы паказалі свету і сваім суседзям, што іх канчатковай мэтай з'яўляецца будаўніцтва незалежнай і суверэннай беларускай дзяржавы. Устаўная грамата БНР ад 25 сакавіка 1918 г. прымусіла кіраўніцтва бальшавіцкай Расіі стварыць 1 студзеня 1919 г. Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР)[18].

Першыя ваенныя дзеянні наступаючай Чырвонай арміі з польскімі вайсковымі фарміраваннямі адбыліся ў баях за Вільню. Пачатак гэтага баявога сутыкнення 1 студзеня 1919 г. шматлікія гісторыкі лічаць пачаткам польска-савецкай вайны[19]. Усталяванне ўсходняй мяжы Польшчы ў гэтых умовах залежала ад паспяховага выніку вайны з Савецкай Расіяй[20].

Зневажальнае для бальшавікоў паражэнне ў савецка-польскай вайне, а таксама цяжкі эканамічны і ваенны стан Савецкай Расіі прымусіў яе падпісаць 18 сакавіка 1921 г. у Рызе мірны дагавор паміж РСФСР (у тым ліку і ад імя Беларускай ССР) і УССР з аднаго боку і Польшчай з другога боку[21].

Згодна з умовамі гэтага дагавора скончылася польска-савецкая вайна 1919–1921 гг. Пасля ратыфікацыі (арт. 24) дагавора бакі, якія падпісалі яго, абавязваліся неадкладна наладзіць дыпламатычныя адносіны[22]. Мірны дагавор акрэсліў мяжу паміж Польшчай з аднаго боку і Расіяй, Беларуссю і Украінай з другога боку. Да Польшчы далучаліся тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны[23].

---

*Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*, red. T. Gawin, s. 64–65; O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 137–138; А. Смалянчук, *Палякі Міншчыны і беларускі нацыянальны рух (1916–1918),* [у:] *Нацыянальнае пытанне. Матэрыялы III міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый"*, Мінск 2001 с. 183; Тамсама, D. Tarasiuk, *Kwestia białoruska w poglądach mińskich Polaków (1917–1918),* с. 192–193.

18 Падрабязней на гэту тэму, а таксама на тэму працэсу памяншэння тэрыторыі БССР, у выніку якога да РСФСР адышлі землі Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў, і працэсу пераўтварэння БССР у Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Літвы і Беларусі (у кіраўніцтве якой не было ніводнага беларуса) пад кіраўніцтвам бальшавікоў гл.: O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 137–141; O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923,* Białystok 1995.

19 A. Nowak, *Ojczyzna ocalona. Wojna sowiecko-polska 1919–1920*, Kraków 2010, s. 25, 140; ён жа, *Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982–2012*, Kraków 2012, s. 218–223.

20 A. Czubiński, *Problem obszaru i granic odrodzonego państwa polskiego w latach 1918–1922*, [у:] *Problem granic i obszaru odrodzonego państwa polskiego (1918–1990)*, red. A. Czubiński, Poznań 1992, s. 51–61.

21 Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, Warszawa 2005, s. 98–116; ён жа, *Traktat ryski — potencjalna baza regionalnego systemu bezpieczeństwa*, [у:] *Да 90-годдзя прыняцця Рыжскага дагавору 1921 г. Матэрыялы з гісторыі польска-беларускіх узаемаадносін у XX ст. Зборнік навуковых прац III міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі.* Мінск, 9–10 чэрвеня 2011 г., с. 12–21; Тамсама, W. Rezmer, *Traktat ryski w kontekście konfliktu polsko-rosyjskiego 1919–1920*, s. 36–45; Тамсама, А. Чернякевич, *Оккупация или освобождение: установление польской власти на северо-восточных землях бывшей Речи Посполитой 1919–1920 гг.,* с. 129–150.

22 Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (далей: РДАСПГ), фонд (ф.) 82, вопіс (воп.) 2, справа (спр.) 1285, аркуш (арк.) 1–8: Записки, информации, материалы Народного Комиссариата Иностранных Дел, касающиеся Польши. Начато 1922 — окончено 1942; *Мирный договор между Россией и Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой*, [у:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 642.

23 Абодва бакі гарантавалі поўную ўзаемную павагу дзяржаўнага суверэнітэту і ўстрыманне ад усялякага ўмяшання ва ўнутраныя справы краін-падпісантаў. Яны пацвердзілі гатоўнасць рэалізацыі падпісанага 24 лютага 1921 г. у Рызе пагаднення аб рэпатрыяцыі, гарантавалі грамадзянам супрацьлеглага боку поўную амністыю за ўсе палітычныя злачынствы і правіны. Пад палітычнымі злачынствамі і правінамі

Рыжскі дагавор у прававым парадку ўсталяваў мір у той частцы еўрапейскага кантынента, у якой ён не быў вызначаны Версальскай дамовай, а таксама зрабіўся кампрамісам, што дазваляў ваюючым да гэтага бакам сканцэнтравацца на вырашэнні ўнутраных дзяржаўных праблем[24].

Першапачаткова Савецкая Беларусь займала тэрыторыю 59,6 тыс. квадратных кіламетраў, складалася з шасці раёнаў, у якіх пражывалі 1,6 млн. чалавек. Пасля ўзбуйненняў рэспублікі ў 1924 і 1926 гг. (былі далучаны 15 раёнаў РСФСР і 2 раёны УССР) яе тэрыторыя павялічылася да 125 тыс. квадратных кіламетраў, а насельніцтва амаль да 5 млн. чалавек[25].

Дагавор аб рэпатрыяцыі даў магчымасць беларускім палякам выехаць з БССР на сваю гістарычную радзіму — у Польшчу. Але па розных прычынах не ўсе змаглі скарыстацца гэтай магчымасцю. Частка беларускіх палякаў, ратуючыся ад наступстваў бальшавіцкай рэвалюцыі і пераследу за ўдзел у польска-савецкай вайне, выехала ў Польшчу яшчэ да падпісання Дагавора аб рэпатрыяцыі[26]. Першы (пасля заканчэння ў 1924 г. рэпатрыяцыі) праведзены ў СССР у снежні 1926 г. перапіс насельніцтва паказаў, што на тэрыторыі БССР засталося 97,5 тысячы палякаў[27]. Па-рознаму склаўся іх лёс у БССР у 1921–1939 гг. Пазбавіўшы польскае насельніцтва Беларусі польскай магнатэрыі, землеўласнікаў, былых царскіх дзяржаўных служачых, вайскоўцаў, творчай і навуковай інтэлігенцыі, духавенства, інжынераў і іншых адукаваных катэгорый палякаў, сяляне і рацоўныя, што засталіся, зведалі прымусовую саветызацыю. У выніку яе правядзення павінен быў з’явіцца новы тып савецкага паляка, які лічыў бы радзімай не Польшчу, а СССР, быў бы гатовы распаўсюджваць (у тым ліку і ўзброеным шляхам) камуністычныя ідэалы. Калі польскі эксперымент не прынёс чаканых вынікаў, было прынята рашэнне фізічна знішчыць найбольш свядомую частку польскага насельніцтва БССР, асабліва ў Дзяржынскім польскім нацыянальным раёне, польскіх нацыянальных саветах і іншых польскіх адміністрацыйных інстытутах.

---

разумеліся дзеянні, накіраваныя супраць дзяржаўнага ладу або бяспекі дзяржавы, як і ўсе дзеянні, якія былі зробленыя на карысць іншага боку. Савецкі бок згадзіўся выплаціць Польшчы на працягу года 30 млн. залатых рублёў за ўнёсак Польшчы ў гаспадарчае жыццё Расійскай імперыі. Падрабязней на гэту тэму і дакладнае акрэсленне мяжы гл.: *Статья 2 Мирного договора,* [у:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 619–623, *приложение № 1 к Мирному Договору*, с. 642; *Документы внешней политики СССР*, т. III, с. 623, 628–629; J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, Wrocław 1998, s. 42; РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1285, арк. 3–8: Имущественные и финансовые обязательства России, Украины и Белоруссии по вопросу Рижского мирного договора.

24 P. Łossowski, *Kształtowanie się państwa polskiego i walka o jego granice (listopad 1918 — czerwiec 1921)*, [у:] *Historia dyplomacji polskiej*, red. P. Łossowski, t. 4: *1918–1939*, Warszawa 1995, s. 172.

25 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, Białystok 2004, nr 22, s. 42.

26 Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 130–136; M. Korzeniowski, *Na wygnańczym szlaku… Działalność Centralnego Komitetu Obywatelskiego Królestwa Polskiego na Białorusi w latach 1915–1918*, Lublin 2001, s. 361–380; W. Najdus, *Lewica polska w Kraju Rad 1918–1920*, Warszawa 1971, s. 414.

27 E. Kołodziej, *Dzieje Polonii w zarysie. 1918–1939*, Warszawa 1991, s. 75; *Всесоюзная перепись населения 1926 года*, Москва 1928, т. 10: *Белорусская Советская Социалистическая Республика: Народность. Родной язык. Возраст. Грамотность*, с. 9, 10, 12.

Паводле афіцыйных даных у БССР у 1937–1938 гг. было расстраляна 9 196 палякаў і 10 120 беларусаў[28]. Беларускія і замежныя даследчыкі прыводзяць розныя лічбы расстраляных у гэты перыяд[29].

Польскія даследчыкі Анджэй Новак і Мікалай Іваноў колькасць расстраляных палякаў ва ўсім СССР ацэньваюць у 200 тысяч[30]. Вядомы беларускі палітык і даследчык Зянон Пазьняк (першы раскрыў сталінскія масавыя пахаванні расстраляных беларусаў у Курапатах недалёка ад Мінска) прыйшоў да высновы, што падчас сталінскіх рэпрэсій у 1937–1940 гг. толькі ў БССР было расстраляна каля 250 тысяч чалавек[31]. У самых апошніх звестках (паводле беларускага гісторыка Ігара Кузняцова) гаворыцца, што ў БССР з моманту бальшавіцкага перавароту ў 1917 г. і да смерці Сталіна ў 1953 г. магло быць расстраляна прыкладна 370 тысяч чалавек[32]. Улічваючы тое, што палякі падчас масавых рэпрэсій у БССР часцей прысуджаліся да расстрэлу[33], чым прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, то выснова пра тое, што ў БССР у перыяд Вялікага тэрору было расстраляна каля 50 тысяч палякаў, з'яўляецца не толькі верагоднай, але і дастаткова абгрунтаванай[34]. З улікам расстраляных, асуджаных і высланых за межы БССР колькасць палякаў у рэспубліцы з 119,9 тысячы чалавек у 1937 г. зменшылася да 58,4 тысячы чалавек у 1939 г. Страты склалі 61,5 тысячы чалавек.

Сталін і яго стаўленікі ў БССР у выніку правядзення масавых рэпрэсій і тэрору канчаткова дэпаланізавалі ўсходнюю частку Беларусі. За 20 гадоў існавання савецкай улады адбылося тое, чаго не змог зрабіць царскі рэжым на працягу больш чым 120-гадовай гісторыі яго барацьбы з польскасцю.

---

28 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, диссертация на соискание учёной степени кандидата исторических наук, Минск 2008, с. 102. Афіцыйная статыстыка ў шмат разоў паменшыла колькасць расстраляных палякаў і беларусаў. Архіўныя матэрыялы — гэта крыніцы, якія былі створаныя ў самой сістэме і непазбежна носяць яе адбітак. Іншымі словамі, у залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры значная колькасць дакументаў магла ўтрымліваць свядома завышаныя або заніжаныя статыстычныя даныя. Вопыт функцыянавання СССР паказаў, што гэта было дзяржаўнае ўтварэнне, дзе шматлікія элементы палітычнага і дзяржаўнага жыцця, якія ўтрымліваліся ў справаздачах, па патрабаванні ўлады фальсіфікаваліся. Нельга таксама выключаць тое, што колькасць расстраляных савецкімі ўладамі палякаў у БССР была заніжана, каб такім чынам схаваць сляды злачынных, неабгрунтаваных парушэнняў тагачаснага заканадаўства.

29 Шматлікія афіцыйныя беларускія даследчыкі, якія працуюць у дзяржаўных адукацыйных установах, вымушаны давяраць тым даным, якія даступныя ў беларускіх архівах і якія ўхваляе ўлада. У дакладнасці гэтых даных сумняюцца беларускія незалежныя даследчыкі (не звязаныя з дзяржаўнымі адукацыйнымі ўстановамі), а таксама польскія навукоўцы.

30 A. Nowak, *Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności*, Kraków 2011, s. 27; M. Iwanow, *Zapomniane ludobójstwo*, Kraków 2014, s. 393.

31 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 278–279.

32 *Гісторык Ігар Кузняцоў налічыў 124 месцы масавых расстрэлаў ахвяр савецкіх рэпрэсій у Беларусі*. Гл.: "Наша ніва", 19.01.2017.

33 Падрабязней на гэту тэму гл.: "Польская аперацыя" на Беларусі (1937–1938 гг.), 4 падраздзел I раздзела гэтай працы.

34 Ігар Кузняцоў у сваім выступленні на Радыё "Свабода" 2 лістапада 2012 г. заявіў: *"Афіцыйная лічба, якая праходзіць па розных справаздачах і дакладах: падчас гэтай апэрацыі было рэпрэсавана каля 18 000 чалавек. Гэта лічба абсалютна не адпавядае рэчаіснасьці, хаця гэта лічба дакумэнтальна пацьверджаная ў Нацыянальным архіве, ёсьць дакумэнты. Мае прагнозы такія: на тэрыторыі Беларусі ў 1937–38-я гады было расстраляна ня менш за 50 000 палякаў. Паводле графы "паляк"*. Гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno — Białystok 2013, s. 113.

Сёння з перспектывы часу можна ўявіць сабе, які лёс чакаў бы Заходнюю Беларусь, калі б бальшавікі перамаглі ў польска-савецкай вайне 1919–1921 гг.

Наступны, не менш жорсткі, перыяд дэпаланізацыі Беларусі пачаўся 17 верасня 1939 г., калі СССР, выконваючы саюзніцкія абавязацельствы перад гітлераўскай Германіяй, напаў на Польшчу. Працягваўся гэты перыяд да 22 чэрвеня 1941 г. Ён характарызаваўся ліквідацыяй польскіх палітычных, эканамічных і культурна-адукацыйных інстытутаў, пераводам большасці польскіх школ у школы з беларускай або рускай мовамі навучання, масавымі расстрэламі польскіх ваеннапалонных і польскай моладзі, якая аказала супраціў Чырвонай арміі. Найбольш прыгнятальнае ўражанне на жыхароў Заходняй Беларусі зрабілі арганізаваныя новай уладай дэпартацыі палякаў, беларусаў і габрэяў у паўночныя і паўночна-ўсходнія вобласці СССР. У выніку за перыяд 1940–1941 гг. з Заходняй Беларусі было дэпартавана 120 тысяч чалавек. З іх палякаў — 90 тысяч, габрэяў — 23 тысячы, некалькі тысяч беларусаў і рускіх[35]. Новы погляд на гэту тэму прафесара Беластоцкага ўніверсітэта Даніэля Бацькоўскага кажа пра тое, што з кастрычніка 1939 г. і да чэрвеня 1941 г. было дэпартавана і прымусова перасялена ў аддаленыя вобласці СССР, а таксама ва ўсходнюю частку БССР каля 150 тысяч чалавек[36]. Дадатковае даследаванне дакументаў кажа пра тое, што дэпартаваных з заходніх абласцей Беларусі магло быць не менш чым 170 тысяч чалавек[37].

За два гады савецкай улады бальшавікі змаглі так варожа настроіць супраць сябе мясцовае насельніцтва Заходняй Беларусі, што гітлераўскую армію многія з жыхароў 22 чэрвеня 1941 г. сустракалі як сваіх вызваліцеляў[38].

Па-рознаму (пасля падпісання 30 ліпеня 1941 г. дагавора Сікорскага-Майскага) адбывалася супрацоўніцтва польскага ўрада ў Лондане з СССР у справе сумеснай барацьбы з гітлераўскімі акупантамі[39]. Пасля разрыву дыпламатыч-

---

35 Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 170; А. Хацкевич, *Узлы развязывает время*, “Неман”, 1994, № 1, с. 137; A. Chackiewicz, *Aresztowania i deportacje społeczeństwa zachodnich obwodów Białorusi (1939–1941)*, [у:] *Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939–1941*, red. M. Giżejewska, T. Strzembosz, Warszawa 1995, s. 120–137; A. Głowacki, *Sowieci wobec Polaków, na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939–1941*, Łódź 1997, s. 320–403; E. Kowalska, *Przeżyć aby wrócić! Polscy zesłańcy lat 1940–1941 w ZSRR i ich losy do roku 1946*, Warszawa 1998; *Wschodnie losy Polaków*, red. S. Ciesielski, Wrocław 1997; J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986*, Londyn 1988; РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 139, арк. 201: Записка инспектора ЦК ВКП(б) с материалами проверки работы ЦК КП(б) Беларуси, проект постановления ЦК ВКП(б), а также отчёт о работе ЦК КП(б)Б, 06.1946–01.1947; W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 585.

36 D. Boćkowski, *Deportacje ludności z zachodnich obwodów Białoruskiej SRR w głąb ZSRR w latach 1939–1941*, [у:] *Polacy na Białorusi od końca XIX – do poczatku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich,* red. T. Gawin, s. 275.

37 РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 139, арк. 201: Записка инспектора ЦК ВКП(б) с материалами проверки работы ЦК КП(б) Беларуси, проект постановления ЦК ВКП(б), а также отчёт о работе ЦК КП(б)Б, 06.1946–01.1947.

38 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, рэд. А. Смалянчук, Мінск 2015; Ю. Мацкевич, *От Вилии до Изара. Статьи и очерки (1945–1985).* Составил М. Бонковский. Перевела с польского Наталья Горбаневская, London 1992, с. 49–54.

39 Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 670–684; *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 232, s. 385; A. Paul,

ных адносін з Польшчай у красавіку 1943 г. Сталін канчаткова ўзяў курс на супрацоўніцтва з польскімі камуністамі ў СССР. Менавіта з іх дапамогай ён планаваў усталяваць у Польшчы падпарадкаваную сабе камуністычную ўладу[40].

У выніку падпісаных у Ялце 4–11 лютага 1945 г. дамоўленасцей паміж саюзнікамі Сталін "вырашыў" усе праблемы, звязаныя з "польскім пытаннем". Масква прымусіла варшаўскі ўрад прызнаць лінію Керзана ў якасці ўсходняй мяжы, што было зацверджана падпісаннем 16 красавіка 1945 г. Дагавора аб польска-савецкай мяжы[41]. Гэтая дамова ўступіла ў дзеянне 4 лютага 1946 г., пасля ратыфікацыі і абмену дакументамі паміж польскім і савецкім бакамі. Паводле міжнароднага права да гэтага дня паміж Польшчай і СССР існавала мяжа, усталяваная Рыжскім дагаворам, і ўсе дзеянні, што праводзіла савецкая ўлада ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, былі нелегальнымі і супрацьпраўнымі[42].

Пасляваеннае перасяленне (1944–1946 гг.), рэпатрыяцыя (1955–1959 гг.) палякаў у Польшчу, поўная ліквідацыя ў 1948 г. польскамоўнай адукацыі ў БССР, знішчэнне польскага антысавецкага падполля ў 1956 г., паступовае закрыццё каталіцкіх касцёлаў, калектывізацыя і дэпартацыя так званых кулакоў і былых вайскоўцаў арміі Андэрса ў Казахстан і Сібір у 1952 г. стварылі рэальныя ўмовы для канчатковай саветызацыі 539 тысяч палякаў[43], якія па розных прычынах не выехалі ў Польшчу.

Як ужо было адзначана вышэй, беларускі гісторык, даследчык тэмы палітычных рэпрэсій Ігар Кузняцоў падлічыў, што за перыяд паслярэвалюцыйных рэпрэсій (1917–1953 гг.) сталінскім рэжымам у Беларусі было расстраляна 370 тысяч чалавек, што ў 10 разоў больш, чым прыводзіць афіцыйная статыстыка. Сярод расстраляных, паводле падлікаў Кузняцова, 57 % з'яўляліся беларусамі, 25 % — палякамі, 7 % былі яўрэямі, а таксама рускімі і прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей. З гэтага вынікае, што ў 1917–1953 гг. у Беларусі савецкім камуністычным рэжымам былі фізічна знішчаны 93 750 палякаў.

---

*Katyń. Stalinowska masakra i tryumf prawdy*, przekł. z ang. i oprac. Z. Kunert, Warszawa 2006, s. 225–238; *Zbrodnia katyńska w świetle dokumentów*, z przedm. W. Andersa, wyd. 10., Londyn 1982, dok. 1, s. 85; W. Materski, *Polityka i jej skutki*, [у:] *Polsko-Rosyjska Grupa do Spaw Trudnych. Białe plamy — czarne plamy. Sprawy trudne w relacjach polsko-rosyjskich (1918–2008)*, pod redakcją Adama Daniela Rotfelda i Anatolija Torkunowa, Warszawa 2010, s. 363–379.

40 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 685–708; ён жа, *Polityka i jej skutki. Początki tzw. lewicowej alternatywy w kwestii polskiej* [у:] *Polsko-Rosyjska Grupa do Spaw Trudnych. Białe plamy — czarne plamy,* s. 372–376; A. Czubiński, J. Topolski, *Historia Polski*, Ossolineum 1989, s. 523; J. Nowak, *Sprawa generała Berlinga*, "Kultura", 5.03.1972.

41 J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, s. 60.

42 Тамсама, с. 60; Por.: K. Karski, *Linia Curzona nadal dzieli*, "Rzeczpospolita", 12.12.1995; *Wykładnia Trybunału Konstytucyjnego: Polska po wschodniej stronie linii Curzona*, "Rzeczpospolita", 29.05.1996; J. Kranz, *Rekompensaty za sowieckie represje*, "Rzeczpospolita", 8.07.1996; K. Kauba, *Historia i sprawiedliwość*, "Rzeczpospolita", 4.09.1996; W. T. Kowalski, *Przełom 1944. Manifest (4)*, "Panorama", 20.07.1984; E. J. Pałyga, *Dyplomacja Polski Ludowej 1944–1984*, Warszawa 1986, s. 167. Два апошнія аўтары прытрымліваюцца меркавання, што ўстанаўленне ўсходняй мяжы Польшчы адбылося справядліва.

43 *Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года. Национальный состав населения Республики Беларусь и распространённость языков. Статистический сборник*, т. 1, Минск 2001, с. 16.

Паводле сацыяльнага статусу гэта былі ў асноўным сяляне і рабочыя — 85 %[44]. Даваенныя і пасляваенныя рэпрэсіі супраць палякаў у БССР, а таксама масавы іх выезд у Польшчу зламалі хрыбет польскасці ў гэтай рэспубліцы. У такіх умовах савецкая палітыка русіфікацыі палякаў, іх саветызацыя і асіміляцыя сталі дастаткова эфектыўнымі. Напрыканцы 1980-х гг. беларускія палякі наблізіліся да канчатковай страты сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці[45]. Палякі, беларусы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей па плане Крамля (які ажыццяўляўся беларускімі ўладамі) павінны былі стаць часткай новай гістарычнай супольнасці — савецкім народам.

Перабудова, якая пачалася ў 1985 г. па ініцыятыве генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова, дала беларускім палякам гістарычны шанс захаваць сваю нацыянальную ідэнтычнасць. Створаныя польскія грамадскія арганізацыі — Польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча (1988 г.) і Саюз палякаў на Беларусі (1990 г.) — як прадстаўнікі польскай нацыянальнай меншасці праводзілі сваю грамадскую дзейнасць у накірунку адраджэння польскай мовы і культуры. Разам з тым кіраўніцтва СПБ разумела, што сапраўднае адраджэнне польскасці ў БССР магчыма толькі ва ўмовах незалежнай, дэмакратычнай беларускай дзяржавы[46].

Беларускія нацыянальна-патрыятычныя сілы падтрымлівалі ініцыятывы польскага адраджэння, у тым ліку будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Беларусі[47].

Тым не менш ва ўзаемаадносінах СПБ і Беларускага народнага фронту былі і спрэчкі, і напружанасць, выкліканыя выступленнямі некаторых членаў БНФ, якімі выказваліся сумненні ў існаванні палякаў у Беларусі[48].

Росквітам польскага нацыянальнага адраджэння былі 1991–1994 гг. Менавіта ў гэты перыяд парламенцкай формы праўлення ў Беларусі палякам удалося вырашыць шматлікія пытанні, звязаныя з іх нацыянальнымі патрэбамі, у тым ліку атрымаць дазвол ад беларускага ўрада на будаўніцтва двух польскіх школ у Гродне і адной у Ваўкавыску.

Выбранне Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 г. на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь значна замарудзіла працэс адраджэння польскасці, а некаторыя

44 *Гісторык Ігар Кузняцоў налічыў 124 месцы масавых расстрэлаў ахвяр савецкіх рэпрэсій у Беларусі*, “Наша ніва”, 19.01.2017; *Na Białorusi w latach 1917–1953 zamordowano 92,5 tysiąca Polaków*, Portal Kresy24.pl, http://kresy24.pl/na-bialorusi-w-latach-1917–1953-zamordowano-925-tysiaca-polakow/, [19.01.2017].

45 Z. J. Winnicki, *Metody osłabiania poczucia świadomości narodowej. Uwagi o wpływie i skutkach zastosowania niektórych metod i środków depolonizacyjnych na obszarze Ziem Białoruskich na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie*, “Magazyn Polski”, 2002, nr 3–4 (24–25), s. 24–31.

46 Галоўнае праўленне СПБ 24 лютага 1991 г. на сваім чарговым пасяджэнні афіцыйна падтрымала дзейнасць беларускіх патрыятычных сіл у накірунку будаўніцтва суверэннай Беларусі як незалежнай дзяржавы. Гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno — Białystok 2013, s. 12.

47 Яркім прадстаўніком, які падтрымліваў нацыянальныя інтарэсы палякаў у беларускім парламенце, быў адзін з лідараў БНФ, народны дэпутат БССР (РБ) Мікалай Маркевіч. Падрабязней на гэту тэму гл.: “Głos znad Niemna”, 1995, nr 4 (142); T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 13.

48 Падрабязней на гэту тэму гл. VII раздзел гэтай працы.

ініцыятывы цалкам прыпыніла. З трох запланаваных польскіх школ з вялікімі цяжкасцямі, з пераадольваннем перашкод з боку беларускіх улад былі пабудаваны і адкрыты толькі дзве (за сродкі польскага бюджэту)[49].

Беларускі ўрад з мэтай стрымлівання актыўнай дзейнасці СПБ распрацаваў у канцы 1990-х гг. план яго дэзінтэграцыі[50]. Сутнасць плана была ў тым, каб абмежаваць дзейнасць СПБ культурнымі мерапрыемствамі, аслабіць яго ўплыў на працэс увядзення выкладання польскай мовы ў дзяржаўных навучальных установах, не дапусціць будаўніцтва і адкрыцця польскіх школ, а таксама выключыць удзел арганізацыі ў грамадска-палітычным жыцці краіны.

У 2005 г. беларускія ўлады і спецыяльныя службы з дапамогай агентуры ўнутры СПБ ажыццявілі план дэзінтэграцыі арганізацыі[51]. Разам з тым уладам не ўдалося цалкам падпарадкаваць сабе СПБ. Частка членаў гэтай арганізацыі надалей працягвала справу адраджэння польскасці ў Беларусі[52].

Неаднаразовыя спробы польскага боку (2005, 2008, 2010, 2016 і 2017 гг.) вырашыць з беларускімі ўладамі праблему вяртання дзейнасці СПБ у стан да 2005 г. не прынеслі чаканых вынікаў[53].

Гістарыяграфія польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі прадстаўлена нешматлікімі працамі. Да пачатку 1990-х гг. не было практычна ніякіх публікацый на гэту тэму. Грунтоўныя даследаванні пачалі з'яўляцца ў Польшчы ў пачатку 1990-х гг., значна пазней, ужо ў пачатку 2000-х гг.,— у Беларусі і іншых краінах, з якімі звязаны асобныя перыяды або тэмы з жыцця беларускіх палякаў[54].

Па сённяшні дзень няма даследавання, прысвечанага палякам Беларусі ў перыяд 1919–2017 гг.[55] Выключэннем з'яўляюцца працы беларускіх дасled-

---

[49] Другая польская школа ў Гродне павінна была быць пабудавана за сродкі з беларускага бюджэту. Гэта абяцанне беларускага прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, якое было дадзена Галоўнаму праўленню СПБ у 1994 г. у Гродне, не выкананае па сённяшні дзень.

[50] Падрабязней на тэму плана дэзінтэграцыі СПБ гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, Białystok 2007, s. 265–277.

[51] Спіс членаў СПБ, якія пайшлі на супрацоўніцтва з беларускімі ўладамі і спецслужбамі падчас дэзінтэграцыі польскай незалежнай арганізацыі гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005*, Białystok 2006, s. 187–192.

[52] Тое, што арганізацыя не была знішчана ўладамі і спецслужбамі пасля яе дэзінтэграцыі і па сённяшні дзень актыўна працуе для польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі, стала магчымым дзякуючы пэўнасці і рашучасці яе старшынь, якія ўзначальвалі СПБ у розны час: Анжалікі Борыс (2005–2012 гг. і са снежня 2016 г.), Анжалікі Арэхвы (2012 г.), Мечыслава Яскевіча (2012–2016 гг.), а таксама дапамозе з боку польскай дзяржавы.

[53] M. Maszkiewicz, *Repatryacja czy repatryotyzacja? Wybrane problemy polskich strategii politycznych wobec rodaków za wschodnia granicą (1986–1990)*, Wrocław 2017, s. 350–354.

[54] Падрабязней на тэму навуковых публікацый, навукова-папулярных і публіцыстычных прац у Польшчы, Беларусі, Расіі, Украіне, Англіі, ЗША і Японіі гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 13–19.

[55] Выключэннем з'яўляецца калектыўная манаграфія пад навуковай рэдакцыяй аўтара дадзенай працы, якая была выдадзена ў 2017 г. Інстытутам Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта: *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*, red. T. Gawin, Warszawa 2017.

чыкаў, якія часткова закраналі гэтую тэму ў асобных перыядах (1921–1939, 1919–1990, 1944–1991), — Віталя Жука[56], Ігара Пушкіна[57] і Тадэвуша Гавіна[58].

Дадзеная праца ўяўляе сабой аналіз працэсу саветызацыі беларускіх палякаў[59], іх нацыянальнага абуджэння/адраджэння ў перыяд перабудовы і дзейнасці СПБ у суверэннай Рэспубліцы Беларусь, накіраванай на пераадольванне супраціву беларускіх улад польскаму адраджэнню. Публікацыя ахоплівае наступны храналагічны перыяд: 1919–2017 гг.

Мэтай працы з'яўляецца адлюстраванне формы і метадаў, якія выкарыстоўваліся ў дзейнасці цэнтральных і мясцовых органаў улады для "ачышчэння" Беларусі ад польскасці ў савецкі перыяд і дзяржаўнага стрымлівання яе развіцця ў сучаснасці.

Галоўнымі высновамі праведзенага даследавання з'яўляюцца наступныя тэзісы:

1. БССР у межах усяго СССР была адзінай памежнай з Польшчай рэспублікай, у якой прымусова, насуперак савецкаму заканадаўству і міжнародным прававым нормам знішчалася амаль усё, што магло нагадваць пра існаванне польскасці.
2. Сучасная беларуская дзяржава ў абмежаваным (выбарачным) рэжыме праводзіць задэклараваную ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншых заканадаўчых актах нацыянальную палітыку, датычную беларускіх палякаў. Стрымліванне развіцця польскага нацыянальнага адраджэння з'яўляецца яе падмуркам.

Апроч таго, апрацаваны падчас даследавання матэрыял дазваляе зрабіць яшчэ некалькі важных высноў.

Па-першае, крывавы тэрор у дачыненні да нацыянальных меншасцей[60] у СССР (БССР) у 1937–1938 гг. мог быць прыпынены, а яго трагічныя наступствы маглі быць нашмат меншымі, калі б у самым пачатку яго разгортвання Ватыкан і заходнееўрапейскія дзяржавы (у першую чаргу Германія і Польшча), а таксама ўсходнія (Японія і Карэя) салідарна і рашуча выступілі з яго асуджэннем на міжнароднай арэне[61].

Па-другое, Польская Народная Рэспубліка (ПНР), якая была звязана з Савецкім Саюзам палітычнымі, эканамічнымі, навуковымі і культурнымі

---

56 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, диссертация на соискание учёной степени кандидата исторических наук, Минск 2008.

57 І. Пушкін, *Нацыянальныя меншасці БССР у грамадска-палітычным і культурным жыцці (20-я гады XX ст.)*, Магілёў 2004; ён жа, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, Мінск 2010.

58 T. Gawin, *O byciu Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991,* Grodno — Białystok 2013.

59 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O byciu Polakiem*, s. 376–406.

60 Тут маюцца на ўвазе нацыянальныя меншасці, якія мелі свае нацыянальныя дзяржавы за мяжой: палякі, немцы, літоўцы, латышы, эстонцы, карэйцы, японцы і іншыя, што жылі ў той час у СССР.

61 У пачатку 1930-х гг. Польшча шматразова інфармавала Ватыкан пра паслядоўнае і бескампраміснае знішчэнне Каталіцкага касцёла ў СССР, у тым ліку і ў БССР, таксама пра масавую фізічную ліквідацыю каталіцкіх святароў і вернікаў. Сур'ёзныя намеры Польшчы на аб'яднанне намаганняў у стрымліванні рэпрэсіўнай дзейнасці саветаў Апостальская Сталіца пакідала без належнай рэакцыі, бо лічыла гэтыя праблемы часовымі наступствамі рэвалюцыйнай барацьбы ў СССР. Гл.: AAN, z. 322, sygn. 2821, k. 33–36.

сувязямі, а таксама ваенным саюзам, магла (калі б таго жадала і мела на гэта палітычную волю) кардынальна змяніць лёс палякаў у БССР, якія знішчаліся і русіфікаваліся. Смерць Сталіна ў 1953 г. была цудоўнай для гэтага падставай[62].

Па-трэцяе, беларускія палякі, члены КПСС, якія займалі кіруючыя пасады ў сістэме палітычнай і адміністрацыйнай улады, не ангажаваліся ў дзейнасць, накіраваную на спыненне этнічнай дыскрымінацыі палякаў у БССР, нават пасля пачатай М. Гарбачовым перабудовы. Прычынай такіх паводзін быў звычайны канфармізм і адсутнасць веры ў абвешчаную Масквой і Мінскам нацыянальную палітыку, якая давала ўсім нацыянальнасцям роўныя правы.

Па-чацвёртае, у перыяд ад перабудовы (1985–1991 гг.) да распаду СССР партыйныя і савецкія ўлады БССР насуперак дырэктывам ЦК КПСС і сваім уласным[63] рабілі ўсё, каб не дапусціць польскага нацыянальнага адраджэння ў рэспубліцы[64]. Адраджэнне польскай мовы і польскамоўнай адукацыі, а таксама польскай культуры ў заходніх абласцях БССР яны ўспрымалі ў літаральным сэнсе амаль як падрыхтоўчыя дзеянні да вяртання гэтых тэрыторый Польшчы.

Па-пятае, кардынальна змяніць стан польскай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь не атрымаецца не толькі ў бліжэйшы час, але і ў перспектыве без паляпшэння двухбаковых польска-беларускіх адносін і ангажавання беларускіх палякаў, якія працуюць у сістэме палітычнай і адміністрацыйнай улады, у польскае нацыянальнае адраджэнне, а таксама без актыўнай дзейнасці ўсіх без выключэння польскіх арганізацый.

Крыніцамі для напісання дадзенай працы з'яўляліся шматлікія архіўныя матэрыялы з фондаў маскоўскіх архіваў, у тым ліку з Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (ДАРФ), Расійскага дзяржаўнага архіва сацыяльна-палітычнай гісторыі (РДАСПГ), а таксама Расійскага дзяржаўнага архіва найноўшай гісторыі (РДАНГ). У Мінску праца з крыніцамі вялася ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ) і Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці (ДАМВ); у Гродне — у Дзяржаўным архіве грамадскіх аб'яднанняў Гродзенскай вобласці (ДАГАГВ) і Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці (ДАГВ); у Брэсце — у Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці (ДАБВ), а ў Баранавічах — у Занальным архіве Баранавіцкай вобласці (ЗАБВ). Збор крыніц і праца з імі таксама адбываліся ў Архіве новых актаў (ААН) у Варшаве. Даволі карыснымі для даследавання сталі архівы Польскага культурна-асветніцкага таварыства імя

62 Падрабязней на гэту тэму гл.: С. Н. Хрущёв, *Рождение сверхдержавы. Книга об отце*, Москва 2003, с. 151–166; *XX съезд КПСС и его исторические реальности*, под общей редакцией В. Журавлёва, Москва 1991; *Materiały XX Zjazdu Komunistycznej Partii Związku Radzieckiego, 14–25 lutego 1956 r. Referaty, wybór przemówień, uchwały i rezolucje*, Warszawa 1956.

63 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 42, воп. 7, спр. 2630, арк. 252–253. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, Białystok 2003, s. 63–65.

64 Расійскі дзяржаўны архіў найноўшай гісторыі (далей: РДАНГ), ф. 5, воп. 18, спр. 60, арк. 8–17: Ананімны ліст з Вільні, які падпісаў "сумленны" інфарматар, у ЦК КПСС па пытанні дыскрымінацыі польскага насельніцтва з Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей, без даты, прыкладна май 1954 г., а таксама рэакцыі на гэты конт партыйных органаў БССР і СССР. *Записки, письма, телеграммы […] работе с местным населением в западных областях БССР, 01.1954–11.1956.*

Адама Міцкевіча, Саюза палякаў на Беларусі і Польскай мацежы школьнай, а таксама асабістыя архівы польскіх грамадскіх дзеячаў у Беларусі.

Не да ўсіх дакументаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўных архівах вышэйпералічаных гарадоў Расіі і Беларусі, удалося атрымаць доступ. Да гэтага часу шматлікія датычныя тэмы дадзенай працы дакументы з'яўляюцца засакрэчанымі. Таксама не быў атрыманы дазвол на працу з крыніцамі ў Архіве Міністэрства ўнутраных спраў Гродзенскай вобласці.

Важнай крыніцай для напісання гэтай працы сталі публіцыстычныя матэрыялы перыяду гарбачоўскай перабудовы ў польскім, літоўскім і беларускім друку, а таксама ў польскамоўных выданнях Беларусі і Літвы.

Праца складаецца з сямі раздзелаў, якія тэматычна падзелены на 28 падраздзелаў. Яе структура пабудавана паводле праблемна-храналагічнага прынцыпу, які быў абраны свядома. Ён дазваляе прэзентаваць зменлівыя грамадска-палітычныя ўмовы існавання палякаў у БССР і Рэспубліцы Беларусь.

У першым раздзеле адлюстраваны структура і размяшчэнне польскага насельніцтва ў БССР, нацыянальная палітыка СССР і яе рэалізацыя ў дачыненні да палякаў у 1921–1939 гг. на тэрыторыі БССР пад кіраўніцтвам Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў (УКП(б) і Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі (КП(б)Б). Таксама прыводзяцца наступствы крывавага тэрору 1937–1938 гг., звязаныя з правядзеннем НКУС "польскай аперацыі".

У другім раздзеле разглядаюцца механізмы таемнай палітыкі Савецкага Саюза і гітлераўскай Германіі, якія прывялі да падпісання пакта Рыбентропа-Молатава і пачатку Другой сусветнай вайны, што выклікала чацвёрты падзел Польшчы. Таксама паказваюцца наступствы для мясцовага насельніцтва ўзброенага захопу Чырвонай арміяй усходніх і паўночна-ўсходніх тэрыторый Польшчы. Адлюстроўваецца датычная палякаў савецкая акупацыйная палітыка ў Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гг., таксама злачынствы, узведзеныя ў ранг дзяржаўных, звязаныя з дэпартацыяй палякаў, беларусаў, габрэяў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей у паўночныя і паўночна-ўсходнія вобласці СССР.

У трэцім раздзеле аналізуюцца міжнародныя ўрадавыя польска-савецкія адносіны ў 1941–1944 гг., а таксама роля польскіх камуністаў, якія супрацоўнічалі з Крамлём у справе ўсталявання камуністычнага рэжыму ў пасляваеннай Польшчы. Разглядаецца "польскае пытанне" ў палітыцы савецкага партызанскага руху ў Беларусі і польска-беларускія адносіны ў Заходняй Беларусі ў перыяд нямецкай акупацыі.

У чацвёртым раздзеле адлюстравана сітуацыя, у якой апынуліся палякі ў БССР пасля вызначэння ўсходняй мяжы Польшчы ў перыяд 1944–1956 гг. Паказваюцца ўсе магчымыя спосабы саветызацыі, якая праводзілася ў БССР. Галоўнай задачай пасляваеннай палітыкі Крамля і Мінска стала ўніфікацыя Заходняй Беларусі з СССР і БССР. Для яе рэалізацыі выкарыстоўваліся розныя механізмы, у тым ліку перасяленне палякаў у Польшчу (1944–1946 гг.), рэпатрыяцыя (1955–1959 гг.), знішчэнне польскага антысавецкага падполля, калектывізацыя і жорсткая барацьба з Каталіцкім касцёлам.

Пяты раздзел прысвечаны працэсам актыўнай саветызацыі і русіфікацыі палякаў у перыяд 1956–1986 гг. Мэтай палітыкі беларускіх камуністычных улад была поўная і канчатковая дэпаланізацыя Беларусі. Асабліва пільную ўвагу ўлады звярталі на атэізацыю польскай нацыянальнай меншасці і ліквідацыю ўсіх форм рэлігійнага жыцця. Актыўнае прыцягненне палякаў да членства ў камуністычнай партыі і вылучэнне асобных з іх (найбольш адданых ідэалам КПСС) на адказныя пасады ў партыйным апараце і органах савецкай улады на месцах стала прыярытэтам для партыйных арганізацый у заходніх абласцях БССР.

У шостым раздзеле разглядаецца польскае нацыянальнае адраджэнне ў перыяд перабудовы 1986–1991 гг. Аналізуецца з'яўленне і дзейнасць польскіх грамадскіх арганізацый, іх барацьба за ўвядзенне выкладання польскай мовы ў дзяржаўных навучальных установах і вяртанне раней закрытых касцёлаў вернікам. Таксама адлюстравана стаўленне цэнтральных (у Маскве і Мінску), мясцовых улад і беларускіх апазіцыйных арганізацый да палякаў на фоне адраджэння іх нацыянальнай свядомасці. Апроч таго, звяртаецца ўвага на датычныя нацыянальнага пытання змены ў беларускім заканадаўстве і іх уплыў на развіццё польскага нацыянальнага руху.

У гэтым раздзеле ўпершыню апублікаваны раней невядомыя факты з жыцця і дзейнасці палякаў у БССР, знойдзеныя ў фондах Архіва новых актаў у Варшаве, РДАСПГ, ДАРФ, РДАНГ у Маскве і НАРБ у Мінску, а таксама ў архівах Мінскай вобласці, Гродна і Брэста.

У сёмым раздзеле аналізуецца палітыка беларускіх улад у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці ў 1991–2017 гг. Параўноўваецца палітыка ў перыяды парламенцкага праўлення ў Беларусі і аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Разглядаюцца адносіны паміж польскай нацыянальнай меншасцю і беларускімі грамадскімі арганізацыямі і палітычнымі партыямі, уплыў сувязей паміж Польшчай і Беларуссю на развіццё польскага нацыянальнага адраджэння, таксама аналізуецца канцэпцыя беларускага народа ў дзяржаўнай ідэалогіі.

Важным крокам на шляху да польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі была трансфармацыя палітычнага ладу ў Польшчы ў 1989 г. Новая Польшча і яе вышэйшае кіраўніцтва — прэзідэнты, прэм'ер-міністры, дэмакратычна абраныя Сейм і Сенат, а таксама мясцовыя органы заканадаўчай і выканаўчай улад – у перыяд 1989–2017 гг. актыўна падтрымлівалі дзейнасць СПБ. Гэтая падтрымка не дазволіла (пасля дэзінтэграцыі СПБ у 2005 г.) канчаткова спыніць актыўнасць той часткі арганізацыі (большай па колькасці), якая супрацiўлялася падпарадкаванню СПБ беларускім уладам. І гэтая частка працягвае аказваць супраціў расцягнутай у часе дэпаланізацыі Беларусі.

Праца заканчваецца заключэннем, бібліяграфіяй, пералікам умоўных абазначэнняў, скарачэннямі на польскай, рускай і англійскай мовах, імянным паказальнікам.

Дадзеная публікацыя створана на падставе матэрыялаў, сабраных у вышэйпералічаных архівах, а таксама ўключае ў сябе грунтоўна перапрацаваную і дапоўненую версію выдадзенай раней аўтарам гэтай працы кнігі: *O byciu Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991,* Grodno-Białystok 2013.

# I. Польская нацыянальная меншасць у БССР у 1919–1939 гг.*

* Тэрмін "нацыянальная меншасць" упершыню ў Савецкай Расіі быў уведзены ва ўжытак у Дэкрэце аб міры — першым выдадзеным дзяржаўным акце рабочага і сялянскага ўрада ад 8 лістапада 1917 г., а пасля і ў прынятай 15 лістапада таго ж года Дэкларацыі праў народаў Расіі. У Савецкай Беларусі заканадаўча замацаваны ў Канстытуцыі Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь 1919 года і Канстытуцыі БССР 1927 года. У Канстытуцыях БССР 1937 і 1978 гг. тэрмін адсутнічаў. Звязана гэта было з тым, што дзяржава пасля 1937 года пытаннямі нацыянальных меншасцей, гістарычныя радзімы якіх знаходзіліся за межамі СССР, больш не займалася, быў узяты курс на іх поўную русіфікацыю. У Канстытуцыі РБ 1994 г. тэрмін "нацыянальная меншасць" таксама адсутнічае. Заканадаўча, аднак, ён замацаваны ў Дагаворы паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча "Аб Добрасуседстве і сяброўскім супрацоўніцтве" ад 23 чэрвеня 1992 г., а таксама ў Законе Рэспублікі Беларусь "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь" ад 11 лістапада 1992 г. Больш падрабязна на гэту тэму гл.: *ЦК РКП(б) — ВКП(б) и национальный вопрос*, сост. Л. Гатагова, Л. Кошелева, Л. Роговая, Москва 2005, с. 6; *Документы внешней политики СССР*, т. I, Москва 1957, с. 11–15; *Конституция Республики Беларусь (1994, 1919, 1927, 1937, 1978),* Минск 2014, с. 93, 102, 103, 184, 208, 209, 271.

## 1. Структура і размяшчэнне польскага насельніцтва ў БССР

У выніку падзей, звязаных з Першай сусветнай вайной, а пазней польска-савецкай, сфарміравалася незалежная польская дзяржава, усходнія межы якой канчаткова былі вызначаны Рыжскім мірным дагаворам. Сучасная тэрыторыя Беларусі апынулася ў межах дзвюх краін: Савецкага Саюза і Польшчы[1]. Як піша амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр (Timothy Snyder), *"Устаноўчы Сейм адсунуў усходнюю мяжу Польшчы на захад настолькі, каб не ўтварыць федэрацыі, але не настолькі, каб стварыць монанацыянальную дзяржаву. Падарыўшы паводле Рыжскага дагавора Мінск* […] *і навакольныя землі бальшавікам, нацыянал-дэмакраты пакінулі сотні тысяч палякаў (многія з іх выступалі за польска-літоўска-беларускую федэрацыю) пад ласкавай апекай Масквы"*[2].

Як было ўжо адзначана вышэй, першапачаткова Савецкая Беларусь займала тэрыторыю 59,6 тыс. квадратных кіламетраў, складалася з шасці раёнаў, у якіх пражывалі 1,6 млн. чалавек. Пасля ўзбуйненняў рэспублікі ў 1924 і 1926 гг. (былі далучаны 15 раёнаў РСФСР і 2 раёны УССР, гл. карту 1) яе тэрыторыя павялічылася да 125 тыс. квадратных кіламетраў, а насельніцтва амаль да 5 млн. чалавек[3].

Лёсы і становішча палякаў, якія жылі па розныя бакі так званай рыжскай мяжы, былі дыяметральна супрацьлеглымі. У польскай дзяржаве іх стан быў прывілеяваным. Пасля больш чым 120-гадовай няволі палякі атрымалі асноўныя грамадзянскія правы. Імкліва пачала развівацца адукацыя — ад дашкольнай да вышэйшай. А польская мова, якая зазнала дыскрымінацыю ў Расійскай імперыі, атрымала статус дзяржаўнай. У палітычнай, эканамічнай і сельскагаспадарчай дзейнасці кожны асобны чалавек сам вырашаў, як яму будаваць сваё жыццё.

Зусім па-іншаму склаўся лёс палякаў, якія па розных прычынах засталіся ў БССР. Многім з іх савецкая ўлада адмовіла ў рэпатрыяцыі ў 1921–1924 гг. А некаторыя засталіся, бо не хацелі пакідаць свае родныя мясціны, дзе стагоддзямі пакаленні іх продкаў жылі і гаспадарылі[4]. Існаванне палякаў у палітычнай сістэме савецкай улады, якая вырашала, як ім жыць, прывяло ў выніку да пазбаўлення іх магчымасці свабодна вызнаваць сваю каталіцкую веру, а для большасці з іх — да страты сваіх уладанняў і спрадвечнай маёмасці, што правакавала існаванне ў галечы[5]. У БССР палякі мелі статус нацыянальнай меншасці.

Варта адзначыць, што магчымасці рэалізацыі сваіх правоў у іншых абласцях, не звязаных з духоўнымі каштоўнасцямі і гаспадарчай дзейнасцю, захаваліся

---

1 P. Eberhardt, *Polska ludność kresowa: rodowód, liczebność, rozmieszczenie*, Warszawa 1998, s. 58.

2 Т. Снайдэр, *Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь 1569–1999*, Варшава 2014, с. 99.

3 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, nr 22, s. 42.

4 Падрабязней на гэту тэму гл.: F. Czarnyszewicz, *"Nadberezyńcy"*, Kraków 2017.

5 Падчас фарсіравання бальшавікамі ў БССР прымусовай калектывізацыі больш за 60 % палякаў у вёсках мелі заможныя гаспадаркі. Бедных людзей сярод іх было менш за 28 %. Гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 1937, арк. 51.

**Карта 1. БССР у 1921–1926 гг. Фарміраванне тэрыторыі рэспублікі.**




**На карце адлюстраваны працэс фарміравання тэрыторыі БССР. Цёмна-шэрым колерам пазначаны межы БССР пасля падпісання Рыжскага дагавора ў 1921 г., шэрым колерам (тэрыторыя з гарадамі Полацк, Віцебск, Магілёў, Клімавічы і інш.) — раёны, якія былі далучаны да БССР у 1924 г., і светла-шэрым колерам (з гарадамі Гомель і Рэчыца) — раёны, якія ўвайшлі ў склад БССР у 1926 г.**

Крыніца: Бібліятэка гістарычных артыкулаў. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.jivebelarus.net/history/new-history/History-of-Belarus-in-the-maps-1917–1945.html?page=7#lnk6.

і атрымалі далейшае развіццё. У палітычным і грамадскім жыцці ў БССР да 1934 г. развіваліся польская культура, польскамоўная адукацыя і выдавецкая дзейнасць. Да 1937 г. дзейнічала сетка польскіх нацыянальных саветаў, існаваў польскі аўтаномны раён імя Фелікса Дзяржынскага[6].

[6] Падрабязней на гэту тэму гл.: *Палітыка савецкіх і партыйных улад у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці ў БССР*, трэці падраздзел I раздзела гэтай працы.

Першы Усесаюзны перапіс насельніцтва праводзіўся ў СССР згодна з Пастановай Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) і Савета народных камісараў (СНК). Выконваючы гэтае рашэнне, Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне (ЦСУ) прызначыла пачатак перапісу на 17 снежня 1926 г. Ён доўжыўся 7 дзён у гарадах і 14 дзён у сельскіх мясцовасцях[7].

Падчас правядзення перапісу вялікае значэнне надавалася пытанню нацыянальнай прыналежнасці. Згодна з інструкцыяй, рэгістратар павінен быў напісаць тую нацыянальнасць, якую яму называлі людзі. У выпадку складанасцей, звязаных з нацыянальным самавызначэннем чалавека, запісвалася нацыянальнасць яго маці. Пры гэтым забаранялася атаясамліваць нацыянальнасць з рэлігіяй. Акрамя таго, адказы на пытанне пра нацыянальнасць маглі не супадаць з адказамі на пытанне пра родную мову. Роднай мовай запісвалася тая, якой чалавек лепш валодаў альбо на якой размаўляў у штодзённым жыцці[8].

Перапіс насельніцтва паказаў, што ў БССР жыло 97 498 палякаў (мужчын і жанчын разам), з іх 19 665 — у гарадах і 77 833 — у вёсках[9]. Агульная колькасць насельніцтва ў БССР, згодна з перапісам, складала каля 5 млн. жыхароў. Па нацыянальнасці большасць з іх былі беларусамі (4 017 301 чалавек). На другім месцы па колькасці стаялі габрэі — 407 059 чалавек. Палякі пасля рускіх (374 806 чалавек) займалі чацвёртае месца.

Як палякі колькасна выглядалі на фоне іншых нацыянальнасцей, адлюстроўвае параўнальная табліца, змешчаная ніжэй.

7 Н. Воробьёв, *Всесоюзная перепись населения 1926 г.*, Москва 1957, с. 21.

8 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 22.

9 *Всесоюзная перепись населения 1926 года*, Москва 1928, т. 10: *Белорусская Советская Социалистическая Республика: Народность. Родной язык. Возраст. Грамотность*, с. 9, 10, 12.

**Табліца 1. Нацыянальны склад насельніцтва БССР паводле перапісу 1926 г.**

| Нацыянальнасць | Вясковае насельніцтва | | Гарадское насельніцтва | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % |
| Беларусы | 3 684 441 | 89,1 | 332 860 | 39,26 | 4 017 301 | 80,62 |
| Габрэі | 66 897 | 1,6 | 340 162 | 40,12 | 407 059 | 8,19 |
| Рускія | 251 603 | 6,1 | 123 203 | 15,6 | 374 806 | 7,7 |
| **Палякі** | **77 792** | **1,88** | **19 706** | **2,32** | **97 498** | **1,96** |
| Латышы | 10 869 | 0,25 | 3 192 | 0,37 | 14 061 | 0,28 |
| Літоўцы | 4 745 | 0,11 | 2 118 | 0,25 | 6 863 | 0,14 |
| Украінцы | 27 263 | 0,14 | 7 418 | 0,87 | 34 681 | 0,69 |
| Немцы | 4 757 | 0,11 | 2 318 | 0,26 | 7 075 | 0,15 |
| Цыганы | 2 198 | 0,26 | 168 | 0,02 | 2 366 | 0,05 |
| Эстонцы | 716 | 0,02 | 251 | 0,03 | 967 | 0,02 |
| Татары | 558 | 0,01 | 2 219 | 0,38 | 2 777 | 0,07 |
| Іншыя | 3 530 | 0,07 | 4 256 | 0,52 | 7 786 | 0,13 |
| Разам | 4 135 369 | 100 | 837 871 | 100 | 4 973 240 | 100 |

Крыніцы: *Практическое разрешение национального вопроса в БССР,* часть II: *Работа среди национальных меньшинств в БССР*, Минск 1928, с. 21; *Всесоюзная перепись населения 1926 г.,* т. 10, БССР, Москва 1928, с. 9; J. Gajdel, *Liczba i rozmieszczenie Polaków na Białorusi Radzieckiej w świetle powszechnych spisów ludności w okresie międzywojennym*, [у:] *Проблемы национального сознания польского населения на Беларуси. Материалы Международной научной конференции Гродно, 16–18 ноября 2001 года*, Гродно 2003, с. 171.

Падчас перапісу 1926 г. у СССР — краіне ваяўнічага атэізму — адсутнічала пытанне пра веравызнанне, але было пытанне пра родную мову. Наступныя дзве табліцы адлюстроўваюць сітуацыю, звязаную з роднай мовай, і размеркаванне палякаў па акругах БССР.

**Табліца 2. Размяшчэнне палякаў па акругах БССР, сітуацыя, звязаная з роднай мовай, паводле перапісу 1926 г.**

| Назва акругі | Колькасць палякаў у акрузе | | Колькасць палякаў ад усяго насельніцтва (у %) |
|---|---|---|---|
| | Усяго | Тыя, хто лічыў польскую мову роднай | |
| Бабруйская | 11 303 | 5 124 | 2,1 |
| Барысаўская | 16 188 | 6 124 | 4,2 |
| Віцебская | 10 174 | 5 872 | 1,7 |
| Гомельская | 6 535 | 1 646 | 1,6 |
| Калінінская | 700 | 400 | 0,01 |
| Мінская | 13 717 | 7 868 | 2,5 |
| Магілёўская | 5 615 | 2 123 | 1,1 |
| Мазырская | 8 883 | 3 748 | 2,7 |
| Аршанская | 6 400 | 2 559 | 1,5 |
| Полацкая | 8 765 | 3 766 | 2,7 |
| Рэчыцкая | 3 335 | 1 377 | 2,1 |
| Слуцкая | 3 897 | 1 613 | 1,3 |

Крыніцы: W. Tęgoborski, *Polacy Związku Radzieckiego*, Moskwa 1929, s. 102–103; M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, Warszawa — Wrocław 1991, s. 73; E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, nr 22, s. 44.

**Табліца 3. Сітуацыя з роднай мовай палякаў на фоне іншых нацыянальнасцей паводле перапісу 1926 г.**

| Акруга | Нацыянальная структура (у тыс.) | | | | | | Моўная структура (у тыс.) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бел. | Габр. | Рус. | Пал. | Укр. | Інш. | Бел. | Габр. | Рус. | Пал. | Укр. |
| Бабруйская | 430,1 | 52,4 | 31,6 | **11,3** | 1,4 | 4,1 | 373,2 | 49,8 | 98,3 | **5,1** | 0,7 |
| Барысаўская | 326,8 | 23,5 | 11,7 | **16,2** | 0,8 | 2,2 | 309,0 | 22,6 | 41,2 | **6,1** | 0,7 |
| Віцебская | 454,4 | 53,4 | 53,7 | **10,2** | 0,7 | 11,0 | 346,5 | 47,0 | 174,0 | **5,9** | 0,3 |
| Гомельская | 194,7 | 45,6 | 150,5 | **6,5** | 8,7 | 2,1 | 51,0 | 32,9 | 319,9 | **1,6** | 0,8 |
| Калінінская | 346,5 | 19,3 | 6,3 | **0,7** | 0,6 | 1,5 | 268,3 | 18,7 | 85,4 | **0,4** | 0,3 |
| Мінская | 430,7 | 70,7 | 16,7 | **13,7** | 2,2 | 5,5 | 402,5 | 62,4 | 62,8 | **7,9** | 0,8 |
| Магілёўская | 457,7 | 34,6 | 10,5 | **5,6** | 0,7 | 3,8 | 465,5 | 32,6 | 26,7 | **2,1** | 0,5 |
| Мазырская | 277,3 | 27,3 | 3,3 | **8,9** | 8,8 | 4,4 | 274,2 | 27,0 | 12,6 | **3,8** | 8,6 |
| Аршанская | 368,5 | 24,5 | 13,9 | **6,4** | 0,5 | 2,5 | 262,1 | 23,0 | 126,1 | **2,6** | 0,3 |
| Полацкая | 278,8 | 17,3 | 14,8 | **8,8** | 0,9 | 3,3 | 252,8 | 16,1 | 47,7 | **3,8** | 0,4 |
| Рэчыцкая | 155,4 | 17,6 | 66,3 | **5,3** | 8,8 | 1,4 | 72,3 | 16,6 | 158,6 | **1,3** | 4,7 |
| Слуцкая | 278,4 | 20,9 | 4,5 | **3,9** | 0,6 | 1,0 | 273,4 | 20,6 | 12,5 | **1,6** | 0,4 |
| Усяго | 4017,3 | 407,1 | 383,8 | **97,5** | 34,7 | 42,8 | 3350,8 | 369,3 | 1165,8 | **42,2** | 18,5 |

Крыніцы: E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, [у:] E. Mironowicz, S. Tokć, R. Radzik, *Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX wieku*, Białystok 2005, s. 56.

Як бачна з табліцы 3, рускую мову назвалі роднай 1 165 800 чалавек, што амаль у тры разы перавышала колькасць рускіх, якія жылі ў БССР. На фоне іншых нацыяльнасцей лагічна выглядала моўная сітуацыя габрэйскага насельніцтва. З 407 100 чалавек роднай мовай назвалі габрэйскую 369 300, што складала 91 % габрэяў. У працэнтных суадносінах па выкарыстанні роднай мовы габрэі пераўзышлі прадстаўнікоў тытульнай нацыі (беларусаў), сярод якіх беларускую мову назвалі роднай 83,4 %. Польская ж мова была роднай толькі для 42 200 палякаў (42,3 %). І гэта нягледзячы на тое, што ў БССР у 1920-я гг. функцыянавала польскамоўная адукацыя, а польская мова была адной з чатырох дзяржаўных.

З пункту гледжання сацыяльнай структуры палякі ў БССР не складалі цэласнай, аднароднай групы. Значная іх частка (паводле перапісу 1897 г.) належала да шляхты — каля 20 %, да мяшчан — 32,7 %, да сялян — 44 %[10]. Была вялікая колькасная і прафесійная розніца паміж палякамі, якія жылі ў гарадах і вёсках[11]. Савецкая сістэма сацыяльна-класавай градацыі дзяліла сялян-палякаў на беднякоў, сераднякоў і заможных. Да апошніх належалі і так званыя кулакі. Існаваў таксама складаны для колькаснага вызначэння слой засцянковай шляхты, якая адрознівалася ад асноўнай масы сялян. Як правіла, гэтыя людзі жылі на хутарах і мелі заможную гаспадарку. Але ў сярэдзіне 1920-х гг. і сярод іх заўважнай была тэндэнцыя да маёмаснай дыферэнцыяцыі[12].

---

10 S. Tokć, *Struktura narodowościowo-wyznaniowa mieszkańców pogranicza polsko-białoruskiego na przełomie XX wieku*, s. 15.

11 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, Warszawa — Wrocław 1991, s. 82.

12 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 23–24.

Што датычыцца рабочых, то, па данных на снежань 1926 г., іх сярод палякаў налічвалася каля 10 тысяч[13]. Значная іх колькасць працавала на заводах па вырабе шкла і паперы (удзельная вага палякаў складала там ад 50 да 90 %)[14]. Апроч таго, некаторыя з палякаў былі чыгуначнікамі, працавалі ў хімічнай і лясной прамысловасці[15]. Так, у 1924 г. палякі-рабочыя ў Бабруйскай акрузе працавалі на шкляных заводах "Камінтэрн" і "Кастрычнік", у Барысаўскай акрузе — на заводах імя Домбаля, "Чырвоная Бярэзіна" і "Чырвоны Кастрычнік", у Аршанскай акрузе — на лесапільным заводзе імя Леніна і шкляных прадпрыемствах, у Магілёўскай акрузе — на шклоўскіх фабрыках "Спартак" і "Барацьба"[16]. У 1925 г. у Віцебску жыло да 500 рабочых-палякаў, а ўсяго па Віцебскай акрузе — каля 900 [17]. Значная іх колькасць працавала таксама на чыгунках у Жлобіне, Полацку і ў гомельскіх чыгуначных майстэрнях. Трэба заўважыць, што шматлікія палякі-чыгуначнікі хавалі сваю нацыянальнасць, што было звязана з праведзенай у 1920 г. "чысткай" прыфрантавой паласы[18].

Да рэвалюцыі палякі ў беларускіх губернях мелі значны палітычны і эканамічны ўплыў. У Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Віленскай і Гродзенскай губернях яны мелі сваіх прадстаўнікоў у I–III Расійскіх Дзяржаўных Думах, а таксама ў Дзяржаўным Савеце ў 1906–1917 гг.[19] Польскім буйным землеўласнікам да рэвалюцыі належала 42,5 % зямлі ў Мінскай губерні і 38,7 % у Віцебскай[20]. Пасля рэвалюцыі гэтая група польскага насельніцтва цалкам знікла[21].

---

13 *Всесоюзная перепись населения 1926 года*, Москва 1928, т. 27: *Белорусская Советская Социалистическая Республика: Занятия*, с. 2–3.

14 НАРБ, ф. 4п, воп.1, спр. 1914, арк. 200: Отчёты, планы работ, резолюции и другие материалы Польбюро ЦК КП(б)Б о работе среди польского населения БССР. Март-май 1926 г.

15 Тамсама; A. Wialiki, "*Operacja polska" w BSRR. Lata 1937–1938. Początek, przebieg, rezultaty,* [y:] *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich,* pod redakcją T. Gawina, Warszawa 2017, s. 205.

16 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 25–26.

17 Тамсама; НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 2343, арк. 9: Протоколы, циркуляры, доклады и другие материалы отдела агитации и пропаганды ЦК КП(б)Б о работе среди нацменьшинств в БССР. Сентябрь 1925 — декабрь 1926; Тамсама, ф. 4п, воп. 1, спр. 2995, арк. 26: Отчёты польбюро Борисовского окружкома КП(б)Б за 1 апреля 1926 г. —1 апреля 1927 г. и другие документальные материалы.

18 ДАРФ, ф. 6990, воп. 1, спр. 2, арк. 14: Донесения, касающиеся борьбы с бандитизмом в районе Западного Фронта. 1.06.1921–1.12.1921; НАРБ, ф. 701, воп. 1, спр. 96, арк. 192: Статистические сведения о национальном и социальном составе населения БССР (по переписи 1926 г.), о составе местных комиссий по перевыборам советов, о культурной работе среди национальных меньшинств и др. за 1929 г.

19 Падрабязней на гэту тэму гл.: C. Brzoza, K. Stepan, *Posłowie polscy w parlamencie rosyjskim 1906–1917. Słownik biograficzny*, Warszawa 2001, s. 5–253; А. Смалянчук, *Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг.*, Гародня 2000, с. 69–192.

20 E. Maliszewski, *Polacy i polskość na Litwie i Rusi*, Warszawa 1916, s. 27, 30, 35.

21 Вядомымі палякамі-землеўласнікамі ў Беларусі былі дэпутаты I Расійскай Дзяржаўнай Думы — Геранім Друцкі-Любецкі, Віктар Янчэўскі, Яўстахі Любанскі, Раман Скірмунт, Ян Вішнеўскі з Мінскай губерні, Пётр Перасвет-Солтан, Багдан Шахно з Віцебскай губерні. II Дзяржаўнай Думы — Леў Лубенскі з Магілёўскай губерні, Міхал Беніслаўскі і Генрык Дымша з Віцебскай губерні. У розны час у перыяд з 1906 па 1917 гг. дэпутатамі Дзяржаўнага Савета (вышэйшай палаты Расійскай Дзяржаўнай Думы) былі Эдвард Вайніловіч, Раман Скірмунт, Караль Незабытоўскі з Мінскай губерні, Густаў Выкоўскі і Уладыслаў Войніч-Сянажэнцкі з Магілёўскай губерні, Станіслаў Лапацінскі з Віцебскай губерні. Падрабязней на гэту тэму гл.: C. Brzoza, K. Stepan, *Posłowie polscy w parlamencie rosyjskim 1906–1917. Słownik biograficzny*, s. 5–253.

Стварэнне Польскай дзяржавы, а таксама рэвалюцыя прывялі да масавага выезду з БССР прадстаўнікоў польскіх прадпрымальнікаў, землеўласнікаў, былых дзяржаўных служачых, а таксама інтэлігенцыі. Тыя, хто застаўся, былі ў асноўным рабочымі і сялянамі. Таксама не выехала з БССР невялікая колькасць служачых, аграномаў, тэхнікаў і настаўнікаў. Інтэлігенцыя працавала ў савецкіх установах, але ў яе вернасці камуністычным ідэалам улады сумняваліся. У сувязі з гэтым даволі вялікае значэнне набыло пытанне падрыхтоўкі і выхавання прасавецкай інтэлігенцыі з працоўна-сялянскага польскага насельніцтва БССР.

Як выглядала сацыяльная структура палякаў у БССР у параўнанні з іншымі групамі насельніцтва, адлюстроўвае табліца 4.

**Табліца 4. Сацыяльная структура польскай нацыянальнай меншасці і іншых нацыянальнасцей у БССР (у %) паводле перапісу насельніцтва 1926 г.**

| Нацыянальнасць | Рабочыя | Сяляне | Служачыя | Вайскоўцы | Гандляры | Рамеснікі | Свабодныя спецыял. | Беспрацоўныя | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Палякі** | **6,9** | **80,9** | **4,4** | **0,8** | **0,1** | **2,8** | **0,08** | **1,1** | **2,9** |
| Беларусы | 2,8 | 91,7 | 1,9 | 0,5 | 0,03 | 1,6 | 0,05 | 0,3 | 1,1 |
| Рускія | 6,7 | 64,1 | 6,7 | 15,2 | 0,1 | 2,6 | 0,1 | 1,3 | 3,2 |
| Габрэі | 16,7 | 13,1 | 17,0 | 1,1 | 10,2 | 26,4 | 0,7 | 7,0 | 7,8 |
| Іншыя | 8,4 | 58,6 | 8,3 | 12,3 | 0,8 | 5,0 | 0,3 | 1,6 | 4,7 |
| Усяго | 3,8 | 85,1 | 3,1 | 1,9 | 0,5 | 2,9 | 0,1 | 0,8 | 1,8 |

Крыніцы: *Практическое разрешение национального вопроса в БССР,* часть II: *Работа среди национальных меньшинств в БССР*, Минск 1928, с. 25; M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 84.

Як бачна з табліцы 4, працоўных і служачых сярод палякаў у БССР быў найбольшы працэнт. Пры гэтым служачыя і вайскоўцы разам узятыя складалі 5,2 % ад усяго польскага насельніцтва. Гэты паказчык быў у два разы вышэйшы, чым у беларусаў. Рускія таксама мелі ў сваім асяроддзі больш служачых і вайскоўцаў, а габрэі — служачых і рамеснікаў. Прычынай такога стану спраў у асяроддзі беларусаў быў нізкі ўзровень адукацыі (у параўнанні з палякамі і рускімі)[22].

Вялікая колькасць служачых-палякаў (у параўнанні з беларусамі) выклікала ў беларускіх камуністаў, прыхільнікаў беларусізацыі, пэўную боязь, што гэта можа стаць перашкодай для развіцця беларускай мовы і культуры ў БССР. Сярод штатных супрацоўнікаў ЦК КП(б)Б палякаў было 12,1 %, у ЦВК — 8 %, у СНК — 7,5 %, у органах бяспекі Галоўнага палітычнага ўпраўлення (ГПУ) — 7,4 %, у кіраўніцтве рэспубліканскага прафесійнага саюза — 6,2 %. У мясцовых органах улады палякаў было нашмат меней, чым у цэнтральных у Мінску; у акруговых выканаўчых камітэтах — 2,3 %, у гарадскіх выканаўчых камітэтах — 3,3 %, у сельскіх — 0,9 %[23].

---

[22] Больш падрабязна на гэту тэму гл.: S. Tokć, *Struktura narodowościowo-wyznaniowa mieszkańców pogranicza polsko-białoruskiego na przełomie XX w*, s. 13–15; П. Терешкович, *Этническая история Беларуси XIX — начала XX в. в контексте Центрально-Восточной Европы,* Минск 2004.

[23] M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 85.

Меншае ангажаванне палякаў у мясцовыя структуры было абумоўлена тым, што палякі, якія жылі ў сельскай мясцовасці і займаліся індывідуальнай формай гаспадарання, у большасці прытрымліваліся традыцыйных поглядаў, з недаверам ставіліся да савецкай улады, а таксама ў большай ступені захавалі сваю лаяльнасць да створанай польскай дзяржавы. Некаторыя з іх удзельнічалі ў польска-савецкай вайне на баку Польшчы[24].

Тыя палякі, якія займалі пасады ў цэнтральных органах кіравання, у асноўным былі камуністамі, што па розных прычынах прыехалі ў СССР. З мясцовых палякаў былі актыўныя ўдзельнікі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Ці можна цалкам давяраць вынікам праведзенага ў 1926 г. перапісу насельніцтва ў БССР? Аналіз дакументаў сведчыць, што падчас яго рэалізацыі прадпісанні і інструкцыі ненаўмысна або свядома парушаліся. У в. Логавішча Жыткавіцкага раёна Мазырскай акругі з 60 чалавек толькі 14 былі запісаны польскай нацыянальнасці. Пасля скаргаў вяскоўцаў на няправільны перапіс і праведзенага Акруговым выканаўчым камітэтам расследавання колькасць палякаў павялічылася да 51 чалавека[25]. Старшыня Шастакоўскага польскага нацыянальнага савета Мінскай акругі паведамляў у цэнтральныя органы ўлады пра тое, што ў гэтым сельскім савеце падчас стварэння было 85 % палякаў, а ў выніку перапісу, нягледзячы на пратэсты, былі запісаны польскай нацыянальнасці толькі 22 % з іх[26]. Па іншых даных у гэтым жа сельскім савеце пасля папярэдняга перапісу ўсе *"...сталі беларусамі, але ў школе як да, так і пасля перапісу, больш за 90 % вучняў былі запісаны дзецьмі палякаў"*[27].

Вывучаючы матэрыялы перапісу 1926 г., можна прыйсці да высновы, што тыя, хто праводзіў перапіс, хутчэй за ўсё мелі "закрытыя" ўказанні ад улад па магчымасці запісваць палякаў беларусамі. Так, напрыклад, у Трасцянецкі сельскі савет Мінскай акругі па заданні Акруговага статыстычнага бюро прыехаў інструктар Ласіцкі, які даў распараджэнне запісваць усіх жыхароў (акрамя габрэяў) беларусамі, а ў якасці роднай мовы пісаць беларускую[28]. Перапісчык Валахановіч у Негарэльскім сельскім савеце Койданаўскага раёна (сёння Дзяржынскі раён) самавольна запісваў нацыянальнасць, не запытваючыся ў чалавека. У Полацкай акрузе перапісчык Лабаты запісаў усіх палякаў беларусамі, запужваючы іх вывазам з БССР, калі яны

24 Тамсама, с. 79. Для тых з іх, хто ўдзельнічаў у польска-савецкай вайне на баку Польшчы, адпаведна Рыжскаму мірнаму дагавору была прадугледжана амністыя. Падрабязней на гэту тэму гл.: *Документы внешней политики СССР*, т. III, с. 628–629.

25 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 22.

26 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 78.

27 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 22–23.

28 J. Gajdel, *Liczba i rozmieszczenie Polaków na Białorusi Radzieckiej w świetle powszechnych spisów ludności w okresie międzywojennym*, s. 177; НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 3003, арк. 25: Протоколы заседаний комиссии при ЦК КП(б)Б по польскому вопросу, сметы расходов Управления уполномоченного Наркоминдел СССР при правительстве БССР, ЦК КПЗБ и его представительства на 1926/1927 гг., докладная записка ЦК КПК и КПЗБ в ЦК ВКП(б) от 12 января 1927 г. о повстанческих настроениях в Западной Белоруссии, информации о политическом положении в Польше и Западной Белоруссии. 15 июля 1926 г. — 2 апреля 1931 г.

будуць казаць пра сваё польскае паходжанне. Вялікая колькасць скаргаў на парушэнні падчас перапісу насельніцтва 1926 г. прымусіла ўлады правесці паўторны перапіс у трох мясцовасцях[29]. Яго вынікі збянтэжылі нават самых прынцыповых праціўнікаў польскасці ў БССР. Колькасць палякаў у гэтых мясцовасцях павялічылася ў чатыры разы ў параўнанні з папярэднім перапісам[30].

Пры гэтым у дакументах адзначаліся выпадкі боязі сярод палякаў прызнаваць сваю нацыянальнасць. Да прыкладу, інструктар польскага бюро Барысаўскай акругі С. Гурніцкі пасля наведвання ў лютым 1927 г. хутара і ваколіцы Чабатары ў Зембінскім раёне пісаў: *"Раней лічыліся палякамі, але пасля таго, як выселілі 1–2 сям'і (як былых паноў) і пасля праведзенай абрэзкі зямлі, падчас перапісу (апошняга) насельніцтва ў значнай колькасці атаясамлівала сябе з беларусамі"*[31].

Усё гэта бясспрэчна павінна было паўплываць на статыстычнае памяншэнне колькасці палякаў у БССР, што, у сваю чаргу, не дазволіла высветліць дакладную дэмаграфічную карціну. Сярод польскіх, расійскіх і беларускіх даследчыкаў няма агульнага меркавання па гэтым пытанні.

Няма аднадумства і ў асяроддзі польскіх навукоўцаў. Так, Казімеж Грудзінскі лічыць, што падчас перапісу насельніцтва ў БССР колькасць палякаў наўмысна зменшылі ў 2,5 раза[32]. Сярод польскіх камуністаў, якія працавалі ў СССР і сумняваліся ў праўдзівасці вынікаў перапісу, быў Тамаш Домбаль, член ЦК КП(б)Б. Ён заявіў, што шматлікіх палякаў у БССР запісалі ў іншыя нацыянальнасці[33]. У справаздачы польскага бюро пры ЦК КП(б)Б адзначалася, што ў канцы 1924 г. у БССР жыло 169 648 палякаў[34], што амаль у два разы больш, чым паказалі вынікі перапісу насельніцтва ў 1926 г. Пры гэтым даныя польскага бюро таксама былі заніжанымі, бо ў справаздачы звярталася ўвага і на тое, што шматлікія палякі хаваюць сваю нацыянальнасць з-за страху быць рэпрэсаванымі[35].

---

29 НАРБ, ф. 4п, воп.1, спр. 3651, арк. 53–54. Протоколы заседаний польского бюро агитационно-пропагандистского отдела ЦК ВКП(б), выписки из протоколов заседаний бюро и секретариата ЦК КП(б)Б, план работы бюро секретариата ЦК КП(б)Б на январь — июль 1928 г., тезисы доклада и докладная записка инспектора культпросветучреждений при Наркомпросе БССР в Польское бюро ЦК ВКП(б) от 27 октября 1928 г. о состоянии культурно-просветительской работы, введении всеобщего обучения среди польского населения, сведения об учителях польских школ по округам БССР. 19 ноября 1927 г. — 1 ноября 1930 г.

30 Падрабязней на тэму выяўленых падчас перапісу 1926 г. парушэнняў, якія тычыліся палякаў у БССР, гл.: J. Gajdel, *Liczba i rozmieszczenie Polaków na Białorusi Radzieckiej w świetle powszechnych spisów ludności w okresie międzywojennym*, s. 175–181; M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 78–80.

31 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 22.

32 K. Grudziński, *Polacy na szerokim świecie*, Warszawa 1936, s. 11.

33 W. Tęgoborski, *Polacy Związku Radzieckiego*, Moskwa 1929, s. 111.

34 НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 1937, арк. 51: Протоколы пленумов, секретариата, планы работы и отчёты о деятельности Польского Бюро при ЦК КП(б)Б. Протокол I Всебелорусского Съезда крестьян и работниц полек, 1.07.1924–2.09.1925.

35 Тамсама.

У пасляваенны перыяд і аж да канца 1980-х гг. польскія даследчыкі ў Польскай Народнай Рэспубліцы (ПНР) прытрымліваліся стратэгічнай лініі камуністычнай партыі ў сяброўстве з Савецкім Саюзам. Таму ў іх працах не было крытыкі якасці правядзення перапісу 1926 г., а тым больш абвінавачванняў у наўмысным заніжэнні колькасці палякаў. Не мог напісаць іначай ні генерал Народнага Войска Польскага Ігнацы Блюм у 1966 г., ні іншыя польскія навукоўцы. Даныя перапісу насельніцтва яны прымалі ў якасці праўдзівых без усялякай крытыкі[36].

Кардынальныя змены ў якасным і колькасным падыходзе да ацэнкі перапісу насельніцтва ў БССР адбыліся толькі падчас перабудовы і пасля трансфармацыі палітычнага ладу ў Польшчы. Першы, хто прызнаў, што перапіс 1926 г. не адпавядаў рэчаіснасці, быў Мікалай Іваноў, польскі даследчык з Вроцлава, які ў канцы 1970-х гг. выехаў з БССР у Польшчу ў межах уз'яднання сям'і. Ён зазначыў, што перапіс знізіў колькасць палякаў у БССР у тры разы. Іваноў пісаў, што ў той час у Савецкай Беларусі жыло не менш за 300 тыс. палякаў[37]. Такога ж меркавання прытрымліваецца і іншы польскі даследчык — Ян Гайдэль[38]. Расійскі навуковец Іван Касцюшка, у сваю чаргу, не згаджаецца са сцвярджэннямі Іванова. Касцюшка лічыць, што такіх маштабных скажэнняў, датычных палякаў, не магло быць, бо няма інфармацыі пра сумненні ў праўдзівасці агульных вынікаў перапісу[39].

Даволі асцярожныя ацэнкі перапісу 1926 г. дае польскі навуковец Пётр Эберхард. Ён лічыць, што з пункту гледжання статыстыкі першы савецкі перапіс насельніцтва быў праведзены лепш, чым перапіс, арганізаваны ў 1897 г. у Расійскай імперыі, і выклікае менш падазрэнняў адносна статыстычных недакладнасцей. Такія высновы ён абгрунтоўвае тым, што ў 1920-я гг. у СССР нацыянальныя меншасці маглі цалкам рэалізоўваць сваё права на развіццё нацыянальнай культуры і мовы. Царская русіфікацыя яшчэ не была заменена на сталінскую[40].

Расійская імперыя для правядзення палітыкі гвалтоўнай русіфікацыі палякаў мела патрэбу ў дакладнай інфармацыі адносна іх колькаснага рассялення на беларускіх і літоўскіх землях, у скажэнні статыстычных даных перапісу 1897 г. яна не была зацікаўлена. Савецкі ж перапіс 1926 г., наадварот, не мог быць праведзены без скажэнняў і парушэнняў ужо толькі таму, што меў месца канфлікт інтарэсаў паміж Польбюро пры ЦК КП(б)Б і нацыянальна свядомай часткай беларускай інтэлігенцыі, што прыхільна ставілася да беларусізацыі. Кожны з бакоў меў свой інтарэс пры правядзенні перапісу, які ў выніку прывёў да сур'ёзных скажэнняў статыстычных даных. Паўторнае

[36] I. Blum, *Polacy w Rosji carskiej i w Związku Radzieckim*, "Wojskowy Przegląd Historyczny", 1966, nr 3, s. 212; J. Tomaszewski, *Rzeczpospolita wielu narodów*, Warszawa 1985, s. 53; K. Sierocka, *Polonia radziecka 1917–1939. Z działalności kulturalnej i literackiej*, Warszawa 1968, s. 21.

[37] Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939,* s. 71–82.

[38] J. Gajdel, *Liczba i rozmieszczenie Polaków na Białorusi Radzieckiej w świetle powszechnych spisów ludności w okresie międzywojennym*, s. 165–181.

[39] И. Костюшко, *Польское национальное меньшинство в СССР (1920-е годы)*, Москва 2001, с. 15.

[40] P. Eberhardt, *Polska ludność kresowa: rodowód, liczebność, rozmieszczenie*, s. 59.

правядзенне перапісу ў асобных раёнах, дзе штучна была зменшана колькасць палякаў, і адкрыты судовы працэс у Жыткавіцкім раёне Мазырскай акругі над перапісчыкам, які наўмысна запісваў палякаў беларусамі, яскрава таму пацвярджэнне[41]. Такім чынам, сцвярджэнне Пятра Эберхарда аб тым, што перапіс 1926 г. выклікае менш падазрэнняў адносна дакладнасці статыстычных даных, не з'яўляецца да канца абгрунтаваным. У Беларусі тэму дакладнасці перапісу палякаў у БССР у 1926 г. упершыню закрануў у сваёй манаграфіі гісторык Віталь Жук. Ён не згаджаецца з высновамі Іванова, але пры гэтым прызнае факт змяншэння амаль у 2 разы колькасці палякаў. Даследчык сцвярджае, што ў той перыяд у БССР жыло не больш за 170 тыс. палякаў[42]. Гэта пацвярджае меркаванні польскіх навукоўцаў Іванова і Гайдэля, а таксама даследчыкаў міжваеннага часу і польскіх камуністаў, што перапіс насельніцтва 1926 г. у дачыненні да палякаў быў недакладны, а іх колькасць у статыстычных дакументах зніжана ў 2–3 разы.

У канцы 1930-х гг. былі праведзены яшчэ два перапісы насельніцтва ў СССР. Вынікі першага, арганізаванага ў студзені 1937 г., паводле рашэння Сталіна былі засакрэчаныя і не друкаваліся. Нагодай для гэтага сталі вялікія страты насельніцтва ў рэгіёнах Расіі, а таксама ва Украіне і Казахстане з-за павышанай смяротнасці, у тым ліку сярод дзяцей, у выніку голаду 30-х гадоў, гвалтоўнага раскулачвання і перасялення, калектывізацыі і ўзмацнення рэпрэсій[43]. Зусім непраўдзівымі выглядаюць вынікі перапісу 1939 г. Згодна з імі за два гады, з улікам масавых расстрэлаў людзей у 1937–1938 гг., колькасць насельніцтва БССР павялічылася на 370 тыс. чалавек, у той час як за папярэднія 11 гадоў (да 1937 г.) — толькі на 215 тысяч[44].

---

41 НАРБ, ф. 4п, воп.1, спр. 3651, арк. 53–54: Протоколы заседаний польского бюро агитационно-пропагандистского отдела ЦК ВКП(б), выписки из протоколов заседаний бюро и секретариата ЦК КП(б)Б, план работы бюро секретариата ЦК КП(б)Б на январь — июль 1928 г., тезисы доклада и докладная записка инспектора культпросветучреждений при Наркомпросе БССР в Польское бюро ЦК ВКП(б) от 27 октября 1928 г. о состоянии культурно-просветительской работы, введении всеобщего обучения среди польского населения, сведения об учителях польских школ по округам БССР. 19 ноября 1927 г. — 1 ноября 1930 г.

42 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 64.

43 В. Жиромская, И. Киселёв, Ю. Поляков, *Полвека под грифом "Секретно". Всесоюзная перепись населения 1937 г.,* Москва 1996, с. 142.

44 Глядзі табліцу 5.

Як выглядалі змены ў нацыянальнай структуры БССР, адлюстроўвае табліца 5.

**Табліца 5. Змены ў нацыянальнай структуры БССР у 1926–1939 гг.**

| **Нацыянальнасць** | **1926** | | **1937** | | **1939** | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **тыс.** | (%) | **тыс.** | (%) | **тыс.** | (%) |
| Беларусы | 4017,3 | 80,6 | 4361,8 | 83,9 | 4615,5 | 82,9 |
| Габрэі | 407,1 | 8,2 | 363,2 | 7,0 | 375,1 | 6,7 |
| Рускія | 383,8 | 7,7 | 248,2 | 4,8 | 364,7 | 6,5 |
| **Палякі** | **97,5** | **2** | **119,9** | **2,3** | **58,4** | **1** |
| Украінцы | 34,7 | 0,7 | 65,4 | 1,3 | 104,2 | 1,9 |
| Іншыя | 42,8 | 0,8 | 40,4 | 0,7 | 51,1 | 1,0 |
| Усяго | 4 983,2 | 100,0 | 5 198,9 | 100,0 | 5 569,0 | 100,0 |

Крыніца: *Беларусы: Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі. Атлас*, рэд. С. Польскі і інш., Мінск 1996, с. 6.

Супастаўленне вынікаў перапісаў 1937 і 1939 гг. паказвае, наколькі змянілася нацыянальная структура насельніцтва БССР за 2 гады. Палякі ўжо не былі чацвёртай па колькасці нацыянальнасцю, саступіўшы сваё месца ўкраінцам. Адначасова назіраўся значны колькасны рост беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Змяншэнне колькасці палякаў у БССР амаль напалову Яўген Міравовіч звязвае з тым, што ў 1939 г. не праводзіўся перапіс насельніцтва ў памежных раёнах[45]. Такая версія мае права на існаванне, але тым не менш нельга быць упэўненым у гэтым, бо па сённяшні дзень няма поўнага доступу да засакрэчаных матэрыялаў перапісу 1939 г.

Магчыма, ўлады, каб схаваць сляды масавага знішчэння палякаў у 1937–1938 гг., прыдумалі гэтую версію. Можна таксама дапусціць, што пасля рэгулярных "чыстак" памежных раёнаў ад польскага насельніцтва ў 1920-я — 1930-я гг. (у 1920-я гг.— прыфрантавой паласы)[46], там ужо не было каго перапісваць. Як сцвярджае Аляксандр Смалянчук, савецка-польскае памежжа ў той час

45 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, s. 67.

46 Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора вайсковыя часткі Заходняга фронту не былі расфарміраваныя, таму што на беларуска-польскім памежжы з савецкай уладай даволі паспяхова змагаліся добра арганізаваныя беларускія партызанскія атрады. Занепакоены іх паспяховымі дзеяннямі старшыня Рэвалюцыйнага ваеннага савета Іеранім Убарэвіч выдаў 17 ліпеня 1921 г. загад, у якім было запісана: *"Кожнага, у каго будзе знойдзена зброя, лічыць узброеным ворагам савецкай улады, затрыманых расстрэльваць без суда і следства, а сем'і расстраляных высяляць за межы Беларусі"*. Гл.: Дзяржаўны архіў Расійскай Фэдэрацыі (далей: ДАРФ), ф. 6990, воп. 1, спр. 23, арк. 2, 6, 14, 59: Телеграммы в Всероссийский Центральный Исполнительный Комитет (ВЦИК), касающиеся борьбы с бандитизмом в Минском районе БССР за период с 13.02.1922 до 4.09.1922.
Камандаванне Заходняга фронту абвінавачвала польскі ўрад у падтрымцы антысавецкага партызанскага руху ў БССР, таму палякі аўтаматычна ў прыфрантавой паласе рабіліся першымі

было "ачышчана" ад палякаў, якія ў сістэме масавых рэпрэсій у БССР сталі ахвярай "нумар адзін"[47]. Страты сярод польскага насельніцтва БССР за 1937–1939 гг., якія склалі 61 500 чалавек, сведчаць пра верагоднасць таго, што сталінскі рэжым большасць палякаў фізічна знішчыў, частку выслаў ва ўсходнія раёны СССР, многіх, што баяліся за сваё жыццё, прымусіў адмовіцца ад польскай нацыянальнай ідэнтычнасці[48].

Пасля зняцця грыфа "сакрэтна" з перапісу насельніцтва, праведзенага ў СССР ў 1937 г., стала вядома, што за перыяд з 1926 г. па студзень 1937 г. доля палякаў у РСФСР скарацілася на 105 749 чалавек[49]. У гэты ж перыяд у БССР адбываецца павелічэнне польскага насельніцтва на 22 400 чалавек. Гэта выклікае абгрунтаваныя сумненні хаця б таму, што БССР функцыянавала ў той жа палітычнай сістэме каардынат, што і РСФСР, была ахоплена ўсімі палітычнымі і эканамічнымі працэсамі, якія адбываліся ў СССР: гвалтоўным раскулачваннем і перасяленнямі, прымусовай калектывізацыяй і рэпрэсіямі, што няўхільна ўзмацняліся. Палякі ў БССР перыядычна адсяляліся з памежнай паласы, пры гэтым, як правіла, вывозіліся ў аддаленыя паўночныя і паўночна-ўсходнія раёны СССР. З гэтага вынікае, што яшчэ да пачатку масавых рэпрэсій, звязаных з правядзеннем "польскай аперацыі" ў БССР у 1937–1938 гг., доля палякаў у нацыянальным складзе насельніцтва БССР не магла быць такой, як вынікае з перапісу 1937 г. (119,9 тыс.), а магчыма, зыходзячы з прыкладу РСФСР, была нават менш лічбы перапісу 1926 г. (97,5 тыс.). Рэпрэсіі, звязаныя з правядзеннем "польскай аперацыі" ў БССР, у выніку прывялі да таго, што ў рэспубліцы (паводле перапісу 1939 г.) магло застацца не больш за некалькі дзясяткаў тысяч палякаў, а страты польскага насельніцтва маглі скласці за перыяд з 1926 г. да 1939 г. значна больш за 61,5 тыс. чалавек.

сярод тых, каго неабходна было высылаць за межы БССР. Гл.: ДАРФ, ф. 6990, воп. 1, спр. 2, арк. 14: Донесения, касающиеся борьбы с бандтизмом в районе Западного Фронта. 1.06.1921–1.12.1921.

47 А. Смалянчук, *Нацыянальная структура насельніцтва Беларусі ў ХХ стагоддзі*, [у:] *Беларусь у ХХ стагоддзі*, Мінск 2002, с. 160.

48 Падрабязней на гэту тэму — у 4 падраздзеле I раздзела дадзенай працы.

49 В. Жиромская, И. Киселёв, Ю. Поляков, *Полвека под грифом "Секретно". Всесоюзная перепись населения 1937 г.*, с. 91.

## 2. Нацыянальная палітыка Савецкай Расіі і Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік у 1921–1939 гг.

ІІ з’езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў) зацвердзіў у 1903 г. партыйны лозунг, згодна з якім кожны народ меў права на нацыянальнае самавызначэнне аж да аддзялення[50]. Па задуме Уладзіміра Леніна гэта павінна было стаць магутнай зброяй у руках бальшавікоў у рэвалюцыйнай барацьбе, бо такая фармулёўка вырашэння нацыянальнага пытання схіляла прыгнечаныя нацыі Рассійскай імперыі да ўдзелу ў рэвалюцыі.

Пры гэтым Ленін, як галоўны ідэолаг бальшавіцкай партыі, дакладна прытрымліваўся асноўнага тэзіса марксізму пра падпарадкаванасць нацыянальнага пытання справе класавай барацьбы пралетарыяту[51]. У працы “Нацыянальнае пытанне ў нашай праграме” (1903) ён сцвярджаў, што сацыял-дэмакраты падтрымліваюць права народаў на самавызначэнне, бо адной з умоў паспяховай класавай барацьбы пралетарыяту з’яўляецца заваяванне даверу і сімпатыі нацыянальных меншасцей. “*У асобных выключных выпадках,*— пісаў Ленін,— *можам актыўна падтрымліваць патрабаванні стварэння новай класавай дзяржавы*”. Аднак у тэарэтычных працах таго перыяду пры кожнай магчымасці ён падкрэсліваў перавагі захавання вялікай цэнтралізаванай сацыялістычнай дзяржавы, якая б рэалізавала ў працэсе рэвалюцыйнай барацьбы класавыя інтарэсы аб’яднанага міжнароднага пралетарыяту[52].

У Дэкрэце аб міры, першым выдадзеным дзяржаўным акце рабочага і сялянскага ўрада ад 8 лістапада 1917 г., а пасля і ў прынятай 15 лістапада таго ж года Дэкларацыі праў народаў Расіі сцвярджалася, што Савет Народных Камісараў у сваёй дзейнасці па пытанні аб нацыянальнасцях прытрымліваўся некалькіх прынцыпаў, сярод якіх[53]:

— Роўнасць і суверэнітэт народаў Расіі.

— Права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і стварэння самастойнай дзяржавы.

— Адмена ўсіх і ўсялякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў.

— Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп, якія жывуць на тэрыторыі Расіі.

У першым савецкім урадзе быў створаны спецыяльны Народны камісарыят па справах нацыянальнасцей на чале з Іосіфам Сталіным[54]. У гэты ж час пачалі

---

50 *Второй Съезд РСДРП. Июль — август 1903 года. Протоколы*, Москва 1959, с. 421.

51 В. Ленин, *Полное собрание сочинений* (далей: *ПСС*), изд. 5, т. 24, Москва 1961, с. 149.

52 В. Ленин, *ПСС*, изд. 5, т. 7, Москва 1967, с. 233–242.

53 *ЦК РКП(б) — ВКП(б) и национальный вопрос*, сост. Л. Гатагова, Л. Кошелева, Л. Роговая, Москва 2005, с. 6; *Документы внешней политики СССР*, т. I, Москва 1957, с. 11–15.

54 Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Kowalski, A. Skrzypek, *Stosunki polsko-radzieckie 1917–1945*, Warszawa 1980, s. 19; K. Zieliński, *O Polską Republikę Rad. Działalność polskich komunistów w Rosji Radzieckiej 1918–1922*, Lublin 2013, s. 21–39.

фарміравацца партыйны (Польскае цэнтральнае бюро ЦК РКП(б) і Польскае Бюро пры цэнтральных і мясцовых камітэтах партый ва Украіне і Беларусі) і адміністрацыйны (польскія саветы дэпутатаў і ўпаўнаважаныя па польскіх справах) апараты. У народных камісарыятах адукацыі ў Расійскай, Украінскай і Беларускай Савецкіх Рэспубліках былі створаны польскія бюро адукацыі[55].

Насуперак сцвярджэнням бальшавікоў пра іх вырашальную ролю ў атрыманні Польшчай незалежнасці, насамрэч яны прадугледжвалі для яе толькі абмежаваную і кантраляваную аўтаномію ў *"свабоднай сацыялістычнай супольнасці народаў"*. У падрыхтаванай Леніным рэзалюцыі Усерасійскай канферэнцыі вайсковых арганізацый РСДРП(б), якая адбылася ў Петраградзе ў перыяд з 29 чэрвеня па 6 ліпеня 1917 г., запісана: *"...неабходная шырокая абласная аўтаномія"* (канешне, не толькі для адной Польшчы)[56].

Польская партыя сацыялістаў (ППС) на чале з Юзафам Пілсудскім стаяла на пазіцыях поўнай незалежнасці Польшчы і выхаду яе з Расійскай імперыі. Ленін, у сваю чаргу, катэгарычна не прымаў нацыянальную праграму ППС, асабліва негатыўна ставіўся да аддзялення Польшчы[57].

У першыя паслярэвалюцыйныя гады бальшавікі ўсялякімі спосабамі спрабавалі супрацьдзейнічаць незалежнасці Польшчы. Сталін у пачатку красавіка 1918 г. не выключаў магчымасці ўключэння яе пры дапамозе польскіх камуністаў у створаную федэратыўную савецкую дзяржаву[58]. Пазіцыя бальшавікоў змянілася толькі пасля паражэння іх у савецка-польскай вайне (1920 г.) і падпісання Рыжскага мірнага дагавора ў сакавіку 1921 г.

На VIII з'ездзе РКП(б) у 1919 г. Ленін, які заўсёды быў прыхільнікам стварэння савецкіх нацыянальных рэспублік з адным рэвалюцыйным цэнтрам, прыняў рашэнне пра пераходную форму да цэнтралізацыі, якая прадугледжвала ўзнікненне незалежных сацыялістычных дзяржаў паўсюль, дзе Чырвоная армія знішчыла раней створаныя незалежныя нацыянальныя краіны[59].

Новая тактыка Леніна павінна была задаволіць народы ў іх барацьбе за незалежнасць і вырашыць праблему камуністычнай інтэграцыі. Аднак яна хавала ў сабе шмат сур'ёзных пагроз для Масквы. Шматлікія кіраўнікі "незалежных" рэспублік пачалі сур'ёзна ўспрымаць сваю самастойнасць і ігнараваць дырэктывы, якія дасылаліся з Крамля. Гэта напужала бальшавіцкае кіраўніцтва і прымусіла Леніна паказаць сваё сапраўднае стаўленне да вырашэння нацыянальнага пытання. На X з'ездзе партыі ў сакавіку 1921 г. пад яго кіраўніцтвам прынята рашэнне пра ліквідацыю "незалежных" савецкіх рэспублік[60].

---

55 Архіў новых актаў у Варшаве / Archiwum Akt Nowych w Warszawie (далей: AAN), z. 1354, sygn. LXXVII-73, к. 3.

56 В. Ленин, *ПСС*, изд. 5, т. 24, с. 149.

57 В. Ленин, *О праве наций на самоопределение*, Москва 1956, с. 37.

58 А. Лепёшкин, *Советский федерализм*, Москва 1977, с. 77.

59 Такім чынам была створана сумесная беларуска-літоўская сацыялістычная савецкая дзяржава. Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 39, арк. 13, 17, 77: Копии протоколов заседаний ЦК КП Литвы и Белоруссии, 14.08.1918–12.07.1920.

60 *Десятый съезд РКП(б). Март 1921 года. Стенографический отчёт*, Москва 1963, с. 181–187, 698–704.

У рэзалюцыі з’езда было напісана: “*Ніводная з іх (рэспублік), узятая асобна, не змагла абараніць сябе ад разгрому імперыялістамі* […]. *Агульныя інтарэсы — эканамічныя, палітычныя і абарончыя — загадна дыктуюць дзяржаўны саюз асобных Савецкіх рэспублік як адзіны шлях да выратавання ад імперыялістычнай залежнасці і нацыянальнага прыгнёту*”[61].

Рашэнні X з’езда партыі па нацыянальным пытанні былі як ніколі канкрэтнымі. У рэзалюцыях на тэму дзяржаўна-нацыянальнага будаўніцтва ў нерасійскіх савецкіх рэспубліках гаварылася: “*Дапамагчы ім развіваць і ўмацоўваць у сябе савецкую дзяржаўнасць, дзейнасць на роднай мове органаў улады і кіравання гаспадаркай, суд, прэсу, школу, тэатр і г.д., паскорыць падрыхтоўку нацыянальных кадраў*”[62].

Такім чынам, нацыянальныя рэспублікі атрымалі рэальную магчымасць адраджэння культуры, мовы, навукі, мастацтва, эканомікі, вайсковых фарміраванняў[63]. У 1920-я — 1930-я гг. рашэнні X з’езда былі абавязковымі да выканання. Практычна ў поўным аб’ёме ў гэты час нацыянальныя меншасці маглі рэалізоўваць свае правы, звязаныя з адукацыяй на роднай мове і развіццём культуры. Іх прадстаўнікі вылучаліся на адказныя кіруючыя пасады ў адміністрацыйным і партыйным апаратах. Гэта было звязана ў першую чаргу з перакананнем бальшавіцкага кіраўніцтва, што прывіць сацыялістычныя ідэі і саветызаваць нацыянальныя меншасці будзе лягчэй на іх роднай мове.

У сваёй прамове на II кангрэсе Камінтэрна (19 ліпеня — 7 жніўня 1920 г.) Ленін падкрэсліў, што поспех камуністычнага выхавання будзе залежаць ад яго даступнасці і масавасці. Галоўнай жа ўмовай гэтага, на яго думку, з’яўлялася выкарыстанне нацыянальных моў[64].

Дваццатыя гады XX ст. у БССР — гэта перыяд інтэнсіўнай беларусізацыі яе грамадскага жыцця. Камуністы ў гэты час накіравалі сваю палітыку на развіццё культуры і арганізацыю сістэмы адукацыі на беларускай мове. У выніку прынятых імі рашэнняў БССР пакрылася густой сеткай дзённых і вячэрніх курсаў вывучэння беларускай мовы. Яна стала асноўнай у школах, тэатрах. Па-беларуску друкаваліся кнігі і газеты. У сярэдзіне 1920-х гг. на беларускай мове праводзіліся арганізаваныя ўладамі мітынгі і партыйныя сходы[65]. У Беларусі, дзе працэс русіфікацыі падчас царскага перыяду быў адным з самых інтэнсіўных, у канцы 1930-х гг. засталося толькі каля 7 % школ з рускай мовай навучання[66].

II сесія ЦВК БССР (1924 г.) зацвердзіла раўнапраўе чатырох моў — беларускай, рускай, польскай і габрэйскай, а таксама падтрымала палітыку Народнага камісарыята адукацыі, накіраваную на стварэнне рэальных магчымасцей

---

61 *КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК*, ч. 1, Москва 1953, с. 557.

62 *История Коммунистической партии Советского Союза*, изд. седьмое, дополн., Москва 1985, с. 296.

63 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 35.

64 В. Ленин, *ПСС*, т. 41, с. 330.

65 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2004, nr 22, s. 42.

66 Е. Фирсова, *Осуществление в Белоруссии ленинских идей о всеобщей грамотности*, Минск 1970, с. 37.

атрымання адукацыі, выхавання і развіцця сваёй культуры на роднай мове, без прымусу навучання на чужой мове[67]. У пачатку 20-х гг. XX ст. праводзілася пэўная праца па стварэнні органаў кіравання справамі нацыянальных меншасцей. На III з'ездзе КП(б)Б (1920 г.) гаварылася пра арганізацыю нацыянальных бюро пры ЦК КП(б)Б. Асаблівая ўвага падчас абмеркавання надавалася працы сярод польскага насельніцтва ў БССР. На гэтай падставе было прынята рашэнне аб стварэнні польскага бюро пры ЦК КП(б)Б[68].

Дзейнасць па задавальненні патрэб нацыянальных меншасцей знаходзілася ў сферы ўвагі ЦК РКП(б), які яшчэ ў ліпені 1919 г. даслаў мясцовым партыйным арганізацыям інструкцыю, што тычылася нацыянальнай палітыкі. Яна стала стымулам да далейшай працы сярод нацыянальных меншасцей, у тым ліку і польскай. Інструкцыя прадпісвала наступнае: *"У мясцовасцях са змяшаным складам насельніцтва пры мясцовых камітэтах партыі ствараць нацыянальныя бюро агітацыі і прапаганды для вядзення партыйнай работы на роднай мове кожнай нацыянальнасці,* […] *пад кантролем ЦК РКП(б) нацыянальныя бюро выдаюць на мовах асобных нацыянальнасцей часопісы, газеты і г.д. і забяспечваюць імі мясцовыя бюро"*[69].

Сталін, у сваю чаргу, асцерагаўся, што ў выніку беларусізацыі і ўкраінізацыі як у БССР і ва УССР, так і ў іншых савецкіх рэспубліках да ўлады прыйдуць мясцовыя нацыяналісты, што ў будучым, на яго думку, магло перашкодзіць ажыццяўленню стратэгічнай мэты бальшавікоў — стварэнню маналітнай цэнтралізаванай савецкай дзяржавы (у тым ліку праз русіфікацыю і саветызацыю нярускіх народаў). Гэтую мэту падтрымлівалі як Сталін, так і Ленін. Але разыходжанні паміж імі тычыліся тактыкі яе дасягнення. Ленін быў прыхільнікам павольнай, больш мірнай, чым гвалтоўнай, асіміляцыі нярускіх народаў. Сталін жа, наадварот, прытрымліваўся паскоранай дзейнасці ў гэтым працэсе на падставе прымусу, а не пераканання. Апроч таго, Ленін планаваў ажыццяўляць бальшавізацыю і русіфікацыю ўскраін савецкай імперыі рукамі нацыянальных партыйных і адміністрацыйных дзеячаў, а не рускіх, зацямняючы, такім чынам, бачнасць рускай прысутнасці[70].

Устаноўка Сталіна на хуткае і канчатковае вырашэнне нацыянальнага пытання гвалтоўным спосабам вельмі непакоіла ўжо даволі хворага Леніна. У сувязі з гэтым ён вырашыў удзельнічаць у чарговым, XII, партыйным з'ездзе і выступіць там супраць пазіцыі Сталіна. Але хвароба не дазволіла Леніну прыехаць на з'езд. У такой сітуацыі ён прыняў рашэнне пісьмова звярнуцца

---

[67] У. Тугай, *Дзяржаўная нацыянальная палітыка ў БССР*, [у:] *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.*, кн. 1, Мінск 2001, с. 539.

[68] Тамсама, с. 539–540.

[69] Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (далей: РДАСПГ), ф. 17, воп. 112, спр. 6, арк. 56: Инструкция ЦК РКП(б) для местных партийных организаций о работе среди национальных меньшинств, 07.1919.

[70] Метадам Сталіна праводзілася саветызацыя і русіфікацыя Заходняй Беларусі пасля 17 верасня 1939 г.: з дапамогай дасланых з усходніх раёнаў СССР рускіх, беларусаў, украінцаў і габрэяў, а таксама прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

да дэлегатаў (красавік 1923 г.)[71]. У лісце Ленін патрабаваў зняць Сталіна з пасады генеральнага сакратара партыі[72].

У сваім звароце ён глыбока абгрунтоўваў важныя задачы нацыянальнай палітыкі партыі ва ўмовах створанай саюзнай савецкай дзяржавы. Падкрэсліваў, што Савецкі Саюз павінен абапірацца на прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму і сапраўднай роўнасці савецкіх рэспублік. Ленін яшчэ раз раскрытыкаваў праект "аўтанамізацыі" Сталіна. Папярэджваў пра небяспеку вялікадзяржаўна-шавіністычнага скажэння асноў нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва і падкрэсліваў неабходнасць стварэння гарантый захавання суверэнных праў савецкіх рэспублік у складзе СССР, а таксама раўнапраўя ўсіх народнасцей і нацыянальнасцей[73]. У такой сітуацыі Сталін вымушаны быў паўтарыць перад дэлегатамі ленінскія ўстаноўкі па нацыянальным пытанні. Пры гэтым ён зняважліва паставіўся да імкнення кіраўніцтва саюзных рэспублік арганізоўваць нацыянальныя школы, падкрэсліўшы, што *"на школах далёка не паедзеш"*[74].

У сваім заключным слове Сталін праігнараваў усе аргументы апанентаў, у тым ліку і патрабаванні Леніна[75]. І пасля з'езда прыступіў да "ачысткі" Грузіі ад меншавіцка-ўхілісцкага элемента і ўзмацніў рэпрэсіі[76]. Адказам на гэтыя дзеянні стала тое, пра што ў свой час папярэджваў Ленін,— усеагульнае паўстанне грузін у жніўні 1924 г. з мэтай адстойвання незалежнасці Грузіі. Вынікі падаўлення паўстання былі жахлівыя — 12 578 паўстанцаў расстралялі, а пасля было забіта яшчэ 20 тысяч чалавек[77].

Інтэрнацыянальны інквізітар, як трапна заўважыў Абдурахман Аўтарханаў, усесавецкую "мясарубку" пачаў з роднай Грузіі. Сталін нават папярэдзіў пра яе, калі ў адной з прамоў у Цэнтральным камітэце партыі адкрыта сказаў: *"Тое, што адбываецца ў Грузіі, можа паўтарыцца па ўсёй Расіі"*[78]. І гэтае "прароцтва" спраўдзілася.

XII з'езд РКП(б) праходзіў пад знакам прадбачання смерці Леніна, а дакладней, заканчэння яго палітычнай дзейнасці і ўплыву ў сувязі з надыходзячай агоніяй[79]. Тым не менш, нягледзячы на бурныя дэбаты і абмеркаванні падчас

[71] Падрабязней на гэту тэму гл.: В. Ленин, *ПСС*, изд. пятое, т. 45: март 1922 — март 1923, с. 343–348.

[72] Сталін і яго прыхільнікі зрабілі ўсё, што ад іх залежала, каб ліст не быў прачытаны перад дэлегатамі з'езда. Гэта дазволіла Сталіну захаваць уладу ў партыі. Толькі на XX з'ездзе КПСС у 1956 г. Мікіта Хрушчоў прачытаў гэты ліст. Гл.: РДАНГ, ф. 1, воп. 2, спр. 18, арк. 97.

[73] В. Ракашкевич, *Под знаменем братства*, Минск 1972, с. 159.

[74] А. Авторханов, *Империя Кремля*, Минск — Москва 1991, с. 21.

[75] Гэта стала магчымым у выніку таго, што асяродак Сталіна ведаў: Ленін хутка памрэ. Таму група Сталіна стаяла на антыленінскіх пазіцыях вырашэння нацыянальнага пытання. Пройдзе дзесяць гадоў, і ўсе тыя, хто падтрымліваў Сталіна, загінуць — адны будуць расстраляныя (як Каменеў або Зіноўеў), другія, як Арджанікідзэ, скончаць жыццё самагубствам, трэція, як Троцкі, будуць забітыя за мяжой. Гл.: РДАНГ, ф. 1, воп. 2, спр. 18, арк. 100–101.

[76] А. Авторханов, *Империя Кремля*, с. 24.

[77] W. Materski, *Powstanie narodowowyzwoleńcze 1924 r. w Gruzji*, "Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej", t. XXXVI, Warszawa 1999, s. 57–68; ён жа, *Gruzja*, Warszawa 2010, s. 148.

[78] А. Авторханов, *Империя Кремля*, с. 24; И. Сталин, *Сочинения*, т. 4, Москва 1946, с. 326–327.

[79] AAN, z. 510, sygn. 31, к. 35.

з’езда, было прынята рашэнне аб хутчэйшай ліквідацыі няроўнасці нацый[80]. Засталіся нязменнымі і былі абавязковымі да выканання пастановы X з’езда па пытанні нацыянальнай палітыкі.

Згодна з рашэннямі XII з’езда Пленум ЦК КП(б)Б у траўні 1924 г. прыняў пастанову “Аб практычных сродках рэалізацыі нацыянальнай палітыкі”, у якой былі вызначаны канкрэтныя тэрміны пераходу дзяржаўных устаноў на беларускую мову. Аддзелы і ўстановы СНК БССР атрымалі на гэта толькі адзін год, камісарыяты ўнутраных спраў і юстыцыі — два гады, а часткі і злучэнні Чырвонай арміі, размешчаныя на тэрыторыі рэспублікі,— тры гады[81].

У межах рэалізацыі гэтай палітыкі рэспубліка інвеставала значныя сродкі ў развіццё культуры, адукацыі і навукі. Практычна на голым месцы закладаліся падмуркі паўнавартаснага культурнага жыцця[82]. Працу пачалі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Мінску, Акадэмія навук, прафесійныя тэатры, заснаваны партыйныя газеты і выдавецтвы на беларускай мове[83].

Дзякуючы намаганням беларускіх камуністаў, а таксама згодзе Крамля ў 1924–1926 гг. адбылося тэрытарыяльнае ўзбуйненне БССР за кошт суседніх раёнаў Расійскай Рэспублікі, у якіх большасць насельніцтва складалі беларусы. У БССР увайшлі такія гарады, як Віцебск, Магілёў і Гомель. Тэрыторыя рэспублікі павялічылася з 52,3 тыс. кв. км да 125 тыс., а насельніцтва з 1,5 млн. да 5 млн. жыхароў[84].

У той жа час Сталін, імкнучыся да ўніфікацыі эканамічнага, палітычнага і ідэалагічнага жыцця ў СССР, не мог прымірыцца з існаваннем фактараў, якія сведчылі пра беларускую адасобленасць. Такім чынам, логіка сталінскай сістэмы патрабавала ліквідацыі беларускай інтэлігенцыі — абаронцы нацыянальных каштоўнасцей і інтарэсаў[85]. Сур’ёзныя спробы барацьбы з ёю былі распачаты ў студзені і кастрычніку 1927 г. на чарговых з’ездах КП(б)Б[86].

27 траўня 1928 г. Аб’яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (АДПУ) накіравала ў ЦК Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў [УКП(б)] даклад “Аб палітычных настроях у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі”, у якім інтэлігенцыя абвінавачвалася ў імкненні захапіць усе дзяржаўныя ўстановы, што займаюцца пытаннямі нацыянальнай палітыкі. АДПУ папярэджвала

80 *История Коммунистической партии Советского Союза*, с. 325.

81 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 37.

82 У. Тугай, *Дзяржаўная нацыянальная палітыка ў БССР*, [у:] *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.*, кн. 1, Мінск 2001, с. 537–538.

83 В. Ракашкевич, *Под знаменем братства*, с. 131–142.

84 *История БССР*, т. 3, Минск 1973, с. 263–266. Сучасныя беларускія даследчыкі А. Трафімчык, Р. Платонаў і М. Сташкевіч прапанавалі заслугоўваючую ўвагі тэорыю аб тым, што калі б Польшча ў 1921 г. не адмовілася ад прапанаваных ёй бальшавікамі Мінска і 18 раёнаў (на падставе ўмоў Рыжскага мірнага дагавора), то Крамлю давялося б арганізоўваць БССР на ўсходніх этнічных землях беларусаў, у тым ліку і тых, якія сёння ўваходзяць у склад Расіі. Сучасная Рэспубліка Беларусь у сувязі з гэтым, на іх думку, магла б мець значна большую тэрыторыю. Больш падрабязна на гэту тэму гл.: А. Трафімчык, *1939 год і Беларусь: забытая вайна*, Мінск 2014, с. 41–42.

85 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2004, nr 22, s. 47.

86 Тамсама, с. 46.

партыйнае кіраўніцтва ў Маскве, што ў выпадку пагаршэння знешняй і ўнутранай абстаноўкі ў савецкай дзяржаве адбудзецца рост варожага антысавецкага руху беларускага грамадства. Пры гэтым некаторыя яго прадстаўнікі будуць мець паланафільскае адценне[87].

Усесаюзны перапіс насельніцтва, праведзены ў 1926 г., паказаў, што ў СССР жыло некалькі мільёнаў грамадзян, нацыянальныя краіны якіх знаходзіліся за межамі Савецкага Саюза. Напрыклад, немцы складалі 1 238 тыс., палякі — 782 тыс, грэкі — 213 тыс., эстонцы — 154 тыс., латышы — 141 тыс.[88] У сувязі з гэтым неабходна было выпрацаваць спецыфічныя формы правядзення нацыянальнай палітыкі ў адносінах да гэтых народаў. Існаванне "буржуазных" нацыянальных дзяржаў за межамі СССР з'яўлялася агульным фактарам, які іх аб'ядноўваў.

На выпрацоўку нацыянальнай палітыкі, а таксама форм нацыянальнага існавання ў Савецкім Саюзе гэтых меншасцей у вялікай ступені ўплывала тое, якой была палітычная і эканамічная сітуацыя на іх гістарычнай радзіме, і як складваліся адносіны гэтых краін з СССР. Улічваліся, апроч таго, палітычны ўплыў і роля камуністычных партый у гэтых дзяржавах, іх пазіцыя ў Камінтэрне.

Шляхі рэалізацыі нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да тых народаў, для якіх СССР не быў гістарычнай радзімай, прадугледжвалі вылучэнне на кіраўнічыя партыйныя і дзяржаўныя пасады прадстаўнікоў гэтых меншасцей (прыхільнікаў савецкай улады), увядзенне ва ўжытак нацыянальных моў, стварэнне і развіццё народнай адукацыі, а таксама прызнанне права на аўтаномію. Планавалася таксама, што цэнтральныя дзяржаўныя ўстановы будуць выкарыстоўваць падчас камунікацыі з меншасцямі іх родную мову[89]. Прадугледжвалася трохузроўневая сістэма аўтаноміі для нацыянальных меншасцей. Тыя нацыянальныя групы, якія налічвалі больш за 100 тыс. чалавек і пражывалі кампактна ў адным месцы, маглі ствараць аўтаномныя рэспублікі; якія мелі больш за дзесяць тысяч — аўтаномныя раёны. Трэці ўзровень гэтай сістэмы прадугледжваў арганізацыю сельскіх саветаў у тых мясцовасцях, дзе пражывала разам больш за 500 прадстаўнікоў той ці іншай нацыянальнасці[90].

Першы ўзровень быў рэалізаваны толькі ў дачыненні да немцаў Паволжа, для якіх была створана савецкая аўтаномная рэспубліка. Другі і трэці ўзроўні ажыццяўляліся ў шматлікіх рэгіёнах СССР. Ва Украіне ў 1931 г. існавала 14 нацыянальных аўтаномных раёнаў: 7 нямецкіх, 3 балгарскія, 3 грэцкія і 1 польскі. Сельскіх нацыянальных саветаў у той час было створана больш за тысячу[91].

У БССР колькасць нацыянальных саветаў, пачынаючы з 1924 г., бесперапынна расла, і да 1935 г. іх налічвалася 90, з якіх польскія складалі 37 саветаў, габрэйскія — 25,

---

87 РДАСПГ, ф. 81, воп. 3, спр. 121, арк. 175–181.

88 *Всесоюзная перепись населения. 17.XII.1926 г. Краткие сводки,* вып. IV: *Народности и родной язык населения СССР*, Москва 1928.

89 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 41.

90 *Съезды Советов в постановлениях и резолюциях*, Москва 1933, с. 94.

91 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 42.

рускія — 15, украінскія — 6, латышскія — 4, нямецкія — 2, літоўскі — 1. У сярэднім у адным польскім сельскім савеце было 1 166 чалавек[92].

Шырокая сістэма савецкай нацыянальнай аўтаноміі, па перакананні партыйнага кіраўніцтва, павінна была стаць падмуркам саветызацыі нацыянальных груп, што жылі ў СССР. Паспяховасці і лагоднасці гэтага працэсу мусілі спрыяць выкарыстанне роднай мовы нацыянальных меншасцей, дэманстрацыя добрай волі і талерантнасці да іх культуры і гістарычных традыцый[93].

Імкненне Савецкага Саюза да міжнароднага і ідэалагічнага ўплыву з’явілася чарговай прычынай стварэння нацыянальных аўтаномій. У якасці эфектыўнай зброі ідэалагічнай барацьбы з капіталістычным светам разглядалася паспяховая нацыянальная палітыка. Кантраляваная партыяй савецкая сістэма розных форм аўтаномій нацыянальных меншасцей павінна была пераканаць свет у сваёй дэмакратычнасці і перавазе ў параўнанні з вырашэннем нацыянальных праблем у капіталістычных краінах[94].

Шматлікія камуністы з шэрагу нацыянальных меншасцей паверылі ў шчырасць палітыкі партыі і з запалам далучыліся да яе рэалізацыі. У іх асяроддзі з’явіліся тэорыі пра магчымасць выхавання і падрыхтоўкі ў СССР прафесійных рэвалюцыянераў, здольных паскорыць рэвалюцыйныя змены на іх гістарычнай радзіме[95].

Міжнародная палітычная сітуацыя, супрацьдзеянне заходніх краін бальшавізму, у тым ліку ў Польшчы, не дазволілі савецкаму кіраўніцтву выканаць задачу актывізацыі рэвалюцыйных дзеянняў у замежных дзяржавах. У 1930-я гг. наогул не назіралася магчымасцей выбуху сусветнай рэвалюцыі. Гэтыя акалічнасці, а таксама рост уплыву Сталіна прывялі да таго, што лагодная палітыка ў дачыненні да нацыянальных меншасцей робіцца непатрэбнай для партыі. Такім чынам, Сталін радыкальна змяніў яе, абвясціўшы, што папярэднія тэорыі былі шкоднымі, а іх аўтараў абвінавацілі ў шпіянажы і іншых цяжкіх злачынствах[96]. Гэты і іншыя фактары адыгралі адну з галоўных роляў у сілавой развязцы нацыянальнага пытання ў СССР.

З самага пачатку ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі Сталін успрымаў яе ў якасці часовай і пераходнай з’явы. У першую чаргу гэта тычылася тых нацыянальных меншасцей, якія мелі сваю гістарычную радзіму за межамі СССР. Гэта стала нагодай для савецкага кіраўніцтва, у тым ліку і Сталіна, падазраваць іх у адсутнасці лаяльнасці да Савецкага Саюза і лічыць іх магчымай пятай калонай у выпадку пачатку вайны. У наданні ім шырокай аўтаноміі Сталін бачыў пэўную небяспеку, што ў 1935 г. стала

---

92 А. Лейзеров, *Национальная политика в Беларуси в первые годы советской власти (1920–1939),* http://jewishfreedom.jimdo.com/национальная-политика-в-беларуси/, [22.11.2014].

93 AAN, z. 510, sygn. 66, к. 81.

94 AAN, z. 510, sygn. 150, к.б.н.

95 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 44.

96 Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Stroński, *Represje stalinizmu wobec ludności polskiej na Ukrainie w latach 1929–1939*, Warszawa 1998, s. 209–242; T. Sommer, *Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938*, Warszawa 2010; T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, tł. z ang. B. Pietrzyk, Warszawa 2011; ён жа, *Tajna wojna. Henryk Józewski i polsko-sowiecka rozgrywka o Ukrainę*, Kraków 2008; H. Kuromiya, *Głosy straconych*, Warszawa 2008.

нагодай для хвалі высяленняў з памежных тэрыторый патрыятычна настроеных, нацыянальна свядомых палякаў. Варта заўважыць, што ў той час яшчэ існавала польская аўтаномія ў БССР[97].

У савецкай нацыянальнай палітыцы ў 1921–1939 гг. можна вылучыць тры характэрныя перыяды[98]:

Першы: 1921–1928 гг. — спрыяльны для рэалізацыі праў усіх без выключэння нацыянальных меншасцей у СССР. Галоўную для сябе ідэалагічную небяспеку расійская камуністычная партыя ў гэты час бачыла ў вялікарасійскім шавінізме. На XII з'ездзе РКП(б) Сталін рэзка раскрытыкаваў такую ідэалогію, лічыў яе асноўным злом і перажыткам імперыялізму, не толькі недапушчальнай самой па сабе, але перш за ўсё з-за яе ролі ў распальванні лакальнага шавінізму[99].

Другі: 1929–1935 гг. — перыяд паступовага абмежавання правоў нацыянальных меншасцей[100]. У ідэалагічнай барацьбе месца вялікарасійскага шавінізму заняў нацыяналізм. У яго распаўсюдзе абвінавацілі шматлікіх беларускіх партыйных і савецкіх дзеячаў, якія спрыялі стварэнню і развіццю нацыянальных аўтаномных утварэнняў[101].

Трэці: 1936–1939 гг. — перыяд дамінавання цэнтральных органаў савецкай дзяржавы ў працэсе рэалізацыі нацыянальнай палітыкі ў СССР. Былі ліквідаваны рэшткі дэмакратычных свабод і ўзмацніліся рэпрэсіі супраць усіх слаёў і грамадскіх груп нацыянальных меншасцей: сялян, рабочых, інтэлігенцыі, вайскоўцаў. Сотні тысяч людзей абвясцілі ворагамі народа і сацыялістычнага ладу[102].

Беспрэцэдэнтнае пашырэнне правоў нацыянальных меншасцей, а пазней прымусовая іх адмена тлумачацца тым, што Сталін ніколі не разглядаў асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі як пастаянны элемент дзейнасці партыі. Яны выкарыстоўваліся толькі ў якасці тактычнага ходу і кампрамісу ў барацьбе за будаўніцтва вялікай шматнацыянальнай дзяржавы, якая мае адзіны кіруючы цэнтр. Рэальныя інтарэсы нацыянальных меншасцей у гэтай барацьбе Сталіна цікавілі менш за ўсё[103].

Вядомы заходні палітолаг Абдурахман Аўтарханаў лічыць, што пасля смерці Леніна, але яшчэ да таго, як Сталін узяў усю ўладу ў свае рукі, ён асабіста вызначыў стратэгію палітыкі партыі па нацыянальным пытанні. Яна мела два этапы развіцця: першы — барацьба на два франты: супраць вялікарускага шавінізму як галоўнай небяспекі (1923–1933 гг.) і мясцовага нацыяналізму;

---

97 AAN, z. Ministerstwa Spraw Zagranicznych (dalej: z. 322), sygn. 2821, к. 62: List kierownika Konsulatu Generalnego w Mińsku do Ministerstwa Spraw Zagranicznych w Warszawie, Wydział Wschodni, 11.09.1935.

98 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 47.

99 AAN, z. 510, sygn. 45, к. 31.

100 Што тычыцца польскай нацыянальнай меншасці, то ў гэты перыяд яўных абмежаванняў для яе нацыянальнага развіцця неназіралася. Наадварот, у 1932–1934 гг. вялася актыўная праца па стварэнні польскага аўтаномнага раёна.

101 ЦК УКП(б) абвінаваціў першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гікалу і старшыню Савета Народных Камісараў Мікалая Галадзеда. Гл.: РДАСПГ, ф. 17, воп. 3, спр. 949, арк. 22.

102 У. Тугай, *Дзяржаўная нацыянальная палітыка ў БССР*, [у:] *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.*, кн. 1, с. 537.

103 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 47.

другі — барацьба супраць мясцовага, або буржуазнага, нацыяналізму (1934–1953 гг.); у гэты час вялікарускі шавінізм ужо перастаў існаваць[104].

Гэтыя два этапы нацыянальнай палітыкі Сталіна звязаны паміж сабой. Іх аб'ядноўваюць рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, рабочых, сялян і вайскоўцаў (нягледзячы на іх партыйную прыналежнасць). Усіх іх абвінавачвалі ў варожай дзейнасці супраць бальшавіцкай партыі. Сталін, як верны вучань Леніна, ворагаў бальшавізму знішчаў з бязлітаснай жорсткасцю і ў першую чаргу там, дзе з'яўлялася небяспека распаду савецкай імперыі[105].

Нацыянальная палітыка, якую праводзіў Сталін у міжваенны час, нягледзячы на мноства супярэчнасцей, была падпарадкавана патрэбам і інтарэсам савецкай таталітарнай сістэмы. Камуністычная партыя, дазваляючы нерасійскім рэспублікам, а таксама нацыянальным меншасцям рабіць захады па адраджэнні сваёй культуры, узамен патрабавала безумоўнага падпарадкавання і дзейнасці пад яе непасрэдным кіраўніцтвам. Асноўная мэта партыі пры гэтым заключалася ў саветызацыі і русіфікацыі рэспублік, а таксама нацыянальных меншасцей. Здабыўшы ўсю паўнату ўлады ў СССР, Сталін не лічыў больш патрэбным ажыццяўляць нацыянальную палітыку згодна з рашэннямі X і XII партыйных з'ездаў, асновы якіх былі падрыхтаваны Леніным. Адсутнасць апазіцыі ў СССР, якую Сталін фізічна знішчыў, а таксама кантролю партыі за яго дзейнасцю прывялі ў другой палове 1930-х гг. да масавых і крывавых рэпрэсій у Савецкім Саюзе.

[104] А. Авторханов, *Империя Кремля*, с. 25.

[105] Падрабязней на гэту тэму гл.: І. Кузняцоў, *Носьбіты ідэі беларускай дзяржаўнасці — ахвяры таталітарнага рэжыму*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2001, nr 16, s. 108–127; М. Касцюк, *Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі*, Мінск 2000, с. 141–155; С. Кандыбовіч, *Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі*, Менск 2000, с. 46–47.

## 3. Палітыка савецкіх улад у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці ў БССР

Паражэнне бальшавіцкай Расіі ў савецка-польскай вайне 1919–1921 гг., складаныя ўнутраныя і знешнія палітычныя абставіны, цяжкае эканамічнае становішча і страта магчымасці распальвання полымя рэвалюцыі на Захадзе прымусілі савецкае кіраўніцтва падпісаць з Польшчай 18 сакавіка 1921 г. у Рызе мірны дагавор, а таксама пацвердзіць гатоўнасць да рэалізацыі падпісанага 24 лютага таго ж года ў Рызе пагаднення аб рэпатрыяцыі[106]. Пры гэтым Савецкая Расія і Польшча гарантавалі грамадзянам супрацьлеглага боку поўную амністыю за ўсе палітычныя злачынствы і правіны[107].

Рыжскі мірны дагавор, такім чынам, стварыў пэўныя ўмовы для выезду палякаў з тэрыторыі БССР на гістарычную радзіму, але па розных прычынах не ўсе выкарысталі такую магчымасць[108]. У выніку ў СССР засталіся на пастаяннае месцажыхарства больш за мільён палякаў. Галоўным чынам палякі пражывалі ва Украіне, Беларусі і ў Расіі[109]. Варта адзначыць, што, згодна з Рыжскім дагаворам, абодва бакі бралі на сябе вызначаныя абавязкі, якія гарантавалі свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей у межах абедзвюх дзяржаў.

Польшча абавязвалася даць прадстаўнікам рускай, украінскай і беларускай нацыянальнасцей усе правы, якія забяспечвалі свабоднае развіццё культуры, мовы і выкананне рэлігійных абрадаў. Расія і Украіна павінны былі забяспечыць палякам, што жылі ў Расіі, ва Украіне і Беларусі, усе тыя ж прававыя магчымасці. Царква і рэлігійныя абшчыны, да якіх належалі прадстаўнікі польскай нацыянальнасці ў Расіі, Украіне і Беларусі, мелі права (у межах унутранага заканадаўства) самастойна арганізоўваць і ўладкоўваць сваё царкоўнае жыццё[110].

Моцным бокам Рыжскага мірнага дагавора была магчымасць выбару польскага грамадзянства палякамі, якія пражывалі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі. А яго слабасцю было тое, што савецкія чыноўнікі ўмешваліся ў працэс выбару грамадзянства і стваралі ўсялякія перашкоды для тых людзей, якія хацелі выехаць у Польшчу.

З красавіка 1921 г. па красавік 1924 г. у Польшчу вярнуліся 1,1 млн. рэпатрыянтаў, сярод якіх каля 25 % складалі палякі, каля 65 % — беларусы, украінцы і рускія, якія абралі для сябе польскае грамадзянства[111]. Як адзначалася вышэй, больш як мільён палякаў не выкарысталі права выезду ў Польшчу. Можна меркаваць, што пра такую магчымасць яны проста не ведалі, не ўсім, акрамя таго, савецкія органы ўлады дазволілі выехаць з СССР[112].

---

106 J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, Wrocław 1998, s. 42.

107 Пад палітычнымі злачынствамі і правінамі разумеліся дзеянні, накіраваныя супраць дзяржаўнага ладу або бяспекі дзяржавы, як і ўсе дзеянні, якія былі зробленыя на карысць іншага боку. Падрабязней на гэту тэму гл.: *Документы внешней политики СССР*, т. III, с. 628–629.

108 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: F. Czarnyszewicz, *"Nadberezyńcy"*, Kraków 2017.

109 A. Nowak, *Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności*, s. 23.

110 *Документы внешней политики СССР*, т. III, с. 626–627.

111 W. Materski, *Pobocza dyplomacji. Wymiana więźniów politycznych pomiędzy II RP a Sowietami w okresie międzywojennym*, Warszawa 2002, s. 179.

112 Тамсама, с. 179.

Паводле іншых звестак, у Польшчу за гады рэпатрыяцыі (1921–1924 гг.) вярнулася не менш за 2,4 млн. чалавек. У пераважнай большасці (90 %) гэта былі ваенныя эмігранты, у асноўным яўрэі, беларусы і ўкраінцы, якіх царскія ўлады прымусова (альбо добраахвотна) эвакуіравалі з прыфрантавых тэрыторый у глыбінныя раёны Расіі ў гады Першай сусветнай вайны. Было гэта пераважна вяртанне да месца пастаяннага жыхарства[113].

Асобныя палякі, маючы добрыя ўмовы для жыцця і дзейнасці, свядома засталіся ў СССР, працавалі ў органах заканадаўчай, выканаўчай улады, інжынерамі, спецыялістамі і кваліфікаванымі рабочымі на прамысловых прадпрыемствах, чыгунцы, служылі ў войску і на флоце, працавалі ў АГПУ[114].

Польшча, зыходзячы з вопыту дарэвалюцыйнай Расіі, была зацікаўлена ў існаванні ў СССР шматлікай польскай нацыянальнай меншасці, якая мела там уплыў на палітычнае і эканамічнае жыццё. Ва ўмовах мірнага суіснавання яна магла зрабіцца сілай, здольнай ураўнаважыць імкненні да дэзінтэграцыйных працэсаў беларускай і ўкраінскай меншасцей у Польшчы.

Пасля паражэння Савецкай Расіі ў вайне з Польшчай, а таксама на фоне пастаяннага пагаршэння эканамічнага стану і ўзмацнення ўплыву антысавецкіх арганізацый, якія заяўлялі аб праве народаў на самавызначэнне, Ленін быў вымушаны перагледзець раней прынятыя прынцыпы нацыянальнай палітыкі[115].

У сакавіку 1921 г. на Х з'ездзе РКП(б) ён абвясціў асновы новай палітыкі, якая тычылася нацыянальнасцей. Згодна з ёй пашыраліся правы народаў былой Расійскай імперыі, у тым ліку стваралася магчымасць арганізацыі аўтаномных нацыянальных утварэнняў. Пры гэтым іх дзейнасць цалкам кантралявалася партыяй. Польскімі аўтаноміямі маглі кіраваць толькі польскія камуністы[116].

Рашэнні Х з'езда праз некалькі месяцаў былі падмацаваны ўказаннямі, дасланымі губернскім партыйным арганізацыям, якіх Цэнтральны камітэт партыі абавязаў цесна супрацоўнічаць з нацыянальнымі меншасцямі[117]. Дзейнасць у гэтым накірунку планавалася ажыццяўляць з дапамогай адміністратыўных метадаў кіравання. У аўтаномных утварэннях вышэйшаму кіраўніцтву загадвалася шырока ўжываць нацыянальныя мовы падчас зносін у адміністрацыі, партыйных арганізацыях і структурах мясцовага самакіравання[118].

---

113 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: D. Sula, *Powrót ludności polskiej z byłego Imperium Rosyjskiego w latach 1918–1937,* Warszawa 2013; M. Korzeniowski, *Na wygnańczym szlaku… Dziatalność Centralnego Komitetu Obywatelskiego Królewstwa Polskiego na Białorusi w latach 1915–1918,* Lublin, 2001.

114 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: N. Iwanow, *Zapomniane ludobójstwo. Polacy w panstwie Stalina*, s. 32–36.

115 *Десятый съезд РКП(б). Март 1921 года. Стенографический отчёт*, Москва 1963.

116 Д. Боцьковски, *Поляки в СССР в 1919–1939 гг.*, [у:] *Малцинствени и етнорелигиозни проблеми в Югоизточна и Централна Европа между двете световни войни*, София 2005, с. 89.

117 РДАСПГ, ф. 17, воп. 112, спр. 310, арк. 113.

118 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. 1937–1938 Zapomniane sowieckie ludobójstwo*, "Uważam Rze", 2012, nr 8, s. 11.

Аўтаномныя ўтварэнні (раёны, сельскія саветы) выкарыстоўваліся савецкай прапагандай, каб паказаць суседнім капіталістычным краінам прыклад, як трэба вырашаць праблемы развіцця мовы, культуры і самакіравання нацыянальных меншасцей. Пры гэтым пастаянна падкрэслівалася, што такімі правамі народы ў іншых дзяржавах, у тым ліку ў Польшчы, не валодаюць.

Усебаковы кантроль за рэалізацыяй нацыянальнай палітыкі павінны былі ажыццяўляць нацыянальныя бюро агітацыі і прапаганды[119], да працы ў якіх прыцягваліся польскія камуністы, што збеглі з Польшчы ў БССР. Яны вельмі часта прызначаліся на адказныя пасады ў органы, якія займаліся справамі нацыянальных меншасцей[120].

Фармальна нацыянальную палітыку ў БССР вызначала Канстытуцыя, прынятая 6 лютага 1919 г. Артыкул 15 дэклараваў роўныя правы ўсім грамадзянам рэспублікі, нягледзячы на іх расавую і нацыянальную прыналежнасць, а таксама роўныя магчымасці развіцця сваёй культуры і мовы[121]. Гэтыя правы былі пацверджаны і Канстытуцыяй 1927 года[122].

Рашэнні чарговага XII з’езда РКП(б) па нацыянальным пытанні мабілізавалі польскіх камуністаў да працы з палякамі, якія жылі ў сельскай мясцовасці. Раней, як адзначала польскае бюро ЦК РКП(б), такая праца не праводзілася зусім[123]. Гэты з’езд стварыў перадумовы для змены сітуацыі ў адносінах паміж польскімі камуністамі і польскай нацыянальнай меншасцю. У месцах яе кампактнага пражывання пачалі актыўна ствараццa раённыя польскія бюро.

Асноўнай мэтай накіраваных на “польскую працу” палякаў-камуністаў (большасць з іх былі эмігрантамі з Польшчы[124]) стала саветызацыя польскага насельніцтва БССР[125], гэта значыць, імкненне зрабіць яго прыхільнікам савецкай улады і ідэі будаўніцтва сацыялізму. Польскія бюро прыцягвалі да працы ўсіх палякаў-камуністаў, якія валодалі польскай мовай. Іх прызначалі на кіруючыя партыйныя і адміністрацыйныя пасады ў тых рэгіёнах, дзе большасць насельніцтва складалі палякі. Каб стварыць даверлівыя адносіны з імі, рэкамендавалася выкарыстоўваць польскую мову, дапамагаць адкрываць польскамоўныя школы і праводзіць культурна-асветную дзейнасць[126].

119 РДАСПГ, ф. 17, воп. 112, спр. 6, арк. 56: Директива ЦК РКП(б) для местных партийных организаций о работе среди национальных меньшинств, 07.1919.

120 Так, да прыкладу, у газеце “Орка”, органе ЦК КП(б)Б з накладам 10 тысяч экзэмпляраў, якая друкавалася ў асноўным для польскага сялянскага насельніцтва, рэдактарам працаваў польскі камуніст Генрых Жарскі. Гл.: AAN, z. 510, sygn. 95, к. 80.

121 *Конституция нашей державы (1919, 1927, 1937, 1978, 1994)*, Минск 2011, с. 93.

122 А. Лейзеров, *Национальная политика в Беларуси в первые годы советской власти (1920–1939)*, [у:] *Беларусь у ХХ стагоддзі*, http://www.homoliber.org/ru/xx/xx010112.html, [31.05.2012].

123 И. Костюшко, *Польское национальное меньшинство в СССР (1920-е годы)*, с. 96.

124 НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 1937, арк. 13: Протоколы пленумов, секретариата, планы работы и отчёты деятельности Польского Бюро ЦК КП(б)Б. Протокол I Всебелорусского Съезда Крестьян и работниц полек, 1.07.1924–2.09.1925; N. Iwanow, *Zapomniane ludobójstwo. Polacy w panstwie Stalina*, s. 34.

125 НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 1914, арк. 4: Отчёты, планы работы, резолюции, а также другие материалы Польского Бюро ЦК КП(б)Б о работе среди польского населения, 03.1926–05.1926.

126 В. Жук, *Участие поляков в общественно-политической жизни советской Белоруссии в 1921–1929 гг.*, [у:] *Беларусь у ХХ стагоддзі*, http://www. homoliber. Org/ru/xx/xx030109.html, [31.05.2012].

Бясспрэчным аўтарытэтам сярод палякаў-вяскоўцаў карысталіся каталіцкія святары, якія заахвочвалі прыхаджан актыўна выступаць за адкрыццё польскамоўных школ або выкладанне польскай мовы ў беларускіх школах. Польскія камуністы падхапілі гэтыя патрабаванні і пачалі рэалізоўваць іх на практыцы. Гэта садзейнічала росту іх уплыву і аўтарытэту ў польскім вясковым асяроддзі[127].

У гэты перыяд польскае насельніцтва БССР пачало праяўляць пазітыўнае стаўленне да савецкай улады. Напрыклад, яно актыўна ўдзельнічала ў сельскіх канферэнцыях, у выбарах у мясцовыя саветы, цікавілася польскамоўнымі кнігамі і газетамі[128]. З 1927 г. пачала павялічвацца заангажаванасць у палітыку бяднейшых слаёў насельніцтва. У месцах, дзе кампактна пражывалі палякі, падчас выбарчых кампаній яны былі больш актыўнымі, чым беларусы[129].

У справаздачы польскага бюро ЦК КП(б)Б за верасень–снежань 1924 г. было адзначана, што стаўленне палякаў да савецкай улады з'яўляецца лаяльным. Ад палітычнага бандытызму не засталося нават слядоў. Харчовы падатак польскія вёскі здалі поўнасцю[130].

У снежні 1924 г. Масква зацвердзіла спіс штатных пасад для польскіх бюро ў БССР, які налічваў 11 адказных сакратароў бюро (адзін пры ЦК КП(б)Б, а таксама па адным чалавеку пры Мінскім, Барысаўскім, Бабруйскім, Мазырскім, Слуцкім, Аршанскім, Магілёўскім, Віцебскім, Калінінскім і Полацкім раённых камітэтах партыі), 5 адказных інструктараў (у польскім бюро пры ЦК КП(б)Б, у Мінскім, Слуцкім, Магілёўскім і Віцебскім раённых камітэтах)[131].

Польскае бюро ЦК КП(б)Б, маючы падтрымку з Масквы, а таксама дзякуючы падрыхтаваным кадрам, змагло сістэматызаваць працу з польскай нацыянальнай меншасцю, павялічыўшы колькасць сваіх упаўнаважаных да 82 чалавек, якія працавалі ва ўсіх раёнах Беларусі[132]. Гэта праца ўжо ў 1925 г. прынесла бачныя вынікі. У справаздачы польскага бюро ЦК КП(б)Б запісана: *"У апошні час у раённыя аддзелы адукацыі і Польскае Бюро прыходзіць вялікая колькасць заяў аб адкрыцці польскіх школ. Збольшага гэтыя просьбы застаюцца нявырашанымі ў сувязі з адсутнасцю настаўнікаў для іх"*[133]. Сетка і колькасць польскамоўных школ у 1925 г. выглядалі наступным чынам: у Мінскім раёне налічвалася 17 школ, у Бабруйскім — 14, Барысаўскім, Слуцкім і Магілёўскім — па 13, Віцебскім і Полацкім — па 12, Мазырскім і Аршанскім — па 4. Усяго дзейнічала

[127] НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 1914, арк. 1–2, 180–18; спр. 1937, арк. 128–129.

[128] Тамсама, арк. 49–60, 203–209.

[129] І. Пушкін, *Грамадска-палітычная актыўнасць палякаў БССР у 20-я гады і адносіны да іх з боку дзяржаўнага кіраўніцтва*, [у:] *Край–Kraj: Дыялог на сумежжы культур*, рэд. А. Агееў, Я. Іваноў, Магілёў 2000, с. 47–64; ён жа, *Нацыянальныя меншасці БССР у грамадска-палітычным і культурным жыцці (20-я гады ХХ ст.)*, Магілёў 2004.

[130] НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 1914, арк. 92; спр. 1937, арк. 52.

[131] Тамсама, спр. 1940, арк. 267: Циркулярные письма и переписка с партийными и советскими организациями по вопросам подготовки и проведения совещаний, трудоустройства политэмигрантов из Польши, командировочные удостоверения и другие. 12 февраля 1924 – 20 мая 1925.

[132] Тамсама, спр. 1914, арк. 210.

[133] Тамсама, арк. 231.

102 школы, у якіх навучалася 7 015 дзяцей і працавала 186 настаўнікаў[134]. Праз год колькасць школ павялічылася да 118. Настаўнікаў для іх рыхтавалі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Мінску і некалькі педагагічных інстытутаў у іншых гарадах БССР[135].

Праблема недахопу кадраў для школ вырашалася праз запрашэнне на працу ў БССР прафесійна прыгодных і палітычна праверaных настаўнікаў з Польшчы. З гэтай мэтай польскае бюро зацвердзіла спецыяльную пастанову[136]. У 1926 г. было створана 12 польскіх сельскіх саветаў[137].

Змены ў нацыянальнай палітыцы пачалі адбывацца ў 1927 г., але яны закранулі выключна прадстаўнікоў тытульнай нацыянальнасці — беларусаў. Пасля двух з'ездаў КП(б)Б, якія праходзілі ў студзені і кастрычніку, быў узяты курс на барацьбу з беларускай культурай і інтэлігенцыяй. На студзеньскім — X — з'ездзе прыхільнікі так званай народна-дэмакратычнай плыні, звязанай з працай па захаванні беларускай культурнай асаблівасці рэспублікі, былі абвінавачаны ў нацыяналістычнай і контррэвалюцыйнай дзейнасці, а гэта ў бальшавіцкай тэрміналогіі азначала злачынства супраць савецкай улады[138].

Адначасова па ўказанні Крамля і пад пратэкцыяй беларускіх улад у Мінску пашырыліся правы і магчымасці нацыянальных меншасцей. З паступовым скарачэннем колькасці беларускамоўных школ (у сувязі з перапрафіляваннем іх на рускія), а таксама беларускіх культурна-асветных устаноў павялічвалася колькасць габрэйскіх, польскіх, латышскіх, літоўскіх, украінскіх, эстонскіх і нямецкіх школ. З 1927 г. пастаянна адкрываліся новыя польскія школы. Па стане на 1929 г. іх было ў Мінскай акрузе — 50, у Бабруйскай — 23, Гомельскай — 21, Мазырскай — 15, Магілёўская і Віцебская акругі мелі па 14 школ. Усяго — 137. З 12 школ-сямігодак 10 размяшчаліся ў гарадах і мястэчках. Толькі 1/3 польскіх школ знаходзілася ў межах польскіх нацыянальных саветаў, астатнія 2/3 — у змяшаных польска-беларускіх вёсках[139].

Апроч таго, у БССР функцыянавала сетка беларускіх школ з выкладаннем польскай мовы. Для стварэння такой школы патрэбна было, каб у ёй навучалася не менш за 14 польскіх дзяцей (з 1929 г.— не менш за 15)[140]. У 1925/1926 навучальным годзе такіх школ налічвалася 56, у 1926/1927 – 78, у 1927/1928 – 93, а ў 1928/1929 – 73 [141]. У 1930/1931 навучальным годзе колькасць польскіх

134 Тамсама, арк. 231.

135 E. Mironowicz, *Historia państw świata XX wieku. Białoruś*, Warszawa 1999, s. 64–68.

136 НАРБ, 4п, воп. 1, спр. 1937, арк. 81: Протоколы пленумов, секретариата, планы работы и отчёты о работе польбюро ЦК КП(б)Б. Протокол первого Всебелорусского съезда крестьян и работниц поляков. 1.06.1924–2.09.1925.

137 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2004, nr 22, s. 46.

138 Тамсама.

139 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 40–41.

140 И. Костюшко, *Польское национальное меньшинство в СССР (1920-е годы)*, с. 123.

141 *Практическое разрешение национального вопроса в Белорусской Социалистической Советской Республике*, Минск 1928, ч. 2: *Работа среди национальных меньшинств в БССР*, с. 85.

школ павялічылася да 166. Адкрываліся і польскія сельскія саветы[142]. Разам з тым у пачатку 1930-х гг. у некаторых раёнах БССР назіралася тэндэнцыя да закрыцця польскамоўных школ па ініцыятыве настаўнікаў-беларусаў і мясцовых сялян. Да таго ж амаль палова палякаў школьнага ўзросту навучалася не на польскай мове, а па-беларуску, што паскарала працэс іх асіміляцыі.

6 ліпеня 1931 г. бюро ЦК КП(б)Б даручыла народнаму камісарыяту асветы сумесна з раённымі камітэтамі партыі перагледзець перавод польскіх школ у беларускія і абавязкова аднавіць польскамоўныя школы там, дзе яны няправільна былі перапрафіляваны[143]. Гэта рашэнне паўплывала на тое, што ўжо ў красавіку 1932 г. у БССР дзейнічала 226 польскіх школ, з якіх 192 — з чатырохгадовым тэрмінам навучання і 34 — з сямігадовым[144]. Павелічэнне колькасці польскіх школ адбылося галоўным чынам за кошт скарачэння колькасці беларуска-польскіх школ, стварэнне якіх кіраўніцтва рэспублікі раскрытыкавала і прызнала за *"плады разбуральнай дзейнасці былога нацдэмаўскага кіраўніцтва ў народным камісарыяце асветы"*[145]. У той час у польскіх і іншых школах у БССР навучаліся 19 693 вучні-палякі[146].

Польска-савецкая дамова аб ненападзе, падпісаная ў Маскве 25 ліпеня 1932 г.[147], садзейнічала далейшаму нацыянальнаму развіццю польскай меншасці ў БССР. У 1932–1933 гг. культурнае жыццё і школьнае будаўніцтва ў польскім асяродку дасягнулі свайго піку. У пачатку 1934 г. у БССР ужо дзейнічала 270 польскамоўных школ[148].

Аднак перыяд спрыяльных умоў для развіцця польскай нацыянальнай меншасці быў даволі кароткім. Ён доўжыўся каля двух гадоў і скончыўся практычна адразу пасля падпісання 26 студзеня 1934 г. дамовы аб ненападзе паміж Польшчай і Германіяй[149]. Нямецка-польскае збліжэнне выклікала неспакой у Крамлі. Савецкае кіраўніцтва асцерагалася, што Гітлер будзе спрабаваць уцягнуць Польшчу ў свае планы экспансіі на ўсход[150]. Таму адносіны паміж СССР і Польшчай пачалі пагаршацца. Яркім праяўленнем гэтага стала

---

142 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, nr 22, s. 46.

143 Падрабязней на гэту тэму гл.: В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 79–92.

144 М. Гнилякевич, *Нацмены Белорусской ССР*, "Революция и национальности", 1932, № 4, с. 22.

145 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 80.

146 Тамсама, с. 80.

147 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Документы внешней политики СССР*, т. 15: *1 января — 31 декабря 1932 г.*, ред. Г.К. Деев и др., Москва 1969, с. 436–439; О. Кен, *Москва и пакт о ненападении с Польшей (1930–1932)*, Санкт-Петербург 2003; J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, Poznań 2014, s. 115–133.

148 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 80.

149 Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Batowski, *Między dwiema wojnami 1919–1939. Zarys historii dyplomatycznej*, Kraków 1988, s. 201–205; K. Lapter, *Pakt Piłsudski-Hitler. Polsko-niemiecka deklaracja o niestosowaniu przemocy z 26 stycznia 1934 roku*, Warszawa 1962, cz. II, dok. 11.

150 Сапраўды, такія спробы з боку Гітлера былі, але Польшча не дазволіла ўцягнуць сябе ў гэту авантуру. Пра іх казаў прэм'ер лонданскага ўрада Тамаш Арцішэўскі ў сваёй прамове да палякаў з Лондана 19 студзеня 1945 г. Гл.: AAN, z. Agencja TASS (dalej: z. 1424), sygn. 327/8, к. 29.

крытычнае ў адрас Польшчы выступленне Сталіна 26 студзеня 1934 г. на XII з'ездзе УКП(б)[151]. У савецкай прэсе ўсё часцей сустракаліся антыпольскія артыкулы[152]. Нічога ў гэтых адносінах не змяніла і смерць Юзафа Пілсудскага. З гэтага часу, як пісаў польскі даследчык Войцех Матэрскі, у адносінах дзвюх краін павеяла холадам, стрыманасцю і прадузятасцю[153].

У савецкай дзяржаве быў узяты курс на заканчэнне спрыяльнай палітыкі ў дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці. Нягледзячы на тое, што ў БССР усе папярэднія мерапрыемствы ініцыявалі і рэалізоўвалі пад кіраўніцтвам цэнтральных органаў партыйнай і савецкай улады ў Маскве, 26 ліпеня 1936 г. прынята пастанова ЦК УКП(б), у якой улады БССР крытыкаваліся за арганізацыю прымусовага навучання беларускіх дзяцей на польскай мове[154]. Фактычна гэта было ўказанне для першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гікалы і старшыні СНК Мікалая Галадзеда да паступовай ліквідацыі польскамоўнай адукацыі ў БССР[155]. На V пленуме ЦК КП(б)Б 3 жніўня 1934 г. гаварылася пра непрапарцыянальна вялікую колькасць польскіх школ у параўнанні з рускімі. Два працэнты палякаў у БССР мелі 337 школ, 7,3 % рускіх — толькі 194. Пленум абавязаў улады ўсіх узроўняў у рэспубліцы пераглядзець сетку польскіх школ і польскіх сельскіх саветаў[156].

У атмасферы росту шпіёнаманіі ў рэспубліцы ўзмацнілася тэндэнцыя да закрыцця польскіх адміністрацыйных і культурна-адукацыйных устаноў, у тым ліку школьных. Да жніўня 1937 г. іх колькасць скарацілася да 84 [157].

5 жніўня 1937 г. бюро ЦК КП(б)Б, абмеркаваўшы на сваім пасяджэнні пытанне барацьбы з палітыкай паланізацыі, прапанавала СНК БССР пакінуць польскія школы толькі там, дзе колькасць вучняў складала не менш за 15 чалавек, а астатнія школы пастанавіла ліквідаваць, бо яны былі *"створаны польскімі шпіёнамі, якія пралезлі ў кіруючыя савецкія і партыйныя органы ўлады з мэтай правядзення гвалтоўнай паланізацыі"*[158]. Выконваючы гэта ўказанне, 10 жніўня 1937 г. СНК БССР прыняў пастанову аб рэарганізацыі 65 польскіх школ у беларускія[159]. Астатнія 19 польскіх школ сталі беларускамоўнымі згодна з пастановай бюро ЦК КП(б)Б ад 27 жніўня 1937 г. Такім чынам да канца 1937 г. у БССР не засталося ніводнай польскай школы. Апошнія былі ліквідаваны без пісьмовага ўказання з Масквы[160].

---

151 *XVII съезд ВКП(б) 26 января — 10 февраля 1934 г. Стенографический отчёт*, Москва 1934, с. 17; *Документы внешней политики СССР*, т. 17, Москва 1971, док. 28, с. 85.

152 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 460.

153 Тамсама, с. 462.

154 РДАСПГ, ф. 17, воп. 3, спр. 949, арк. 22.

155 Тамсама, арк. 22.

156 РДАСПГ, ф. 17, воп, 21, спр. 404, арк. 18–21, 105–111.

157 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 368.

158 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 82.

159 Тамсама, с. 82.

160 Тамсама, с. 82.

У сувязі з гэтым паўстае пытанне: што павінна было здарыцца за такі кароткі час у БССР, каб, насуперак раней прынятай пастанове бюро ЦК КП(б)Б ад 5 жніўня 1937 г., якая не прадугледжвала поўнага знішчэння польскамоўнай адукацыі, гэта адбылося ў хуткім часе? Напэўна, такое ўказанне ў вуснай форме прыйшло з Масквы, дзе ўжо ішла падрыхтоўка пастановы аб ліквідацыі школ нацыянальных меншасцей у СССР. У выніку гэтага ўказання і дзеянняў беларускіх партыйных і савецкіх органаў улады польскія дзеці былі канчаткова пазбаўлены магчымасці атрымаць школьную адукацыю на роднай мове. Яны ўцягваліся ў працэс гвалтоўнай асіміляцыі, накіраванай на іх русіфікацыю, што з’яўлялася прамым парушэннем канстытуцый СССР і БССР.

1 снежня 1937 г. арганізацыйнае бюро ЦК УКП(б) прыняло, а палітбюро ЦК УКП(б) 17 снежня зацвердзіла пастанову аб ліквідацыі нацыянальных сельскіх саветаў[161]. Што тычыцца адукацыйных устаноў, то афіцыйна толькі 24 студзеня 1938 г., згодна з пастановай арганізацыйнага бюро ЦК УКП(б), павінны былі быць ліквідаваны школы нацыянальных меншасцей у СССР, у тым ліку і польскія[162]. Для БССР гэтая пастанова ўжо не мела ніякага значэння, паколькі польскамоўная школьная адукацыя там ужо была ліквідавана. Праз некалькі месяцаў, 19 сакавіка 1938 г., закрыліся нацыянальныя інстытуты[163] і школы прафесійнага навучання для нацыянальных меншасцей[164]. З гэтага моманту беларуская і руская мовы, згодна з законам, робяцца дзяржаўнымі.

У БССР прыпынілі друк польскамоўнай прэсы, кніг польскіх пісьменнікаў і паэтаў — членаў польскага аддзела Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (пасля перайменаванага ў польскую секцыю Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР), а таксама выхад польскамоўных перадач на беларускім радыё[165].

Да пачатку 1939 г. нацыянальныя ўстановы рознага кшталту ў БССР цалкам зніклі. Польская культурна-асветная дзейнасць была канчаткова знішчана[166]. Польскія грамадскія і палітычныя дзеячы, якія актыўна ўдзельнічалі ў развіцці польскіх нацыянальных устаноў, школ усіх узроўняў, прэсы і культуры, былі рэпрэсаваны. Некаторыя з іх заплацілі за сваю дзейнасць самым каштоўным,

161 РДАСПГ, ф. 17, воп. 3, спр. 994, арк. 15.

162 РДАСПГ, ф. 17, воп. 114, спр. 634, арк. 1–2.

163 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 83–87.

164 РДАСПГ, ф. 17, воп. 114, спр. 640, арк. 6, 36.

165 У БССР у той час для палякаў друкаваліся наступныя газеты: “Orka” (“Пашня”), “Trybuna Radziecka”, (“Савецкая трыбуна”), “Głos Młodzieży”, (“Голас моладзі”), “Bądź gotów”, (“Будзь гатоў”), “Szturmowiec Kojdanowszczyzny”, (“Ударнік Койданаўшчыны”, пасля перайменавання Койданаўскага раёна яна стала называцца “Szturmowiec Dzierżyńszczyzny” — “Ударнік Дзяржыншчыны”). Перыядычнасць іх выхаду, наклад, журналісцкія кадры, прафесійная падрыхтоўка, ліквідацыя, а таксама ўсе пытанні, звязаныя з выхадам у эфір перадач беларускага радыё на польскай мове і з друкаваннем кніг, у тым ліку іх назвы і аўтараў, гл.: В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 88–91.

166 Пра працэс функцыянавання і ліквідацыі польскіх гарадскіх клубаў, сельскіх хат-чытальняў і чырвоных куткоў, польскага перасоўнага тэатра, а таксама польскага аддзялення пры Магілёўскім палітасветтэхнікуме і Мінскіх шасцімесячных палітасветных курсаў для палякаў гл.: В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 87.

што ёсць у чалавека,— жыццём. Шматлікія палякі былі асуджаны па надуманых абвінавачваннях у шпіянажы на карысць Польшчы[167].

Што стала падставай для змен нацыянальнай палітыкі ў БССР, якія прывялі да знішчэння ўсіх форм так добра арганізаванай дзейнасці польскай нацыянальнай меншасці? Польскія даследчыкі Мікалай Іваноў і Генрык Строньскі лічаць прычынай такіх дзеянняў савецкіх улад супраціўленне палякаў калектывізацыі[168]. Варта адзначыць, што гэта была толькі адна з падстаў, але не галоўная. Калектывізацыя ў БССР "паспяхова" была завершана ў 1934 г. Да гэтага часу палякі, якія актыўна супраціўляліся стварэнню калгасаў, былі высланы на пасяленні ў паўночныя раёны СССР, у асобных выпадках расстраляны, арыштаваны або нелегальна эмігрыравалі ў Польшчу[169]. Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што ў 1937–1938 гг. пад рэпрэсіі трапілі не толькі палякі, але і прадстаўнікі ўсіх без выключэння нацыянальных меншасцей.

Мікалай Іваноў называе яшчэ адну прычыну, якая зводзіцца да таго, што партыйным і адміністрацыйным органам СССР (БССР), а таксама польскім камуністам, якія актыўна працавалі ў накірунку рэалізацыі нацыянальнай палітыкі, не ўдалося прывіць польскай нацыянальнай меншасці савецкіх сацыялістычных ідэалаў і выхаваць "савецкага паляка" — лаяльнага і цалкам адданага новай сацыялістычнай дзяржаве[170]. Гэта сцвярджэнне з'яўляецца правільным толькі часткова, таму што да пачатку крывавых рэпрэсій і поўнага знішчэння ўсіх прыкмет польскай культурна-асветнай і палітычнай дзейнасці ў БССР (1937–1938 гг.) польская амбасада ў Маскве ў 1933 г. адзначыла радыкальныя змены настрояў у асяроддзі палякаў на тэрыторыі СССР. *"Дзякуючы намаганням камуністычнай партыі ў вобласці палітычна-асветнай работы сярод польскага насельніцтва, атрымалася стварыць сур'ёзны пералом у настроях польскіх мас у накірунку змірэння з камуністычным ладам. Усё гэта ёсць не столькі аргументам прыняцця камуністычнай дактрыны, колькі вынікам жыццёвай неабходнасці, якая выклікана стратай надзеі на змены палітычнай сітуацыі, асабліва пасля заключэння пакта аб неагрэсіі СССР з Польшчай"*[171].

Галоўная прычына кардынальных змен нацыянальнай палітыкі і распачатых Сталіным масавых крывавых рэпрэсій, у тым ліку і супраць палякаў, верагодна звязана з ваенна-палітычным становішчам у Еўропе і прыходам у 1933 г. Адольфа Гітлера да ўлады ў Германіі. Сталін разумеў, што вайны з ім не пазбегнуць. Ён таксама баяўся вайны з Японіяй. Польска-нямецкая дамова аб ненападзе (26 студзеня 1934 г.) і збліжэнне гэтых краін выклікалі непакой у Крамлі з прычыны меркаванага ўдзелу Польшчы ў экспансіі на ўсход[172]. Акрамя таго, партыя і Сталін пастаянна падкрэслівалі, што СССР існуе ў варожым

[167] Падрабязней на гэту тэму — у наступных раздзелах працы.

[168] M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 335–350; H. Stroński, *Represje stalinizmu wobec ludności polskiej na Ukrainie w latach 1929–1939*, s. 99–116.

[169] В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 65–69, 75, 77.

[170] M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 324.

[171] AAN, z. 510, sygn. 95, к. 81.

[172] AAN, z. 1424, sygn. 327/8, к. 29.

капіталістычным акружэнні. Тым больш што ў другой палове 1930-х гг. савецкае ваеннае камандаванне лічыла небяспечным для абараназдольнасці краіны тое, што па перыметры мяжы, а таксама ў буйных гарадах жывуць прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, чыя гістарычная радзіма знаходзіцца за межамі СССР. Страх Сталіна, што ў выпадку вайны яны могуць быць выкарыстаны варожым бокам у ролі пятай калоны, прывёў да прыняцця супрацьпраўнага рашэння аб "ачышчэнні" Савецкага Саюза ад "варожых элементаў". У сувязі з гэтым рэпрэсіі праводзіліся ў дачыненні да ўсіх нацыянальных меншасцей, у тым ліку палякаў, японцаў, немцаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў, фінаў, кітайцаў, карэйцаў і іншых народаў, якія пражывалі ў СССР.

Задача ўмацавання бальшавіцкай дыктатуры ўнутры краіны была выканана. Што тычыцца задач на выпадак вайны з Польшчай, то, згодна з ваеннай дактрынай, ваенныя дзеянні павінны былі праходзіць на тэрыторыі Польшчы, дзе, на думку савецкага партыйнага і вайсковага кіраўніцтва, Чырвоная армія атрымае падтрымку з боку беларускай нацыянальнай меншасці і польскіх камуністаў, а таксама дапамогу шырока разгалінаванай агентурнай сеткі, якая ахоплівала ўсе бакі палітычнай, эканамічнай і вайсковай структуры польскай дзяржавы[173].

Варта заўважыць, што ў Сталіна да таго ж было негатыўнае стаўленне да палякаў у сувязі з прайгранай вайной 1919–1921 гадоў[174]. Гэта ўзмацнялася тым, што палякі, якія пражывалі ў Беларусі, масава падтрымлівалі польскае войска[175]. Усё гэта Сталін не мог забыць.

Аналізуючы нацыянальную палітыку савецкіх і партыйных улад БССР у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці ў 1921–1939 гг., можна прыйсці да высновы, што гэта палітыка не была самастойнай, а ўсе рашэнні па яе ініцыяванні, развіцці і заканчэнні прымаліся ў Крамлі. Пабудаваная Сталіным сістэма палітычнай улады ў СССР давала беларускаму кіраўніцтву толькі ролю беспярэчнага выканаўцы гэтых рашэнняў. Канчатковая ліквідацыя ў БССР у 1937 г. польскіх школ (аднаго са шматлікіх знішчаных элементаў польскай культурна-асветнай дзейнасці), якія з'яўляліся галоўным інструментам асветы польскай нацыянальнай меншасці, стала прэлюдыяй паступовага, з часам нарастаючага пераводу школ з беларускай мовы навучання на рускую і, як вынік,— русіфікацыі і саветызацыі як беларусаў, так і палякаў рэспублікі, якія некалькі стагоддзяў да гэтага існавалі ў агульнай дзяржаве — Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

---

173 Падрабязней на гэту тэму гл.: AAN, Ambasada RP w Moskwie (dalej: z. 510), sygn. 161, k. 1–2; А. Колпакиди, Д. Прохоров, *Империя ГРУ. Очерки истории российской военной разведки*, кн. II, Москва 2001, с. 127; E. Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, s. 70–125; *Коминтерн и идея мировой революции: документы*, сост., коммент.: Я.С. Драбкин и др., Москва 1998, с. 786–788.

174 A. Nowak, *Ojczyzna ocalona. Wojna sowiecko-polska 1919–1920*, s. 137–143.

175 Е. Савчук, *Влияние советско-польской войны на отношения советской власти и польского населения Беларуси*, [у:] *Рыжскі мірны дагавор 1921 г. і лёсы народаў Усходняй Еўропы: матэрыялы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, Мінск, 16–17 сакавіка 2001 г., БДУ*, пад навуковай рэдакцыяй У.Ф. Ладысева, Мінск 2001, с. 189–190.

# 4. “Польская аперацыя” на Беларусі (1937–1938 гг.)

Крывавы тэрор у СССР у 1937–1938 гг. супраць палякаў з’яўляўся вынікам антыпольскай замежнай палітыкі, якая праводзілася вышэйшым савецкім кіраўніцтвам у дачыненні да Польшчы[176]. Гэтая палітыка будавалася на ўзаемным недаверы. СССР працягваў лічыць Польшчу адарванай часткай былой Расійскай імперыі і рабіў усё магчымае, каб уключыць яе ў свой склад. Польшча, у сваю чаргу, не магла забыць спробы Савецкай Расіі ператварыць яе ў чарговую савецкую сацыялістычную рэспубліку ў распачатай бальшавікамі польска-савецкай вайне[177].

Антыпольскія рэпрэсіі ў СССР абгрунтоўваліся неабходнасцю вядзення класавай барацьбы таксама і ў польскім асяроддзі. Пры гэтым яны з’яўляліся часткай агульных рэпрэсій, арганізаваных Іосіфам Сталіным[178]. Людзей, якія лічылі сябе прадстаўнікамі нацыянальнай меншасці, неабходна *“схапіць, кінуць на калені і знішчыць як шалёных сабак”*[179]. Гэтыя словы, як піша амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр, належаць не афіцэру СС, а генеральнаму сакратару камуністычнай партыі.

Смяротныя прысуды ў дачыненні да палякаў, якія жылі ў СССР, выконваліся яшчэ да арганізаваных масавых рэпрэсій. У Мінскім раёне БССР у 1925 г. падчас стварэння першых польскіх сельскіх саветаў ДПУ расстраляла 170 палякаў, абвінаваціўшы іх у правядзенні разведвальнай дзейнасці на карысць Польшчы[180]. Масавыя рэпрэсіі, пачатыя ў канцы 1920-х гг., працягваліся амаль да сярэдзіны 1930-х гг. За гэты перыяд у БССР рэпрэсавана 46 тысяч чалавек, з якіх больш за 13 тысяч былі расстраляны[181]. Калі мець на ўвазе, што ў першую чаргу ў БССР пад рэпрэсіі падпадалі беларусы і палякі ў роўных прапорцыях[182], то колькасць ахвяр сярод палякаў робіцца даволі значнай. Трэба ўлічваць, што палякаў расстрэльвалі і ў выніку іншых працэсаў, накіраваных выключна супраць іх. Так, напрыклад, 15 красавіка 1933 г., згодна з пастановай

176 В. Хаустов, *Из предыстории массовых репрессий против поляков. Середина 1930-х гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, Москва 1997, с. 10.

177 A. Nowak, *Ojczyzna ocalona. Wojna sowiecko-polska 1919–1920*, s. 29–35.

178 У шэрагу гэтых “аперацый”, звязаных з рэпрэсіямі супраць нацыянальных меншасцей, якія мелі свае дзяржавы за мяжой, першай стаяла нямецкая. Загад № 00439 на яе рэалізацыю быў падпісаны Мікалаем Яжовым 25 ліпеня 1937 г. і тычыўся немцаў — грамадзян Германіі, якія працавалі ў СССР па кантрактах. Рэпрэсіі супраць немцаў, грамадзян СССР, пачаліся толькі ў кастрычніку 1937 г., калі “польская аперацыя” ішла поўным ходам. 17 жніўня 1937 г. Яжоў падпісаў загад аб правядзенні румынскай, 30 лістапада 1937 г.— латвійскай аперацыі, 14 снежня 1937 г. пачаліся аперацыі супраць эстонцаў, фінаў, літоўцаў, балгараў. У студзені і лютым 1938 г. Яжоў падпісаў загады, якія тычыліся іншых нацыянальных меншасцей. Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Iwanow, *Zapomniane ludobójstwo*, s. 277–281.

179 T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, s. 111.

180 Z. J. Winnicki, *Krwawa Białoruś*, “Uważam Rze”, 2012, nr 8, s. 23.

181 У. Адамушка, *Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі*, Мінск 1994, с. 44.

182 І. Кузняцоў, *Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, Białystok 2000, nr 13, s. 45–70.

тройкі паўнамоцнага прадстаўніцтва АДПУ па БССР, была асуджана група палякаў (16 чалавек), якія супраціўляліся калектывізацыі. Гэта былі жыхары вёсак Філатава, Сідаркава, Лебедзева і Варгуцёва Талачынскага раёна (сёння Круглянскі р-н, Магілёўская вобл.), 14 з іх прысудзілі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці і высылкай іх сем'яў у паўночныя раёны СССР на тры гады[183].

Каталіцкі касцёл у СССР, які меў вялікі ўплыў на вернікаў, разглядаўся савецкай уладай як непатрэбны і нават шкодны інстытут, таму яго трэба было ліквідаваць[184]. Нягледзячы на відавочнае і паэтапнае знішчэнне Касцёла ў СССР, Ватыкан бачыў у гэтым часовую з'яву, звязаную з вынікамі рэвалюцыі[185]. Як безнадзейна і трагічна выглядала ў той час сітуацыя, сведчыць выказванне 7 кастрычніка 1935 г. Станіслава Эскі, кіраўніка консульскага аддзела польскай амбасады ў Маскве: *"У існуючай палітычнай сітуацыі эфектыўнай дапамогі Каталіцкаму касцёлу ў СССР, якая паўплывала б на яго лёс, прадставіць немагчыма"*[186]. Савецкая рэпрэсіўная палітыка прывяла да таго, што сярод 473 каталіцкіх святароў (большасць з іх былі палякамі), якія засталіся на тэрыторыі СССР, толькі 12 чалавек дажылі да пасляваеннага часу і памерлі на волі[187].

Да крывавага тэрору трэба аднесці таксама і аперацыю супраць так званых кулакоў у СССР, правядзенне якой у 1930–1931 гг. каштавала жыцця сотні тысяч сялян розных нацыянальнасцей[188]. 7 жніўня 1932 г. Савет народных камісараў і Цэнтральны камітэт партыі выдалі дырэктыву, падпісаную Сталіным[189]. Згодна з ёй, за крадзеж грамадскай (сацыялістычнай) уласнасці вінаватых прыгаворвалі да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй усёй маёмасці. На падставе гэтай дырэктывы ў 1933–1935 гг. у БССР былі асуджаны 46 400 чалавек. Амаль палову з іх складалі калгаснікі. Пры гэтым 40 % асуджаных першапачаткова прысудзілі да вышэйшай меры пакарання, але пасля палове з іх расстрэл замянілі на шматгадовыя прымусовыя работы ў працоўных лагерах закрытага тыпу[190].

---

183 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 77.

184 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Proces księży w Mińsku. Zarys sprawozdawczy*, Mińsk 1922, s. 7; R. Dzwonkowski SAC, *Kościół katolicki w ZSSR. Zarys historii*, Lublin 1997, s. 71–104; Ks. J. Dębiński, *Kościół katolicki wobec wojny polsko-bolszewickiej i traktatu ryskiego*, [у:] *Да 90-годдзя прыняцця Рыжскага дагавору 1921 г. Матэрыялы з гісторыі польска-беларускіх узаемаадносін у XX в. Зборнік навуковых прац III міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 9–10 чэрвеня 2011 г.*, Мінск 2012, с. 151–172; A. Nowak, *Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności*, s. 23–28.

185 AAN, z. 322 sygn. 2821, к. 33.

186 Тамсама, к. 79.

187 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Dzwonkowski SAC, *Kościół katolicki w ZSSR. Zarys historii*, s. 233–238; ён жа, *Losy duchowieństwa polskiego w ZSRS 1917–1939*, Lublin 1998, s. 106.

188 A. Nowak, *Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982–2012*, s. 267; ён жа, *Rozkaz 00485: cienie zapomnianych ofiar*, "Uważam Rze", 30.05–5.06.2011, s. 66.

189 *Об охране имущества государственных предприятий, колхозов и кооперации и укреплении общественной (социалистической) собственности. Постановление Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров СССР*, [у:] *История Беларуси в документах и материалах*, ред. И. Кузнецов, В. Мазец, Минск 2000, с. 469–470.

190 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, nr 22, s. 52.

Рэпрэсіі ў 1930-х гг. у БССР мелі дактрынальны характар. Яны былі вынікам ажыццяўлення марксісцка-ленінскай тэорыі класавай барацьбы. Беларусь, дзе 90 % насельніцтва складалі сяляне, рабілася аб'ектам бальшавіцкага тэрору. Пазбаўленне ўласнасці такой вялікай колькасці людзей немагчыма было рэалізаваць без гвалту і ахвяр[191]. Індустрыялізацыя, што праводзілася ў гэты час, патрабавала новай рабочай сілы, якая ў тых умовах магла з'явіцца толькі за кошт выкарыстання прымусовай працы. З гэтага вынікала неабходнасць перасялення за звычайна надуманыя злачынствы супраць савецкай улады мільёнаў людзей[192].

Акрамя выключэння з грамадскага жыцця Рыма-каталіцкага касцёла, ліквідацыі польскіх тэрытарыяльных аўтаномій і польскамоўнай адукацыі, а таксама іншых польскіх культурна-асветных інстытутаў, дэпартацыі палякаў з месцаў пастаяннага жыхарства ў аддаленыя ўсходнія раёны СССР, сталінская ўлада пачала праводзіць масавыя знішчэнні палякаў. Гэты працэс пачаўся ў 1933–1934 гг.[193] і дасягнуў свайго апагея ў 1937–1938 гг., набываючы рысы масавага генацыду[194].

Выступаючы 3 сакавіка 1937 г. на Пленуме ЦК УКП(б), "правадыр прагрэсіўнага чалавецтва" сказаў, што галоўнай мэтай усіх дзяржаў з'яўлялася накіраванне *"ў тыл адзін да аднаго сваіх шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, а іншым разам і забойцаў"*. І для гэтага ўсе замежныя дзяржавы арганізоўвалі ў іншых краінах пятую калону (зразумела, з прадстаўнікоў сваёй нацыянальнасці). А паколькі асабліва спакуслівым кавалкам для іх быў СССР, то менавіта тут павінны былі актывізавацца "ворагі народа"[195]. Без усялякіх сумненняў, гэтая прамова стала заклікам пачаць "паляванне" на шпіёнаў і дыверсантаў. Замест сапраўднага інтэрнацыяналізму, які дэклараваўся ва ўсіх партыйных праграмных дакументах, Сталін у выніку распаліў усеагульную падазронасць і нацыянальную варожасць, што перараслі ў крывавую бойню народаў СССР.

У працэсе падрыхтоўкі да масавых рэпрэсій былі перагледжаны ўсе справы палітычных эмігрантаў, якія прыехалі ў СССР. У выніку было вырашана, што не варта высылаць тых палітэмігрантаў, якія прадстаўлялі пагрозу для краіны. Іх планавалася арыштаваць. Напярэдадні Вялікага тэрору каля 35 % арыштаваных па ўсім Савецкім Саюзе абвінавачваліся ў прыналежнасці да польскіх разведвальных органаў. У БССР на той момант знаходзіўся 201 палітычны эмігрант[196].

---

191 Падрабязней на гэту тэму гл.: А. Лейзеров, *Большевики и коллективизация*, [у:] *Репрессивная политика советской власти в Беларуси*, Минск 2007, с. 135–144.

192 E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, nr 22, s. 52–53.

193 Падрабязней на гэту тэму гл.: P. Rzewuski, *Drugi polski szef czekistów,* "Uważam Rze", 2013, nr (2) 11, s. 40–43; T. Gawin, *O byciu Polakiem*, s. 92–115.

194 H. Stroński, *Represje stalinizmu wobec ludności polskiej na Ukrainie w latach 1929–1939*, s. 209.

195 Л. Селицкая, *Белорусы и советская паспортизация*, http://www.istpravda.ru/bel/research/3797/, [06.07.2017]; И. В. Сталин, *Сочинения*, т. 14, Москва 1997, с. 151–155; "Правда", 29.03.1937.

196 В. Хаустов, *Из предыстории массовых репрессий против поляков. Середина 1930-х гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, Москва 1997, с. 14.

Апарат НКУС у другой палове 1930-х гг. ператварыўся ў найважнейшы інструмент рэалізацыі ўнутранай палітыкі партыі. Мікалай Яжоў — сакратар ЦК УКП(б), старшыня камісіі партыйнага кантролю,— заняўшы ў 1935 г. пасаду куратара органаў дзяржаўнай бяспекі па лініі ЦК, а пасля і зрабіўшыся кандыдатам у члены Палітбюро, маючы шырокія магчымасці ўплываць на фарміраванне меркавання Сталіна, абудзіў у яго маніякальную падазронасць да палякаў, што працавалі ў органах НКУС[197]. У выніку іх чакалі рэпрэсіі[198]. Былыя кіраўнікі АДПУ БССР (у 1921–1931 гг.) польскай нацыянальнасці Ян Ольскі (Кулікоўскі), Станіслаў Пінталь і Станіслаў Рэдэнс былі арыштаваны як члены польскай тэрарыстычнай арганізацыі і прысуджаны да расстрэлу[199]. Канчатковае вырашэнне польскага пытання Крэмль прызначыў на 1937–1938 гг. З дапамогай высялення і фізічнай ліквідацыі аўтахтоннага польскага насельніцтва Сталін планаваў дэпаланізаваць былыя крэсы Рэчы Паспалітай[200].

“Польская аперацыя” НКУС 1937–1938 гг. пачалася згодна з загадам № 00485, які быў зацверджаны 9 жніўня 1937 г. палітбюро ЦК УКП(б). 11 жніўня ён падпісаны Яжовым, пасля чаго, разам з закрытым лістом “Аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай разведкі ў СССР” (папярэдне ўхваленым Сталіным і таксама падпісаным Яжовым), разасланы ва ўсе мясцовыя органы НКУС[201].

Калі загад № 00447, выдадзены яшчэ 30 ліпеня 1937 г., быў цалкам зразумелы не толькі кіраўнікам, але і простым супрацоўнікам НКУС, таму што быў накіраваны супраць звыклых для іх катэгорый асоб — кулакоў, крымінальнікаў, членаў былых палітычных партый, святароў, а значыць, супраць тых, хто лічыўся ў СССР “варожым элементам” і каго яны арыштоўвалі і асуджалі шмат гадоў, то загад № 00485 успрымаўся зусім інакш. У ім ужо такой яснасці не было. Нягледзячы на тое, што гаворка ішла не пра палякаў, а пра польскіх шпіёнаў, пад падазрэнне, як вынікала з загаду, трапляла ледзь не ўсё польскае насельніцтва СССР[202].

Пытанні і здзіўленне ў супрацоўнікаў НКУС выклікалі і адпаведныя фармуліроўкі. Напрыклад, *“усе перабежчыкі”* або *“ўсе былыя ваеннапалонныя”*. Не тыя, хто падазраваўся ў варожай дзейнасці, а менавіта ўсе. Каб развеяць

---

197 Тамсама, с. 15.

198 Адным з першых выкрытых польскіх “шпіёнаў”, які працаваў у органах дзяржаўнай бяспекі, стаў Макоўскі — намеснік начальніка Асобага аддзела ўпраўлення НКУС Омскай вобласці, а да гэтага рэзідэнт савецкай разведкі, што дзейнічаў у Польшчы. Ён быў прыняты на службу ў органы па загадзе Фелікса Дзяржынскага. З часам былі арыштаваныя афіцэры, якія працавалі ў Польшчы ў якасці рэзідэнтаў савецкай разведкі. З гэтага моманту ўжо існавалі ўсе ўмовы, каб канчаткова знішчыць “усюдыісную польскую пагрозу”. Гл.: Д. Боцьковски, *Поляки в СССР в 1919–1939 гг.*, [у:] *Малцинствени и етнорелигиозни проблеми в Югоизточна и Централна Европа между двете световни войни*, София 2005, с. 103.

199 Z. Sablewski (A. Poczobut), *Polacy w GPU*, “Magazyn Polski” wydawany na uchodźstwie od roku 2005, 2006, nr 7–8, s. 45. Пасля ХХ з’езда КПСС усе яны рэабілітаваныя. Пры гэтым ніхто з іх не з’яўляўся польскім шпіёнам, а прызнанні былі здабытыя праз катаванні.

200 M. Iwanow, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, s. 324.

201 Н. Петров, А. Рогинский, *“Польская операция НКВД” 1937–1938 гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, Москва 1997, с. 22.

202 Тамсама, с. 22; T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, s. 115.

сумненні ў супрацоўнікаў і спыніць кулуарныя размовы, а таксама настроіць іх на бясспрэчнае выкананне загаду, было заяўлена, што загад узгоднены са Сталіным і палітбюро ЦК УКП(б), таму неабходна "граміць" палякаў з усіх сіл[203]. Апроч таго, ва ўсе структуры НКУС СССР быў накіраваны "закрыты ліст", які дапаўняў і фантастычна абгрунтоўваў загад № 00485. Увесь савецкі дзяржаўны апарат, пісалася ў лісце, пранізаны шпіёнскай дзейнасцю польскай разведкі, якая накіравала тысячы сваіх агентаў у СССР з мэтай стварэння шматлікіх шпіёнска-дыверсійных груп. Вярбоўка ажыццяўлялася ў асяроддзі палякаў, што жылі ў саюзных рэспубліках[204].

Як выглядала сітуацыя ў СССР у лістападзе 1937 г., праз некалькі месяцаў пасля падпісання загаду № 00485, вельмі добра адлюстроўвае ліст польскага пасла ў Маскве Вацлава Гжыбоўскага, дасланы ў Міністэрства замежных спраў у Варшаве: *"Камуністычная партыя застаецца пад кіраўніцтвам ДПУ* [...]. *Крышталізацыя сталінскага рэжыму адбываецца шляхам тэрору. Гэты тэрор мае два аблічча і дзве мэты. З аднаго боку, ён мае заданне знішчыць усіх актуальных і патэнцыяльных супраціўнікаў гэтага рэжыму, з другога боку – імкнецца да паляпшэння і гальванізацыі бюракратычнага апарата, адміністрацыйнага, палітычнага і гаспадарчага, ад якога ўжо сёння выключна залежыць поспех і развіццё сталінскага аўтарытарызму"*[205].

У загадзе і далучаным да яго "закрытым лісце" выразна ставілася задача падначаленым службам НКУС на тэрыторыі ўсёй краіны: *"поўная ліквідацыя незакранутага дагэтуль шырокага дыверсійна-паўстанцкага нізоўя Польскай паўстанцкай арганізацыі (ППА) і асноўных людскіх кантынгентаў польскай разведкі ў СССР"*[206]. Да тых, каго трэба было знішчыць, можна смела аднесці ўсіх, хто меў у пашпарце польскую нацыянальнасць. Гэта было першае ў савецкай гісторыі ўсталяванне калектыўнай адказнасці на ўзроўні народа.

Народны камісарыят унутраных спраў далучыў да сацыяльна небяспечных і здольных да антысавецкіх дзеянняў і сем'і арыштаваных палякаў. 2 кастрычніка 1937 г. крымінальная адказнасць была пашырана на жонак "здраднікаў радзімы", таксама ўсіх дзяцей ва ўзросце ад 15 год, калі яны падпадалі пад катэгорыю небяспечных і шкодных для савецкай дзяржавы. Жанчын адпраўлялі ў лагер на 5–8 гадоў, падлеткаў — у лагер, калоніі або дзіцячыя дамы асобага рэжыму. У хуткім часе, з-за вялікай колькасці арыштаваных, гэтую меру датычна членаў сямей ужо немагчыма было выконваць[207].

У БССР крывавы тэрор супаў з масавай чысткай у мінскім партыйным кіраўніцтве, якую праводзіў начальнік НКУС Барыс Берман. Ён абвінаваціў мясцовых беларускіх камуністаў у распальванні беларускага нацыяналізму.

---

[203] Гэта вынікае з матэрыялаў допыту 11 снежня 1939 г. супрацоўніка УНКУС па Маскоўскай вобласці Аркадзя Постэля. Гл.: T. Sommer, *Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938. Dokumenty z Centrali*, Warszawa 2010, s. 219–229.

[204] В. Хаустов, *Из предыстории массовых репрессий против поляков. Середина 1930-х гг.*, с. 16–20.

[205] AAN, z. 510, sygn. 41, к. 13.

[206] A. Nowak, *Rozkaz 00485*, s. 68; ён жа, *Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982–2012*, s. 266–273.

[207] Н. Петров, А. Рогинский, *"Польская операция НКВД" 1937–1938 гг.*, с. 26.

У якасці галоўнага ворага была абрана неіснуючая з 1918 г. Польская вайсковая арганізацыя (Polska Organizacja Wojskowa). Людзі, якія нібыта ўваходзілі ў яе склад, асуджаліся як беларускія нацыянал-фашысты альбо польскія шпіёны[208].

Масавыя экзекуцыі ў БССР былі непасрэдна звязаны з наўмысным знішчэннем дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры. Пазней адзін з супрацоўнікаў Бермана заўважыў, што *“ён знішчыў цвет беларускай інтэлігенцыі”*[209]. У 1937–1938 гг. былі фізічна ліквідаваны амаль усе, хто меў сувязь з беларускім нацыянальным рухам, адукацыяй, навукай і культурай. Былі расстраляны тыя, каго калісьці абвінавачвалі ў прыналежнасці да Саюза вызвалення Беларусі. Іх асудзілі за ўдзел у шпіянажы на карысць Польшчы. Да таго ж расстраляныя 90 % супрацоўнікаў Беларускай акадэміі навук[210], большасць выкладчыкаў Мінскага дзяржаўнага ўніверсітэта, артыстаў тэатра оперы і балета, дзяржаўнай філармоніі. Загінулі амаль усе арганізатары палітычнай, навуковай і культурнай дзейнасці 1920-х гг. З 238 беларускіх літаратараў сталінскую эпоху пераж ылі толькі 20 чалавек. З бібліятэк забралі большасць беларускамоўных літаратурных твораў[211]. Трэба заўважыць, што Берман заявіў сваім падначаленым пра непасрэдную залежнасць паспяховасці іх далейшай кар’еры ад выканання загада № 00485 [212].

Першапачаткова “польскую аперацыю” планавалася правесці за тры месяцы (з 20 жніўня да 20 лістапада 1937 г.). Але гэты тэрмін пастаянна працягвалі разам з тэрмінамі рэалізацыі іншых аперацый па нацыянальных кантынгентах — спачатку да 10 снежня 1937 г., пасля да 1 студзеня, затым да 15 красавіка і, нарэшце, да 1 жніўня 1938 г. Пры гэтым Беларусь была выключэннем, ёй дазволілі адтэрмінаваць правядзенне гэтых аперацый да 1 верасня 1938 года[213].

Усяго за два гады Вялікага тэрору ў СССР усімі органамі НКУС было арыштавана больш за 1 мільён 600 тысяч чалавек[214]. Сярод іх палякаў налічвалася 118–123 тысячы. У тым ліку па нацыянальных аперацыях арыштаваны 96–99 тысяч (большасць — у выніку “польскай аперацыі”), астатнія (прыкладна пароўну) — па загадзе № 00447, а таксама па ўсіх астатніх накірунках рэпрэсій[215]. Сярод расстраляных у выніку “польскай аперацыі” не ўсе былі этнічнымі палякамі.

---

208 T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, s. 120.

209 В. Селеменев, В. Шимолин, *Партия и НКВД в 1938 году*, [у:] *Репрессивная политика советской власти в Беларуси*, Минск 2007, с. 75.

210 Тамаш Домбаль — віцэ-прэзідэнт Беларускай акадэміі навук (1932–1934), дырэктар Інстытута эканомікі АН Беларусі, член ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР, адзін з польскіх камуністаў, які быў расстраляны 27 жніўня 1937 г. у Маскве па справе неіснуючай Польскай вайсковай арганізацыі. Ён не вытрымаў допытаў і катаванняў, абгаварыў сябе і сваіх калег, якіх таксама арыштавалі і расстралялі. Рэабілітаваны ў 1955 г. У СССР трапіў у 1923 г. падчас абмену зняволенымі паміж Польшчай і СССР. З 1919 па 1921 гг. быў дэпутатам польскага Сейма. За антыпольскую дзейнасць пазбаўлены дэпутацкай недатыкальнасці ў 1921 г. і асуджаны на 10 гадоў турмы.

211 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 165.

212 W. Michniuk, *Z historii represji politycznych przeciwko Polakom na Białorusi w latach trzydziestych*, [у:] *Polska — Białoruś 1918–1945: Zbiór studiów i materiałów*, red. W. Balcerak, Warszawa 1993, s. 115.

213 Н. Петров, А. Рогинский, *“Польская операция НКВД” 1937–1938 гг.*, с. 30.

214 Тамсама, с. 38.

215 Тамсама, с. 38.

Цімаці Снайдэр ацэньвае іх колькасць у 85 тысяч чалавек[216], а Леанід Навумаў піша пра 95 тысяч палякаў[217]. Да гэтых даных трэба падыходзіць з вялікай доляй асцярожнасці. Колькасць арыштаваных і расстраляных прыводзіцца на падставе працы Мікіты Пятрова і Арсенія Рагінскага, у якой гэтыя лічбы заніжаны, што прызнаюць і самі аўтары[218].

У колькаснай ацэнцы ахвяр "польскай аперацыі" ў СССР (БССР) паміж расійскімі, беларускімі, польскімі і амерыканскімі даследчыкамі няма адзінага меркавання. Пры гэтым у беларускай гістарыяграфіі розныя пазіцыі па праблеме займаюць "афіцыйныя" гісторыкі, якія працуюць у дзяржаўных навуковых і адукацыйных установах, і даследчыкі, што займаюцца навуковай дзейнасцю па-за межамі дзяржаўных інстытутаў.

Што датычыцца польскай гістарыяграфіі, то тут таксама ёсць разыходжанні ў лічбах ахвяр рэпрэсій. Вядомыя даследчыкі Анджэй Новак і Мікалай Іваноў называюць колькасць забітых палякаў у межах 200 тысяч[219]. Тамаш Зомер на падставе дакументаў расійскіх архіваў прыйшоў да высновы, што савецкімі ўладамі ў 1937–1938 гг. былі арыштаваны не 144 тысячы, але ад 240 да 280 тысяч палякаў. Пры гэтым памерлі да 250 тысяч чалавек (пэўная колькасць гэтых людзей, якую цяжка падлічыць, не была арыштавана, а смяротнасць яе звязана з арыштам дзяцей ці бацькоў)[220].

На выключна вялікі маштаб савецкіх рэпрэсій супраць палякаў упершыню звярнуў увагу прафесар Гарвардскага ўніверсітэта Марцін Тэры (Martin Terry)[221]. На падставе імяннога спіса расстраляных у 1937–1938 гг. у Ленінградзе ахвяр, ён падлічыў, што палякаў забівалі ў 31 раз часцей, чым прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, значна большых па сваім колькасным складзе. Цімаці Снайдэр падобныя падлікі зрабіў па ўсім Савецкім Саюзе часоў Вялікага тэрору. Палякі ў статыстыцы амерыканскага даследчыка занялі месца "выбранага народа". Пазіцыя Сталіна паўплывала на тое, што іх у 40 разоў часцей расстрэльвалі, чым прадстаўнікоў іншых народаў і нацыянальнасцей СССР. Пры гэтым палякі складалі толькі 0,4 % ад агульнай колькасці насельніцтва Савецкага Саюза, але ў групе з 681 тысячы расстраляных у 1937–1938 гг. іх налічвалася ўжо 13–14 % ад усіх ахвяр. Разам з палякамі ў нацыянальных чыстках забіта 247 157 чалавек[222]. Гэтыя рэпрэсіі былі накіраваны супраць нацыянальных груп, якія ўсе разам у СССР складалі 1,6 % насельніцтва, але ахвярамі тэрору іх стала не менш за 36 %[223].

---

216 T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, s. 126.

217 Л. Наумов, *Сталин и НКВД*, Москва 2007, с. 299.

218 Н. Петров, А. Рогинский, *"Польская операция НКВД" 1937–1938 гг.*, с. 38.

219 A. Nowak, *Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności*, s. 27; M. Iwanow, *Zapomniane ludobójstwo*, s. 393.

220 T. Sommer, *Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938*, s. 22–23.

221 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Terry, *The Affirmative Action Empire. Nations and Nationalism in the Soviet Union, 1923–1939*, Ithaca 2001.

222 T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, s. 126.

223 Тамсама, с. 126.

Расійскія даследчыкі Мікіта Пятроў і Арсеній Рагінскі падлічылі, што з 19 931 асуджанага падчас “польскай аперацыі” ў БССР 17 772 чалавекі атрымалі вышэйшую меру пакарання[224]. Нацыянальны склад расстраляных не называецца. Віталь Жук з Акадэміі навук Беларусі, адказваючы на пытанне, колькі рэпрэсавана палякаў у БССР у 1937–1938 гг., прыводзіць наступныя лічбы: арыштавана 21 407 чалавек, з якіх 9 196 з’яўляліся палякамі, што складае 42,9 % ад агульнай колькасці. Даследчык робіць выснову, што памылкова было б атаясамліваць паняцці “паляк” і “польская аперацыя”[225]. Між іншым, калі мець на ўвазе, што падчас яе правядзення было расстраляна каля 9 тысяч палякаў[226], то гэта складала 7,5 % ад усяго польскага насельніцтва БССР. Толькі ў выніку адной аперацыі НКУС быў забіты прыблізна кожны 13-ты паляк, які жыў у савецкай Беларусі.

Большасць з 21 407 чалавек, арыштаваных у выніку “польскай аперацыі”, складалі беларусы[227]. Іх, як польскіх шпіёнаў, дыверсантаў і ўдзельнікаў паўстанцкіх арганізацый, было расстраляна 10 120 чалавек (0,23 % ад агульнай колькасці беларусаў БССР). Гэта значыць, што кожны 434 беларус быў забіты. Такім чынам, зыходзячы з прыведзеных вышэй фактаў, усё ж такі выкарыстанне паняцця “польская аперацыя” з’яўляецца цалкам абгрунтаваным. Падчас яе палякаў у БССР расстрэльвалі ў 33 разы часцей, чым беларусаў.

Апошнія даследаванні незалежнага беларускага гісторыка Ігара Кузняцова з Мінска сведчаць, што ў БССР падчас Вялікага тэрору расстраляна каля 50 тысяч грамадзян СССР, у дакументах якіх была запісана польская нацыянальнасць[228]. Гэта заява навукоўца з’яўляецца надзвычай каштоўнай у сувязі з тым, што 12 год таму ён казаў, што на тэрыторыі БССР у перыяд з 1935 па 1940 гг. было рэпрэсавана 480 тысяч чалавек, з якіх больш за 50 тысяч расстраляна, а колькасць палякаў у гэтай статыстыцы не прыводзілася[229].

Калі ўзгадаць перапіс насельніцтва 1939 г., які паказаў, што колькасць палякаў у рэспубліцы зменшылася на 61 тысячу чалавек[230] (палякаў расстрэльвалі не толькі падчас “польскай аперацыі”, а таксама ў выніку рэалізацыі іншых

---

[224] Н. Петров, А. Рогинский, *“Польская операция НКВД” 1937–1938 гг.*, с. 41.

[225] В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 102.

[226] Па даных, якія прыводзіць Ігар Кузняцоў, было расстраляна 9 196 чалавек, гл.: І. Кузняцоў, *Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, Białystok 2000, nr 13, s. 54.

[227] Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 13231, арк. 19–24: Об итогах операции по польской, немецкой и латвийской агентуре в БССР, проводившейся в период август 1937 г. — сентябрь 1938 г. на основе приказов НКВД СССР; E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, Białystok 2004, nr 22, s. 42–57.

[228] Ігар Кузняцоў лічыць, што на тэрыторыі Беларусі ў 1937–1938-я гады было расстраляна не менш за 50 000 палякаў. Гл. зноску 34.

[229] Падрабязней на тэму палітычных рэпрэсій у БССР у канцы 1920-х і 1930-я гг. гл.: І. Кузняцоў, *Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, Białystok 2000, nr 13, s. 45–70.

[230] E. Mironowicz, *Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939)*, “Białoruskie Zeszyty Historyczne”, Białystok 2004, nr 22, s. 52.

нацыянальных аперацый, у тым ліку і па загадзе № 00447), то лічба 50 тысяч ахвяр палякаў, паводле Ігара Кузняцова, з'яўляецца найбольш верагоднай[231].

Тлумачэнне прычыны змяншэння колькасці польскага насельніцтва ў БССР бояззю людзей падчас перапісу 1939 г. запісвацца палякамі[232] з'яўляецца не зусім пераканаўчым[233].

Прычынай вялікай розніцы ў ацэнцы ахвяр сярод польскага насельніцтва БССР у працах польскіх, расійскіх і беларускіх даследчыкаў з'яўляецца адсутнасць магчымасці доступу да ўсё яшчэ не рассакрэчаных дакументаў у архівах Расіі і Беларусі, якія тычацца перыяду Вялікага тэрору. Рассакрэчванне пэўных частак матэрыялаў для публічнага карыстання ўладамі і сілавымі структурамі гэтых краін дазваляе ім маніпуляваць даследчыкамі і накіроўваць іх працу ў патрэбным напрамку, хаваючы пры гэтым поўную карціну вынікаў рэпрэсій 1937–1938 гг.[234]

Што было прычынай такога жорсткага стаўлення да палякаў з боку сталінскай улады? Напэўна, савецкае кіраўніцтва ўспрымала Польшчу як плацдарм для магчымай агрэсіі супраць СССР[235]. Адмысловае месца "польскай аперацыі" ў агульнай сістэме рэпрэсій 1937–1938 гг. звязана з прадчуваннем Сталіным хуткага пачатку вайны, а таксама з яго страхам перад пятай калонай[236]. Палякі (грамадзяне СССР), як прадстаўнікі "варожай польскай дзяржавы", ідэальна ўпісваліся ў прыдуманую Сталіным тэорыю змовы. Імкненне пазбавіць Польшчу магчымасці мець апору сярод насельніцтва Савецкага Саюза ў выпадку вайны стала нагодай пачатку масавых "чыстак". Збольшага яны

231 У той час, калі вядомыя польскія даследчыкі Анджэй Новак і Мікалай Іваноў колькасць расстраляных палякаў ва ўсім СССР ацэньваюць у 200 тысяч, вядомы беларускі палітык і даследчык Зянон Пазьняк (першы раскрыў сталінскія масавыя пахаванні расстраляных беларусаў у Курапатах недалёка ад Мінска) прыйшоў да высновы, што падчас сталінскіх рэпрэсій у 1937–1940 гг. толькі ў БССР было расстраляна каля 250 тысяч чалавек. Гл.: O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 278–279. Улічваючы тое, што палякі падчас масавых рэпрэсій у БССР часцей караліся расстрэлам, чым прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, то выснова аб тым, што ў БССР у перыяд Вялікага тэрору было расстраляна каля 50 тысяч палякаў, з'яўляецца не толькі верагоднай, але і дастаткова абгрунтаванай.

232 В. Жук, *Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)*, с. 102.

233 2 красавіка 1938 г. НКУС СССР выдаў сакрэтны цыркуляр № 65, які рэгламентаваў новы парадак вызначэння нацыянальнасці ў планаванай у 1938 г. пашпартызацыі ў СССР. Калі раней можна было запісаць сабе любую нацыянальнасць, то згодна з цыркулярам чалавек павінен быў пацвердзіць сваю нацыянальную прыналежнасць праз прад'яўленне пашпартоў бацькоў або іншых дакументаў. У тлумачальным указанні № 1486178 ад 29 красавіка 1938 г., якое без абнародавання было накіравана ва ўсе аддзелы актаў грамадзянскага стану НКУС СССР, гаварылася, што калі ў таго, хто рэгіструецца, бацькі былі палякі, то, незалежна ад іх месца нараджэння, працягласці пражывання ў СССР або змены падданства, нельга запісваць яго рускім, беларусам або прадстаўніком іншай нацыянальнасці. Гл.: Н. Петров, А. Рогинский, *"Польская операция НКВД" 1937–1938 гг.*, с. 36; Л. Селицкая, *Белорусы и советская паспортизация*, http://www.istpravda.ru/research/3797/, [06.07.2017].

234 Пра спыненне ўсіх масавых аперацый было абвешчана праз прыняцце сумеснай пастановы ЦК УКП(б) і СНК СССР ад 17 лістапада 1938 г., а загад НКУС СССР № 00762 ад 26 лістапада 1938 г., падпісаны ўжо новым наркамам Лаўрэнціем Берыяй, адмяніў усе ранейшыя загады НКУС СССР 1937–1938 гг. і дырэктывы па іх абавязковым выкананні. Гл.: *Лубянка. Сталин и Главное управление госбезопасности НКВД. Документы. 1937–1938.* Составители В. Н. Хаустов и др., Москва 2004, с. 612–617.

235 В. Хаустов, *Из предыстории массовых репрессий против поляков*, с. 10.

236 Тамсама, с. 10; Е. Жлоба, *"Польская операция" НКВД 1937–1938 гг.*, [у:] *Поляки в России: история и современность*, Краснодар 2007, с. 98.

былі звязаны з неадкладным арыштам як палякаў, якія працавалі ва ўстановах, на прадпрыемствах і ў калгасах, так і вайскоўцаў[237], а таксама вольнанаёмных[238].

Польскі навуковец Войцех Матэрскі лічыць, што яшчэ да пачатку правядзення "польскай аперацыі", верагодна ў 1935–1936 гг., цэнтральнае кіраўніцтва ў Маскве прыняло рашэнне аб змене нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да палякаў у БССР і УССР. Першапачаткова савецкая ўлада спадзявалася, што атрымаецца ў асяроддзі палякаў, якія жылі ў СССР, падрыхтаваць палітычныя і вайсковыя кадры для польскай Чырвонай арміі, што пойдзе ў авангардзе будучай рэвалюцыі ў Польшчы. Вынікі калектывізацыі паказалі, аднак, што савецкае выхаванне палякаў не прынесла чаканага эфекту. Яны, у асноўным схільныя да нацыянальнай, культурнай і рэлігійнай адасобленасці, супраціўляліся сацыялістычнаму будаўніцтву, а значыць, замест кадравага рэзерву для рэвалюцыі на польскіх землях, з'яўляліся патэнцыяльнай *"пятай калонай вялікапанскай, буржуазнаабшарніцкай Польшчы"*[239].

Не менш важнай прычынай ліквідацыі добра наладжанай і з пэўнымі практычнымі вынікамі нацыянальнай палітыкі, датычнай палякаў і іншых нацыянальных меншасцей, што мелі свае дзяржавы за мяжой, была абсалютная адсутнасць адпаведнай рэакцыі з боку дыпламатычных прадстаўніцтваў Германіі, Польшчы, а таксама дзяржаў, якія валодалі інфармацыяй на гэту тэму. Пры гэтым рэха выстралаў у дзясяткі тысяч палякаў у СССР разыходзілася па польскіх консульствах і было чутнае ў амбасадзе ў Маскве. Адсутнасць зацікаўленасці польскіх улад у актуалізацыі гэтай інфармацыі на міжнароднай арэне была звязана з імкненнем Варшавы не парушаць падпісаную ў 1932 г. дамову

---

237 Самым вядомым палякам афіцэрам Чырвонай арміі, які быў арыштаваны ў жніўні 1937 г., з'яўляўся ўраджэнец Варшавы, камандзір дывізіі Канстанцін Ракасоўскі. З 17 жніўня 1937 г. да 22 сакавіка 1940 г. ён знаходзіўся ва ўнутранай турме ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі пры НКУС на Шпалернай вуліцы ў Ленінградзе. Нягледзячы на катаванні, не прызнаў сваю віну ў нібыта працы на карысць польскай і японскай разведак. 22 сакавіка 1940 г. па хадайніцтве да Сталіна маршала Сямёна Цімашэнкі быў вызвалены і рэабілітаваны. Пасля атрымання звання генерал-маёра камандаваў корпусам у Кіеўскай ваеннай акрузе. Прымаў удзел у Другой сусветнай вайне. Быў маршалам Савецкага Саюза і Польскай Народнай Рэспублікі.

Падрабязней на гэту тэму гл.: N. Iwanow, *Zapomniane ludobójstwo,* s. 364–367.

Другім польскім вайскоўцам, які цудам пазбег расстрэлу, быў Франц Перхаровіч. Ён нарадзіўся ў 1894 г. у Барысаўскім павеце Мінскай губерні. У 1937 г. быў звольнены з арміі (у разгар "польскай аперацыі") і зноў вярнуўся да вайсковай службы ў 1940 г. Падчас вайны (1941–1945 гг.) даслужыўся да звання генерал-лейтэнанта. З лістапада 1944 г. і да канца вайны ён быў камандуючым 47 арміяй Першага Беларускага фронту. Перад гэтым служыў на пасадах камандзіра палка, дывізіі, корпуса. Герой Савецкага Саюза (1945 г.). У адрозненне ад К. Ракасоўскага, які мог, але не пайшоў добраахвотнікам на вайну з Польшчай у 1919–1921 гг., Франц Перхаровіч прыняў у ёй удзел на баку бальшавікоў. Магчыма, гэта і выратавала яго ад расстрэлу. Тым не менш верагодна Перхаровіч не карыстаўся поўным даверам з боку савецкага кіраўніцтва. Пацвярджэннем гэтага меркавання можа быць факт з яго вайсковай кар'еры. Нягледзячы на баявы вопыт, званне генерала і польскае паходжанне, яму не даверылі камандаванне дывізіяй або Арміяй Войска Польскага, якія былі створаны ў СССР падчас вайны. Таксама ў пасляваенны перыяд генерал Перхаровіч не быў накіраваны на службу ў Войска Польскае. Падрабязней на гэту тэму гл.: http://encyclopedia.mil.ru/encyclopedia/heroes/USSR/more.htm?id=11904719 %40morfHeroes, [21.07.2017].

238 T. Sommer, *Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938*, s. 179.

239 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 485; Н. Петров, А. Рогинский, *"Польская операция НКВД" 1937–1938 гг.*, с. 32.

аб неагрэсіі з Савецкім Саюзам[240]. Не пратэставалі ні Берлін, ні Варшава, ні Ватыкан, ні Прыбалтыйскія краіны. Тым не менш верагодна, што агульнымі намаганнямі гэтых дзяржаў было магчыма калі не прыпыніць жахлівае злачынства, арганізаванае Сталіным, то абмежаваць яго маштабы.

Часткова праблему супрацьпраўных, нічым не абмежаваных масавых забойстваў палякаў раскрывае змест ліста, які быў накіраваны ў 1933 г. Генеральным консульствам Польшчы ў Мінску ў Міністэрства замежных спраў у Варшаве: *"Амаль усе наведвальнікі-палякі, якія прыходзяць у консульства, за невялікім выключэннем, маюць рашучы прапольскі настрой і з'яўляюцца простымі едакамі хлеба, як толькі гэтага хлеба не хапае на месцы, яны імкнуцца выехаць у Польшчу. Канешне, з польскага, дзяржаўнага пункту гледжання, прыезд гэтага (sic!) элемента, асабліва ва ўмовах існуючага ў нас крызісу не з'яўляецца мэтазгодным. Маючы гэта на ўвазе, мінскае консульства ў дачыненні да іх заяў на выезд у Польшчу займае ў асноўным негатыўную пазіцыю, перакладваючы ўсю віну за гэта на савецкія ўлады"*[241].

Варта заўважыць, што ў публічным дыскурсе ў Польшчы існавала памылковае перакананне, што ў СССР падчас рэалізацыі "польскай аперацыі" ліквідавалі выключна савецкіх супрацоўнікаў польскай нацыянальнасці, якія самі да гэтага прымалі ўдзел у тэроры[242], а таксама камуністаў з ліку грамадзян Польшчы, што збеглі ў СССР. А па іх, з інтарэсаў дзяржаўнай бяспекі, патрэбы ў праліванні слёз не было.

Кошт, які заплацілі палякі ў БССР за прыдуманыя Сталіным і НКУС нічым не абгрунтаваныя абвінавачванні, а таксама за сваё жаданне быць палякамі, за сваю прыхільнасць да польскай мовы і культуры, да каталіцкай веры, да індывідуальнай формы вядзення сельскай гаспадаркі на вёсцы, быў даволі вялікі — каля 50 тысяч расстраляных, больш за 12,5 тысячы высланых у паўночныя і ўсходнія раёны СССР[243]. Рэпрэсіі зламалі

240 A. Nowak, *Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982–2012*, s. 270.

241 AAN, z. 510, sygn. 95, k. 84–85.

242 Масавыя забойствы палякаў у СССР у 1937–1938 гг. "адазваліся" ў Польшчы падчас гарбачоўскай перабудовы. Менавіта ў гэты перыяд на імя першага сакратара ЦК ПАРП Войцеха Ярузельскага прыйшло шмат лістоў па гэтым пытанні. У адным з іх пра трагічны лёс двух сваіх родных братоў, расстраляных у 1937 г. у СССР, напісаў 8 лютага 1988 г. Мечыслаў Едынак з Кендзежына-Козьле: *"Не магу знайсці адказ на гэта варварскае злачынства, злачынства супраць людзей, якія змагаліся, не шкадуючы свайго жыцця, за савецкі лад. Верагодна, нацыянальнасць для іх была варожай"*. Мечыслаў (1908 года нараджэння) адзін з трох братоў застаўся жывы, у 1944 г. ён здолеў выехаць у Польшчу (гл.: AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-944, k.b.n.).

243 Відавочна, прыведзеныя вышэй даныя пра расстраляных у "польскай аперацыі" палякаў з'яўляюцца цалкам дакладнымі. Расстраляных і сасланых было настолькі шмат, што нават зараз гэта выклікае ў беларускіх органах КДБ пэўны неспакой. Нельга выключыць, што КДБ робіць пэўныя захады для таго, каб паводле дакументаў, якія захоўваюцца ў яго архівах, колькасць расстраляных палякаў была значна меншая. Прыкладам наяўнасці такіх дзеянняў можа быць публічная заява Маі Кляшторнай, дачкі расстралянага 30 кастрычніка 1937 г. беларускага паэта Тодара Кляшторнага: *"Калі пры канцы 1980-х мне паказвалі справу маці, там быў адзін аркуш, а цяпер у справе шмат розных аркушаў, а гэтага няма. А я добра памятаю яго. Там пра маму пісалі ў разьдзеле «асобыя прыкметы» полька, а гэта на той час была расстрэльная прыкмета. У мяне сьлёзы тады градам ліліся. А ў той справе, што мне сёлета перадалі,* (2017 – *Т.Г.*) *ужо беларуска напісана"*. Гл.: https://www.svaboda.org/a/28778135.html, [30.10.2017].

станавы хрыбет польскасці ў БССР, дзе цалкам былі знішчаны ўсе формы дашкольнай, школьнай, сярэднетэхнічнай і вышэйшай адукацыі на польскай мове. Палітычнае, грамадскае і культурна-асветнае жыццё перастала існаваць, а палякі баяліся казаць пра сваю нацыянальную самаідэнтыфікацыю. Партыйныя і савецкія ўлады ўзялі курс на поўную і канчатковую асіміляцыю польскай нацыянальнай меншасці. Гэтая палітыка праяўлялася ў прымусовай русіфікацыі і саветызацыі, інтэграцыі ў савецкае грамадства, у якім звярталі ўвагу не на нацыянальнасць, а на класавае паходжанне[244].

Цені забытых ахвяр, як піша Анджэй Новак, нагадваюць нам пра трагедыю палякаў у СССР у 1937–1938 гг,[245] дазваляюць дакладна і ясна ўсвядоміць, які лёс быў наканаваны Польшчы, у тым ліку Заходняй Беларусі, калі б бальшавікі ў 1920 г. не былі разбіты пад Варшавай.

---

[244] Пра тое, якія нечалавечыя цяжкасці, выпрабаванні і здзекі давялося перажыць палякам ва Усходняй Беларусі падчас рэпрэсіўнай кампаніі супраць іх, сведчыць расповед Маргарыты Прылепа з Магілёва: […] *У нас забралі ўсё, акрамя веры нашай каталіцкай, якая ў душы. Дзеду майму не дазволілі нават нацыянальнасць у пашпарце ўказаць (сказалі, што палякі ў Польшчы жывуць), два разы арыштоўвалі, забралі ўсю гаспадарку, брата яго ў 1937 г. арыштавалі, з таго часу яго ніхто не бачыў. Яшчэ адна яго пляменніца была настаўніцай польскай мовы, яна вымушана была выкладаць нямецкую, бо польскія школы зачынілі. У акрузе не засталося ніводнага касцёла, але дзед маліўся перад абразом Божай Маці дома. Катком прайшліся па нашай сям'і бальшавікі, спрабуючы выгнаць польскасць. І толькі праз шмат гадоў пасля смерці дзеда я змагла вывучаць польскую мову ў доме польскім* (у Магілёве — *Т. Г.*), *атрымаць Карту паляка не па паходжанні (у Магілёўскай вобласці ўсё знішчана), а па прычыне актыўнага ўдзелу ў жыцці дома польскага, дачка вучылася ў Польшчы і там выйшла замуж. І зараз у мяне будуць сапраўдныя польскія ўнукі. Я спадзяюся, што мой дзед глядзіць з неба і цешыцца з гэтага".* Гл.: https://www.facebook.com/search/top/?q=andrzej%20poczobut), [19.07.2017].

[245] A. Nowak, *Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności*, s. 28.

# 1. Пакт Рыбентропа-Молатава. Падзел Польшчы

У канцы 1930-х гг. Польшча апынулася ў цяжкім геапалітычным становішчы. Размешчаная ў самым нязручным месцы Еўропы — паміж гітлераўскай Германіяй і сталінскім Савецкім Саюзам,— яна вымушана была існаваць ва ўмовах прадчування вайны. Сталіна і Гітлера пры гэтым аб'ядноўвала агульная мэта — вяртанне раней страчаных на карысць Польшчы тэрыторый.

Аднак сапраўдныя падставы для трывогі знаходзіліся за межамі Польшчы. Пасля акупацыі Аўстрыі ў 1937 г. і Чэхаславакіі ў 1938 г. з вялікай доляй верагоднасці можна было меркаваць, што цяпер варожасць Германіі будзе накіравана на Польшчу. Польскі ўрад з усёй рашучасцю адхіліў як прапановы Гітлера аб сумесным нападзе на СССР[1], так і патрабаванні заходніх саюзнікаў упусціць савецкія войскі на тэрыторыю Польшчы, каб утаймаваць Гітлера[2].

17 красавіка 1939 г. савецкі пасол у Берліне Аляксей Меракалаў на вялікае здзіўленне немцаў заявіў ім, што савецка-нямецкія адносіны могуць быць нармальнымі, а з нармальных ператварыцца ў яшчэ лепшыя[3]. Імкнучыся паўплываць на Берлін у кірунку паляпшэння двухбаковых адносін, Крэмль прыняў рашэнне, якое было замацавана Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 3 мая 1939 г. Згодна з ім, Вячаслаў Молатаў быў прызначаны народным камісарам замежных спраў замест Максіма Літвінава, з захаваннем за першым пасады старшыні Савета Народных Камісараў. Нямецкі паверaны па справах у Маскве напісаў 4 мая 1939 г. у Міністэрства замежных спраў Германіі: *"Молатаў (не габрэй) лічыцца "найбольш блізкім сябрам і найбліжэйшым паплечнікам" Сталіна. Яго прызначэнне, безумоўна, гарантуе, што знешняя палітыка будзе праводзіцца ў строгай адпаведнасці з ідэямі Сталіна"*[4].

17 мая 1939 г. савецкае пасольства ў Берліне на "выпадковае" пытанне немцаў пра англа-савецкія перамовы, супакойваючы, адказала, што ў сучасных умовах гэтыя перамовы не прынясуць тых вынікаў, на якія разлічвае англійскі бок. Праз тры дні ў Маскве Молатаў падчас размовы з нямецкім паслом Фрыдрыхам Шуленбургам заявіў, што гандлёвыя нямецка-савецкія перамовы, якія пачыналі наладжвацца, патрабавалі таксама і палітычнага фундамента[5].

10 мая 1939 г. у Варшаве адбылася сустрэча намесніка народнага камісара замежных спраў Уладзіміра Пацёмкіна з міністрам замежных спраў Польшчы Юзафам Бекам. Апошні ўпэўніў савецкага дзяржаўнага дзеяча ў праўдзенні міралюбівай польскай палітыкі і ў адсутнасці антысавецкай

[1] Пра такія прапановы казаў прэм'ер лонданскага ўрада Тамаш Арцішэўскі ў сваёй прамове да палякаў з Лондана 19 студзеня 1945 г. Гл.: AAN, z. 1424, sygn. 327/8, к. 29.

[2] N. Davies, *Serce Europy. Polska: przeszłość we współczesności*, Kraków 2014, s. 152.

[3] W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski. Okres 1939–1945*, wyd. IV, Londyn 1986, s. 20.

[4] Ю. Фельштинский, *Оглашению подлежит: СССР — Германия 1939–1941: Документы и материалы*, Москва 1991, с. 4; https://profilib.com/chtenie/60041/yuriy-felshtinskiy-oglasheniyu-podlezhit-sssr-germaniya-1939–1941-dokumenty-i-materialy-4.php, [11.09.2017].

[5] W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski. Okres 1939–1945*, s. 20.

дамовы паміж Польшчай і Германіяй[6]. Пацёмкін, у сваю чаргу, падкрэсліў, што ўлады СССР гатовы дапамагчы Польшчы, калі гэта будзе патрэбна і са згоды польскага ўрада[7].

7 і 11 мая 1939 г. у Маскве адбыліся дзве сустрэчы польскага пасла Вацлава Гжыбоўскага з наркамам замежных спраў Вячаславам Молатавым. 11 мая (ужо пасля сустрэчы Бека з Пацёмкіным) Гжыбоўскі адназначна адмовіўся ад ваеннага супрацоўніцтва, заявіўшы, што Польшча не прымае ніякіх савецкіх гарантый, а таксама не мае намеру падпісваць новую двухбаковую палітычную дамову. Пры гэтым ён станоўча выказаўся пра праект англа-французска-савецкага супрацоўніцтва і не выключыў магчымага супрацоўніцтва з СССР у будучым[8].

Міністр Бек яшчэ ў красавіку 1939 г., размаўляючы з англічанамі ў Лондане, не хаваў, што Польшча не давярае савецкай Расіі і яе палітычным мэтам. Расійскі імперыялізм, па меркаванні Бека, можа змяніць колер, але пры гэтым ніколі не адмовіцца ад сваіх захопніцкіх імкненняў. Апроч таго, польскі палітык заявіў, што не верыць у шчырасць намераў Масквы наладжваць больш цесны саюз з Захадам у справе барацьбы з Германіяй[9].

2 жніўня 1939 г. Іаахім Рыбентроп заявіў прадстаўніку Масквы ў Берліне, што каля Балтыйскага мора ёсць дастаткова месца, таму інтарэсы савецкай Расіі не павінны супярэчыць інтарэсам Германіі. Пры гэтым можна сумесна дамовіцца пра будучы лёс Польшчы. Праз тыдзень Рыбентроп выставіў пакуль яшчэ завуаляваную прапанову чарговага падзелу Польшчы. У адказ на гэта Молатаў 11 жніўня запрасіў яго сустрэцца і абмеркаваць гэтае пытанне ў Маскве. Акурат у гэты перыяд праявіліся двудушнасць і цынізм савецкай знешняй палітыкі адносна Польшчы. У той час, калі наркам абароны СССР Клімент Варашылаў вядзе перамовы з Захадам на тэму сумесных дзеянняў у выпадку нападу Германіі на Польшчу, Молатаў пачынае гандаль з Германіяй па пытанні падзелу Польшчы[10].

12 жніўня 1939 г. савецкі бок атрымаў інфармацыю ад немцаў, што ў выпадку неўмяшання СССР у канфлікт з Польшчай Гітлер гатовы пайсці на тэрытарыяльныя ўступкі, а менавіта аддаць Савецкаму Саюзу Прыбалтыйскія рэспублікі, Бесарабію і ўсходнюю частку Польшчы[11]. З 15 па 22 жніўня 1939 г. праходзілі інтэнсіўныя перамовы Молатава з Шуленбургам. Гітлер быў гатовы напасці на Польшчу ўжо даўно запушчанай у рух ваеннай машынай. Для рэалізацыі гэтай задумы не хапала толькі аднаго — стварэння саюза з СССР. 21 жніўня 1939 г. нарэшце прыйшла доўгачаканая навіна: Сталін асабістай

---

6 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 534.

7 Тамсама, с. 534.

8 *СССР в борьбе за мир накануне второй мировой войны (сентябрь 1938 г. — август 1939 г.). Документы и материалы,* ред. А. А. Громыко и др., Москва 1971, док. 289, с. 393–394.

9 W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski. Okres 1939–1945*, s. 23.

10 Тамсама, с. 23–24.

11 *Документы внешней политики*, т. XXII: *1939 год*, ред. В. Г. Комплектов и др., Москва 1992, кн. 1, док. 462, с. 597–598.

тэлеграмай паведаміў Гітлеру пра гатоўнасць падпісаць пакт і чакае ў сувязі з гэтым міністра Рыбентропа 23 жніўня ў Маскве[12]. Атрымаўшы тэлеграму, фюрэр крычаў: *"Цяпер у мяне ў кішэні ўвесь свет!"* Для вялікага вандала гэта быў вялікі дзень[13].

Лёс Польшчы быў вырашаны нягледзячы на тое, што на адноўленых 22 жніўня 1939 г. трохбаковых англа-французска-савецкіх перамовах прадстаўнік французскай дэлегацыі ад імя прэм'ер-міністра Францыі Эдуарда Дэладзье заявіў, што Польшча змяніла сваю пазіцыю па пытанні перасоўвання савецкіх войск па яе тэрыторыі: *"Генеральныя штабы Францыі і Англіі ўпэўненыя ў тым, што ў выпадку канфлікту дзяржаў, звязаных саюзам з Германіяй, які будзе выкліканы нямецкай агрэсіяй, існуюць усе падставы для добразычлівай дамовы паміж Польшчай і Савецкім Саюзам"*[14].

Тым не менш 23 жніўня 1939 г. Вячаслаў Молатаў і Іаахім Рыбентроп падпісалі ў Маскве Дагавор аб ненападзе паміж Савецкім Саюзам і Германіяй, вядомы як пакт Молатава-Рыбентропа[15]. Дамова мела сакрэтны дадатковы пратакол пра размеркаванне сфер інтарэсаў ва Усходняй Еўропе на выпадак тэрытарыяльна-палітычнага пераўладкавання. Пратакол прадугледжваў уключэнне Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, усходніх раёнаў Польшчы і Бесарабіі ў сферу ўплыву СССР; Літвы і заходніх рэгіёнаў Польшчы — у сферу інтарэсаў Германіі[16]. Іншымі словамі, польская дзяржава павінна была быць падзелена паміж Германіяй і СССР мяжой, якая праходзіла па лініі рэк Нарва, Вісла і Сан[17]. Пытанні пра зацікаўленасць Германіі і СССР у існаванні ў будучым незалежнай польскай дзяржавы і пра яе межы павінны былі канчаткова вырашыцца ў выніку далейшага развіцця палітычнай сітуацыі. У любым выпадку ўрады Германіі і СССР дамовіліся абмеркаваць гэтыя праблемы і знайсці рашэнне падчас перамоў у сяброўскай атмасферы[18].

Змест сакрэтнага пратакола адразу стаў вядомы кіраўніцтву заходніх дзяржаў, у тым ліку ЗША. Але да галоўнага зацікаўленага ў гэтым пытанні суб'екта — Польшчы — інфармацыя не дайшла. Няведаннем рэальнай сітуацыі ў Еўропе пасля падпісання пакта можна растлумачыць выказванне польскага міністра замежных спраў Юзафа Бека ад 28 жніўня 1939 г., якое ацэньвала палітычнае становішча Польшчы як не самае горшае[19].

Прыкладам крывадушнай знешняй палітыкі ў дачыненні да Польшчы можа быць выказванне савецкага паўнамоцнага прадстаўніка ў Варшаве Мікалая Шаронава падчас сустрэчы з міністрам Бекам 24 жніўня 1939 г. Савецкі палітык сказаў, што падпісанне пакта ні ў якім разе не паўплывае на стан узаемных

---

12 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 541.

13 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, Poznań 2014, s. 317.

14 J. Beck, *Ostatni raport*, Warszawa 1987, s. 172–173.

15 *Документы внешней политики*, т. XXII, кн. 1, док. 484, с. 630–632.

16 Тамсама, док. 485, с. 632.

17 N. Davies, *Serce Europy. Polska: przeszłość we współczesności*, s. 153.

18 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 543.

19 Тамсама, с. 544–545.

савецка-польскіх адносін[20]. 27 жніўня (за тры дні да нападу Германіі на Польшчу і каля трох тыдняў перад так званым вызвольным паходам Чырвонай арміі на Польшчу) у інтэрв'ю газеце “Известия” народны камісар абароны Клімент Варашылаў даў зразумець, што ў выпадку нападзення Германіі на Польшчу СССР гатовы дапамагчы апошняй пастаўкамі сыравіны і вайсковага рыштунку нават без падпісання фармальнай дамовы па гэтым пытанні[21].

Нягледзячы на тое, што Англія гарантавала дапамогу Польшчы ў выпадку нападу на яе гітлераўскай Германіі (гарантыі замацаваны ў падпісаным 25 жніўня 1939 г. польска-брытанскім дагаворы), нямецкія войскі развязалі з ёй 1 верасня вайну[22]. Праз тры дні Вялікабрытанія і Францыя абвясцілі вайну Германіі. Польска-нямецкі вайсковы канфлікт перарос у сусветны.

17 верасня 1939 г. на знясіленую вайной з гітлераўскай Германіяй Польшчу, якая працягвала абараняць сваю сталіцу Варшаву, напаў Савецкі Саюз, выканаўшы такім чынам саюзніцкія абавязкі перад Германіяй. Забіваючы польскіх салдат і афіцэраў у баявых сутычках і расстрэльваючы ваеннапалонных, у тым ліку і мірных грамадзян, якія аказвалі супраціў у Гродне[23] і іншых гарадах Заходняй Беларусі[24], СССР узяў на сябе адказнасць за сумеснае з Германіяй развязванне Другой сусветнай вайны.

Парушаючы падпісаны з Польшчай 25 ліпеня 1932 г. Дагавор аб ненападзе, савецкі ўрад парушыў і падпісаны ім у 1921 г. Рыжскі мірны дагавор, у якім прызнаваў усходнія межы Польшчы[25]. З мэтай апраўдання агрэсіі савецкі ўрад падрыхтаваў ноту за подпісам Молатава, якую беспаспяхова спрабаваў перадаць польскаму паслу ў Маскве Гжыбоўскаму. Тэрмінова выкліканы 17 верасня ў Народны камісарыят замежных спраў польскі дыпламат рашуча адмовіўся яе прыняць (у 03.15 па маскоўскім часе), бо лічыў гэтае дзеянне незаконным[26].

---

20 Спробы з боку Шаронава і савецкай улады ўвесці польскі ўрад у падман, дэманструючы датычна Польшчы міралюбівую палітыку, і савецкія магчымасці аказаць дапамогу (як перад, так і пасля нападу на Польшчу гітлераўскай Германіі) грунтоўна апісаны. Гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 546–550; J. Beck, *Ostatni raport*, s. 185, 192–193.

21 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 316.

22 Гітлер і Сталін разумелі, што Англія не мае дастатковай колькасці самалётаў, караблёў і салдат, каб прыйсці на дапамогу Польшчы і абараніць яе. Гэта было адной з прычын таго, што Гітлер ануляваў нямецка-польскі акт аб неагрэсіі. Гл.: N. Davies, *Serce Europy. Polska: przeszłość we współczesności*, s. 152.

23 Падрабязней на гэту тэму гл.: C. Grzelak, *Wilno — Grodno — Kodziowce 1939*, Warszawa 2002; ён жа, *Płonące kresy. Wilno — Grodno — Kodziowce 1939. Bitwa z Armią Czerwoną na północno-wschodnich terenach Rzeczypospolitej*, Warszawa 2013; M. Lipka, *Tragedia oficerów Polskiej Marynarki Wojennej*, http://historia.trojmiasto.pl/Tragedia-oficerow-Polskiej-Marynarki-Wojennej-n55525.html, [24.02.2016].

24 Падрабязней на гэту тэму гл.: L. Komaiszko, *Po pół wieku — do bratniej mogiły*, “Czerwony Sztandar”, 10.10.1989; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, Białystok 2003, s. 105–108; Z. Mierzwiński, *Generałowie II Rzeczypospolitej*, Warszawa 1990, s. 195–200.

25 Апроч таго, 9 лютага 1929 г. у Маскве быў падпісаны сумесны пратакол урадаў СССР, Польшчы, Эстоніі, Латвіі і Румыніі, які датычыўся прызнання і ажыццяўлення парыжскага дагавора ад 27 жніўня 1928 г. пра адмову ад гвалту ў міжнародных адносінах. Гэта быў першы міжнародны акт, у якім савецкі ўрад заявіў, што ніколі і ні ў якой сітуацыі не пачне вайсковую агрэсію супраць сваіх заходніх суседзяў. Гл.: J. Łojek, *Agresja 17 września 1939. Studium aspektów politycznych*, Warszawa 1990, s. 19.

26 Падрабязней на гэту тэму гл.: А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты в XVIII–XX вв.*, Минск 2008, с. 559–560.

У ноце Молатаў напісаў: *“Польская дзяржава і яе ўрад фактычна перасталі існаваць. Тым самым страцілі сваю правамоцнасць раней падпісаныя дамовы паміж СССР і Польшчай* […]. *У сувязі з гэтым савецкі ўрад даў распараджэнне Галоўнаму камандаванню Чырвонай арміі загадаць вайсковым сілам перайсці мяжу і ўзяць пад сваю ахову жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, абараняючы іх ад небяспекі спусташэння і прыгнёту, адкуль бы яна не зыходзіла”*[27].

У выніку савецкай агрэсіі ўсходнія ваяводствы II Рэчы Паспалітай былі акупаваны СССР. Акупацыя працягвалася 21 месяц і 5 дзён: з 17 верасня 1939 г. да пачатку савецка-нямецкай вайны 22 чэрвеня 1941 г.[28]

Анексаваныя Савецкім Саюзам землі Віленскага, Навагрудскага, Беластоцкага, Палескага, Валынскага, Цярнопальскага, Станіслаўскага, Львоўскага, а таксама трох паветаў Варшаўскага ваяводства займалі каля 52 % ад усёй тэрыторыі II Рэчы Паспалітай (прыблізна 201 тыс. квадратных км), тут пражывала каля 25 % яе насельніцтва[29]. Характарызуючы Польшчу як фашысцкую дзяржаву, якая прыгнятала прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, Сталін заявіў: *“Знішчэнне гэтай дзяржавы ў дадзенай сітуацыі азначае, што на адну буржуазна-фашысцкую дзяржаву будзе менш! Ці будзе дрэнна, калі, разбіўшы Польшчу, распаўсюдзім сацыялістычную сістэму на іншыя тэрыторыі і насельніцтва?”*[30]

Палітыка Крамля на першым этапе агрэсіі супраць Польшчы была акрэслена ў Дырэктыве № 01 Вайсковага савета Беларускага фронту, якая датычылася ўсталявання савецкай улады ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Падрыхтаваная і падпісаная ў Смаленску 16 верасня 1939 г. дырэктыва была перададзена войскам, якія ўдзельнічалі ў так званым вызваленні працоўных народаў ад эксплуатацыі паноў і капіталістаў[31]. У ёй прапісана 11 асноўных задач, якія трэба было вырашыць у першую чаргу. Самай галоўнай лічылася ліквідацыя буржуазна-памешчыцкай улады і ўсталяванне часовых упраўленняў, у стварэнні якіх непасрэдна ўдзельнічалі аператыўныя чэкісцкія групы, што кантралявалі грамадскае жыццё на акупаваных тэрыторыях[32].

---

27 РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1285, арк. 48–49: Записки, информации, материалы Народного Комиссариата Иностранных Дел, касающиеся Польши, 1922–1942.

28 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, Warszawa 2009, s. 35; J. Milewski, *17 września 1939 r. — zderzenie i dialog pamięci: polskiej białoruskiej i żydowskiej*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, с. 36–49; A. Dobroński, *Armia Czerwona w relacjach świadków wydarzeń wrześniowych 1939 r. na ziemiach II Rzeczypospolitej Polskiej*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, с. 50–62.

29 Тамсама, с. 36. Падрабязней на тэму савецкай акупацыі гл.: А. Тарас, *Анатомия ненависти*; W. Śleszyński, *Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939–1941. Propaganda i indoktrynacja*, Białystok 2001; ён жа, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich na północno-wschodnich ziemiach II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia) w stosunku do ludności polskiej w latach 1939–1941*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, red. E. Skrobocki, Grodno 2004; K. Jasiewicz, *Zagłada polskich Kresów.*

30 М. Мельтюхов, *Советско-польские войны*, Москва 2001, с. 278.

31 Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гродзенскай вобласці (далей: ДАГАГВ), ф. 9, воп. 33, спр. 3, арк. 3.

32 K. Jasiewicz, *Pierwsi po diable. Elity sowieckie w okupowanej Polsce 1939–1941 (Białostocczyzna, Nowogródczyzna, Polesie, Wileńszczyzna)*, Warszawa 2001.

Другой важнай задачай было заняцце тыпаграфій і друкаванне газет на трох мовах — беларускай, украінскай і польскай. Наступная задача зводзілася да харчовага забеспячэння насельніцтва гарадоў і стварэння ўзброенай працоўнай гвардыі. Часовыя ўпраўленні павінны былі арганізаваць першыя рэпрэсіўныя мерапрыемствы, звязаныя з падзелам зямлі, якая належала панам, кляштарам і вышэйшым дзяржаўным служачым. Непасрэднае вырашэнне гэтых задач ускладалася на створаныя пад кіраўніцтвам упраўленняў сялянскія камітэты[33].

У спецыяльным 5-м пункце Дырэктывы часова забаранялася не толькі арганізацыя калгасаў на акупаваных землях усходняй Польшчы, але нават нельга было заклікаць да іх стварэння[34]. Такая асцярожная стратэгія адносна калектывізацыі сведчыць пра добрую інфармаванасць прадстаўнікоў новай улады пра гаспадарчы лад і традыцыі мясцовага насельніцтва, для якога зямля была вялікай каштоўнасцю. З Дырэктывы № 01 вынікала таксама, што савецкая ўлада мела намер канчаткова ажыццявіць чацвёрты падзел Польшчы. Замест незалежнай і самастойнай польскай дзяржавы планавалася стварыць Польскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку[35].

Вялікае нацыянальнае і рэлігійнае расслаенне грамадства, нізкі ўзровень жыцця большай часткі насельніцтва, уплыў камуністычнай прапаганды і яе падпольнай агентуры[36], жорсткая паланізацыя садзейнічалі фарміраванню пракамуністычных палітычных перакананняў і непрымання польскай дзяржаўнасці як перад 17 верасня 1939 г., так і ў першыя дні савецкага наступлення[37]. Праявы нацыянальнай і рэлігійнай дыскрымінацыі розных нацыянальных груп у даваеннай Польшчы прывялі да таго, што шматлікія з іх урачыста сустракалі новую ўладу з надзеяй на змены ў лепшы бок у грамадскім, палітычным і гаспадарчым жыцці, а салдат Чырвонай арміі ўспрымалі як сваіх вызваліцеляў[38].

Савецкая агентура ў Польшчы шмат у чым садзейнічала “спантанным і ўрачыстым” сустрэчам чырвонаармейцаў мясцовымі жыхарамі. У вайсковых частках былі аддзелы НКУС, якія дапамагалі мясцовым лакальным супольнасцям у практычнай падрыхтоўцы годнага вітання Чырвонай арміі. Галоўнай мэтай арганізаваных сустрэч было пацвярджэнне тэзіса пра тое, што пачатае 17 верасня ўзброенае ўварванне на тэрыторыю ўсходняй Польшчы было не чым іншым, як жаданнем жыхароў Заходняй Беларусі ўз’яднацца з Савецкім Саюзам, а змены, якія адбываліся ў сувязі з гэтым, не

---

33 ДАГАГВ, ф. 9, воп. 33, спр. 3, арк. 3.

34 Тамсама, арк. 3.

35 Тамсама, арк. 3.

36 Тамсама, арк. 3.

37 L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, Warszawa 2008, s. 34.

38 M. Wierzbicki, *Stosunki polsko-białoruskie w okresie okupacji sowieckiej ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (1939–1941)*, [у:] *Studia z dziejów okupacji sowieckiej (1939–1941)*, Warszawa 1997, s. 7; E. Mironowicz, *Świadomość narodowa ludności białoruskiej Białostocczyzny (1944–1948),* [у:] *Colloquium narodów: materiały z Sympozjum “Litwini, Białorusini, Ukraińcy, Polacy — przesłanki pojednania*”, Łódź 1987, s. 50.

былі прымусовымі, а толькі звычайнай рэакцыяй шчаслівага народа на чаканне прыходу вызваліцеляў[39].

Нельга выключаць таго, што частка ўрачыстых сустрэч вайскоўцаў Чырвонай арміі мела спантанны характар і пацвярджала чаканні савецкіх улад[40]. Але ідэнтычны сцэнарый усіх гэтых вітанняў дае падставу меркаваць, што яны былі загадзя спланаваныя і арганізаваныя, у большай ці меншай ступені, палітыкамі[41]. Для палякаў, што жылі ва ўсходняй частцы Польшчы, самым вялікім узрушэннем (можа нават большым, чым нечаканае з'яўленне чырвонаармейцаў) былі паводзіны мясцовых беларусаў[42], украінцаў і габрэяў, якія з энтузіязмам віталі наступаючыя войскі і часам дэманстравалі радыкальную варожасць да польскай дзяржавы і палякаў. *"Мясцовае насельніцтва перадавала з вуснаў у вусны, як адплацілі Польшчы польскія грамадзяне габрэйскай, беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцей"*[43].

У першыя дні савецкай акупацыі на тэрыторыі Гродзеншчыны мелі месца антыпольскія выступленні, дыверсіі, узброеныя антыдзяржаўныя бунты, а таксама выпадкі надання разведвальнай дапамогі часткам Чырвонай арміі[44]. Трэба прызнаць, што ўзброеныя выступленні былі арганізаваны малаколькаснымі дзеячамі КПЗБ і людзьмі, якія сімпатызавалі СССР. Напрыклад, група камуністаў пад кіраўніцтвам Піліпа Пестрака 18 верасня 1939 г. здзейсніла ўзброены напад на паліцыю ў Гродне і ўдзельнічала ў вызваленні вязняў гродзенскай турмы. Польскім уладам удалося навесці парадак у горадзе, а вінаватых арыштаваць. Узброенае выступленне адбылося і ў суседнім Скідзелі[45], дзе камуністы на некаторы час захапілі ўладу ў горадзе. Некалькі сутычак было пад Дзярэчынам і Зэльвай, іх 17 верасня 1939 г. арганізавала група пад кіраўніцтвам сябра КПЗБ А. Мазіка. Пазней яна злучылася з часткамі Чырвонай арміі і ўдзельнічала ў баях за Гродна[46].

---

39 W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich*, s. 277.

40 И. Ковкель, Э. Ярмусик, *История Беларуси с древнейших времён до нашего времени*, Минск 1998, с. 498.

41 M. Wierzbicki, *Ludność białoruska i polska wobec Armii Czerwonej po 17 września 1939 r.*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1999, nr 11, s. 150–151.

42 У хуткім часе пасля заканчэння вайсковых дзеянняў у Заходняй Беларусі пачалася хваля рэпрэсій. Сярод арыштаваных і высланых былі таксама і мясцовыя беларусы. Бо, нягледзячы на тое, што вядомыя выпадкі маніфестацыйнага вітання частак Чырвонай арміі беларускім насельніцтвам, актыўнага ўдзелу беларусаў у дзейнасці дыверсійна-сабатажных груп, якія выступалі супраць інстытутаў польскай улады або польскага войска, варта зазначыць, што маштаб гэтых дзвюх з'яў у працэнтных суадносінах у параўнанні з дзеяннямі ўкраінцаў быў нашмат меншы. Сярод беларусаў была меншая і колькасць дэзерцірства з шэрагаў польскага войска, а камандзіры частак і падраздзяленняў шматразова падкрэслівалі іх лаяльнасць і волю да барацьбы. Даволі хутка беларусы заўважылі розніцу паміж савецкай прапагандай, якая ўсхваляла жыццё ў СССР, і штодзённай рэчаіснасцю. Гэта не магло не пагоршыць іх стаўлення да новай улады. Гл.: C. Grzelak, *Czy był to ruch wyzwoleńczy? Wojna obronna w 1939 r.*, "Magazyn Polski", 1999, nr 2–3 (16–17), s. 41.

43 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, s. 39.

44 Д. Гаўрылін, *Падпольны райком дзейнічае*, [у:] *Памяць. Гродзенскі раён*, Мінск 1993, с. 80; J. Siemiński, *Walczące Grodno*, Białystok 1990, s. 35.

45 С. Токць, *Скідзельскае паўстанне 1939 г. ва ўспамінах жыхароў Скідзельшчыны*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, с. 63–80.

46 S. Silwanowicz, *Wydarzenia września 1939 na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, red. E. Skrobocki, Grodno 2004, s. 287.

Частка беларускіх сялян выкарыстала часовую адсутнасць мясцовай улады і займалася крадзяжамі ў дзяржаўных установах, маёнтках і гаспадарках асаднікаў[47]. У верасні-кастрычніку 1939 г. лёс быў бязлітасны да землеўласнікаў, якія савецкай уладай атаясамліваліся з "панскай Польшчай" і яе грахамі, як сапраўднымі, так і прыдуманымі. Іх забойствы пачаліся яшчэ да прыходу Чырвонай арміі і мелі варварскі характар.

У пасёлку Дзешкавічы Слонімскага павета была забіта ўся сям'я Яхалкоўскіх падчас рабунку іх маёнтка. Гаспадароў фальварка Калеснікі ў Ваўкавыскім павеце ў верасні 1939 г. закапалі жыўцом іх беларускія суседзі. А ўладальнікаў фальварка Рута ў Навагрудскім павеце зарэзаў беларускі парабак, якога яны раней узялі на выхаванне. Самае гучнае забойства на паўночна-ўсходніх крэсах ІІ Рэчы Паспалітай адбылося ў пасёлку Малая Бераставіца Гродзенскага павета 17–18 верасня 1939 г. Там мясцовых землеўласнікаў — Антонія Валкавіцкага, яго жонку Людвіку Войніч-Сянажэнцкую і яе брата Зыгмунта Войніч-Сянажэнцкага — банда пад кіраўніцтвам нейкага Казейка звязала калючым дротам, уліла ім у рот разведзеную вадой вапну і жыўцом закапала (існуе таксама версія, што іх расстралялі)[48].

Узброеная група з ваколіц Скідзеля і Жытомлі 22–23 верасня 1939 г. па-зверску забіла 18 асаднікаў з Лерыполя і Будоўлі. 25 верасня ў Скідзелі быў расстраляны князь Анджэй Святаполк-Чацвярцінскі і яго жонка Ружа з Дэмбінскіх, якія толькі 30 красавіка 1939 г. пабраліся шлюбам. Камандзір узвода хацеў пакінуць у жывых жонку, кажучы перад расстрэлам, што яна свабодная. Жанчына, тым не менш, выбрала смерць разам з мужам, адмовіўшыся ад "ласкі вызваліцеляў"[49].

Прадстаўнік Беларускага фронту Тур дакладваў 13 кастрычніка 1939 г. Пятру Панамарэнку: *"У раёне в. Маларыта, Дубечка, г. Ковеля, недалёка ад Брэст-Літоўска былі абрабаваны 30 чалавек. Усе з'яўляюцца бежанцамі і сцвярджаюць, што іх абрабавалі мясцовыя камітэты і міліцыя часовага ўпраўлення. Падобныя з'явы мелі месца і ў іншых населеных пунктах і гарадах. Адначасова паступае інфармацыя, што члены сялянскіх камітэтаў у некаторых мясцовасцях ладзяць самасуды над сялянамі"*[50].

Ахвярамі баявых груп, арганізаваных КПЗБ, былі не толькі прадстаўнікі заможных слаёў, дзяржаўныя або вайсковыя служачыя, але і дастаткова часта сяляне польскай і беларускай нацыянальнасцей, якія сімпатызавалі рэпрэсаваным ці супрацоўнічалі з камітэтам[51]. Гэтыя злачынствы павінны былі паказаць усім, хто з'яўляецца цяпер гаспадаром гэтых зямель. Толькі так можна ацаніць інфармацыю, якую агучыў 4 кастрычніка 1939 г. на нарадзе часовых упраўленняў ваяводстваў, паветаў і вялікіх гарадоў камандуючы арміяй Міхаіл Кавалёў. У ёй прагучала жаданне сялянскіх камітэтаў на

---

47 M. Gnatowski, *Białostockie Zgrupowanie Partyzanckie*, Białystok 1994, s. 27–28.

48 K. Jasiewicz, *Losy ziemiaństwa polskiego na terytorium tzw. Zachodniej Białorusi (1939–1941). Charakterystyka głównych tendencji*, [y:] *Studia z dziejów okupacji sowieckiej na Białorusi Zachodniej 1939–1941*, Warszawa 1997, s. 62–64.

49 T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 541; A. Tomczyk, *Abyśmy mogli wybaczyć*, Warszawa 2001.

50 НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 14616, арк. 75–77.

51 S. Silwanowicz, *Wydarzenia września 1939 na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, s. 288.

вызваленай Чырвонай арміяй тэрыторыі пакінуць толькі мясцовае беларускае насельніцтва, а астатніх выселіць. Нягледзячы на тое, што Кавалёў назваў гэтыя ідэі памылковымі, яскрава бачна, якімі радыкальнымі былі настроі[52].

Беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк, асуджаючы злачынствы баявых груп, арганізаваныя камуністамі з КПЗБ, казаў у 1991 г.: *"Мы, беларусы, мелі "свой асабісты пункт гледжання", мы былі зачараваны: бо прыйшлі "нашы"! У той час як палякі пераживалі трагедыю, нямногія ім спачувалі"*[53]. Трэба адзначыць, што тым не менш было дастаткова шмат выпадкаў, калі беларусы абаранялі палякаў, прадстаўнікоў польскай дзяржавы, падпісваючы і дасылаючы петыцыі, у якіх патрабавалі вызваліць арыштаваных "добрых паноў", дэманструючы такім чынам добразычлівасць і лаяльнасць[54]. Так, напрыклад, жыхары беларускай вёскі Саволеўка ў Гродзенскім раёне хавалі ад самасуду баявых груп КПЗБ сваіх польскіх суседзяў-асаднікаў, рызыкуючы сваім жыццём[55].

Ахвярамі самасудаў у першы час пасля 17 верасня 1939 г. сталі і некалькі каталіцкіх святароў з тэрыторыі сучаснай Гродзенскай дыяцэзіі. Сярод іх былі ксёндз Браніслаў Федаровіч, адміністратар парафіі Скрундзі (дэканат Дзятлава), ксёндз Браніслаў Корнь, пробашч парафіі Мікелеўшчына (дэканат Лунна), ксёндз Ян Крынскі, пробашч парафіі Зэльва (дэканат Ваўкавыск), ксёндз Антоній Твардоўскі, пробашч парафіі Юрацішкі (дэканат Вішнева). Ксёндз Антоній быў затрыманы 18 ці 19 верасня 1939 г. разам з клерыкам па прозвішчы Марчык у в. Князікоўцы групай людзей, якія арганізоўвалі ўрачыстую сустрэчу вайскоўцаў Чырвонай арміі. Затрыманых павялі ў бок вёскі Ліпнішкі і забілі стрэламі ў галаву[56].

Гарадзенская даследчыца Ларыса Міхайлік лічыць, што на тэрыторыі былых польскіх Усходніх Крэсаў сутыкнуліся не толькі дзве вайсковыя сілы, але перш за ўсё два абсалютна розныя сусветы. З аднаго боку гэта быў сусвет з апорай на традыцыі веры ў Бога, з другога — сусвет, які паставіў пад сумненне рэлігію, прыносячы "на штыках" чужыя большасці акупаванага народа палітычныя і культурныя лозунгі[57]. Для каталіцкага духавенства ўзброеныя чужынцы з усходу нічога добрага прынесці не маглі. У яго памяці і памяці жыхароў захаваліся трагічныя ўспаміны, звязаныя з рэвалюцыяй 1917 г. і польска-бальшавіцкай вайной 1920 г., падчас якіх не было літасці ні да святароў, ні да святынь. Атэістычная палітыка СССР не пакідала ніякай надзеі на нармальнае рэлігійнае жыццё[58].

Стаўленне прадстаўнікоў вышэйшай савецкай улады да гвалту над палякамі было супярэчлівым. Даклады адных сведак падтрымлівалі пакаранне

[52] Тамсама, s. 288.

[53] T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, Białystok 2007, s. 65; A. Karpiuk, *Nie będę mówił o Polakach*, "Głos znad Niemna", 1993, nr 36 (70).

[54] S. Silwanowicz, *Wydarzenia września 1939 na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, s. 289.

[55] A. Tomczyk, *Abyśmy mogli wybaczyć*, s. 223–229.

[56] L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie*, s. 37–38.

[57] Тамсама, с. 39.

[58] K. Biegun, *Prześladowanie Kościoła na ziemiach zagarniętych przez ZSRR po 17 IX 1939*, "Więź", 1993, nr 9 (419), s. 119.

"вінаватых" у здзейсненых злачынствах, іншых, наадварот, утрымлівалі прапановы прасоўваць мясцовых жыхароў у грамадска-палітычнае жыццё, прызначаць на пасады ў ніжэйшых структурах савецкай улады. Усё залежала ад матываў нападаў, забойстваў і крадзяжоў. Калі матыў быў палітычным, а супрацьпраўныя дзеянні адбываліся па распараджэнні новай улады або пад яе кантролем, то за здзейсненыя злачынствы ніхто не прыцягваўся да адказнасці[59].

Сакратар Брэсцкага абласнога камітэта КП(б)Б Кісялёў пісаў: *"Абласная пракуратура ў Маларыце пачала два судовыя працэсы, якія разглядалі справы па абвінавачванні сялян у забойстве солтыса і былога каменданта польскай паліцыі. Такіх забойстваў заклятых ворагаў народа, здзейсненых у людскім гневе, было нямала. Мы іх апраўдваем, таму што знаходзімся на баку тых, хто выйшаў з няволі і расправіўся з асабістым ворагам. Тым не менш пракурор Маларыты патрабаваў расстраляць сялян за забойства каменданта польскай паліцыі. Абласны камітэт партыі прыняў рашэнне пра пазбаўленне пасады такога пракурора"*[60].

Нягледзячы на цяжкую палітычную, эканамічную і сацыяльную сітуацыю, у якой даводзілася змагацца раздробленым польскім часткам і злучэнням, Чырвонай арміі быў аказаны супраціў[61]. Польская армія вяла абарончыя баі на тэрыторыі Вільні, Гродна[62] і яго бліжэйшых ваколіц, Палесся[63]. Малакалькасныя самастойныя групы польскіх салдат і афіцэраў ажыццяўлялі яшчэ на працягу некалькіх тыдняў інтэнсіўны супраціў у раёнах Свянцян, Ваўкавыска, Пружан, Баранавіч, Шчучына, Скідзеля, Глыбокага, Валкалаты, Пастаў і іншых мясцовасцей, выклікаючы тым самым пэўны псіхоз у частках Чырвонай арміі. Палітычную сітуацыю таго часу добра адлюстроўвае выказванне памочніка камандзіра 16 эскадрыллі савецкай авіяцыйнай брыгады капітана Псарова ад 29 верасня 1939 г.: *"Польскае насельніцтва і войска супраціўляюцца, па аднаму ў горад хадзіць небяспечна. Танкісты па горадзе не ходзяць, ездзяць у танках. І, калі з'явіцца хоць дымок з дома, разварочваюцца і б'юць па гэтым доме, а пасля з разгону разносяць гэты дом"*[64].

Немцы 22 верасня 1939 г. перадалі савецкім вайсковым часткам Беласток і Брэст. У Брэсце адбыўся сумесны парад савецкіх і нямецкіх войск, які

---

59 S. Silwanowicz, *Wydarzenia września 1939 na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, s. 289.

60 Тамсама, s. 289.

61 Падрабязней на тэму вядзення абарончых баёў польскай арміі на былой усходняй тэрыторыі II Рэчы Паспалітай гл.: C. Grzelak, *Czy był to ruch wyzwoleńczy? Wojna obronna w 1939 r*., "Magazyn Polski", 1999, nr 2–3 (16–17), s. 36–41; А. Вашкевіч, Т. Касатая, *Вайна і мір 1939–1940 гг. ва ўспамінах жыхароў Гародні і ваколіцаў*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, рэд. А. Смалянчук, Мінск 2015, с. 105–114.

62 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Porzecki, *Grodno semper fidelis*, Grodno — Warszawa 2009, s. 47.

63 M. Lipka, *Tragedia oficerów Polskiej Marynarki Wojennej*, http: //historia.trojmiasto.pl/Tragedia-oficerow-Polskiej-Marynarki-Wojennej-n55525.html, [24.02.2016].

64 НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 14657, арк. 99: Копии спецсообщений, докладных и донесений Особого отдела НКВД и Политуправления Белфронта о состоянии частей Белорусского фронта, 05.10.1939–4.11.1939.

прадэманстраваў свету ўзаемныя сяброўскія і саюзніцкія адносіны паміж СССР і Германіяй. Пасля 30 верасня 1939 г. у паўночна-ўсходнім рэгіёне II Рэчы Паспалітай баявыя дзеянні частак польскай арміі спыніліся. Чырвоная армія перайшла на тэрыторыю, якая перадавалася ёй згодна з новай савецка-нямецкай дамовай "Аб сяброўстве і межах" ад 8 верасня 1939 г. У сферу ўплыву СССР, замест перададзеных Германіі Люблінскага ваяводства і часткі Варшаўскага, увайшла Літва[65]. СССР і Германія прынялі на сябе абавязкі *"не дапускаць на сваіх тэрыторыях ніякай польскай агітацыі, накіраванай супраць аднаго з бакоў падпісанай дамоўленасці, падаўляць крыніцы такой агітацыі, узаемна інфармаваць адзін аднаго аб мерах, якія прымаюцца ў гэтым накірунку"*[66].

Вывучаючы данясенні начальніка Асобага аддзела НКУС, а таксама Галоўнага палітычнага ўпраўлення Беларускага фронту, накіраваныя вышэйшаму савецкаму кіраўніцтву ў верасні-лістападзе 1939 г., можна прыйсці да высновы, што савецкая агрэсія ў дачыненні да Польшчы была б правальнай, калі б не створаны раней нямецка-савецкі саюз, які меў на мэце ліквідацыю польскай дзяржавы праз яе чарговы падзел. Без нямецкай дапамогі Савецкі Саюз не перамог бы ў вайне з Польшчай, бо не змог пазней перамагчы ў вайне з Фінляндыяй. Больш за тое, напэўна, сам (без дапамогі Германіі) ён бы не пачаў агрэсіі супраць Польшчы. Гэтая выснова грунтуецца на тым, што адсутнічала належная падрыхтоўка Чырвонай арміі да вайсковых дзеянняў, а таксама на існаванні "расхістаных" настрояў у савецкім грамадстве, выкліканых наступствамі крывавых рэпрэсій 1937–1938 гг., прымусовай калектывізацыяй, жорсткай барацьбой з рэлігіяй і іншымі фактарамі брутальнай савецкай палітыкі[67]. Вайскоўцы Чырвонай арміі пасля пераходу савецка-польскай мяжы ў верасні 1939 г. не былі прыхільнікамі працягу вайны. Яны бачылі, што матэрыяльнае становішча жыхароў Заходняй Беларусі было лепшым, чым у СССР, і што гэта зусім не вызваленне, а толькі новая гвалтоўная акупацыя з насаджэннем савецкай улады. У Чырвонай арміі былі вайскоўцы, якія выказвалі жаданне перайсці на бок Польшчы і змагацца з СССР. Савецкае войска не было падрыхтавана да вядзення баявых дзеянняў, мела дрэннае ўзбраенне і абмундзіраванне. У частках не хапала нацельнай бялізны, а вашывасць асабістага складу дасягала 10 %, ежа, як выказваліся некаторыя чырвонаармейцы, была горшай, чым ежа для сабак. Прызваныя з запасу вайскоўцы ўжо ў лістападзе 1939 г. пачалі масава патрабаваць ад камандавання дэмабілізацыі[68].

---

65 Падрабязней на гэту тэму гл.: Т. Снайдэр, *Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569–1999*, Варшава 2014, с. 115–120.

66 M. Gnatowski, *Białostockie Zgrupowanie Partyzanckie*, s. 285–286.

67 Больш падрабязна пра палітычныя настроі і негатыўныя выказванні, якія сведчылі пра адсутнасць падтрымкі з боку простых беларусаў з усходняй Беларусі так званага вызваленчага пахода Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 г. гл.: З. Талочка, *"Паход" Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года ва ўспрыняцці насельніцтва БССР,* [у:] *Białoruś w XX stuleciu. W kręgu kultury i polityki,* pod redakcją D. Michaluk, Toruń 2007, s. 387–397.

68 Некаторыя прыклады маральна-баявога духу салдат Чырвонай арміі:
Чырвонаармеец Сяроў заявіў: *"Насельніцтва Заходняй Беларусі жыве лепш, чым насельніцтва Савецкага Саюза. Калі я праязджаў па вёсках у святы, то бачыў, што ўсе добра апрануты, многія маюць ровары".*

Англійскі даследчык Норман Дэвіс пісаў пра захоп Польшчы ў 1939 г.: *"Другая Рэч Паспалітая была кволай істотай, але пры гэтым не памерла з прычыны натуральнай смерці. Афіцыйна яна была забіта двума агрэсарамі, якія дзейнічалі ў змове. Моц духу і энергія, з якімі яна абаранялася падчас подлага нападу, з усёй упэўненасцю сведчаць пра тое, што яна магла вылечыцца ад сваіх хвароб, але шанцу на выздараўленне яе пазбавілі. Вынік быў бясспрэчны. Другая Рэч Паспалітая памерла. На працягу чвэрці стагоддзя, пачынаючы з 1914 г., была зачата, народжана, узгадавана, выхавана, забіта і пахавана"*[69].

Нягледзячы на гэта, большасць палякаў варожа ставіліся да савецкай улады, праяўленнем чаго з'яўляліся супрацівы польскага і, часткова, беларускага насельніцтва. Акрамя паўсюднага пасіўнага супраціўлення, заснаванага на шырока распаўсюджанай узаемнай дапамозе, укрывальніцтве, антысавецкай агітацыі, стыхійна ўзнікалі шматлікія групы і канспіратыўныя арганізацыі, а таксама партызанскія атрады[70].

---

Чырвонаармеец Байдукоў казаў: *"Электрыкі, якія працавалі ў Польшчы, зараблялі ў месяц 250–400 рублёў, а токары — 440. Боты ж найлепшай якасці каштавалі 14–15 рублёў, а паспрабуй у нас пражыць"*. Словы Байдукова падтрымаў памочнік камандзіра ўзвода Сямёнаў, кажучы: *"Хлеб елі, водку пілі, а яшчэ кажуць, што дрэнна жылося"*.

Шафёр аўтатранспартнага батальёна Фастовец казаў: *"Па сутнасці, Польшча захоплена Германіяй і вызваленне Заходняй Беларусі не з'яўляецца вызваленнем, а захопам чужой тэрыторыі"*.

Чырвонаармеец 1 батальёна 73 стралковага палка 33 стралковай дывізіі Граланоўскі сярод мясцовага насельніцтва лаяўся, кажучы: *"Вас усе падманваюць, у Савецкім Саюзе сяляне жывуць горш, чым вы"*. Апроч таго, Граланоўскі папракнуў чырвонаармейцаў, што стаялі побач: *"Навошта вы ўсе хлусіце мясцовым жыхарам і хваліце савецкую ўладу"*.

Чырвонаармеец (прозвішча адсутнічае — Т. Гавін) падчас размовы з іншымі вайскоўцамі таго самага ўзвода заявіў: *"Ніяк не магу зразумець, у чым заключаецца вызваленне ў Польшчы. Тут жывуць лепш, чым у нас. Усё тут танней, чысцей і калі мясцовае насельніцтва даведаецца пра жыццё ў нас у СССР, адразу адхіліцца ад нас"*.

Чырвонаармеец Валодзін 3 стралковай роты 64 стралковай дывізіі 11 арміі казаў сярод вайскоўцаў: *"Вызвалілі беларусаў і ўкраінцаў на іх жа шыю. Калі яны да гэтага часу мелі па дзве каровы, то зараз не будзе ніводнай"*.

Малодшы лейтэнант Залескі казаў: *"Мы гвалтоўна захапілі Заходнюю Беларусь і навязваем савецкую ўладу, тады як заходнія ўкраінцы і беларусы самі гэтага не патрабуюць"*. Гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 14657, арк. 44–99: Копии спецсообщений, докладных и донесений Особого отдела НКВД и Политуправления Белфронта о состоянии частей Белорусского фронта, 05.10.1939 – 4.11.1939.

[69] N. Davies, *Serce Europy. Polska: przeszłość we współczesności*, s. 153.

[70] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Strzembosz, *Partyzantka polska na północno-wschodnich ziemiach II Rzeczypospolitej 1939–1941 (Wileńskie, Nowogródzkie, Grodzieńskie)*, "Kwartalnik Historyczny", 1992, nr 4; *Opór wobec okupacji sowieckiej w Zachodniej Białorusi 1939–1941*, [у:] *Studia z dziejów okupacji sowieckiej (1939–1941)*, Warszawa 1997.

## 2. Савецкая палітыка на паўночна-ўсходніх тэрыторыях былой Польскай Рэспублікі

Пасля таго як па загадзе Сталіна ў верасні 1939 г. Чырвоная армія акупавала ўсходнія вобласці Польшчы, кіраўніцтва СССР вырашала задачу як мага хутчэйшага ўсталявання на гэтых тэрыторыях савецкай дыктатуры[71]. У асноўным гэтым займаліся партыйныя камітэты і арганізацыі УКП(б)[72]. Іх галоўнай мэтай было поўнае і канчатковае знішчэнне існуючых да 17 верасня 1939 г. польскіх органаў управлення і чыноўнікаў былой польскай дзяржавы, да гэтага яны неадкладна прыступілі. Падначаленыя супрацоўнікам, якіх накіравала ЦК КП(б)Б, сялянскія камітэты ў вёсках і рабочая гвардыя ў гарадах лавілі палітычных дзеячаў, буйных чыноўнікаў польскай дзяржавы, землеўласнікаў, афіцэраў і служачых паліцыі, што хаваліся ад савецкай улады. У Брэсцкай вобласці ў гэты час было затрымана некалькі сотняў белапольскіх бандытаў (як пісалася ў справаздачах абласнога камітэта КП(б)Б), большасць з іх забіты на месцы затрымання. Марадзёрства і рабаванне, самавольны захоп кватэр і дамоў, кінутых былымі гаспадарамі, збіванне і пагрозы забойствам, прымус жанчын і дзяўчат да сужыцця і шматлікія іншыя парушэнні дзеючых у СССР законаў — неад'емная частка рэалізаванай на практыцы савецкай палітыкі, датычнай мясцовага насельніцтва (у першую чаргу палякаў, беларусаў і габрэяў). Пры гэтым улада такія дзеянні часта заахвочвала, разглядаючы іх як праяўленне класавай барацьбы[73].

Замест абяцанага вызвалення ад эксплуататараў польскай буржуазна-памешчыцкай дзяржавы, як сцвярджала савецкая прапаганда, у рэчаіснасці на былыя ўсходнія вобласці Польшчы прынесены яшчэ больш жорсткая эксплуатацыя, масавы тэрор і невыкананне нават элементарных правоў чалавека. Асноўныя чалавечыя каштоўнасці, такія як права на жыццё і прыватную ўласнасць, свабода веравызнання і многія іншыя, ігнараваліся савецкай уладай[74].

Палітыку акупацыйных улад на паўночна-ўсходняй тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай (Заходняй Беларусі) у час з 17 верасня 1939 г. да 22 чэрвеня 1941 г. у дачыненні да палякаў можна падзяліць на два перыяды, якія характарызаваліся супрацьлеглымі дзеяннямі савецкага кіраўніцтва. Першы перыяд (верасень 1939 г. — чэрвень 1940 г.) быў часам узмоцненых антыпольскіх настрояў, арыштаў і рэпрэсій, у тым ліку забойстваў палякаў без суда і следства, а таксама вывазаў (дэпартацый) у паўночныя і ўсходнія раёны СССР. Прапанова аб

---

[71] Р. Лазько, *Нас аб'ядналі — хто? — Чужаніцы*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, рэд. А. Смалянчук, Мінск 2015, с. 22–35.

[72] С. Филиппов, *Деятельность органов ВКП(б) в западных областях Украины и Белоруссии в 1939–1941 гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, Москва 1997, с. 44.

[73] Тамсама, с. 48–49.

[74] Падрабязней на гэту тэму гл.: E Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś,* Warszawa 2007, s. 146–164; E. Mironowicz, *Zmiana struktury narodowościowej w latach 1939–1941*, [у:] E. Mironowicz, S. Tokć, R. Radzik, *Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX wieku*, Białystok 2005, s. 68–76.

стварэнні Польскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, выстаўленая былым палітычным зняволеным і былым сакратаром прафесійных саюзаў з г. Влацлавак Станіславам Станіслаўскім і накіраваная з г. Пружаны 20 кастрычніка 1939 г. у СНК СССР і ЦК УКП(б), не была падтрымана. Хоць першапачаткова Крэмль такую магчымасць прадугледжваў[75]. Для другога перыяду (чэрвень 1940 г. — чэрвень 1941 г.) было характэрна адносна ліберальнае стаўленне да палякаў.

Каб юрыдычна легалізаваць захоп польскіх усходніх тэрыторый і адначасова знішчыць польскія дзяржаўныя структуры, было вырашана правесці выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі[76]. 22 кастрычніка 1939 г. былі "абраны" дэпутаты Народнага сходу, якія ўжо 28–30 кастрычніка ў Беластоку абвясцілі пра ўсталяванне ў Заходняй Беларусі савецкай улады[77]. 12 лістапада 1939 г. на пазачарговай III сесіі Вярхоўнага Савета БССР было прынята рашэнне ўключыць Заходнюю Беларусь у склад БССР. Гэта дазволіла ўжо легальна насаджаць прынцып народаўладдзя (у той форме, у якой ён існаваў у Савецкім Саюзе) на былых паўночна-ўсходніх тэрыторыях Польскай Рэспублікі[78].

5 снежня 1939 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіў новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел далучанай Заходняй Беларусі. Былі створаны пяць абласцей — Баранавіцкая, Беластоцкая, Брэсцкая, Вілейская і Пінская, якія ў сваю чаргу дзяліліся на раёны па прынцыпе, што ў кожным з іх павінна пражываць ад 35 да 50 тысяч насельніцтва. Адміністрацыйную ўладу на ўзроўнях вобласці і раёна ажыццяўлялі выканаўчыя камітэты саветаў дэпутатаў працоўных. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвярджаў склад абласных выканаўчых камітэтаў, тыя — раённых, а раённыя — сельскіх саветаў. Канчаткова адміністрацыйная ўлада ад часовых упраўленняў да выканаўчых камітэтаў перайшла ў сакавіку 1940 г.[79]

У сувязі з тым, што ў сістэме палітычнай улады ў СССР галоўную кіруючую ролю адыгрывала камуністычная партыя, паралельна са стварэннем структур выканаўчай улады арганізоўваліся і партыйныя. У 1939–1940 гг. для працы ў заходніх абласцях БССР з Масквы і Мінска накіроўваецца 4,5 тысячы партыйных супрацоўнікаў. Былыя члены КПЗБ на партыйную працу прымаліся неахвотна[80]. З усходніх абласцей БССР прыбылі таксама 6,2 тысячы камсамольцаў, якія павінны былі весці ідэалагічную працу сярод моладзі. Савецкае кіраўніцтва лічыла, што маладыя людзі працягвалі знаходзіцца пад уплывам

---

75 Станіслаўскі прапанаваў на "вызваленых" этнічных польскіх тэрыторыях стварыць Польскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў складзе СССР з польскай, рускай, беларускай і іншымі дзяржаўнымі мовамі (у залежнасці ад моўных патрабаванняў і нацыянальнага складу насельніцтва). Гл.: РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1285, арк. 51–53.

76 ДАГАГВ, ф. 9, воп. 33, спр. 3, арк. 3.

77 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 191; Больш падрабязна гл.: А. Трафімчык, *Успаміны заходнікаў пра першыя савецкія выбары ў Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, рэд. А. Смалянчук, Мінск 2015.

78 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, s. 55.

79 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 153.

80 *Нарысы гісторыі Беларусі*, т. 2, Мінск 1995, с. 259.

“буржуазна-кулацкіх элементаў”. Акрамя партыйных і камсамольскіх дзеячаў, у Заходнюю Беларусь былі накіраваны настаўнікі, спецыялісты ў сферах савецкай адміністрацыі, гаспадарчай дзейнасці і культуры. Усяго да кастрычніка 1940 г. прыехала 31 тысяча чалавек, задачай якіх была арганізацыя палітычнага, грамадскага і гаспадарчага жыцця па прыкладзе функцыянавання яго ва ўсходніх абласцях БССР[81]. У сакавіку 1940 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі прайшлі выбары ў Вярхоўныя Саветы БССР і СССР[82], а 15 снежня 1940 г.— у мясцовыя саветы. У абавязковым парадку ўсё насельніцтва заходніх абласцей атрымала савецкае грамадзянства.

Польскі ўрад у выгнанні (эміграцыі) у ноце ад 21 кастрычніка 1939 г. пратэставаў супраць выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі, заяўляючы, што яго правядзенне з’яўляецца парушэннем міжнароднага права[83]. Варта заўважыць, што падчас гэтага выбарнага фарсу, насуперак прадпісанням Дырэктывы № 01 Вайсковага савета Беларускага фронту ад 16 верасня 1939 г., не былі праведзены выбары ў польскі народны сход, які планавалася сфарміраваць з прадстаўнікоў тых мясцовасцей, дзе пераважала польскае насельніцтва[84].

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, паралельна з сістэмай заканадаўчай, выканаўчай, судовай улады, арганізоўваўся і рэпрэсіўны апарат[85]. На падставе сакрэтнага загада НКУС № 001337, прынятага 2 лістапада 1939 г., створаны чатыры ўпраўленні НКУС — Беластоцкай, Навагрудскай, Пінскай і Вілейскай абласцей[86]. У іх павінны былі працаваць 650 супрацоўнікаў, якія раней прыехалі ў Заходнюю Беларусь. Некамплект у складзе 315 чалавек было загадана сфарміраваць з аператыўных супрацоўнікаў НКУС саюзных рэспублік, краёў, абласцей, а таксама Беларускай вайсковай акругі, асобых органаў НКУС і памежных войск[87]. У структуры абласных упраўленняў НКУС ствараліся другі і трэці аддзелы з агульнай колькасцю супрацоўнікаў 52 чалавекі, якія павіны былі займацца *“нацыянальнымі фарміраваннямі царкоўнікаў, сектантаў, былых членаў спартыўных і вайсковых арганізацый, а таксама змагацца са шпіянажам і ўнутранай нацыянальнай контррэвалюцыяй”*[88].

У пачатку 1940 г. з’явілася раздутая сетка гаспадарчага апарату з такімі структурамі, як “нарыхтоўка зерня”, “нарыхтоўка жывёлы”, упраўленне раённага (абласнога) упаўнаважанага народнага камісарыята БССР па нарыхтоўках. Ствараліся новыя (альбо адаптаваліся да новых умоў старыя) культурныя і адукацыйныя ўстановы, а таксама грамадска-палітычныя арганізацыі, такія як

81 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 153–154.

82 НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 14922, арк. 17: Заседания бюро ЦК КП(б)Б за 1940 г.

83 L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, Warszawa 2008, s. 45.

84 ДАГАГВ, ф. 9, воп. 33, спр. 3, арк. 3.

85 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 233, арк. 11.

86 ДАРФ, ф. Р-9401, воп. 1, спр. 526, арк. 206.

87 Тамсама, арк. 207.

88 Тамсама, арк. 228–229.

піянерскія, камсамольскія, Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву[89].

Савецкі сацыялізм у прынцыпе не дапускаў існавання прыватнай уласнасці. Таму ў гэты перыяд на тэрыторыі Заходняй Беларусі адбывалася шырокамаштабная нацыяналізацыя банкаў, буйных прадпрыемстваў, тэатраў, кіно, практычна ўсяго, што знаходзілася ў прыватным уладанні[90].

Абсалютна неапраўдана раздуты бюракратычны апарат савецкай улады патрабаваў тысячы супрацоўнікаў. Пры гэтым, нягледзячы на вялікую колькасць вакантных пасад (асабліва ў пачатку ўсталявання савецкай улады ў Заходняй Беларусі), іх займалі выключна выхадцы з СССР, накіраваныя на працу сваімі арганізацыямі і ўстановамі пасля пільнага адбору і зацвярджэння адпаведнымі партыйнымі органамі. Так, напрыклад, у Баранавіцкай вобласці ўсе 60 наменклатурных пасад у 1939–1941 гг. займалі не мясцовыя спецыялісты, а тыя, хто прыехаў з усходніх абласцей БССР і ўсяго СССР. Нацыянальнасць гэтых савецкіх і партыйных супрацоўнікаў выглядала наступным чынам: беларусаў з іх было толькі 2, рускіх — 19, украінцаў — 1, габрэяў — 38 [91]. Вельмі рэдка на нязначныя пасады раённага ўзроўню прызначаліся польскія камуністы, былыя грамадзяне Польшчы. Напэўна, гэтыя людзі былі не толькі правераны на лаяльнасць да савецкай улады, але і завербаваны для дзейнасці на карысць НКУС. Напрыклад, даверам з боку савецкай улады карыстаўся польскі камуніст Станіслаў Радкевіч[92], міністр грамадскай бяспекі Польскай Народнай Рэспублікі ў пасляваенны час[93].

Мясцовае насельніцтва, як польскае, так і беларускае, не выклікала даверу не толькі ў справе прызначэння на кіруючыя пасады ў структурах палітычнай і гаспадарчай улад, але таксама не давяралі яму выхоўваць дзяцей і моладзь у школах. Адбываліся шырокамаштабныя беспадстаўныя звальненні настаўнікаў і дырэктараў навучальных устаноў, замена іх присланымі з СССР спецыялістамі. Асабліва актыўна гэты працэс адбываўся ў існуючых яшчэ польскіх школах. Гэта было заўважана сакратаром Беластоцкага абласнога камітэта партыі Сямёнам Ігаевым[94].

З органаў міліцыі ў Беластоцкай вобласці ў 1940 г. і ў студзені-лютым 1941 г. было звольнена 1 128 чалавек, гэта значыць 50,7 % ад усяго кадравага складу[95]. Замест звольненых прыехалі прадстаўнікі органаў бяспекі з усхо-

89 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, s. 57–58. Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву існавала ў 1927–1948 гг., папярэднік Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту.

90 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 366, арк. 48; спр. 1, арк. 81–83; спр. 505, арк. 9; спр. 42, арк. 27.

91 А. Татаренко, *Жилищный вопрос в контексте общей репрессивной политики большевиков на территории Западной Беларуси в 1939–1941 гг.*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2009, nr 32, s. 147–150.

92 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Czekiści. Organy bezpieczeństwa w europejskich krajach bloku sowieckiego 1944–1989*, red. K. Persak i Ł. Kamiński, Warszawa 2010, s. 466.

93 РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1300, арк. 63: Письмо советского посла СССР в Варшаве Виктора Лебедева к Андрею Вышинскому в Москву от 10 июля 1949 г.

94 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 79, арк. 1–2.

95 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 705, арк. 173.

ду. Палякі ў міліцыі ў гэты перыяд складалі 4,1 % ад агульнай колькасці ўсіх супрацоўнікаў[96]. Замена палякаў набыла такі размах, што ў асобных раёнах Беластоцкай вобласці пачалі звальняць добрых супрацоўнікаў, якія любілі сваю прафесію. Так, з 70 супрацоўнікаў-аграномаў пакінулі толькі 19 чалавек[97]. Як правіла, прыехаўшыя былі альбо дрэнна падрыхтаваныя да новай працы, альбо зусім у ёй нічога не разумелі. Даволі часта гэтыя людзі былі выпадковымі, з дрэннай характарыстыкай з былога месца працы[98].

Савецкая ўлада вялікае значэнне надавала пытанню саветызацыі школьнай адукацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Але накіраваныя туды настаўнікі часта не мелі дастатковага педагагічнага вопыту. Больш за палову з іх не мела нават сярэдняй адукацыі[99].

У 1939–1941 гг. адбыліся значныя змены ў дэмаграфічнай структуры былых польскіх паўночна-ўсходніх тэрыторый. Сюды прыехалі (не ўлічваючы вялікай колькасці салдат і афіцэраў Чырвонай арміі) больш за 100 тысяч чалавек з усходніх рэгіёнаў СССР. Сярод іх даволі шмат было габрэяў[100]. Варта адзначыць, што ў Заходнюю Беларусь да канца 1940 г. толькі з усходніх абласцей БССР прыехала каля 31 тысячы партыйных, камсамольскіх, савецкіх супрацоўнікаў, спецыялістаў у сферы гаспадаркі, культуры[101].

Шматлікім палякам, моцна звязаным з польскай культурай і традыцыяй, савецкая прапагандысцкая рыторыка была чужая[102]. А яе запэўніванні пра роўнасць, брацтва і справядлівасць пасля першых сутыкненняў польскага насельніцтва з рэчаіснасцю акупацыі (тэрор, арышты, праслед) успрымаліся толькі як фарс. Большасць палякаў свядома адмаўлялася ад усялякага добраахвотнага супрацоўніцтва з камуністамі, трактуючы яго як форму калабарацыі. Актыўную падтрымку савецкай улады дэкляраваў адносна невялікі працэнт польскага насельніцтва, які складаўся з прыхільнікаў камуністычнай партыі, былых палітычных зняволеных, крымінальных элементаў, а таксама звычайных канфармістаў, што шукалі ў новай рэчаіснасці шанц для развіцця сваёй кар'еры[103].

У снежні 1939 г. у заходніх абласцях БССР дзейнічала 5 633 школы, з якіх толькі 987 (17,5 %) было польскамоўнымі. Гэта не адпавядала патрэбам палякаў,

---

96 M. Wierzbicki, *Stosunki polsko-białoruskie w okresie okupacji sowieckiej ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (1939–1941). Studia z dziejów okupacji sowieckiej w Zachodniej Białorusi 1939–1941*, Warszawa 1997, s. 11–12.

97 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 36, арк. 3.

98 Тамсама, арк. 4.

99 С. Сільвановіч, *Палітыка савецкіх улад у адносінах да польскага насельніцтва паміж вераснем 1939 і чэрвенем 1941 г.*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, Grodno 2003, s. 196; K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, s. 39.

100 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, s. 39.

101 *Нарысы гісторыі Беларусі*, ч. 2, Мінск 1995, с. 257.

102 В. Іванова, "*Заходнікі*" і "*ўсходнікі*" *ва ўспамінах жыхароў былога савецка-польскага памежжа*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, с. 81–94.

103 W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich*, s. 279.

якія пражывалі ў Заходняй Беларусі[104]. А палітыка саветызацыі і русіфікацыі, нягледзячы на гэта, надалей набірала моц. Яе прынцыповай мэтай было канчатковае вырашэнне "польскага пытання", у тым ліку поўная ліквідацыя польскамоўных школ, як у 1938 г. у БССР. Савецкая прапаганда сцвярджала, што палякаў на ўсход ад ракі Буг няма, а тыя, хто лічыць сябе палякамі, насамрэч з'яўляюцца апалячанымі беларусамі.

Даволі часта здараліся выпадкі, калі палякаў прымушалі адмовіцца ад сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, упісваючы ў дакументы іншую нацыянальнасць. Усе іх патрабаванні забеспячэння магчымасці вучыць дзяцей у польскіх школах (што з'яўлялася канстытуцыйным правам) не задавальняліся савецкай і партыйнай уладамі. Загадчык аддзела народнай адукацыі Свіслацкага раёна Хомаў на бацькоўскім сходзе ў польскамоўнай школе заявіў: "*Польскія школы не маюць будучыні, а дзеці, якія іх скончаць, не змогуць далей вучыцца*[105]. *Польская мова з'яўляецца дрэннай мовай, таму што не мае класікаў, таму, пакуль не позна, няхай вашы дзеці пішуць заяву аб пераходзе ў рускую школу*"[106]. Прымусовае ператварэнне польскіх школ у школы з рускай альбо беларускай мовамі навучання, а таксама замена вопытных настаўнікаў-палякаў на прыехаўшых з усходу былі часта прычынамі таго, што вучні і настаўнікі не разумелі адзін аднаго[107].

Пастанова ЦК КП(б)Б аб мерапрыемствах, якія датычыліся арганізацыі народнай адукацыі ў заходніх абласцях Беларусі, прынятая 3 снежня 1939 г., і Пастанова бюро Беластоцкага абласнога камітэта КП(б)Б аб рэарганізацыі школ ад 13 снежня 1939 г. не пакінулі ніякіх спадзяванняў на развіццё польскамоўнай адукацыі. Цэнтральны і абласны партыйныя органы прынялі рашэнне аб тым, што большасць школ у заходніх абласцях БССР павінны быць беларускімі. Беластоцкая вобласць пакуль заставалася выключэннем сярод іншых абласцей. Тут дзейнічалі 967 польскіх школ, 217 беларускіх, 196 рускіх, 70 габрэйскіх, 15 літоўскіх і 1 нямецкая[108].

З вышэйзгаданых дакументаў вынікала, што праблема польскіх школ у іншых абласцях ужо вырашана, там іх засталося толькі 20. Зараз усе намаганні савецкіх і партыйных улад павінны былі накіроўвацца на ліквідацыю польскамоўнай адукацыі ў Беластоцкай вобласці. З гэтай мэтай было забаронена настаўнікам карыстацца польскімі адукацыйнымі праграмамі і падручнікамі, бо яны нібыта прапагандавалі фашысцкую ідэалогію. Загадвалася замяніць іх на савецкія. Таксама было прынята рашэнне аб падрыхтоўцы новых педагагічных кадраў для заходніх абласцей. Было запланавана да 1 студзеня 1940 г. адкрыць педагагічны

104 С. Сільвановіч, *Палітыка савецкіх улад у адносінах да польскага насельніцтва паміж вераснем 1939 і чэрвенем 1941 г.*, с. 197.

105 Вельмі падобныя аргументы супраць адраджэння польскамоўных школ у Беларусі прыводзілі ўлады ў 1990-я гг., выступаючы на бацькоўскіх сходах, на якіх бацькі патрабавалі адкрыцця польскіх школ у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Навагрудку, Воранаве, Лідзе і іншых гарадах.

106 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 53, арк. 57–58.

107 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 36, арк. 4.

108 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 1, арк. 81.

інстытут у Беластоку, настаўніцкі інстытут у Гродне, а таксама педагагічныя вучэльні ў Беластоку, Гродне і Ваўкавыску[109].

Вялікае значэнне ў працэсах саветызацыі і русіфікацыі палякаў надавалася перыядычнаму друку, які выдаваўся на рускай і беларускай мовах. Польскамоўныя газеты існавалі толькі ў Беластоцкай вобласці. У іншых заходніх абласцях іх практычна не засталося. У Беластоцкай вобласці выходзіла 6 газет, у якіх выкарыстоўвалася польская мова, толькі адна з іх была цалкам польскамоўнай. Незадоўга да вайны пачала выдавацца на польскай мове рэспубліканская газета "Sztandar Wolności" ("Сцяг Свабоды") накладам 30 тысяч экзэмпляраў. У чэрвені 1941 г. выйшлі 3 нумары рэспубліканскай польскамоўнай дзіцячай газеты "Піянер", наклад якой складаў 25 тысяч экзэмпляраў[110]. Распаўсюджванне камуністычных каштоўнасцей было важнай задачай савецкай улады, асабліва сярод маладога пакалення.

Аналіз рэлігійнай сітуацыі ў пачатку савецкай акупацыі ўсходніх тэрыторый былой Польскай Рэспублікі сведчыць пра стрыманае стаўленне новай улады да Каталіцкага касцёла. У гэты перыяд не ліквідаваліся прыходы, не было выпадкаў разбурэння храмаў і правядзення масавых антырэлігійных акцый. Улады ў барацьбе з каталіцтвам прымянялі іншыя метады. Асноўным з'яўляўся метад адміністрацыйнага ціску (абмежаванне дзейнасці ксяндзоў, атэізацыя) з мэтай пазбаўлення Касцёла сацыяльнай апоры. З публічнага жыцця выключаліся людзі, звязаныя з каталіцкай рэлігіяй. Шырока выкарыстоўваліся таксама метады фінансавага ўціску: нацыяналізацыя зямлі, пазбаўленне касцёлаў і кляштараў сродкаў існавання, павышэнне падаткаў. У першыя месяцы савецкія органы ўлады прымянялі "мяккія" метады абмежавання дзейнасці Касцёла, бо баяліся супраціву з боку мясцовага насельніцтва на тэрыторыі, якую цалкам не кантралявалі[111].

Выключна цяжкім для палякаў быў перыяд з лютага па чэрвень 1940 г.,[112] у які адбывалася дэпартацыя ў паўночныя і паўночна-ўсходнія вобласці СССР[113]. Міжнародная сітуацыя ў свеце, якая рэзка змянілася летам 1940 г. (акупацыя Францыі і заняцце Румыніі гітлераўскай Германіяй), істотным чынам паўплывала на палітыку савецкай улады датычна палякаў у заходніх абласцях БССР. Вайсковы канфлікт з Германіяй рабіўся ўсё больш рэальным. У вайскова-стратэгічных планах Сталіна тэрыторыя Польшчы павінна была стаць месцам галоўных

109 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 1, арк. 81, 83.

110 С. Сільвановіч, *Палітыка савецкіх улад у адносінах да польскага насельніцтва паміж вераснем 1939 і чэрвенем 1941 г.*, с. 198.

111 L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, s. 70–71.

112 А. Смалянчук, *Верасень 1939 года як месца памяці беларусаў*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, с. 17–20.

113 Больш падрабязна на гэту тэму — у наступным падраздзеле працы.

баёў[114], а заходнія вобласці БССР — прыфрантавой паласой[115]. Гэта прывяло да таго, што вышэйшае кіраўніцтва СССР зноў вярнулася да канцэпцыі стварэння Польскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. З гэтай мэтай у сярэдзіне 1940 г. савецкія ўлады разглядалі магчымасць супрацоўніцтва з былым прэм'ер-міністрам Польшчы Казімежам Бартлем[116]. Паралельна праводзіліся перамовы з групай раней арыштаваных, а зараз вызваленых з турмы польскіх афіцэраў на чале з падпалкоўнікам Зыгмунтам Берлінгам. Мэтай перамоў было стварэнне польскіх частак, якія б падпарадкоўваліся камандаванню Чырвонай арміі[117]. Усё гэта сведчыць пра новае бачанне будучай ролі Польшчы і палякаў.

Відавочныя змены ў палітыцы савецкіх улад адносна польскага насельніцтва ў заходніх абласцях БССР пачаліся ў канцы чэрвеня 1940 г. Амаль на год былі спынены масавыя дэпартацыі ў глыб Савецкага Саюза[118]. 1 кастрычніка 1940 г. выйшаў першы нумар агульнарэспубліканскай газеты на польскай мове "Sztandar Wolności", на старонках якой было дазволена размясціць публікацыі вядомых польскіх камуністаў: Паўла Фіндэра, Генрыка Вольпэ, Малгажаты Фарнальскай, Валянціны Найдус, Марцэлія Навоткі[119].

На працу ў розныя савецкія ўстановы зноў пачалі браць былых польскіх служачых і настаўнікаў. У кастрычніку-лістападзе 1940 г. урачыста святкавалася 85-я гадавіна смерці вядомага паэта Адама Міцкевіча. Мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай падзеі, праходзілі ў Маскве, Мінску, Беластоку і Гродне. У Навагрудку быў створаны музей паэта. Шэраг польскіх пісьменнікаў прынялі ў Саюз савецкіх пісьменнікаў[120]. У Беластоку працаваў дзяржаўны драматычны тэатр пад кіраўніцтвам Аляксандра Вянгеркі, у якім пастаноўкі ішлі на польскай мове[121].

---

114 Паводле савецкай вайсковай дактрыны Чырвоная армія рыхтавалася да наступальных баявых дзеянняў. Абарончая вайна не ўваходзіла ў планы камандавання, а тым больш адступленне перад ворагам. Савецкая прапаганда ўпэўнівала насельніцтва, што ў выпадку нападу на СССР вораг будзе разбіты на яго ж тэрыторыі. Гэта значыць, што ў выпадку нападзення Германіі на СССР баявыя дзеянні павінны былі быць перанесены на тэрыторыю, адкуль пачалася агрэсія. Пры такім раскладзе на прыфрантавой паласе (на тылавых подступах) аўтаматычна апынулася вялікая колькасць польскага насельніцтва, прадстаўнікоў якога арыштоўвалі і высылалі. Таму савецкае вышэйшае кіраўніцтва баялася рэакцыі палякаў на вайсковы канфлікт з Германіяй. Менавіта гэта ў першую чаргу прымусіла кардынальна змяніць палітыку датычна палякаў.

115 G. Hryciuk, *Polacy we Lwowie 1939–1944*, Warszawa 2000, s. 48.

116 W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich*, s. 280–281.

117 S. Jaczyński, *Zygmunt Berling. Między sławą a potępieniem*, Warszawa 1993, s. 86–101.

118 З сакрэтнай службовай запіскі № 148 "Аб правакацыйных антысавецкіх дзеяннях напярэдадні вайны з немцамі" начальніка Беластоцкага ўпраўлення народнага камісарыята дзяржаўнай бяспекі Бельчанкі да сакратара Беластоцкага АК КП(б)Б Кудраева ад 6 чэрвеня 1941 г. вынікала, што нямецка-савецкая вайна непазбежная. Нават сама назва службовай запіскі кажа, што СССР існаваў ва ўмовах чакання пачатку вайны з боку гітлераўскай Германіі. У такіх абставінах арганізаваная апошняя дэпартацыя насельніцтва Заходняй Беларусі, якая адбылася 19–20 чэрвеня 1941 г., верагодна з мэтай ачысткі тылавых раёнаў фронту ад "ідэалагічна ненадзейнага элемента". Гл.: ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 282, арк. 13–16.

119 A. Głowacki, *Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939–1941*, Łódź 1997, s. 502.

120 С. Сільвановіч, *Палітыка савецкіх улад у адносінах да польскага насельніцтва паміж вераснем 1939 і чэрвенем 1941 г.*, с. 200–201.

121 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 395, арк. 4.

З сярэдзіны 1940 г. у працы савецкіх і партыйных органаў усё часцей прымалі ўдзел члены Камуністычнай партыі Польшчы, якім было дазволена ўступаць таксама ў шэрагі УКП(б)[122]. Існавала невялікая група палякаў, грамадзян СССР, якія не сталі ахвярамі крывавых рэпрэсій 1937–1938 гг. Яны займалі розныя пасады ў партыйных, адміністрацыйных і гаспадарчых структурах саюзных рэспублік СССР. Гэтых палякаў пачалі актыўна накіроўваць на працу ў заходнія вобласці БССР[123].

21 кастрычніка 1940 г. ЦК КП(б)Б падрыхтаваў сакрэтны ліст, у якім раскрываліся ўсе недахопы працы партыйных і савецкіх органаў улады на далучаных тэрыторыях[124]. На хвалі змен у палітыцы, датычнай палякаў, партыйныя ўлады ў Мінску накіравалі ў падначаленыя ім структуры ліст, напісаны ў стылі сталінскага выступлення "Галавакружэнне ад поспехаў"[125]. Падобна да таго, як гэта зрабіў у свой час Сталін, за памылкі ў правядзенні няправільнай палітыкі абвінавачваліся ніжэйшыя структуры ўлады і шараговыя камуністы. У лісце пісалася пра памылкі ў працы з мясцовым насельніцтвам, у тым ліку пра беспадстаўнасць адкрыцця рускіх і беларускіх школ у месцах кампактнага пражывання палякаў[126], пра звальненні супрацоўнікаў польскай нацыянальнасці і знішчэнне кніг Адама Міцкевіча і Элізы Ажэшкі падчас правядзення рэвізій у бібліятэках і кнігарнях.

Цэнтральныя ўлады ў Мінску паводзілі сябе так, нібыта не мелі дачынення да гэтых дзеянняў. Але вядома, што мясцовыя органы кіравання былі толькі выканаўцамі іх распараджэнняў. Сакрэтны ліст ЦК КП(б)Б заканчваўся строгім указаннем мясцовым уладам неадкладна ліквідаваць усе недахопы, выяўленыя ў іх працы. Ім прадпісвалася ў справах нацыянальнага пытання кіравацца выключна наказамі Леніна і Сталіна[127]. Рашэнні, якія прымаліся такім чынам, былі накіраваны на тое, каб зрабіць больш лаяльным стаўленне польскага насельніцтва да савецкай улады і павялічыць уплыў на фарміраванне яго палітычных і грамадскіх поглядаў. З гэтай мэтай у 1940/1941 навучальным годзе павялічылася колькасць польскамоўных пачатковых школ з 547 (у 1939/1940) да 608 [128]. У Беластоцкім педагагічным інстытуце планавалася ў 1941/1942 акадэмічным годзе стварыць сталыя польскія аддзяленні. Падрыхтоўку настаўнікаў для польскіх школ вырашана

[122] W. Ciesielski, *Myśl polityczna polskich komunistów w latach 1939–1944*, Wrocław 1990, s. 19.

[123] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 392, арк. 86, 264, 376; спр. 390, арк. 376, 416; спр. 425, арк. 197–198.

[124] M. Gnatowski, *Radzieckie dokumenty o sytuacji społeczno-politycznej i "niedostatkach" w pracy partyjnej i państwowej na północno-wschodnich ziemiach Polski w latach 1939–1940*, "Studia Łomżyńskie", 1998, t. 9, s. 178–191.

[125] И. Сталин, *Головокружение от успехов. К вопросам колхозного движения*, "Правда", № 60, 2.03.1930.

[126] 27 верасня 1940 г. мясцовым уладам Беластоцкай вобласці накіраваная сакрэтная Пастанова Бюро Беластоцкага АК КП(б)Б, у якой крытыкавалася праца асобных кіраўнікоў раёнаў. Яны, пісалася ў Пастанове, насуперак патрабаванням бацькоў адкрывалі рускія і беларускія школы, а не польскія. Асаблівая ўвага ў гэтым пытанні звярталася на Сапоцкінскі раён. АК КП(б)Б катэгарычна забараніў у будучым такія дзеянні без яго дазволу, альбо дазволу Абласнога выканаўчага камітэта. Гл.: ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 399, арк. 213–214.

[127] W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich,* s. 281.

[128] Тамсама, с. 281.

было пачаць у 1942/1943 навучальным годзе ва ўсіх інстытутах і педагагічных вучэльнях Беластоцкай вобласці[129].

Непазбежнае набліжэнне вайны з гітлераўскай Германіяй прымусіла вышэйшае партыйнае і савецкае кіраўніцтва змяніць палітыку, датычную палякаў, якія жылі на былых усходніх тэрыторыях Польскай Рэспублікі, бо засталіся ў памяці факты, як паводзіла сябе польскае насельніцтва з савецкімі акупантамі, што ўварваліся на гэтыя землі 17 верасня 1939 г.[130]

Радыкальна змяняючы ў другой палове 1940 г. польскую нацыянальную палітыку ў заходніх абласцях БССР, савецкая ўлада планавала атрымаць узамен пэўную палітычную карысць. Пры гэтым яна не збіралася цалкам задаволіць усе патрэбы палякаў у іх грамадскім, культурным, духоўным і гаспадарчым жыцці. Паслабіўшы рэпрэсіі і вырашаючы пытанні ў абраных сферах польскай культуры і польскамоўнай адукацыі, улады імкнуліся займець новых прыхільнікаў камуністычнай ідэалогіі.

Будучыню Польшчы і палякаў вышэйшае савецкае кіраўніцтва бачыла толькі ў складзе СССР. Тых, хто не ішоў на супрацоўніцтва з органамі ўлады, альбо аказваў супраціў, арыштоўвалі і высылалі ў працоўныя лагеры ў паўночных і паўночна-ўсходніх раёнах СССР. Нягледзячы на тое, што метады і тактыка дзеяння ў савецкай улады ў гэты час сталі больш прадуманымі і ўдасканаленымі, галоўнымі стратэгічнымі задачамі былі паступовая татальная саветызацыя і русіфікацыя польскага насельніцтва.

[129] ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 399, арк. 208.

[130] Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 14657, арк. 44–99.

## 3. Арышты, дэпартацыі і перасяленне польскага насельніцтва

Распачатыя бальшавікамі ў 1930-я гг. крывавыя рэпрэсіі і пераслед палякаў у СССР (БССР)[131], у 1939–1941 гг. плаўна перайшлі ў заходніх абласцях Беларусі (пасля 17 верасня 1939 г.) у арышты, расстрэлы і дэпартацыю польскага насельніцтва ў паўночныя і паўночна-ўсходнія раёны Савецкага Саюза[132]. Гэта стала магчымым з-за таго, што на падставе савецкага заканадаўства прыналежнасць да некаторых грамадскіх і прафесійных груп была ўжо сама па сабе злачынствам. Уладальнікі прадпрыемстваў, якія выкарыстоўвалі наёмную працоўную сілу, землеўласнікі, заможныя сяляне і святары згодна з савецкімі законамі з'яўляліся антысавецкімі, контррэвалюцыйнымі і нацыяналістычнымі элементамі.

Усе, хто меў фармальную сувязь з такімі былымі структурамі польскай дзяржавы, як армія, паліцыя, а таксама дзяржаўныя служачыя, леснікі (у дачыненні да апошніх існавалі асцярогі ў іх массавай падтрымцы польскага антысавецкага руху, арганізаванага ў лясах) аўтаматычна лічыліся ворагамі народа. Да злачынцаў залічваліся члены "буржуазных", "кулацкіх", "контррэвалюцыйных" палітычных партый. У прынцыпе, гэта датычылася ўсіх, хто да 17 верасня 1939 г. займаўся палітычнай дзейнасцю, за выключэннем камуністычных арганізацый. Перасоўванне мяжы СССР на захад у 1939 г. азначала ўвядзенне савецкага заканадаўства на далучаных тэрыторыях[133]. У заходніх абласцях Беларусі да груп, якія падлягалі фізічнаму знішчэнню, залічвалася значная колькасць насельніцтва. Паколькі перад вайной элітай у асноўным з'яўляліся палякі, то яны сталі той нацыянальнай групай, якая найбольш пацярпела падчас увядзення так званага савецкага правапарадку.

Рэпрэсіі, што праводзіліся Чырвонай арміяй і НКУС[134], пачаліся адразу, у першыя дні ўсталявання савецкай улады на акупаваных тэрыторыях усходніх

---

131 Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Nowak, *Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982–2012*, Kraków 2012, s. 266–273; T. Snajder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, Warszawa 2011, s. 81–140; H. Kuromiya, *Głosy straconych*, Warszawa 2008.

132 У гэты перыяд, у красавіку 1940 г., здарылася некалькі выпадкаў крывавага генацыду палякаў: яны былі расстраляныя ў Катыні, Казельску, Асташкаве, Старабельску, а таксама ў турмах Заходняй Беларусі, дзе ўтрымліваліся польскія афіцэры і "класавыя ворагі савецкай улады" (паводле яе інтэрпрэтацыі). Падрабязней на гэту тэму гл.: Н. Лебедева, *Катынь. Преступление против человечества*, Москва 1994; W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, Warszawa 2005, s. 575–581; A. Paul, *Katyń*, Warszawa 2006; *Katyń. Dokumenty ludobójstwa. Dokumenty i materiały archiwalne przekazane Polsce 14 października 1992 r.*, oprac. W. Materski, Warszawa 1992; *Katyń. Dokumenty zbrodni*, oprac. N. Lebiediewa, W. Materski i in., t. I: *Jeńcy niewypowiedzianej wojny. Sierpień 1939 — marzec 1940*, Warszawa 1995; t. II: *Zagłada*, Warszawa 1998; t. III: *Losy ocalałych*, Warszawa 2001; C. Grzelak, *Kresy w czerwieni. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku*, Warszawa 2001.

133 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 164.

134 Падрабязней на тэму дзейнасці НКУС гл.: А. Вялікі, *Дзейнасць апаратыўна-чэкісцкіх груп у заходніх абласцях Беларусі ў верасні-кастрычніку 1939 г.*, [у:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, рэд. А. Смалянчук.

ваяводстваў Польскай Рэспублікі[135]. Да сярэдзіны кастрычніка 1939 г. арыштавана 3 535 чалавек. У асноўным гэта былі палітычныя дзеячы, паліцэйскія, прадстаўнікі памежнай службы і дзяржаўнай адміністрацыі[136]. Да канца 1939 г. сярод арыштаваных было 5 256 палякаў, 2 422 беларусы, 661 габрэй і 254 украінцы[137]. Варта заўважыць, што колькасць рэпрэсаваных беларусаў, нягледзячы на распаўсюджанае тады меркаванне, што прыйшла іх улада, прыйшлі іх вызваліцелі, была даволі значнай[138].

З 2 снежня 1939 г. па 5 верасня 1940 г. праводзілася рэгістрацыя прызыўнікоў у шэрагі Чырвонай арміі (прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей)[139], а таксама рэгістрацыя кадравых вайскоўцаў і вайскоўцаў, якія былі ў запасе былога польскага войска. Гэта было арганізавана з мэтай выяўлення падазроных асоб.

З той жа мэтай у лютым 1940 г. праводзілася пашпартызацыя насельніцтва, якая з'яўлялася прыхаванай часткай рэпрэсіўнай кампаніі. Вынікам пашпартызацыі павінна была стаць высылка тых грамадзян, што раней па розных прычынах не патрапілі ў катэгорыю контррэвалюцыянераў, але чые незалежныя паводзіны альбо сацыяльны статус не задавальнялі савецкую ўладу. Нявыдача пашпарта па рашэнні мясцовых органаў міліцыі аўтаматычна прыводзіла да высылкі[140].

Тэрор і арышты, што пачаліся адразу пасля 17 верасня 1939 г., працягваліся ў Беларусі і ў 1940 г., калі па палітычных матывах было арыштавана 13 414 палякаў, 9 482 габрэі, 4 461 беларус, 575 украінцаў. У студзені-лютым 1941 г. сярод арыштаваных было 940 палякаў, 488 беларусаў, 190 габрэяў і 53 украінцы[141]. Галоўнай мэтай арыштаў было вычляненне з беларускага грамадства людзей з пэўнымі палітычным і сацыяльным статусамі, якія ў будучым маглі ўдзельнічаць у антысавецкім супраціве. Як бачна з прыведзеных вышэй лічбаў, нацыянальнымі групамі, якія пацярпелі падчас рэпрэсій у БССР у 1939–1941 гг., акрамя палякаў былі беларусы і габрэі.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны Чырвоная армія ўзяла ў палон 14 736 польскіх афіцэраў, паліцыянтаў, жандараў, турэмных наглядчыкаў, а таксама супрацоўнікаў выведкі. Амаль 97 % затрыманых былі палякамі. Прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей складалі невялікую частку[142]. Польскія ваеннапалонныя, насуперак вайсковым законам і традыцыям, перадаваліся Чырвонай арміяй

135 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, Białystok b.d.w., s. 199.

136 W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich*, s. 279.

137 О. Горланов, А. Рогинский, *Об арестах в западных областях Белоруссии и Украины в 1939–1941*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, вып. 1, Москва 1997, с. 88.

138 Пра жыццё беларусаў пасля 17 верасня 1939 г. больш падрабязна гл.: *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, рэд. А. Смалянчук.

139 З восені 1939 г. да вясны 1940 г. у армію было мабілізавана каля 100 тысяч чалавек мясцовага насельніцтва 1917, 1918 і 1919 гадоў нараджэння. Гл.: J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 361.

140 С. Филиппов, *Деятельность органов ВКП(б) в западных областях Украины и Белоруссии в 1939–1941 гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, вып. 1, Москва 1997, с. 56–57.

141 О. Горланов, А. Рогинский, *Об арестах в западных областях Белоруссии и Украины в 1939–1941*, с. 88.

142 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, s. 199.

органам НКУС[143]. Згодна з распараджэннем шэфа НКУС Лаўрэнція Берыі ад 25 сакавіка 1940 г., усе ваеннапалонныя *"з прычыны свайго закаранелага варожага стаўлення да савецкай улады"* павінны былі быць асуджаны і расстраляны. Супрацоўнікаў, якія вялі справы арыштаваных афіцэраў, землеўласнікаў, прамыслоўцаў, дзяржаўных служачых і палітычных дзеячаў, вызвалілі ад абавязку камунікаваць з абвінавачанымі, выслухоўваць іх апраўданні, прадстаўляць ім акт абвінавачвання, а таксама абвяшчаць прысуд. Палітычнае бюро ЦК УКП(б) ухваліла прапанову Берыі, прадвызначыўшы тым самым лёс арыштаваных[144]. У БССР фармальна прысуд абвяшчала тройка супрацоўнікаў мінскага НКУС, у якую ўваходзілі Усевалад Мяркулаў, Амяк Кабулаў і Леанід Баштакоў[145].

5 снежня 1939 г. Савет Народных Камісараў СССР прыняў пастанову, паводле якой трэба было вывезці з акупаваных абласцей былой Польскай Рэспублікі ўсіх тых, хто патэнцыйна мог несці пагрозу бяспецы СССР, у тым ліку і ў памежнай паласе. За дзень да гэтага пытанне дэпартацыі польскага насельніцтва ўглыб СССР (у асноўным сем'яў асаднікаў) разглядалася на пасяджэнні Палітбюро ЦК УКП(б), на якім была зацверджана прапанова Берыі. Папярэдне вырашылі правесці гэтую акцыю 15 лютага 1940 г.[146]

Праз два тыдні — 29 снежня 1939 г. — Лаўрэнцій Берыя выдаў дырэктыву ў форме інструкцыі падначаленым структурам НКУС аб правядзенні ўліку асаднікаў і іх маёмасці, распрацоўцы планаў высялення, падрыхтоўцы аператыўных груп, а таксама аб правілах правядзення аперацыі. Інструкцыя падрабязна апісвала, што маглі ўзяць з сабой тыя, каго перасялялі. Пры гэтым ім гарантавалася медыцынскае забеспячэнне і гарачая ежа ў дарозе. Перасяленню ва ўсходнія вобласці СССР падлягала амаль сто тысяч чалавек з заходніх раёнаў БССР і УССР[147].

Палітбюро ЦК УКП(б) вырашыла таксама, што, акрамя ручнога багажу, які бралі з сабой дэпартаваныя, астатнюю іх маёмасць забіралі на карысць дзяржавы[148]. Іншымі словамі, назапашаныя многімі пакаленнямі палякаў, беларусаў, габрэяў матэрыяльныя каштоўнасці з дазволу кіраўніцтва СССР прысвойвалі тыя, хто за сваё жыццё, магчыма, і цвіка ў сцяну не забіў.

7 студзеня 1940 г. на нарадзе ў сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі было вырашана сумясціць высяленне асаднікаў з дэпартацыяй працаўнікоў лясной гаспадаркі. Савецкія органы ўлады лічылі, што ўсе, хто працаваў у польскай лесагаспадарцы, прадстаўляюць пагрозу для бяспекі СССР, таму што яны ўсе прайшлі вайсковую перападрыхтоўку. Паводле інфармацыі народнага камісара ўнутраных спраў БССР Лаўрэнція Цанавы, на пачатак студзеня 1940 г. у заходніх

---

143 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 577.

144 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 165.

145 A. Chackiewicz, *Aresztowania i deportacje społeczeństwa zachodnich obwodów Białorusi (1939–1941)*, [у:] *Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939–1941*, red. T. Strzembosz, M. Giżejewska, Warszawa 1995, s. 121.

146 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943,* s. 581.

147 *"Zachodnia Białoruś" 17 IX 1939–22 VI 1941. Deportacje Polaków z północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej*, t. 2, Warszawa 2001, s. 23.

148 Тамсама, дак. 1, с. 21–23.

абласцях Беларусі было ўлічана 45 409 асаднікаў, працаўнікоў лесагаспадаркі і іх сем'яў, якіх планавалася вывезці ўглыб РСФСР альбо ў Казахстан. Пры гэтым перасяліць належала і тых асаднікаў, якія па тых ці іншых прычынах страцілі зямлю і пераехалі ў горад. Падставамі для дэпартацыі былі атрыманне зямлі ва ўласнасць ад польскага ўрада і вайсковая перападрыхтоўка[149].

Перад тым як пачалася найбольш вядомая і трагічная першая масавая дэпартацыя, якая была праведзена ва ўмовах, што зневажалі чалавечую годнасць, і пры высокай смяротнасці (моцны лютаўскі мароз; вагоны без абагрэву, прызначаныя для перавозкі свойскай жывёлы; адсутнасць гарачага харчавання), быў і шэраг іншых перасяленняў. Так, напрыклад, у канцы кастрычніка — пачатку лістапада 1939 г., у межах аперацыі "ачышчэння" памежнай паласы (зоны) ад нядобранадзейных элементаў, з заходніх абласцей БССР ва ўсходнія яе раёны вывезена больш за 22 тысячы чалавек[150].

Як правільна і справядліва заўважыў польскі даследчык з Беластока Войцех Сляшынскі, новым элементам у савецкай рэпрэсіўнай палітыцы, выкарыстаным на былых землях Польскай Рэспублікі, было ўвядзенне ўпершыню ў такім вялікім маштабе калектыўнай адказнасці. У абавязковым парадку і пад прымусам адбывалася перасяленне сем'яў і цэлых супольнасцей. Гвалтоўнай дэпартацыі не пазбегла ніводная з нацыянальных груп. Напрыклад, шматлікія габрэі, якія з энтузіязмам сустракалі ў верасні 1939 г. часткі Чырвонай арміі, пазней былі абвінавачаны ў трацкізме і высланы. Але, як і ў выпадку арыштаў, падчас дэпартацыі найбольш пацярпела польскае насельніцтва[151].

Аперацыю па перасяленні рыхтавалі на працягу шасці тыдняў. Да ўдзелу ў ёй было прыцягнута каля 10 тысяч супрацоўнікаў НКУС, чырвонаармейцаў і міліцыянераў[152]. У распараджэнне органаў НКУС Заходняй Беларусі, што непасрэдна займаліся высылкай, накіравана з усходніх абласцей больш за 2 тысячы чэкістаў, а таксама каля 7 тысяч чырвонаармейцаў і міліцыянераў. У выніку арганізавана 4 тысячы аператыўных груп, якія мусілі займацца дэпартацыяй. Усе партыйныя і камсамольскія органы абавязваліся ўсяляк дапамагаць НКУС у вырашэнні гэтага пытання. Была падрыхтавана адпаведная колькасць цягнікоў, кантроль над якімі перадаваўся супрацоўнікам НКУС[153].

У пачатку лютага Лаўрэнцій Цанава паведаміў сакратару ЦК КП(б)Б Пантэляймону Панамарэнку, што колькасць людзей, якіх належала перасяліць, значна вышэйшая, чым прадугледжвалася раней. Аказалася, што шматлікія члены сем'яў асаднікаў і служачых лесагаспадаркі жылі асобна. Усяго дэпартацыі

149 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 166.

150 Падрабязней на гэту тэму гл.: D. Boćkowski, *Masowe deportacje ludności polskiej z tak zwanej Zachodniej Białorusi jesienią 1939 roku*, [у:] *Europa nieprowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie pogranicze III Rzeczypospolitej Polskiej) w latach 1772–1999*, praca zbiorowa, red. K. Jasiewicz, Warszawa — Londyn 1999, s. 983–992.

151 W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich*, s. 280.

152 A. Chackiewicz, *Aresztowania i deportacje ludności zachodnich obszarów Białorusi (1939–1941)*, [у:] *Polska — Białoruś 1939–1945*, red. W. Balcerak, Warszawa 1994, s. 147.

153 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 167.

падлягала 52 892 чалавекі, з іх 34 203 асаднікі і члены іх сямей, а таксама 18 689 працаўнікоў лясной гаспадаркі разам з сем'ямі[154].

У 1940–1941 гг. савецкія органы ўлады правялі на былых усходніх тэрыторыях Польскай Рэспублікі чатыры асноўныя прымусовыя дэпартацыі. Першая масавая высылка была праведзена 10 лютага 1940 г. Яе ахвярамі галоўным чынам былі вайскоўцы, асаднікі, іншымі словамі, удзельнікі польска-савецкай вайны 1920 г. і іншых баёў за незалежнасць Польшчы, якім дзяржава ў якасці ўдзячнасці і прызнання іх заслуг дала бясплатна зямлю. Былі таксама і цывільныя асаднікі і леснікі, якія набылі сваю гаспадарку за плату ў межах дзяржаўнай парцэляцыі[155].

У БССР 10 лютага 1940 г. у таварныя вагоны цягнікоў пасадзілі 50 224 чалавекі (9 548 сямей), якія жылі на тэрыторыі заходніх абласцей[156]. Цяжкія санітарныя ўмовы і холад (часамі мароз дасягаў –42 °C), адсутнасць належнага харчавання, што пацвярджалі ў сваіх справаздачах супрацоўнікі НКУС, якія суправаджалі эшалоны, прывялі да таго, што смяротнасць у момант прыбыцця на канцавы пункт складала 10 % і з'яўлялася найбольшай у параўнанні з іншымі дэпартацыямі[157]. Паводле іншых даных, смяротнасць падчас гэтай высылкі дасягнула 30 % і нават больш[158].

Асаднікі і працаўнікі лясной гаспадаркі, а таксама іх сем'і, што адсутнічалі на месцах пражывання падчас дэпартацыі, не былі вывезены. Іх налічвалася 1 581 чалавек. Акрамя таго, 547 чалавек былі хворымі, а 307 арыштавалі раней за захоўванне зброі. Частку тых, хто адсутнічаў 10 лютага 1940 г., у хуткім часе затрымалі з мэтай высылкі да сем'яў. Той жа лёс чакаў тых, хто ачуняў пасля хваробы.

Падчас дэпартацыі 10 лютага 1940 г. органы НКУС прыйшлі да высновы, што не ўсе асаднікі і леснікі былі ўлічаны. Паводле загаду Лаўрэнція Берыі было вырашана стварыць месцы для ўтрымання такіх людзей і наступнымі эшалонамі выслаць. Дакладна невядома, колькі з іх дэпартавалі на ўсход на дадатковым транспарце. Прыблізная колькасць гэтых людзей магла складаць некалькі тысяч чалавек[159].

Другая масавая дэпартацыя адбывалася 13 красавіка 1940 г. Яна праводзілася на падставе пастаноў СНК СССР ад 2 сакавіка 1940 г. і 8 красавіка 1940 г. Распрацаваныя раней супрацоўнікамі НКУС праекты гэтых пастаноў сталі падрабязнай інструкцыяй для тых, хто займаўся высылкай[160]. У спісах на дэпартацыю былі сем'і раней арыштаваных, а таксама сем'і ваеннапалонных з трох спецыяльных лагераў у Казельску, Асташкаве і Старабельску. Канчатковым пунктам,

---

154 Тамсама, с. 167.

155 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Stobniak-Smogorzewska, *Kresowe osadnictwo wojskowe 1920–1945*, Warszawa 2003, s. 285–309; *Katyń dokumenty zbrodni*, t. 1, s. 37.

156 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s.167.

157 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 583.

158 J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986*, Londyn 1988, s. 47.

159 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 168.

160 *"Zachodnia Białoruś" 17 IX 1939–22 VI 1941. Deportacje Polaków z północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej*, t. 2, s. 207–211.

куды ішлі эшалоны, быў Казахстан і яго вобласці — Акцюбінская, Акмолінская, Кустанайская, Паўладарская, Паўночна-Казахстанская і Сяміпалацінская[161].

З заходніх абласцей БССР належала выслаць 29 699 чалавек (8 639 сямей). 14 красавіка 1940 г. дэпартавалі 24 253 чалавекі. Усяго было рэпрэсавана 26 777 жыхароў Заходняй Беларусі. Верагодна, што 2 524 чалавекі былі арыштаваныя. Пра лёс амаль 3 тысяч чалавек, якіх, згодна з планам, не выслалі ў Казахстан, наркам НКУС БССР Лаўрэнцій Цанава нічога не паведамляў. Пры гэтым яны не былі рэпрэсаваны. Трэба адзначыць, што большасць дэпартаваных у красавіку 1940 г. складалі палякі[162].

Трэцяя масавая высылка была арганізавана 29 чэрвеня 1940 г. У яе спісах у асноўным былі бежанцы з былых цэнтральных і заходніх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай, якія выказалі жаданне вярнуцца ў Генеральнае Губернатарства (нямецкую зону акупацыі ў Польшчы)[163]. Па нацыянальнасці галоўным чынам гэта былі габрэі (85 %). Невялікі працэнт (11 %) складалі палякі. Месцамі высылкі былі Архангельская вобласць, Комі АССР, Марыйская АССР, а таксама Валагодская і Молатаўская вобласці[164]. Планавалася дэпартаваць 23 057 чалавек. У вагоны пагрузілі 22 879 чалавек, у тым ліку з Баранавіцкай вобласці — 2 495, Беластоцкай — 13 250, Брэсцкай — 5 856, Пінскай — 965, Вілейскай — 313 [165]. Большасць высланых габрэйскіх бежанцаў знаходзілася ў памежных раёнах, спадзеючыся на хуткае вяртанне на былое месца жыхарства.

Чацвёртая масавая дэпартацыя ў БССР праходзіла ў траўні і чэрвені 1941 г. Апошні вываз адбываўся напярэдадні нямецка-савецкай вайны, а менавіта 19–20 чэрвеня 1941 г. Перасяленню папярэднічалі арышты польскіх, беларускіх, габрэйскіх і рускіх дзеячаў розных грамадскіх і палітычных арганізацый. НКУС у той перыяд выявіў патаемную дзейнасць 109 “паўстанцкіх” і “антысавецкіх” арганізацый. Сярод арыштаваных (як сапраўдных, так і выдуманых загаворшчыкаў) было 2 904 палякі, 184 беларусы, 37 літоўцаў, 8 габрэяў і 97 чалавек іншых нацыянальнасцей[166]. Частку рэпрэсаваных складалі даваенныя дзеячы польскіх грамадскіх і палітычных арганізацый[167].

Высланыя польскія дзяржаўныя служачыя і афіцэры былых расійскіх белагвардзейскіх фарміраванняў, а таксама ўсе, каму можна было “прышыць” ярлык контррэвалюцыйнага элемента. Дэпартавалі і заможных сялян.

Па абвінавачванні ў антысавецкай дзейнасці арыштавана 2 059 чалавек, у тым ліку з Беластоцкай вобласці — 500, Баранавіцкай — 476, Брэсцкай — 300,

---

161 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 584.

162 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 169.

163 *“Zachodnia Białoruś” 17 IX 1939–22 VI 1941. Deportacje Polaków z północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej*, t. 2, dok. 43, s. 230–231.

164 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943,* s. 584.

165 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 169.

166 Тамсама, с. 169.

167 В. Ермаловіч, *Дзейнасць саюза ўзброенай барацьбы на тэрыторыі Беларусі (1939–1941 гг.)*, [у:] *Праблемы ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР: Гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы Міжнар. навук.-тэарэт. канф., Мінск 17–18 верасня 1999 г.*, адк. рэд. П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, Мінск 2000, с. 192–193.

Пінскай — 363, Вілейскай — 420. Іх сем’і таксама выслалі. Усяго было дэпартавана на ўсход 6 655 чалавек. Акрамя вышэйпералічаных катэгорый, у чэрвені 1941 г. высылалі сем’і тых, хто быў прысуджаны да вышэйшай меры пакарання, але хаваўся ад улад, збег за мяжу, а таксама сем’і рэпрэсаваных раней землеўласнікаў, гандляроў, прамыслоўцаў[168]. Усяго было перасялена 22 353 чалавекі. З Беластоцкай вобласці выслана 11 405 чалавек, з Брэсцкай — 3 039, з Баранавіцкай — 2 723, з Пінскай — 2 299, з Вілейскай — 2 887 [169].

Падчас чацвёртай масавай дэпартацыі людзей высылалі ў Краснаярскі і Алтайскі Край, Комі АССР, Казахстан, а таксама ў Новасібірскую, Омскую і Паўднёва-Казахстанскую вобласці[170]. Апошнія саставы цягнікоў з дэпартаванымі ішлі на ўсход, калі гітлераўскія войскі 22 чэрвеня напалі на СССР і перайшлі мяжу, устаноўленую падпісаннем Дагавора аб сяброўстве і межах 28 верасня 1939 г. Асобныя эшалоны ў гэты час трапілі пад бамбардзіроўку[171] нямецкай авіяцыі[172].

Ахвярамі чацвёртай масавай высылкі сталі ў асноўным жыхары памежных раёнаў заходніх абласцей БССР усіх нацыянальнасцей. З кастрычніка 1939 г. да 20 чэрвеня 1941 г. з гэтага рэгіёна выслана 120 тысяч чалавек. З іх палякаў — 90 тысяч, габрэяў — 23 тысячы, некалькі тысяч беларусаў і рускіх[173]. Усяго падчас чатырох дэпартацый рэпрэсавана 124 800 чалавек, не ўсе з іх былі высланы на ўсход СССР[174].

З БССР было выслана больш людзей, чым з астатніх рэспублік[175]. Гэта вынікае таксама з ліста наркама НКУС Берыі да Сталіна (ліст датычыўся палякаў, якіх дэпартавалі ўглыб СССР). Берыя паведамляў: *“На верасень месяц 1941 г. на ўліку было раней арыштаваных і высланых углыб СССР з заходніх абласцей Беларусі і Украіны (з тэрыторыі былой Польшчы) 389 382 чалавекі. З гэтай агульнай колькасці знаходзіліся ў турмах, лагерах і месцах высылкі 120 962 чалавекі, у спецыяльных пасяленнях (асаднікі і іншыя) 243 106 чалавек, у лагерах для ваеннапалонных 25 314 чалавек”*[176]. Улічваючы тое, што смяротнасць падчас дэпартацыі па розных ацэнках дасягала ад 10 да 30 %, агульная колькасць высланых будзе на 38–100 тысяч большай, а прымаючы пад увагу

[168] E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 169.

[169] W. Śleszyński, *Główne kierunki w polityce narodowościowej*, s. 280.

[170] W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943,* s. 585.

[171] Адзін з дэпартаваных з г. Беластока ўспамінаў: *“Пасля нападу немцаў на СССР 22 чэрвеня 1941 г. нямецкія самалёты бамбілі савецкія цягнікі, што рухаліся на ўсход. У выніку такой бамбардзіроўкі ў адным эшалоне, у якім везлі дэпартаваных, загінула каля 2 тысяч чалавек — ахвяр двух рэжымаў”.* Гл.: T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem,* Warszawa 2011, s. 173–174.

[172] Падрабязней на гэту тэму, а таксама на тэму чатырох дэпартацый гл.: A. Głowacki, *Sowieci wobec Polaków, na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej1939–1941*, Łódź 1997, s. 320–403; E. Kowalska, *Przeżyć aby wrócić! Polscy zesłańcy lat 1940–1941 w ZSRR i ich losy do roku 1946*, Warszawa 1998; *Wschodnie losy Polaków*, red. S. Ciesielski, Wrocław 1997; J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986*, Londyn 1988.

[173] E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 170.

[174] А. Хацкевич, *Узлы развязывает время*, “Неман”, 1994, № 1, с. 137.

[175] J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR 1939–1986*, Londyn 1988, s. 46.

[176] ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 64, арк. 379–380.

вынікі працы інспектара ЦК УКП(б) у БССР, звязаныя з праверкай дзейнасці ЦК КП(б)Б, у тым ліку па пытанні высылкі[177], можна меркаваць, што з Беларусі ў 1940–1941 гг. дэпартавана не менш за 170 тысяч чалавек.

Гэта сцвярджэнне можа мець права на існаванне ў сувязі з тым, што калі раней такія вядомыя польскія даследчыкі, як Станіслаў Цясельскі, Войцех Матэрскі і Анджэй Пачкоўскі лічылі, што падчас чатырох дэпартацый было выслана з былой тэрыторыі Польшчы каля 320 тысяч чалавек[178], то ў пазнейшай сваёй працы Матэрскі разглядаў колькасць высланых у межах каля 500 тысяч чалавек[179]. Станіслаў Александровіч, вядомы польскі даследчык, які перажыў сталінскую дэпартацыю 1940 г. у Казахстан, сцвярджаў, что колькасць дэпартаваных складала не менш за 440 тысяч чалавек. Больш за тое, пазней (на падставе вядомых яму фактаў, атрыманых падчас працы ў архівах) лічыў, што гэтая лічба магла быць яшчэ большай[180].

Супрацоўніцтва службаў бяспекі акупантаў — гестапа і НКУС — у барацьбе супраць польскага насельніцтва шырока вядомае. Тым не менш варта звярнуць увагу на наступныя факты з гісторыі іх сумеснай дзейнасці. Першая масавая дэпартацыя праходзіла 10 лютага 1940 г., адразу пасля другой сумеснай нарады гестапа і НКУС у Кракаве. Пасля трэцяй нарады ў сакавіку 1940 г. была арганізавана другая масавая высылка, а таксама адбыўся расстрэл польскіх ваеннапалонных афіцэраў з лагераў у Казельску, Асташкаве і Старабельску, турмаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны — былых грамадзян Польшчы[181]. Таксама паміж сабой супрацоўнічалі міністэрствы замежных спраў Германіі і СССР, якія абменьваліся па дыпламатычных каналах інфармацыяй пра сем'і палонных афіцэраў. Гэта дапамагала вызначыць месца іх жыхарства, а пасля рэпрэсаваць[182].

Мімаволі ўзнікае пытанне: навошта гестапа і НКУС у такі кароткі адрэзак часу трэба было сустракацца тры разы на такім высокім узроўні? Адказ напрошваецца сам сабой. Напэўна, сустрэчы адбываліся для таго, каб узгадніць планы сумесных дзеянняў па прафілактычным (папярэднім) знішчэнні небяспечнай для двух рэжымаў польскай вайсковай і цывільнай інтэлігенцыі.

Рэпрэсіі не абмяжоўваліся толькі чатырма аперацыямі НКУС, накіраванымі супраць асоб, грамадскі, палітычны і прафесійны статус якіх кваліфікаваўся, згодна з савецкім правам, не інакш як варожы, а саміх людзей называлі "ворагамі народа". Сістэматычна адбываліся арышты па падазрэнні ў прыналежнасці да нелегальных арганізацый, што займаліся антысавецкай

177 РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 139, арк. 201: Записка инспектора ЦК ВКП(б) с материалами проверки работы ЦК КП(б) Беларуси, проект постановления ЦК ВКП(б), а также отчёт о работе ЦК КП(б)Б, 06.1946–01.1947.

178 S. Ciesielski, W. Materski, A. Paczkowski, *Represje sowieckie wobec Polaków i obywateli polskich*, Warszawa 2000, s. 26.

179 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 585.

180 T. Kempa, *Profesor Stanisław Alexandrowicz (1931–2015). In memoriam,* "Zapiski Historyczne", 2015, t. LXXX, z. 1, s. 154, http://dx.doi.org/10.15762/ZH.2015.15, [8.09.2017].

181 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 585.

182 Тамсама, с. 586.

дзейнасцю. Вельмі часта даносы суседа альбо сваяка, зацікаўленага ў высылцы таго ці іншага чалавека, з'яўляліся вырашальнымі ў прад'яўленні абвінавачвання. Ніякага следства пры гэтым не праводзілася. Асуджаных высылалі ў Сібір альбо Казахстан[183].

З пачаткам калектывізацыі ў Заходняй Беларусі з'явілася новая катэгорыя грамадзян, якіх высылалі. Гэта датычылася ў першую чаргу сялян, што мелі лепшае матэрыяльнае становішча, чым іншыя жыхары вёскі. Нават знешні выгляд дома, які вылучаўся сярод навакольных, мог стаць падставай для дэпартацыі. На 22 чэрвеня 1941 г. НКУС запланаваў масавую высылку некалькіх дзясяткаў тысяч так званых кулакоў. Але распачатая гітлераўцамі ў гэты час вайна перашкодзіла НКУС ажыццявіць акцыю[184].

Варта прызнаць, што па сённяшні дзень невядомы дакладныя лічбы рэпрэсаваных на былых польскіх тэрыторыях у 1939–1941 гг. Расійскі даследчык Аляксандр Гур'янаў, вывучаючы гэтае пытанне, прыйшоў да высновы, што было дэпартавана каля 320 тысяч чалавек[185]. Што датычыцца колькасці арыштаў і прысудаў, то дакладнай інфармацыі пра іх няма. Польскія даследчыкі ў апошнія некалькі дзесяцігоддзяў пішуць пра 250 тысяч арыштаваных і змешчаных у лагеры ГУЛАГу, але сустракаюцца і іншыя лічбы ахвяр — як меншыя, так і большыя (ад 180 да 440 тысяч)[186].

Альбін Главацкі, даследчык з Лодзі, у сваіх працах піша, што ў 1940–1941 гг. было дэпартавана больш за 320 тысяч[187]. Станіслаў Цясельскі, Гжэгаж Грыцюк, Аляксандр Срэбракоўскі, на падставе даных НКУС, сцвярджаюць, што на працягу 21 месяца савецкія ўлады выслалі ў Сібір і Казахстан не менш за 315 тысяч былых польскіх грамадзян. Іх колькасная ацэнка, як кажуць самі даследчыкі, з'яўляецца прыблізнай, бо вывучана толькі частка багатай дакументацыі НКУС і іншых савецкіх дзяржаўных устаноў[188].

Загінулы ў Смаленскай катастрофе былы старшыня Інстытута нацыянальнай памяці Януш Куртыка пісаў, што лічба ў 320 тысяч дэпартаваных выклікае сумненне ў шматлікіх гісторыкаў, якія ацэньваюць колькасць ахвяр ад 700 тысяч да 1 мільёна чалавек[189]. Так, напрыклад, лічыць Ян Карскі. Ён піша, што ў перыяд з 1939 г. па чэрвень 1941 г. больш за мільён чалавек высланы ў Сібір

---

183 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 170–171.

184 Тамсама, с. 171.

185 А. Гурьянов, *Польские спецпереселенцы в СССР в 1940–1941 гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, вып. 1, Москва 1997, с. 114–136.

186 О. Горланов, А. Рогинский, *Об арестах в западных областях Белоруссии и Украины в 1939–1941*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, с. 77.

187 A. Głowacki, *Deportowani w latach 1940–1941*, [у:] *Polska 1939–1945. Straty osobowe i ofiary represji pod dwiema okupacjami*, Warszawa 2009, s. 245.

188 S. Ciesielski, G. Hryciuk, A. Srebrakowski, *Masowe deportacje ludności w Związku Radzieckim*, Toruń 2004, s. 246.

189 J. Kurtyka (prezes Instytutu Pamięci Narodowej), Z. Gluza (prezes Zarządu Fundacji Ośrodka Karta), *Przedmowa*, [у:] *Polska 1939–1945. Straty osobowe i ofiary represji pod dwiema okupacjami*, s. 8–9.

і Казахстан[190]. Альбін Главацкі прыводзіць даныя, што на снежань 1941 г. у СССР знаходзілася каля 765 тысяч палякаў[191].

Вядомы англійскі даследчык Норман Дэвіс, вывучаючы англамоўныя дзённікі палякаў, якіх дэпартавалі ў 1939–1941 гг., прыйшоў да высновы, што ў гэты час, у жахлівых умовах чыгуначных канвояў, у арктычныя раёны Расіі, Сібір і Казахстан было выслана два мільёны палякаў. Пры гэтым амаль палова з іх памерла на працягу года з дня арышту[192]. Відавочна гэтыя лічбы моцна завышаны. Ніхто з польскіх даследчыкаў гэтай тэмы, у тым ліку і ў Англіі, дагэтуль такімі данымі не аперавaў[193].

Норман Дэвіс справядліва сцвярджае, што савецкі даваенны тэрор па спосабах яго ажыццяўлення быў больш жорсткі, чым гітлераўскі ў гэты самы час. Да таго ж сталінскі тэрор меў перавагу над гітлераўскім, таму што нашмат раней стварыў неабходную для сябе "машыну" для знішчэння людзей, якую праверыў на практыцы падчас правядзення чыстак і рэпрэсій[194].

Амерыканскі навуковец Цімаці Снайдэр лічыць, што савецкія органы ўлады рэпрэсавалі ў СССР у 1939–1941 гг. каля паўмільёна былых польскіх грамадзян. Пры гэтым прыблізна 315 тысяч з іх былі дэпартаваны. Арыштаваных было каля 110 тысяч, з якіх прыкладна 30 тысяч расстралялі. Да таго ж каля 25 тысяч зняволеных памерла ў турмах з-за цяжкіх умоў[195].

Вялікая розніца ў колькасных даных арыштаў і дэпартацый палякаў, беларусаў, украінцаў, габрэяў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей з былых тэрыторый Польскай Рэспублікі ўзнікае ў сувязі з тым, што пакуль яшчэ не адкрыты для вольнага доступу архівы ў Расіі і Беларусі, асабліва архівы КДБ і МУС. Апроч таго, паводле даных расійскіх даследчыкаў, частка дакументаў, напрыклад эшалонныя спісы спецперасяленцаў, была свядома знішчана. Невядомым застаецца месца захоўвання часткі дакументаў картатэкі спецперасяленцаў-асаднікаў і спецперасяленцаў-бежанцаў, перададзенай 1-му спецыяльнаму аддзелу НКУС СССР[196].

Дэпартацыя, асабліва першая, арганізаваная органамі НКУС падчас суровых лютаўскіх маразоў, зрабіла на польскае насельніцтва прыгнятальнае ўражанне. Пра цяжкія ўмовы існавання ў месцах высылкі палякі даведваліся з лістоў, што атрымлівалі адтуль. Яны жылі ў пастаянным страху і няўпэўненасці ў будучым. Запланаванае знішчэнне польскага народа выклікала нянавісць не толькі

190 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 362.

191 A. Głowacki, *Deportowani w latach 1940–1941*, [у:] *Polska 1939–1945. Straty osobowe i ofiary represji pod dwiema okupacjami*, s. 329.

192 N. Davies, *Serce Europy. Polska przeszłość we współczesności*, s. 91.

193 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986,* Londyn 1988, s. 46; W. Wielhorski, *Los Polaków w niewoli sowieckiej (1939–1956),* Londyn 1956, s. 14–16.

194 N. Davies, *Serce Europy. Polska przeszłość we współczesności*, s. 90–91.

195 T. Snyder, *Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem*, s. 174.

196 А. Гурьянов, *Польские спецпереселенцы в СССР в 1940–1941 гг.*, [у:] *Репрессии против поляков и польских граждан*, с. 134.

да акупантаў, але і да ўсіх тых, хто ім дапамагаў складаць спісы на дэпартацыю, браў у ёй актыўны ўдзел, а таксама прысвойваў сабе маёмасць рэпрэсаваных[197].

Арышты, перасяленні і дэпартацыі палякаў з Заходняй Беларусі сталі другой пасля "польскай аперацыі" 1937–1938 гг. масавай акцыяй іх знішчэння на тэрыторыі БССР. Галоўнай задачай пры гэтым была ліквідацыя польскай эліты — інтэлігенцыі, вайскоўцаў, духавенства, дзяржаўных служачых, прыватных прадпрымальнікаў, заможных сялян, адукаваных людзей, а таксама тых, хто мог бы перашкодзіць савецкім партыйным і адміністрацыйным органам нівеліраваць сацыяльна-палітычны твар былых польскіх зямель.

Збольшага ўвага гэтай акцыі была накіравана на памежныя раёны, каб ачысціць іх ад нядобранадзейнага альбо патэнцыйна нядобранадзейнага элемента ва ўмовах надыходзячай вайны. Паводле меркавання вышэйшага кіраўніцтва СССР, гэтыя мерапрыемствы ў канчатковым выніку павінны былі запалохаць польскае насельніцтва і стварыць усе неабходныя ўмовы для яго няўхільнай саветызацыі.

Польскі ўрад у выгнанні ведаў пра трагедыі, якія перажываў польскі народ у СССР, але з-за адсутнасці дыпламатычных адносін з Савецкім Саюзам практычна нічога не мог зрабіць. У такіх умовах заставалася толькі выступіць супраць парушэння савецкім урадам элементарных міжнародных прынцыпаў права і справядлівасці і зрабіць гэты пратэст як мага больш публічным[198], што ў канчатковым выніку і было здзейснена.

[197] С. Сільвановіч, *Палітыка савецкіх улад у адносінах да польскага насельніцтва паміж вераснем 1939 і чэрвенем 1941 г.*, с. 200.

[198] *Historia dyplomacji polskiej*, red. W. Michowicz, t. V: *1939–1945*, Warszawa 1999, s. 187.

## 1. Узаемаадносіны паміж урадамі СССР і Польшчы ў 1941–1944 гг.

22 чэрвеня 1941 г. войскі гітлераўскай Германіі без абвяшчэння вайны напалі на Савецкі Саюз. Міжнародная сітуацыя кардынальна змянілася. Захопніцкія планы Сталіна, якія тычыліся ўсходніх зямель Польшчы і актыўна рэалізоўваліся ў першыя месяцы Другой сусветнай вайны, разбіліся ўшчэнт. Але гэта не азначала, што савецкі дыктатар зусім ад іх адмовіўся[1].

Ваенны канфлікт паміж двума былымі саюзнікамі, якія сумеснымі намаганнямі знішчылі Польскую Рэспубліку, стварыў абсалютна новыя ўмовы для дзейнасці польскай дыпламатыі. Узнікла пытанне аднаўлення двухбаковых польска-савецкіх адносін. Польскі ўрад у Лондане вырашыў выкарыстаць складаную сітуацыю, у якой апынуўся ў першыя дні вайны СССР, каб дапамагчы сотням тысяч польскіх грамадзян, што знаходзіліся ў лагерах для ваеннапалонных, турмах, працоўных лагерах, былі дэпартаваны ў паўночныя і ўсходнія вобласці Савецкага Саюза.

23 чэрвеня 1941 г. на нарадзе Савета Міністраў Польскай Рэспублікі прынята рашэнне аб неабходнасці ангажавання ў сумесную з СССР дзейнасць. Ролю пасярэдніка ў перамовах паміж польскім урадам і савецкім паслом у Лондане Іванам Майскім узяў на сябе міністр замежных спраў Вялікабрытаніі Энтані Ідэн[2].

Пры гэтым трэба адзначыць, што адразу пасля таго, як Гітлер напаў на СССР, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Уінстан Чэрчыль прапанаваў Маскве дапамогу і супрацоўніцтва[3]. Рэалізацыю сваіх палітычных абяцанняў ён пачаў з ціску на генерала Сікорскага, каб той ініцыяваў перамовы з СССР. Вераломства Савецкага Саюза адносна дагавораў, падпісаных з Польшчай да 1939 г., выклікала недавер да Сталіна і нежаданне весці з ім перамовы. Але ў новай геапалітычнай сітуацыі, калі адзін з саюзнікаў напаў на другога, з якім раней акупаваў Польшчу, польскі ўрад мог паспрабаваць вырашыць тыя задачы, якія перад сабой паставіў[4].

Выступаючы 23 чэрвеня 1941 г. па радыё, прэм'ер-міністр польскага ўрада Уладзіслаў Сікорскі выказаў надзею на тое, што Масква анулюе дамову, падпісаную з Германіяй у 1939 г., і вернецца да асноў Рыжскага мірнага дагавора, які мае сілу абавязковага для яе закона. У такіх умовах, казаў польскі палітык, магчыма аднавіць дыпламатычныя адносіны з Савецкім Саюзам. Пра палякаў у СССР ён сказаў: *"За любоў да польскага народа, свабоду і гонар тысячы палякаў і надалей пакутуюць у савецкіх турмах, тысячы асуджаны*

---

1 E. Kowalczyk, *Obraz partyzantki sowieckiej na terytorium północno-wschodniej Rzeczypospolitej Polskiej w świetle meldunków delegatury rządu na Kraj*, [y:] *W objęciach wielkiego brata. Sowieci w Polsce 1944–1993*, red. K. Rokicki, S. Stępień, Warszawa 2009, s. 377.

2 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, Warszawa 2005, s. 606.

3 W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski. Okres 1939–1945*, wyd. IV, Londyn 1986, s. 171–173.

4 W. Materski, *Tarcza Europy. Stosunki polsko-sowieckie 1918–1939*, Warszawa 1994, s. 112.

*на смерць ад нястачы і голаду, чвэрць мільёна ваеннапалонных марна губляюць свае сілы ў лагерах,* […] *няўжо не было б сумленна і справядліва вярнуць гэтым людзям свабоду?*”[5]

Паколькі з боку Масквы не было ніякай рэакцыі, 4 ліпеня 1941 г. Сікорскі звярнуўся з афіцыйным лістом да міністра Ідэна з просьбай аб публічнай падтрымцы. Польскі прэм'ер прасіў знешнепалітычнае ведамства (Foreign Office) надрукаваць заяву, у якой бы паведамлялася аб тым, што Вялікабрытанія ніколі не прызнавала анексіі ўсходніх тэрыторый Польшчы Савецкім Саюзам і што савецка-польскія перамовы маюць вялікае значэнне для вядзення вайны з Гітлерам[6]. У той жа дзень Ідэн сустрэўся спачатку з Іванам Майскім, а пасля з Уладзіславам Сікорскім. Майскі ўпэўніў міністра Вялікабрытаніі ў тым, што савецкі ўрад гатовы стварыць палякам умовы для арганізацыі ў СССР Польскага народнага камітэта і сваіх узброеных вайсковых сіл[7].

5 ліпеня 1941 г. адбылася першая сустрэча прэм'ера польскага ўрада Уладзіслава Сікорскага і міністра Аўгуста Залескага з Іванам Майскім[8]. Падчас перамоў яны пагадзіліся, што аднаўленне дыпламатычных адносін знаходзіцца ў інтарэсах дзвюх краін. Рознагалоссі тычыліся ваеннай размежавальнай лініі паміж дзвюма дзяржавамі. Польская дэлегацыя настойвала не толькі на ануляванні савецка-нямецкіх дагавораў, але перш за ўсё на зацвярджэнні акта пасляваеннага вяртання да мяжы, якая была ўстаноўлена Рыжскім мірным дагаворам. Майскі, пагаджаючыся ануляваць дамоўленасці з Германіяй, адмаўляўся праводзіць дыскусію аб межах, кажучы, што СССР не можа прызнаць межы, якія з'явіліся пасля 1921 года[9].

Паколькі савецкі бок пагадзіўся адмяніць пакт Рыбентропа-Молатава, а таксама Дагавор аб сяброўстве і межах ад 28 верасня 1939 г., прэм'ер Сікорскі палічыў дыскусію на тэму размежавальнай лініі паміж Польшчай і СССР менш значнай. Ён пагадзіўся перанесці абмеркаванне гэтага пытання на пасляваенны час. Як лічыць Войцех Матэрскі, такая згода прэм'ера была яго вялікай дыпламатычнай памылкай, якая сведчыла пра дрэнную падрыхтоўку і некампетэнтнасць у правядзенні такога кшталту перамоў[10].

11 ліпеня 1941 г., пасля таго як Майскі атрымаў інструкцыю ад свайго ўрада, адбылася чарговая сустрэча. Савецкі бок пагадзіўся ануляваць савецка-нямецкія дамовы, датычныя Польшчы, заявіўшы аднак, што гэта не азначае вяртання да даваенных яе межаў. Таксама не было згоды на вызваленне ўсіх рэпрэсаваных польскіх грамадзян.

17 ліпеня 1941 г. Майскі заявіў Ідэну: *“Савецкі ўрад ні ў якім выпадку не прызнае польска-савецкую мяжу ліпеня 1939 года”*. Калі палякі будуць далей

5 J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986*, Londyn 1988, s. 72.

6 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, wstęp T. Snyder, Poznań 2014, s. 348.

7 Тамсама, с. 348.

8 Тамсама, с. 348.

9 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 607.

10 Тамсама, с. 607.

настойваць, то савецкая ўлада можа стварыць Польскі народны камітэт у СССР. *"Ёсць даволі шмат палякаў, якія, мякка кажучы, не любяць польскі ўрад"*,— сцвярджаў Майскі. Апроч таго, урад у выгнанні валодаў інфармацыяй аб тым, што польскія камуністы ў СССР перадалі ў Народны камісарыят замежных спраў праект стварэння польскіх вайсковых частак пад сваім камандаваннем[11].

У такой сітуацыі стала відавочна, што Масква не толькі не трактавала ануляванне дагавора з немцамі як акт прызнання даваеннай мяжы Польшчы, але, больш за тое, выкарыстоўвала яго ў сваіх мэтах, карыстаючыся пры гэтым падтрымкай Вялікабрытаніі. 24 ліпеня 1941 г. Ідэн атрымаў інструкцыю, згодна з якой павінен быў праінфармаваць Сікорскага аб прыняцці брытанскім вайсковым камітэтам таго варыянта польска-савецкай дамовы, які быў прапанаваны Масквой, і аб тым, што гэта робіцца ў інтарэсах Польшчы[12].

Польскі прэм'ер-міністр трапіў у складаную сітуацыю. Перад ім паўстала дылема: альбо выратоўваць рэпрэсаваных у СССР палякаў (коштам уступак у ключавым пытанні палітычных савецка-польскіх перамоў, асуджаючы сябе на крытыку з боку польскай эліты), альбо пайсці на канфлікт з Вялікабрытаніяй. Заставалася яшчэ адно вельмі важнае пытанне — стварэнне на тэрыторыі Савецкага Саюза польскіх узброеных сіл, якія па сваім колькасным складзе павінны былі значна пераўзыходзіць польскія вайсковыя часткі на Захадзе. Больш за тое, як лічаць асобныя даследчыкі, Сікорскі дзейнічаў пад уплывам унутранай упэўненасці, што больш значным ва ўсім гэтым з'яўляўся не змест дамовы, якая нармалізавала адносіны з СССР, а пасляваенная пазіцыя польскай дзяржавы на мірнай канферэнцыі. Для выканання гэтай задачы патрабавалася моцная і шматлікая армія, якую немагчыма было стварыць без дагавора[13].

30 ліпеня 1941 г. ва ўрачыстай абстаноўцы ў Форын-офісе генерал Уладзіслаў Сікорскі ад імя польскага ўрада і прадстаўнік савецкага боку пасол Іван Майскі ў прысутнасці прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Уінстана Чэрчыля і міністра Энтані Ідэна падпісалі дагавор паміж урадамі СССР і Польшчы, які адразу атрымаў умоўную назву Дагавор Сікорскага-Майскага[14]. Чэрчыль уручыў генералу Сікорскаму ноту брытанскага ўрада[15], якая зацвярджала і гарантавала непрызнанне ніякіх змен межаў Польшчы пасля 25 жніўня 1939 года[16]. Наколькі гэтыя гарантыі былі сур'ёзнымі і адказнымі, сведчыць наступны факт. У той жа самы дзень міністр Ідэн, адказваючы на відавочна інспіраванае пытанне дэпутата Джона Мак-Івэна (Johna McEwena) у Палаце абшчын, адназначна канстатаваў, што не можа быць нават і гаворкі пра якія-небудзь брытанскія

---

11 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 352–353.

12 Тамсама, с. 353.

13 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 613.

14 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, Warszawa 1973, dok. 133, s. 232.

15 Гэта было ўмовай падпісання дагавора з польскім бокам. Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 605–614.

16 *Документы и материалы по истории советско-польских отношений,* т. 7, Москва 1973, s. 208, 217–218; L. Mitkiewicz, *Z gen. Sikorskim na obczyźnie*, Paryż 1968, s. 163.

гарантыі, што тычыцца пасляваенных межаў Польшчы. Сігнал адназначны — у польска-брытанскіх стасунках пачаўся новы перыяд, які праходзіў у цені ўзаемаадносін паміж Лонданам і Масквой[17].

Генерал Сікорскі падпісаў дагавор, парушаючы тым самым польскую канстытуцыю, бо не атрымаў на гэта згоды прэзідэнта Польшчы Уладзіслава Рачкевіча[18], а таксама насуперак пратэстам трох міністраў польскага ўрада — Марыяна Сэйды, Казіміра Саснкоўскага, Аўгуста Залескага[19]. Генерал Казімір Саснкоўскі быў прынцыпова супраць першага пункта дакумента, у якім гаварылася: *"Урад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік прызнае, што савецка-нямецкія дамовы ад 1939 г., якія тычацца тэрытарыяльных змен у Польшчы, страцілі сваю моц. Урад Польскай Рэспублікі заяўляе, што Польшча не звязаная з трэцяй дзяржавай ніякім дагаворам, які накіраваны супраць СССР"*. Саснкоўскі лічыў, што такая фармуліроўка гэтага пункта з'яўляецца неадназначнай і можа трактавацца па-рознаму. Таксама ён сцвярджаў, што гэтая частка дагавора не мае значнага для Польшчы заканадаўчага зместу, паводле яго меркавання, савецка-нямецкія дамовы 1939 г. аўтаматычна страцілі сваю моц пасля пачатку вайны паміж СССР і Германіяй. Генерал Саснкоўскі патрабаваў, каб першы пункт дакумента быў сфармуляваны наступным чынам: *"Савецкі ўрад па пытанні польска-савецкай мяжы прызнае яе прававы статус ад ліпеня 1939 года"*. Калі яго прапанова змяніць дагавор не была прынята прэм'ерам, то генерал падаў у адстаўку і ў хуткім часе пакінуў урад[20].

Дамова Сікорскага-Майскага мела сакрэтны пратакол, які рэгуляваў пытанні амністыі польскіх грамадзян, што знаходзіліся ў турмах альбо на высылцы. У пратаколе было напісана: *"З моманту аднаўлення дыпламатычных адносін урад СССР абвесціць амністыю для тых польскіх грамадзян, якія пазбаўлены свабоды на яго тэрыторыі як ваеннапалонныя альбо з іншых прычын"*[21].

Савецкі бок адразу пасля падпісання дагавора паведаміў польскаму аб тым, што СССР гатовы акрэдытаваць ва ўрадзе Польшчы ў Лондане Аляксандра Багамолава. 13 жніўня 1941 г. у Маскве прызямліўся англійскі самалёт, на борце якога быў часовы паверераны па справах Польшчы ў СССР Юзаф Рэцінгер (быў прызначаны на гэтую пасаду нотай, накіраванай на адрас Народнага камісарыята замежных спраў 10 жніўня 1941 г.). Згодна з раней падпісаным дагаворам пачалася рэалізацыя двухбаковых міжнародных адносін паміж Польшчай і СССР[22].

---

17 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 615–616.

18 L. Mitkiewicz, *Z gen. Sikorskim na obczyźnie*, s. 160.

19 Падрабязней на тэму прадухілення крызісу ў трэцяй дэкадзе жніўня прэзідэнтам Польшчы Рачкевічам, які ў выніку перастаў блакаваць Дагавор Сікорскага-Майскага, і пра звальненне трох міністраў — Сэйды, Саснкоўскага і Залескага, гл.: M. Drozdowski, *Władysław Raczkiewicz. Prezydent RP*, t. 2, Warszawa 2002, s. 110; "Dziennik Ustaw RP", 3.09.1941, nr 5, s. 24.

20 K. Sosnkowski, *Materiały historyczne*; zebrał i przypisami zaopatrzył J. Matecki, Londyn 1966, s. 15.

21 L. Mitkiewicz, *Z gen. Sikorskim na obczyźnie*, s. 163.

22 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 136, s. 236.

За 19 дзён да прыезду ў Маскву польскага пасла прафесара Станіслава Кота Рэцінгер выканаў значную працу, датычную вызвалення польскіх грамадзян з турмаў і высылкі. Падчас размовы з намеснікам наркама замежных спраў Вышынскім ён выказаў сумненні ў тым, што Указ аб амністыі сапраўды ахапіў усіх грамадзян Польшчы. Рэцінгер перадаў савецкаму ўраду спіс асоб, з якімі пасольства не змагло скантактавацца альбо не здолела атрымаць інфармацыю пра месца іх знаходжання. Таксама ён займаўся пытаннямі фарміравання польскай арміі ў СССР[23].

Польская амбасада ў Маскве звярнулася ў Наркамат замежных спраў з просьбай праінфармаваць яе аб працэсе рэалізацыі Указа аб амністыі[24]. Гэтае пытанне было найважнейшым, бо ад станоўчага яго вырашэння залежалі лёсы і жыццё больш як мільёна рэпрэсаваных польскіх грамадзян[25]. З такой жа энергіяй і ініцыятывай праводзіў сваю штодзённую працу пасол Польшчы ў СССР Станіслаў Кот, нягледзячы на цяжкія ўмовы дзейнасці амбасады як у Маскве, так і ў Куйбышаве[26]. Асноўнымі пытаннямі, якія ён спрабаваў вырашыць, былі наступныя: вызваленне польскіх грамадзян з турмаў і высылкі, аказанне ім дапамогі, фарміраванне польскай арміі ў СССР, пошук польскіх афіцэраў, што былі ў лагерах у Казельску, Старабельску і Асташкаве[27].

Згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 12 жніўня 1941 г. аб амністыі былых польскіх грамадзян, з турмаў, высылкі, спецыяльных пасяленняў і лагераў для ваеннапалонных было вызвалена 389 041 чалавек[28]. Пры гэтым, нягледзячы на ранейшыя заявы савецкіх улад, пад амністыю не трапіў 341 чалавек[29]. Ці можна давяраць гэтым лічбам? Верагодна, не. Крывадушная палітыка савецкага ўрада рэалізоўвалася па такім прынцыпе: з аднаго боку абвяшчалася амністыя, а з другога — кіраўніцтва НКУС рабіла ўсё, каб пакінуць дэпартаваных у месцах іх зняволення, бо мела патрэбу ў працоўнай сіле.

Амаль адразу пасля падпісання і публікацыі савецка-польскага дагавора з'явіліся супярэчнасці паміж польскім і савецкім урадамі адносна яго тлумачэння. Генерал Сікорскі падчас свайго выступлення па радыё 31 ліпеня 1941 г. сказаў, што няма ніякіх падстаў думаць, што дагавор ставіць пад сумненне дзяржаўныя межы Польшчы да 1939 г. У хуткім часе стала зразумела, што гэтая заява не адпавядала рэчаіснасці. Ужо 3 жніўня 1941 г. газета "Известия" (афіцыйны маскоўскі ўрадавы орган перыядычнага друку) абвергла заяву польскага прэм'ера. У ёй

23 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 623.

24 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 141, s. 244–247.

25 Падрабязней на гэту тэму гл.: N. Davies, *Serce Europy. Polska: przeszłość we współczesności*, Kraków 2014, s. 88–92; J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986*, s. 94–193; *Sprawozdanie z dyskusji dotyczącej liczby obywateli polskich wywiezionych do Związku Sowieckiego w latach 1939–1941*, "Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej", t. XXXI, Warszawa 1996, s. 117–148.

26 Падрабязней на гэту тэму гл.: S. Kot, *Listy z Rosji do gen. Sikorskiego*, Londyn 1955; ён жа, *Rozmowy z Kremlem*, Londyn 1959; *Historia dyplomacji polskiej*, t. V: *1939–1945*, red. W. Michowicz, Warszawa 1999.

27 Падрабязней на гэту тэму гл.: S. Kot, *Listy z Rosji do gen. Sikorskiego*, Londyn 1955; ён жа, *Rozmowy z Kremlem*, Londyn 1959; *Historia dyplomacji polskiej*, t. V: *1939–1945*, red. W. Michowicz, Warszawa 1999.

28 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 64, арк. 380.

29 Тамсама, арк. 380.

было напісана, што дагавор наогул не прадугледжвае вяртання да даваеннай польска-савецкай мяжы[30].

Падчас правядзення перамоў савецкі бок усялякімі спосабамі даваў зразумець, што не мае намеру прызнаваць польска-савецкую мяжу, хаця публічна пра гэта не заяўлялася. Польскі ўрад у такой сітуацыі імкнуўся схіліць СССР у бок прыняцця выгоднага для сябе рашэння, але ўсе намаганні былі марныя. Прычынай такога становішча быў крызіс, які перажываў польскі ўрад[31], а таксама ціск брытанскага кіраўніцтва, што прымусіў пагадзіцца на маскоўскую версію дагавора[32]. Чэрчыль не меў ніякага жадання падтрымліваць Польшчу. Наадварот, як вышэй адзначалася, ужо ў ліпені 1941 г. ён ухваляў і падтрымліваў пазіцыю Крамля па пытанні польска-савецкіх стасункаў[33].

Польская армія, якую ўдалося аднавіць у Францыі ў 1939–1940 гг., налічвала каля 80 тысяч чалавек. Пасля паражэння Францыі змагло эвакуіравацца ў Вялікабрытанію толькі каля 20 тысяч вайскоўцаў. Важнай задачай дзейнасці генерала Сікорскага і яго кабінета было колькаснае павелічэнне польскіх узброеных сіл. Чацвёрты артыкул Дагавора ад 30 ліпеня 1941 г. прадугледжваў не толькі фарміраванне польскай арміі ў СССР, але і шматразовае павелічэнне яе складу, паколькі савецкая ўлада прызнавала факт знаходжання ў палоне на яе тэрыторыі каля 200 тысяч польскіх салдат і афіцэраў[34]. Кіраўніком польскай вайсковай місіі Сікорскі прызначыў генерала Зыгмунта Богуша-Шышку, які накіраваўся ў Маскву 2 жніўня 1941 г. Гэта быў добры выбар, таму што генерал пачынаў сваю кар’еру ў расійскай царскай арміі, добра валодаў рускай мовай, ведаў рускую культуру, традыцыі і мог лёгка наладзіць кантакт з афіцэрамі і генераламі Чырвонай арміі[35].

6 жніўня 1941 г. прэм’ер Сікорскі прызначыў генерала Уладзіслава Андэрса камандуючым польскай арміі, якая стваралася ў СССР. Першапачаткова на гэтую пасаду Сікорскі планаваў абраць старэйшага па вайсковым званні генерала Станіслава Галера, але яго не атрымалася знайсці[36]. Пазней стала вядома, што генерал Галер быў расстраляны на падставе рашэння Палітбюро ЦК УКП(б) ад 5 сакавіка 1940 г. як ваеннапалонны лагера ў Старабельску[37].

Перамовы польскай вайсковай місіі з прадстаўнікамі савецкай дэлегацыі пачаліся 7 жніўня 1941 г. З польскага боку ў іх удзельнічалі Богуш-Шышка і Андэрс. З савецкага — генералы Георгій Жукаў, Аляксей Панфілаў, Аляксандр Васілеўскі і палкоўнік Іван Еўсцігнееў. Палякамі быў падрыхтаваны праект дамовы, на падставе якога праводзіліся перамовы. Гэты праект складаўся пад

30 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 355.

31 Падрабязней на тэму крызісу ў польскім урадзе гл.: W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski. Okres 1939–1945*, s. 178–194.

32 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 355.

33 Тамсама, с. 355.

34 W. Anders, *Bez ostatniego rozdziału. Wspomnienia z lat 1939–1946*, Lublin 1992, s. 86.

35 L. Mitkiewicz, *Z gen. Sikorskim na obczyźnie*, s. 159.

36 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 634.

37 J. Tucholski, *Mord w Katyniu. Kozielsk, Ostaszków, Starobielsk. Lista ofiar*, Warszawa 1991, s. 415.

пільным кантролем Сікорскага. Пасля таго як ён зрабіў праўкі ў дакуменце (каб савецкі бок не мог трактаваць яго ў выгодным для сябе святле), генерал Богуш-Шышка паказаў яго савецкім вайскоўцам. Атрымаўшы толькі вусную згоду ад генерала Панфілава[38] на прыняцце гэтага праекта, Богуш-Шышка не настаяў на афармленні адпаведнага пратакола ў пісьмовым выглядзе. Праз некалькі месяцаў стала зразумела, што гэта было вялікай памылкай[39].

14 жніўня 1941 г. генерал Богуш-Шышка падпісаў двухбаковы ваенны дагавор з прадстаўніком савецкага боку генералам Васілеўскім[40]. Фарміраванне ў СССР польскай арміі, якая павінна была стаць часткай вайсковых сіл незалежнай Польшчы, ажыццяўлялася шляхам абавязковага прызыву і добраахвотнага набору[41]. Пачаткам стварэння польскай арміі ў СССР стала падпісанне генералам Андэрсам загада № 1, што адбылося 22 жніўня 1941 года[42].

Важнасць стварэння польскай арміі ў СССР была не толькі ў арганізацыі ўзброеных сіл. Працэс дазваляў таксама “выцягнуць” з турмаў, лагераў і высылкі вялікую колькасць палякаў. Гэтым пытаннем займаліся пасол Станіслаў Кот, генерал Андэрс і прэм’ер Сікорскі. Кожны з іх у розны час (разам альбо паасобку) сустракаўся са Сталіным, каб вырашыць гэтую праблему[43].

Найбольш важнай лічыцца сустрэча Сікорскага са Сталіным 3 снежня 1941 г. СССР меў аб’ектыўныя складанасці з узбраеннем польскай арміі і яе належным харчовым забеспячэннем, таму Сікорскі прапанаваў савецкаму лідару (атрымаўшы пры гэтым падтрымку англічан і амерыканцаў) вывесці армію ў Іран. Там планавалася яе забяспечыць усім неабходным з дапамогай ЗША і Вялікабрытаніі, падрыхтаваць салдат да ваенных дзеянняў, стварыць моцнае войска, а пасля вярнуць яго на савецка-нямецкі фронт. Сталін даволі іранічна адрэагаваў на такую прапанову. Ён казаў, што гэта інтрыга Вялікабрытаніі, якая не мае намеру дапамагчы Польшчы, а зацікаўлена толькі ў тым, каб выкарыстаць польскіх вайскоўцаў у сваіх мэтах[44].

Падчас перамоў Сталін і Сікорскі дамовіліся, што польская армія ў СССР будзе сфарміравана ў складзе васьмі дывізій[45] з агульнай колькасцю каля 150 тысяч чалавек (на гэтым настойваў польскі прэм’ер). Даволі дыскусійным было пытанне баявога выкарыстання польскага войска, якое так і засталося адкрытым. Польскі бок катэгарычна настойваў на тым, каб армія ўводзілася ў баявыя дзеянні ў поўным

---

[38] Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Ślusarczyk, *Stosunki polsko-sowieckie 1939–1945*, Warszawa 1993, s. 137.

[39] W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 633.

[40] N. Davies, *Serce Europy. Polska: przeszłość we współczesności*, s. 92–93. Тэкст ваеннага дагавора: *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 140, s. 242–244.

[41] W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski. Okres 1939–1945*, s. 195–196; J. Siedlecki, *Losy Polaków w ZSRR w latach 1939–1986*, s. 82.

[42] W. Anders, *Bez ostatniego rozdziału. Wspomnienia z lat 1939–1946*, s. 93.

[43] Падрабязней на гэту тэму гл.: N. Davies, *Szlak nadziei. Armia Andersa. Marsz przez trzy kontynenty*, Warszawa 2016.

[44] W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 646.

[45] Рэалізуючы дамоўленасць паміж Сікорскім і Сталіным, Дзяржаўны камітэт абароны СССР прыняў 25 снежня 1941 г. рашэнне аб фарміраванні польскай арміі ў складзе 6, а не 8 дывізій. Гл.: *Armia Polska w ZSRR 1941–1942*, oprac. W. Materski, Warszawa 1992, dok. 3, s. 40–45.

складзе, а не дывізіямі (па меры іх падрыхтоўкі), як прапаноўвалі савецкія ўлады. Удзел войска ў баях у поўным складзе, паводле меркавання Сікорскага, павінен быў станоўча паўплываць на псіхалагічны стан польскага грамадства[46].

Пытанне, якое тычылася будучай мяжы паміж Польшчай і СССР, было вырашана абмеркаваць напярэдадні мірнай канферэнцыі, пасля таго, як польская армія пачне ўдзельнічаць у бітвах на савецка-нямецкім фронце. *"Не хвалюйцеся,*— гаварыў Сталін,— *мы вас не пакрыўдзім*"[47].

Адзін з найбольш сур'ёзных канфліктаў у польска-савецкіх адносінах адбыўся 2 лютага 1942 г., калі генерал Андэрс адмовіўся накіраваць на савецка-нямецкі фронт найбольш падрыхтаваную 5 дывізію пяхоты, матывуючы гэта тым, што такое рашэнне супярэчыць дамоўленасці паміж Сталіным і Сікорскім[48]. Андэрс быў вельмі катэгарычны. Да таго ж, з-за прычын, якія не залежалі ад польскага ўрада, армія магла падрыхтавацца да баявых дзеянняў на ўсходнім фронце не раней за чэрвень 1942 года[49].

Фарміраванне польскага войска адбывалася ў цяжкіх умовах. У СССР не хапала харчавання. Калі савецкія ўлады паведамілі генералу Андэрсу, што змогуць забяспечыць прадуктовымі пайкамі толькі 26 тысяч чалавек, то гэта выклікала пратэст з яго боку. 18 сакавіка 1942 г. па ініцыятыве Сталіна ў Маскве адбылася яго сустрэча з генералам Андэрсам. Важным вынікам яе стала павелічэнне прадуктовых пайкоў: іх хапала ўжо на 44 тысячы чалавек. Таксама Сталін пагадзіўся эвакуіраваць 44 тысячы польскіх салдат у Персію. Апроч таго, бакі дамовіліся аб тым, што пасля падрыхтоўкі польская армія вернецца на савецка-германскі фронт і СССР возьме на сябе поўнае яе харчовае забеспячэнне[50]. Важным для палякаў было тое, што Сталін адмовіўся ад патрабавання ўвядзення ў баявыя дзеянні польскіх дывізій па меры іх падрыхтоўкі. Савецкі лідар адназначна заявіў, што не прыспешвае польскую армію, больш за тое, палякі могуць пачаць удзел у баях тады, калі Чырвоная армія падыдзе да межаў Польшчы[51].

У канцы красавіка 1942 г. у Лондане адбылася нарада камандавання польскіх узброеных сіл, на якую быў запрошаны генерал Андэрс. Яшчэ да пачатку нарады ён сустрэўся з брытанскімі палітыкамі і вайскоўцамі, у тым ліку з Чэрчылем. Андэрс падтрымаў іх меркаванне аб тым, што польскую армію трэба цалкам вывесці з СССР і сканцэнтраваць на Блізкім Усходзе[52]. Прэм'ер-міністру Сікорскаму, абуранаму паводзінамі Андэрса, які парушыў субардынацыю, каб не дапусціць поўнага вываду польскай арміі з тэрыторыі СССР, заставалася адно выйсце — зняць генерала з пасады камандуючага польскім войскам. Але Сікорскаму не хапіла рашучасці зрабіць гэта.

---

46 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 647.

47 A. Czubiński, J. Topolski, *Historia Polski*, Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk — Łódź, 1989, s. 512.

48 W. Anders, *Bez ostatniego rozdziału. Wspomnienia z lat 1939–1946*, s. 144–145.

49 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 194, 195, s. 322–323.

50 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 658–660.

51 *Armia Polska w ZSRR 1941–1942*, oprac. W. Materski, Warszawa 1992, dok. 7, s. 78–79.

52 W. Anders, *Bez ostatniego rozdziału. Wspomnienia z lat 1939–1946*, s. 163.

Эвакуацыя польскай арміі з тэрыторыі СССР[53], якая пачалася ў канцы сакавіка — пачатку красавіка 1942 г. і скончылася ў жніўні 1942 г., праходзіла ў два этапы. Апошнім выехаў сам генерал Андэрс. У верасні 1942 г. ён разам з вайсковым аркестрам адбыў на караблі[54] з г. Краснаводска[55].

Колькасць вайскоўцаў і цывільных асоб, якія выехалі разам з арміяй Андэрса, адлюстроўвае **табліца 6.**

| Эвакуацыя | I | II | Разам |
|---|---|---|---|
| Афіцэры і салдаты | 40 500 | 30 000 | 70 500 |
| Дапаможная служба жанчын | 2 000 | 1 000 | 3 000 |
| Кадэты і кадэткі | 2 500 | 2 000 | 4 500 |
| Вайскоўцы, усяго | 45 000 | 33 000 | 78 000 |
| Сем'і | 16 000 | 8 000 | 24 000 |
| Дзеці да 14 год | 9 500 | 3 000 | 12 500 |
| Цывільныя, усяго | 25 500 | 11 000 | 36 500 |
| Усяго | 70 500 | 44 000 | 114 500 |

Крыніца: N. Davies, *Szlak nadziei. Armia Andersa. Marsz przez trzy kontynenty*, s. 177.

Пасля вываду польскай арміі з тэрыторыі СССР польска-савецкія адносіны перманентна пагаршаліся. Не палепшыліся яны і пасля адклікання 23 ліпеня 1942 г. польскага пасла ў Маскве Станіслава Кота, і пасля прыбыцця 12 кастрычніка 1942 г. новага амбасадара Тадэвуша Ромера. Вывад польскага войска з СССР стаў прычынай ускладнення палітычнай, грамадскай і гуманітарнай дзейнасці польскіх інстытутаў, звязаных з урадам у Лондане. Да таго ж гэта садзейнічала (пры падтрымцы савецкіх улад) стварэнню новай камуністычнай альтэрнатывы ў процівагу польскаму ўраду ў выгнанні[56].

Вынікам напружаных адносін паміж СССР і польскім урадам стала нота наркама замежных спраў ад 16 студзеня 1943 г. У ёй было напісана, што ўсе грамадзяне, якія пражывалі на тэрыторыі, уключанай у склад СССР, будуць у далейшым лічыцца савецкімі падданымі незалежна ад нацыянальнасці[57]. Такі паварот у дыпламатычных адносінах з СССР быў пачаткам канца ўсходняй палітыкі Сікорскага. Ахвярамі яе сталі сотні тысяч польскіх грамадзян, якія знаходзіліся на тэрыторыі СССР. Не змяніла сітуацыю і сустрэча польскага пасла Тадэвуша Ромера са Сталіным 26 лютага 1943 г. Польшчы магло дапамагчы вырашыць супярэчнасці з Савецкім Саюзам толькі ўмяшанне прэзідэнта ЗША і прэм'ера Вялікабрытаніі, але ў іх такога жадання не было[58].

---

53 Найбольш знакамітым беларусам, які служыў у арміі Андэрса, быў Аляксандр Бочка (1926–2015), вядомы пазней як айцец Аляксандр Надсан. Паходзіў ён з мястэчка Гарадзея сучаснага Навагрудскага раёна. Падрабязней на гэту тэму гл.: N. Davies, *Szlak nadziei. Armia Andersa. Marsz przez trzy kontynenty*, s. 261.

54 Тамсама, с. 176–178.

55 Сучасная назва горада Краснаводска — Туркменбашы.

56 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 670–684.

57 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 232, s. 385.

58 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 690–701.

13 красавіка 1943 г. радыё “Берлін” паведаміла, што ў Катынскім лесе пад Смаленскам немцамі знойдзены масавыя пахаванні расстраляных польскіх афіцэраў[59]. З паведамлення вынікала, што гэтыя расстрэлы здзейснены савецкай уладай. Прэм’ер Вялікабрытаніі Уінстан Чэрчыль падчас размовы з генералам Сікорскім і міністрам Рачынскім праз два дні пасля з’яўлення гэтай навіны з цынічным прагматызмам заявіў, што ў бязлітаснасці бальшавікоў утрымліваецца іх моц, а яна, у сваю чаргу, спрыяе агульнай справе саюзнікаў, знішчаючы нямецкую сілу[60]. Гэта выказванне Чэрчыля сведчыла аб тым, што Вялікабрытанія, не зважаючы на жахлівае злачынства, здзейсненае сталінскім рэжымам, надалей была гатова працягваць ваеннае супрацоўніцтва з СССР, а ўсе іншыя справы і праблемы трактавала як другарадныя ў дачыненні да сябе[61].

21 красавіка 1943 г. Сталін у лісце да прэм’ер-міністра Чэрчыля з нагоды паведамлення берлінскага радыё пісаў: *“Савецкі ўрад прызнае датычныя СССР дзеянні польскага ўрада*[62] *абсалютна ненармальнымі, яны парушаюць усе прынцыпы і нормы ўзаемных адносін паміж дзвюма саюзніцкімі краінамі* […]. *Польскі ўрад, стаўшы на шлях змовы з гітлераўскім урадам, на самой справе спыніў саюзніцкія адносіны з СССР і стаў на варожыя да СССР пазіцыі. На падставе ўсяго гэтага савецкі ўрад прыйшоў да высновы пра неабходнасць разрыву адносін з гэтым урадам”*[63]. Цынізм, двудушнасць і падман заўсёды былі асноўнымі элементамі сталінскай палітыкі. Калі раней Сталін знішчаў сотні тысяч сваіх грамадзян, то зараз без суда і следства падняў руку на грамадзян суседняй краіны, пры гэтым большасць рэпрэсаваных з’яўляліся прадстаўнікамі польскай эліты.

Усе спробы Чэрчыля ўгаварыць Сталіна не разрываць дыпламатычныя адносіны з польскім урадам у Лондане не мелі станоўчага выніку[64]. 25 красавіка 1943 г. у Наркамаце замежных спраў міністр Молатаў прачытаў ноту польскаму паслу Ромеру, у якой паведамлялася, што СНК СССР прыняў рашэнне аб спыненні адносін з польскім урадам[65]. Ахвярамі гэтага сталі ў першую чаргу тыя палякі, якія па розных прычынах не змаглі скарыстацца амністыяй і засталіся ў савецкіх турмах, лагерах і на высылцы.

Разрыў дыпламатычных польска-савецкіх адносін паўплываў на стаўленне да польскага антыфашысцкага падполля на акупаванай немцамі тэрыторыі

---

59 Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Paul, *Katyń. Stalinowska masakra i tryumf prawdy*, tł. z ang. Z. Kunert, Warszawa 2006, s. 225–238; *Zbrodnia katyńska w świetle dokumentów*, przedm. W. Andersa, wyd. X, Londyn 1982, dok.1, s. 85.

60 W. S. Churchill, *Druga wojna światowa*, t. IV, cz. 2, Gdańsk 1996, s. 370–371.

61 Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Paul, *Katyń. Stalinowska masakra i tryumf prawdy*, s. 239–255.

62 Польскі ўрад у Лондане імкнуўся даведацца праўду пра катынскую трагедыю, таму звярнуўся з просьбай у Міжнародны Чырвоны Крыж аб правядзенні незалежнага расследавання. Пра гэтыя і іншыя спосабы пошуку праўды гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943*, s. 701–708.

63 Тамсама, с. 705.

64 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. VII, dok. 245, s. 402–403.

65 Падрабязней на тэму разрыву дыпламатычных адносін паміж СССР і Польшчай гл.: A. Paul, *Katyń. Stalinowska masakra i tryumf prawdy*, s. 239–255.

Заходняй Беларусі. У 1941–1942 гг. савецкія органы ўлады імкнуліся пазбягаць канфліктаў з польскім падполлем. Яны свядома стрымлівалі інтэнсіфікацыю партызанскага руху, каб не абвастраць адносін з польскім падполлем, якое мела вялікі ўплыў у гэтым рэгіёне[66]. Пазнейшае стаўленне да палякаў было выразна прадстаўлена ў справаздачы першага сакратара ЦК КП(б)Б, начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху Панцеляймона Панамарэнкі, накіраванай у ЦК УКП(б) у студзені 1943 г. пад назвай "Аб паводзінах палякаў і некаторых нашых заданнях"[67]. У дакуменце звярталася ўвага на тое, што польскі эміграцыйны ўрад заклікаў палякаў устрымлівацца ад адкрытай узброенай барацьбы з немцамі да канчатковага этапу вайны, калі будзе неабходнасць падтрымаць дзейнасць заходніх саюзнікаў. Панамарэнка прапанаваў распаўсюджваць у Польшчы камуністычны партызанскі рух. Гэта, на яго думку, павінна было выклікаць справядлівыя страты польскага насельніцтва ў барацьбе з нямецкімі акупантамі і адначасова не дазволіць Польшчы захаваць свае людскія рэсурсы[68].

Пасля паспяховых ваенных кампаній на фронце ў 1943 г.[69] савецкі ўрад імкнуўся ўзмацніць свой палітычны ўплыў на міжнароднай арэне. У канцы лістапада — пачатку снежня 1943 г. адбылася першая канферэнцыя кіраўнікоў трох галоўных дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі. Польскі ўрад не быў праінфармаваны пра падрыхтоўку гэтай сустрэчы. А намаганні прэм'ер-міністра Станіслава Мікалайчыка[70] паўплываць на Вялікабрытанію і ЗША і разгледзець "польскае пытанне" былі марнымі. На канферэнцыі (4 снежня 1943 г.) Сталін паставіў пытанне аб неабходнасці прызнання заходняй мяжы СССР адпаведна з лініяй ад 28 верасня 1939 г. Рузвельт і Чэрчыль з гэтым пагадзіліся[71]. Заходнія дзяржавы прызналі прыярытэт інтарэсаў СССР ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Гэта, безумоўна, стала для кіраўніцтва СССР нагодай да пачатку правядзення больш цвёрдага курсу адносна польскага падполля і польскага насельніцтва на былых тэрыторыях Польшчы.

Адмова польскага эміграцыйнага ўрада прызнаць тэрытарыяльныя змены, якія адбыліся пасля агрэсіі СССР супраць Польшчы 17 верасня 1939 г., стала прычынай таго, што савецкі ўрад пачаў шукаць іншыя шляхі для дасягнення сваёй мэты. Адным з іх было стварэнне пад яго пратэктаратам новай польскай

---

66 W. Barabasz, *Walka sowiecko-polska o ziemie Białorusi w latach okupacji niemieckiej (1941–1944)*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, Grodno 2004, s. 307.

67 РДАСПГ, ф. 69, воп. 1, спр. 25, арк. 32–33.

68 Тамсама, арк. 32–33.

69 Тут трэба асабліва адзначыць Сталінградскую бітву (17 ліпеня 1942 – 2 лютага 1943 г.), у якой армія фельдмаршала Паўлюса была разбіта, а сам ён узяты ў палон. Г. Жуков, *Наступление*, [у:] *Сталинградская битва*, Москва 1984, с. 357–366.

70 4 ліпеня 1943 г. генерал Сікорскі загінуў у авіяцыйнай катастрофе над Гібралтарам. Гэта была вялікая страта для польскага эміграцыйнага ўрада. Станіслаў Мікалайчык, які заняў пасаду прэм'ер-міністра, быў малавядомы ў сусветным палітычным коле і не меў такога аўтарытэту, як генерал Сікорскі. Перспектывы Польшчы ў сувязі з гэтым выглядалі даволі змрочна. Гл.: J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 398.

71 A. Czubiński, J. Topolski, *Historia Polski*, s. 524.

улады. Так, у сакавіку 1943 г. арганізаваны Саюз польскіх патрыётаў (СПП)[72], а ў снежні 1943 г. з'явілася Краёвая нацыянальная рада[73].

На першым з'ездзе СПП 9–10 чэрвеня 1943 г. прынята праграма арганізацыі. Галоўнымі задачамі Саюза з'яўляліся ўзброеная барацьба разам з Чырвонай арміяй за вызваленне Польшчы, а таксама будаўніцтва новай дэмакратычнай польскай дзяржавы. Для рэалізацыі гэтых задач пачалося стварэнне I польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, а пазней і іншых частак і злучэнняў польскага войска[74]. 1 мая 1944 г. Берыя ў лісце да Сталіна паведамляў, што ў польскую армію Берлінга савецкім урадам у 1943 г. было перададзена 36 510 былых польскіх грамадзян[75]. Дывізія, якой намінальна камандаваў палкоўнік Зыгмунт Берлінг, кадравы даваенны польскі афіцэр, камплектавалася з тых дэпартаваных і ваеннапалонных, якія не змаглі выехаць з СССР у 1942–1943 гг. Фактычнае камандаванне і ідэалагічную апрацоўку ў гэтай дывізіі праводзілі савецкія афіцэры, часта польскага паходжання[76]. З мэтай узмацнення кантролю над польскай арміяй Вярхоўны Савет прыняў спецыяльны дэкрэт, паводле якога асабістаму складу Чырвонай арміі дазвалялася прымаць польскае грамадзянства[77].

Звяртаючыся да ўсіх палякаў, не зважаючы на іх перакананні і паходжанне, друкаваны орган польскіх камуністаў у СССР “Wolna Polska” (выдаваўся пры дапамозе СПП) заклікаў іх да ўзброенай барацьбы за вызваленне Польшчы ад гітлераўскай акупацыі[78], абяцаючы пры гэтым грамадскую справядлівасць, свабоду веравызнання і палітычных поглядаў[79], годныя чалавека бытавыя ўмовы і дзяржаўную апеку. *“Дзякуючы братэрскім адносінам з Савецкім Саюзам,* — пісалася ў газеце,— *Польшча будзе свабоднай, незалежнай і моцнай — таму будзем змагацца з эмігранцкімі вар'ятамі, якія заклікаюць да барацьбы з “вызваліцелямі чалавецтва” і прапагандуюць у краіне здрадніцкую палітыку чакання і пасіўнасці. Задачай Польшчы з'яўляецца ўзброеная барацьба ў шырокіх маштабах па прыкладзе абвеянай славай Чырвонай арміі, неабходна пры гэтым парваць з падманлівымі аргументамі пазбягання ахвяр; палякі на савецкай зямлі павінны таксама са зброяй у руках змагацца супраць*

---

72 Намінальна СПП кіравала Ванда Васілеўская. У той час яна была палкоўнікам Чырвонай арміі, грамадзянкай СССР, жонкай намесніка наркама замежных спраў СССР Аляксандра Карнейчука. Большасць у кіраўніцтве СПП складалі людзі, якія ў 1939–1941 гг. стаялі на чале Саюза былых палітычных зняволеных, а пазней стварылі фундамент пасляваеннага ўрада ў Польшчы. Найбольш вядомыя з іх — Альфрэд Лямпэ, Якуб Берман, Гіляры Мінц, Аляксандр Завадскі, Станіслаў Радкевіч, Эдвард Охаб, Раман Замброўскі, Станіслаў Скжэшэўскі, Стэфан Ендрыхоўскі і Ежы Штахельскі. Гл.: F. Jóźwiak, *PPR w walce o wyzwolenie narodowe i społeczne*, Warszawa 1952, s. 107–108.

73 A. Czubiński, J. Topolski, *Historia Polski*, s. 523; J. Nowak, *Sprawa generała Berlinga*, “Kultura”, 5.03.1972.

74 AAN, Inwentarz 130 zzespołu akt: *Związek Patriotów Polskich w ZSRR 1943–1946*, oprac. A. Bielawski, E. Kołodziej, M. Wróblewski, Warszawa 1970, s. 2.

75 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 64, арк. 380–381.

76 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 373–375.

77 Тамсама, с. 374.

78 “Wolna Polska”, 1943, nr 1.

79 Тамсама.

*нямецкага ворага”*[80]. СПП быў арганізацыяй, якая спрыяла дзейнасці савецкай улады. Адным з ключавых момантаў было тое, што СПП не прызнаваў польскую ўсходнюю мяжу, усталяваную Рыжскім мірным дагаворам[81].

Такім чынам, маючы палітычную альтэрнатыву польскаму ўраду ў выгнанні, савецкі ўрад не бачыў ніякіх перашкод, каб на падставе так званай катынскай справы разарваць з ім дыпламатычныя адносіны. Як адзначалася вышэй, гэта адбылося 25 красавіка 1943 г. Канчатковы разрыў польска-савецкіх адносін быў непазбежны. Як сцвярджае амерыканскі пісьменнік Ален Пол, Сталін выкарыстоўваў катынскую справу як зачэпку, каб пазбавіцца ад саюзніка, які абцяжарвае[82].

Нават калі б не адбыўся расстрэл польскіх афіцэраў у Катыні, Сталін знайшоў бы прычыну, каб разарваць польска-савецкія дыпламатычныя адносіны. Для рэалізацыі яго планаў, звязаных з усталяваннем камуністычнага рэжыму ў вызваленай Польшчы, Сталіну патрэбны быў паслухмяны ўрад, а такім лонданскі не з’яўляўся. Больш за тое, польскі ўрад у выгнанні і сталінская дыктатура былі супрацьлеглымі ў палітычнай, культурнай і духоўнай сферах. Паміж імі не магло быць нічога агульнага. Дагавор Сікорскага-Майскага быў патрэбны Сталіну выключна ў кароткатэрміновай перспектыве, каб прыцягнуць увагу міжнароднага палітычнага асяроддзя да барацьбы, якую СССР вёў з гітлераўскай Германіяй. І з самага пачатку гэтая дамова разглядалася як часовая тактыка. Пры гэтым савецкага лідара зусім не турбаваў лёс палякаў, якіх ён асудзіў на смерць ад голаду і холаду падчас дэпартацый і высылак ва ўсходнія вобласці СССР, а таксама ўтрымання ў турмах.

Больш за тое, Сталін напэўна разглядаў магчымасць раскрыцця немцамі катынскай трагедыі. Гэта было адной з галоўных прычын яго паспешнай згоды на вывад арміі Андэрса з тэрыторыі СССР. Савецкая гістарыяграфія між тым сцвярджала, што гэты крок быў выкліканы нежаданнем палякаў удзельнічаць у вайне на ўсходнім фронце. Сталін добра разумеў, што выкарыстанне арміі Андэрса на савецка-нямецкім фронце падчас раскрыцця злачынстваў у Катыні можа быць надзвычай небяспечным для Савецкага Саюза.

Пазнейшыя саступкі Сталіна польскаму камуністычнаму ўраду падчас усталявання польска-савецкай мяжы не ўздоўж размежавальнай лініі паміж СССР і Германіяй (паводле сакрэтнага пратакола ад 28 верасня 1939 г.) і перадача Польшчы Беластока, Ломжы, Аўгустова ды іншых гарадоў не былі жэстам добрай волі (падарункам) з яго боку польскім камуністам, як лічаць некаторыя беларускія даследчыкі, палітыкі і грамадскія дзеячы. Пры гэтым супраць вырашэння пытання такім чынам выступала тагачаснае кіраўніцтва БССР. Можна вылучыць як мінімум дзве прычыны перадачы згаданай тэрыторыі Польшчы. Па-першае, Сталін, напэўна, не хацеў, каб будучая

80 Тамсама.

81 Тамсама.

82 A. Paul, *Katyń. Stalinowska masakra i tryumf prawdy*, s. 242–243.

дзяржаўная мяжа паміж СССР і Польшчай успрымалася ў свеце, і ў першую чаргу ў самой Польшчы, як лінія, ухваленая і ўсталяваная асабіста ім і Гітлерам у верасні 1939 г. Па-другое, гэтае рашэнне прымалася Сталіным бясспрэчна ў інтарэсах польскіх камуністаў і павінна было дапамагчы ім завяваць і ўтрымаць уладу ў краіне.

Польшча, безумоўна, з'яўлялася адзінай суседняй з СССР краінай, якой яго рэжым у перыяд 1939–1944 гг. прынёс такую колькасць смерцяў, гора і нядолі. Гэтага па сённяшні дзень не можа прыняць і зразумець сучасная Расія.

## 2. “Польскае пытанне” ў палітыцы савецкага падполля

З першага да апошняга дня вайны ў Еўропе галоўным ворагам Польшчы была гітлераўская Германія, якая праводзіла расісцкую акупацыйную палітыку, што для польскага насельніцтва пасля знішчэння яго эліт прадугледжвала ролю неадукаванай рабочай сілы. Рэалізацыя гэтай палітыкі ў выпадку перамогі гітлераўцаў пагражала фізічнаму знішчэнню ўсяго народа. Ворагам нумар два лічыўся СССР, які пасля падпісання дамовы Сікорскага-Майскага афіцыйна зрабіўся саюзнікам. Польскае падполле хоць і ставілася да яго з вялікім недаверам, тым не менш дапамагала савецкаму партызанскаму руху[83].

Польскае падполле ў Заходняй Беларусі створана яшчэ ў 1939 г., а дзейнасць яго была накіравана супраць савецкага панавання. Дэпартацыя польскіх палітычных і грамадскіх эліт у 1940–1941 гг. істотна аслабіла магчымасці падполля. Тым не менш у 1940 г. яно налічвала 3 231 чалавека. Найбольш важнай польскай арганізацыяй быў Саюз узброенай барацьбы — СУБ (Związek Walki Zbrojnej), які пазней быў ператвораны ў Армію Краёву (АК). Пачатак нямецка-савецкай вайны кіраўніцтва СУБ ацэньвала як выгадны для Польшчы. Вайсковае сутыкненне двух ворагаў Польшчы павінна было іх аслабіць і наблізіць краіну да вызвалення і адраджэння ў межах ліпеня 1939 года[84].

Тэрыторыя Беларусі была падзелена на тры акругі Арміі Краёвай — Віленскую, Навагрудскую і Палескую[85]. У 1943 г. АК з’яўлялася сур’ёзнай ваеннай сілай, якая налічвала ў сваіх шэрагах каля 21 тысячы чалавек і была арганізацыяй, гатовай у неабходны час мабілізаваць новых байцоў. Структура АК дазваляла вырашаць задачы, якія ставілі Галоўнае камандаванне (Komenda Główna) у Варшаве, а таксама эміграцыйны ўрад у Лондане. Фармальна пасля падпісання польска-савецкай дамовы (30 ліпеня 1941 г.) СУБ-АК стала саюзнікам савецкага партызанскага руху ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкага войска[86]. У 1942 г.[87] камандзіры АК падпісалі з камандзірамі партызанскіх брыгад (атрадаў) асобныя пагадненні, якія рэгулявалі іх адносіны, а таксама

---

83 G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, Kraków 2014, s. 52.

84 E. Mironowicz, *Historia państw świata. Białoruś*, s. 215; *Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941–1945*, ред. А. Коваленя, Минск 2005, с. 276.

85 Больш падрабязна на гэтую тэму гл.: *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, wybr. i oprac. K. Krajewski, Warszawa b.d.w., s. 13–60.

86 E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, Kraków 2015, с. 116; ён жа, *Historia państw świata. Białoruś*, s. 215–216.

87 У студзені 1942 г. па загадзе Л. Берыі на базе II Аддзела НКУС СССР створана Чацвёртае ўпраўленне НКУС для спецыяльных заданняў і партызанскай вайны. Яго кіраўніком быў прызначаны капітан Павел Судаплатаў. Падчас вайны па яго ініцыятыве ў тыл ворага на Усходнім фронце было перакінута 212 партызанскіх груп, якія мелі ў сваім складзе дасведчаных афіцэраў разведкі, а таксама 3 500 агентаў і дыверсантаў. Частка з іх закінута на Віленшчыну, Беласточчыну і Палессе ў якасці ініцыятыўных груп па стварэнні партызанскіх атрадаў. Гл.: P. Kołakowski, *NKWD i GRU na ziemiach polskich 1939–1945*, Warszawa 2002, s. 173–174.

вызначалі тэрыторыю харчовага забеспячэння для кожнага з гэтых падпольных фарміраванняў[88].

Такім чынам, да 1943 г., каб не ўскладняць адносін з палякамі, савецкая ўлада не разгортвала ў Заходняй Беларусі шырокамаштабнага ўласнага партызанскага руху[89]. Савецкім разведвальным групам і атрадам, якія тут існавалі, камандаванне Цэнтральнага і Беларускага штабоў партызанскага руху рэкамендавала супрацоўнічаць з польскім падполлем з мэтай усталявання з ім адносін і кантактаў для сумеснай барацьбы з гітлераўскімі захопнікамі[90].

Сітуацыя кардынальна змянілася ў красавіку 1943 г., пасля разрыву дыпламатычных адносін паміж СССР і польскім эміграцыйным урадам. Армія Краёва з саюзнага фарміравання ператварылася ў "фашысцкае", якое Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР)[91] загадваў знішчаць такім жа чынам, як і нямецкіх захопнікаў ці беларускія арганізацыі, якія іх падтрымлівалі[92].

На V Пленуме ЦК КП(б)Б, які адбыўся 26–28 лютага 1943 г. (за два месяцы да афіцыйнага скасавання савецка-польскіх адносін), было адзначана, што разрыў непазбежны і гэта толькі пытанне часу. Праца пленума праходзіла пасля перамогі Чырвонай арміі пад Сталінградам і ў перыяд крызісу ў польска-савецкіх дыпламатычных адносінах. У яго пастанове запісана: *"Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае важнасць узмацнення палітычнай працы ў Заходніх абласцях Беларусі ў мэтах далейшага пашырэння партызанскага руху і ўключэння ў яго шырокіх слаёў працоўных заходніх абласцей, а таксама ў процівагу нацыяналістычнай апрацоўцы насельніцтва, што вядзецца з боку розных польскіх нелегальных арганізацый. Даручыць бюро ЦК распрацаваць па гэтым пытанні практычныя ўказанні падпольным партыйным органам"*[93]. У заключнай прамове V Пленума, якая цалкам была прысвечана "польскаму пытанню", першы сакратар ЦК КП(б)Б (ён жа начальнік ЦШПР) Панцеляймон Панамарэнка сказаў: *"Палякі займаюць непрымірымую пазіцыю ў пытанні ўсходніх межаў і выступаюць за выкананне Рыжскага дагавора.* […] *Акрамя таго, яны вельмі асцерагаюцца ўвядзення савецкай улады ў Польшчы, а таксама ўключэння польскай дзяржавы ў склад СССР. Таму ўжо зараз выдаюцца дырэктывы аб фізічным знішчэнні прадстаўнікоў савецкага партызанскага руху*[94]. […] *Калі прааналізаваць усе каноны польскай палітыкі, то яны зводзяцца*

[88] J. Prawdzic-Szlaski, *Nowogródczyzna w walce. 1940–1945*, Londyn 1976, s. 114–117.

[89] Z. Boradyn, *Niemen — rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943–1944*, Warszawa 1999, s. 45.

[90] НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 542, арк. 46.

[91] Дзейнасць савецкага партызанскага руху каардынаваў Цэнтральны штаб партызанскага руху, створаны 20 мая 1942 г. як выканаўчы орган Стаўкі Вярхоўнага Галоўнага камандавання Чырвонай арміі. Яго кіраўніком быў прызначаны генерал-лейтэнант Панцеляймон Панамарэнка, першы сакратар ЦК КП(б)Б. У верасні 1942 г. быў створаны Беларускі штаб партызанскага руху на чале з Пятром Калініным. Гл.: E. Kowalczyk, *Obraz partyzantki sowieckiej na terytorium północno-wschodniej Rzeczypospolitej Polskiej w świetle meldunków delegatury rządu na Kraj*, [у:] *W objęciach wielkiego brata. Sowieci w Polsce 1944–1993*, red. K. Rokicki i S. Stępień, s. 380.

[92] E. Mironowicz, *Historia państw świata. Białoruś*, s. 216–217.

[93] НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 146, арк. 4–5: Постановление V Пленума ЦК КП(б)Б от 28 февраля 1943 г.

[94] Зыгмунт Барадын лічыць, што заява Панамарэнкі па гэтым пытанні не адпавядае рэчаіснасці. Выпадкаў выдання падобных дырэктыў камандаваннем АК не было. Гл.: Z. Boradyn, *Niemen — rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943–1944*, s. 235.

*да таго, што палякі хочуць, каб Заходняя Беларусь была ў іх. Мы ў сваю чаргу гаворым, што яна павінна быць у нас, таму што яна з'яўляецца Заходняй Беларуссю.* […] *Нам неабходна на месцах стварыць партыйныя цэнтры, якія не маюць нічога агульнага з палякамі*"[95].

Рэкамендацыі V Пленума ЦК, якія тычыліся неабходнасці выпрацоўкі тактыкі барацьбы з АК, рэалізаваныя ў пастанове ЦК КП(б)Б ад 22 чэрвеня 1943 г. "Аб мерапрыемствах у справе далейшага развіцця партызанскага руху" і інструкцыі ЦК "Аб ваенна-палітычных заданнях у працы ў заходніх абласцях Беларусі"[96]. У сувязі з развіццём масавага партызанскага руху пастанова ЦК КП(б)Б прадугледжвала стварэнне на працягу чэрвеня-жніўня 1943 г. ва ўсіх раёнах падпольных партыйных і камсамольскіх цэнтраў, перакідку на захад з усходніх раёнаў БССР 40 партызанскіх атрадаў[97], арганізацыю шырока разгалінаванай прапаганды праз павелічэнне колькасці і накладаў газет і ўлётак, у тым ліку і на польскай мове. У інструкцыі ЦК КП(б)Б выразна звярталася ўвага на тое, што заходнія вобласці Беларусі з'яўляюцца састаўной і неад'емнай часткай БССР, часова акупаванай немцамі. У адпаведнасці з інструкцыяй дзейнічаць на гэтай тэрыторыі маглі толькі тыя арганізацыі, якія кіруюцца інтарэсамі СССР. Рэкамендавалася ліквідаваць дзейнасць польскіх нацыяналістычных арганізацый (да якіх залічвалася АК) і стварыць польскае савецкае падполле[98].

Праз два дні пасля прыняцця пастановы Панамарэнка, выступаючы на бюро ЦК КП(б)Б, заявіў наступнае: "*З пункту гледжання маючай адбыцца барацьбы з польскімі нацыяналістычнымі арганізацыямі і польскімі злучэннямі, а яна будзе — падчас уступлення на тэрыторыю Заходняй Беларусі, прычым тут маецца на ўвазе вельмі шырокая барацьба, тут не выключана магчымасць, а трэба прадбачыць, што польскія падпольныя баявыя арганізацыі, для таго, каб аслабіць уплыў партызанскіх атрадаў і нашых падпольных камуністычных арганізацый на масы, абавязкова будуць ставіць пад удар нямецкіх акупантаў нашы партызанскія атрады і партызанскія арганізацыі. Гэта трэба прадбачыць, і таму зараз трэба ўжо ў сваіх указаннях, якія мы будзем даваць у часткі канспірацыі нашых партыйных арганізацый, у частцы канспірацыі з боку партызанскіх атрадаў, з рознымі польскімі прадстаўнікамі, якія прыходзяць для перамоў аб сумеснай барацьбе і г.д., а палякі ўмеюць моцна весці разведвальную працу і ўмеюць канспіраваць сваю дзейнасць,— гэта трэба мець на ўвазе. Таму паралельна з гэтай працай нам трэба арыентаваць нашы партызанскія атрады і партыйную арганізацыю на тое, каб усе гэтыя польскія арганізацыі, польскія злучэнні, якія ствараюцца, іх выяўляць і ўсяляк ставіць пад удар нямецкіх акупантаў. Немцы не пасаромеюцца расстраляць, калі даведаюцца,*

95 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 148.

96 E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 117.

97 Да 1943 г. не было масавага наплыву мясцовага насельніцтва ў савецкія партызанскія атрады. Даныя Беларускага штаба партызанскага руху паказваюць, што ў гэты перыяд на тэрыторыі БССР у партызанскіх атрадах налічвалася больш за 56 тыс. чалавек, у заходніх яе абласцях — толькі 11 100 чалавек. У пераліку на 10 тыс. насельніцтва ў заходніх абласцях было 23 партызаны, а ва ўсходніх — 86. Гл.: J. Turonek, *Białoruś pod okupacją niemiecką*, Warszawa — Wrocław 1989, s. 99.

98 G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 67–68.

*што гэта арганізатары польскіх злучэнняў або іншых польскіх арганізацый. Але тут патрэбна арганізацыя. Як гэта зрабіць. Метадаў тут не трэба саромецца. На гэта трэба ісці шырока, але абстаўляць трэба такім чынам, каб гэта было гладка. Відаць, давядзецца паставіць пытанне аб раззбраенні польскіх нацыянальных патрыётаў, аб выкрыцці іх, як агентаў Сікорскага і здраднікаў польскага народа. На гэта трэба звярнуць сур'ёзную ўвагу ў газетах, якія будуць выдавацца там і выдаюцца нашымі партарганізацыямі, улёткі выдаваць. Можа быць, вылучыць спецыяльнае арганізацыйнае бюро і бюро прапаганды, вылучыць спецыяльных людзей для працы з палякамі, падабраць камуністаў палякаў, а там знойдуцца такія палякі, і кіраваць імі*[99]*"*.

Чырвоная армія ў гэты час пачала актыўна перакідваць праз лінію фронту вайскоўцаў і партыйных актывістаў, заданнем якіх было не толькі стварэнне ў заходніх абласцях партызанскіх атрадаў, але і адначасова вядзенне палітычнай працы, звязанай з падрыхтоўкай польскіх усходніх зямель да паўторнага ўключэння ў склад СССР[100]. Акрамя гэтага, яны павінны былі распрацоўваць структуры Польскай падпольнай дзяржавы і падпарадкаваных ёй вайсковых фарміраванняў, а затым іх ліквідаваць[101]. 22 лістапада 1943 г. Панамарэнка прапанаваў Сталіну перайсці ад асобных інцыдэнтаў да планавай барацьбы з польскім незалежным падполлем, што вырашана было ажыццявіць[102].

Прапагандысцкая апрацоўка польскага насельніцтва заходніх абласцей павінна была будавацца на распаўсюджванні заявы Сталіна аб "зацікаўленасці СССР у свабоднай і незалежнай Польшчы". Трэба было пераконваць мясцовае насельніцтва ў тым, што пасля прыходу Чырвонай арміі не можа быць размовы ні пра якія рэпрэсіі ў дачыненні да палякаў, і што з галавы прыстойнага паляка не ўпадзе нават валасок[103].

Але ў рэчаіснасці ўсё выглядала зусім інакш. У красавіку – маі 1943 г. істотна ўзрасла колькасць забойстваў удзельнікаў польскага нацыянальнага падполля савецкімі партызанамі. У красавіку 1943 г. у в. Няцеч Лідскага раёна спалілі двор і гаспадарку Даманьскіх, забіўшы пры гэтым байца АК Аляксандру Вадзічка ("Олю"). Праз некалькі дзён у гэтай самай вёсцы партызаны зажыва спалілі сям'ю Тарасевіч — "Хэлену" з дзецьмі. У в. Дзітрыкі Лідскага раёна забілі Францішка Чарнэля ("Гаёвэго") і Яна Крыўца з дзецьмі. У ноч з 30 красавіка на 1 траўня ў в. Варонча савецкія партызаны асабліва жахлівым спосабам забілі сям'ю землеўладальніка Чарноўскага, у тым ліку яго цяжарную жонку Ядвігу.

---

99 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 254, арк. 46–47: Протоколы и отчёты Брестского подпольного Горкома и Малоритского подпольного Райкома КП(б)Б. Отчёты и докладные о состоянии партизанского движения, подпольной партийно-комсомольской и агентурной работы и работы комитета борьбы с немецкими оккупантами г. Бреста и антифашистских комитетов Брестской области. Август 1942 — октябрь 1945. Стенограмма заседания Бюро ЦК КП(б)Б от 24 июня 1943 года.

100 M. Gnatowski, *Kontrowersje i konflikty między polskim i radzieckim podziemiem na pólnocno-wschodnich kresach Rzeczypospolitej w latach 1943–1944 w świetle dokumentów*, "Studia Podlaskie", 1996, t. 6, s. 219.

101 J. Garliński, *Polska w drugiej wojnie światowej*, Londyn 1982, s. 273–274; A. Paul, *Katyń*, s. 240–241.

102 M. Gnatowski, *Kontrowersje i konflikty między polskim i radzieckim podziemiem na pólnocno-wschodnich kresach Rzeczypospolitej w latach 1943–1944 w świetle dokumentów*, s. 219–220.

103 Z. Boradyn, *Niemen — rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943–1944*, s. 100.

Целы забітых спалілі. У траўні ад рук савецкіх партызан загінулі Ян Данейка з сядзібы Кросны і браты Харабурды з хутара Трасейкі, якія былі ў АК. На пытанне мясцовых жыхароў, навошта яны гэта робяць, савецкія партызаны адказвалі: *"У нас загад знішчаць усіх польскіх "памешчыкаў"*[104].

Адна з самых жудасных трагедый здарылася 9 мая 1943 г. у Налібоках, калі партызанская брыгада імя Сталіна і атрад Бельскага раззброілі мясцовую самаабарону, створаную са згоды немцаў, але звязаную з польскім падполлем. Савецкія партызаны расстралялі тады 128 чалавек, большасць з якіх складалі мужчыны[105]. Крывавую расправу ў Налібоках варта трактаваць няйначай як акцыю, накіраваную на знішчэнне мясцовага падполля Арміі Краёвай[106].

ЦК КП(б)Б лічыў палякаў ненадзейным элементам, у сувязі з гэтым выдаў указанне ствараць партызанскія атрады перш за ўсё з беларусаў, у выключных выпадках дазвалялася ствараць польскія атрады, але пад савецкім кіраўніцтвам. З чэрвеня 1943 г. камандаванню савецкіх партызанскіх атрадаў забаранялася ўсталяванне ўсялякіх кантактаў з польскім падполлем. Польскіх прадстаўнікоў, якія прыбылі на перамовы, загадвалася арыштоўваць і на самалёце перапраўляць у Маскву. Рэкамендавалася пры кожным зручным выпадку здаваць немцам удзельнікаў польскага падполля, але так, каб пад падазрэнне не трапілі савецкія партызаны[107]. Указанне ЦК трэба было трактаваць не іначай, як загад партызанскаму камандаванню пра раззбраенне польскіх вайсковых фарміраванняў, прадстаўленне іх у якасці агентаў Сікорскага і здраднікаў польскага народа[108]. Выконваючы такім чынам палітычныя рашэнні ўрада СССР і рашэнні ЦК КП(б)Б, савецкія партызанскія атрады пачалі планавае і мэтанакіраванае знішчэнне структур Польскай падпольнай дзяржавы ў Заходняй Беларусі[109]. Тым самым польска-савецкія адносіны ўступілі ў новы этап свайго развіцця[110].

3 студзеня 1944 г. Чырвоная армія перайшла "старую" савецка-польскую мяжу і ўвайшла на тэрыторыю былой ІІ Рэчы Паспалітай. 5 студзеня польскі эміграцыйны ўрад у Лондане апублікаваў заяву, у якой адстойваў сваё права на гэтую тэрыторыю. Савецкія ўлады, адказваючы польскаму боку, у дэкларацыі ад 11 студзеня 1944 г. не пакінулі ніякіх сумненняў, што былыя ўсходнія

---

104 Тамсама, с. 100.

105 G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 69.

106 Z. Winnicki, *Współczesna doktryna i historiografia białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości*, Wrocław 2003, s. 567.

107 Z. Boradyn, *Niemen — rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943–1944*, s. 122–124.

108 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 254, арк. 46: Стенограмма заседания Бюро ЦК КП(б)Б от 24 июня 1943 г.

109 Больш падрабязна на гэтую тэму гл.: *Kalendarium walk i potyczek oddziałów partyzanckich Okręgu Nowogródek AK z partyzantką sowiecką (maj 1943 — lipiec 1944)*, [у:] Z. Boradyn, *Niemen — rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943–1944*, s. 246–274.

110 Больш падрабязна на гэтую тэму, гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 67–102; Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna i historiografia białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości*, s. 535–591.

землі Польшчы з гэтага часу будуць належаць СССР. У студзені 1944 г. намеснік Народнага камісарыята дзяржаўнай бяспекі СССР Багдан Кабулаў накіраваў наркамам дзяржаўнай бяспекі БССР, УССР і ЛССР дырэктывы, якія тычыліся ліквідацыі польскага падпольнага руху. У задачы рэспублік, у тым ліку і БССР, уваходзілі выяўленне і арышт удзельнікаў польскага падполля, а таксама прадухіленне любых спроб узброенага супраціву з іх боку[111].

Дзеля выканання рашэнняў ЦК КП(б)Б зімой 1943–1944 гг. на тэрыторыю Заходняй Беларусі было перакінута 16 партызанскіх фарміраванняў агульнай колькасцю каля 8 тысяч чалавек[112]. Увесь цяжар харчовага забеспячэння гэтых фарміраванняў лёг на плечы мясцовага насельніцтва. Са слоў сведак, перакідка Беластоцкага партызанскага злучэння прывяла да сапраўднага рабунку мясцовага насельніцтва. Гэта прызнаваў і сам Панамарэнка: *"У сувязі з маршам атрада Капусты варта сказаць, што гэта быў выключны марш, па тым марадзёрстве, якое было дапушчана камандзірамі атрадаў. Марш у напрамку да Гродзенскай пушчы. Гэта пацвярджаецца тым, што партызаны нечакана ператварыліся ў кавалерыстаў, не кажучы ўжо пра бясконцы абоз. Коні, вядома, браліся ў сялян, акрамя таго ў сялян бралася ўсё, што траплялася пад руку. Зразумела, што такое стаўленне да мясцовага насельніцтва ні ў якай ступені не магло садзейнічаць умацаванню нашых палітычных пазіцый у межах Беластоцкай вобласці"*[113]. Савецкія партызаны, акрамя забеспячэння сябе прадуктамі харчавання і адзеннем, вялі барацьбу з класавым ворагам, забіраючы маёмасць і знішчаючы гаспадаркі так званых кулакоў былой "панскай Польшчы"[114]. Падобныя дзеянні з боку савецкіх партызан назіраліся і ў іншых заходніх абласцях[115].

Паколькі польскія нацыянальныя фарміраванні (у адрозненне ад савецкіх) камплектаваліся з ліку мясцовага насельніцтва, яны плацілі за прадукты, якія атрымлівалі ад сялян, і, акрамя таго, лічылі сваім абавязкам абараняць апошніх[116]. Здаралася таксама, што польскія партызанскія атрады ў якасці рэваншу здзяйснялі рэйды з мэтай харчовага забеспячэння ва ўсходнія памежныя раёны БССР[117].

---

111 *Документы и материалы по истории советско-польских отношений*, т. 7, с. 14–15; А. Хмеляж, *Борьба с АК в западных областях Белоруссии*, [у:] *Армия Краёва: военные, политические и правовые аспекты деятельности на Беларуси (материалы научной конференции, Минск 14 апреля 1996 года)*, Минск 1996, с. 328.

112 *Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны*, т. 2, Минск 1984, с. 328.

113 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 596, арк. 56: Справки, докладные и письма руководящих работников, командования партизанских бригад, отрядов и отдельных партизан о состоянии партийно-комсомольского подполья и партизанского движения, о зверствах немецких захватчиков и др. Письмо Пономаренко о сложившемся положении для партизан и населения к маю 1944 года. Начато январь 1944, окончено май 1944.

114 НАРБ, ф. 1450, воп. 4, спр. 334, арк. 5: Отчёт о деятельности отдельного партизанского отряда им. А. А. Жданова, 20.04–4.05.1944.

115 НАРБ, ф. 1450, воп. 4, спр. 80, арк. 4: Документы о боевой, диверсионной и массово-политической деятельности партизанских отрядов и бригады Н. Ф. Гастелло (приказы, отчёты, информация, записки), 1.10.1942–16.07.1944.

116 W. Barabasz, *Walka sowiecko-polska o ziemie Białorusi w latach okupacji niemieckiej (1941–1944)*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, Grodno 2004, s. 309–310.

117 НАРБ, ф. 1450, воп. 4, спр. 34, арк. 58: Документы и материалы о боевой и диверсионной деятельности партизанской бригады им. В. И. Ленина (отчёты, служебные записки, донесения, информации), 19.06.1942–19.07.1944.

На тэрыторыі Беларусі існавалі асобныя раёны дыслакацыі і забеспячэння прадуктамі харчавання савецкіх і польскіх партызан. Натуральнай мяжой быў Нёман. У паўночнай частцы дамінавала Армія Краёва, а на левым беразе — савецкія партызанскія атрады. Існавала істотная розніца ў метадах і формах вядзення баявых дзеянняў. Савецкія партызанскія атрады атрымлівалі ўзбраенне і боепрыпасы шляхам паветранай дастаўкі з Вялікай зямлі. Свае сілы ў барацьбе з немцамі яны галоўным чынам канцэнтравалі на дыверсійнай дзейнасці, знішчаючы камунікацыі. Акаўцы такога забеспячэння не мелі, а значыць, здабыць зброю маглі толькі самастойна, у выніку баявых дзеянняў. Таму, атрымліваючы інфармацыю ад сваёй агентуры, шырока ўкаранёнай ў акупацыйныя структуры, атакавалі перш за ўсё гітлераўскія гарнізоны[118].

У Беластоцкай вобласці вялікіх савецкіх фарміраванняў не было. Тут дзейнічалі ў асноўным польскія партызанскія атрады, на знішчэнне якіх у савецкіх партызан не было дастатковых сіл. Таму паміж імі не было арганізаваных бітваў, хоць асобныя канфлікты мелі месца. У паўднёва-заходніх раёнах БССР, у Мінскай і Брэсцкай абласцях сітуацыя была процілеглай, тут знаходзіліся вялікія савецкія фарміраванні, а АК мела невялікі ўплыў на мясцовае насельніцтва і несла вялікія страты ў барацьбе з гітлераўцамі. Таму там партызанскі рух АК як самастойная сіла перастаў існаваць у пачатку 1944 года[119].

Паколькі спробы падпарадкаваць савецкаму камандаванню фарміраванні АК не ўдаліся, як і намаганні дабіцца разлажэння і распаду структуры знутры, першы сакратар ЦК КП(б)Б Панамарэнка прыняў рашэнне іх раззброіць[120]. 26 жніўня 1943 г. над возерам Нарач брыгада імя Варашылава пад камандаваннем Фёдара Маркава раззброіла атрад падхарунжага А. Бужынскага (“Кміціца”). Бужынскі і яшчэ 79 салдат і афіцэраў, узятых у палон, былі расстраляны. Са 120 раззброеных акаўцаў быў створаны новы атрад пад камандаваннем Вінцэнта Мрачкоўскага. Аднак сілай уключаныя ў савецкі партызанскі атрад палякі, у тым ліку і Мрачкоўскі, дэзерціравалі і вярнуліся ў АК[121]. 1 снежня 1943 г. брыгады Баранавіцкага савецкага партызанскага злучэння раззброілі ў Налібоцкай пушчы атрад АК імя Тадэвуша Касцюшкі ў складзе 200 чалавек. Пасля правядзення допытаў спецыяльным аддзелам НКУС пяць афіцэраў былі расстраляны, а чарговыя пяць, у тым ліку камандзір батальёна маёр В. Пелка, высланы самалётам у Маскву на Лубянку[122].

---

118 W. Barabasz, *Walka sowiecko-polska o ziemie Białorusi w latach okupacji niemieckiej (1941–1944)*, s. 310.

119 *Armia Krajowa w dokumentach 1939–1945*, t. 3, Wrocław — Warszawa 1990–1991, s. 342.

120 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 486, арк. 213: Протокол Вилейского подпольного областного комитета КП(б)Б. Отчёт командира бригады им. Ворошилова тов. Маркова о боевой работе бригады от 28.10.1943.

121 Тамсама, с. 213–214.

122 В. Барабаш, *Польское подполье в период гитлеровской оккупации*, [у:] *Польское подполье на территории западных областей Беларуси 1939–1945*, Гродно 2004, с. 259.

Раззбраенне частак і злучэнняў АК было выканана таксама ў Мінскай і Брэсцкай абласцях. Пасля адмовы падпарадкавацца савецкімі партызанамі 25 снежня 1943 г. разбіты атрад сяржанта Ч. Камінскага ("Матроса")[123]. Акрамя таго, у 1943–1944 гг. на Палессі былі раззброены атрады паручніка Збілюты ("Юрыя"), сяржанта Казімерскага ("Явара")[124]. Варта пры гэтым заўважыць, што ахвярамі раззбраення сталі ў першую чаргу тыя часткі АК, якія падтрымлівалі сяброўскія адносіны з савецкімі партызанскімі атрадамі і нярэдка прымалі ўдзел у сумесных баявых дзеяннях супраць гітлераўцаў. Акаўцы, якіх сілай уводзілі ў склад савецкіх партызанскіх атрадаў, як правіла, вярталіся пазней у АК.

У першай палове 1944 г. савецкія партызаны здзяйснялі ўзброеныя напады на польскія вёскі, у якіх размяшчаліся атрады АК. Брыгада "Наперад" 24 лютага 1944 г. падпаліла польскія вёскі Бабінск і Ізабеліна ў Іўеўскім раёне[125]. Выпадкаў, калі савецкія партызаны палілі польскія вёскі і дамы, а таксама расстрэльвалі сем'і акаўцаў, было даволі шмат[126].

З-за варожага стаўлення мясцовага польскага насельніцтва да такіх акцый, а таксама вайсковых контраперацый, якія праводзілі атрады АК, савецкія партызаны былі вымушаны спыніць сваю дзейнасць у шэрагу раёнаў Заходняй Беларусі. У 1944 г. АК здолела ліквідаваць уплыў савецкіх атрадаў у Ашмянскім, Смаргонскім, Астравецкім, Свірскім раёнах Вілейскай вобласці.

Цяжкім заданнем для савецкіх партызан стала выяўленне арганізацыйных сувязей АК, што паспрыяла б хуткай ліквідацыі польскага падпольнага руху. Пры гэтым акаўцы ў той час даволі актыўна і паспяхова знішчалі былых партыйных і савецкіх функцыянераў на тэрыторыі Заходняй Беларусі[127].

Раззбраенне партызанскіх фарміраванняў АК па сутнасці сваёй ператварылася ў польска-савецкую партызанскую вайну. Гэтым канфліктам спрабавалі скарыстацца ў сваіх інтарэсах немцы. Яны прапанавалі атрадам АК узбраенне і боепрыпасы, а таксама вызваленне польскіх вязняў узамен на антысавецкую дзейнасць. У снежні 1943 г. на тэрыторыі Навагрудскай акругі АК падпісала два пагадненні з немцамі. Адно падпісаў капітан Адольф Пільх ("Гара"), другое — камандзір наднёманскага фарміравання паручнік Юзаф Svіда ("Лех"). Самастойная дзейнасць гэтых камандзіраў адразу ж была сурова асуджана Галоўным камандаваннем АК у Варшаве, а вінаватыя адхілены ад сваіх пасад[128]. Паколькі Свіда адмовіўся выканаць загад зрыву пагаднення з немцамі, Галоўнае камандаванне выслала ў гэтую акругу свайго прадстаўніка, падпалкоўніка Мацея Калянкевіча ("Котвіча"). У выніку Свіда быў не толькі зняты з пасады, але за парушэнне субардынацыі прысуджаны ваенна-палявым

[123] Ч. Холуб, *История Полесского округа АК. Краткий очерк*, Брест 1993, с. 20.

[124] T. Gasztold, *Rozkaz zabić przyszedł z Moskwy*, Koszalin 1993, s. 43.

[125] Z. Boradyn, *Dziemidow kontra Dziemidow*, "Głos znad Niemna", 1994, nr 30, s. 5.

[126] НАРБ, ф. 1450, воп. 4, спр. 323, арк. 7, 12, 13: Документы о боевых операциях, личном составе, истории возникновения, организации и деятельности партизанской бригады им. Чапаева (отчёты донесения, сведения).

[127] НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 571, арк. 6.

[128] J. Turonek, *Białoruś pod okupacją niemiecką*, s. 135.

судом да вышэйшай меры пакарання — смерці. Прывядзенне прысуду ў выкананне было адкладзена да канца вайны, што давала Свіду магчымасць змыць сваю віну крывёй у далейшай барацьбе. Так Галоўнае камандаванне АК прадухіліла задуманую вышэйшым савецкім кіраўніцтвам інтрыгу, мэтай якой было прымусіць АК пайсці на калабарацыю з гітлераўцамі, а потым публічна абвінаваціць Польшчу ў здрадзе саюзніцкім абавязацельствам і прынізіць пасля заканчэння вайны яе ўнёсак у разгром фашысцкай Германіі[129].

Камандаванне АК у такой сітуацыі загадала сваім падначаленым самастойна весці баявыя дзеянні супраць нямецкіх захопнікаў, а перад савецкімі вайсковымі атрадамі паводзіць сябе як фарміраванні, што ваююць на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і падпарадкоўваюцца польскаму праву. У тым выпадку, калі савецкія партызаны захочуць раззброіць польскія атрады, неабходна гэтаму супрацьдзейнічаць, а калі будуць спробы іх ліквідацыі — абараняцца[130].

Намаганні камандавання АК арганізаваць узаемадзеянне з савецкімі партызанскімі атрадамі былі марнымі. Сітуацыя ўскладнялася, і большасць атрадаў АК была вымушана змагацца на два франты — супраць немцаў і супраць савецкіх партызан. Для дэмаралізацыі фарміраванняў АК савецкія органы ўлады пачалі падрыхтоўку спецыяльных польскіх груп, у задачу якіх уваходзіла разведвальная і агітацыйная дзейнасць. Калі ліквідацыя польскіх атрадаў АК не атрымлівалася, тады пры дапамозе падману, каварства або хітрасці фізічна знішчалі камандзіраў, паралізуючы такім чынам дзейнасць польскага падпольнага руху[131].

Галоўнай трагедыяй польска-савецкай партызанскай вайны была гібель мясцовага насельніцтва, у тым ліку і сямей ваюючых паміж сабой бакоў. У савецкай літаратуры гэтая тэма заўсёды была прадстаўлена аднабакова: звярталася ўвага на расстрэлы акаўцамі беларускіх сем’яў, а забойствы савецкімі партызанамі палякаў і беларусаў замоўчваліся. Пры гэтым у фарміраванні такога погляду прымалі ўдзел і беларускія эмігранты, перабольшваючы колькасць беларусаў, расстраляных акаўцамі[132]. Агучаныя імі і не пацверджаныя ніякімі дакументамі лічбы былі выкарыстаны ў кнігах Яўгена Сямашкі, Віктара Ермаловіча і Сяргея Жумара, а таксама Аляксандра Вабішчэвіча[133]. Яны выйшлі ў Беларусі і характарызуюцца выключна аднабаковай і негатыўнай ацэнкай дзейнасці АК на гэтай тэрыторыі. У беларускім падручніку гісторыі, выдадзеным у 2002 г. для вышэйшых навучальных устаноў, В. Ермаловіч памылкова сцвярджае, што ў 1940-я і 1950-я гг. падпольныя фарміраванні АК ліквідавалі на Беларусі каля

---

129 Тамсама, с. 75.

130 *Armia Krajowa w dokumentach 1939–1945*, Wrocław — Warszawa 1990–1991, t. 3, s. 556–557.

131 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 265, арк. 179; спр. 488, арк. 411.

132 Я. Малецкі, *Пад знакам Пагоні. Успаміны*, Таронта 1976, с. 51.

133 Я. Сямашка, *Армія Краёва на Беларусі*, Мінск 1994; В. Ермолович, С. Жумар, *Огнём и мечом. Хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939–1945)*, Минск 1994; А. Вабищевич, И. Валаханович, В. Данилович, А. Дюков, и др., *Польша — Беларусь (1921–1953). Сборник документов и материалов*, Минск 2012.

10 тысяч чалавек, большасць з якіх — гэта мірнае насельніцтва[134]. Такія лічбы не знаходзяць пацвярджэння ў архіўных крыніцах. Пры гэтым замоўчваецца, якія страты панеслі АК і мясцовае польскае насельніцтва ад рук савецкіх партызан. Усё гэта з'яўляецца прыкладам выкарыстання гісторыі ў палітычных мэтах.

У маі 1943 — ліпені 1944 гг. Навагрудская акруга АК правяла каля 224 баявых аперацый і сутычак з савецкімі партызанамі. У выніку былі забіты 400 чалавек і больш за 120 паранены. Страты фарміраванняў АК склалі 300 чалавек забітымі і 230 параненымі. Ад рук савецкіх партызан загінула больш за 500 грамадзянскіх асоб, абвінавачаных у супрацоўніцтве з АК. Страты цывільнага насельніцтва, забітага атрадамі АК, знаходзяцца ў межах 200–250 чалавек[135]. У Вілейскай вобласці, як сведчаць савецкія крыніцы, у 1943 г. было забіта і паранена каля 150 савецкіх партызан і каля 100 прапалі без вестак[136].

У адносінах савецкай улады і савецкіх партызанскіх атрадаў з польскім насельніцтвам і ўзброенымі атрадамі АК Зыгмунт Барадын вылучае тры перыяды.

Першы (ад 1941 г. да ліпеня 1943 г.) быў перыядам адноснага спакою, які часам перарываўся канфліктамі, справакаванымі рабаваннямі, гвалтам, забойствамі мясцовага насельніцтва і членаў польскага падполля ўдзельнікамі савецкіх партызанскіх атрадаў. Гэта ў тым ліку стала адной з прычын арганізацыі атрадаў АК, якія павінны былі абараняць польскае насельніцтва.

Другі (ад ліпеня да снежня 1943 г.) быў перыядам росту канфліктаў. Армія Краёва ўсё часцей трактавалася савецкім кіраўніцтвам у палітычных катэгорыях, польскае падполле разглядалася як інструмент эміграцыйнага ўрада[137].

Трэці (ад снежня 1943 г. да чэрвеня 1944 г.) быў перыядам узброенага канфлікту, іншымі словамі, лакальнай польска-савецкай вайны, развязанай савецкім партызанскім рухам. Навагрудская акруга АК найбольш паспяхова, у параўнанні з іншымі, супрацьдзейнічала планам кіраўніцтва СССР па ліквідацыі польскага падпольнага руху.

У трэці перыяд адбываліся не толькі ўзброеныя канфлікты паміж савецкімі партызанамі і акаўцамі ў Заходняй Беларусі, але ішла распрацоўка савецкім урадам ініцыятыў па затрыманні палякаў у СССР. З ліста Берыі да Сталіна ад 1 мая 1944 г. вынікала, што, паводле пастановы СНК СССР № 359–105с ад 5 красавіка 1944 г., было запланавана перасяленне былых польскіх грамадзян з раёнаў Комі ССР, Архангельскай, Молатаўскай, Новасібірскай абласцей, Нарымскага краю, Якуцкай АССР, а таксама Бадайбінскага раёна Іркуцкай вобласці ў паўднёвыя раёны СССР (у саўгасы Краснадарскага і Стаўрапольскага краёў, Растоўскай,

---

[134] П. Брыгадзін, У. Ладысеў, П. Зялінскі і іншыя, *Гісторыя Беларусі*, ч. 2: *XIX–XX стагоддзі. Курс лекцый*, Мінск 2002, с. 483–484.

[135] Z. Boradyn, A. Chmielarz, H. Piskunowicz, *Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1941–1945)*, Warszawa 1997, s. 134, 170; З. Борадин, В. Титок, *Некоторые проблемы истории Армии Краёвой 1939–1944 гг. в современной белорусской публицистике и историографии*, [у:] *Армия Краёва: военные, политические и правовые аспекты деятельности*, с. 58.

[136] А. Хацкевич, *К вопросу о разоружении формирований польской Армии Краёвой в Налибокской и Нарочанской пущах (1943–1944)*, "Studia Podlaskie", 1995, nr 5, с. 109–110.

[137] Гэта было вынікам разрыву савецка-польскіх адносін і прынятага ЦК КП(б)Б 22 чэрвеня 1943 г. рашэння аб пачатку ліквідацыі польскіх фарміраванняў АК у Заходняй Беларусі.

Варонежскай і Саратаўскай абласцей). Паводле даных НКУС, у паўночных раёнах знаходзіліся 23 248 чалавек[138]. Напэўна, савецкія ўлады планавалі перасяленнем дасягнуць як мінімум дзвюх мэт. Першая — гэта затрымаць палякаў у якасці працоўнай сілы, якой у спустошаным вайной СССР не хапала, другая — не дапусціць вяртання палякаў, што прайшлі высылку і дэпартацыю, у родныя мясціны, дзе яны маглі ўключыцца ў дзейнасць антысавецкага падпольнага руху або падтрымліваць яго. Значна лепшыя ўмовы жыцця ў паўднёвых раёнах павінны былі адбіць у палякаў ахвоту да вяртання ў родны край, дзе ў іх не было ніякай маёмасці.

Вайна, якую вялі паміж сабой савецкія партызанскія атрады і фарміраванні Арміі Краёвай, вельмі часта "ўцягвала" (насуперак яго ўласнай волі) і частку мясцовага насельніцтва. У адносінах да асоб, якія падтрымлівалі супрацьлеглыя бакі, прымяняўся тэрор (і даволі часта на падставе калектыўнай адказнасці). Усё гэта надавала савецка-польскаму канфлікту, асабліва на тэрыторыі Панямоння, што прылягала да Налібоцкай пушчы, бязлітасны характар. Ахвярамі ўзброенага канфлікту з абодвух бакоў сталі 700–750 загінулых, у тым ліку дзеці, жанчыны і старыя. Варта адзначыць, што гэты канфлікт развязаў савецкі бок. Дзеянні польскіх фарміраванняў АК, як правіла, адбываліся ў адказ[139].

Польскае насельніцтва заходніх абласцей БССР, нягледзячы на тэрор як з боку гітлераўцаў, так і з савецкага, вяло барацьбу за вызваленне ад нямецкай акупацыі. Канчатковай мэтай была перадача вызваленых тэрыторый пад юрысдыкцыю польскага эміграцыйнага ўрада. Армія Краёва імкнулася да таго, каб усходняя мяжа Польшчы праходзіла ў адпаведнасці з рашэннямі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. і пактам аб неагрэсіі, падпісаным паміж Польшчай і СССР 25 ліпеня 1932 г.

Савецкая ўлада ў Маскве не мела ніякага намеру ісці на тэрытарыяльныя ўступкі Польшчы, паколькі створаны ёю новы польскі камуністычны ўрад цалкам быў ёй падпарадкаваны і дзейнічаў пад пратэктаратам Крамля. Усе самыя важныя рашэнні па "польскім пытанні" (як ЦК УКП(б), так і ЦК КП(б)Б), а таксама дзеянні савецкіх партызанскіх атрадаў накіроўваліся на тое, каб утрымаць тэрыторыі, набытыя ў выніку агрэсіі СССР супраць Польшчы 17 верасня 1939 г. Сталін мог цалкам разлічваць на прызначаны ім польскі камуністычны ўрад як у гэтым пытанні, так і ў пытанні ўсталявання ў Польшчы камуністычнай дыктатуры па вобразе і падабенстве СССР. Аўтарытэт Сталіна, які ўзрастаў у свеце, а таксама ў колах антыгітлераўскай кааліцыі на фоне перамог на савецка-нямецкім фронце, не даваў аніякіх шанцаў АК на выкананне задач, звязаных з усталяваннем на былых усходніх польскіх тэрыторыях улады, падпарадкаванай лонданскаму эміграцыйнаму ўраду. Больш за тое, ужо восенню 1944 г. Берыя планаваў перакідку 13 палкоў НКУС (18 890 салдат і афіцэраў) для барацьбы з польскім узброеным падполлем у Заходняй Беларусі[140].

---

138 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 64, арк. 382–383.

139 Z. Boradyn, *Niemen — rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943–1944*, s. 231.

140 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 68, арк. 59–60.

У такіх палітычных умовах гераічная барацьба частак і злучэнняў Арміі Краёвай за дэмакратычную, незалежную і самастойную Польшчу без улады камуністаў і з перадваеннымі межамі была, безумоўна, асуджана на паражэнне. Перамагаючы ў асобных бітвах і баях з савецкімі партызанскімі атрадамі, у канчатковым выніку АК была разгромлена Чырвонай арміяй і апаратам НКУС-НКДБ. Нягледзячы на гэта, варта прызнаць, што польскія фарміраванні Арміі Краёвай зрабілі даволі значны ўнёсак у перамогу над нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

## 3. Узаемаадносіны паміж польскім падполлем і беларускім нацыянальным рухам

Сталінскія даваенныя рэпрэсіі ў БССР у дачыненні да нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі прывялі практычна да поўнага знішчэння яе эліты. Найбольш пацярпелі тыя, хто актыўна ўдзельнічаў у заснаванні падмуркаў беларускага нацыянальнага развіцця. У даваеннай Польшчы ў дачыненні да беларусаў не было такіх крывавых рэпрэсій. Разам з тым польскія ўлады адміністрацыйнымі метадамі ліквідавалі ўсе арганізацыйныя структуры беларускай нацыянальнай меншасці[141], абвінаваціўшы іх у камуністычнай дзейнасці. Апроч таго, праводзілі паскораны курс на асіміляцыю беларусаў і інтэграцыю іх у польскае грамадства.

Поўнае расчараванне савецкай палітыкай і палітыкай польскіх даваенных улад прывяло беларускіх нацыянальных дзеячаў у Польшчы і ў эміграцыі да пошукаў саюзнікаў. Яны разумелі, што існаванне паміж Польшчай і Расіяй магчыма толькі ў выпадку стварэння сваёй незалежнай дзяржавы. Антыпольская і антыкамуністычная прапагандысцкая рыторыка Германіі пад уладай нацыстаў паказвала беларускім дзеячам на патэнцыйнага саюзніка[142].

З'яўленне нямецкіх войскаў у чэрвені 1941 г. з надзеяй на пазбаўленне ад бальшавіцкага тэрору ўспрынялі не толькі палякі, не назіралася вялікага расчаравання і сярод беларусаў у заходніх абласцях БССР[143]. Некаторыя беларускія палітыкі разглядалі савецка-нямецкую вайну як магчымасць стварэння сваёй нацыянальнай дзяржавы. У многіх з іх з'явілася ілюзія таго, што немцы дапамогуць рэалізаваць гэтую задуму.

Яшчэ ў 1939 г. у Берліне пачала працу беларуская рэдакцыя штотыднёвіка "Раніца", у публікацыях якога закраналіся пытанні лёсу беларускага народа. У жніўні 1939 г. па ініцыятыве нямецкага боку адбылася сустрэча прадстаўнікоў міністэрства замежных спраў Германіі са старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Васілём Захаркам, а таксама з эмігранцкім дзеячам Іванам Ермачэнкам (у той час абодва знаходзіліся ў Празе). Ермачэнка прапанаваў немцам пасля разгрому СССР стварыць з імі і пад іх пратэктаратам беларускую дзяржаву[144]. Летам 1940 г. беларусы, што прыехалі ў Берлін, атрымалі згоду на арганізацыю Беларускага камітэта самапомачы (БКС)[145]. З набліжэннем савецка-нямецкай вайны БКС і яго філіялы ў Германіі, а таксама ў акупаваных Польшчы і Чэхаславакіі ператвараліся ў цэнтры палітычнай дзейнасці беларусаў. Некаторыя прадстаўнікі гэтых цэнтраў

---

141 Па ацэнках беларускіх гісторыкаў, беларуская нацыянальная меншасць у даваеннай Польшчы складала ад 1,5 да 2,0 млн. чалавек.

142 E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 125.

143 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 179.

144 Я. Найдзюк, І. Касяк, *Беларусь учора і сёння*, Мінск 1993, с. 256–258.

145 А. Гардзіенка, *Берлін як асяродак беларускага жыцця першай паловы 40-х гг. XX стагоддзя*, "Запісы", 2003, № 26, с. 93.

займаліся арганізацыяй разведвальнай, прапагандысцкай і дыверсійнай дзейнасці на карысць гітлераўскай Германіі[146].

19 чэрвеня 1941 г. у Берліне быў створаны Беларускі нацыянальны цэнтр (БНЦ), старшынёй якога абраны кіраўнік Беларускага камітэта самапомачы ў Варшаве Мікалай Шчорс[147]. У склад кіраўніцтва таксама ўвайшлі ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, Часлаў Ханяўка, Анатоль Шкуцька, Вітаўт Тумаш, Мікалай Ждановіч, Барыс Стрэльчык, Пётр Ластаўка[148]. Польскі і беларускі гісторык Яўген Міранович лічыць, што верагодна гэта быў орган, які ў будучым планаваў сябе абвясціць урадам Беларусі[149]. БНЦ таксама меў на мэце стварэнне больш шырокай рэпрэзентацыі народа Беларусі праз арганізацыю Беларускага народнага фронту як заканадаўчага органа. Па-за структурай БНЦ апынуліся Фабіян Акінчыц, лідар беларускіх нацыянал-сацыялістаў[150], і Радаслаў Астроўскі, кіраўнік Беларускага камітэта ў Лодзі. Апошняму беларускія эміграцыйныя дзеячы не маглі прабачыць спачатку супрацоўніцтва з камуністамі, а пазней — з польскімі ўладамі. Ад супрацоўніцтва з немцамі адышоў адзін са стваральнікаў беларускай дзяржаўнасці — старшыня Рады БНР Васіль Захарка[151].

Адразу пасля пачатку вайны з’явілася яшчэ адна група беларускіх дзеячаў, якая згуртавалася вакол Вацлава Іваноўскага і Яна Станкевіча. Яны спрабавалі выкарыстаць палітычную сітуацыю для ўвядзення як мага большай колькасці беларусаў у структуры нямецкай адміністрацыі, а таксама атрымаць дазвол немцаў на стварэнне беларускіх вайсковых фарміраванняў. Сваёй галоўнай мэтай яны лічылі падрыхтоўку беларускага народа, як маральна, так і арганізацыйна, да барацьбы за сваю дзяржаўнасць. Пры гэтым Іваноўскі і Станкевіч прадбачылі, што немцы не змогуць перамагчы ў вайне з СССР. Таму спрабавалі дамовіцца з палякамі і вызначыць нацыянальныя інтарэсы кожнага з бакоў, каб выключыць з’яўленне канфліктаў у будучым. Яны прапанавалі стварэнне пасля вайны польска-беларускай федэрацыі, але ўсходнюю мяжу Польшчы разглядалі ўздоўж лініі Керзана. Для палякаў такая прапанова была непрымальнай. Яны гатовы былі падтрымаць беларускіх дзеячаў пры ўмове, што тыя будуць прэтэндаваць толькі на тэрыторыі, якія знаходзіліся на ўсход ад рыжскай мяжы[152].

Варта заўважыць, што намеры стварыць беларускую нацыянальную дзяржаву супярэчылі інтарэсам не толькі палякаў, але і СССР. Гэтыя непаразуменні вялі да вайны ўсіх супраць усіх. Канцэпцыя стварэння Беларусі ў яе этнічных межах не задавальняла польскія падпольныя фарміраванні, якія змагаліся за тэрыторыю Польшчы па стане на ліпень 1939 г., а таксама савецкія ўлады, якія імкнуліся вярнуць тыя землі, што ўваходзілі ў склад СССР да 22 чэрвеня

146 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, Białystok b.d.w., s. 209.

147 Я. Найдзюк, І. Касяк, *Беларусь учора і сёння*, с. 257.

148 Тамсама, с. 257.

149 E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 128.

150 J. Turonek, *Białoruś pod okupacją niemiecką*, s. 43.

151 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 210.

152 Тамсама, с. 210.

1941 г. (іх інтарэсы адстойвалі савецкія партызанскія атрады). У такіх умовах непазбежнымі былі барацьба, накіраваная супраць беларускага нацыянальнага руху, а таксама польска-савецкі канфлікт.

Напружанасць, якая існавала ў гэтых адносінах, даволі ўдала выкарыстоўвалі гітлераўцы. У першыя месяцы нямецкай акупацыі ўсе выпадкі даносаў аб камуністычнай дзейнасці адразу разглядаліся службай бяспекі. Паводле ўказанняў Вярхоўнага камандавання Вермахта ўсіх, хто абвінавачваўся ў супрацоўніцтве з бальшавікамі, расстрэльвалі без суда і следства. У выніку загінула шмат беларусаў, якія працавалі ў структурах нямецкай адміністрацыі. Віну за гэта беларускі бок усклаў на мясцовых польскіх служачых і паліцаяў, што дзейнічалі ў згодзе з польскім падполлем і па даручэнні лонданскага ўрада[153]. Беларускія нацыянальныя дзеячы адплачвалі палякам тымі ж метадамі. Узаемнае знішчэнне польскай і беларускай эліт пад пільным кантролем нямецкіх акупантаў з рознай ступенню актыўнасці не спынялася да канца вайны[154].

Надзеі дзеячаў БНЦ на магчымасць абвяшчэння беларускага ўрада і на ўсталяванне з немцамі паўнапраўных партнёрскіх адносін не здзейсніліся, хаця многія з іх атрымалі кіруючыя пасады ў нямецкай адміністрацыі і дапаможнай паліцыі. Так, Вітаўт Тумаш заняў пасаду бургамістра Мінска, Адам Дземідовіч-Дземідзецкі стаў яго намеснікам. Кіраўніком адміністрацыі Мінскага раёна быў прызначаны Мечыслаў Контаўт. Камендантам дапаможнай паліцыі Мінска стаў Дзмітрый Касмовіч[155]. Радаслаў Астроўскі, які не ўваходзіў у структуры БНЦ, стаў кіраўніком адміністрацыі Мінскай вобласці. Некалькі дзеячаў БНЦ занялі розныя пасады ў Магілёве і Віцебску. Старшыня БНЦ Мікалай Шчорс застаўся ў Беластоку, дзе пачаў друкаваць газету “Новая дарога”[156].

Камітэты вельмі хутка пачалі стварацца ў іншых гарадах Беларусі і ажыццяўляць ролю пасярэдніка паміж беларускім насельніцтвам і акупацыйнымі ўладамі. Адначасова яны рабіліся цэнтрамі беларускага палітычнага руху. Шматлікія інтэрвенцыі дзеячаў камітэтаў выратоўвалі беларусаў ад рэпрэсій, у іх шэрагах знаходзілі паратунак таксама былыя савецкія функцыянеры, некаторыя з якіх з’яўляліся агентамі, што працавалі на карысць НКУС[157].

Немцы ўвесь час працавалі над тым, каб стварыць бяспеку і стабільнасць сваёй улады на тэрыторыі акупаванай Беларусі. Генеральны камісар Вільгельм Кубэ быў прыхільнікам развіцця беларускага нацыянальнага руху як найбольш

---

153 З. Пазьняк, *Гутаркі з Антонам Шукелойцем*, Варшава — Вільня 2003, с. 71.

154 *Kwestia białoruska na Nowogródczyźnie w polityce władz niemieckich*, [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 42–43.

155 З успамінаў Дзмітрыя Касмовіча, які працаваў некалькі тыдняў членам праўлення горада Мінска і адказваў за гаспадарчыя справы і забеспячэнне, вядома, што яго памочнікам быў Баляслаў Берут, пазней прэзідэнт Польшчы, пастаўлены на гэтую пасаду Сталіным. Гл.: Д. Касмовіч, *За вольную і суверэнную Беларусь*, Вільня 2006.

156 E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 131.

157 А. Анішэўская, *У ваенным Беластоку*, [у:] *Пакаленне вайны. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў перыяд вайны і акупацыі (1939–1944)*, рэд. В. Луба, Беласток 2003, с. 260–264; *Kwestia białoruska na Nowogródczyźnie w polityce władz niemieckich*, [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 40.

выніковага супрацьдзеяння савецкаму ўплыву і сродку барацьбы з савецкімі партызанамі. Кубэ разумеў, што існуюць супярэчнасці паміж інтарэсамі савецкай улады і беларускіх нацыянальных дзеячаў. Канчатковай мэтай апошніх было стварэнне сваёй незалежнай дзяржавы[158]. Але стаўка на развіццё беларускай дзяржаўнасці не мела падтрымкі ў Берліне. Кіраўніцтва Германіі больш спадзявалася на метады, якія СС і Вермахт прымянялі для падаўлення савецкага ўплыву на акупаваных тэрыторыях[159].

Палітыка "раздзяляй і валадар" прыводзіла да таго, што палякі даносілі на беларусаў, беларусы — на палякаў, каталікі — на праваслаўных, праваслаўныя — на каталікоў. Нямецкая акупацыя выкрыла ўсе беларускія заганы, якія шмат у чым з'яўляліся вынікам існавання іх на тэрыторыі Заходняй Беларусі падчас польскай улады[160], а таксама польскія — з перыяду першай савецкай акупацыі 1939–1941 гг. Палякі лічылі пагрозай для сябе кожную беларускую школу, кожную газету, якія з'яўляліся на захад ад рыжскай мяжы. З пункту ж гледжання ўдзельнікаў савецкага партызанскага руху, усе беларускія школы, выязныя тэатры, установы, што існавалі ад Беластока да Смаленска, былі праявай здрады Савецкаму Саюзу[161].

У сярэдзіне 1942 г. немцы пачалі выкарыстоўваць тактыку прасоўвання па службовай лесвіцы беларускіх дзеячаў, пры гэтым знешне захоўваючы ілюзію падтрымкі іх намеру стварыць беларускую дзяржаўнасць. У верасні 1942 г. Кубэ выдаў зварот да беларусаў, у якім гарантаваў ім свабоднае развіццё іх краіны. Гэта адозва не мела ніякага ўплыву на шырокую грамадскасць, але з энтузіязмам была ўспрынята дзеячамі Беларускай народнай самапомачы (БНС), якая была арганізавана ў канцы 1941 г. і мела свае аддзелы ва ўсіх раёнах Генеральнай акругі Беларусь. Кіраўніцтва БНС немцы даверылі Івану Ермачэнку[162]. Сярод сяброў БНС былі вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы, такія як Барыс Рагуля, Юрый Сабалеўскі, Станіслаў Станкевіч, Іван Касяк, Антон Адамовіч, Юльян Саковіч. У ліпені 1942 г. была створана Цэнтральная рада, якая складалася з 12 чалавек. Рада мусіла выконваць ролю ценявога кабінета, які ў любы момант гатовы быў прыняць на сябе ўсю паўнату ўлады ў Беларусі з рук немцаў[163]. Немцы таксама дазволілі выкарыстоўваць у грамадскіх месцах беларускія нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы

158 *Kwestia białoruska na Nowogródczyźnie w polityce władz niemieckich*, [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 42.

159 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 209–210.

160 Масавыя арышты польскай інтэлігенцыі і нацыянальна свядомых палякаў немцамі былі арганізаваныя летам 1942 г. Спісы палякаў, якія падлягалі расстрэлу, падрыхтавалі сябры Беларускай народнай самапомачы (БНС). У выніку гэтай аперацыі немцы расстралялі больш за тысячу прадстаўнікоў польскай эліты. Гл.: *Kwestia białoruska na Nowogródczyźnie w polityce władz niemieckich*, [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 42.

161 Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 177–200.

162 Эміграцыйны беларускі дзеяч доктар Іван Ермачэнка быў вельмі негатыўна і варожа настроены да палякаў і Каталіцкага касцёла. Ён карыстаўся ў немцаў найбольшым даверам сярод астатніх беларускіх дзеячаў. Гл.: *Kwestia białoruska na Nowogródczyźnie w polityce władz niemieckich,* [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 40.

163 *Гісторыя Беларусі. Беларусь у 1917–1945 гг.*, т. 5, рэд. М. Касцюк, Мінск 2007, с. 512.

сцяг і герб з выявай Пагоні. Гэтыя сімвалы з’явіліся і на мундзірах дапаможнай паліцыі[164].

Некалькі месяцаў працягвалася рэалізацыя канцэпцыі акупацыйнай палітыкі Вільгельма Кубэ, заснаванай на падтрымцы беларускага нацыянальнага руху як метаду барацьбы з камуністычным уплывам. У першую чаргу немцы хацелі стварыць беларускія антыпартызанскія вайсковыя фарміраванні, якія, змагаючыся за беларускую дзяржаўнасць, насамрэч ваявалі б у інтарэсах Германіі[165].

У сярэдзіне 1942 г. пачалося фарміраванне падраздзяленняў, частак і злучэнняў Беларускай самааховы. Планавалася стварыць корпус у складзе трох дывізій, а іх штабы размясціць у Мінску, Баранавічах і Вілейцы[166]. Фармальна гэтыя беларускія вайсковыя сілы павінны былі падпарадкоўвацца старшыні БНС Івану Ермачэнку, а па пытаннях аператыўнага прымянення — камандаванню СС і паліцыі Генеральнай акругі Беларусь. У жніўні 1942 г. пачала сваю дзейнасць Мінская афіцэрская школа, кіраўніком якой стаў былы маёр польскага войска Францішак Кушаль[167].

За кароткі перыяд падрыхтавана (перападрыхтавана) некалькі тысяч вайскоўцаў, якія павінны былі стварыць камандны састаў беларускага вайсковага корпуса (аб’яднання)[168]. Восенню 1942 г. немцы, да канца не ўпэўненыя ў вернасці беларускага корпуса нямецкім ідэям, адмовіліся ад яго далейшага фарміравання, а ўжо падрыхтаваныя падраздзяленні ператварылі ў структуры паліцыі. Ермачэнка быў высланы з Беларусі, яго штаб ліквідавалі, а афіцэраў пазбавілі іх ваенных званняў. Падрыхтаваныя паліцэйскія фарміраванні накіроўваліся на барацьбу з савецкімі партызанамі[169].

Летам 1942 г. Цэнтральны штаб партызанскага руху выдаў загад, згодна з якім савецкія партызаны павінны былі ліквідаваць адміністрацыйныя ўстановы гмін і іх супрацоўнікаў разам з сем’ямі. Партызаны таксама расстрэльвалі настаўнікаў, якія працавалі ў беларускіх школах, солтысаў, у некаторых выпадках і сялян, што прынялі калгасную зямлю ў выніку яе парцэляцыі. Пазней у сваіх справаздачах партызаны пісалі, што знішчалі здраднікаў савецкай радзімы. Многія з тых, хто змог пазбегнуць рэпрэсій, знаходзілі паратунак у беларускіх пранямецкіх арганізацыях[170].

Разрыў савецка-польскіх адносін у красавіку 1943 г. непасрэдна паўплываў на абвастрэнне польска-беларускага канфлікту ў заходніх абласцях Беларусі. У выніку нямецкай падтрымкі беларускага нацыянальнага руху і прызначэння беларусаў на адміністрацыйныя пасады і ў дапаможную паліцыю, іх колькасць у гэтых структурах складала да 80 % і да 60 % адпаведна. Беларуская мова

[164] O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 217.

[165] НАРБ, ф. 380, воп. 1, спр. 1, арк. 32: Доклад Ивана Ермаченко о ситуации на Беларуси, прочитанный в Минске 1 сентября 1942 г.

[166] НАРБ, ф. 380, воп. 1, спр. 1, арк. 44: Обращение БНС от 4 июля 1942 г.

[167] Ф. Кушаль, *Спробы стварэння беларускага войска*, Менск 1999, с. 47–48.

[168] З. Пазьняк, *Гутаркі з Антонам Шукелойцем*, с. 74.

[169] Ф. Кушаль, *Спробы стварэння беларускага войска*, с. 45.

[170] *Гісторыя Беларусі. Беларусь у 1917–1945 гг.*, с. 514.

ў Генеральнай акрузе Беларусь практычна зрабілася афіцыйнай. На ёй друкавалася большасць легальных газет. У пачатковых і сярэдніх школах прадметы збольшага выкладаліся па-беларуску. Такое актыўнае развіццё беларускага руху выклікала непакой з боку камандавання АК, асабліва ў Навагрудскай і Віленскай акругах. Гэты працэс яны разглядалі як пагрозу для польскага дзяржаўнага інтарэсу[171].

Немцы, у сваю чаргу, імкнуліся гэты канфлікт падтрымліваць і паглыбляць з мэтай дасягнення ўзаемнага польска-беларускага знішчэння. Звальняючы палякаў з пасад у адміністрацыі і паліцыі, арганізоўваючы тайныя забойствы прадстаўнікоў польскай і беларускай інтэлігенцыі, яны правакавалі яшчэ большы недавер і варожасць паміж бакамі[172].

Беларусы, якія служылі ў нямецкай адміністрацыі, у выпадку канфлікту інтарэсаў, як правіла, прымалі рашэнне не на карысць палякаў. Напрыклад, часцей запісвалі на прымусовыя працы ў Германіі польскую моладзь, чым беларускую. АК на дамінаванне беларусаў у структурах акупацыйнай улады адказвала антыбеларускім тэрорам. Так, у Лідскай акрузе беларуска-польскі канфліктператварыўся ў сапраўдную вайну, накіраваную на знішчэнне нацыянальнай эліты з абодвух бакоў. Супрацоўніцтва ў гэтай акрузе АК з дапаможнай паліцыяй, якая збольшага складалася з палякаў, прывяло да фізічнага знішчэння арганізатараў беларускага нацыянальнага руху — настаўнікаў, служачых, дзеячаў Саюза беларускай моладзі. Толькі ў другой палове 1943 г. вайскоўцамі Арміі Краёвай было забіта больш за 300 беларусаў, 80 чалавек у выніку даносаў былі перададзены гестапа як камуністы[173].

Паралельна з карнымі акцыямі і тэрорам у дачыненні да тых, хто падазраваўся ў супрацоўніцтве з партызанамі, нямецкія акупацыйныя ўлады ў сярэдзіне 1943 г. зноў пачалі праводзіць палітыку падтрымкі беларускага нацыянальнага руху. 22 чэрвеня 1943 г. быў створаны Саюз беларускай моладзі, які ўжо ў канцы гэтага года налічваў у сваіх шэрагах каля 40 тысяч чалавек[174].

Апроч таго, па ініцыятыве генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ створана Беларуская рада даверу, якая для немцаў павінна была выконваць ролю палітычнай рэпрэзентацыі беларусаў. Старшынёй Рады прызначаны Вацлаў Іваноўскі. У яе склад увайшлі Міхась Ганько і Надзея Абрамава. Рада не мела вялікіх шансаў на заваяванне аўтарытэту сярод беларусаў у той час, калі СС, паліцыя і Вермахт знішчалі беларускія вёскі.

Забойства Вільгельма Кубэ савецкімі партызанамі ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 г. і прызначэнне на яго пасаду камандзіра СС і паліцыі ў Генеральнай акрузе Беларусь Курта фон Готберга[175] (з яго дазволу 22 снежня 1943 г. быў забіты

171 Д. Крывашэй, *Польская супольнасць Беларусі падчас акупацыі*, [у:] *Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: масавыя забойствы нацыстаў*, Мінск 2005, с. 142–143.

172 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 223.

173 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 218.

174 E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 143–144.

175 Тамсама, с. 143–144.

Вацлаў Іваноўскі), прывялі да пагаршэння ўмоў дзейнасці беларускага нацыянальнага руху[176].

Ваеннае становішча на ўсходнім фронце прымусіла немцаў скарыстацца беларусамі ў якасці людскога рэсурсу. Восенню 1943 г. была абвешчана мабілізацыя моладзі 1922–1924 гадоў нараджэння ў дапаможную паліцыю. Паколькі яе маральна-баявы дух быў не вельмі высокі, а дэзерцірства здаралася часта, было вырашана падпарадкаваць яе беларускаму цэнтру палітычнай улады. 21 снежня 1943 г. з гэтай мэтай створана Беларуская цэнтральная рада (БЦР), якую нямецкая прапаганда назвала "рэпрэзентацыяй беларускага народа". Яе старшынёй быў прызначаны Радаслаў Астроўскі[177].

Рада, як і Саюз беларускай моладзі, цалкам падпарадкоўвалася нямецкаму генеральнаму камісару, які абіраў і прызначаў яе старшыню і членаў. БЦР атрымала вялікія сродкі на сваю дзейнасць, а нямецкая прапаганда стварала з Астроўскага вобраз правадыра беларускага народа, які змагаецца за яго вызваленне ад бальшавіцкай акупацыі[178].

У студзені 1944 г. у выніку рэарганізацыі БЦР у ёй быў створаны ваенны аддзел, начальнікам якога Готберг прызначыў маёра Францішка Кушаля. 6 сакавіка 1944 г. Астроўскі выдаў загад аб мабілізацыі мужчын 1908–1924 гадоў нараджэння ў Беларускую краёвую абарону. З 40 тысяч прыбыўшых на зборныя пункты мабілізавана 28 тысяч чалавек. З іх стварылі 45 батальёнаў (паводле іншых даных — 80 батальёнаў[179]), у асноўным пяхотных. Немцы не маглі забяспечыць усе фарміраванні афіцэрскім і падафіцэрскім саставамі, каб выкарыстоўваць цалкам для барацьбы з савецкімі партызанамі. У сярэдзіне чэрвеня ў афіцэрскую школу ў Мінску было прынята 280 чалавек, аднак праз два тыдні ў горад уступіла Чырвоная армія[180].

27 чэрвеня 1944 г., за некалькі дзён да заняцця Мінска савецкімі войскамі, Радаслаў Астроўскі склікаў II Усебеларускі кангрэс (Першы адбыўся ў снежні 1917 г.), у якім удзельнічалі беларускія палітычныя і грамадскія дзеячы з еўрапейскіх тэрыторый, акупаваных немцамі[181]. Усяго ўдзельнікаў налічвалася 1 039 чалавек. Кангрэс абвясціў сябе органам, які працягвае палітычныя традыцыі Беларускай Народнай Рэспублікі, а БЦР — адзінай легальнай уладай у Беларусі. БССР трактавалася як страшэннае стварэнне маскоўскага імперыялізму. Нямецкія войскі, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, называліся саюзніцкімі, а Чырвоная армія — агрэсарам.

Праз два дні БЦР пакінула Мінск, накіраваўшыся ў Берлін, дзе па задуме нямецкіх улад павінна была ўздзейнічаць на некалькі соцень тысяч беларусаў,

---

176 J. Turonek, *Białoruś pod okupacją niemiecką*, s. 209–210.

177 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 225.

178 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 222–223.

179 *Kwestia białoruska na Nowogródczyźnie,* [y:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 42.

180 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 223.

181 Падрабязней на тэму стварэння і функцыянавання органаў улады, грамадскіх устаноў, а таксама дапаможнай паліцыі, што былі арганізаваны беларускім нацыянальным рухам пад нямецкай акупацыяй, гл.: E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 125–165.

якіх вывезлі на прымусовыя працы ў Германію, на членаў СБМ, што добраахвотна прыехалі ў Германію, а таксама на некалькі тысяч бежанцаў, якія ўцяклі ад савецкіх рэпрэсій[182].

6 ліпеня 1944 г. узброеныя фарміраванні АК Навагрудскай і Віленскай акруг пачалі рэалізацыю апошняга і найбольш важнага задання лонданскага эміграцыйнага ўрада. Гэта былі дзве аперацыі: акцыя "Бура", якая распрацоўвалася некалькі месяцаў, і падрыхтаваны ў апошні момант план "Вострая Брама". Мэта — здзейсніць напад на адступаючыя нямецкія часткі, заняць Вільню і сустрэць там у ролі гаспадароў Чырвоную армію[183]. Калі ўлічыць, што праз Літву і Беларусь прайшлі шматмільённыя войскі, якія ўдзельнічалі ў баях з абодвух бакоў, то баявыя дзеянні малакалькасных фарміраванняў АК у палітычным плане практычна засталіся незаўважнымі. Самавыяўленне Арміі Краёвай пасля паспяховых баёў за Вільню спрасціла савецкай уладзе яе ліквідацыю ў будучым[184].

У перыяд нямецкай акупацыі Беларусі з чэрвеня 1941 г. па ліпень 1944 г. існаваў унутраны канфлікт паміж беларусамі, якія змагаліся з розных бакоў фронту. Адны, з мэтай стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы, падтрымлівалі немцаў, другія змагаліся на баку савецкай улады. Найбольш складанымі былі беларуска-польскія адносіны, якія выключалі ўсялякія кампрамісы[185]. Гэта было звязана з канфліктам інтарэсаў беларусаў і палякаў. Калі палякі здолелі вырвацца з савецкіх абдымкаў і пабудаваць сваю незалежную дзяржаву, то беларусы не змаглі гэтага зрабіць. Прытым падчас нямецкай акупацыі ўсе інстытуты, якія прадстаўлялі польскую дзяржаву альбо польскі дзяржаўны інтарэс, займалі пазіцыю захавання рыжскай мяжы 1921 г. Галоўным патрабаваннем лідараў беларускага руху было аб'яднанне ўсіх этнічных беларускіх тэрыторый у адной дзяржаве. Яны, маючы досвед стаўлення даваенных улад Другой Рэчы Паспалітай да беларусаў, былі ўпэўнены ў тым, што далучэнне былых паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы да планаванай беларускай дзяржавы можа вырātаваць іх ад паланізацыі.

Дыяметральна розныя інтарэсы палякаў і беларусаў садзейнічалі таму, што яны ўвесь перыяд акупацыі вялі паміж сабой пастаянную барацьбу за кожную пасаду ў нямецкай адміністрацыі, за кожны паліцэйскі ўчастак, за кожную школу. На іх думку, ад таго, хто пераможа ў гэтай барацьбе, залежала будучая дзяржаўная прыналежнасць гэтых тэрыторый[186].

Гэта была вайна, у якой, не без дапамогі нямецкіх карных структур, адзін аднаго знішчалі прадстаўнікі польскай і беларускай эліт[187]. Такая сітуацыя,

[182] O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 226.

[183] Падрабязней на гэту тэму гл.: *Nowogródzkie oddziały AK w operacji "Burza" i operacji "Ostra Brama"*, [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 51–58.

[184] С. Ситкевич, С. Сильванович, В. Барабаш, Н. Рыбак, *Польское подполье на территории западных областей Беларуси*, Гродно 2004, с. 256–257.

[185] Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944*, s. 167–197.

[186] Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Konsekwencje odmiennego definiowania interesu narodowego przez Polaków i Białorusinów w latach 1939–1944*, [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 314–318.

[187] Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 311–312.

натуральна, задавальняла савецкія ўлады[188]. У адрозненне ад Украіны, гэтае супрацьстаянне на беларуска-польскім памежжы не ператварылася ў этнічны канфлікт.

Вялікай трагедыяй для беларусаў і палякаў, якія многія стагоддзі жылі ў адной дзяржаве (Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў), а пазней пад расійскай і савецкай акупацыямі, было тое, што сярод забітых АК беларусаў палова была каталіцкага веравызнання (іх даваенныя польскія ўлады залічылі да палякаў), а ў шэрагах Арміі Краёвай 40 % вайскоўцаў складалі праваслаўныя беларусы[189].

У Беларусі вайна не скончылася летам 1944 г., калі на яе тэрыторыю ўступіла Чырвоная армія. Органы НКУС, якія прыйшлі разам з ёй, пачалі арышты тых, хто супрацоўнічаў з нямецкім акупацыйным рэжымам. Каго не расстралялі альбо не пасадзілі ў турму, тых выслалі ў паўночныя і ўсходнія вобласці СССР (у тым ліку шматлікіх людзей, якія выжылі ў нямецкім палоне). Усе прыхільнікі беларускага нацыянальнага руху і змагары за незалежнасць Беларусі скончылі вайну з кляймом здрадніка і калабарацыяніста. У савецкай пасляваеннай і беларускай гістарыяграфіі іх учынкі падчас вайны называлі злачыннымі і амаральнымі.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: а ці былі маральна абгрунтаванымі паводзіны сталінскага рэжыму, які знішчыў без суда і следства, як у даваенны перыяд, так і падчас вайны, дзясяткі тысяч найлепшых прадстаўнікоў беларускага і польскага народаў на тэрыторыі Беларусі?

Другая сусветная вайна і нямецкая акупацыя прынеслі на беларускія землі не толькі гора і смерць, але і вялікія матэрыяльныя страты, разбурэнні гарадоў і вёсак. Знішчэнне немцамі і прадстаўнікамі савецкага партызанскага руху, а пазней органамі НКУС, беларускай нацыянальнай эліты садзейнічала паскарэнню саветызацыі беларусаў і ў будучым прывяло да актыўнага ўдзелу іх у стварэнні новай гістарычнай супольнасці людзей — савецкага народа.

188 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Nowogródzkie oddziały AK w operacji "Burza" i operacji "Ostra Brama"*, [у:] *Dopalanie Kresów. Nowogródzki Okręg AK w dokumentach*, s. 39–43.

189 O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, s. 223.

## 1. Пагадненне “Вялікай тройкі” па пытанні ўсходняй мяжы Польшчы. Наступствы для палякаў у БССР

Пасляваенны лёс Польшчы і фарміраванне яе межаў, асабліва ўсходняй, былі прадметам шматлікіх абмеркаванняў “Вялікай тройкі”. На канферэнцыях у Тэгеране, Ялце і Патсдаме прынята канчатковае рашэнне аб палітычным ладзе і межах, у якіх павінна была існаваць новая Польшча. Канферэнцыя ў Тэгеране стала паваротным момантам у англа-амерыкана-савецкай палітыцы адносна Польшчы. На ёй было прынята сакрэтнае рашэнне кіраўнікоў трох галоўных дзяржаў аб усходняй польскай мяжы, а таксама аб савецкім уплыве на тэрыторыях, якія вызваліла Чырвоная армія. Патрабаванне СССР, упершыню агучанае ў Тэгеране ў 1943 г., было катэгарычным: усходняя мяжа Польшчы павінна праходзіць па лініі Керзана[1].

28 лістапада 1943 г. у Тэгеране адбылася першая афіцыйная размова паміж Чэрчылем і Сталіным на тэму Польшчы[2]. Падчас дыскусіі па “польскім пытанні” Сталін з усёй упэўненасцю заявіў, што не можа дапусціць, каб землі беларусаў, украінцаў, якія ім былі вернутыя ў 1939 г., зноў увайшлі ў склад Польшчы. На яго думку, гэта было б няправільна і несправядліва[3].

У пачатку 1944 г. Чырвоная армія ўвайшла на тэрыторыю Польшчы. Кіраўніцтва СССР не прызнавала эміграцыйнага польскага ўрада, а таксама дзейнасці ў акупаванай Польшчы Польскай падпольнай дзяржавы і яе вайсковага фарміравання — Арміі Краёвай. Яны трактаваліся як рэакцыйныя і варожыя[4].

Пасля аднабаковага разрыву дыпламатычных адносін з польскім урадам у выгнанні СССР стварыў падпарадкаванае сабе кіраўніцтва Польшчы, якое лічыла наладжванне цесных стасункаў з Савецкім Саюзам галоўным вектарам польскага дзяржаўнага інтарэсу[5]. 21 ліпеня 1944 г. пад савецкім пратэктаратам быў арганізаваны Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення (ПКНВ). Галоўным прынцыпам замежнай палітыкі ў праграме ПКНВ было заключэнне саюзу з СССР, а пасля з іншымі дзяржавамі, якія мелі агульныя з Польшчай інтарэсы ў Еўропе. Маніфест ПКНВ, абвешчаны 22 ліпеня 1944 г., казаў пра неабходнасць ліквідацыі спрэчак паміж палякамі і іх усходнімі суседзямі. Таксама ў маніфесце гаварылася пра абавязковае прызнанне права на самавызначэнне для кожнага народа. Створаны савецкімі ўладамі ПКНВ, які падтрымлівала прасавецкая Краёвая рада нарадовая (КРН), 27 ліпеня 1944 г. падпісаў сакрэтную

[1] AAN, zespół 1424 (Телеграфное Агентство Советского Союза [ТАСС]), sygnatura 327/55, k. 114.

[2] Больш падрабязна пра змест размовы гл.: W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, t. 3: *Okres 1939–1945*, Londyn 1986, s. 478; AAN, z. 1424, sygn. 327/55, k. 7, 127; J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, Poznań 2014, s. 406.

[3] J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 408.

[4] A. Czubiński, *Czynniki kształtujące granice odrodzonego państwa polskiego w latach 1918–1945*, [y:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, red. S. A. Nicieja, Opole 1995, s. 72.

[5] J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, Wrocław 1998, s. 59.

дамову аб новай мяжы па лініі Керзана, што раздзяляла СССР і фашысцкую Германію паводле дамовы ад 29 верасня 1939 года[6].

У Маскве з 31 ліпеня па 9 жніўня 1944 г. знаходзілася дэлегацыя польскага лонданскага эміграцыйнага ўрада на чале са Станіславам Мікалайчыкам. Сталін прыняў Мікалайчыка 3 жніўня, пасля трох дзён чакання. Перамовы былі безвыніковымі[7]. На пытанне польскага прэм'ера пра ўсходнюю мяжу Польшчы Сталін зноў выказаў меркаванне, што яна павінна праходзіць па лініі Керзана, і што ён занадта стары, каб ісці супраць сумлення. Савецкі лідар заўважыў, што польскія ўсходнія землі будуць кампенсаваны за кошт тэрыторый на захадзе, уздоўж рэк Одэр і Ныса, а таксама Усходняй Прусіі[8].

7 жніўня Мікалайчык па асабістай ініцыятыве сустрэўся з Баляславам Берутам, які прапанаваў яму пост прэм'ер-міністра ў польскай дзяржаве, створанай пад пратэктаратам СССР. Пры гэтым Мікалайчык павінен быў адмовіцца ад сваёй пасады ў эміграцыйным урадзе, прызнаць ПКНВ, а таксама Берута ў ролі прэзідэнта Польшчы[9].

Становішча польскага ўрада ў Лондане не палепшыла ўзброенае паўстанне ў Варшаве, якое пачалося 1 жніўня 1944 г. Кіраўніцтва Савецкага Саюза праігнаравала яго. Больш за тое, прыпыніла наступленне Чырвонай арміі ў прадмесцях Варшавы[10]. Наступствамі паўстання былі вялікія людскія страты і разбурэнні горада.

9 жніўня Мікалайчык зноў сустрэўся са Сталіным і прасіў яго дапамагчы паўстанцам у Варшаве. На гэта Сталін адказаў: *"Люблінскія палякі сказалі мне, што там няма ніякіх баявых дзеянняў"*[11].

Праз месяц Масква накіравала ў Люблін прадстаўнікоў трох савецкіх рэспублік, якія падпісалі з ПКНВ дамовы аб эвакуацыі насельніцтва: Беларусь і Украіна — 9 верасня, а Літва — 22 верасня 1944 года[12]. Са жніўня 1944 г. (адначасова з перамовамі аб межах) ішло абмеркаванне існавання двух польскіх урадаў — ПКНВ і ўрада Польскай Рэспублікі ў эміграцыі. У жніўні і кастрычніку 1944 г. адбываліся непасрэдныя сустрэчы прадстаўнікоў гэтых двух палітычных цэнтраў, якія скончыліся безвынікова. У сувязі з чым 23 лістапада 1944 г. Мікалайчык склаў свае паўнамоцтвы[13]. Яго пераемнікам стаў Тамаш Арцішэўскі, вядомы сваімі антысавецкімі поглядамі. Ён адмовіўся ад вядзення перамоў па пытанні кааліцыйнага ўрада з ПКНВ. Гэты крок меў сур'ёзны ўплыў на далейшае развіццё падзей[14].

---

6 Тамсама, с. 59.

7 AAN, z. 1424, sygn. 327/54, k. 15.

8 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 451–452.

9 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 449–454.

10 Падрабязней на гэту тэму гл.: N. Iwanow, *Powstanie warszawskie widziane z Moskwy*, Kraków 2010, s. 81–256.

11 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 454.

12 *Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа. X–XXI ст.*, рэд. М. Семаковіч, Варшава 2005, с. 263.

13 AAN, z. 1424, sygn. 327/7, k. 178.

14 W. Kowalski, A. Skrzypek, *Stosunki polsko-radzieckie 1917–1945*, s. 253.

У снежні 1944 г. пачаўся новы этап саперніцтва паміж трыма вялікімі дзяржавамі па "польскім пытанні". Раней, падчас перамоў Мікалайчыка і Берута, Вялікабрытанія і ЗША займалі пазіцыю чакання, пры гэтым гучна дэкларавалі сваю падтрымку групы Мікалайчыка. Пасля разрыву кантактаў паміж палякамі заходнія дзяржавы рыхтаваліся да разгляду "польскага пытання" ў вярхах. Яны бачылі слабасць урада Арцішэўскага і таму цалкам пераключылі ўсе свае кантакты на Мікалайчыка і яго групу[15].

Кіраўніцтва СССР, разумеючы, што ўжо не існуе ніякіх перадумоў для таго, каб польскі эміграцыйны ўрад дамовіўся з ПКНВ, падтрымала праект пераўтварэння апошняга ў Часовы ўрад Польшчы. Сталін заклікаў ЗША і Вялікабрытанію таксама падтрымаць гэты план. Абмен карэспандэнцыяй паказаў усе сур'ёзныя разыходжанні поглядаў па "польскім пытанні" дзяржаў "Вялікай тройкі". Рузвельт і Чэрчыль адмовіліся падтрымаць Сталіна і звярнуліся да яго з просьбай, каб не прымаліся ніякія новыя рашэнні па гэтай праблеме, пакуль не адбудзецца іх сумесная сустрэча. Гэты зварот ніякім чынам не стрымаў Сталіна ў рэалізацыі яго планаў у дачыненні да Польшчы і ў падтрымцы ПКНВ[16].

На VI пленарным пасяджэнні Краёвай рады нарадовай 31 снежня 1944 г. у Любліне было прынята рашэнне аб стварэнні Часовага ўрада Польскай Рэспублікі, які ў сваёй дзейнасці павінен быў абапірацца на Ліпеньскі маніфест ПКНВ. На чале ўрада стаў Эдвард Асубка-Мараўскі (сябар ППС). Часовы ўрад Польшчы прызналі СССР, Чэхаславакія і Югаславія. Былі ўсталяваны кантакты са Швецыяй і Італіяй, адбыўся абмен прадстаўнікамі з Францыяй. ЗША і Вялікабрытанія адмовіліся прызнаць гэты ўрад[17].

Праблемы, звязаныя з "польскім пытаннем", былі адной з асноўных тэм падчас сустрэчы "Вялікай тройкі" 4–11 лютага 1945 г. у Лівадыйскім палацы ў Ялце. Ялцінская дэкларацыя абвясціла, што тры саюзніцкія дзяржавы імкнуцца да таго, каб Польшча стала *"моцнай, свабоднай, незалежнай і дэмакратычнай"* краінай[18]. Гэта магло быць дасягнута шляхам усталявання яе межаў згодна з прапановамі Сталіна і стварэння ўрада, які б прадстаўляў інтарэсы розных палітычных сіл. Такім чынам, усходняя мяжа Польшчы павінна была ісці ўздоўж лініі Керзана з магчымымі адхіленнямі ад яе ў асобных месцах на 5–8 кіламетраў на карысць польскай дзяржавы[19].

Сталін па ўсіх пытаннях, звязаных з Польшчай, не жадаў ісці на ўступкі, таму што бачыў, як Рузвельт і Чэрчыль імкнуліся ўцягнуць яго ў вайну з Японіяй. Падчас абмеркавання "польскага пытання" савецкі лідар абвінаваціў польскае падполле ў тым, што яно вядзе барацьбу з Чырвонай арміяй, нападае на склады

15 Тамсама, с. 253.

16 J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 479–480.

17 A. Czubiński, J. Topolski, *Historia Polski*, Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk — Łódź 1989, s. 537–538.

18 AAN, z. 1424, sygn. 327/54, k. 15.

19 AAN, z. 1424, sygn. 327/55, k. 15.

са зброяй і боепрыпасамі, а таксама паспела ўжо забіць 212 савецкіх салдат[20].

У Ялце Сталін практычна "вырашыў" усе праблемы, звязаныя з "польскім пытаннем". Польскі Часовы ўрад 21 красавіка 1945 г. падпісаў з СССР дамову аб сяброўстве, дапамозе і пасляваенным эканамічным супрацоўніцтве. У адказ на гэта ўрад Польшчы ў эміграцыі 29 красавіка выступіў па радыё з пратэстам: "[…] *Польскі ўрад паўтарае свой пратэст супраць прызнання кіраўніцтвам СССР так званага Люблінскага камітэта ў якасці Часовага ўрада Польскай Рэспублікі. Гэта прызнанне з'яўляецца выразным парушэннем міжнароднага права і пазбаўляе польскі народ магчымасці свабоднага ўсталявання дзяржаўнай улады. Польскі ўрад заяўляе, што ён гатовы ўстанавіць добрасуседскія адносіны з СССР, але заключаная дамова не будзе садзейнічаць дасягненню гэтай мэты*"[21]. Пратэст ніякім чынам не паўплываў на далейшую дзейнасць падначаленага Савецкаму Саюзу польскага Часовага ўрада, які 16 жніўня 1945 г. падпісаў Дагавор аб мяжы паміж Польшчай і СССР[22].

У Ялцінскай дэкларацыі сцвярджалася, што польскі Часовы ўрад трэба стварыць такім чынам, каб у яго складзе былі і лідары дэмакратычных сіл, як з Польшчы, так і з замежжа. Арганізаваны па такім прынцыпе Часовы ўрад народнага адзінства (ЧУНА) "Вялікая тройка" абяцала прызнаць і падтрымліваць яго дзейнасць. Праца па стварэнні гэтага ўрада зацягнулася да канца чэрвеня 1945 года[23].

Станіслаў Мікалайчык і польскія эміграцыйныя дзеячы, якія падтрымлівалі яго, пайшлі на кампраміс. У выніку 28 чэрвеня 1945 г. быў арганізаваны Часовы ўрад народнага адзінства[24]. Польскі эміграцыйны ўрад у Лондане страціў сваё значэнне на міравой арэне. Дзейнасць Польскай падпольнай дзяржавы спынілася[25].

Адразу пасля заканчэння Ялцінскай канферэнцыі ўрад Арцішэўскага спрабаваў змяніць палітычную сітуацыю. 13 лютага 1945 г. на яго пасяджэнні была прынятая заява, у якой гаварылася: "[…] *Рашэнні Крымскай канферэнцыі не могуць быць прызнаныя польскім урадам і не з'яўляюцца абавязковымі для польскага народа.* […] *Рашэнні трох дзяржаў па пытанні аб Польшчы былі падрыхтаваны і прыняты не толькі без удзелу польскага ўрада, але нават без яго ведама. Гэта з'яўляецца парушэннем прынцыпаў і духу Атлантычнай хартыі, і права любой нацыі абараняць свае інтарэсы*"[26]. "*Адарванне ад Польшчы паловы яе тэрыторыі на ўсходзе* […] *народ Польшчы ўспрымае як*

---

[20] G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, Kraków 2014, s. 178–179.

[21] AAN, z. 1424, sygn. 327/8, k. 106.

[22] A. Czubiński, J. Topolski, *Historia Polski*, s. 538.

[23] Тамсама, с. 539.

[24] W. Roszkowski, *Okoliczności oraz modele zdobywania władzy przez komunistów w Europie Środkowo-Wschodniej po układach jałtańskich*, [у:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, s. 44.

[25] Тамсама, с. 44.

[26] AAN, z. 1424, sygn. 327/8, k. 58.

*новы яе падзел, які здзейснілі саюзнікі”*[27]. Арцішэўскі не мог паверыць у тое, што *“хтосьці з лонданскіх палякаў пакіне Лондан, каб стварыць новую ўладу разам з Часовым урадам у Польшчы”. “Калі нават некаторыя выедуць,—* казаў Арцішэўскі,*— то ні польскі ўрад, ні польскі народ не прызнаюць падобнае кіраўніцтва”*[28].

У адрозненне ад савецкай гістарыяграфіі, якая пастаянна падкрэслівала ролю СССР у якасці вызваліцеля Польшчы, прэм’ер-міністр Арцішэўскі на сваёй прэс-канферэнцыі ў Лондане 15 лютага 1945 г. заявіў: “[…] *Калі Польшча была цалкам акупавана Чырвонай арміяй, польскае ўнутранае войска не было прызнана і яго афіцэраў арыштоўвалі, высылалі, а часта і расстрэльвалі. Становішча ў Польшчы трагічнае. За Чырвонай арміяй ідуць тайная паліцыя і прапагандысцкія атрады. У Польшчы не існуе сапраўднай адміністрацыі, а эканамічныя і сацыяльныя ўмовы ў краіне жахлівыя. Нам вядома не толькі пра рэквізіцыі, але і пра крадзяжы. Польскі народ не верыць у тое, што ўрад, створаны акупантамі, можа кіраваць краінай. Польскі народ асабліва верыць у тое, што Злучаныя Штаты Амерыкі выканаюць абавязкі перад сваім першым саюзнікам, калі вайна з Германіяй скончыцца”*[29].

Пасля Крымскай канферэнцыі генерал Андэрс выдаў сваім войскам загад, у якім катэгарычна заявіў: *“Мы не прызнаем і ніколі не прызнаем аднабаковых рашэнняў Крымскай канферэнцыі”*[30].

*“Мы і надалей хочам змагацца, але змагацца за Польшчу свабодную і незалежную,”* — заявіў Андэрс на сустрэчы з Чэрчылем”[31].

Генерал Андэрс быў таксама супраць стварэння ў Польшчы новага ўрада, які абапіраўся на Люблінскі камітэт, што *“складаецца выключна з савецкіх грамадзян і з некалькіх здраднікаў і знаходзіцца на павадку ў Масквы”*. Чэрчыль абгрунтаваў узнікненне новага ўрада ялцінскімі дамоўленасцямі. Пры гэтым заявіў, што Вялікабрытанія прызнае толькі той урад, у складзе якога будуць прадстаўнікі ўсіх палітычных плыняў[32].

Вельмі балючым для палітыкі кабінета Арцішэўскага стала выступленне Чэрчыля ў Палаце абшчын 27 лютага 1945 г., у якім ён прызнаў правільным і справядлівым усталяванне мяжы паміж Польшчай і СССР уздоўж лініі

---

[27] AAN, z. 1424, sygn. 327/55, k. 10.

[28] AAN, z. 1424, sygn. 327/8, k. 63.

[29] AAN, z. 1424, sygn. 327/8, k. 63.

[30] AAN, z. 1424, sygn. 327/2, k. 75. Больш падрабязна на тэму сустрэчы генерала Андэрса з прэм’ер-міністрам Чэрчылем і змест іх размовы гл.: AAN, z. 1424, sygn. 327/55, k. 47; W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, s. 847.

[31] Андэрс сапраўды знаходзіўся ў цяжкім становішчы. Большасць салдат і афіцэраў яго арміі паходзілі з усходніх абласцей Польшчы, якія згодна з рашэннямі Крымскай канферэнцыі далучаліся да СССР. Незалежна ад нацыянальнасці (сярод вайскоўцаў былі палякі, беларусы, габрэі, татары) усе яны прайшлі праз дэпартацыі, лагеры ваеннапалонных, працоўныя лагеры і турмы. Большасць гэтых людзей непрыязна ставіліся да Савецкага Саюза і яго камуністычнага ладу. Для іх рашэнні Крымскай канферэнцыі азначалі страту радзімы, якая была перададзена ворагу.

[32] W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, s. 847.

Керзана[33]. На гэта кансерватар лорд Уілоўбі дэ Эрэзбі (Willoughby de Eresby) заявіў, што ён поўны шкадавання з-за прапановы ўхваліць рашэнне, згодна з якім межы Польшчы павінны быць радыкальна зменены насуперак папярэднім абяцанням Англіі. Спроба сумясціць вырашэнне "польскага пытання" з Атлантычнай хартыяй з'яўлялася крывадушным актам, які не мог прывесці да трывалага міру. Камуніст Уільям Галахер заявіў, што гэтая дамова з'яўляецца якраз тым, чаго б хацелі Гітлер, Гімлер і Гебельс[34].

Чэрчыль, ідэалізуючы стаўленне Сталіна да Польшчы, выказаў меркаванне, што палякі змогуць трымаць будучыню ў сваіх руках толькі пры ўмове добрасумленнага, у гармоніі з саюзнікамі правядзення сяброўскай палітыкі ў дачыненні да СССР[35]. Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі таксама дапусціў, што калі б эміграцыйны ўрад у Лондане год таму выканаў парады англійскага кіраўніцтва, то не было б ніякага Люблінскага камітэта і Часовага ўрада ў Польшчы[36]. *"Увайшлі б у Польшчу як дзеючае кіраўніцтва разам з вызваленчай савецкай арміяй* [...]. *Не ведаю іншага ўрада, які б так выконваў свае абавязацельствы, нават насуперак сваім інтарэсам, больш салідна, чым савецкі ўрад"*[37].

21 красавіка 1945 г. Сталін схіліў падначалены яму польскі Часовы ўрад падпісаць Дагавор аб сяброўстве, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве тэрмінам на 20 год з магчымасцю працягу яго кожныя 5 гадоў[38]. Такім чынам, Польшча стала галоўным кліентам і саюзнікам СССР у Цэнтральнай Еўропе, да таго ж і каштоўным, бо ў хуткім часе яе кіраўніцтва было прызнана міжнароднай палітычнай супольнасцю. Масква прымусіла варшаўскі ўрад прызнаць лінію Керзана ў якасці ўсходняй мяжы, што было зацверджана падпісаннем 16 красавіка 1945 г. Дагавора аб польска-савецкай мяжы[39]. Гэтая дамова ўступіла ў сілу 4 лютага 1946 г., пасля ратыфікацыі і абмену дакументамі паміж польскім і савецкім бакамі. Паводле міжнароднага права да гэтага дня паміж Польшчай і СССР існавала мяжа, усталяваная Рыжскім дагаворам, і ўсе дзеянні, што праводзіла савецкая ўлада ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, былі нелегальнымі і супрацьпраўнымі[40].

Створаны пад пратэктаратам Масквы польскі ўрад 28 чэрвеня 1945 г. звярнуўся да ЗША і Вялікабрытаніі з нотай, у якой паведамляў, што

[33] *Armia Krajowa w dokumentach 1944–1945*, t. 5, Londyn 1981, s. 304.

[34] AAN, z. 1424, sygn. 327/55, k. 141.

[35] M. Drozdowski, *Rząd RP w Londynie wobec układów jałtańskich*, [у:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, s. 103.

[36] Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919–1945. Od Wersalu do Jałty*, s. 412–418.

[37] AAN, z. 1424, sygn. 327/7, k. 151–152.

[38] J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, s. 59.

[39] Тамсама, с. 60.

[40] Тамсама, с. 60; Por.: K. Karski, *Linia Curzona nadal dzieli*, "Rzeczpospolita", 12.12.1995; *Wykładnia Trybunału Konstytucyjnego: Polska po wschodniej stronie linii Curzona*, "Rzeczpospolita", 29.05.1996; J. Kranz, *Rekompensaty za sowieckie represje*, "Rzeczpospolita", 8.07.1996; K. Kauba, *Historia i sprawiedliwość*, "Rzeczpospolita", 4.09.1996; W. T. Kowalski, *Przełom 1944. Manifest (4)*, "Panorama", 20.07.1984; E. J. Pałyga, *Dyplomacja Polski Ludowej 1944–1984*, Warszawa 1986, s. 167. Два апошнія аўтары прытрымліваюцца меркавання, што ўстанаўленне ўсходняй мяжы Польшчы адбылося справядліва.

“сфарміраваўся” і цалкам прызнае ялцінскія рашэнні па пытаннях Польшчы, а таксама прасіў усталяваць з ім дыпламатычныя адносіны[41]. 5 ліпеня ЗША, а 6 ліпеня 1945 г. Вялікабрытанія прызналі польскі Часовы ўрад нацыянальнага адзінства і выказалі гатоўнасць наладзіць з ім кантакты[42].

Стварэннем Часовага ўрада і прызнаннем яго ЗША і Вялікабрытаніяй скончыўся першы этап супрацьстаяння вакол “польскага пытання”, звязаны з рашэннямі Крымскай канферэнцыі. Можна сказаць, што часткова яны былі выкананыя. Кааліцыя перастала быць фікцыяй, хаця Сталін і польскія камуністы зрабілі так, каб створаны імі ўрад не меў шырокага прадстаўнічага характару (насуперак рашэнням у Ялце), а ўсе інструменты і паўната ўлады засталіся ў іх руках. Заходнія дзяржавы не маглі супрацьстаяць палітыцы Савецкага Саюза, якая абапіралася на ўжо здзейсненыя ім без усялякай згоды акты[43]. Варта пры гэтым заўважыць, што асноўныя рашэнні па “польскім пытанні” былі прыняты яшчэ ў Тэгеране.

Рышард Качароўскі, апошні прэзідэнт Польскай Рэспублікі ў выгнанні[44], падчас свайго выступлення 25 кастрычніка 1994 г. у Аполі на навуковай канферэнцыі зазначыў: *“Знаходзімся ў Рэчы Паспалітай, межы якой былі вызначаныя на канферэнцыі ў Ялце без нашага ўдзелу і насуперак нашым міжнародным пагадненням. Наш лёс быў вырашаны з пазіцыі сілы. Гэта прывяло да ўстанаўлення ў Польшчы рэжыму, які супярэчыць нашаму духу і польскім традыцыям. Польская дзяржава была падпарадкавана суседняй краіне, якая парушыла ў мінулым усе раней падпісаныя з намі трактаты. Саветызацыя палякаў здзяйснялася насаджаным Польшчы ўрадам коштам тысяч расстраляных і высланых у Сібір грамадзян* […]. *Саюзнікі Польшчы, парушаючы дамовы і абавязацельствы, не прыслухоўваючыся да меркавання польскага легальнага ўрада і наперакор волі польскага народа, ажыццявілі новы падзел Польшчы, аддаўшы яе тым самым у рукі агентаў Масквы”*[45].

Ян Новак-Езяраньскі, вядомы кур’ер і пісьменнік з Варшавы, лічыць, што лёс польскіх усходніх межаў быў вырашаны англічанамі ўжо ў самым пачатку вайны. 29 кастрычніка 1939 г. (праз месяц пасля чарговага падзелу Польшчы паміж Германіяй і СССР) лорд Галіфакс, кіраўнік брытанскай знешняй палітыкі, нагадаў у Палаце абшчын, што лінія Рыбентропа-Молатава супадае з мяжой, якую прапанаваў пасля Першай сусветнай вайны лорд Керзан. Адрасатам гэтага паведамлення, зразумела, была Масква, якая праз некалькі гадоў падхапіла падкінуты ёй англічанамі аргумент[46].

41 W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, s. 908–909.

42 Тамсама, с. 909.

43 K. Kersten, *Jałta — mit i rzeczywistość*, [у:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, s. 14.

44 Рышард Качароўскі загінуў у авіяцыйнай катастрофе пад Смаленскам 10 красавіка 2010 г. разам з дзеючым на той момант прэзідэнтам Польшчы Лехам Качыньскім. На гэты дзень былі запланаваныя мерапрыемствы, звязаныя з 70-мі ўгодкамі расстрэлу ў 1940 г. у Катыні польскіх афіцэраў.

45 R. Kaczorowski, *Przemówienie otwierające konferencję*, [у:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, s. 13.

46 J. Nowak-Jeziorański, *Czy alianci mogli ocalić Polskę? W 50. rocznicę Jałty*, [у:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, s. 30.

Аднак быў такі момант, лічыць Новак-Езяраньскі, калі Сталін пад націскам Англіі падпісаў бы любыя пагадненні. Доўжыўся гэты перыяд толькі першыя 6 месяцаў з моманту нападу Германіі на СССР. Сталін у той час баяўся, што Вялікабрытанія магла паўтарыць яго дзеянні ў 1939 г.: дамовіцца з Гітлерам альбо аслабіць напор немцаў на сваю тэрыторыю, такім чынам даючы ім магчымасць сканцэнтраваць сілы на ўсходнім фронце для разгрому СССР. У пачатку вайны Савецкаму Саюзу была патрэбна дапамога не толькі ва ўзбраенні яго войск, але і як мага больш актыўны ўдзел англійскіх дывізій на заходнім фронце. Без перабольшвання, ад гэтага залежаў лёс СССР. Ужо на наступны дзень пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз пасол Майскі падчас размовы з Ідэнам выказаў асцярогу, што Гітлер будзе імкнуцца заключыць мір з заходнімі дзяржавамі. Савецкі дыпламат запытаўся: *"Ці можа ён упэўніць сваё кіраўніцтва ў тым, што вайсковая моц Англіі не аслабне?"* Англічане, як лічыць Новак-Езяраньскі, маглі тады, калі б захацелі, атрымаць гарантыі незалежнасці і цэласнасці Польшчы[47].

Гэтае меркаванне мае права на існаванне, але разам з тым варта мець на ўвазе і тое, што рашэнне Сталіна захаваць "рыжскую мяжу" і даць магчымасць стварыць незалежную Польшчу магло яшчэ больш аслабіць баявы дух адступаючай савецкай арміі. Ён павінен быў браць пад увагу настроі соцень тысяч беларусаў і ўкраінцаў, якія ваявалі на фронце. Таксама такое рашэнне магло прывесці да крывавай грамадзянскай вайны ў Заходняй Беларусі паміж польскім падполлем і беларускім нацыянальным рухам. Апошні меў падтрымку з боку Германіі і імкнуўся стварыць незалежную беларускую дзяржаву, у якую павінны былі ўвайсці чатыры былыя ўсходнія ваяводствы Другой Рэчы Паспалітай. А гэта, у сваю чаргу, магло падарваць развіццё савецкага партызанскага руху ў Беларусі, бо большасць беларускага народа змагалася б не за камуністычны рэжым, а за стварэнне сваёй незалежнай дзяржавы. Такім чынам, Сталін пэўна ў любым выпадку не аддаў бы захопленыя ў верасні 1939 г. польскія ўсходнія землі. Нягледзячы ні на што, сітуацыя на фронце гэтаму не садзейнічала.

Варта адзначыць, што савецка-польская мяжа ўздоўж лініі Керзана з практычнага пункту гледжання мела шмат недахопаў. Яна не ўлічвала не толькі этнічны і гістарычны фактары, але таксама разрывала гаспадарчыя сувязі. Былі перарваны шматлікія камунікацыі, чыгуначныя дарогі, Мазурскі канал, Віслінская каса, перарэзаны Ромінцкая і Белавежская пушчы. Савецкі бок не прыняў ніякіх паправак, нават выгодных для сябе, бо лічыў больш важным замацаваць лінію Керзана. Адзінае, на што пагадзіўся Сталін, гэта падзел Белавежскай пушчы[48].

На трэцяй сустрэчы "Вялікай тройкі" ў Патсдаме (17 ліпеня — 2 жніўня 1945 г.) савецкая дэлегацыя падымала наступныя пытанні, якія датычыліся Польшчы: па-першае, вяртанне палякаў з замежжа, вяртанне Часоваму ўраду

---

47 Тамсама, с. 30.

48 J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, s. 60; Por.: J. Stępień, *Poprawki do linii Curzona*, "Rzeczpospolita", 12–15.08.1995.

польскай маёмасці і культурных каштоўнасцей, якія знаходзіліся ў дэпазітах на тэрыторыі, падкантрольнай саюзнікам, альбо былі вывезены акупантамі ў Германію; па-другое, завяршэнне пачатых у Тэгеране і працягнутых у Ялце дыскусій па пытанні заходняй мяжы Польшчы[49].

2 жніўня 1945 г. тры вялікія дзяржавы ў абвешчаным камюніке выказаліся за ўсталяванне заходняй мяжы Польшчы ўздоўж ракі Одэр, уключаючы яе прыток Нысу-Лужыцкую, а таксама горад Шчэцін. Польшча атрымала паўнамоцтвы выселіць нямецкае насельніцтва з гэтых зямель. Праз некалькі дзён рашэнні Патсдамскай канферэнцыі, датычныя заходняй мяжы Польшчы, ухваліла і Францыя[50]. Дамоўленасці "Вялікай тройкі" ў Тэгеране, Ялце і Патсдаме вызначылі тэрыторыю і канфігурацыю пасляваеннай польскай мяжы. Пры гэтым варта адзначыць, што канчатковае ўрэгуляванне памежных пытанняў паміж Польшчай і БССР адбылося толькі ў сярэдзіне 1955 г., калі з Гродзенскай вобласці Польшчы было перададзена 26 вёсак і 4 хутары[51].

Народны камітэт амерыканцаў польскага паходжання назваў ялцінскую дамову пятым падзелам Польшчы, у выніку якога Сталін у гвалтоўнай форме (з удзелам брытанцаў і амерыканцаў) навязаў ёй марыянетачны камуністычны ўрад[52]. Адначасова былі і іншыя палітычныя сілы, якія насуперак нацыянальным інтарэсам Польшчы ўхвалілі рашэнні ялцінскай канферэнцыі. Напрыклад, генеральны сакратар ППС Стэфан Матушэўскі[53]. Таксама Польскі камітэт народнага вызвалення ў Францыі ў сваёй заяве сцвярджаў, што падтрымлівае рашэнні па пытанні аб усходняй мяжы Польшчы і асуджае палітыку польскага эміграцыйнага ўрада ў Лондане[54].

Тадэвуш Заблоцкі-Гваш, былы прэс-сакратар урада Арцішэўскага, лічыў, што *"Польшча пасля Ялты ў пэўным сэнсе з'яўляецца бенефіцыянтам Ялты, асабліва калі паглядзець на гэтую праблему па-бухгалтарску. Пасля перамяшчэння польскіх межаў на захад яе тэрыторыя стала меншай, чым даваенная, але пры гэтым яна атрымала землі з лепшай гаспадарчай і матэрыяльнай інфраструктурай. На ўсходзе Польшча страціла 160 гарадоў, але пры гэтым на захадзе атрымала 300 непараўнальна лепшых з пункту гледжання жыллёвых умоў і сыравіны. Стала дзяржавай амаль аднароднай, з шырокім доступам да мора, з трыма вялікімі партамі. Сальда для нас станоўчае, нягледзячы на страту такіх цудоўных гарадоў, як Вільня і Львоў"*[55].

---

49 AAN, z. 1424, sygn. 327/57, k. 3, 11.

50 W. Kowalski, A. Skrzypek, *Stosunki polsko-radzieckie 1917–1945*, s. 278.

51 Больш падрабязна пра ўрэгуляванне памежных пытанняў паміж Польшчай і БССР з 1946 г. да сярэдзіны 1955 г. гл.: А. Вялікі, *Заходнебеларускія землі ў планах Масквы, Варшавы, Лондана і Мінска ў 1943–1955 гг.,* [у:] *Białoruś w XX stuleciu. W kręgu kultury i polityki,* pod redakcją D. Michaluk, Toruń 2007, s. 425–449.

52 W. Jędrzejewicz, *Polonia Amerykańska w polityce polskiej. Historia Komitetu Narodowego Amerykanów Polskiego Pochodzenia*, New York 1954, s. 132.

53 AAN, z. 1424, sygn. 327/55, k. 37.

54 Тамсама, арк. 67.

55 T. Zabłocki-Gwasz, *Kulisy głośnego wywiadu premiera Tomasza Arciszewskiego i dzisiejszy bilans Jałty*, [у:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, s. 228.

Рашэнні Ялцінскай канферэнцыі па-рознаму былі ўспрыняты ў Заходняй Беларусі. Калі для большасці беларусаў савецкая ўлада лічылася “сваёй”, і яе падтрымлівалі, то для палякаў яна была чужой і варожай, якая прынесла фізічнае знішчэнне, дэпартацыі, высылкі і крадзяжы (экспрапрыяцыю) іх маёмасці. Палякі да падпісання ялцінскай дамовы і нават пасля яе прыняцця не страчвалі надзеі на тое, што Польшча да іх вернецца. У Брэсце ў гэты час нелегальна распаўсюджваліся ўлёткі з заклікам да палякаў, каб яны не перасяляліся ў Польшчу[56]. Але пасля падпісання ялцінскай дамовы большасць палякаў, страціўшы ўсе надзеі, пачала масава пераязджаць у Польшчу. У першую чаргу выехала найбольш адукаваная і нацыянальна свядомая частка польскага народа[57].

Аднак самым цяжкім наступствам ялцінскай дамовы стала аддзяленне ад польскай дзяржавы соцень тысяч палякаў, былых грамадзян Другой Рэчы Паспалітай. Пасля заканчэння перасялення ў Польшчу (1944–1946 гг.) і рэпатрыяцыі (1955–1959 гг.) палякі з маўклівай згоды камуністычнага кіраўніцтва Польскай Народнай Рэспублікі былі пакінуты на волю лёсу. Савецкая ўлада выкарыстала іх як матэрыял для асіміляцыі і саветызацыі.

Асабліва цяжкі лёс напаткаў палякаў у БССР, дзе ўсе элементы польскага культурнага і палітычнага жыцця былі знішчаны ў першыя пасляваенныя гады, у тым ліку польскамоўная адукацыя. Рэалізацыя канстытуцыйнага права на адукацыю на роднай мове для палякаў стала забароненай для абмеркавання тэмай. Некаторыя шансы на захаванне сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці мелі толькі тыя палякі, якія прымалі правілы гульні савецкай улады. Яны маглі рэалізаваць свае кар’ерныя імкненні ў савецкай рэчаіснасці. Але гэтая рэчаіснасць ніколі не была добразычлівай да тых палякаў, якія вызнавалі каталіцкую рэлігію і праяўлялі глыбокую прывязанасць да свайго народа, роднай мовы і польскай культуры.

[56] НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 11, арк. 19–29: Донесения районных представителей о эвакуации населения, 1.01.1945–27.05.1946.

[57] НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 23, арк. 21.

## 2. Перасяленне палякаў з БССР у Польшчу. Прычыны няўдачы аперацыі

Перасяленне палякаў з БССР у Польшчу было палітычным рашэннем савецкага і польскага камуністычных рэжымаў. Зацікаўленасць Варшавы зводзілася да таго, каб засяліць атрыманыя нямецкія землі. Кіраўніцтва БССР, у сваю чаргу, імкнулася, каб з яе тэрыторыі выехалі нацыянальна свядомыя і патрыятычна настроеныя прадстаўнікі польскай інтэлігенцыі. Пытанне перасялення выклікала жорсткае супрацьстаянне паміж савецкім урадам у Маскве і рэспубліканскімі ўладамі, а таксама палякамі і мясцовай адміністрацыяй, якая ўсялякімі спосабамі перашкаджала выезду польскага насельніцтва.

Магчымасць перасялення ў Польшчу рэгулявалі дамовы, падпісаныя пад кантролем Крамля паміж Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення[58] і трыма савецкімі рэспублікамі: Беларускай[59], Украінскай і Літоўскай. Дагавор паміж Польшчай і БССР быў падпісаны 9 верасня 1944 года[60]. Паводле яго магчымасць перасялення атрымалі палякі і габрэі (былыя грамадзяне Другой Рэчы Паспалітай)[61]. Падчас перамоў у лістападзе 1945 г. Польшча спрабавала дамагчыся перасялення караімаў і татар, але савецкі бок катэгарычна не пагадзіўся на гэта[62]. Не атрымалі магчымасці выезду ў Польшчу таксама палякі, якія да 1939 г. не мелі польскага грамадзянства[63]. Толькі нямногія з іх змаглі выехаць з БССР. Тыя, хто застаўся (знясіленыя сталінскімі даваеннымі рэпрэсіямі), былі вымушаны існаваць у варожай для іх палітычнай сістэме[64].

---

58 У сучаснай польскай гістарыяграфіі часта ПКНВ трактуецца як "марыянетачны ўрад", які быў не прызнаны ў свеце і не меў, такім чынам, права на падпісанне міжнародных дамоў, у тым ліку і дагавора, датычнага перасялення палякаў з БССР у Польшчу. Падрабязней на гэту тэму гл.: K. Kersten, *Od wyzwolenia do stalinizmu*, [у:] *Ziemie zachodnie i północne Polski w okresie stalinowskim*, red. C. Osękowski, Zielona Góra 1999, s. 7–17; W. Materski, *Problem Białorusi w pertraktacjach dyplomatycznych Narodów Zjednoczonych (1944–1945)*, [у:] *Białoruś w XX stuleciu w kręgu kultury i polityki*, red. D. Michaluk, Toruń 2007, s. 425–441; D. Sula, *Powojenne migracje ludności polskiej i białoruskiej*, [у:] *Acta Albaruthenica 7. Literatura. Język. Kultura*, red. M. Cimoszuk, M. Chaustowicz, Warszawa 2007; E. Duraczyński, *Granice Polski w polityce koalicji antyhitlerowskiej i w polityce polskiej*, [у:] *Kompleks wypędzenia*, red. W. Borodziej, A. Hajnicz, Kraków 1998, s. 299–327.

59 Падрабязней на тэму перасялення палякаў з БССР у Польшчу ў 1944–1946 гг. гл.: E. Mironowicz, *Przesiedlenia ludności z Białorusi do Polski i z Polski na Białoruś w latach 1944–1946*, [у:] E. Mironowicz, S. Tokć, R. Radzik, *Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX wieku*, Białystok 2005, s. 88–102.

60 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Czerniakiewicz, *Przemieszczenie ludności polskiej z ZSRR 1944–1959*, Warszawa 2004; K. Kersten, *Repatriacja ludności polskiej po drugiej wojnie światowej*, Wrocław 1974; А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, Мінск 2010, с. 58–93; ён жа, *Переселение польского населения с территории БССР в Польшу. 1944–1947 гг.*, [у:] *Studia z dziejów Europy Wschodniej*, red. S. Ciesielski, t. 1, Wrocław 2002, s. 121–166; *Tekst porozumienia polsko-białoruskiego*, [у:] *Polska Ludowa — Związek Radziecki 1944–1974: zbiór dokumentów i materiałów*, Warszawa 1974, s. 17–25.

61 AAN, z. 130, sygn. 8, k. 24.

62 M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953. Wybrane aspekty*, Wrocław 2010, s. 116; НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 10, арк. 114–115.

63 AAN, z. 130, sygn. 8: Repatriacja ludności polskiej w ZSRR. Umowa i protokół między rządami Polski i ZSRR. 1944–1946.

64 Такое становішча выклікала не толькі здзіўленне, але і незадаволенасць палякаў (былых грамадзян Другой Рэчы Паспалітай) тым, што іх — суайчыннікаў, якія жылі ў СССР да 1 верасня 1939 г. і былі

Перасяленне, згодна з раней падпісанымі дамоўленасцямі, павінна было адбывацца добраахвотна і на падставе вуснай ці пісьмовай заявы. Палякі і габрэі выязджалі ў Польшчу, а беларусы, украінцы і літоўцы — з Польшчы ў СССР[65]. У дамове былі прапісаны даволі добрыя ўмовы перасялення. Перасяленцам гарантавалася права выбару месца жыхарства, прадугледжвалася кампенсацыя за пакінутую зямлю і нерухомасць у памеры, прадугледжаным заканадаўствам кожнага з бакоў[66]. Тыя, хто хацеў выехаць у Польшчу, мусілі ў тэрмін ад 15 верасня да 15 кастрычніка 1944 г. зарэгістравацца. Пасля атрымання дазволу на перасяленне яны абавязаныя былі выехаць да 1 лютага 1945 года[67].

Спачатку ўлады БССР не надавалі вялікага значэння выезду палякаў. Яны былі ўпэўнены, што колькасць польскага насельніцтва ў рэспубліцы з'яўляецца невялікай і шмат хто не захоча выехаць. У хуткім часе масавае перасяленне палякаў змяніла тактыку ўлад. Яны пачалі рабіць усё магчымае, каб затрымаць іх у БССР[68].

8 мая 1945 г., у дзень капітуляцыі Германіі, прэзідэнт Польскай Рэспублікі Уладзіслаў Рачкевіч у тэлеграме да прэзідэнта ЗША Гары Трумэна напісаў: "[…] *У момант, калі святочна зазванілі званы, польскі народ не можа радавацца, бо ён несвабодны*"[69]. Менавіта ў гэты час рэзка павялічылася колькасць жадаючых пераехаць у Польшчу. Гэта было звязана з тым, што ўсходняя яе мяжа, згодна з ялцінскімі дамоўленасцямі, прайшла па лініі Керзана[70]. Пасля канферэнцыі ў Ялце канчаткова былі згубленыя надзеі на адраджэнне Польшчы ў яе даваенных межах. Пры гэтым многія палякі мелі ўпэўненасць, што на новым месцы будуць забяспечаны ўсе ўмовы для іх далейшага жыцця[71].

Унутрыпалітычным фактарам, які схіляў палякаў да перасялення ў Польшчу, была савецкая нацыянальная палітыка, пабудаваная на іх дыскрымінацыі. Жорсткая барацьба з Каталіцкім касцёлам, польскай мовай і культурай, прымусовая калектывізацыя заходнебеларускай вёскі, якая пазбаўляла ўсялякай магчымасці вядзення індывідуальнай гаспадаркі, страх перад "саветамі", гвалт улад над асобай і нашмат горшыя ўмовы жыцця, чым у даваеннай Польшчы, сталі таксама прычынамі выезду палякаў з БССР[72].

Масавае перасяленне палякаў стварала вялікія праблемы для эканамічнага развіцця БССР, асабліва ў яе заходніх абласцях. Разбураныя вайной

---

грамадзянамі гэтай краіны,— пазбавілі права выбару грамадзянства і перасялення ў Польшчу. Гл.: ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 91–93.

65 НАРБ, ф. 789, воп. 1, спр. 4, арк. 1: Постановления и распоряжения СНК СССР, БССР, а также копии соглашений правительства БССР и Польши в вопросе эвакуации населения и работы уполномоченных, 21.02.1945–18.12.1946.

66 Тамсама, арк. 1–11.

67 M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 32.

68 J. Czerniakiewicz, *Przemieszczenie ludności polskiej z ZSRR 1944–1959*, s. 34.

69 AAN, z. 1424, sygn. 327/8, s. 108.

70 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 23, арк. 29: Служебные записки о результатах эвакуации населения, 8.07.1946–15.10.1946.

71 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, Мінск 2010, с. 74.

72 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 143–165.

прамысловасць і сельская гаспадарка патрабавалі рабочай сілы. У гэтых сферах не апраўдаўся разлік на тых людзей, што прыехалі з усходу СССР. Улады рэспублікі зразумелі, што масавы выезд працавітага польскага насельніцтва, а таксама вываз значнай часткі яго маёмасці істотна аслабіць сацыяльна-эканамічны стан краіны. У выніку ўлады пайшлі на рашучы крок адносна палякаў — абмежавалі іх выезд з БССР.

Планы кардынальна змяніліся, калі беларускія ўлады падлічылі, колькі беларусаў можна было б перасяліць з Польшчы ў БССР. У выніку скрупулёзнага падліку атрымалася, што, калі правесці па абодва бакі мяжы прымусовае перасяленне, то БССР страціла б 550 тысяч чалавек[73], а набыла б каля 150 тысяч[74]. Гэтыя вынікі былі не на карысць БССР. Варта заўважыць, што першапачаткова лічылася, што на Беласточчыне засталося каля 300–400 тысяч беларусаў, аднак праведзены афіцэрамі НКУС і Чырвонай арміі падрабязны аналіз сведчыў аб тым, што максімальна з Польшчы ў БССР можна перасяліць толькі 150 тысяч беларусаў[75].

У красавіку 1945 г. СНК БССР і ЦК КП(б)Б накіравалі ў абласныя камітэты партыі і выканаўчыя камітэты заходніх абласцей ліст, у якім паведамлялася пра нядбайнае стаўленне мясцовых улад да выезду палякаў і пра адсутнасць кантролю за гэтым працэсам. У лісце адзначалася, што на перасяленне ў Польшчу запісалася вялікая колькасць беларусаў-каталікоў[76]. Выдаленне іх са спісаў павінна было стаць галоўнай задачай улад у такой сітуацыі[77].

ЦК КП(б)Б і СНК прапанавалі кіраўніцтву заходніх абласцей БССР абмеркаваць на мясцовых пасяджэннях пытанне, якое тычылася памылкова зарэгістраваных у спіс на выезд беларусаў-каталікоў[78], а таксама выпрацаваць пэўныя мерапрыемствы, накіраваныя на выключэнне іх з гэтых спісаў[79]. З мэтай замаруджвання працэсу перасялення палякаў у Польшчу ўлады рэспублікі вырашылі стварыць у кожным раёне змяшаныя камісіі, у склад якіх уваходзілі прадстаўнікі раённага камітэта партыі, раённага выканаўчага камітэта, СНК БССР, а таксама ўпаўнаважаны польскага ўрада[80].

[73] Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Przesiedlenie ludności z Białorusi do Polski i z Polski na Białoruś w latach 1944–1946*, [у:] E. Mironowicz, S. Tokć, R. Radzik, *Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX wieku*, s. 88–102.

[74] Тамсама, с. 93–95; НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 23, арк. 10, 27–29.

[75] E. Mironowicz, *Przesiedlenie ludności z Białorusi do Polski i z Polski na Białoruś w latach 1944–1946,* s. 94.

[76] Партыйныя і савецкія органы ўлады ў БССР у 1944 г. прымусова, з дапамогай спецыяльных служб шматлікім палякам без іх згоды ўпісалі ў пасведчанне асобы беларускую нацыянальнасць. Пазней, калі вырашалася пытанне перасялення гэтых "беларусаў", ім адмаўлялі ў выездзе. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin. *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, Białystok 2010; R. Dzwonkowski SAC, *Polacy na dawnych Kresach Wschodnich. Z problematyki narodowościowej i religijnej*, Lublin 1994; "Czerwony Sztandar", 1989, nr 255; 1990, nr 6; "Głos znad Niemna", 1992, nr 19; 1993, nr 20; 1992, nr 12.

[77] НАРБ, ф. 787, воп. 2, спр. 16, арк. 48: Статистические данные, а также отчёты о ходе выполнения плана переселения. 5.01.1952–27.06.1952.

[78] Усе так званыя беларусы-каталікі мелі польскія, а часам і выдадзеныя немцамі падчас акупацыі дакументы, у якіх была запісана польская нацыянальнасць.

[79] А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 75.

[80] НАРБ, ф. 7, воп. 3, спр. 1916, арк. 2: Корреспонденция с главным представителем, а также районными представителями о переселении и репатриации, 21.01.1945–24.11.1945.

7 красавіка 1945 г. СНК БССР выдаў спецыяльную пастанову, паводле якой камісіі павінны былі тэрмінова правесці рэвізію зарэгістраваных на выезд у Польшчу людзей і выдаліць са спіса ўсіх асоб няпольскай нацыянальнасці, што былі запісаны туды, як сцвярджалася ў пастанове, памылкова[81].

22 мая 1945 г. ЦК КП(б)Б прыняў Пастанову "Аб недахопах у працы партыйных арганізацый заходніх абласцей БССР па перасяленні грамадзян польскай нацыянальнасці ў Польшчу"[82]. Пастанова павінна была мабілізаваць партыйныя і савецкія органы ўлады да больш рашучага абмежавання выезду палякаў. Са спісаў патрабавалася выключыць тых людзей, якія сваё польскае паходжанне даказвалі на падставе нямецкіх пашпартоў альбо іншых дакументаў, што не мелі законнай сілы ў СССР[83]. Справа ў тым, што падчас акупацыі тыя палякі, якія савецкай уладай былі запісаны беларусамі, мянялі свае пасведчанні асобы, каб там была пазначана польская нацыянальнасць.

Органы ўлады заходніх абласцей з вялікай пільнасцю пачалі выконваць указанні ЦК КП(б)Б. Кіраўніцтва Гродзенскай вобласці ў чэрвені 1945 г. дакладвала ў Мінск пра правядзенне пэўнай працы, накіраванай на тое, каб адгаварыць як мага большую колькасць палякаў выязджаць у Польшчу[84]. У выніку атрымалася ўпэўніць застацца ў БССР 17 гаспадарак у Скідзельскім раёне, 243 — у Бераставіцкім, 233 — у Сапоцкінскім і 2 550 — у Шчучынскім. У якасці поспеху агітацыйнай дзейнасці, накіраванай супраць масавага выезду палякаў, мясцовыя ўлады прывялі прыклад, калі на станцыі Бенякoні Воранаўскага раёна на цягнік, што накіроўваўся ў Польшчу, ніхто не прыехаў[85].

Аб сваіх поспехах у агітацыйнай працы дакладваў і Маладзечанскі абкам партыі, які адгаварыў ад выезду ў Польшчу 399 гаспадарак у Пастаўскім раёне і 213 — у Радашковіцкім[86]. Падобная сітуацыя была і ў іншых абласцях Заходняй Беларусі.

Змяшаныя камісіі, выконваючы пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР, бязлітасна выкрэслівалі са спісаў на выезд "беларусаў-каталікоў" і іншых, хто зарэгістраваўся на пераезд і пацвердзіў сваю польскую нацыянальнасць на падставе дакументаў, якія не прызнаваліся ў БССР. У Глыбоцкім раёне ў выніку гэтай працы з 17 583 сямей, якія зарэгістраваліся на выезд, 10 932 былі названы беларускімі. Ім адмовілі ў перасяленні. Толькі 6 651 сям'я была прызнана польскай[87]. У чэрвені 1945 г. у Вілейскім раёне разгледжана 2 597 заяў на выезд, толькі 1 961 з іх была зацверджана. Астатнім адмовілі, бо тых, хто пісаў заявы, залічылі да беларусаў-каталікоў. У Міёрскім раёне

81 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 4, арк. 73: Доклады и служебные записки о ходе эвакуации, 9.11.1944–21.01.1946.

82 НАРБ, ф. 4п, воп. 61, спр. 157, арк. 13: Протокол заседания бюро ЦК КП(б)Б № 278 от 22.05.1945 г.

83 Тамсама, арк. 13.

84 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 38, арк. 19–21: Служебная записка заведующего организационно-инструкторским отделом ОК КП(б)Б в Гродно Ривкина к секретарю ЦК КП(б)Б Киселёву, 18.06.1945.

85 Тамсама, с. 21.

86 НАРБ, ф. 4п, воп. 42, спр. 150, арк. 120: Молодечненский ОК КП(б)Б. Информации, 1944–1946.

87 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 77.

Полацкай вобласці на выезд у Польшчу зарэгістравалася больш за 4 000 гаспадарак з 9 384. Камісія праверыла 2 321 "падазроную" заяву. У выніку гэтай праверкі толькі 20 гаспадаркам далі дазвол на выезд[88].

Наступствам такога падыходу беларускіх савецкіх улад да перасялення палякаў у Польшчу стала тое, што летам 1945 г. праверку прайшлі 30 тысяч заяў, з якіх змяшаныя камісіі ўхвалілі толькі каля 15 %, а значыць, 4 500 чалавек атрымалі дазвол на выезд. Усіх астатніх прызналі беларусамі-каталікамі, таму ім адмовілі ў просьбе аб перасяленні ў Польшчу[89].

Як лічыць Анатоль Вялікі з Мінска, такім падыходам да эвакуацыі польскага насельніцтва з БССР улады імкнуліся максімальна аслабіць масавы выезд палякаў у Польшчу. Мэтай было затрыманне ў рэспубліцы працаздольнага насельніцтва і звядзенне да мінімуму эканамічных страт. Прымусова запісваючы дзясяткі тысяч палякаў беларусамі, улады парушалі першы параграф падпісанага ў верасні 1944 г. беларуска-польскага дагавора[90]. У выніку палякі страчвалі магчымасць выехаць у Польшчу[91].

Такія дзеянні ўлад не маглі не выклікаць пратэстаў некаторых палякаў, што былі залічаны да беларусаў, альбо беларусаў-каталікоў. Сакратар Полацкага абкама партыі Жылянін у чэрвені 1945 г. пісаў у службовай запісцы ў ЦК КП(б)Б: *"Падчас працы змяшаных камісій у асобных сельскіх саветах былі заўважаны антысавецкія выступленні, якія былі арганізаваны варожымі нам класавымі элементамі"*[92].

Факты негатыўнага, а часам жорсткага стаўлення да палякаў, якія запісаліся на выезд у Польшчу, з боку мясцовых улад сустракаліся настолькі часта, што ЦК КП(б)Б быў вымушаны адрэагаваць на гэта. На пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б 31 чэрвеня 1945 г. паведамлялася, што вінаватыя ў парушэнні сацыялістычнай законнасці ў дачыненні да палякаў будуць выключаны з партыі і прыцягнуты да крымінальнай адказнасці[93]. Так, у Браслаўскім раёне выключаны з партыі і пазбаўлены пасад сакратар раённага камітэта КП(б)Б, старшыня раённага аддзела народнага камісарыята дзяржаўнай бяспекі, старшыня гарадскога выканаўчага камітэта, раённы пракурор і суддзя[94].

Рэпрэсіўная рэакцыя партыйнага кіраўніцтва ў Мінску на дзеянні яго падначаленых была вымушанай і выкліканай умяшальніцтвам маскоўскіх улад, якія даведаліся пра парушэнні сацыялістычнай законнасці

---

88 Тамсама, с. 78.

89 НАРБ, ф. 4п, воп. 51, спр. 13, арк. 52: Информация о репатриированных и переселённых в Польшу, 1944–1946.

90 Калі пагадзіцца з тым, што было адмоўлена выехаць з БССР беларусам, а не палякам, то ўзнікае пытанне: чаму яны так не любілі савецкай улады і выкарыстоўвалі ўсе магчымасці, каб збегчы з-пад яе ўладарання?

91 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 79.

92 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 183–184.

93 НАРБ, ф. 4п, воп. 51, спр. 13, арк. 81: Информация о репатриированных и переселённых в Польшу. 1944–1946.

94 Тамсама, с. 51.

ў справе перасялення[95]. Галоўны ўпаўнаважаны польскага ўрада нацыянальнага адзінства С. Вішнеўская паведамляла ў ліпені 1945 г. намесніку старшыні СНК БССР Кузьме Кісялёву пра факты, якія ўскладнялі выезд палякаў з БССР у Польшчу. Пры гэтым яна прыводзіла прыклады парушэння падпісанага двухбаковага дагавора аб перасяленні[96].

10 лістапада 1945 г. СНК СССР прыняў Пастанову "Аб мерапрыемствах, звязаных з эвакуацыяй з СССР у Польшчу асоб польскай і габрэйскай нацыянальнасцей, былых польскіх грамадзян". Згодна з пастановай пры абласных выканаўчых камітэтах павінны былі ствараціца камісіі па справах перасялення[97]. 24 студзеня 1945 г. СНК БССР на падставе маскоўскай пастановы (практычна без змен) прыняў сваю — аб стварэнні абласных камісій па перасяленні — і накіраваў дырэктыўныя ўказанні старшыням абласных выканаўчых камітэтаў. Паводле пастановы СНК БССР польскі ўпаўнаважаны прадстаўнік па справах перасялення не меў права ўмяшання ў рашэнні камісіі. З гэтага часу яго паўнамоцтвы абмяжоўваліся справай рэалізацыі перасялення асоб, якія атрымалі дазвол на гэта з боку органаў савецкай улады[98]. Гэта было чарговым парушэннем дагавора аб перасяленні, падпісанага ў верасні 1944 года[99]. Такое стаўленне беларускіх савецкіх улад да Польшчы сведчыць аб тым, што яны разглядалі яе як падначаленую сабе краіну. На большае створаны Крамлём і НКУС польскі камуністычны ўрад у той час разлічваць не мог.

Найбольш актыўна палякі запісваліся на выезд у Польшчу ў Гродзенскай вобласці. Пераезд вялікай колькасці людзей шмат у чым уплываў на невыкананне планаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. З мэтай зніжэння колькасці тых, хто выязджаў, партыйныя і савецкія органы ўлады патрабавалі ад іх даведак аб выкананні планаў абавязковых дзяржаўных паставак сельскагаспадарчых прадуктаў, драўніны, аб аплаце ўсіх падаткаў і іншых прыдуманых уладамі абавязацельстваў[100]. У выпадку адсутнасці аднаго з пералічаных дакументаў выезд у Польшчу не дазваляўся[101].

Рэгістрацыя ўсіх жадаючых выехаць скончылася 15 студзеня 1946 г. З гэтага

---

95 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 79.

96 Занальны архіў Баранавіцкай вобласці (далей: ЗАБВ), ф. 188, воп. 1, спр. 436, арк. 10–12: Корреспонденция с Советом Народных Комиссаров о подготовке школ к началу учебного года, переселении граждан в Польшу, а также другие за 1945 г.

97 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 828, арк. 70: Материалы, служебные записки о переселении граждан белорусской национальности из Польши в БССР, а также граждан польской национальности с БССР в Польшу, 1.01.1945–31.12.1945.

98 НАРБ, ф. 787, воп. 1, спр. 1, т. 1, арк. 2: Постановления Брестского и Гродненского областных исполнительных комитетов, Волковысского и Пружанского районных исполнительных комитетов об организации проверяющих фильтрационных пунктов, а также информация о пунктах, 3.08.1944–9.12.1944.

99 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 1, арк. 36: Распоряжения и корреспонденция с СНК БССР об организации и проведении эвакуации населения, 9.09.1944–31.05.1946.

100 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 10, арк. 84: Служебные записки и корреспонденция с правительством СССР и Польши о ходе эвакуации, 11.01.1945–31.12.1945.

101 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 11, арк. 98: Донесения районных представителей о эвакуации населения, 1.01.1945–27.05.1946.

моманту найбольш важнай задачай стала эвакуацыя перасяленцаў у Польшчу[102]. Для паскарэння працэсу і сканчэння яго ў тэрмін Гродзенскаму, Брэсцкаму і Ваўкавыскаму раённым прадстаўніцтвам рэкамендавалася выкарыстоўваць колавы транспарт. Польскі і савецкі бакі дамовіліся, што ў вагонах павінна быць не 9–10 чалавек, як гэта вызначана ў дагаворы, а не менш за 15–20 чалавек. Свойскіх жывёл рэкамендавалася збіраць у статак і адпраўляць транспартам да мяжы[103].

У чэрвені 1946 г. на двухбаковай сустрэчы прадстаўнікоў СНК БССР і ўпаўнаважаных Польшчы падведзены вынікі перасялення. Яны сведчылі, што найбольш шматлікай групай тых, хто выехаў, былі сяляне — 55 554 чалавекі, другой — рабочыя, якія складалі 12 678 чалавек, трэцяй — рамеснікі, яны налічвалі 8 791 чалавека. Большасць па гендарных характарыстыках складалі жанчыны — 87 915, а па ўзросце — дзеці (90 564)[104]. Усяго ў Польшчу выехала 238 782 чалавекі[105]. Крыху іншыя звесткі пра колькасць пераселеных у Польшчу былых польскіх грамадзян прыводзяць польскія даследчыкі Ян Чарнякевіч і Малгажата Рухневіч. Чарнякевіч ацэньвае колькасць тых, хто выехаў у Польшчу, у 274 163 чалавекі[106], што на 35 381 чалавека больш, чым у афіцыйных дакументах. Малгажата Рухневіч сцвярджае, што на 15 чэрвеня 1946 г. змаглі выехаць толькі 231 152 чалавекі, з якіх 226 315 чалавек былі палякамі. У Польшчу з БССР выехала менш за палову ад зарэгістраваных на перасяленне былых польскіх грамадзян (усяго было зарэгістравана 535 284 чалавекі)[107].

Узнікае пытанне: чаму такая малая колькасць палякаў перасялілася ў Польшчу з БССР? Малгажата Рухневіч называе дзве прычыны. Першая і асноўная — гэта палітычная. Як ужо адзначалася вышэй, улады БССР імкнуліся не дапусціць масавага выезду палякаў, бо ў рэспубліцы не хапала рабочых рук для аднаўлення яе гарадоў і вёсак пасля вайны. У сувязі з гэтым усе мясцовыя органы ўлады атрымалі інструкцыі і адпаведныя ўказанні рабіць усё магчымае, каб адгаварыць палякаў ад перасялення. Калі агітацыя не прыносіла чаканых вынікаў, тады ўлады запалохвалі тых, хто супраціўляўся, высылкай у паўночныя і ўсходнія вобласці СССР. Таксама забіралі іх эвакуацыйныя карты, высылалі на прымусовыя працы ў аддаленыя мясцовасці, патрабавалі неадкладнай аплаты розных падаткаў, мабілізавалі ў армію, а часам і арыштоўвалі на падставе розных прыдуманых прычын[108]. Такое стаўленне да палякаў было звязана з перакананнем улад у тым, што пасля дэпартацыі польскай эліты з БССР у 1940–1941 гг. іх з лёгкасцю можна

102 В. Парсадонова, *Формирование национального фронта в Польше (1944–1946)*, Москва 1976, с. 204.

103 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 8, арк. 204–205: Корреспонденция с местными советскими и партийными органами власти в вопросе эвакуации населения, 4.12.1944–25.06.1946.

104 Падрабязней пра ўсе катэгорыі тых, хто выехаў у Польшчу, гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 188.

105 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 24, арк. 55–69: Служебные записки о результатах эвакуации населения, 10.07.1946–17.08.1947.

106 J. Czerniakiewicz, *Przemieszczenie ludności polskiej z ZSRR 1944–1959*, s. 110.

107 M. Ruchniewicz, *Repatriacja ludności polskiej z ZSRR w latach 1955–1959*, s. 183.

108 Тамсама, с. 185–186; НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 12, арк. 103: Письмо временного уполномоченного в Миорах от 25.04.1945.

саветызаваць і русіфікаваць, а таксама інтэграваць у савецкае грамадства і выкарыстаць у якасці рабочай сілы.

Другая прычына заключалася ў тым, што некаторыя палякі зарэгістраваліся на выезд на ўсялякі выпадак, а пасля перадумалі і адмовіліся ад перасялення. У многіх з іх быў страх перад невядомым лёсам у Польшчы, стратай нажытай маёмасці. Таксама некаторыя яшчэ мелі надзею на змены мяжы і спадзяваліся, што Польшча да іх вернецца[109]. Яўген Міранові́ч лічыць, што масавы запіс палякаў на выезд у Польшчу быў своеасаблівым плебісцытам, які мусіў даказаць польскасць заходніх абласцей БССР, і што далёка не ўсе тыя, хто падаў заяву на перасяленне, насамрэч хацелі выехаць з Беларусі[110].

Тыя, хто ўсё ж такі вырашыў пакінуць БССР, згаджаліся нават на нечалавечыя ўмовы падчас выезду. Улады разлічвалі такім чынам адбіць ахвоту ў палякаў перасяляцца ў Польшчу. У лютым 1946 г. на памежную чыгуначную станцыю Ласосна прыехаў транспарт са станцыі Зябкі Полацкай вобласці. Перасяленцаў везлі на 5 адкрытых платформах. У выніку ад абмаражэння двое дзяцей памерлі[111]. Падобная сітуацыя адбылася з перасяленцамі, якія ехалі са станцыі Ражанка Гродзенскай вобласці. Іх везлі ў двух разбітых вагонах. Падчас пераезду памерла адно дзіця[112]. Інфармацыя аб трагічных выпадках, па меркаванні ўлад, магла паўплываць на адмову ад перасялення іншых ахвотных выехаць у Польшчу.

У чэрвені 1946 г. прадстаўнікі ўрада БССР і Польшчы падпісалі пратакол аб заканчэнні перасялення[113]. Нягледзячы на гэта, польская амбасада ў Маскве лічыла, што не ўсе, хто хацеў, змаглі атрымаць дазвол на выезд у Польшчу. Таму амбасада звярнулася ў міністэрствы замежных спраў Польшчы і СССР, каб вырашыць гэтае пытанне[114].

Працягнуць працэс перасялення палякаў з БССР у Польшчу безвынікова спрабаваў прэм'ер-міністр польскага ўрада Юзаф Цыранкевіч. У пачатку сакавіка 1947 г. ён накіраваў ліст намесніку міністра замежных спраў СССР Андрэю Вышынскаму з просьбай працягнуць перасяленне палякаў[115]. Савецкі бок адмовіўся, але разам з тым заявіў, што заканадаўства СССР дазваляе рэпатрыяцыю ў індывідуальным парадку[116]. Зварот Цыранкевіча не да старшыні ўрада альбо міністра замежных спраў, а да намесніка апошняга сведчыць аб тым, што польскі ўрад з'яўляўся цалкам падначаленым Савецкаму Саюзу, меў не больш правоў, чым іншыя савецкія рэспублікі.

---

109 M. Ruchniewicz, *Repatriacja ludności polskiej z ZSRR w latach 1955–1959*, s. 183–184.

110 E. Mironowicz, *Przesiedlenia ludności z Białorusi do Polski i z Polski na Białoruś w latach 1944–1946*, s. 89.

111 НАРБ, ф. 788, воп. 1, спр. 11, арк. 96: Донесения районных представителей о эвакуации населения, 1.01.1945–27.05.1946.

112 Тамсама, с. 96.

113 А. Вялікі, *На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944–1946 гг.)*, Мінск 2005, с. 164.

114 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 86–87.

115 Андрэй Вышынскі (1883–1953) — грамадзянін СССР, паляк па нацыянальнасці, нарадзіўся ў Адэсе. У 1935–1939 гг. быў пракурорам СССР. Прымаў актыўны ўдзел у сталінскіх рэпрэсіях. На яго сумленні тысячы бязвінна расстраляных грамадзян СССР.

116 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 88.

Адмова Масквы працягнуць перасяленне выклікала рост антысавецкіх настрояў сярод палякаў у заходніх абласцях БССР, УССР, паўночных і ўсходніх рэгіёнах СССР, а таксама ў самой Польшчы[117]. Але, нягледзячы на гэта, пазіцыя савецкай улады ў гэтым пытанні была непахіснай і катэгарычнай. У Крамлі разумелі, што чарговая хваля выезду пакіне без людзей заходнеўкраінскія і заходнебеларускія вёскі і гарады.

Такім чынам, дзеянні савецкай улады, якая праводзіла з вясны 1945 г. рэпрэсіўную палітыку, накіраваную на абмежаванне выезду палякаў у Польшчу, прывялі да таго, што палова з тых, хто запісаўся на перасяленне, не змагла выехаць. Карэнным чынам сітуацыя змянілася пасля смерці Сталіна ў 1953 г. Так званая хрушчоўская адліга дала магчымасць польскаму ўраду вярнуцца да дыялогу з СССР па пытанні аднаўлення працэсу перасялення палякаў у Польшчу[118]. Важнай падзеяй стала прыняцце Вярхоўным Саветам СССР пастановы ад 22 жніўня 1955 г. "Аб перадачы Польшчы ўсіх польскіх грамадзян". Пасля гэтага пачаўся працэс стыхійнай рэпатрыяцыі. У выніку ў Польшчу пераехала каля 5 тысяч чалавек[119].

Чарговым крокам савецкага кіраўніцтва ў справе перасялення была пастанова Савета Міністраў СССР № 1004–532с ад 1956 г. аб рэпатрыяцыі ў Польшчу асоб польскай і габрэйскай нацыянальнасцей, якія раней не выкарысталі магчымасці выехаць у Польшчу на падставе савецка-польскай дамовы ад 9 верасня 1944 г. Гэтая пастанова таксама давала дазвол на выезд былым польскім палітычным эмігрантам і іх сем'ям. Рэпатрыяцыю рэгуляваў сакрэтны загад № 0306, выдадзены Міністэрствам унутраных спраў СССР 31 ліпеня 1956 года[120].

Падзеі 1956 г. у Польшчы, вяртанне да ўлады Уладзіслава Гамулкі і абвяшчэнне перамоў з СССР на тэму польска-савецкіх адносін стварылі для рэпатрыяцыі адпаведныя ўмовы. Важным фактарам стаў афіцыйны візіт 15–18 лістапада 1956 г. польскай дэлегацыі на чале з першым сакратаром Цэнтральнага камітэта Польскай аб'яднанай працоўнай партыі (ПАПП) Уладзіславам Гамулкам у Маскву[121]. Гамулка здолеў дамовіцца з Мікітам Хрушчовым аб вызваленні з савецкіх турмаў 500 былых польскіх грамадзян[122]. Таксама было прынята рашэнне аб арганізацыі ў бліжэйшы час міжнародных перамоў аб тэрмінах і парадку рэпатрыяцыі. 19 лістапада 1956 г. тэкст рашэнняў польска-савецкіх перамоў, у тым ліку пра магчымасць рэпатрыяцыі палякаў з СССР у Польшчу, надрукавалі газеты — польская "Народная трыбуна" ("Trybuna Ludu") і маскоўская "Праўда"[123]. Польскі пасол у Маскве Тадэвуш Гедэ звярнуўся да міністра ўнутраных спраў СССР Мікалая Дударава з прапановай па прыкладзе Масквы апублікаваць інфармацыю пра магчымасць рэпатрыяцыі палякаў з СССР у Польшчу ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах. Міністр Дудараў у гэтай просьбе адмовіў[124].

117 НАРБ, ф. 4п, воп. 42, спр. 111, арк. 126: Полоцкий ОК КП(б)Б. Информация, 1944–1945.

118 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг.*, с. 70.

119 *Нарыс гісторыі Польскай дзяржавы і народа,* рэд. М. Семаковіч, Варшава 2005, с. 263.

120 ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 183.

121 W. Gomułka, *Przemówienia, październik 1956 — wrzesień 1957*, Warszawa 1957, s. 94.

122 ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 112–113.

123 M. Ruchniewicz, *Repatriacja ludności polskiej z ZSRR w latach 1955–1959*, s. 135.

124 ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 112–113.

Гэта быў першы сігнал аб тым, што рэпатрыяцыя ўладамі БССР, УССР і ЛССР будзе арганізавана такім жа чынам, як і перасяленне 1944–1946 гг., калі партыйныя і савецкія ўлады гэтых рэспублік усялякімі спосабамі перашкаджалі працэсу масавага выезду палякаў у Польшчу.

Фармальна дагавор аб рэпатрыяцыі быў падпісаны 25 сакавіка 1957 г., а ўступіў у дзеянне 10 ліпеня 1957 г., калі намеснік міністра замежных спраў ПНР Юзаф Віневіч і савецкі пасол у Варшаве Панцеляймон Панамарэнка абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі[125]. Перамовы цягнуліся амаль два гады. У выніку дамова была падпісана і, такім чынам, сотням тысяч палякаў у СССР былі створаны ўмовы для перасялення ў Польшчу. Гэта, безумоўна, быў поспех польскіх улад. Аднак ажыццяўленне рэпатрыяцыі ў значнай ступені залежала ад выканання дамовы мясцовымі органамі ўлады.

Беларускія савецкія ўлады з самага пачатку працэсу рэпатрыяцыі імкнуліся не дапусціць масавага выезду палякаў з БССР. Як і раней, гэта было звязана з нежаданнем страчваць рабочую сілу ў заходніх абласцях рэспублікі. Улады наўмысна зацягвалі выдачу ахвотным выехаць даведак, якія пацвярджалі іх польскае паходжанне. Таксама адкладалі прыняцце рашэння аб прызнанні права на выезд з БССР. Такі падыход мясцовых улад да рэпатрыяцыі выклікаў масавую хвалю скаргаў у савецкія інстанцыі і ў польскае пасольства ў Маскве. Большасць скаргаў на дзеянні ўлад дасылалі жыхары Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей. Накіраваная з Масквы камісія вызначыла, што перашкоды рэпатрыяцыі мясцовыя органы ўлады стваралі на падставе вусных указанняў рэспубліканскага кіраўніцтва[126]. Камісія патрабавала ад улады Гродзенскай вобласці няўхільна выконваць рашэнні Масквы[127].

Найбольшы непакой з-за рэпатрыяцыі выказвалі старшыні калгасаў, якія баяліся апусцення вёсак. Яны разумелі, што ніхто не накіруе да іх рабочую сілу з іншых тэрыторый СССР. Так, у лісце з нагоды выезду насельніцтва ў Польшчу, старшыня калгаса імя Жданава Маладзечанскай вобласці пісаў да міністра замежных спраў Дзмітрыя Шапілава ў лютым 1957 г.: *"У цяперашні час падняліся вялікія масы народа, якія стаяць у чэргах на выезд у Польшчу. Тут кожны другі дом мае сваяка ў Польшчы. Гэты працэс ахапіў усе вёскі і робіць прыгнятальнае ўражанне. З боку цэнтральных улад неабходныя дзеянні, якія б стрымлівалі гэты працэс, што выклікае паразу, і гэтым могуць скарыстацца нашы ворагі на Захадзе ў сваёй прапагандзе"*[128].

Працэс рэпатрыяцыі адбываўся пад пільным кантролем КДБ СССР. Праз органы міліцыі КДБ не дапускаў выезду ў Польшчу "антысавецкіх

[125] А. Вялікі, *Беларусь — Польшча ў XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя 1955–1959 гг.*, Мінск 2007, с. 117–118.

[126] ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1456, арк. 9.

[127] Падрабязней на гэту тэму гл.: ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1456, арк. 5–15: Служебная записка полковников милиции Антонова, Ломанского, Кулешова, переданная начальнику Главного Управления Милиции МВД СССР комиссару милиции II ранга М. Барсукову, от 23 марта 1957 г.

[128] ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 196; Z. J. Winnicki, "*Druga repatriacja*" *z BSRR. 1955–59*, "Magazyn Polski" wydawany na uchodźstwie od roku 2005, *wyd. na uchodźstwie,* 2008, nr 7–8, s. 46.

элементаў”, якія, паводле меркаванняў службаў бяспекі, выкарыстаўшы рэпатрыяцыю, маглі пасля выехаць у капіталістычныя краіны[129]. На падставе розных прычын улады адмаўлялі ў перасяленні ў Польшчу. У 1958 г. з 41 чалавека (удзельнікі польскага рэвалюцыйнага руху і члены іх сямей) 15 асобам КДБ адмовіў у рэпатрыяцыі[130]. Верагодна гэтыя рэвалюцыйныя дзеячы валодалі інфармацыяй, якая магла прынесці шкоду савецкаму палітычнаму рэжыму, калі б яе абнародавалі на Захадзе.

З 1955 па 1959 гг. з СССР у Польшчу выехаў 245 501 чалавек. Большасць складалі жыхары БССР — 100 630 чалавек, альбо 40,5 % ад агульнай колькасці. Менш за ўсё палякаў з былых тэрыторый Другой Рэчы Паспалітай перасялілася з Літвы — 46 552 чалавекі[131]. Гэта можна растлумачыць тым, што ў Літве для палякаў былі створаны ўмовы для развіцця іх мовы, культуры, выдавецкай дзейнасці, таксама менш пацярпеў Каталіцкі касцёл (у параўнанні з рэпрэсіямі, якія ён зазнаў у БССР). Больш за тое, многія настаўнікі-палякі, якія не атрымалі дазволу на перасяленне ў Польшчу, выязджалі з БССР для працы ў польскія школы ў ЛССР.

Не ўсе рэпатрыянты змаглі “ўкараніцца” ў Польшчы. Прычынамі гэтага маглі быць слабое валоданне польскай мовай, цяжкасці з адаптаваннем на новым месцы жыхарства, адсутнасць працы або добрых жыллёвых умоў. На працягу 1957 г. і першых чатырох месяцаў 1958 г. 3 тысячы чалавек выказалі жаданне вярнуцца назад у СССР[132]. Пры гэтым з СССР у Польшчу ў перыяд са снежня 1956 г. да лютага 1957 г. выехала непараўнальна большая колькасць рэпатрыянтаў, а менавіта 19 019 чалавек[133]. Гэтыя лічбы сведчаць, што жыццё ў СССР для беларускіх і ўкраінскіх перасяленцаў было нашмат цяжэйшым, чым у Польшчы.

Варта заўважыць, што перасяленне палякаў з БССР у Польшчу адбывалася ва ўмовах відавочнага канфлікту інтарэсаў паміж цэнтральным кіраўніцтвам у Маскве і рэспубліканскімі, а таксама мясцовымі ўладамі ў БССР. Сутнасць канфлікту была ў тым, што Масква імкнулася выканаць узятыя на сябе абавязацельствы адносна рэпатрыяцыі і выглядаць перад Польшчай як праверaны і надзейны саюзнік. Мясцовыя ўлады, у сваю чаргу, былі зацікаўлены ў тым, каб затрымаць палякаў: яны з’яўляліся рабочай сілай для прамысловых прадпрыемстваў і калгасаў, а пакінуць без людзей заходнія вобласці Беларусі было нельга. Ахвярамі гэтага канфлікту інтарэсаў сталі простыя палякі, якія не хацелі звязваць свой лёс з савецкім таталітарным рэжымам. У перыяды перасяленняў палякаў у Польшчу (1944–1948 гг., 1955–1959 гг.), паводле ацэнак Яна Чарнякевіча і Малгажаты Рухневіч, з БССР выехалі 374 793 чалавекі. Анатоль Вялікі, у сваю чаргу, прыводзіць іншую лічбу — 400 630 чалавек[134].

129 ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 216.

130 Тамсама, с. 269.

131 M. Ruchniewicz, *Repatriacja ludności polskiej z ZSRR w latach 1955–1959*, s. 255.

132 ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 254–255: Письмо посла СССР в ПНР Петра Абросимова к секретарю ЦК КПСС Михаилу Суслову.

133 ДАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, спр. 1460, арк. 214.

134 А. Вялікі, *Беларусь — Польшча ў XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя. 1955–1959 гг.*, с. 211.

Прычына масавага жадання выехаць у Польшчу з БССР была ў савецкай палітычнай сістэме, у якой чалавек быў пазбаўлены ўсіх правоў і пастаўлены ў зневажальны стан маўклівага выканаўцы яе рашэнняў і загадаў. Пасляваенныя паступовыя саветызацыя і русіфікацыя былі непрымальнымі для палякаў, якія прызвычаіліся да вядзення сваёй індывідуальнай гаспадаркі, хацелі свабодна вызнаваць каталіцызм, карыстацца польскай мовай, развіваць польскую культуру. Савецкія рэформы, якія праводзіліся з 1939 г., і памяць пра рэпрэсіі 1939–1941 гг. не давалі ім шансаў на нармальнае жыццё. Савецкая ўлада была чужой і варожай для шматлікіх польскіх сямей, якія ў выніку ўсталявання мяжы па лініі Керзана згубілі магчымасць кантактаваць паміж сабой, бо апынуліся па розныя бакі гэтай мяжы[135].

Ва ўсім гэтым працэсе пасляваеннага перасялення палякаў з БССР у Польшчу для савецкай улады быў адзін даволі значны станоўчы момант, а менавіта: тэрыторыю Беларусі пакінуў ненадзейны ў палітычным, сацыяльным, нацыянальным і канфесійным плане “польскі элемент”, які мог бы ствараць кіраўніцтву БССР палітычныя праблемы[136].

Перасяленне было адной з прычын таго, што “польскае пытанне” ў БССР перастала існаваць для ўлад. Таксама гэты працэс паўплываў на ўніфікацыю заходніх абласцей рэспублікі і іх інтэграцыю ў склад савецкай дзяржавы. Масавы выезд палякаў быў чарговым (пасля крывавых рэпрэсій 1937–1938 гг. і дэпартацый 1939–1941 гг.) смяротным ударам, нанесеным па польскасці ў БССР. У Польшчу перасялілася нацыянальна свядомая і патрыятычна настроеная інтэлігенцыя, у тым ліку настаўнікі, урачы, інжынеры, тэхнікі, ксяндзы і іншыя прадстаўнікі польскай эліты. Гэта прывяло ў 1948 г. да поўнай ліквідацыі польскамоўнай адукацыі ў БССР. Наступствы масавага перасялення палякаў у Польшчу адчуваюцца для польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі і сёння.

[135] Да 1956 г. для простых грамадзян БССР і Польшчы мяжа была цалкам закрыта. Толькі Пастанова Савета Міністраў СССР 7п-1956 № 171–102с гэтае становішча змяніла. Гл.: Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (далей: ДАГВ), ф. 730, воп. 1, спр. 1.

[136] А. Вялікі, *Беларусь — Польшча ў XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя 1955–1959 гг.*, с. 211.

## 3. Польскае падполле ў Беларусі ў 1944–1956 гг.

27 ліпеня 1944 г. Савецкі Саюз і Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення падпісалі дагавор аб савецка-польскай мяжы, якая праходзіла (згодна з нефармальным рашэннем "Вялікай тройкі" ў Тэгеране) уздоўж лініі Керзана. Кіруючыся гэтай дамовай, НКУС СССР выдаў сакрэтны загад № 00767, паводле якога з 20 жніўня з 20.00 забараняўся свабодны пераход мяжы. На падставе гэтых двух дакументаў была ўсталяваная ўсходня мяжа Польшчы[137].

Кіраўніцтва Савецкага Саюза разглядала былыя паўночна-ўсходнія землі Польшчы ў якасці сваіх тэрыторый і не мела намеру ад іх адмаўляцца. Усе баявыя дзеянні Арміі Краёвай, якія вяліся з мэтай вяртання гэтых зямель польскай дзяржаве, для савецкай улады былі варожымі і адразу падаўляліся. Галоўнай задачай вайсковых частак (асобных батальёнаў, палкоў) і злучэнняў (брыгад, дывізій) НКУС-НКДБ, што ішлі ўслед за Чырвонай арміяй, было знішчэнне польскіх падпольных фарміраванняў. 18 ліпеня 1944 г. затрыманы камандзіры Віленскай і Навагрудскай акруг, а таксама 26 афіцэраў, сярод якіх было 9 камандзіраў брыгад, 12 камандзіраў атрадаў і 5 штабных афіцэраў. Апроч таго, было раззброена 3 500 чалавек, з якіх 200 — афіцэры і малодшыя афіцэры[138].

20 ліпеня 1944 г. Лаўрэнцій Берыя ў сваім чарговым лісце да Сталіна пісаў: *"За два дні вайсковай аперацыі раззброены 6 000 салдат АК, у тым ліку 650 афіцэраў і малодшых афіцэраў. Абсалютная большасць салдат выказала жаданне далей служыць у арміі Берлінга. Акрамя таго, прашу санкцыю на перадачу афіцэраў, якія прадстаўляюць аператыўную цікавасць, органам НКУС-НКДБ, а таксама контрразведцы "Смерш", астатніх афіцэраў накіраваць у лагеры НКУС, бо ў іншых умовах яны будуць займацца арганізацыяй розных польскіх падпольных фарміраванняў"*[139].

Для эфектыўнасці барацьбы з польскім падполлем мясцовыя органы НКУС-НКДБ былі дадаткова ўзмоцнены спецыяльнымі групамі вопытных аператыўных супрацоўнікаў з Масквы і іншых рэгіёнаў СССР. У ліпені–жніўні 1944 г. у Заходнюю Беларусь былі накіраваны 311 прадстаўнікоў дзяржбяспекі. Тэрыторыю заходнебеларускіх абласцей органы НКУС-НКДБ падзялілі на полацкі, маладзечанскі, гродзенскі, баранавіцкі і пінскі сектары[140]. Галоўнай сілай для барацьбы з АК былі ўнутраныя войскі НКУС, таму планавалася накіраваць у Заходнюю Беларусь 13 палкоў НКУС, якія складаліся з 18 890 афіцэраў і салдат[141].

---

137 K. Krajewski, *Działalność Obwodu AK Szczuczyn–Lida (nr 49/67) w latach 1945–1949*, [у:] *Europa nieprowincjonalna*, Warszawa 1999, s. 790–805; G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, Kraków 2014, s. 113.

138 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 65, арк. 398–399: Письмо Берии к Сталину, 19.07.1944.

139 Тамсама, спр. 66, арк. 11–12: Письмо Берии к Сталину, 20.07.1944.

140 H. Piskunowicz, *Zwalczanie przez NKWD i NKGB polskiego podziemia na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, [у:] *Wojna domowa czy nowa okupacja? Polska po roku 1944*, red. A. Ajnenkiel, Warszawa 2001, s. 69.

141 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 68, арк. 59–60.

Яны сталі дадатковым падмацаваннем унутраных войскаў органаў дзяржбяспекі, якія пастаянна знаходзіліся ў беларускай вайсковай акрузе. Апроч таго, планавалася выкарыстанне несапраўдных атрадаў, што выконвалі распрацаваную органамі бяспекі ролю антысавецкіх партызан, а таксама знішчальных батальёнаў, якія складаліся з партыйнага актыву, былых партызан і мясцовага насельніцтва[142].

Адчувальнай стратай для польскіх падпольных фарміраванняў была смерць 21 жніўня 1944 г. пад Суркантамі падчас бою з войскамі НКУС выконваючага абавязкі камандзіра Навагрудскай акругі АК Мацея Калянкевіча ("Котвіча"). Разам з ім было забіта 36 акаўцаў. У верасні 1944 г. атрады НКУС захапілі радыёстанцыю ў Лідскім раёне і ўзялі ў палон яе персанал. Гэтая радыёстанцыя адыгрывала значную ролю для АК, бо падтрымлівала сувязь з Лонданам, Варшавай і Італіяй[143].

У інфармацыйнай даведцы, якую Берыя 12 снежня 1944 г. даслаў Сталіну, паведамлялася: *"Падчас правядзення чэкісцка-вайсковай аперацыі* (з 28 лістапада па 1 снежня — *Т. Г.*) *забітыя 800 бандытаў, затрыманыя 1 643 дэзерціры і 48 900 чалавек, якія ўхіляліся ад мабілізацыі ў Чырвоную армію. 3 снежня 1944 г. у выніку чарговай аперацыі былі забітыя і арыштаваныя 80 удзельнікаў банды "Рагнера"* (Часлава Заянчкоўскага[144] — *Т. Г.*). *"Рагнер" у выніку праведзенай аперацыі быў забіты, а яго штаб ліквідаваны"*[145]. У гэтым жа лісце Берыя пісаў пра знішчэнне ў Баранавіцкай вобласці *"шырока разгалінаванай белапольскай паўстанцкай арганізацыі "Польскі падпольны саюз"*. Па справе гэтай арганізацыі было арыштавана 400 чалавек[146].

У жніўні 1944 г. НКУС-НКДБ Беларускай ССР распрацаваў планы па ліквідацыі польскага антысавецкага падполля. Адразу пачалася іх рэалізацыя. Ажыццяўленне гэтых планаў курыравалі камісар дзяржаўнай бяспекі II рангу Іван Сяроў[147], народны камісар унутраных спраў БССР Бельчанка[148] і народны камісар дзяржаўнай бяспекі Лаўрэнцій Цанава[149]. Пачатку масавых апера-

---

142 H. Piskunowicz, *Zwalczanie przez NKWD i NKGB polskiego podziemia na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, s. 69.

143 E. Skrobocki, *Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944–1953*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, Grodno 2004, s. 360.

144 Падрабязней на гэту тэму гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953,* s. 156–160.

145 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 68, арк. 104.

146 Тамсама, арк. 104–105.

147 На тэму яго дзейнасці ў НКУС гл.: *Czekiści. Organy bezpieczeństwa w europejskich krajach bloku sowieckiego 1944–1989*, red. K. Persak i Ł. Kamiński, Warszawa 2010, s. 42, 56, 57, 59, 62, 75, 78, 80–84, 86–87, 94, 108–109, 133, 137, 146, 173, 323, 329, 395.

148 У справаздачы НКУС БССР генерал-лейтэнанту С. Бельчанку старшыня Гродзенскага абласнога ўпраўлення НКУС дакладваў, што ў перыяд з 1 жніўня 1944 г. да 1 жніўня 1945 г. на тэрыторыі Гродзенскай вобласці праведзена 203 аперацыі войск НКУС, падчас якіх ліквідавана 99 падпольных груп, забіта 508 чалавек і арыштавана 2 337 "бандытаў", што змагаліся супраць савецкай улады. Гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, s. 224.

149 A. Chmielarz, *Likwidacja podziemia polskiego na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (lipiec 1944 — lipiec 1945)*, [у:] *Z dziejów Armii Krajowej na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1941–1945). Studia*, Warszawa 1997, s. 184.

цый НКУС папярэднічалі разведка мясцовасці і пранікненне ў польскае падполле прадстаўнікоў савецкай агентурнай сеткі[150].

Ужо ў верасні-кастрычніку 1944 г. у Баранавіцкай і Вілейскай абласцях праведзена шырокая аперацыя войск органаў бяспекі. Яе вынікі: ліквідаваны 54 узброеныя групы[151], забіты 89 чалавек і ўзяты ў палон 419. А падчас прачэсвання лясоў затрымана 20 774 чалавекі, 50 з якіх расстраляна[152].

У кастрычніку і лістападзе 1944 г. НКУС такія акцыі праводзіў у Гродзенскай, Маладзечанскай, Баранавіцкай і Полацкай абласцях. У сваёй справаздачы Берыя пісаў, што ў выніку аперацый толькі ў першых трох абласцях затрымана і рэпрэсавана 1 526 *"удзельнікаў белапольскіх бандаў, 400 бандытаў былі забіты"*[153]. Апроч таго, Берыя прасіў Сталіна дазволіць выслаць у Польшчу 600 польскіх сямей *"бандытаў-паўстанцаў"*, раней рэпрэсаваных органамі НКУС. З кожнай вобласці кандыдатаў на высылку налічвалася каля 150–200 чалавек[154]. У гэты час органы НКУС-НКДБ актыўна стваралі несапраўдныя партызанскія групы, якія імітавалі барацьбу з савецкай уладай. Яны маскіраваліся пад атрады АК[155] альбо ўласаўцаў[156].

---

150 11 кастрычніка 1944 г. Лідскім гарадскім аддзелам НКУС на падставе інфармацыі, атрыманай ад агентаў "Луна" і "Смелаў", была праведзена аперацыя з мэтай знішчэння атрада пад камандаваннем Вацлава Паўлоўскага ("Завея"). У ёй прынялі ўдзел 318 салдат, 32 сяржанты, 15 афіцэраў і 14 аператыўных супрацоўнікаў. Вынікі гэтай аперацыі: арыштаваны 19 актыўных удзельнікаў польскага падполля, у тым ліку і некалькі афіцэраў. Асабліва моцным ударам былі затрыманні каменданта акругі капітана Станіслава Рыбкі ("Ікар") (ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання), намесніка каменданта акругі Цітавіцкага ("Пехур"). Праз некалькі дзён быў арыштаваны камандзір сапёраў акругі паручнік Юзаф Лубікоўскі ("Сібірак"). Ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання за арганізацыю і правядзенне больш як 10 дыверсій на чыгунцы на тэрыторыі Лідскага раёна. "Сібірак" таксама падрыхтаваў каля 200 сапёраў для дыверсійнай дзейнасці. Гл.: E. Skrobocki, *Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944–1953*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, s. 360–361.

151 А. Хацкевич, *Узлы развязывает время. Формирования польской Армии Краёвой на территории западных областей Белоруссии (1943–1944)*, "Неман", 1994, № 1, с. 136–150.

152 Н. Рыбак, *Метады і сродкі ліквідацыі акаўскіх і постакаўскіх фарміраванняў у заходніх абласцях Беларусі*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2000, nr 14, с. 169.

153 J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi 1944–1953. Propaganda i edukacja w służbie ideologii*, Kraków 2010, s. 69–70.

154 ДАРФ, ф. 9401, воп. 2, спр. 67, арк. 185.

155 Аператыўная група НКУС-НКДБ пад кіраўніцтвам Шыхава ў Казлоўшчынскім раёне Ліпічанскай пушчы, якая выдавала сябе за атрад АК, узяла ў палон камандзіраў польскіх падпольных атрадаў А. Васілеўскага, І. Геруса і 8 польскіх партызан, а пасля знішчыла іх атрады. Пры гэтым былі забіты 34 акаўцы і 111 арыштаваны. 27 сакавіка 1945 г. Васілеўскі і Герус прысуджаны да вышэйшай меры пакарання праз павешанне. Падчас акцыі аператыўнай групы пад камандаваннем Маркоўскага 13–14 сакавіка 1945 г. былі забіты 36 чалавек з атрада Францішка Верамовіча ("Куна", "Франц", "Ян Фларыян") і 24 чалавекі з рэзерву. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O byciе Polakiem*, s. 226.

156 У канцы 1944 г. і ў пачатку 1945 г. на тэрыторыі Лідскага, Ашмянскага, Навагрудскага і іншых раёнаў пачалі дзейнасць аператыўныя групы 4 упраўлення НКДБ СССР, якія выдавалі сябе за "ўласаўцаў". Група пад кіраўніцтвам маёра Віктарава размясцілася ў Ашмянах. У яе склад уваходзілі 80 салдат, сяржантаў і афіцэраў 6 пяхотнай дывізіі і атрады спецыяльнага прызначэння войск НКУС. 5 студзеня 1945 г. група Віктарава наладзіла сувязь з камандзірам польскага атрада Віктарам Туронкам ("Тур", "Тумры") і яго намеснікам "Юрам". Група Віктарава ўвайшла ў давер да "Тура" і яго байцоў. 19 студзеня пачалася вайсковая аперацыя супраць атрадаў "Тура" і "Орліча" (ротмістр Уладзіслаў Кітоўскі). Польскія партызаны пачалі адступаць у бок Налібоцкай пушчы, дзе ім удалося схавацца ў лясным гушчары. Амаль 10 дзён за імі ішлі войскі НКУС, пакуль не дагналі ў в. Равіны Карэліцкага раёна, дзе акаўцы затрымаліся на адпачынак. У 16.00 пачаўся бой атрадаў "Тура" і "Орліча" з вайскоўцамі 284 палка ўнутраных войск НКУС пад камандаваннем маёра Здышанкі. Колькасць савецкіх войск амаль

Найбольш важнымі задачамі гэтых груп былі разведка, выяўленне камандзіраў атрадаў АК і іх фізічнае знішчэнне, пранікненне ў польскія падпольныя структуры для іх разбурэння знутры[157]. Паводле даных спецыяльных службаў, падчас ліквідацыі групы "Поўдзень" Навагрудскай акругі АК у канцы 1944 — пачатку 1945 гг. было забіта больш за 300 акаўцаў і арыштавана каля 250 чалавек. У гэты ж час у выніку знішчэння групы "Поўнач" былі забіты 57 чалавек і арыштаваны 117. Падчас баёў з польскім падполлем на тэрыторыі групы "Усход" 43 акаўцы загінулі і 54 былі зняволены. Страты з савецкага боку ў другой палове 1944 г. наступныя: забіта 26 супрацоўнікаў НКУС-НКДБ, 17 афіцэраў і 51 салдат унутраных войск НКУС і Чырвонай арміі, а таксама 41 чалавек з тых, што займалі пасады ў органах савецкай улады, уваходзілі ў склад партыйнага актыву[158].

Адначасова з арганізацыяй вайсковых аперацый органы дзяржбяспекі БССР надавалі вялікую ўвагу працы з агентамі ("маршрутнікамі", "унутрынікамі", "баевікамі" і "камернікамі")[159]. Найчасцей вербавалі тых, на каго меўся кампрамат, хто жыў на хутарах і ў вёсках, хто ўдзельнічаў у антысавецкім супраціве. Таму шматлікія агенты з'яўляліся былымі членамі АК альбо іншых антысавецкіх фарміраванняў[160]. Эфектыўная дзейнасць гэтых агентаў матэрыяльна заахвочвалася[161].

Таксама ў агентурную сетку ўваходзілі тайныя інфарматары (даносчыкі). У кожнай вялікай вёсцы ў Заходняй Беларусі НКУС меў сваіх людзей. У першым квартале 1945 г. на тэрыторыі ўсёй БССР дзейнічала 8 797 інфарматараў[162]. У агентурна-інфармацыйную сетку абласнога ўпраўлення НКУС Гродзенскай вобласці на 1 студзеня 1946 г. уваходзіла 1 407 чалавек, у тым ліку 20 рэзідэнтаў, 69 агентаў і 1 318 даносчыкаў[163].

Вясной і летам 1946 г. асноўныя сілы НКУС накіраваны ў Лідскі раён, дзе вялася барацьба супраць польскіх фарміраванняў пад камандаваннем

у чатыры разы пераўзыходзіла колькасць салдат АК. У выніку гэтай бітвы загінулі 82 вайскоўцы АК, 24 паранены і арыштаваны. Камандзіру атрада "Туру" з некалькімі дзясяткамі чалавек удалося вырвацца з акружэння і ў хуткім часе перайсці савецка-польскую мяжу. Аператыўная група Віктарава далей дзейнічала сярод польскага насельніцтва на беларуска-літоўскай мяжы. 24 лютага 1945 г. Віктараў са сваёй групай акружыў в. Лаўжы, дзе базіраваўся атрад Уладзімежа Мікуця ("Весь", "Ярэма"). Бой доўжыўся з 2 гадзін ночы да 7 гадзін раніцы. Віктараўцы забілі больш за 60 чалавек і спалілі польскую вёску Лаўжы. Гл.: E. Skrobocki, *Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944–1953*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, s. 362–363.

157 Н. Елисеева, *Тылы действующей армии охраняли войска НКВД*, "Военно-исторический журнал", 1998, № 6, с. 22–23.

158 *NKWD o Polskim Podziemiu 1944–1948. Konspiracja polska na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie*, Warszawa 1997, s. 404.

159 Падрабязней на тэму іх вярбоўкі і працы гл.: Н. Рыбак, *Да пытання ліквідацыі польскага антысавецкага падполля ў заходніх абласцях БССР у 1944–1948 гг.*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, s. 371–375.

160 Тамсама, с. 372.

161 Н. Рыбак, *Метады і сродкі ліквідацыі акаўскіх і постакаўскіх фарміраванняў у заходніх абласцях Беларусі*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2000, nr 14, s. 174–175.

162 ДАРФ, ф. Р-9478, воп. 1, спр. 516, арк. 9.

163 T. Gawin, *O byciе Polakiem*, s. 230.

"Олеха"[164]. Польскія падпольшчыкі забівалі тут агентаў і супрацоўнікаў НКУС, прадстаўнікоў мясцовай улады, партыйнага актыву, якія праводзілі жорсткую палітыку ў дачыненні да насельніцтва, знішчалі дакументацыю савецкіх і падатковых органаў. Варта адзначыць, што няўхільныя і бязлітасныя дзеянні польскага падполля прывялі да таго, што савецкія органы ўлады не маглі цалкам кантраляваць тэрыторыі былых Шчучынскага, Лідскага і Гродзенскага паветаў Другой Рэчы Паспалітай і кіраваць імі.

Першы сакратар Гродзенскага абласнога камітэта партыі Пётр Калінін 13 студзеня 1948 г. на нарадзе сакратароў раённых партыйных камітэтаў і старшынь раённых выканаўчых камітэтаў казаў: "*У нас у Гродзенскім раёне напярэдадні выбараў* (у Вярхоўны савет СССР — *Т. Г.*) *нашымі органамі МДБ была раскрыта салідная банда. Уявіце сабе, што* (гэта адбылося на адлегласці — *Т. Г.*) *8 кіламетраў ад Гродна, і 100 м ад вёскі. Пры гэтым бандыты зрабілі такую зямлянку, што можна толькі пазайздросціць. У яе будаўніцтва было ўкладзена ўсё мастацтва інжынерна-тэхнічных войск. Толькі генерал, які скончыў акадэмію, мог бы арганізаваць такі план. Такіх зямлянак у перыяд вядзення баявых дзеянняў у нас была невялікая колькасць. Гэта зямлянка, дзе была кухня, туалет, калодзеж. Каб пабудаваць такую зямлянку, трэба было добра папрацаваць, і не можа быць, каб жыхары суседняй вёскі пра гэта не ведалі. Выходзіць, што народ ведаў пра гэта. Чаму ж у такім выпадку мы пра гэта нічога не ведалі? На гэта пытанне можна даць толькі адзін адказ: мы не змаглі наладзіць правільныя ўзаемаадносіны нашых органаў партыйнай і савецкай улады з мясцовым насельніцтвам, народ не ўпэўнены ў нас, нам не верыць, мы згубілі яго давер*"[165].

Органы НКУС, апроч выкарыстання шырокай агентурнай сеткі, актыўна працавалі з сем'ямі ўдзельнікаў польскага падполля. З імі праводзіліся размовы, іх пераконвалі паўплываць на сваякоў, каб тыя выйшлі з падполля і здаліся ўладам. Тым, хто супрацоўнічаў з польскім антысавецкім рухам, пагражалі высылкай у Сібір. Гэта праца, а таксама абвешчаная 7 ліпеня 1945 г. амністыя прынеслі свае вынікі: толькі ў ліпені 1945 г. з лясоў выйшла 748 чалавек у Гродзенскай вобласці і 600 чалавек у Маладзечанскай[166].

Барацьба з узброеным падполлем у заходніх абласцях БССР пастаянна кантралявалася вышэйшым партыйным кіраўніцтвам рэспублікі і займала

---

[164] У Навагрудскай акрузе АК найбольш арганізацыйна моцнымі польскімі падпольнымі фарміраваннямі былі абводы Шчучын (крыптанім "Лонка") і Ліда (крыптанім "Бур"). Вясной 1945 г. Лідскі абвод № 67 і Шчучынскі абвод № 49 былі злучаны ў адну арганізацыйную структуру — абвод № 49/67. Першым камендантам яго стаў сяржант Анатоль Урбановіч (Бужынскі) пад псеўданімам "Лялюсь". Пасля яго арышту ў маі 1945 г. камандаванне прыняў Баляслаў Міцкевіч ("Мядзведзь"), а пазней падпаручнік Анатоль Радзівонік ("Олех"). У 1945 г. у абводзе № 49/67 у барацьбе з "саветамі" ўдзельнічала каля 800 чалавек, большасць якіх знаходзіліся ў канспірацыі. Шматлікія байцы "Олеха" падчас нямецкай акупацыі змагаліся ў атрадах АК. Таксама многія з іх перасяліліся з БССР у Польшчу, пераехалі за лінію Керзана. Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Poczobut, *Ballada o Olechu*, "Magazyn Polski" wydawany na uchodźstwie od roku 2005, (wyd. na uchodźstwie), 2006, nr 6, s. 49–52.

[165] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 165, арк. 4: Стенограмма совещания секретарей комитетов партии и председателей районных исполнительных комитетов, 13.01.1948.

[166] J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi*, s. 78–79.

прыярытэтнае месца ў яго працы. У маі 1946 г. ЦК КП(б)Б дакладваў у ЦК УКП(б): *"Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый, дзякуючы шырокай палітычнай падтрымцы працоўных мас, войскамі і органамі МДБ і Міністэрства ўнутраных спраў (МУС) контррэвалюцыйнае падполле і бандыцкія фарміраванні па сутнасці былі ліквідаваны. Падчас іх ліквідацыі былі забіты 3 035 чалавек, арыштаваны 17 872 бандыты і ўдзельнікі падпольных антысавецкіх арганізацый. Усяго ліквідавана 814 падпольных тэрарыстычных арганізацый і бандаў, з якіх 667 польскіх, 97 беларускіх, 23 украінскія і 27, якія адносяцца да іншых фашысцка-нацыянальных арганізацый і бандаў. Страты з нашага боку складаюць 924 чалавекі, у тым ліку супрацоўнікаў савецкіх і партыйных органаў 242 чалавекі, грамадзян удзельнікаў барацьбы з бандамі 320 чалавек, салдат і афіцэраў МДБ і МУС 362 чалавекі"*[167].

Польская падпольная дзейнасць з'яўлялася сур'ёзнай перашкодай для партыйных і савецкіх органаў ва ўкараненні і ўмацаванні савецкай улады і парадку ў заходніх абласцях БССР. Пра значнасць гэтай праблемы сведчыць пастаянны разгляд яе на ўсіх нарадах партыйнага кіраўніцтва. Так, напрыклад, сакратар Лідскага раённага камітэта партыі Харчыстаў[168] на I абласной партыйнай канферэнцыі ў Гродне заявіў, што *"за два гады існавання савецкай улады ў раёне бандыты забілі 15 старшынь сельскіх саветаў і 18 агентаў, якія займаліся нарыхтоўкамі"*. Далей ён звярнуў увагу на тое, што *"старыя савецкія кадры фізічна знішчаны белапалякамі"*[169].

Старшыня Гродзенскага абласнога ўпраўлення МДБ Васіль Паліціка, каб суцішыць эмоцыі прысутных, сказаў: *"За гэты перыяд* (ліпень 1944 — снежань 1946 г.— *Т. Г.*) *на тэрыторыі Гродзенскай вобласці па сутнасці знішчана шырока разгалінаваная антысавецкая польская паўстанцкая арганізацыя Армія Краёва. Існуючыя раней пяць абводаў АК арганізавана разгромлены. Знішчаны буйныя бандыцка-тэрарыстычныя фарміраванні ("Рагнер"*[170]*, "Крысь"*[171]*, "Лялюсь"*[172]*, "Змяна", "Гура"*[173] *і іншыя). Аднак цалкам гэтае падполле яшчэ не ліквідавана і на тэрыторыі Гродзенскай вобласці далей дзейнічаюць групы ў Лідскім*

167 РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 139, арк. 204: Служебная записка инспектора ЦК ВКП(б) с материалами проверки работы ЦК КП(б)Б, 06.1946–01.1947.

168 Харчыстаў сцвярджаў, што на тэрыторыі Лідскага раёна па стане на 19 снежня 1946 г. жыло 46 тысяч чалавек, з якіх 30 тысяч было палякамі. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 51, арк. 45.

169 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 51, арк. 45–46.

170 Чэслаў Заянчкоўскі. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 72, 148, 151, 154–160, 408, 436.

171 Ян Барысевіч. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: K. Krajewski, *Jan Borysewicz "Krysia", "Mściciel" 1913–1945*, Warszawa 2013, s. 5, 7–13, 15, 18–19, 23, 25–28, 30–55, 59–64, 67–71, 76, 82–190.

172 Анатоль Урбановіч. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 408.

173 Адольф Пільх. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 74–75, 92–93.

*і прылеглых да яго раёнах ("Олех"*[174]*, "Дурыс"*[175] *— у Васілішкаўскім раёне, "Ірэна"*[176] *— у Шчучынскім), у Гродзенскім і Сапоцкінскім — "Фаля"*[177]*, "Морскі"*[178]*, а таксама ў Зэльвенскім — Елімашэўскі. У выніку аператыўных дзеянняў польскія нацыянальныя контррэвалюцыянеры перабудавалі свае арганізацыйныя структуры на больш законспіраваныя. Адзін з затрыманых кіраўнікоў гэтага падполля падчас допытаў сказаў, што з пачатку 1946 г. арганізацыя змяніла сваю назву і зараз называецца не АК, а "Вольнасць і Непадлегласць" (ВіН)"*[179].

Актыўнасць польскага ўзброенага падполля ў 1947 г. стала прычынай таго, што пытанне яго ліквідацыі тры разы абмяркоўвалася на пасяджэннях бюро ЦК КП(б)Б у Мінску. У студзені 1947 г., напрыклад, разглядалася пытанне аб фактах антысавецкіх дзеянняў варожых элементаў у асобных раёнах БССР. У прынятай пастанове была дадзена ацэнка палітычнай і аператыўнай сітуацыі ў Васілішкаўскім, Дзятлаўскім і Браслаўскім раёнах. Партыйнае кіраўніцтва патрабавала ад органаў міліцыі і дзяржбяспекі ўзмацнення барацьбы з антысавецкім супрацівам[180].

15–16 лютага 1947 г. на Пленуме ЦК КП(б)Б дэлегаты крытыкавалі працу кіраўніка МДБ Лаўрэнція Цанавы. Напрыклад, сакратар Гродзенскага абласнога камітэта партыі Андрэй Эльман казаў: *"Наша вобласць у барацьбе з бандытызмам з'яўляецца найбольш складанай вобласцю, і таму нас здзіўляе факт таго, што, нягледзячы на гэта, Цанава за два з паловай гады кіраўніцтва МДБ не знайшоў часу, каб прыехаць у Гродна, зарыентавацца ў сітуацыі і прыняць адпаведныя рашэнні ў барацьбе з бандытызмам"*[181]. У чэрвені 1947 г. ЦК КП(б)Б зноў абмяркоўваў пытанне аб палітычнай сітуацыі ў заходніх абласцях БССР. У выніку было вырашана ўзмацніць барацьбу з *"нацыяналістычным падполлем і бандытызмам"*[182].

У снежні 1947 г. на трэцім пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б чарговы раз падымалася пытанне антысавецкага падполля і спосабаў яго ліквідацыі. Органам МУС–МДБ БССР прапаноўвалася выкарыстоўваць усе магчымыя рэсурсы ў барацьбе з ім. Таксама было прынята рашэнне аб узмацненні аховы дзяржаўнай мяжы СССР. Таму трэба было павялічыць колькасны склад

---

174 Анатоль Радзівонік. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 408–421, 424; E. Skrobocki, *Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944–1953*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, s. 359–370.

175 Міхаіл Дурыс, псеўданім "Айцец". Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 428.

176 Павел Клікевіч. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 409, 413.

177 Юзаф Міклашэвіч. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 398–400, 402–406, 422, 427.

178 Мечыслаў Нядзінскі ("Морскі", "Мен", "Рэн", "Неман"). Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 397–401, 403–407, 421–423, 427.

179 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 51, арк. 75–76.

180 НАРБ, ф. 4п, воп. 61, спр. 371, арк. 10–11.

181 РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 207, арк. 86: Материалы уполномоченного Комитета Партийного Контроля при ЦК ВКП(б), а также другие вопросы проверки работы ЦК КП(б)Б, 10.1946–01.1948.

182 НАРБ, ф. 4п, воп. 61, спр. 415, арк. 2.

структур органаў бяспекі, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў ліквідацыі антысавецкага супраціву[183].

Зімой 1946–1947 гг. з мэтай канчатковага знішчэння польскага падполля створаны 4 аператыўныя групы. Задачай першай з'яўлялася ліквідацыя 9 абвода АК[184]. Месцам дыслакацыі групы быў г. Ваўкавыск. Другая група павінна была знішчыць 11 абвод АК. Яна размяшчалася ў мястэчку Малая Бераставіца. Трэцяя група атрымала заданне ліквідаваць 10 абвод АК[185], у першую чаргу атрад "Фалі"[186]. Гэтая група размяшчалася ў г. Гродна і пасёлку Парэчча Гродзенскага раёна. Задачай чацвёртай групы было знішчэнне абвода 49/67, атрадаў "Олеха"[187], "Бацяна"[188] і "Льва"[189]. Яна размяшчалася ў г. Лідзе.

Трэба адзначыць, што пасляваенная дзейнасць польскага антысавецкага падполля працягвалася, дзякуючы разнастайнай дапамозе мясцовага насельніцтва[190]. Сакратар Юрацішскага раённага камітэта партыі Маладзе-

183 НАРБ, ф. 4п, воп. 61, спр. 479, арк. 3–5.

184 У чэрвені-верасні 1948 г. органам МУС–МДБ удалося ліквідаваць атрад каменданта 9 абвода Браніслава Хведука "Цетшэў". Рэшту падпольнай арганізацыі сабраў і аб'яднаў Альфонс Копач, які быў арыштаваны толькі ў 1953 г. Усяго па гэтай справе ў 1947–1953 гг. арыштавана 190 чалавек. Гл.: В. Ермолович, С. Жумарь, *Огнём и мечом. Хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939–1953 гг.)*, Минск 1994, с. 92; И. Валаханович, *Подполье Армии Краёвой на территории Беларуси в 1944–1953 гг.: организационная структура и основные этапы деятельности*, с. 91.

185 У 1948 г. савецкія органы бяспекі высачылі і часткова знішчылі падпольную сетку 10 абвода АК пад кіраўніцтвам М. Нядзінскага ("Неман", "Морскі"). Гл.: *NKWD o polskim podziemiu 1944–1948. Konspiracja polska na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie*, opr. A. Chmielarz, K. Krajewski, T. Łabuszewski, H. Piskunowicz, red. nauk. T. Strzembosz, Warszawa 1997, s. 143.

186 На хутары Лапенкі, недалёка ад в. Грандзічы Гродзенскага раёна, 7 мая 1948 г. аператыўна-вайсковая група ўпраўлення МДБ высачыла групу "Фалі", у якую ўваходзіла каля 15 чалавек. Падчас перастрэлкі былі забітыя Мечыслаў Нядзінскі ("Рэн", "Морскі", "Неман"), Юзаф Міклашэвіч ("Фаля"), В. Гурскі ("Млоды"), В. Русіновіч ("Жэлязо") і іншыя, разам 9 чалавек. У выніку гэтай аперацыі быў забіты камендант 10 абвода АК, а таксама практычна ліквідаваны атрад "Фалі". Канчаткова гэты абвод АК быў знішчаны толькі ў 1952 г. У 1947–1952 гг. органы дзяржбяспекі БССР забілі і арыштавалі 250 чалавек, якія ўваходзілі ў 10 абвод. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 179, арк. 120–121; И. Валаханович, *Подполье Армии Краёвой на территории Беларуси в 1944–1953 гг.: организационная структура и основные этапы деятельности*, с. 89–90; Я. Сямашка, *Армія Краёва на Беларусі*, с. 235–235; В. Ермолович, С. Жумарь, *Огнём и мечом. Хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939–1953 гг.)*, с. 93.

187 У пачатку 1949 г. органы дзяржбяспекі СССР пачалі шэраг аперацый з мэтай канчатковай ліквідацыі атрадаў "Олеха". Першапачаткова праводзілася агентурная праца. Для яе рэалізацыі прымяняліся вялікія рэсурсы НКУС СССР. Раёны, у якіх агентура выявіла наяўнасць падпольных груп, войскі НКУС бралі ў аблогу і знішчалі прадстаўнікоў антысавецкага руху. Гл.: A. Poczobut, *Ballada o Olechu*, "Magazyn Polski" wydawany na uchodźstwie od roku 2005, 2006, nr 6, s. 49–52.

188 Францішак Вайцяховіч. Падрабязней на тэму яго баявой дзейнасці гл.: K. Krajewski, *Jan Borysewicz "Krysia", "Mściciel" 1913–1945*, s. 150.

189 Пасля смерці М. Дурыса ("Пярун") у 1947 г., на чале яго атрада стаў Ян Букатка ("Леў"), якога высачылі 28 сакавіка 1948 г. на хутары Дамейкі ў Лідскім раёне ў доме К. Шышкі. У выніку перастрэлкі, якая доўжылася каля гадзіны, атрад быў знішчаны, Букатка забіты, а яго намеснік Е. Санешка паранены. Пасля правядзення следства ў сакавіку 1948 г. арыштаваныя 19 чалавек, якія раней супрацоўнічалі з атрадам Дурыса-Букаткі, у тым ліку 5 дэпутатаў сельскага савета з вёсак Апаліна і Заполля. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 179, арк. 148–149.

190 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 165, арк. 4: Стенограмма совещания секретарей комитетов партии и председателей районных исполнительных комитетов, 13.01.1948.

чанскай вобласці ў лісце да Сталіна сцвярджаў: "[…] *Змагацца з бандытамі цяжка, большасць з іх мае вялікую падтрымку сярод мясцовага насельніцтва.* […] *Ёсць сем'і, дзе два і нават тры мужчыны знаходзяцца ў бандзе*". Далей партыйны дзеяч, які быў накіраваны ў Заходнюю Беларусь з Яраслаўскай вобласці РСФСР, прапанаваў метады барацьбы з антысавецкім падполлем: *"Усе сем'і бандытаў трэба выслаць з раёна, канфіскаваць іх маёмасць, злоўленых бандытаў, нават без зброі, бязлітасна расстрэльваць альбо высылаць на цяжкія працы. Якая ад яго* (бандыта — *Т. Г.*) *карысць, калі ён пастаянна марыць аб панскай Польшчы з землямі да Смаленска"*[191]. Такія настроі панавалі сярод амаль усіх кіраўнікоў раёнаў Заходняй Беларусі. Сакратар Гродзенскага раённага камітэта партыі Кубліцкі на абласной нарадзе ў Гродне крытыкаваў кіраўніцтва вобласці, абураўся, што яно не патрабуе ад цэнтральнага партыйнага камітэта дазволу на дэпартацыю сямей "бандытаў". Сцвярджаў таксама, што не атрымаецца ліквідаваць антысавецкае падполле, калі не выслаць з раёна хаця б 200 сямей[192]. Падобны характар мелі выступы партыйных кіраўнікоў Радунскага, Мастоўскага і іншых раёнаў[193].

У польскім падполлі ўдзельнічалі не толькі палякі, але і беларусы, што было звязана шмат у чым з тэрорам і рэпрэсіямі савецкай улады ў 1939–1941 гг., а таксама пасля вайны. Пры гэтым даволі цяжкім пытаннем з'яўляецца ўдзел польскага падполля ў забойствах прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва, якія супрацоўнічалі з "саветамі". Шматлікія з іх загінулі без доказаў такога супрацоўніцтва[194].

На V аб'яднаным пленуме Гродзенскага абласнога і гарадскога камітэтаў партыі 9–10 снежня 1947 г. зноў абмяркоўвалася праблема дзейнасці польскага антысавецкага супраціву. Сакратар Гродзенскага раённага партыйнага камітэта Кубліцкі ў сваім выступе прывёў прыклады актыўных дзеянняў падполля, вынікам якіх стала забойства ў 1947 г. толькі ў Гродзенскім раёне 30 прадстаўнікоў партыйных і савецкіх органаў. Таксама Кубліцкі крытыкаваў кіраўніка абласнога ўпраўлення МДБ Васіля Паліціка за слабую арганізацыю барацьбы з польскім падполлем і за адсутнасць дысцыпліны сярод яго супрацоўнікаў, а таксама п'янства падчас выканання аператыўных заданняў. Ён прапанаваў дэлегатам пленума прыняць рашэнне аб павышэнні патрабаванняў да МДБ, МУС і пракуратуры з мэтай канчатковай ліквідацыі польскага ўзброенага супраціву[195].

Кіраўнік абласнога ўпраўлення МДБ Паліціка на наступны дзень пасяджэння ў адказ на крытыку прадставіў інфармацыйную даведку пра

---

191 *Аграрные преобразования в Молодечненской области. 1944–1953. Документы*, сост. Н. А. Бондаренко, Н. В. Иванов, И. Н. Курков, Минск 2003, с. 83–84.

192 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 112, арк. 78.

193 Тамсама, арк. 81, 87.

194 У жніўні 1947 г. атрадам "Немана" быў забіты не толькі нібыта даносчык НКУС, але і расстраляны яго жонка, дзве дачкі (15 і 17 гадоў) і яго бацька. Дом падпалілі разам з целамі забітых. Гл.: T. Łabuszewski, *Poakowskie oddziały partyzanckie w byłym Inspektoracie Grodzieńskim AK-AKO-WiN 1945–1950*, [у:] *Europa nie prowincjonalna*, Warszawa 1999, s. 821.

195 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 95, арк. 42–43.

барацьбу з польскім падполлем у Гродзенскім, Скідзельскім, Мастоўскім, Лідскім, Жалудоцкім, Васілішкаўскім і Шчучынскім раёнах (пры гэтым назваў самымі небяспечнымі атрады "Фалі" і "Морскага"), а таксама прапанаваў узброіць прадстаўнікоў улады (савецкай і партыйнай) у памежных з Літвой вёсках Гродзенскага раёна, каб і яны ўдзельнічалі ў знішчэнні польскага супраціву[196].

Матэрыялы VI пленума абласнога камітэта КП(б)Б, які адбыўся 26 сакавіка 1948 г., сведчаць, што праблема польскага ўзброенага падполля канчаткова не была вырашана ў Гродзенскай вобласці. Новы кіраўнік абласнога ўпраўлення МДБ Аляксей Фралоў[197], выступаючы на пасяджэнні, сказаў: *"У апошні час органамі МДБ раскрыта і арыштавана значная колькасць агентуры польскага падполля, было канфіскавана шмат зброі, у тым ліку аўтаматы, карабіны, боепрыпасы, пішучыя машынкі, радыёпрыёмнікі і іншыя тэхнічныя сродкі. Арыштаваны кіраўнікі асобных бандаў — Лойка, Яскевіч[198], Талевіч[199], Кісялеўскі[200], Ганкевіч і іншыя. У Гродзенскім раёне ліквідаваны бандгрупы Раланда, Комара[201], Крукоўскага[202]. Знішчаны штаб абвода, часткова ліквідавана група "Фалі". У Воранаве ліквідавана група Русакевіча[203], яе ўдзельнікі былі забітыя, на жаль, кіраўніку ўдалося збегчы. У Лідзе часткова знішчана група Букатка[204], яго памочнік Ёч[205] быў арыштаваны, таксама арыштавана агентура банды. У Жалудку цалкам ліквідавана банда Лойкі, у Поразаве — Калядкі, у Васілішках — група Танкевіча-Мотыля-Дудкі. У выніку гэтай работы нам зараз вядома большасць удзельнікаў падполля, іх метады дзеянняў, а таксама іх агентура. Гэта дазволіць у кароткі тэрмін дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў"*[206].

У снежні 1948 г. — студзені 1949 г. унутраныя войскі МУС БССР ліквідавалі атрад Жэмайтэля, які дзейнічаў на тэрыторыі Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей. У 1948 г. была знішчана цалкам Палеская акруга АК, якой кіраваў

196 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 112, арк. 75–77.

197 Папярэдняга кіраўніка Гродзенскага абласнога ўпраўлення МДБ Васіля Паліціка ЦК КП(б)Б пазбавіў пасады ў сувязі з тым, што ён не змог справіцца са службовымі абавязкамі ва ўмовах працы ў заходніх абласцях БССР. Іншымі словамі, не здолеў у вызначаныя тэрміны ліквідаваць польскае ўзброенае падполле ў Гродзенскай вобласці. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 147, арк. 147.

198 Альбін Яскевіч ("Вільк"), на тэму яго баявой дзейнасці гл.: E. Skrobocki, *Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944–1953*, s. 367.

199 Францішак Талевіч, на тэму яго баявой дзейнасці гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 403.

200 Браніслаў Кісялеўскі ("Крукоўскі"), на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 403.

201 Часлаў Станкевіч ("Комар"), на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 162–163.

202 Кіраўнік упраўлення МДБ Гродзенскай вобласці Фралоў, каб зрабіць большае ўражанне на прысутных на пленуме вынікамі працы МДБ, адзін раз назваў у сваім выступе Браніслава Кісялеўскага па прозвішчы, а другі раз па псеўданіме.

203 На тэму яго баявой дзейнасці гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 428–429.

204 Ян Букатка, на тэму яго баявой дзейнасці гл.: Тамсама, с. 428.

205 Вацлаў Ёч ("Жбік"), на тэму яго баявой дзейнасці гл.: K. Krajewski, *Jan Borysewicz "Krysia", "Mściciel" 1913–1945*, s. 187.

206 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 147, арк. 130–131.

І. Міранюк. У 1946–1950 гг. у Маладзечанскай вобласці быў ліквідаваны атрад Спургяша-Юргеля[207].

Ліквідацыя шматлікіх польскіх антысавецкіх атрадаў у 1945–1949 гг. не прывяла да канчатковага знішчэння падполля. Да сярэдзіны 1950-х гг. працягвалі барацьбу малакалькасныя групы. 17 студзеня 1950 г. ліквідавана група пад камандаваннем Юзафа Стасевіча ("Самотны"). У яе склад уваходзілі 8 чалавек, у тым ліку адна жанчына[208]. Некалькі гадоў запар змагаўся атрад на чале з Янам Воўк-Ланеўскім ("Сэмп"), які быў разбіты толькі ў 1951 г. У 1952 г. была знішчана невялікая група Станіслава Бурбы ("Скочак"), у склад якой уваходзілі 5 чалавек[209]. У ліпені 1951 г. у в. Падбалоцце Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці быў арыштаваны камандзір узвода 9 Ваўкавыскага абвода В. Сасноўскі ("Язмірскі"). У 1952 г. у в. Крысевічы Ваўкавыскага раёна быў арыштаваны камандзір аддзялення гэтага ж абвода Марко ("Домб"). У гэты самы час у в. Пацавічы Мастоўскага раёна быў забіты А. Аляшкевіч ("Іван"), член Ваўкавыскага абвода АК[210].

У сакавіку 1953 г. у Зэльвенскім раёне праведзена аперацыя войск НКУС, мэтай якой была ліквідацыя пасляакаўскага фарміравання Копача[211]. Падчас перастрэлкі забіта два байцы падполля, а камандзір паранены[212]. Савецкім органам бяспекі было складана затрымаць тых польскіх байцоў, якія дзейнічалі ў адзіночку. У 1953 г. арыштаваны былы "рагнеравец" Грынкевіч. Яго прысудзілі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу[213]. Канчаткова органы савецкай улады здолелі ліквідаваць рэшткі польскага антысавецкага падполля ў заходніх абласцях БССР у красавіку 1954 г., падчас затрымання, як піша Я. Сямашка, тэрарыстаў В. Озіма і Мурына[214].

На самой справе канчаткова задушыць рэшткі польскага ўзброенага антысавецкага супраціву ў БССР атрымалася толькі да лета 1956 г., калі ў Пастаўскім раёне ў выніку праведзенай спецаперацыі была ліквідавана апошняя група палякаў, у якую ўваходзілі былыя члены Арміі Краёвай. Іх імёны і прозвішчы

207 Н. Рыбак, *Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954 гг.)*, с. 337.

208 Удзел жанчын у польскіх падпольных фарміраваннях выклікае не толькі здзіўленне, але і вялікую павагу. Адной з іх была 13-гадовая Веранiка Себасцьяновіч ("Ружычка"). У 1944 г. яна прыняла прысягу і змагалася з "саветамі" ў акрузе Ваўкавыск. У 1951 г. была арыштавана і 5 месяцаў знаходзілася пад следствам. Яе жорстка дапытвалі, збівалі, 2,5 месяца трымалі ў карцары. Яна нікога не выдала. У выніку яе асудзілі на 25 гадоў і выслалі ў Варкуту (на поўнач СССР). Пасля вяртання яна жыла і працавала ў Скідзелі ў Гродзенскім раёне. Сёння яна з'яўляецца палкоўнікам Войска Польскага ў адстаўцы і старшынёй Таварыства былых салдат АК на Беларусі. Гл.: http://znadniemna.pl/11607/niezlomna-rozyczka-czyli-historia-ktorej-nie-poznasz-w-szkole-o-takich-jak-ona-nie-pamietaja-tez-polskie-wladze/, [13.05.2016].

209 E. Skrobocki, *Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944–1953*, s. 369.

210 И. Валаханович, *Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944–1953*, Минск 2002, с. 90–91.

211 Альфонс Копач ("Альфонек"), на тэму яго баявой дзейнасці гл.: G. Motyka, *Na białych Polaków obława. Wojska NKWD w walce z polskim podziemiem 1944–1953*, s. 437.

212 В. Ермолович, С. Жумарь, *Огнём и мечом*, с. 92.

213 Я. Сямашка, *Армія Краёва на Беларусі*, с. 239.

214 Тамсама, с. 242; В. Сліўкін, *Грамадзянская вайна на Лідчыне 1944–1954 гады*, "Лідскі летапісец", 2000, № 3, с. 31.

невядомыя. Дакументы на гэтую тэму знаходзяцца ў пакуль яшчэ закрытых архівах КДБ-ФСБ[215].

У дзейнасці Арміі Краёвай і фарміраванняў, якія існавалі пасля яе роспуску, з ліпеня 1944 г. да лета 1956 г. можна вылучыць тры перыяды. Першы перыяд ахопліваў час з ліпеня 1944 г. да студзеня 1945 г. і быў звязаны з выгнаннем Чырвонай арміяй гітлераўцаў з заходніх абласцей БССР, а таксама роспускам Арміі Краёвай па загадзе яе камандзіра генерала Леапольда Акуліцкага[216]. Шматлікія камандзіры атрадаў АК і салдаты прынялі рашэнне далей працягваць антысавецкую барацьбу. Польскія фарміраванні АК, такім чынам, не перайшлі на захад ад лініі Керзана. Гэта шмат у чым было звязана з тым, што збольшага атрады АК складаліся з мясцовага насельніцтва[217].

Другі перыяд доўжыўся са студзеня 1945 г. да верасня 1948 г. У гэты час даволі актыўна савецкія органы бяспекі знішчалі вялікія польскія антысавецкія атрады. Трэці перыяд (кастрычнік 1948 г. — лета 1956 г.) характарызаваўся жорсткім знішчэннем органамі савецкай улады невялікіх, дрэнна ўзброеных, часта дэмаралізаваных безнадзейнай сітуацыяй польскіх падпольных груп і байцоў-адзіночак. 6 мая 1953 г. у Брэсцкай вобласці быў здзейснены гучны тэрарыстычны акт супраць першага сакратара Шарашоўскага раённага камітэта партыі Цыганкова. 11 ліпеня 1953 г. гэтыя падзеі абмяркоўваліся на VII Брэсцкай абласной партыйнай канферэнцыі[218].

Барацьба польскіх узброеных фарміраванняў (пасля прыходу на тэрыторыю Заходняй Беларусі Чырвонай арміі, а таксама частак і злучэнняў МДБ-МУС) з самага пачатку была асуджана на паразу. Апроч дысбалансу сіл, узбраення і матэрыяльнага забеспячэння супрацьдзеючых бакоў, быў яшчэ адзін важны фактар — палітычны. Усходняя мяжа Польшчы, канчаткова вызначаная ў Ялце, а яшчэ раней, 20 жніўня 1944 г., узятая пад ахову савецкімі памежнымі войскамі, адлучыла польскія вайсковыя фарміраванні ад Польшчы. Польскае антысавецкае падполле ўспрымалася як варожае не толькі сталінскім рэжымам, але і створаным ім польскім камуністычным урадам у Варшаве. Больш за тое, польскі ўрад дапамагаў савецкай уладзе знішчаць гэтае падполле. Удзельнікаў антысавецкага руху, якія змаглі выехаць або нелегальна перайсці праз "зялёную мяжу" з БССР у Польшчу, затрымлівалі, судзілі альбо перадавалі ў СССР, дзе, як правіла, іх чакала вышэйшая мера пакарання — расстрэл[219].

Ліквідацыя вялікіх фарміраванняў Арміі Краёвай у 1948 г. паскорыла працэс калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР, а таксама суправаджалася жорсткімі рэпрэсіямі супраць Каталіцкага касцёла і вернікаў. Наступствам

215 Антисоветское партизанское движение в Белоруссии в 1944–1956 г. Гл.: http://www.erich-hartmann.top/2017/02/1944–1956_2.html, [11.09.2017].

216 AAN, z. 1424, sygn. 327/8, k. 52.

217 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 112, арк. 78.

218 Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (далей: ДАБВ), ф. 1п, воп. 10, спр. 17, арк. 46.

219 Падрабязней на гэту тэму гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 112, арк. 87–88; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 245.

гэтага стала канчатковае знішчэнне польскай культурна-асветнай дзейнасці ў БССР. Быў узяты курс на гвалтоўную, нічым не абмежаваную саветызацыю і русіфікацыю палякаў. Галоўнай мэтай было выхаванне савецкага чалавека, які цалкам будзе захоплены ідэямі будаўніцтва новага камуністычнага грамадства ў СССР, пазбаўлены польскай нацыянальнай самасвядомасці, сваёй роднай мовы і польскай культуры. Увесь пасляваенны час, аж да канца 1980-х гг., гэтая палітыка ажыццяўлялася камуністычнай партыяй.

# 4. Умовы нацыянальнага жыцця польскай меншасці ў БССР

Палітычная, грамадская і культурная дзейнасць, якая б забяспечвала жыццёвыя патрэбы польскай нацыянальнай меншасці, цалкам адсутнічала ў пасляваеннай БССР. Нешматлікія дзяржаўныя адукацыйныя ўстановы (польскія пачатковыя, сямігадовыя і сярэднія школы)[220], што дзейнічалі ў рэспубліцы, савецкая ўлада планавала цалкам ліквідаваць. Утрымаць заходнія вобласці БССР у складзе СССР улады хацелі правядзеннем падобнай да царскай (у XIX ст.) палітыкі. Пры гэтым мадыфікаваная савецкая палітыка адносна палякаў набыла больш жорсткі і нечалавечы характар. Адбывалася дыскрымінацыя польскай мовы, а пачынаючы з 1948 г. цалкам адсутнічала магчымасць навучання на ёй дзяцей. Пасляваеннае перасяленне найбольш нацыянальна свядомых палякаў у Польшчу і высылка свавольных у аддаленыя паўночныя і ўсходнія раёны СССР павінны былі садзейнічаць канчатковай дэпаланізацыі БССР, гвалтоўнай саветызацыі і інтэграцыі тых, хто застаўся, у савецкае русіфікаванае грамадства.

Крэмль лічыў гэтыя землі спрадвечна рускімі і з мэтай іх утрымання дзейнічаў такім чынам, як і царскія ўлады. У лютым 1864 г. віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў інфармаваў расійскі ўрад: “[…] *Тутэйшы край спрадвеку быў рускім і павінен ім застацца* […] *польскі элемент тут ёсць прышлы і павінен быць канчаткова і рашуча падаўлены; зараз сапраўдны час з ім пакончыць, у іншым выпадку Расія беспаваротна страціць Заходні край і ператворыцца ў Масковію, гэта значыць у тое, да чаго жадаюць палякі і большая частка Еўропы прывесці Расію”*[221]. *“Тут свайго роду Каўказ, маральная барацьба рускіх пачаткаў супраць варожых палітычных і рэлігійных суполак”*,— лічыў папячыцель Віленскай навучальнай акругі Іван Карнілаў[222].

Сістэма адукацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў пасляваенныя гады (1944–1948) была неад’емнай часткай палітыкі СССР. Задачай адукацыі было фарміраванне новага пакалення ў духу абсалютнай вернасці камуністычным ідэалам, савецкай уладзе, а таксама выхаванне савецкага чалавека. Вырашэнню гэтай задачы надавалася вялікае значэнне. Адукацыя рабілася істотным элементам ідэалагічнага выхавання. Сістэма адукацыі, створаная

[220] Ва ўсіх дзяржаўных дакументах цэнтральныя ўлады ў Маскве і Мінску, а таксама мясцовыя ў Гродне да ліквідацыі апошняй польскай школы ў 1948 г. ужывалі тэрмін *польскія школы*. З. Вінніцкі, А. Вялікі, Я. Шумскі выкарыстоўваюць тэрмін *польскамоўныя школы*. Мы ў поўнай меры можам сцвярджаць, што насамрэч гэта былі польскамоўныя школы, бо функцыянавалі яны ў сістэме адукацыі СССР, рэалізоўвалі абавязковую для ўсіх аднолькавую праграму навучання, а ад іншых школ адрозніваліся толькі мовай навучання. Тым не менш пакінем тэрмін *польскія школы*, каб не мяняць дакументы, да якіх мы будзем звяртацца.

[221] С. Токть, *Национальная политика Российской империи в Беларуси: дилемы русификации*, [у:] А. Кравцевич, А. Смоленчук, С. Токть, *Белорусы — нация Пограничья*, Вильнюс 2011, с. 153.

[222] Тамсама, с. 153–154. Падрабязней на гэту тэму гл.: А. Смалянчук, *Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг.*, Гародня 2000, с. 25–68.

савецкай уладай у другой палове 1944 г., была працягам сістэмы, якая паўстала ў 1939–1941 гг.[223]

Польскія школы функцыянавалі на тэрыторыі заходніх абласцей БССР у першыя пасляваенныя гады. Гродзенская вобласць была вызвалена Чырвонай арміяй ад акупантаў у канцы ліпеня 1944 г. Гэта стала прычынай таго, што ўлада не мела часу на грунтоўную падрыхтоўку да пачатку новага навучальнага года і перамяшчэнне педагагічных кадраў з усходу, каб яны занялі месцы польскіх настаўнікаў. Таму ўлады пагадзіліся на часовую дзейнасць польскіх школ. Гэта было справакаванае палітычнай сітуацыяй рашэнне, а не жэст добрай волі з іх боку.

У 1944–1945 навучальным годзе ў Гродзенскай вобласці было 114 польскіх школ, у Брэсцкай — 88, у Пінскай — 3, у Баранавіцкай — 2 [224] (у наступным годзе гэтая лічба рэзка ўпала да 40 школ у Гродзенскай вобласці і 2 у Брэсцкай). У 1946–1947 навучальным годзе ў Гродзенскай вобласці засталася толькі 21 польская школа, у якой вучылася 2 998 дзяцей, а таксама адна школа дзейнічала ў Брэсцкай вобласці[225].

Улічваючы тое, што ў 1947–1948 навучальным годзе польскія школы функцыянавалі толькі ў Гродзенскай вобласці, засяродзімся на пошуку прычын працэсу ліквідацыі польскамоўнай адукацыі ў БССР на прыкладзе яе вынішчэння менавіта ў гэтым рэгіёне[226]. Задачай нашага пошуку будзе адлюстраванне механізмаў, якія павінна была выкарыстоўваць беларуская ўлада, каб канчаткова ліквідаваць *"варожую польскую адукацыю"* на тэрыторыі Беларусі.

9 верасня 1944 г. ЦК УКП(б) прыняў пастанову "Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў галіне масава-палітычнай і культурна-адукацыйнай працы сярод жыхароў Беларусі", у якой абавязаў Савет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б аднавіць у тэрмін да пачатку 1944–1945 навучальнага года на тэрыторыі вызваленых раёнаў сеткі пачатковых і сярэдніх школ, а таксама ахапіць адукацыяй усіх дзяцей школьнага ўзросту[227]. Савецкая адукацыя на Гродзеншчыне была адноўлена на падставе агульнай рэзалюцыі

---

223 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi*, s. 229–261; ён жа, *Szkolnictwo polskie na Grodzieńszczyźnie w latach 1939–1948. Sowietyzacja, likwidacja*, "Rozprawy z Dziejów Oświaty", Warszawa 2004, t. XLIII, s. 165–200; ён жа, *Likwidacja polskich szkół w rejonie sopoćkińskim w latach 1944–1948*, "Magazyn Polski", nr 1–2 (2002); Z. J. Winnicki, *Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944–1946 — sytuacja na tle ogólnej sieci szkolnictwa. Porównanie współczesne*, [у:] *Szkice kresowe*, Wrocław 1995; ён жа, *Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944–1946*, "Głos znad Niemna", nr 39, 3–9.10.1994, s. 3, nr 41, 17–23.10.1994, s. 2; ён жа, *Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944–1946 — sytuacja na tle ogólnej sieci szkolnictwa — porównanie współczesne*, "Studia Politologiczne", Wrocław 1995, s. 267–275; A. Grędzik, *Oświata i szkolnictwo polskie na Białorusi 1989–2001*, cz. 1, Kielce 2004; Т. Маржала, *Польскія школы ў БССР: пасляваенныя гады (1945–1949)*, "Беларускі гістарычны часопіс", 2003, № 4, с. 31; T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi* 1988–2010, Białystok 2010.

224 S. Tokć, *Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSSR (1945–1959)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, nr 21, s. 119.

225 Т. Маржала, *Польскія школы ў БССР: пасляваенныя гады (1945–1949)*, "Беларускі гістарычны часопіс", 2003, № 4, с. 31.

226 Адной з афіцыйных прычын, прыведзеных уладай у справаздачах, быў масавы выезд дзяцей і бацькоў у Польшчу.

227 J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi*, s. 232.

Беластоцкага абласнога выканаўчага камітэта народных дэпутатаў і абласнога камітэта партыі ад 22 жніўня 1944 г.[228] Згодна з ёй партыйныя і раённыя ўлады павінны былі адбудоўваць сістэму адукацыі, а таксама рыхтавацца да пачатку навучальнага года. Трэба адзначыць, што ў дакуменце не было ані слова адносна таго, як павінны функцыянаваць польскія школы.

Акрамя таго, аднаўляючы сістэму савецкай адукацыі, улады ў 1944–1945 навучальным годзе паставілі за мэту знізіць да мінімуму адкрыццё польскіх школ. У якасці доказу гэтага сцвярджэння можа выступаць наступны факт: паўсюдна, дзе палякі патрабавалі адкрыцця польскіх школ[229], да прыкладу ў Гродзенскім, Берастаўіцкім, Свіслацкім ці ў іншым раёне, адразу з'яўлялася група вышэйшага партыйнага і савецкага кіраўніцтва з Гродна, каб не дапусціць з'яўлення польскамоўнай адукацыі. У склад гэтай групы, як правіла, уваходзілі прадстаўнікі абласнога камітэта КП(б)Б, абласнога аддзела народнай адукацыі і раённых партыйных камітэтаў[230]. Са справаздачы аб працы гэтых груп вынікае, што, каб прадухіліць з'яўленне польскіх школ, савецкія і партыйныя супрацоўнікі павінны былі правесці вялікую працу[231]як сярод палякаў, так і сярод беларусаў (большасць з якіх таксама хацела аддаць сваіх дзяцей у польскую школу).

Змаганне палякаў за адкрыццё польскіх школ у Гродзенскай вобласці было даволі распаўсюджанай з'явай. Раённыя ўлады рабілі ўсё магчымае, каб у сваіх рэгіёнах прадухіліць гэты працэс. Наколькі пытанне польскамоўнай адукацыі было важным і палітычным для савецкай улады, паказвае той факт, што справа аб адкрыцці польскіх школ знаходзілася выключна ў кампетэнцыі органаў абласнога камітэта КП(б)Б. Акрамя тых польскіх школ, на якія ўлады далі згоду ў 1944–1945 навучальным годзе, працэс з'яўлення чарговых школ суправаджаўся невырашальнымі праблемамі. Так, пытанне адкрыцця польскіх школ у мястэчках Індура, Малая Капліца і Парэчча Гродзенскага раёна разглядалася на спецыяльным пасяджэнні бюро абласнога камітэта партыі. Рашэнне было адназначнае: адмовіць бацькам, якія дамагаліся, каб іх дзеці навучаліся на польскай мове[232].

---

228 ДАГАГВ, ф. 6195, воп. 1, спр. 163, арк. 51–53.

229 Справа датычыцца мясцовасцей, у якіх пераважала польскае насельніцтва, дзе перад вайной польскія школы пад прымусам перафарміравалі ў беларускія ці рускія, і менавіта такое становішча ўлада хацела захаваць пасля вайны. Адсюль гэты супраціў.

230 ДАГВ, ф. 730, воп. 1, спр. 5, арк. 6: Справаздача аб працы пачатковых, сямігадовых і сярэдніх школ на пачатак 1944–1945 гг.

231 Стаўленне савецкай і партыйнай улады ў БССР, а пазней лукашэнкаўскай у Рэспубліцы Беларусь да палякаў і іх жадання вучыць дзяцей на польскай мове мае шмат агульных прыкмет. Калі ў канцы 1980-х гг. і на працягу 1990-х Саюз палякаў на Беларусі змагаўся за адкрыццё польскіх школ, то сустракаў заўжды такое ж процідзеянне ўлады, як і ў першыя гады пасля вайны. Так, напрыклад, у траўні 1988 г., падчас змагання групы палякаў за ўвядзенне вывучэння польскай мовы ў школе Ласосна Гродзенскага раёна на бацькоўскі сход у школу прыехалі супрацоўнікі абласнога камітэта кампартыі, Гродзенскага раённага выканаўчага камітэта, інспектар абласнога аддзела народнай адукацыі і кіраўнік раённага аддзела народнай адукацыі, якія рабілі ўсё, каб гэтага не дапусціць. Гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, Białystok 2003, s. 64.

232 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 8, арк. 111–112: Рэзалюцыя бюро абласнога камітэта КП(б)Б за 9 верасня 1944 г.

На 1 лістапада 1944 г. сітуацыя з педагагічнымі кадрамі ў Гродзенскай вобласці выглядала наступным чынам: агульная колькасць настаўнікаў — 1 703, сярод іх рускіх — 160, беларусаў — 703, украінцаў — 8, палякаў — 815, габрэяў — 19, татараў — 1, літоўцаў — 2. У той час дзейнічала 100 польскіх школ, у якіх налічваўся 21 701 вучань[233]. Тут мы бачым разыходжанні ў колькасці польскамоўных школ паміж данымі, прыведзенымі ў даследаванні Сяргея Токця (114 школ), і інфармацыйнай даведкай (100 школ). Гэта вынікае з таго, што адна і тая ж сітуацыя даволі часта па-рознаму адлюстроўвалася ў справаздачах розных савецкіх і партыйных устаноў, дакументы якіх знаходзяцца ў Дзяржаўным архіве грамадскіх аб'яднанняў і Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці.

Першая справаздача Гродзенскага гарадскога аддзела адукацыі за першае паўгоддзе 1944–1945 навучальнага года паказала вельмі высокі ўзровень навучання ў польскіх школах Гродна[234]. Адзінай скаргай на гэтыя школы было тое, што ў іх адсутнічалі піянерскія і камсамольскія арганізацыі[235].

Кардынальныя змены ў становішчы польскамоўных школ у Беларусі пачаліся з правядзення так званай рэпатрыяцыі (перасялення), якая ахапіла значную частку найбольш нацыянальна свядомага польскага насельніцтва. Найважнейшым у прыняцці рашэння аб выездзе ў Польшчу было жаданне жыць і працаваць на гістарычнай радзіме, а таксама пачуццё асабістай небяспекі, якое з кожным годам жыцця ў савецкай дзяржаве ўзрастала[236].

У справаздачы "Аб становішчы народнай асветы ў Гродзенскай вобласці за першае паўгоддзе 1944–1945 навучальнага года", накіраванай у аддзел школ ЦК УКП(б) (копія — у аддзел школ ЦК УКП(б)Б), было напісана, што паводле этнічнага складу ў вобласці дзейнічала 635 беларускіх школ, 22 рускія, 84 польскія (72 пачатковых, 10 няпоўных сярэдніх і 2 сярэднія)[237]. Колькасць польскіх школ паменшылася ў той час на 16.

У справаздачы звярталася ўвага на недабор дзяцей у беларускія школы. Гэта было звязана з тым, што беларусы каталіцкага веравызнання з Гродзенскага, Ваўкавыскага і іншых раёнаў аддавалі сваіх дзяцей у польскія школы. Але ў выніку ўзмацнення савецкай улады, як сцвярджалася ў справаздачы, гэтая праблема паступова вырашалася[238].

З гэтага ж дакумента вядома, што ў лютым 1945 г. у Польшчу выехала больш за 200 настаўнікаў[239]. Характарызуючы грамадска-палітычную сітуацыю

---

233 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 2255, арк. 2: Інфармацыя аб працы культурных і адукацыйных устаноў і агульнаадукацыйных школ Гродзенскай вобласці. 1 лістапада 1944 г. — 15 лістапада 1944 г.

234 ДАГВ, ф. 127, воп. 1, спр. 12, арк. 13: Тэкставая справаздача аб працы школ горада Гродна за першае паўгоддзе навучальнага 1944–1945 года.

235 Тамсама, арк. 8.

236 T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, Białystok 2010, s. 44.

237 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 2484, арк. 14: Справаздача і інфармацыя аб становішчы народнай адукацыі за 1944–1946 гг.

238 Тамсама, арк. 15.

239 Тамсама, арк. 16.

ў польскіх школах, можна адзначыць, што ўвага звярталася на кепскую працу ў піянерскіх і камсамольскіх арганізацыях. У Сапоцкінскім раёне з 4 128 вучняў на 1 студзеня 1945 г. піянерамі былі толькі 19 чалавек[240].

Акрамя таго, у справаздачы таксама крытыкавалася арганізацыя палітычнавыхаваўчай працы ў польскіх школах. На думку мясцовых улад, прычынай гэтага было тое, *"што настаўнікі з мясцовага насельніцтва, маючы па 10–15 гектараў зямлі, вядуць уласную гаспадарку, трымаюць 2–3 каровы, і таму іх цяжка заахвоціць займацца пазашкольнай і грамадскай дзейнасцю"*. Для паляпшэння грамадскапалітычнай сітуацыі ў польскіх школах было запланавана арганізоўваць даклады на актуальныя тэмы грамадскага развіцця, далучаць настаўнікаў-палякаў да сістэмы палітычнага навучання, а таксама пільна сачыць за наборам у гэтыя школы камсамольскіх і піянерскіх супрацоўнікаў[241]. Масавы, справакаваны палітычнай сітуацыяй выезд настаўнікаў-палякаў з Гродзенскай вобласці ў Польшчу ўскосна служыў галоўнай мэце, якую ставіла перад сабой савецкая ўлада,— расцягнутай у часе канчатковай ліквідацыі польскай адукацыі ў Беларусі.

Даследчык Анатоль Вялікі з Мінска, у сваю чаргу, кажа, што не перасяленне настаўнікаў-палякаў з БССР у Польшчу стала галоўнай прычынай знікнення польскамоўных школ, а адсутнасць увогуле якой-небудзь зацікаўленасці ў развіцці гэтай адукацыі з боку вышэйшага кіраўніцтва ў Маскве і Мінску[242]. Так, напрыклад, яшчэ ў перыяд існавання польскіх школ у БССР у рэзалюцыі ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. "Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР", а пазней (17 красавіка 1945 г.) у агульнай рэзалюцыі ЦК КП(б)Б і Савета Народных Камісараў БССР "Аб памеры дапамогі школам заходніх абласцей БССР" пра польскамоўную адукацыю зусім не згадвалася[243].

У гэтых рэзалюцыях не гаварылася пра ліквідацыю ці рэарганізацыю польскіх школ. Пра іх увогуле гаворкі не было. Аднак партыйнае і савецкае кіраўніцтва заходніх абласцей "вычытала" ў гэтых дакументах неабходнасць іх (школ) рэарганізацыі[244]. У хуткім часе, нягледзячы на пратэсты бацькоў, польскія школы ў Ваўкавыскім, Воранаўскім, Шчучынскім, Поразаўскім і Свіслацкім раёнах былі рэарганізаваны ў руска– і беларускамоўныя[245].

У першай палове 1945 г. ЦК КП(б)Б спрабаваў ацаніць рэальную сітуацыю, звязаную з польскай адукацыяй у БССР, і акрэсліць перспектывы яе існавання

240 Тамсама, арк. 21.

241 Тамсама, арк. 24–25.

242 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг. XX стагоддзя*, Мінск 2010, с. 198.

243 Тамсама, с. 198.

244 Нельга выключыць і такую магчымасць. Прынятыя ў той час ЦК УКП(б) і ЦК КП(б)Б рэзалюцыі павінны былі служыць і знешнепалітычным інтарэсам. СССР пабудаваў новыя адносіны з ПНР і з гэтай прычыны не мог дазволіць сабе пайсці супраць братняй суседскай дзяржавы і ліквідаваць польскую адукацыю. І менавіта таму такіх запісаў не было ў рэзалюцыях. Органы партыйнай і савецкай улады заходніх абласцей БССР, у сваю чаргу, маглі вусна даць рэкамендацыі не дапускаць развіцця польскамоўнай адукацыі.

245 А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг. XX стагоддзя*, Мінск 2010, с. 198.

і будучага развіцця. Намесніца кіраўніка школьнага аддзела ЦК КП(б)Б А. Рэгель у траўні 1945 г. падрыхтавала для Гарбунова, сакратара ЦК па справах ідэалогіі, даведку "Аб становішчы польскіх школ у Гродзенскай вобласці", якая сведчыць пра цяжкае становішча польскай адукацыі ў вобласці. У прыватнасці, адзначалася поўная адсутнасць падручнікаў на польскай мове, а таксама распрацаваных праграм і планаў навучання, экзаменацыйных білетаў[246]. На такі стан спраў паўплывала адсутнасць пастаянных кадраў інспектараў і метадыстаў для польскіх школ у Народным камісарыяце асветы і абласных аддзелах асветы. Такую сітуацыю Рэгель лічыла недапушчальнай і зрабіла выснову, што на той час па палітычных прычынах ліквідацыя польскай адукацыі ў БССР з'яўлялася немэтазгоднай, як і яе захаванне ў нязменным стане[247].

Таксама намесніца кіраўніка школьнага аддзела камітэта партыі прапанавала, каб Народны камісарыят асветы распрацаваў праграмы і планы на польскай мове, арганізаваў друк падручнікаў (на падставе тых, якія былі надрукаваны ў 1940 г.), стварыў інспекцыі ў Народным камісарыяце асветы ў Мінску і абласных аддзелах асветы, а таксама арганізаваў навучанне педагогаў для польскіх школ[248].

Ці быў рэальны шанц выратаваць ад ліквідацыі польскую адукацыю ў Беларусі і рэалізаваць прапанаваны Рэгель план дзеянняў? Верагодна, так. Гэтай жа думкі прытрымліваецца і Анатоль Вялікі, які падмацоўвае сваё сцвярджэнне вялікай колькасцю фактаў, сярод якіх і факт функцыянавання на працягу савецкага перыяду польскіх школ у Літве і ва Украіне[249]. Выезд настаўнікаў-палякаў у Польшчу шырока выкарыстоўваўся ў тыя часы для таго, каб абгрунтаваць справядлівасць рашэнняў аб рэарганізацыі ці ліквідацыі польскай адукацыі ў Беларусі ў асяродках савецкага і партыйнага кіраўніцтва розных узроўняў[250].

Сакратар Гродзенскага абкама КП(б)Б Пётр Калінін, даючы ацэнку сітуацыі, звязанай з польскай адукацыяй у вобласці, наступным чынам выказаў сваё стаўленне да гэтага пытання ўпаўнаважанаму Камітэта партыйнага кантролю ў Маскве[251] Філімонаву: "[…] *Асаблівыя цяжкасці звязаныя з працай польскіх*

---

[246] НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 46, арк. 257: Дакладныя запіскі на імя сакратара ЦК КПБ тав. Гарбунова. 1945 г.

[247] Тамсама, арк. 266.

[248] Тамсама, арк. 267.

[249] А. Вялікі, *Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 гг. XX стагоддзя*, Мінск 2010, с. 199.

[250] Насамрэч савецкай уладзе быў патрэбны выезд нацыянальна свядомай польскай інтэлігенцыі ў Польшчу, у тым ліку і настаўнікаў. На іх месцы ўвесь час прыязджалі настаўнікі з усходу. Таму ўлады толькі канстатавалі факты выездаў настаўнікаў, але нічога не рабілі, каб спыніць іх ці хаця б зацікавіць застацца на месцах ранейшай працы. Шмат было і іншых прычын выезду, сярод якіх і адсутнасць упэўненасці настаўнікаў у тым, што польская адукацыя застанецца ў Беларусі. Масавы выезд настаўнікаў, як паказаў час, быў цвіком у труну польскай адукацыі ў гэтай дзяржаве.

[251] Задачай Камітэта партыйнага кантролю УКП(б) было сачыць за выкананнем Статута партыі ў дзейнасці партыйных арганізацый. У абавязкі Камітэта не ўваходзіла кантраляванне польскай адукацыі. Дапусцім, што зацікаўленасць гэтай справай была выклікана скаргамі ў Камітэт аб нейкіх парушэннях у сістэме адукацыі Гродзенскай вобласці. Падрабязная справаздача на

*школ. Гэтую сітуацыю выклікала адсутнасць педагагічных кадраў, якія валодаюць польскай мовай. У 1944–1945 навучальным годзе ў вобласці было адкрыта 78 польскіх школ (66 пачатковых, 10 сямігадовых і 2 сярэднія). Аднак у сувязі з масавым выездам польскіх настаўнікаў, а таксама са значным выездам вучняў у Польшчу мы былі вымушаны да пачатку новага 1945–1946 навучальнага года змяніць профіль выкладання ў 38 школах на беларускую і рускую мовы. На цяперашні момант у вобласці функцыянуюць 2 сярэднія і 38 пачатковых школ, усяго разам 40 польскіх школ. У бліжэйшым будучым чакаецца далейшае памяншэнне колькасці польскіх школ у сувязі з тым, што большасць настаўнікаў-палякаў, якія працуюць у гэтых школах, падалі заявы аб выездзе ў Польшчу. Шмат вучняў таксама туды выязджае"*[252].

З канца 1946–1947 навучальнага года і да 4 ліпеня 1948 г.[253] дзейнасць улад Гродна і Гродзенскай вобласці была накіравана на канчатковую ліквідацыю польскай адукацыі ў рэгіёне. У ліпені 1947 г. сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Гусараў у сваім лісце да маскоўскага сакратара ЦК УКП(б) Андрэя Жданава прасіў дазволіць пачаць паэтапнае перафармаванне польскіх школ у беларускія і рускія, а замест *"няўпэўненых і некваліфікаваных настаўнікаў-палякаў"* уладкоўваць у гэтыя школы *"ўпэўненых і кваліфікаваных беларускіх і рускіх настаўнікаў"*[254]. Мікалай Гусараў гарантаваў, што гэтая справа будзе выканана без усялякіх канфліктаў. Па сённяшні дзень не ўдалося знайсці маскоўскі дакумент, які даваў дазвол на канчатковую ліквідацыю польскай адукацыі ў Беларусі[255].

У 1947–1948 навучальным годзе знішчэнне польскамоўнай адукацыі было дасягнута гвалтоўным шляхам, а не так, як прасіў Гусараў, — паэтапна. Верагодна, што маўклівая згода на закрыццё польскіх школ была дадзена ЦК УКП(б) ужо ў 1948 г., яна неабавязкова павінна была захавацца ў пісьмовым выглядзе[256]. Канчатковая ліквідацыя польскіх школ патрабавала ад белару-

тэму польскіх школ, прадстаўленая сакратаром Гродзенскага абкама КП(б)Б Калініным, можа сведчыць аб тым, што, магчыма, хтосьці з палякаў пісаў гэтыя скаргі ў маскоўскі Камітэт. Але пацвердзіць гэтую версію пакуль не атрымалася, бо ў ДАГАГВ па сённяшні дзень усе скаргі, якія ўплывалі на дзейнасць савецкай і партыйнай улады, пачынаючы з 1944 г. і да распаду СССР, застаюцца засакрэчанымі.

252 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 78, арк. 13–18: Дакументы аб развіцці народнай адукацыі (рапарты, лісты і інш).

253 Менавіта ў гэты дзень была ліквідаваная апошняя польская школа ў Беларусі.

254 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 40: Дакладныя запіскі ЦК КП(б)Б у ЦК УКП(б). Пачатак 21 красавіка 1947 года. Закончана 31 снежня 1947.

255 Сяргей Токць, спасылаючыся на даследаванне Маржалы, піша пра такую згоду маскоўскай улады. Гл.: S. Tokć, *Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSSR (1945–1959)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2004, s. 119. Аўтару дадзенага даследавання не ўдалося знайсці такі дазвол ні ў гродзенскіх архівах, ні ў НАРБ.

256 Прынятая ў кастрычніку 1947 г. рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б "Аб праектах па ўзмацненні палітычнай і культурна-адукацыйнай працы сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР" давала дазвол Міністэрству адукацыі БССР і ўладам Гродзенскай вобласці на перафармаванне часткі польскіх школ у беларускія ці рускія (са згоды бацькоў, дзеці якіх вучацца ў гэтых школах). У перафармаваных польскіх школах павінна была выкладацца польская мова як асобны прадмет. Пасля бюро ЦК КП(б)Б абавязала Міністэрства адукацыі і Гродзенскі АК КП(б)Б да 1 студзеня 1948 г. праверыць працу польскіх школ і ўзмацніць іх праверанымі і падрыхтаванымі да працы настаўнікамі. Гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 61, спр. 473, арк. 20. Гвалтоўная ліквідацыя польскай адукацыі, якая ігнаравала

скай улады праверaных і адданых партыйных кадраў няпольскага паходжання, якія не будуць вагацца, каб выканаць гэтае заданне. Факт незацвярджэння ЦК КП(б) летам 1947 г. на пасаду загадчыка абласнога аддзела народнай адукацыі Гродзенскай вобласці Францішка Кеца[257], якога раней зацвердзіла бюро абласнога камітэта, быў не выпадковым, а, наадварот, наўмысным[258]. ЦК КП(б)Б прыняў іншае рашэнне, верагодна мяркуючы, што такую важную справу, як канчатковая ліквідацыя польскіх школ у Беларусі, нельга даверыць ажыццяўляць паляку, нават праверанаму і бязмежна адданаму партыі.

Вельмі важным пунктам у справе канчатковай ліквідацыі польскай адукацыі ў Гродзенскай вобласці была рэарганізацыя самай вялікай у Беларусі польскай сярэдняй школы № 2 горада Гродна. Каб падрыхтаваць яе, летам 1947 г. улады прызначылі на пасаду дырэктара даверaную асобу (не паляка), якая мусіла выканаць гэтае заданне[259]. Наступным і апошнім крокам на шляху да ліквідацыі польскамоўнай адукацыі ў Гродзенскай вобласці была арганізаваная 23 лістапада 1947 г. сустрэча сакратара Гродзенскага АК КП(б)Б Калініна з настаўнікамі польскіх школ. Падчас сустрэчы ніводны з прысутных настаўнікаў не задаў пытання пра неабходнасць далейшага існавання польскамоўнага навучання для палякаў у Беларусі[260].

Сцяцкевіч, настаўнік са школы ў в. Вялікія Ёдкавічы Бераставіцкага раёна, сказаў: *“Калі гаворка ідзе аб перафармаванні польскай школы ў беларускую, то гэта пытанне даўно вядомае. Настаўнікам усё роўна.* […] *Каб перафармаваць польскія школы ў беларускія, трэба дамовіцца з насельніцтвам, а насельніцтва на гэта не пагодзіцца. Але пасля таго, як школу перафарміруюць у беларускую, здаецца мне, што ўсё гэта супакоіцца”*[261]. Дырэктар польскай школы № 2 г. Гродна Бяляўскі, выступаючы на гэтай сустрэчы, сказаў: *“Што датычыцца школ на польскай, рускай або беларускай мовах навучання, то гэта вельмі істотнае для нас пытанне. Таму што часта на бацькоўскіх сходах чутны галасы, чаму няма польскіх кніг. Праўда, я адказваю, што польскіх школ не так шмат і таму друкаванне кніг для іх звязана з вялікімі выдаткамі”*. Прамаўляючы далей, ён ухіліўся ад адказу на пытанне пра патрэбу далейшай дзейнасці польскіх школ[262].

рэкамендацыі вышэйзгаданай рэзалюцыі, у новым навучальным 1948–1949 годзе можа сведчыць аб тым, што рашэнне аб ліквідацыі было прынята ў Маскве.

[257] Францішак Кец — паляк. Нарадзіўся ў 1908 г. у Магілёве, меў вышэйшую адукацыю, па прафесіі настаўнік рускай літаратуры, член камуністычнай партыі з 1940 г. На працу ў Гродна, на пасаду кіраўніка сектара кадраў культуры, навукі, мастацтва і друку аддзела кадраў АК КП(б)Б, быў накіраваны з усходу БССР у 1944 г. (інфармацыя ўзята з ДАГАГВ).

[258] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 173: Пратаколы № 23–28 пасяджэнняў бюро АК КП(б)Б, рэзалюцыі і дакументы. Пачата 4.06.1947 г. Скончана 29.07.1947 г.

[259] Сяргей Бяляўскі (не ўдалося знайсці асабістых даных пра гэтую асобу). З размовы з даследчыцай гісторыі апошняй польскай школы ў Гродне Наталляй Канюк вынікае, што ён быў габрэйскага паходжання і прысланы з усходу.

[260] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 122, арк. 6: Стэнаграма размовы сакратара Гродзенскага абласнога камітэта КП(б)Б з настаўнікамі польскіх школ ад 23 лістапада 1947 года.

[261] Тамсама, арк. 4.

[262] Тамсама, арк. 9.

Гэтая сустрэча была арганізавана з мэтай даведацца пра настроі настаўнікаў і магчымую рэакцыю з іх боку і з боку польскага насельніцтва на “рыхлую” ліквідацыю польскіх школ Гродзенскай вобласці. У выніку ўлады супакоіліся і пераканаліся ў тым, што канчатковае закрыццё польскіх школ не выклікае вялікага абурэння і супраціўлення з боку настаўнікаў, а таксама з боку палякаў.

Пяты аб’яднаны пленум абласнога і гарадскога камітэтаў партыі, які адбыўся 9–10 снежня 1947 г., быў вызначальным у вырашэнні пытання аб ліквідацыі польскіх школ на Гродзеншчыне. Першы сакратар Гродзенскага АК КП(б)Б Пётр Калінін значную частку свайго выступу прысвяціў “польскаму пытанню”. Ён звярнуў увагу на недастатковае палітычнае і ідэалагічнае выхаванне настаўнікаў у 16 польскіх школах, у якіх навучалася 2,5 тысячы вучняў. Калініна непакоіла тое, што гэтыя настаўнікі атрымалі адукацыю ў “панскай Польшчы”, а таксама яны праяўляюць апалітычнасць. Пасля прадстаўнік улады заявіў, што яны наогул не маюць адпаведнай падрыхтоўкі і з’яўляюцца непісьменнымі[263]. Калінін казаў пра недастатковую забяспечанасць польскіх школ падручнікамі і праграмамі на польскай мове, пра тое, што яны працуюць без належнага кіравання і кантролю не толькі з боку партыйных і савецкіх органаў, але нават з боку абласнога і раённых аддзелаў народнай адукацыі. Стан навучання, а асабліва выхавання вучняў у польскіх школах цалкам не адпавядаў сучасным патрабаванням. У такіх школах, казаў Калінін, не атрымаецца выхаваць савецкіх патрыётаў. Ён прывёў прыклад, што ў адной з польскіх школ Бераставіцкага раёна вучні пад кіраўніцтвам настаўніка спявалі польскі гімн. Таму Калінін загадаў партыйным актывістам вобласці праводзіць масавую тлумачальную працу сярод польскага насельніцтва. На бацькоўскіх сходах яны павінны былі казаць, што ўлады зараз не ў стане падтрымліваць польскамоўную адукацыю з-за недастатковай колькасці настаўнікаў. Таксама трэба было пераканаць бацькоў у тым, што адсутнасць літаратуры, сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў з выкладаннем на польскай мове перашкаджае належнай адукацыі дзяцей і фактычна калечыць іх[264], што шмат вучняў пасля заканчэння пачатковых польскіх школ і пераходу ў беларускія ці рускія маюць сур’ёзныя праблемы з навучаннем.

Падсумоўваючы свой выступ перад партыйнымі актывістамі, Калінін сказаў: *“Такім чынам, польскія школы трэба рэарганізаваць у беларускія і рускія, пакідаючы ў іх польскую мову як адзін з прадметаў у плане навучання. Гэтую рэарганізацыю мы павінны скончыць да пачатку навучальнага 1948–1949 года. Наша задача заключаецца ў тым, каб пераканаць польскае насельніцтва ў неабходнасці гэтага праекта”*[265].

23 сакавіка 1948 г. на пасяджэнні Савета дэпутатаў Гродзенскай вобласці абмяркоўваўся план школьных заняткаў на 1948–1949 навучальны год. Савет

---

263 Тамсама, арк. 10.

264 Аргумент, які тычыцца калецтва дзяцей у польскамоўных школах, часта чулі ад савецкіх, а пазней і лукашэнкаўскіх чыноўнікаў члены СПБ, якія змагаліся за адкрыццё ў Беларусі школ з выкладаннем на польскай мове.

265 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 95, арк. 29–30: Стэнаграма V аб’яднанага абласнога і гарадскога Пленума камітэтаў партыі за 9–10 снежня 1947 г.

канчаткова вырашыў вызначыць сетку школ на Гродзеншчыне да 25 траўня 1948 г. Польскія школы ў гэтых планах увогуле не ўзгадваліся[266]. 12 чэрвеня 1948 г. дырэктар гродзенскай сярэдняй польскай школы № 2, складаючы план працы на 1948–1949 навучальны год, пісьмова інфармаваў гарадскі савет папячыцеляў асветы аб тым, што ў новым навучальным годзе плануецца стварыць чатыры першыя польскія класы[267]. Аднак апошняя польская сярэдняя школа Беларусі ў Гродне, у якой навучаліся 945 вучняў, была ліквідавана 4 ліпеня 1948 г. Гэтае рашэнне прынята на агульным бацькоўскім сходзе, на якім прысутнічала каля 400 чалавек. З пратакола вынікае, што настаўнікі і бацькі не выступілі агульным фронтам супраць ліквідацыі школы[268]. Толькі адна асоба (прозвішча ў пратаколе не пазначана) звярнула ўвагу прадстаўнікоў улады на тое, што 123 артыкул "сталінскай Канстытуцыі" дазваляе вучыць дзяцей на роднай мове. Прадстаўнік гарадскога камітэта партыі ў Гродне Нікіценка адрэагаваў на гэта наступным чынам: *"123 артыкул адносна палякаў не дзейнічае, таму што ў СССР няма польскай нацыянальнай акругі. Акрамя таго, на сённяшні дзень дзяржава на ўсім эканоміць і па гэтай прычыне яна не можа дазволіць сабе выдаткоўваць сродкі на школу, якая мае 45 % недахопаў"*[269]. Пад недахопам Нікіценка разумеў *"слабую паспяховасць вучняў у польскай школе"*. Пры гэтым ён быў прыхільнікам пераўтварэння польскамоўных школ у рускія, у адрозненне ад загадчыка гарадскога аддзела народнай адукацыі Кныша, які хацеў стварэння школ з беларускай мовай выкладання. Напэўна, сярод бацькоў была праведзена агітацыйная праца, каб школу зрабіць рускамоўнай. Просьба старшыні бацькоўскага камітэта Міляўскага аб перафармаванні польскай школы № 2 у Гродне ў рускамоўную была аднагалосна прынята. Пры гэтым польская мова павінна была выкладацца як асобны прадмет[270]. Аднак улада не стрымала свайго абяцання, і ў гэтай школе ўжо ніколі не выкладалася польская мова.

З архіўных дакументаў вынікае, што палякі не супрацьстаялі ліквідацыі польскай школы ў Гродне. Насамрэч справа выглядала інакш. З успамінаў былога вучня гэтай школы, на той момант дзевяцікласніка, цяпер жыхара Беластока Валянціна Яблонскага, вынікае, што бацькі рознымі спосабамі спрабавалі захаваць польскую школу. У сувязі з гэтым савецкім уладам у Мінску і Маскве накіроўваліся калектыўныя лісты-хадайніцтвы. Дэлегацыя бацькоў ездзіла ў Мінск. Але ўсе намаганні былі марнымі[271].

---

266 J. Szumski, *Polityka oświatowa władz sowieckich wobec ludności polskiej Grodzieńszczyzny w okresie powojennym. Wybrane zagadnienia*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, Grodno 2004, s. 384.

267 ДАГВ, ф. 127, воп. 1, спр. 45, арк. 39: Тэкставая справаздача гарадскога савета папячыцеляў асветы ў Гродна за 1948 год.

268 Педагагічныя кадры гэтай школы на працягу чатырох пасляваенных гадоў моцна скараціліся. Замест польскіх настаўнікаў, якія выехалі ў Польшчу, было прынята шмат настаўнікаў з усходніх абласцей СССР, у тым ліку і палякаў.

269 ДАГВ, ф. 127, воп. 1, спр. 45, арк. 145, 146: Тэкставая справаздача гарадскога савета папячыцеляў асветы ў Гродна за 1948 год.

270 ДАГВ, ф. 127, воп. 1, спр. 45, арк. 39.

271 З інтэрв'ю, праведзенага ў 2012 г. аўтарам дадзенай працы з Валянцінам Яблонскім – жыхаром г. Беластока.

Справаздача Гродзенскага абласнога савета папячыцеляў асветы за 1947–1948 навучальны год сведчыла, што ў вобласці ў гэты час дзейнічала 12 польскіх школ. У наступным навучальным годзе ўжо не было ніводнай[272]. Факт ліквідацыі апошняй польскай школы ў Гродне адыграў немалаважную ролю ў лёсах польскіх настаўнікаў. З 10 школ Гродна летам 1948 г. звольнена 40 настаўнікаў, палова з іх працавала ў былой польскай сярэдняй школе № 2 [273]. Такім чынам у 1948 г. улады не толькі фактычна знішчылі польскамоўную адукацыю ў горадзе, але таксама выцеснілі са школ польскіх настаўнікаў. Большая частка іх ва ўмовах палітызацыі і ідэалагізацыі адукацыі не знайшла сабе месца ў гэтай сферы.

Савецкая ўлада на тэрыторыі Беларусі мэтанакіравана і паслядоўна вынішчала польскія школы, якія з'яўляліся важным элементам нацыянальнай свядомасці палякаў. Паляк, які ведаў сваю родную мову, рабіўся небяспечным для ўлады. Яму былі даступны альтэрнатыўныя крыніцы ведаў пра ўласную народную культуру, традыцыі і гісторыю[274]. Ліквідуючы польскія школы ў Беларусі і выганяючы з іх нацыянальна свядомых настаўнікаў-палякаў, савецкая ўлада вынішчыла вельмі важныя асяродкі па падтрымцы палякаў у БССР, задачай якіх заўжды было наладжванне пераемнасці пакаленняў. Гэты працэс не з'яўляўся, як сцвярджаюць партыйныя і савецкія ўлады БССР, выключна вынікам пасляваенных масавых выездаў настаўнікаў і вучняў у Польшчу, а таксама добраахвотным жаданнем палякаў, якія нібыта хацелі, каб польскія школы былі рэарганізаваны ў беларуска– ці рускамоўныя.

Масавы выезд настаўнікаў у Польшчу, безумоўна, спрыяў ліквідацыі польскай адукацыі, але не быў яе галоўнай прычынай. Гэты выезд выкліканы ўвядзеннем новага савецкага ладу, які быў чужым, нават варожым для людзей інтэлігентных, якія атрымалі адукацыю ў Другой Рэчы Паспалітай. Яны адчувалі небяспеку далейшага існавання ў СССР. Савецкая ўлада, са свайго боку, не бачыла месца ў школах для польскіх настаўнікаў, і з гэтай прычыны нічога не рабіла, каб спыніць іх масавыя выезды і тым самым выратаваць ад вынішчэння польскія школы. Мэтай савецкай улады было ўвядзенне новай сістэмы каштоўнасцей і выхаванне новага савецкага чалавека, які мусіў цалкам падпарадкоўвацца пануючай ідэалогіі. Гэтую задачу выконвала і, бясспрэчна, выканала савецкая школа. І няма розніцы, якая яна была: ці рускамоўная, ці беларускамоўная. У ёй працавалі настаўнікі, якія ў пераважнай большасці прыбылі з усходніх абласцей СССР і арганізоўвалі прапаганду камуністычных каштоўнасцей, а таксама праводзілі русіфікацыю і саветызацыю вучняў. Перадача ведаў часам была на другім плане[275]. Як

[272] ДАГВ, ф. 730, воп. 1, спр. 43, арк. 10: Тэкставая справаздача аб працы школ Гродзенскай вобласці за навучальны 1947–1948 год.

[273] ДАГВ, ф. 127, воп. 1, спр. 45, арк. 185: Тэкставая справаздача гарадскога савета папячыцеляў асветы ў Гродна за 1948 год.

[274] Дакладна такімі спосабамі і прывядзеннем падобных аргументаў камуністы ў Польшчы ліквідавалі ў 1945–1946 гг. 112 беларускіх школ на Беласточчыне. Лічылася, што ўсе беларусы выехалі ў БССР, а тыя, хто застаўся, былі палякамі, таму беларускамоўныя школы ў Польшчы больш не патрэбныя.

[275] Педагагічныя кадры, накіраваныя з усходу, вельмі часта дэманстравалі слабыя веды ў выкладанні прадметаў. Так, настаўніца 4 класа Сарасекскай сямігадовай школы Поразаўскага раёна Зябкова

цэнтральныя, так і мясцовыя ўлады не маглі сабе дазволіць, каб польская школьная сістэма, якая магла зрабіць унёсак у стварэнне моцнай польскай меншасці з устойлівай нацыянальнай свядомасцю, дзейнічала непасрэдна на мяжы з Польшчай: у памежных Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

Наступствы ліквідацыі польскіх школ, а таксама мэтанакіраванай дыскрымінацыі палякаў і іх роднай мовы ў штодзённым жыцці адчуваюцца ў Беларусі і сёння. Палякі масава перасталі размаўляць на польскай мове, у тым ліку і ў сям'і[276].

У 1944–1956 гг. дыскрымінацыя ў палітычнай і гаспадарчай дзейнасці адбывалася і ў дачыненні да беларусаў[277]. Камісія ЦК УКП(б), якая ў 1954 г. вывучала размеркаванне кадраў у сістэме палітычнай і дзяржаўнай улады ў Гродзенскай вобласці, прыйшла да высновы, што мясцовае насельніцтва амаль не прадстаўлена ў кіраўніцтве вобласці[278]. Даверу не было нават да былых членаў КПЗБ, якія актыўна змагаліся за ўсталяванне савецкай улады ў Заходняй Беларусі[279]. Пасады кіраўнікоў займалі ў асноўным людзі, накіраваныя сюды з усходніх рэгіёнаў СССР. Тым больш было немагчымым прасоўванне палякаў па службовай лесвіцы ў палітычнай, савецкай і гаспадарчай сферах дзейнасці. Палякі ў гэты час выкарыстоўваліся для "абслугоўвання" савецкага ладу і "савецкіх асаднікаў" з сем'ямі, што прыехалі з усходу.

не змагла вызначыць на занятках плошчу пакоя. Гаўрыліч, настаўнік Дзяруцеўскай пачатковай школы таго ж раёна, не змог падзяліць 5 005 на 5. Гл.: ДАГВ, ф. 730, воп. 1, спр. 43, арк. 35: Тэкставая справаздача аб працы школ Гродзенскай вобласці за 1947–1948 навучальны год).

276 Падрабязней на гэту тэму гл.: B. Grott, *Polacy na Białorusi — szanse przetrwania?*, [у:] *Polityczne, religijne i kulturalne aspekty sprawy polskiej na Kresach Wschodnich*, Kraków 2009.

277 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 291–311; S. Tokć, *Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSRS (1945–1959)*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2004, nr 21; ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 1781, арк. 109, 126; ЗАБВ, ф. 188, воп. 1, спр. 2, арк. 2–7.

278 РДАНГ, ф. 5, воп. 18, спр. 60, арк. 11: Записки, письма, телеграммы о работе с местным населением в западных областях БССР, 01.1954–10.1956.

279 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 2271, арк. 4: Отчёт, информации в вопросе политической работы среди населения, 25.05.1945–15.11.1945.

# 5. Наступствы калектывізацыі польскіх вёсак

Савецкая гістарыяграфія адлюстроўвала калектывізацыю як абавязковае мерапрыемства на шляху да канчатковага будаўніцтва сацыялізму ў СССР. Дазвалялася паказваць толькі пазітыўныя наступствы калектывізацыі. Сучасныя беларускія ўлады на чале з Аляксандрам Лукашэнкам стаўленне да калгасаў не змянілі. Палітычна небяспечнымі лічацца тыя публікацыі і выказванні, якія паказваюць негатыўныя бакі гэтага працэсу[280]. Большасць прыдуманых савецкай прапагандай гістарычных міфаў адносна калектывізацыі, асабліва заходніх абласцей БССР, існуе і сёння.

Беларускія ўлады старанна хаваюць ад грамадскасці факты дэградацыі беларускай вёскі ў сувязі з правядзеннем прымусовай калектывізацыі, а таксама трагедыі шматлікіх польскіх і беларускіх сем'яў, якія ў адзін момант страцілі набытую цяжкай працай уласнасць[281].

Пасля вайны савецкая ўлада праводзіла калектывізацыю ў заходніх абласцях БССР больш асцярожна і на іншых умовах, чым у 1939–1941 гг. Пачатковы яе перыяд (1944–1948 гг.) адрозніваўся больш прадуманай агітацыйнай працай і адсутнасцю прымусу. Гэтаму паспрыялі масавае перасяленне палякаў у Польшчу ў 1944–1946 гг., узмоцненая актыўнасць баявой дзейнасці польскіх падпольных фарміраванняў Арміі Краёвай, негатыўны вопыт правядзення калектывізацыі ў заходнебеларускай вёсцы ў 1939–1941 гг., а таксама антыкалгасная агітацыя вяскоўцаў з усходніх абласцей, што, ратуючыся ад голаду, ішлі ў Заходнюю Беларусь[282].

Цынізм і двудушнасць савецкіх улад у дачыненні да калектывізацыі праяўляліся ў тым, што публічна гаварылася пра добраахвотнае ўступленне ў калгасы і адначасова рабілася ўсё магчымае, каб прыспешыць гэты працэс. У справаздачы аб працы Гродзенскага абласнога камітэта партыі за перыяд з 1 ліпеня 1944 г. да 1 жніўня 1946 г. першы сакратар Пётр Калінін звяртаў увагу на слабую работу партыйнай арганізацыі вобласці ў пытанні калектывізацыі вёскі: за азначаны перыяд было створана толькі 28 калгасаў (у 1944 г. — 2, у 1945 г. — 26)[283]. Падобная сітуацыя была і ў Баранавіцкай вобласці, дзе са 137 калгасаў, арганізаваных перад вайной, у 1945 г. атрымалася аднавіць толькі 6 [284].

Партыйнае кіраўніцтва Гродзенскай вобласці на Першай абласной партыйнай канферэнцыі адзначыла нездавальняючыя вынікі правядзення калектывізацыі ў вобласці, звярнуўшы ўвагу на тое, што за перыяд ад жніўня да снежня 1946 г.

[280] Так, напрыклад, навуковую працу Ірыны Кашталян з Мінска, у якой крытычна ацэньваўся працэс калектывізацыі ў БССР у 1939–1953 гг., Вышэйшая атэстацыйная камісія не дапусціла да абароны 2 сакавіка 2007 г. Гл.: J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi*, s. 297–298.

[281] Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 143–395.

[282] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1 спр. 2271, арк. 4: Отчёты и информации в вопросе политической работы среди населения, 25.05.1945–15.11.1945.

[283] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 67, арк. 71: Отчёт работы Гродненского областного комитета партии с 1.07.1944 до 1.08.1946.

[284] ЗАБВ, ф. 128, воп. 1, спр. 1, арк. 12: Записка о работе Барановичского областного исполнительного комитета за 1945 г.

у вобласці не было створана ніводнага калгаса[285]. Прадстаўнікі раённых і мясцовых органаў улады ў сваё апраўданне казалі пра супраціўленне калектывізацыі з боку "кулакоў" і заможных сялян, якое часта ператваралася ў арганізаваныя акты тэрору супраць партыйных і савецкіх супрацоўнікаў[286].

Вышэйшае маскоўскае партыйнае кіраўніцтва, якое непакоілася з-за нізкіх тэмпаў калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР, накіравала туды інспектара ЦК УКП(б) Задзіончанку. У выніку аналізу сітуацыі ён адзначыў некалькі найбольш важных прычын няўдалага працэсу калектывізацыі. Паводле яго меркавання, Цэнтральны камітэт партыі ў БССР не займаўся падборам, навучаннем і замацаваннем кадравага складу старшынь калгасаў. У якасці доказу інспектар прывёў наступны прыклад: за 1945 г. і шэсць месяцаў 1946 г. змянілася 6 552 старшыні калгасаў альбо 67 % ад агульнай іх колькасці. Яшчэ адной прычынай было існаванне *"нацыяналістычных і кулацкіх банд"*, якія ў шэрагу заходніх абласцей падрывалі працу органаў улады і маральны стан насельніцтва[287]. У сваёй запісцы Задзіончанка таксама звярнуў увагу на тое, што Панцеляймон Панамарэнка займаў адначасова дзве пасады: першага сакратара ЦК КП(б)Б і старшыні Савета Міністраў. Іх сумяшчэнне, на думку інспектара, перашкаджала справе і замінала Панамарэнку добра выконваць свае абавязкі[288]. Гэта ў выніку стала прычынай кадравых змен у Беларусі.

З мэтай паскарэння калектывізацыі і паляпшэння працы кіраўніцтва БССР Палітбюро ЦК УКП(б) 27 лютага 1947 г. прыняло рашэнне аб зменах у вышэйшых структурах улады ў рэспубліцы. Першым сакратаром ЦК КП(б)Б стаў Мікалай Гусараў. Панамарэнка застаўся на пасадзе старшыні СМ БССР. Сямён Ігнацьеў стаў сакратаром Цэнтральнага камітэта па пытаннях сельскай гаспадаркі і нарыхтовак, а Міхаіл Іаўчук — сакратаром ЦК па пытаннях прапаганды і агітацыі[289].

На ўсіх партыйных форумах разглядаліся пытанні, звязаныя з правядзеннем калектывізацыі. Не стаў выключэннем і Трэці Аб'яднаны пленум абласнога і гарадскога камітэтаў партыі, які адбыўся 28 сакавіка 1948 г. у Гродне. Прадстаўнік ЦК УКП(б) падчас свайго выступлення рэзка крытыкаваў кіраўніцтва вобласці і раёнаў за тое, што не праводзілася актыўная праца па аднаўленні створаных да вайны калгасаў[290]. З 1 115 калгасаў (48 950 гаспадарак, аб'яднаных перад вайной) аднавіліся толькі 132 (3 312 гаспадарак)[291]. Гэтыя

---

285 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 50, арк. 79: Протокол Первой областной партийной конференции от 19–21.12.1946 г.

286 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 51, арк. 45: Стенограмма Первой областной партийной конференции от 19–21. 12.1946.

287 РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 139, арк. 13, 20: Записка инспектора ЦК ВКП(б) Задионченко к секретарям ЦК ВКП(б) Жданову, Потоличеву, Кузнецову, 8.07.1946 г.

288 Тамсама, арк. 25.

289 РДАСПГ, ф. 17, воп. 3, спр. 1064, арк. 11: Постановление Политбюро ЦК ВКП(б) о кадровых изменениях в руководстве Беларуси, 27.02.1947.

290 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 90, арк. 23: Протокол III Объединённого Областного и городского Пленума комитетов партии. Постановление от 28 марта 1947 г., а также документы к нему.

291 РДАСПГ, ф. 17, воп. 122, спр. 139, арк. 205: Отчёт ЦК КП(б)Б в ЦК ВКП(б) с мая 1946 г. 06.1946–01.1947.

лічбы сведчаць не толькі пра пасляваеннае разбурэнне сельскай гаспадаркі, але і пра тое, наколькі чужой для мясцовага насельніцтва была ідэя калгаснага будаўніцтва, і што для прыспешвання калектывізацыі немагчыма было абысціся без сродкаў прымусу.

Аднак са справаздачы V Аб'яднанага абласнога і гарадскога пленума (9 снежня 1947 г.) вынікала, што план па нарыхтоўках зерня быў выкананы датэрмінова на 101,6 %, бульбы на 104 %, мяса на 104,9 %, малака на 100 %. Пры такой нязначнай колькасці калгасаў увесь цяжар, звязаны з нарыхтоўкамі, лёг на плечы індывідуальных гаспадарак[292].

Гэта з'яўляецца яркім сведчаннем таго, што без стварэння калгасаў у заходніх абласцях БССР асобныя сялянскія гаспадаркі маглі забяспечыць рэгіён сельскагаспадарчымі прадуктамі. Але савецкая ўлада, абраўшы свой шлях да пабудовы мадэрнізаванага грамадства, імкнулася падпарадкаваць сабе вёску і знішчыць "кулакоў" — людзей адукаваных, прадпрымальных, дастаткова заможных, якіх цяжка было прымусіць змяніць выпрацаваны дзесяцігоддзямі ўклад жыцця на зямлі. Адсюль і вынікае бескампрамісная барацьба з заможнымі вясковымі гаспадарамі.

Пасляваенны голад закрануў у першую чаргу тыя вобласці, якія былі цалкам калектывізаваны. І гэта прывяло да таго, што вялікая колькасць людзей ратавалася ад голаду і нястачы ў заходніх абласцях. Тым не менш улады ўсімі магчымымі спосабамі, насуперак супраціву мясцовага польскага і беларускага насельніцтва паскаралі працэс калектывізацыі заходнебеларускай вёскі. Праўда, вынікі гэтай працы былі нездавальняючымі. На канец 1947 г. у Гродзенскай вобласці былі адноўлены толькі 38 калгасаў са 192, што існавалі да вайны[293]. Паводле звестак на 10 лютага 1948 г., 110 тысяч індывідуальных гаспадарак у Гродзенскай вобласці не ўступілі ў калгасы. У Лідскім раёне ў гэты час не было ніводнага калгаса[294].

Насельніцтва вёсак, асабліва заможныя гаспадары, выкарыстоўвалі розныя сродкі, каб не ісці ў калгасы, часамі нават даходзіла да жудасных забойстваў. Так, 23 верасня 1948 г. у Лідскім раёне сям'ю, якая збірала подпісы аб уступленні ў калгас, забілі, а іх целы спалілі. Калі стала зразумелай непазбежнасць калектывізацыі, то некаторыя заможныя сяляне кідалі свае гаспадаркі і цэлымі сем'ямі сыходзілі ў польскае падполле[295].

У канцы 1948 г. найбольшага поспеху калектывізацыя дасягнула ў Брэсцкай вобласці, дзе 10 % гаспадарак былі аб'яднаны ў калгасы. Сярод 210 калгасаў быў адзін з сімвалічнай назвай "Праўда". У ім працавалі 11 сямей, з якіх працаздольнымі былі 10 жанчын і толькі 4 мужчыны. Агульная калгасная маёмасць складалася з 6 коней, 5 кароў, двух плугоў і адной бараны[296].

---

292 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 94, арк. 3: Протокол V Объединённого областного и городского комитетов партии, постановления, 9–10.12.1947.

293 Тамсама.

294 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 163, арк. 10, 20: Протокол заседания I Сессии областного совета депутатов, 1948 г.

295 НАРБ, ф. 915, воп. 2, спр. 20, арк. 101–102.

296 M. Ruchniewicz, *Wieś zachoniobiałoruska 1944–1953*, s. 267.

Прымусовыя сродкі калектывізацыі, што выкарыстоўвалі органы ўлады, выклікалі супраціў сельскага насельніцтва, у тым ліку ўзброены тэрор. 9 верасня 1948 г. у в. Цеснавая Івянецкага раёна Баранавіцкай вобласці быў забіты загадчык аддзела сельскай гаспадаркі раённага выканаўчага камітэта. 11–15 верасня гэтага ж года ў Пінскай і Баранавіцкай абласцях у выніку 8 тэрарыстычных актаў забіта 4 чалавекі, 3 — паранена, а таксама абрабавана 12 гаспадарак, спалена 2 дамы калгасных актывістаў[297].

Праблемы, з якімі сутыкаліся калгасы ў 1948 г., сведчаць аб тым, што большасць з іх практычна не працавала, а імітавала сваю дзейнасць. Складаецца ўражанне, што яны ствараліся толькі для справаздачы. Такая з'ява была характэрнай для першага пасляваеннага этапу калектывізацыі. Фармальныя калгаснікі не аддавалі сваю маёмасць і не працавалі ў калгасе, такім чынам яны дэманстравалі сваё негатыўнае стаўленне да раней падпісаных заяў аб уступленні ў яго. Людзі, наколькі гэта было магчыма, затрымлівалі перадачу быдла ў калгас. Да канца 1948 г. у Гродзенскай вобласці ў сялянскіх стайнях заставалася больш за тысячу коней, у Баранавіцкай — больш за 800. Гэта значыць, што ў некаторых калгасах не было нават аднаго каня, якога можна было б выкарыстоўваць на палявых работах[298].

У 1949 г. у Гродзенскай вобласці адбываліся карэнныя змены ў правядзенні суцэльнай калектывізацыі. Гэта было звязана з выбарамі ў студзені 1949 г. Сяргея Прытыцкага[299] на пасаду першага сакратара Гродзенскага абласнога камітэта партыі, дзе ён замяніў Пятра Калініна[300]. Катэгарычная пазіцыя Прытыцкага па пытанні ліквідацыі польскага ўзброенага падполля[301], а таксама ў справе суцэльнай калектывізацыі змяніла сітуацыю ў вёсцы. "Саветы", ствараючы калгасы, знішчалі арганізаваны і адладжаны на працягу некалькіх пакаленняў уклад сялянскага жыцця. Паскоранымі тэмпамі яны разбуралі хутарскую сістэму, перасяляючы сялян з хутароў у вёскі. Асаблівую актыўнасць у гэтай дзейнасці выявілі ўлады Лідскага раёна[302].

---

297 НАРБ, ф. 48, воп. 9, спр. 629, арк. 7: Стенограмма совещания в ЦК КП(б)Б секретарей областных комитетов партии, заместителей председателей областных исполнительных комитетов по делам сельского хозяйства, а также управляющих отделами сельского хозяйства в западных областях БССР от 21.10.1948 г. в вопросе колхозного строительства в западных областях.

298 M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 268; НАРБ, ф. 915, воп. 2, спр. 20, арк. 98: Служебные записки, информации представителя Совета Полоцкой области о продуктивно-хозяйственной деятельности колхозов области, 25.03.1948–05.01.1949.

299 Сяргей Прытыцкі (1913–1971) — камуніст, сядзеў у турме ў Другой Рэчы Паспалітай, дэлегат Народнага схода Заходняй Беларусі, савецкі партызан, адзін са стваральнікаў польскага Упраўлення бяспекі, першы сакратар Гродзенскага абласнога камітэта КП(б)Б, старшыня Вярхоўнага Савета БССР. З яго імем звязаны прымусовая калектывізацыя, рэпрэсіі супраць Каталіцкага касцёла і жорсткі пераслед насельніцтва Гродзеншчыны, асабліва палякаў. Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Poczobut, *Plamy na reputacji,* "Magazyn Polski" wydawany na uchodźstwie od roku 2005, (wyd. na uchodźstwie), 2005, nr 1, s. 42–45.

300 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 201, арк. 4: Протокол I Пленума ОК партии, Постановление от 24.01.1949.

301 Пасля таго як у траўні 1949 г. органы НКУС разбілі атрад Анатоля Радзівоніка ("Олеха"), арганізаваны антысавецкі супраціў буйных польскіх фарміраванняў на Гродзеншчыне быў фактычна ліквідаваны. Гэта, безумоўна, дазволіла Прытыцкаму прыспешыць калектывізацыю.

302 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 147, арк. 127–128: Стенограмма VI Пленума ОК КП(б)Б от 26–27.03.1948 г.

У 1949 г. падчас правядзення калектывізацыі ў Гродзенскай вобласці і ў іншых абласцях Заходняй Беларусі органы савецкай улады прымянялі гвалтоўныя метады, часам здзяйснялі злачынствы супраць некаторых асоб. У Ваўкавыскім раёне Гродзенскай вобласці створана спецыяльная брыгада, якая павінна была садзейнічаць арганізацыі калгасаў. У яе ўваходзілі прадстаўнікі раённай партыйнай арганізацыі. У вёсцы Духаўляны ў 2 гадзіны ночы актывісты ламіліся ў хаты вяскоўцаў і прымушалі іх ісці на сход. Тых, хто адмаўляўся падпарадкавацца, запужвалі і збівалі. Калі хтосьці не адчыняў дзверы, то іх ламалі альбо выбівалі вокны. У хаце, у якой быў арганізаваны сход, над вяскоўцамі здзекаваліся да таго часу, пакуль тыя не падпісалі заявы на ўступленне ў калгас[303]. У Гродзенскай вобласці Прытыцкаму, які выкарыстоўваў бяспраўныя і зневажаючыя чалавечую годнасць метады, удалося за вельмі кароткі тэрмін кіраўніцтва вобласцю павялічыць колькасць калгасаў з 38 у канцы 1948 г. да 282 у траўні 1949 г.[304]

Павелічэнне колькасці калгасаў у Гродзенскай вобласці і ў іншых заходнебеларускіх абласцях БССР было непасрэдна звязана з узмацненнем рэпрэсій у вёсках. Але і гэтага было недастаткова для намесніка міністра юстыцыі БССР Басава, які быў незадаволены дзейнасцю праваахоўных органаў Гродзенскай вобласці. На нарадзе супрацоўнікаў міліцыі 17 сакавіка 1949 г. у Гродне ён заявіў: *"200 асуджаных "кулакоў" на фоне іншых абласцей, напрыклад, той самай Маладзечанскай вобласці, сведчаць аб тым, што судова-пракурорскія органы Гродзенскай вобласці выканалі працу пакуль яшчэ нязначную"*[305]. У сваім выступленні Басаў заклікаў абласныя органы ўлады і спецыяльныя службы да больш жорсткай барацьбы з праціўнікамі калектывізацыі.

У дакладной запісцы старшыні Савета Міністраў БССР Аляксея Кляшчова і першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гусарава сакратару ЦК УКП(б) Георгію Малянкову ад 16 сакавіка 1949 г. адзначалася, што колькасць калгасаў кожны год павялічвалася. Так, калі на 1 ліпеня 1948 г. у заходніх абласцях БССР было 330 калгасаў (11 478 гаспадарак), то на 15 сакавіка 1949 г. іх ужо было 1 420 (59 762 гаспадаркі), што складала 10 % калектывізацыі заходнебеларускай вёскі. У гэтай жа запісцы вышэйшае кіраўніцтва БССР звярнулася да маскоўскага з просьбай аб дазволе выслаць у 1949 г. тры тысячы кулацкіх сямей, канфіскаваць іх маёмасць і перадаць яе ў калгасы[306]. У выніку прымусовай калектывізацыі назіраўся рост колькасці калгасаў з 14,3 % на 1 ліпеня 1949 г. да 29,2 % праз некалькі месяцаў[307].

20 кастрычніка 1949 г. на партыйным сходзе ў Гродне Сяргей Прытыцкі заклікаў да бязлітаснай барацьбы супраць кулакоў і да паскарэння тэмпаў

303 НАРБ, ф. 4п, воп. 65, спр. 34, арк. 273: Выписка из приговора Верховного Суда БССР, 15.07.1950 г.

304 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 204, арк. 3.

305 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 223, арк. 87: Стенограмма выступлений на совещании работников правоохранительных органов Гродненской области, 16–17.03.1949.

306 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 1, арк. 448–450: Копии входящих записок и отчётов ЦК КП(б)Б в ЦК ВКП(б) 04.01.1949–08.12.1949.

307 T. Gawin, *O byciе Polakiem*, s. 256.

калектывізацыі, кажучы пры гэтым: *“Усе мы цудоўна разумеем, што ў сувязі з масавай калектывізацыяй будзе ўзмацняцца супраціў класавага ворага — кулака. Адсюль выснова, што класавая барацьба ў вёсцы не толькі не будзе затухаць, а, наадварот, будзе абвастрацца. Мы з вамі — бальшавікі, камуністы павінны гэта прадбачыць для таго, каб мы не сутыкнуліся з усялякага роду нечаканасцямі. А гэта значыць, што мы павінны не толькі не паслабляць, а кожны дзень павышаць нашу бальшавіцкую пільнасць. Мы павінны не змазваць, не сціраць, а (sic!) распальваць класавую барацьбу ў вёсцы, абапіраючыся на беднату, накіроўваць вастрыё нашай барацьбы супраць кулака, супраць класавага ворага, супраць нацыяналістычных і бандыцкіх элементаў, якія ў пэўных месцах працягваюць яшчэ свае дзеянні”*[308].

Дзеля хутчэйшага правядзення калектывізацыі ў заходнія вобласці БССР быў накіраваны партыйны і савецкі актыў. Так, 10 лістапада 1949 г. 180 чалавек паехалі на адзін месяц у заходнебеларускія вёскі[309]. Пастаянны націск СМ БССР і ЦК КП(б)Б на мясцовыя органы ўлады, а таксама дапамога ўрада СССР калгасам і сельскім гаспадаркам заходніх абласцей БССР садзейнічалі таму, што ўжо да 1 снежня 1949 г. было створана 4 454 калгасы (208 169 гаспадарак), або 35,3 % ад усёй іх колькасці[310]. Акрамя таго, у 18 з 78 раёнаў заходніх абласцей калектывізацыя ахоплівала ад 50 да 90 працэнтаў індывідуальных гаспадарак, у 23 раёнах — ад 30 да 50 працэнтаў, у 21 раёне — ад 20 да 30 працэнтаў, а ў 16 раёнах — менш за 20 працэнтаў[311].

Улады ў Мінску такія паказчыкі звязвалі са слабай партыйна-палітычнай і арганізацыйнай працай сярод сялян. Нежаданне вяскоўцаў уступаць у калгасы ўлады ніколі не бралі пад увагу. У іх была адна мэта — прымусовае насаджэнне чужой і непрадуктыўнай гаспадарчай сістэмы замест выпрацаванай на працягу доўгага часу сямейнай гаспадаркі, якая давала сялянам не толькі сродкі для жыцця, але і маральнае задавальненне ад вынікаў працы.

“Кулак” быў “прызначаны” галоўным ворагам калгаснага будаўніцтва. Усе свае пралікі падчас калектывізацыі ўлады звязвалі з супрацівам “кулакоў”. Яны, на думку члена бюро ЦК КП(б)Б Сямёна Ігнацьева, займаліся тэрорам супраць калгасных актывістаў і прадстаўнікоў улады. Ігнацьеў нагадаў мясцовым уладам, што барацьба з кулакамі з’яўляецца і іх абавязкам, а не толькі органаў бяспекі. *“Поспех будзе дасягнуты тады, калі супраць кулака адначасова будзе накіравана вастрыё чэкісцкага мяча і ўся наша арганізацыйная і масава-палітычная праца”*[312]. У савецкай грамадскай структуры не было месца для заможных гаспадароў[313].

---

308 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 218, арк. 116: Стенограмма с совещания областного и городского партийного актива Гродненской области, 20.10.1949.

309 НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 278, арк. 240.

310 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 1, арк. 114: Копии входящих записок и отчётов ЦК КП(б)Б в ЦК ВКП(б) 04.01.1949–08.12.1949.

311 Тамсама, арк. 114.

312 M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 272.

313 Тамсама, с. 272.

1 красавіка 1949 г. на нарадзе старшынь сельскіх саветаў Прытыцкі заявіў: *"А што такое сённяшні кулак у нашых умовах? Гэта памагаты нацыяналістычных банд, гэта заўтрашні бандыт, гэта фанатык, варожа настроены да савецкай улады. Ён сёння супрацiўляецца ўсім нашым мерапрыемствам, а з узмацненнем калектывізацыі ў нашай вобласці ён са зброяй у руках пойдзе ў банду і будзе аказваць узброенае супраціўленне мерапрыемствам нашай партыі і савецкай улады. І калі нават мы яго сёння абрэзалі, ліквідавалі яго гаспадарку, пакінулі яму дом, то вы думаеце, што ён стаў у выніку ўсяго гэтага такім пакорлівым і добразычлівым у дачыненні да нас? Ён яшчэ праз 10 гадоў будзе помсціць нам за тое, што мы ў яго ўзялі гаспадарку, зямлю і прымусілі працаваць на прадпрыемстве. Ці магчыма не ўлічваць гэтай асаблівасці? Ці можна ў дачыненні да гэтых злосных сабатажнікаў, неплацельшчыкаў, людзей, якія ўхіляюцца ад дзяржаўных абавязкаў, да гэтых кулакоў прымяняць тыя ж законы, як у дачыненні да нашых грамадзян усходніх абласцей? Трэба бачыць гэтыя адрозненні ў кожным асобным выпадку і надаваць ім адпаведнае палітычнае значэнне. Калі ва ўсходніх абласцях усялякага роду нацыяналістычныя тэндэнцыі даўно ліквідаваны і з'яўляюцца на сённяшні дзень асобнай адрыжкай праклятага мінулага, то ў нас нацыяналізм вы сустрэнеце паўсюль, на кожнай вуліцы, на кожным скрыжаванні, у кожнай вёсцы і ў кожнай хаце, асабліва сярод каталіцкага насельніцтва"*[314].

У канцы 1949 г. працэнт калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР дасягнуў 37 %, і ў параўнанні з пачаткам верасня гэтага ж года павялічыўся амаль у два разы[315]. У той час там існавала ўжо 4 626 калгасаў. У пачатку сакавіка 1950 г. было калектывізавана амаль 50 % сялянскіх гаспадарак. Але гэта быў не той вынік, які чакалі ў Крамлі. Вынікі калектывізацыі ў БССР былі найгоршымі ў параўнанні з іншымі заходнімі рэспублікамі СССР. Так, у Малдове, Заходняй Украіне і Эстоніі да восені 1949 г. было калектывізавана 70 % гаспадарак, у Латвіі — больш за 85 %. У Літве ў пачатку 1950 г. у калгасах знаходзілася ўжо больш за 50 % сялянскіх гаспадарак[316]. Варта пры гэтым заўважыць, што ў Беларусі нікому і ніколі не ўдавалася лёгка рэалізаваць грамадска-гаспадарчыя праекты. Нават немцы падчас акупацыі Беларусі планы па зборы кантынгентаў і высылцы іх на працы ў Германію змаглі ажыццявіць толькі на 35–40 %. У той час як ва Украіне, Эстоніі, Латвіі і Літве гэты паказчык даходзіў да 80–95 %[317].

---

314 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 223, арк. 103–105. Падрабязней на тэму барацьбы з "кулакамі", а таксама пра здзейсненыя пры гэтым правапарушэнні гл.: A. Poczobut, *Plamy na reputacji*, "Magazyn Polski" wydawany na uchodźstwie od roku 2005, 2005, nr 1.

315 НАРБ, ф. 4п, воп. 46, спр. 398, арк. 1–4: Информация о результатах коллективизации по данным областных комитетов КП(б)Б, 15.12.1949.

316 *История советского крестьянства*, т. 4: *Крестьянство в годы упрочения и развития социалистического общества 1945 – конец 1950 годов*, Москва 1988, с. 138–139.

317 Гэтыя разлікі зроблены Яўгенам Мірановічам (Беласток) на падставе даследаванняў, праведзеных у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а таксама вывучэння наступнай літаратуры: *"Ostarbeiter". Weibrussische Zwanngsarbeiter in Osterrich. Dokumente und Materialien,* Graz-Minsk 2003; E. Engelhardt, *Weissruthenien. Volk und Land,* Berlin-Amsterdam-Prag-Wien *1943; Преступления немецко-фашистских окупантов в Белоруссии,* ред. П.П. Липпило В.Ф. Романовский, Минск 1965; Б. К`яры, *Штодзённасць*

Зыходзячы з гэтых параўнанняў, 3 сакавіка 1950 г. ЦК УКП(б) прыняў пастанову "Аб сур'ёзных недахопах у калгасным будаўніцтве ў заходніх абласцях БССР", а 10 траўня 1950 г. — "Аб недахопах у кіраўніцтве ЦК КП(б)Б у справе калектывізацыі". У канцы сакавіка гэтага ж года на пленуме ЦК КП(б)Б, нягледзячы на прызнаныя недахопы працы партыі, было зазначана, што агулам калектывізацыя прайшла паспяхова і што пераломным у гэтай працы быў 1949 год[318]. Але праз два месяцы (канец траўня — пачатак чэрвеня 1950 г.) на чарговым пленуме партыі зноў гаварылася пра недахопы працы кіраўніцтва ў стварэнні калгасаў у БССР. Усю віну за марудныя тэмпы калектывізацыі, а таксама за парушэнне прынцыпу добраахвотнасці падчас яе правядзення ўзяў на сябе першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Гусараў[319]. Крытыка ў яго адрас гучала і з боку кіраўніцтва абласных партыйных арганізацый[320].

Гусараў быў зняты з пасады першага сакратара ЦК КП(б)Б. Замест яго на пленуме абраны Мікалай Патолічаў. Партыйныя арганізацыі мусілі ліквідаваць усе недахопы і памылкі, што з'явіліся ў выніку правядзення калектывізацыі. Але рэальныя змены не адбыліся. Надалей працягваўся прымусовы запіс сялян заходнебеларускіх вёсак у калгасы[321].

У Гродзенскай вобласці ў перыяд кіраўніцтва партыйнай арганізацыяй Прытыцкім (студзень 1949 г. — чэрвень 1950 г.), нягледзячы на рост колькасці калгасаў, усё ж такі ў параўнанні з іншым абласцямі ўзровень калектывізацыі быў самы нізкі і складаў толькі 32,7 % усіх гаспадарак[322]. У сувязі з гэтым ЦК КП(б)Б накіраваў для праверкі працы партыйных кадраў кантрольную камісію. У яе склад уваходзілі члены бюро Цэнтральнага камітэта партыі. У выніку камісія негатыўна ацаніла працу абласнога партыйнага кіраўніцтва. Яна выявіла парушэнні ў правядзенні калектывізацыі, а таксама адзначыла невялікую колькасць створаных калгасаў у Лідскім, Радунскім, Мастоўскім, Ваўкавыскім і Васілішкаўскім раёнах[323].

---

*за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941–1944 гг.)*, Мінск 2005; А. Літвін, Я. Грэбень, С. Новікаў, *Вяртанне ў рабства: прымусовая праца насельніцтва Беларусі. 1941–1945 гг.*, Мінск 2010; А. Літвін, *Прымусовая праца беларускіх грамадзян у святле навуковых фактаў і асабістых успамінаў,* [у:] *Разняволеная памяць. Прымусовая праца беларускіх грамадзян на акупаванай тэрыторыі Беларусі (1941–1944 гг.),* рэд. А. Літвін, Мінск 2010; С. Новікаў Сяргей, *Колькасныя маштабы прыцягнення беларускага насельніцтва нямецкай ваеннай адміністрацыяй да прымусовай працы на тэрыторыі Беларусі (1941–1944 гг.),* [у:] *Разняволеная памяць. Прымусовая праца беларускіх грамадзян на акупаванай тэрыторыі Беларусі (1941–1944 гг.),* рэд. А. Літвін, Мінск 2010; *Нямецка-фашысцкі генацыд у Беларусі*, Мінск 1995.

318 НАРБ, ф. 4п, воп. 20, спр. 265, арк. 26–37: Решения IV Пленума ЦК КП(б)Б о указаниях по выполнению постановления ЦК ВКП(б), 3.03.1950 о серьёзных недостатках в колхозном строительстве в западных областях БССР.

319 Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 20, спр. 269, арк. 26: Выступление I секретаря ЦК КП(б)Б Н. Гусарова, 31.05.1950. M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 276–277.

320 *Аграрные преобразования*, с. 257–258.

321 Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 300, арк. 57–87: Протокол 86 заседания Бюро ЦК КП(б)Б, 9.05.1950.

322 Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 300, арк. 57–87.

323 НАРБ, ф. 4п, воп. 81, спр. 343, арк. 75: Протокол 108 заседания Бюро ЦК КП(б)Б от 1 сентября 1950 г. Докладная записка В. Козлова, Л. Цанавы, М. Зимянина, И. Молчанова к первому секретарю ЦК КП(б)Б Н. Патоличеву о работе Гродненского областного комитета партии, 14.08.1950.

Праца кантрольнай камісіі чарговы раз пацвердзіла крывадушнасць цэнтральных органаў партыі. Члены камісіі добра разумелі, што суцэльную калектывізацыю магчыма правесці толькі з выкарыстаннем гвалту ў дачыненні да сялян і іх запалохвання высылкай у аддаленыя раёны СССР. Большасць вясковага насельніцтва заходнебеларускіх абласцей не хацела ўступаць у калгасы. Людзі аддавалі перавагу індывідуальнай гаспадарцы. Пры гэтым кіраўніцтва партыі ў Мінску асуджала працу Гродзенскай абласной партыйнай арганізацыі за парушэнне прынцыпу добраахвотнасці падчас калектывізацыі.

Кіраўніцтва Брэсцкай вобласці таксама сутыкнулася з падобнымі праблемамі. Першы сакратар Брэсцкага абкама партыі Фёдар Сіляеў, выступаючы 15 ліпеня 1950 г. на V абласным партыйным пленуме, зазначыў: *"У цяперашні час у вобласці калектывізаваны толькі 61 % сельскіх гаспадарак.* […] *Слаба праводзіцца праца па выкрыцці і папярэджанні антыкалгаснай агітацыі з боку кулацкіх і варожых элементаў"*[324]. Працягваючы далей гэту тэму, старшыня аблвыканкама Мірон Крыштафовіч звярнуў увагу ўдзельнікаў пленума на тое, што *"Літоўская, Украінская, Малдаўская, Эстонская рэспублікі ў прынцыпе скончылі калектывізацыю, а мы з вамі, груба кажучы, цягнемся ў хвасце. Нам як кіраўнікам павінна быць сорамна і недаравальна, што наша вобласць у параўнанні з іншымі заходнімі абласцямі спазняецца, так, у Полацкай вобласці калектывізавана 90 % гаспадарак, у Пінскай — 77 %, а мы* (маем — *Т. Г.*) *толькі — 61 %"*[325].

12 лютага 1951 г. на VI пленуме ЦК КП(б)Б Патолічаў заявіў, што на пачатак лютага ў заходніх абласцях БССР калектывізавана 85 % сельскіх гаспадарак. *"Гэты вынік трэба лічыць вялікай палітычнай перамогай,*— казаў Патолічаў.— *Зараз нашым бягучым заданнем з'яўляецца канчатковая калектывізацыя і поўнае палітычнае і арганізацыйна-гаспадарчае ўзмацненне калгасаў. Закончыць калектывізацыю неабходна ў бліжэйшыя 2–3 месяцы, каб веснавыя працы ў 1951 г. арганізаваць ва ўмовах поўнай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак"*[326].

Пастаўленая Патолічавым задача не была выканана. Паводле інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі, да 1 лістапада 1951 г. у калгасы аб'яднаныя 89,7 % сялянскіх гаспадарак[327]. У канцы 1952 г. у калгасах было ўжо 94 % гаспадарак, у 1953 г.— больш за 97 %. Калгасы валодалі 99,7 % ворнай зямлі[328]. Такім чынам, улады здолелі калектывізаваць заходнебеларускую вёску. Пры гэтым сяляне з цяжкасцю адаптаваліся да новага калгаснага ладу. Калектывізацыя заходнебеларускай вёскі мела шматлікія негатыўныя наступствы. Але

---

324 ДАБВ, ф. 1п, воп. 7, спр. 15, арк. 11–12: Протокол V Пленума брестского областного комитета КП(б)Б, 15.07.1950.

325 Тамсама, арк. 11–12.

326 НАРБ, ф. 4п, воп. 20, спр. 272, арк. 8: Стенограмма VI Пленума ЦК КП(б)Б, 12–14.02.1951. Выступление первого секретаря ЦК КП(б)Б Н. Патоличева на VI Пленуме ЦК КП(б)Б о задачах Коммунистической партии (большевиков) Беларуси по организационно-хозяйственному усилению колхозов и дальнейшему росту сельского хозяйства республики, 12.02.1951.

327 НАРБ, ф. 4п, воп. 46, спр. 488, арк. 107.

328 Е. П. Белязо, *Крестьянство Белоруссии на пути к развитому социализму (1951–1960)*, Минск 1982, с. 20–21.

варта адзначыць, што быў выпадак узорнага і паспяховага развіцця калгаса, які доўгі час узначальваў Герой Сацыялістычнай Працы Уладзімір Баум. Быў гэта калгас-мільянер у Іўеўскім раёне, дзе большасць складалі мясцовыя палякі. Пасля распаду СССР гэтаму калгасу па просьбе яго работнікаў было нададзена імя Уладзіміра Баума (які і дагэтуль жыве ў Гродне) замест імя Уладзіміра Леніна. Гэта адзіны такі выпадак у найноўшай гісторыі Беларусі[329].

Калгасны лад не функцыянаваў так, як планавалі ўлады, і заставаўся непрадуктыўным. Рост колькасці калгасаў у пачатку 1950-х гг. быў шмат у чым звязаны са страхам сялян быць высланымі ў Сібір. Асабліва прыгнятальнымі для палякаў і беларусаў былі звесткі пра высылку з заходніх абласцей БССР у Іркуцкую вобласць 888 “андэрсаўцаў” разам з членамі сямей (усяго 4 520 чалавек) у перыяд з 31 сакавіка да 1 красавіка 1951 г.[330], а таксама пра высылку ў 1952 г. у паўднёвы Казахстан і Іркуцкую вобласць 4 423 чалавек з так званых кулацкіх сямей[331].

Палітыку кіраўніцтва БССР у дачыненні да вёскі, якая праводзілася ў 1944–1953 гг. згодна з указаннямі з Масквы, можна падзяліць на два перыяды: 1944–1947 і 1948–1953 гг. У першы перыяд для ўлад галоўнымі задачамі былі ліквідацыя польскага падполля, а таксама антысавецкага беларускага, літоўскага і ўкраінскага супраціву[332] і аднаўленне даваенных уладных структур. Узброенае падполле, асабліва польскае, стрымлівала працэс калектывізацыі вёскі. Таму ў гэты час улады ў першую чаргу займаліся аднаўленнем тых калгасаў, што існавалі да вайны (у 1939–1941 гг.). Сяляне ў большасці не хацелі вяртацца ў калгасы, бо памяталі даваенны вопыт калгаснага жыцця, калі трэба было працаваць у даволі цяжкіх умовах. Варта прызнаць, што слабая савецкая і партыйная мясцовая ўлада, якую пераследавалі падпольныя антысавецкія фарміраванні, не была ў стане цалкам рэалізоўваць дырэктыўныя ўказанні ЦК КП(б)Б, што датычыліся калектывізацыі заходніх абласцей БССР[333]. Гэта выклікала незадаволенасць у цэнтральным кіраўніцтве ў Маскве. У выніку адбыліся кардынальныя кадравыя змены ў партыйнай арганізацыі БССР.

---

329 Падрабязней на гэту тэму гл.: А. Жалкоўскі, *Да людзі — па людзку*, “Белорусская ніва”, 1999, № 137, с. 3; *Указ Президиума Верховного Совета СССР о присвоении звания Героя Социалистического Труда передовикам животноводства Белорусской ССР*, “Гродненская правда”, 1966, № 60, с. 1; А. Жалкоўскі, *Гэты няўрымслівы Баўм,* “Іўеўскі край”, 2000, № 2, с. 2; А. Жалкоўскі, *Перад кім у Геранёнах не сорамна зняць капялюш, або Як калгас імя Леніна стаў калгасам імя Баўма*, “Звязда”, 2002, № 186–187, с. 2; J. Kudzirko, *Wieczna pamięć i chwała*, “Czerwony Sztandar”, 1982, nr 213; В. Баўм, *Павялічым вытворчасць малака і мяса*, Мінск 1960; *Твои герои Гродненщина*, сост. А. Богуш, В. Жвалевский, Минск 1977.

330 *Spod Monte Cassino na Sybir. Deportacja byłych żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie z Białorusi, Litwy i Ukrainy w 1951 r.,* Warszawa 1998, s. 5; Ю. Грибовский, *Судьба бывших военнослужащих армии Андерса – репатриантов в Беларусь,* “Беларусь у XX стагоддзі”, выпуск 2 (2003), http//www.homoliber.org/ru/xx/020110.html, с. 7, [11.09.2017].

331 Дак. 213, [у:] *История сталинского Гулага. Конец 1920-х — первая половина 1950-х годов,* т. 5, Москва 2004, с. 715.

332 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi*, s. 80–98.

333 Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 20, спр. 269, арк. 116–119: Выступление первого секретаря Гродненского ОК КП(б)Б С. Притыцкого на VI Пленуме ЦК КП(б)Б, 31.05.1950; арк. 26–30: выступление первого секретаря ЦК КП(б)Б Н. Гусарова, 31.05.1950; арк. 127–129: выступление первого секретаря Молодечненского ОК КП(б)Б И. Климова, 1.06.1950.

Падчас другога перыяду ўлады здолелі пераламаць супраціўленне заходнебеларускай вёскі калектывізацыі і паскорыць яе тэмпы. Галоўным ворагам сацыялістычнай перабудовы вёскі быў абвешчаны так званы кулак, хаця калектывізацыі супраціўляліся сяляне рознага маёмаснага стану, у тым ліку і беднякі. Апошніх улады разглядалі ў якасці сваёй падтрымкі на вёсцы і стваралі спрыяльныя ўмовы для іх кар'ернага росту.

Калектывізацыя заходнебеларускай вёскі была збольшага не гаспадарчым працэсам, а палітычным, галоўнай мэтай якога з'яўлялася падпарадкаванне сялян партыйным і савецкім уладам і знішчэнне ўсялякай прыватнай ініцыятывы.

Даследчыца з Вроцлава Малгажата Рухневіч лічыць, што тэзіс пра дабратворны ўплыў на захадзе Беларусі праверанай ужо мадэлі калектыўнай гаспадаркі з'яўляецца сумніўным хаця б таму, што іншага выбару ў сялян не было. Гэтая форма агульнага гаспадарання не павышала ўзроўню жыцця калгаснікаў, і таму ў іх не было зацікаўленасці ў яе выніках. Апроч таго, такая форма не гарантавала прыбытку і дзяржаве. Прынцыпу функцыянавання калгасаў не разумелі да канца не толькі простыя калгаснікі, але і старшыні[334].

Змены гаспадарчага ладу ў заходнебеларускіх абласцях БССР адбыліся з дапамогай гвалту, што выклікала супраціў і незадаволенасць з боку сялян. Маральныя каштоўнасці былых гаспадароў, якія валодалі сваёй зямлёй і сумленна на ёй працавалі, каб забяспечыць сям'ю, ва ўмовах прымусовай работы ў калгасе былі знішчаны. Тое, што раней у індывідуальных гаспадароў у працы лічылася непрымальным, зараз стала нармальным. З'явіўся крадзеж калгаснай маёмасці і пачаліся масавыя выезды з вёскі моладзі, якая шукала лепшых умоў жыцця. У выніку калектывізацыі зраўняліся ў бядзе заходнебеларускія і ўсходнебеларускія вёскі. Калектыўная форма гаспадарання стала дамінуючай, пры гэтым яе эфектыўнасць была вельмі нізкай.

З афіцыйных справаздач вынікае, што даволі актыўна супраціўляліся калектывізацыі вёскі з пераважна польскім насельніцтвам. Так, Сяргей Прытыцкі цяжкасці ў арганізацыі калгасаў у Гродзенскай вобласці звязваў з супрацівам з боку палякаў і каталікоў. Вёскі, дзе яны жылі, атрымалася калектывізаваць у апошнюю чаргу. Прытыцкі зазначаў: *"І невыпадкова, калі мы зараз арганізоўваем калгасы, то на другі дзень пасля арганізацыі калгаса з'яўляюцца ўлёткі, напісаныя ад рукі і вельмі непісьменна, прыкладна наступнага зместу: дарагія палякі, хто верыць у Госпада Бога і каталіцкую веру, знішчайце калгасы.* […] *У калгасе "Котра" Скідзельскага раёна старшынёй рэвізійнай камісіі працуе падазроная асоба — Канстанцінаў Іосіф Іванавіч, паляк, у жніўні 1949 года, падчас арганізацыі гэтага калгаса, дамагаўся назваць калгас іменем Пілсудскага"*[335]. Нягледзячы на бязлітасную барацьбу Прытыцкага з праціўнікамі калектывізацыі, стварыць большасць калгасаў

[334] M. Ruchniewicz, *Wieś zachodniobiałoruska 1944–1953*, s. 296.

[335] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 223, арк. 103; спр. 260, арк. 33.

у Гродзенскай вобласці яму ўдалося толькі ў пачатку восені 1950 г.[336] Адным з негатыўных наступстваў калектывізацыі вёскі стала яе дэзінтэграцыя, якая разбурыла сямейныя сувязі і спрычынілася да заняпаду польскасці ў БССР.

Пагроза прадуктовай бяспецы і моцнае пагаршэнне ўмоў жыцця на вёсцы сталі вынікамі калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР. Савецкая ўлада пры гэтым дамаглася гаспадарчай інтэграцыі Беларусі, што прывяло да глыбокіх змен у грамадскай структуры вёскі і стварэння неабмежаваных магчымасцей для ўплыву на насельніцтва і правядзення палітыкі саветызацыі і русіфікацыі[337].

Калектывізацыя прынесла негатыўныя наступствы як для палякаў, так і для мясцовага беларускага насельніцтва, якія вякамі жылі па-суседску. Яны былі далучаны да паскоранага працэсу стварэння новага камуністычнага грамадства — “савецкага народа”, страчваючы пры гэтым сваю самабытнасць, мову і культуру.

336 Нягледзячы на бязлітасную барацьбу з праціўнікамі калектывізацыі, праца Прытыцкага на пасадзе першага сакратара Гродзенскага АК КП(б)Б, звязаная са стварэннем калгасаў, была ацэнена Мінскам як недастаткова актыўная, што прывяло да яго пераводу ў 1951 г. на іншую, ніжэйшую пасаду ў апараце ЦК КП(б)Б. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 313, арк. 1–2.

337 Начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення сувязі Мухін на нарадзе работнікаў прапаганды 11 лістапада 1949 г. сказаў: *“У гэтым годзе ў нас у вобласці дзейнічаюць 700 калгасаў. Гэта насельніцтва ўжо арганізаванае і з імі нам будзе лягчэй працаваць, чым з індывідуальнымі гаспадарамі”*. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 230, арк. 1.

## 6. Палітыка ў дачыненні да Каталіцкага касцёла

Каталіцкі касцёл на тэрыторыі сучаснай Беларусі, якая ў розныя гістарычныя перыяды ўваходзіла ў склад розных дзяржаў, часта станавіўся абаронцам польскасці. Пасля ўсталявання савецкай улады ва ўсходніх абласцях Беларусі, ён быў адной з нешматлікіх легальных структур, якая супрацiўлялася новым, камуністычным прынцыпам маралі.

У 1923 г. каталікі ў БССР належалі да дзвюх царкоўна-адміністрацыйных адзінак. Пры гэтым большасць з іх былі палякамі[338]. Магілёўскае архібіскупства ахоплівала тэрыторыю еўрапейскай Расіі і ўсходняй Беларусі і налічвала 245 тысяч вернікаў, 145 касцёлаў і каля 130 ксяндзоў. У Мінскае біскупства ўваходзіла астатняя частка БССР, яно налічвала 150 тысяч вернікаў, 46 касцёлаў і 15 ксяндзоў[339].

Польскасць у БССР у 1927 г. мела веравызнаўчы характар. Веданне польскай мовы знаходзіла прымяненне практычна толькі падчас богаслужэнняў. У штодзённым жыцці ўсё часцей выкарыстоўвалася беларуская мова. Каталіцкі касцёл тым не менш працягваў захоўваць польскі характар. У гарадах прысутнасць польскасці была менш адчувальнай, чым у вёсках, дзе былі касцёлы. Але ў пэўным сэнсе яна захоўвалася, дзякуючы польскім камуністам, якія знаходзіліся ў Беларусі ў якасці палітэмігрантаў з Польшчы[340].

Апошняй урачыстай рэлігійнай падзеяй у міжваенны перыяд у БССР было наведванне 25–29 чэрвеня 1927 г. Мінска ксяндзом-біскупам Баляславам Слёскансам[341]. Падчас богаслужэння 3 450 чалавек прынялі таінства канфірмацыі, а 400 дзяцей — першае прычасце. У Мінск на ўрачыстасць з суседніх гарадоў і вёсак прыехала каля 10 тысяч чалавек[342].

У выніку барацьбы савецкай улады супраць Каталіцкага касцёла ў 1930-я гг. закрыццё храмаў ішло па нарастаючай: з восені 1933 г. да восені 1934 г. закрыта 10 касцёлаў, а ў 1934–1935 гг. яшчэ 20. На той час заставаліся дзеючымі яшчэ каля 30 храмаў, каталіцкіх святароў налічвалася 11 [343]. У 1935 г. 80 ксяндзоў трапілі ў лагеры закрытага тыпу або свабода іх перамяшчэння была абмежавана[344]. Рэпрэсіі 1937–1938 гг. прывялі да таго, што ўжо ў студзені 1939 г. у БССР засталіся толькі 74 праваслаўныя цэрквы і ніводнага касцёла[345].

---

338 R. Dzwonkowski SAC, *Kościół katolicki w ZSSR 1917–1939. Zarys historii*, Lublin 1997, s. 45–46.

339 Тамсама, с. 45–46.

340 AAN, z. 510, sygn. 150, k. 19: List pełniącego obowiązki KG w Mińsku Perkowskiego do ambasady RP w Moskwie, 21.01.1927.

341 У архіўным дакуменце на рускай мове прозвішча падаецца як Слоскан. Правільна — Баляслаў Слёсканс (1893–1981). У 1926 г. ён тайна быў кансэкраваны на біскупа ў Маскве. У 1927 г. арыштаваны, асуджаны на 3 гады лагераў на Салавецкіх астравах, а пасля знаходзіўся 3 гады ў высылцы ў Сібіры. У 1933 г. у выніку абмену выехаў у Латвію. Памёр у Бельгіі. Гл.: R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego represjonowanego w ZSRS 1939–1988*, Lublin 2003, s. 463.

342 AAN, z. 510, sygn. 185, k.b.n.

343 AAN, z. 322, sygn. 2821, k. 64: Z referatu St. Eski, kierownika wydziału konsularnego Ambasady RP w Moskwie, 7.10.1935.

344 Тамсама, с. 78.

345 Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси в 1945–1990 годах*, Гродно 2006, с. 22.

Савецкі напад на Польшчу 17 верасня 1939 г. зрабіўся нагодай для новых антыкаталіцкіх рэпрэсій. Усяго ў перыяд з 1939 г. да 22 чэрвеня 1941 г. на былых усходніх польскіх тэрыторыях было арыштавана каля 200 ксяндзоў[346]. Іх лёсы склаліся па-рознаму. Найчасцей іх прысуджалі да тэрмінаў зняволення ад 5 да 10 гадоў. Невялікая частка святароў прапала без вестак пасля арышту або памерла ў турмах. Некалькі з іх былі вызваленыя. Каля 20 арыштаваных ксяндзоў прысуджаны да вышэйшай меры пакарання, якая выкананая ў дачыненні да 9 святароў[347].

Падчас акупацыі БССР немцамі і некаторы час пасля яе віленскі біскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі (прызначаны Ватыканам 20 верасня 1941 г. архібіскупам Магілёўскім і біскупам Мінскім) спрабаваў адрадзіць рэлігійнае жыццё ва ўсходніх абласцях Беларусі, але з гэтага практычна нічога не атрымалася[348].

З прыходам вясной — летам 1944 г. на тэрыторыю Заходняй Беларусі Чырвонай арміі пачаўся новы этап у гісторыі праследу Каталіцкага касцёла. Пасля ўсталявання савецка-польскай мяжы на тэрыторыі БССР засталася значная частка Віленскага архібіскупства (238 парафій), большая частка Пінскага біскупства (126 парафій) і 7 парафій Ломжынскага біскупства[349]. У пасляваеннае дзесяцігоддзе савецкая рэлігійная палітыка залежала ад знешпалітычных фактараў, характарызавалася няўстойлівасцю і пастаяннымі зменамі, непаразуменнямі паміж мясцовымі ўладамі і цэнтральным кіраўніцтвам. Нязменнай была перспектыўная мэта камуністычнага рэжыму — пабудова безрэлігійнага грамадства.

У 1945 г. на тэрыторыі БССР існавала 375 касцёлаў, з якіх дзейнічала толькі 213 (пры гэтым ніводнага ва ўсходніх абласцях Беларусі)[350]. Нягледзячы на пастаянныя звароты вернікаў да кіраўніцтва ў Мінску і Маскве з просьбай адкрыць касцёлы ва Усходняй Беларусі, гэтае пытанне вырашыць не атрымалася[351].

Каталіцкі касцёл у той час знаходзіўся ў выключна цяжкіх умовах існавання (гэта было абумоўлена і пагаршэннем адносін савецкага ўрада з былымі саюзнікамі). У супрацьстаянні з савецкай уладай ён не мог разлічваць не толькі на дапамогу, але і на спачуванне з боку Праваслаўнай царквы, якая ў гады вайны і пасля яе, каб захаваць свае структуры, пайшла на супрацоўніцтва з дзяржавай і знаходзілася ў абсалютнай залежнасці ад яе. Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксей падчас інтэрв'ю для амерыканскага журналіста адразу пасля заканчэння Памеснага сабора ў студзені 1945 г. сказаў: *"Мы не маем царкоўных зносін з Каталіцкай царквой. Уся палітыка царквы Рыма зусім чужая праваслаўнай веры"*[352]. Працягваючы далей, патрыярх дадаў: *"Мы лічым, што Іосіф Сталін*

[346] R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 20.

[347] T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, s. 280.

[348] Падрабязней на гэту тэму гл.: Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси*, с. 30.

[349] Тамсама, с. 7.

[350] Тамсама, с. 507.

[351] Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 154; спр. 11, арк. 63.

[352] ДАРФ, ф. 6991, воп. 2, спр. 32, арк. 231 адв.: Материалы Поместного собора. 12.09.1944–21.09.1945.

*стварыў найлепшыя магчымыя ўмовы для працы нашай царквы*[353]. […] *Казаць пра нецярпімасць і пераслед рэлігіі ў СССР — гэта значыць ісці супраць ісціны*"[354].

У першыя пасляваенныя гады ўрад СССР у сваіх стасунках з Каталіцкім касцёлам спрабаваў прымяняць своеасаблівую тактыку дыялогу і кампрамісу, якая павінна была абмежаваць *"варожую палітычную актыўнасць"* духавенства і схіліць хаця б некаторых яго прадстаўнікоў да супрацоўніцтва[355]. Каталіцкія святары не хавалі сваіх антысавецкіх настрояў і прывязанасці да Польшчы. У справаздачах упаўнаважаных Савета па справах рэлігійных культаў Брэсцкай, Полацкай і Баранавіцкай абласцей, што дасылаліся ў Мінск, пастаянна прысутнічала праблема "нелаяльнасці" каталіцкага духавенства[356]. Не была выключэннем у гэтым пытанні і Гродзенская вобласць, пра што паведамляў упаўнаважаны[357]. У 1945 г. у сувязі з арыштамі ксяндзоў у Беларусі закрыліся 15 касцёлаў[358].

Афіцыйная савецкая прапаганда, а таксама сакрэтныя даносы спецыяльных службаў у вышэйшыя органы ўлады паказвалі Каталіцкі касцёл і яго святароў у якасці контррэвалюцыйнай, варожай СССР сілы, якой кіраваў Ватыкан, і якая знаходзілася ў саюзе з *"англа-амерыканскім імперыялізмам"*. Старшыня Савета па справах рэлігійных культаў пры Вярхоўным Савеце СССР Іван Палянскі ў сакрэтным лісце № 134/сс ад 10 траўня 1945 г., накіраваным рэспубліканскім упаўнаважаным ва Украіне, Беларусі, Эстоніі, Літве і Латвіі пісаў: *"Рыма-каталіцкае духавенства заўсёды варожа ставілася да савецкай улады, а папежская сталіца з ватыканскага двара сістэматычна арганізоўвала ў рознай форме шматлікія атакі супраць СССР"*[359]. У сувязі з гэтым напрошваецца пытанне: а як яны павінны былі ставіцца да савецкай улады пасля амаль поўнага разгрому Каталіцкага касцёла ў СССР?

Пэўную ролю ў змяншэнні савецкіх рэпрэсій супраць Каталіцкага касцёла ў БССР магла адыграць сакрэтная пастанова № 232–10/с ад 28 студзеня 1946 г., падпісаная Сталіным. Яна забараняла рэспубліканскім і мясцовым уладам без дазволу Масквы закрываць касцёлы, а таксама выкарыстоўваць іх для іншых мэт[360]. З-за таго, што пастанова была сакрэтнай, ні вернікі, ні святары не ведалі пра яе і таму не маглі яе выкарыстоўваць для абароны сваёй веры. Пры гэтым мясцовыя ўлады працягвалі закрываць касцёлы. У 1946 г. упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ БССР Кандрат Уласевіч сцвярджаў, што ў выніку правядзення антыкаталіцкай палітыкі і антырэлігійнай прапаганды

---

353 Тамсама, арк. 232 адв.

354 Тамсама, арк. 30.

355 L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, s. 190–191.

356 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 1, арк. 81: Директивные указания Совета Министров СССР, а также БССР, Совета по делам религиозных культов, касающиеся организации работы уполномоченных, о открытии молитвенных зданий и костёлов, 19.05.1944–15.12.1945.

357 ДАГВ, ф. 1385, воп. la, спр. 4, арк. 4.

358 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 2, арк. 274–275.

359 R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 25.

360 ДАГВ, ф. 1171с, воп. 1а, спр. 28, арк. 2: Постановления Совета Народных Комиссаров СССР за 1946 г.

ліквідавана *"84 пункты супрацiву Ватыкана — касцёлы, а таксама ўсе іх кіраўнікі — 107 ксяндзоў"*[361].

Партыйнае кіраўніцтва Гродзенскай вобласці бачыла ў каталіцкіх святарах *"рэакцыянераў, якія дзейнічаюць па загадзе Ватыкана, праводзяць антысавецкую польска-нацыяналістычную прапаганду і варожую працу па каталізацыі насельніцтва"*[362]. Яны разглядаліся ў якасці канкурэнтаў, якія ў процівагу русіфікацыі і саветызацыі актыўна займаліся захаваннем каталіцкай веры, польскай культуры і традыцый. Нават абмежаваную толькі літургіяй духоўную дзейнасць святароў савецкая ўлада лічыла важным фактарам развіцця рэлігійнасці і нацыянальнай свядомасці. Касцёлы, якія аб'ядноўвалі вакол сябе польскае насельніцтва, паводле меркавання ўлад, былі *"бастыёнамі народнага супрацiву, які неабходна знішчыць"*[363].

У сувязі з гэтым палітыка савецкай улады была накіравана на тое, каб, выкарыстоўваючы розныя метады ў дачыненні да каталіцкіх святароў (у тым ліку і арышты), прымусіць іх перасяліцца ў Польшчу. З набліжэннем тэрміну заканчэння перасялення ўціск узмацняўся. У 1945–1947 гг. з БССР у Польшчу выехалі 304 святары[364]. Службовая запіска першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гусарава, накіраваная сакратару ЦК УКП(б) Андрэю Жданаву, сведчыць аб тым, што ў канцы 1944 г. і ў 1945 г. выказалі жаданне выехаць у Польшчу 552 ксяндзы і духоўныя асобы, з якіх толькі 306 перасяляліся, а 246 засталіся[365].

Пасля перасялення ў Польшчу, якое скончылася ў 1947 г., савецкая ўлада прыступіла да сістэматычнай ліквідацыі структур Каталіцкага касцёла, закрыцця храмаў і дэпартацый у аддаленыя раёны СССР вернікаў, якія актыўна прытрымліваліся рэлігійных практык. Усе намаганні па саветызацыі і русіфікацыі былі накіраваны на тыя раёны Заходняй Беларусі, дзе большасць жыхароў вызнавала рыма-каталіцкую рэлігію. Як сведчаць тагачасныя дакументы ўлад, католікі ў асноўным атаясамлівалі сябе з палякамі[366]. Кіраўніцтва Маладзечанскай вобласці было занепакоена тым, што 41,9 % насельніцтва вобласці складалі каталікі[367]. Незадаволенасць улад выклікаў таксама пераход з праваслаўя ў каталіцызм 100 чалавек, некаторыя з якіх прыехалі з усходніх раёнаў СССР. Маладзечанскі абкам прапанаваў шэраг мерапрыемстваў, якія былі накіраваны на барацьбу з паланізацыяй і акаталічваннем заходніх абласцей Беларусі. Найбольш важнай задачай з'яўлялася канчатковая замена ўсіх настаўнікаў-палякаў на ідэалагічна вытрыманых, пажадана з усходу СССР,

---

361 R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 25.

362 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 146, арк. 7: Протокол областного комитета партии от 26–27.03. 1948.

363 R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 27.

364 A. Hlebowicz, *Kościół w niewoli. Kościół rzymskokatolicki na Białorusi i Ukrainie po II wojnie światowej*, Warszawa 1991, s. 13.

365 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 27–36.

366 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 570, арк. 313–333: Докладные записки, постановления и справки обкомов, горкомов и райкомов партии по вопросам пропаганды и агитации. 3 января 1947 года — 25 декабря 1947 года.

367 Тамсама, арк. 314.

педагогаў. Партыйнае кіраўніцтва вобласці таксама прапанавала забараніць ксяндзам навучаць дзяцей польскай мове[368].

Летам 1947 г. ЦК КП(б)Б узмацніў ідэалагічную працу, якая пазней з дазволу Масквы перайшла ў рэпрэсіі супраць ксяндзоў. У ліпені гэтага ж года Гусараў інфармаваў Жданава пра антысавецкую дзейнасць каталіцкага духавенства ў заходніх абласцях[369]. Гусараў абвінавачваў святароў у натхненні польскіх нацыяналістаў на барацьбу супраць савецкай улады, у акаталічванні і паланізацыі насельніцтва БССР і ў спробах пашырыць свой уплыў на ўсходнія тэрыторыі рэспублікі. Апроч таго, Гусараў практычна зрабіў данос на ўпаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў Палянскага, якога абвінавачваў у тым, што ён нібыта падтрымліваў каталіцкіх ксяндзоў у распаўсюдзе свайго ўплыву на ўсходзе БССР, патрабуючы ад кіраўніцтва рэспублікі даць дазвол на адкрыццё касцёла ў Магілёве. Прычына таго, што храм так і не быў адкрыты ў гэтым горадзе да гарбачоўскай перабудовы, верагодна, была ў гэтым даносе і нежаданні ўлад дапусціць адраджэнне каталіцтва ва ўсходніх абласцях і Мінску.

Запіска Гусарава з'яўлялася своеасаблівай просьбай аб атрыманні ад вышэйшага партыйнага кіраўніцтва дазволу на больш бязлітасную барацьбу з каталіцкім духавенствам. Планавалася праз радыё, друк, кіно і вусную прапаганду зрабіць са святароў ворагаў народа, а пасля дэпартаваць іх, як было напісана, за межы рэспублікі. У запісцы таксама ўтрымлівалася просьба дазволіць органам МДБ праводзіць больш жорсткую рэпрэсіўную палітыку супраць духавенства, якое нібыта займалася падрыўной антысавецкай дзейнасцю. Такім чынам беларускія партыйныя ўлады імкнуліся зменшыць колькасць каталіцкіх святароў і садзейнічаць пераходу католікаў у праваслаўе. У запісцы без указання мясцовасцей было напісана, што ўжо здараліся факты такога пераходу. Планавалася ў заходнія вобласці БССР накіраваць добра падрыхтаваных праваслаўных святароў для вядзення антыкаталіцкай прапаганды, будаўніцтва цэркваў і нават для адкрыцця праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Гродне[370]. Таксама прапаноўвалася прыцягваць ксяндзоў да крымінальнай адказнасці за навучанне дзяцей польскай мове[371].

27 лістапада — 1 снежня 1947 г. на Пленуме ЦК КП(б)Б абмяркоўвалася толькі адно пытанне — антысавецкая дзейнасць рыма-каталіцкага духавенства ў заходніх абласцях БССР. На пленуме было прызнана, што польскі нацыяналізм у гэтым рэгіёне меў падтрымку з боку каталіцкіх святароў. Сцвярджалася, што *"гэта нацыяналізм асабліва небяспечны, таму што яшчэ не ліквідавана польскае антысавецкае падполле"*[372]. Пленум рэкамендаваў у барацьбе з Каталіцкім касцёлам выкарыстоўваць усе сродкі, каб пасварыць вернікаў са святарамі дзеля *"вызвалення іх з-пад уплыву агентаў імперыялізму"*[373].

368 Тамсама, арк. 325–326.

369 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 29.

370 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 35–36.

371 Тамсама, арк. 35.

372 НАРБ, ф. 4п, воп. 20, спр. 245, арк. 407–408.

373 Тамсама, арк. 412.

Да гэтай барацьбы, згодна з рашэннем рэспубліканскіх улад, далучыліся і органы МДБ. У студзені 1947 г. на пасаду ўпаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР па Гродзенскай вобласці быў прызначаны штатны афіцэр упраўлення МДБ вобласці[374]. Улічваючы важнасць задання, якое атрымала МДБ, можна меркаваць, што падобныя прызначэнні адбыліся і ў іншых заходніх абласцях БССР.

У 1947 г. партыйнае кіраўніцтва ў Маскве запатрабавала ад улад БССР любым коштам вярнуць "паланізаванае" і "акаталічанае" беларускае насельніцтва заходніх абласцей у праваслаўе. Лічылася, што ўсе палякі выехалі з БССР падчас перасялення ў Польшчу ў 1944–1947 гг., а тыя, хто застаўся,— гэта беларусы, якія гвалтоўна польскімі ўладамі былі запісаны палякамі. Заданне па вяртанні апалячаных беларусаў павінна была выконваць Праваслаўная царква ў БССР на чале з нядаўна прызначаным мітрапалітам Піцірымам, пры падтрымцы маскоўскага Сінода і накіраваных з усходу СССР праваслаўных святароў[375]. Планавалася, што гэтая палітычная акцыя будзе праводзіцца ў супрацоўніцтве з партыйнымі, савецкімі ўладамі, органамі МДБ і МУС. Але ў хуткім часе ад рэалізацыі гэтага плана адмовіліся з-за слабасці савецкай улады ў заходніх абласцях БССР, дзе пражывала вялікая колькасць каталікоў. Партыйныя ўлады ў Маскве і Мінску прынялі рашэнне замест барацьбы з каталіцтвам у БССР весці ўзмоцненую барацьбу з каталіцкім духавенствам, а таксама арганізоўваць выхаваўчыя антырэлігійныя мерапрыемствы для моладзі і дзяцей. Пры гэтым органам МДБ было дазволена праводзіць рэпрэсіі супраць тых ксяндзоў, якія, паводле іх меркавання, удзельнічалі ў антысавецкай дзейнасці[376]. У гэты ж час Масква адмовіла ў просьбе ўлад БССР аб дазволе правядзення богаслужэнняў у каталіцкіх храмах на беларускай мове[377].

Выступаючы 27 сакавіка 1948 г. на VI Пленуме Гродзенскага абласнога камітэта КП(б)Б, міністр дзяржаўнай бяспекі БССР Лаўрэнцій Цанава звярнуў увагу на спецыфіку Гродзенскай вобласці: *"Не трэба забываць, таварышы, што Гродзенская вобласць знаходзіцца ў выключных умовах у нашай рэспубліцы, умовы гэтай вобласці карэнным чынам адрозніваюцца ад іншых абласцей. Па-першае, па складзе насельніцтва,— тав. Фралоў казаў тут, што ў вобласці 40 працэнтаў польскага насельніцтва. Не ведаю, можа быць больш, можа быць менш, ва ўсялякім выпадку, 40 прац. каталіцкага насельніцтва ў вобласці ёсць.* […] *Таму я кажу, што ўмовы працы ў гэтай вобласці безумоўна адрозніваюцца ад умоў працы ў іншых абласцях. Возьмем хаця б па адной такой прыкмеце, што ў вобласці ёсць 60 ксяндзоў і 80 святароў. Вы ведаеце, якая гэта вялікая армія для таго, каб супрацьпаставіць сваю працу нашай працы ў сёлах, у вёсках, і тады, калі мы адсутнічаем у вёсках, ксёндз і святар там больш уплываюць на насельніцтва.*

---

374 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 96, арк. 83: Протоколы № 2–5, заседаний бюро областного комитета партии, а также постановления и документы к ним, 02.01.1947–25.01.1947.

375 А. Вялікі, *Беларусь — Польшча у XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя. 1955–1959 гг.*, с. 56–65.

376 Тамсама, с. 56–65.

377 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 34.

*Усё гэта, само сабой разумееца, абавязвае бальшавікоў партыйнай арганізацыі Гродзенскай вобласці да падняцця бальшавіцкай пільнасці на далейшае выхаванне мас — мас, якія знаходзіліся доўгія гады пад уздзеяннем чужой для нас ідэалогіі. Польскія паны і абшарнікі, іх агітатары і прапагандысты атручвалі свядомасць гэтых мас. Нам трэба сваю працу, у адрозненне ад усходніх абласцей, у гэтых абласцях будаваць такім чынам, каб перамагчы ўсе гэтыя перажыткі"*[378]. Сярод каталіцкіх ксяндзоў не было ніводнага, як сцвярджаў упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў у БССР, хто б лаяльна ставіўся да савецкай улады[379]. У выніку ўзмацнення рэпрэсій супраць каталіцкага духавенства ў 1947–1951 гг. у Гродзенскай вобласці арыштавана 39 ксяндзоў, што ў 4 разы больш, чым у 1944–1946 гг.[380] У ліпені 1947 г. МДБ атрымала дырэктыву аб аднаўленні актыўнай распрацоўкі ўсіх магчымых патэнцыйных ворагаў, у дачыненні да якіх следства ў свой час было "беспадстаўна" спынена[381].

У жніўні 1948 г. Палянскі праінфармаваў Уласевіча аб хуткім уступленні ў сілу дырэктывы МУС СССР аб парадку прымянення пашпартнага рэжыму ў дачыненні да духавенства. У прынцыпе гэта павінна было стаць чарговай зброяй у руках улады ў Беларусі ў барацьбе супраць ксяндзоў. Паводле дырэктывы святарам, якія па розных прычынах мелі пашпартныя абмежаванні, нельга было жыць у Мінску, Брэсце, Баранавічах, Пінску, Вілейцы, Гродне і памежнай паласе[382]. Пры гэтым Палянскі ў наступным лісце да Уласевіча звяртаў яго ўвагу на тое, што нельга выкарыстоўваць гэтую дырэктыву ў якасці інструмента барацьбы з ксяндзамі, а варта прымяняць яе толькі для таго, каб ажыццявіць "чыстку" сярод тых святароў, што мелі антысавецкія настроі[383].

У сакавіку 1949 г. беларускія ўлады атрымалі ўказанне з Масквы, якое забараняла каталіцкім ксяндзам выязджаць у суседнія прыходы, дзе адсутнічалі святары, каб там праводзіць богаслужэнні. Забараняліся таксама ўрачыстыя службы і споведзі з удзелам ксяндзоў з розных прыходаў[384].

У 1949 г. пачаўся шырокамаштабны працэс закрыцця касцёлаў і выкарыстання іх мясцовымі ўладамі для гаспадарчых, культурна-асветных патрэб, а таксама перадачы іх Праваслаўнай царкве[385]. Улады тлумачылі гэтыя дзеянні тым, што каталіцкія святары варожа ставіліся да савецкай

378 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 147, арк. 186–187: Стенограмма VI Пленума ОК КП(б)Б, 26–27.03.1948.

379 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 14, арк. 101: Отчёт уполномоченного Совета по делам религиозных культов в БССР за III квартал 1948 г.

380 L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, Warszawa 2008, s. 220.

381 В. Лазарев, *Деятельность органов государственной безопасности СССР в послевоенный период (1945–1954 гг.)*, [у:] *Исторические чтения на Лубянке*, Москва 2001, с. 16.

382 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 15, арк. 48–49: Информационные отчёты уполномоченных Советов по делам религиозных культов о деятельности религиозных общин и сект. Планы работы уполномоченных и переписка с Советом и уполномоченным по Полоцкой области. 7 января 1948 – 31 декабря 1948.

383 ДАГВ, ф. 1385, воп. 1, спр. 10, арк. 18.

384 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 21 арк. 40: Переписка с Советом, уполномоченными Совета и исполкомами местных Советов о деятельности религиозных общин и сект. 5 января 1949 – 31 декабря 1949.

385 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 17, арк. 80: Материалы о деятельности религиозных общин и сект (решения исполкомов местных Советов, заключения Уполномоченных, докладные записки, переписка, жалобы и заявления верующих). 3 января — 22 декабря 1949 года.

дзяржавы і займаліся антыкалгаснай прапагандай[386]. Такое рашэнне ўлад павінны быў апраўдаць выезд у Польшчу ў 1944–1946 гг. 226 315 палякаў, якія збольшага былі каталікамі. У гэты час былі закрыты або пуставалі з прычыны адсутнасці вернікаў 45 каталіцкіх храмаў. Пад зернясховішчы рашэннем аблвыканкамаў, без узгаднення з Саветам па справах рэлігійных культаў, выкарыстоўвалася 22 касцёлы. Пад культурна-асветныя ўстановы і праваслаўныя цэрквы было перададзена 28 касцёлаў. Рэзкае змяншэнне колькасці ксяндзоў у БССР улады тлумачылі перасяленнем 200–250 святароў у Польшчу і рэпрэсіямі ў дачыненні да прадстаўнікоў духавенства з боку органаў МДБ[387].

Пастаянныя і бязлітасныя нападкі на Каталіцкі касцёл, а асабліва на каталіцкае духавенства, не прыпыніліся і ў пачатку 1950-х гг. Савецкая ўлада імкнулася рэгламентаваць усю дзейнасць Касцёла. Напрыклад, устанаўлівала час і працягласць богаслужэнняў у летні перыяд, матывуючы гэта палявымі працамі ў калгасе. Забаранялася правядзенне палявой імшы, групавая або індывідуальная падрыхтоўка дзяцей да першага прычасця, а вучням было забаронена наведваць храм. За парушэнне гэтых правіл ксяндзам пагражалі сур'ёзныя пакаранні[388].

Выступленні сялян супраць калектывізацыі, а таксама сваю бездапаможнасць у гэтай справе раённыя і абласныя ўлады заходніх абласцей БССР звязвалі з дзейнасцю каталіцкіх святароў, якія нібыта праводзілі агітацыю супраць калгасаў. 31 траўня 1950 г. у сваёй інфармацыйнай запісцы ўпаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР па Маладзечанскай вобласці Дзярабін зазначаў: *"У тых раёнах, дзе менш каталікоў і не функцыянуюць касцёлы або маецца іх невялікая колькасць, там калектывізацыя праходзіць паспяхова. Дрэнна калектывізацыя праводзіцца ў Іўеўскім раёне, у якім большасць насельніцтва складаюць каталікі, а таксама функцыянуюць 4 касцёлы з ксяндзамі, раённыя ўлады ўказваюць на галоўную прычыну свайго паражэння — касцёл"*[389].

Пра падобную сітуацыю ў 1950 г. пісалі ўлады Баранавіцкай вобласці. Яны падкрэслівалі, што падчас правядзення калектывізацыі найбольшы супраціў аказвалі каталікі. У якасці прыкладу прыводзілася вёска Мядзведзічы, дзе з 2 тысяч веруючых каталікоў у калгас уступілі толькі 36 гаспадарак. Каталіцызм разглядаўся ўладамі як найбольш рэакцыйная і фанатычная антысавецкая сіла[390].

Барацьба з Каталіцкім касцёлам з боку партыйных і савецкіх органаў улады ў заходніх абласцях БССР была настолькі бязлітаснай і настолькі выходзіла за межы права, што прымусіла ўмяшацца ў сітуацыю Савет па справах рэлігійных культаў з Масквы. У сваім лісце да старшыні СМ БССР

---

386 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 17, арк. 250.

387 Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси*, с. 506.

388 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 251, арк. 11.

389 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 20, арк. 184–185.

390 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 23, арк. 170–171: Информационные отчёты уполномоченных о состоянии религиозных общин и сект. Планы работы уполномоченных. 28 июля – 14 декабря 1950 года.

Аляксея Кляшчова намеснік старшыні Савета па справах рэлігійных культаў Госцеў пісаў: "[…] *У заходніх абласцях БССР, парушаючы правы вернікаў, былі адабраны ў іх 57 касцёлаў, што складае больш за 25 % усіх раней зарэгістраваных. Працэс гэты адбываецца без згоды вернікаў, адміністратыўнымі метадамі, часта са скандалам, узломваннем замкоў і нават з выкарыстаннем сілы ў адносінах да вернікаў, якія супраціўляюцца адабранню касцёлаў*"[391].

Такія дзеянні, зазначалася ў лісце, прывялі да таго, што 100 тысяч вернікаў былі пазбаўлены насуперак канстытуцыям СССР і БССР права свабодна вызнаваць сваю рэлігію. У Полацкай вобласці з 38 зарэгістраваных касцёлаў адабраныя 24. У некалькіх раёнах вобласці не засталося ніводнага храма, вернікі вымушаны былі ездзіць у касцёлы Літвы або Латвіі[392]. Гэты ліст не абавязваў улады вярнуць вернікам раней беспадстаўна адабраныя касцёлы, а звяртаў увагу на недапушчэнне ў будучым такіх дзеянняў.

У 1944–1952 гг. у БССР з 225 ксяндзоў каля 150 былі рэпрэсаваны[393]. Толькі тры з іх не з'яўляліся палякамі. Да таго ж у параўнанні з іншымі савецкімі рэспублікамі ў Беларусі была найбольшая колькасць прысуджаных да максімальнага тэрміну зняволення. З 71 вядомага сёння абвінаваўчага прысуду перыяду 1945–1952 гг., 41 (57,8 %) прадугледжваў 25 год зняволення, а 22 (30,9 %) — 10 гадоў пазбаўлення волі[394]. Іншыя крыніцы сведчаць, што савецкія ўлады ў БССР у 1945–1951 гг. арыштавалі каля 70–80 % каталіцкага духавенства (каля 170–180 чалавек)[395]. Прысуд да 25 гадоў зняволення ў БССР прымяняўся ў 5 разоў часцей, чым у Латвіі, і больш чым у два разы часцей у параўнанні з Літвой[396]. Астатнія прысуды прадугледжвалі тэрмін зняволення ад 3 да 15 гадоў. У выніку такой палітыкі савецкай улады БССР у дачыненні да Каталіцкага касцёла ў 1953 г. у прыходах засталося трохі больш за 10 ксяндзоў[397]. Паводле іншых крыніц (Э. Ярмусік з Гродна) — 75 каталіцкіх святароў[398].

Абвінавачванні супраць святароў былі абсурднымі і цынічнымі. Часта каралі нават за наяўнасць кнігі на польскай мове, выдадзенай да вайны ў Польшчы[399].

У 1953 г., пасля смерці Сталіна[400], рэпрэсіі на некаторы час прыпыніліся. На волю выйшлі першыя зняволеныя, у тым ліку і каталіцкія святары.

---

391 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 36, арк. 32: Докладные записки уполномоченных и переписка с Советом об открытии и закрытии молитвенных зданий и костёлов. 2 января 1952 года — 20 декабря 1952 года.

392 Тамсама, арк. 33.

393 R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 47.

394 Тамсама, с. 47.

395 A. Hlebowicz*, Kościół w niewoli,* s.13.

396 R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 47.

397 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Dzwonkowski SAC, *Leksykon duchowieństwa polskiego,* s. 44–52.

398 Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси*, с. 514.

399 T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, s. 284.

400 Улады Гродзенскай вобласці ў сувязі са смерцю Сталіна прымусілі ксяндзоў павывешваць жалобныя дзяржаўныя сцягі на касцёлах, а некаторых з іх напісаць ліст на адрас СМ СССР са спачуваннямі. НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 39, арк. 52: Докладные записки уполномоченных Совета о деятельности религиозных общин и сект в Белоруссии. 20 января 1953 года — 31 декабря 1953 года.

Большасць ксяндзоў, якія вярнуліся з лагераў і турмаў, імкнуліся аднавіць службу ў сваіх прыходах. Мясцовыя ўлады БССР усялякімі спосабамі перашкаджалі гэтаму, каб не дапусціць адкрыцця касцёлаў у сваіх мясцовасцях[401]. Варта адзначыць, што на працягу 9 месяцаў пасля смерці Сталіна не адбылося сур'ёзных змен у колькасці ксяндзоў, вызваленых з месцаў зняволення і высылкі, якім дазволілі служыць у сваіх прыходах. Наадварот, іх нават зрабілася менш: да сакавіка 1953 г. было 75 святароў, а праз 9 месяцаў засталося 73 [402]. Табліца, якая змешчана ніжэй, адлюстроўвае стан Каталіцкага касцёла ў канцы 1953 г. у БССР.

**Табліца 7. Касцёлы, рэлігійныя абшчыны і каталіцкае духавенства ў БССР на 1 снежня 1953 г.**

| Вобласць | Колькасць касцёлаў | Колькасць будынкаў касцёлаў, занятых без дазволу Савета | | | | Колькасць касцёлаў, што не выкарыстоўваюцца вернікамі | | Колькасць зарэгістраваных рэлігійных абшчын | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Савецкімі арганізацыямі | | Калгасамі | | Зарэгістр. | Незарэгістр. | Усяго | Дзеючых з ксяндзамі | Дзеючых без ксяндзоў |
| | | З ліку зарэг. | З ліку незарэг. | З ліку зарэг. | З ліку незарэг. | | | | | |
| Баранавіцкая | 46 | 3 | 3 | 3 | 1 | 8 | 9 | 33 | 7 | 12 |
| Брэсцкая | 10 | - | 1 | 1 | - | 1 | - | 9 | 2 | 5 |
| Гродзенская | 91 | 1 | 1 | - | 1 | 16 | 7 | 82 | 24 | 41 |
| Маладзечанская | 79 | 4 | 3 | 4 | 4 | 12 | 14 | 58 | 32 | 6 |
| Полацкая | 43 | 4 | 4 | 2 | 2 | 12 | 6 | 31 | 8 | 5 |
| Пінская | 9 | - | 2 | - | - | - | 5 | 2 | - | 2 |
| **Па БССР** | **278** | **12** | **14** | **10** | **8** | **49** | **41** | **215** | **73** | **71** |

Крыніцы: Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси в 1945–1990 годах*, Гродно 2006, с. 521; НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 38, арк. 259: Информационные и статистические отчёты уполномоченных о деятельности религиозных общин и сект, планы работы уполномоченных, сведения о служителях культов, списки костёлов. 7.01.1953 – 12.12.1953 года.

Пасля смерці Сталіна ў католікоў з'явіліся пэўныя надзеі на адраджэнне рэлігійнага жыцця ў БССР. Яны пачалі дзейнічаць больш актыўна. Так, вернікі ў Мінску ў гэты час спрабавалі дамагчыся адкрыцця ў горадзе касцёла. З гэтай просьбай яны звярнуліся да старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета

401 Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси*, с. 514–518.

402 Тамсама, с. 521.

СССР Клімента Варашылава. У лісце, напісаным прыкладна восенню 1953 г., стаялі подпісы 896 чалавек[403]. Але просьба тых, хто скардзіўся, была накіравана з Масквы ў Мінск (да тых, на каго скардзіліся). Некалькі гадоў улады ў Мінску зацягвалі з адказам вернікам і рабілі ўсё магчымае, каб касцёл не адкрыць. Нарэшце, рашэннем Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта ад 15 траўня 1956 г., каталікам было канчаткова адмоўлена ў іх просьбе. Цікавым з'яўляецца факт, што ў абарону вернікаў выступіў старшыня Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР у Мінску Лабус. Ён у сваім лісце да сакратара ЦК КПБ Гарбунова ў снежні 1956 г. пісаў: *"Настрой сярод каталіцкага насельніцтва Мінска вельмі дрэнны. Калі нельга каталікам вярнуць касцёл, то яны просяць дазвол купіць або пабудаваць малітоўны дом, зарэгістраваць каталіцкую абшчыну і служку культу. Дакладваючы пра такую сітуацыю, лічу, што пытанне аб адкрыцці касцёла ў Мінску варта было б разглядзець яшчэ раз"*[404]. Але насуперак канстытуцыйнаму праву вышэйшыя ўлады не дазволілі вернікам Мінска мець свой храм для богаслужэнняў.

Смерць Сталіна не паўплывала кардынальна на рэлігійную палітыку БССР. Актыўная барацьба з Каталіцкім касцёлам працягвалася. Змяніліся толькі метады. Больш шырока ўлады пачалі выкарыстоўваць сродкі масавай інфармацыі. У сакавіку 1953 г. у Брэсцкай вобласці антырэлігійнай агітацыяй і атэістычнай прапагандай займалася сетка культурна-асветных устаноў[405]. Вялікую ролю ў гэтай барацьбе адыгрывала кіно, якое з'яўлялася ў руках савецкай улады магутным сродкам камуністычнага выхавання насельніцтва[406], а таксама адбор і навучанне агітатараў і супрацоўнікаў культурна-асветных устаноў[407]. Тым не менш актыўная барацьба вернікаў за адраджэнне касцёлаў мела плён. У канцы 1956 г. у прыходах заходніх абласцей Беларусі служыў 91 ксёндз, а гэта на 18 больш, чым у канцы 1953 года[408].

Палітыка савецкіх улад, накіраваная на знішчэнне Каталіцкага касцёла ў БССР, у 1944–1956 гг. праводзілася згодна з добра прадуманым планам, які ажыццяўляўся да вайны ва ўсходніх абласцях Беларусі. Варта адзначыць, што барацьба з Каталіцкім касцёлам была часткай загадзя распрацаванай, цэнтралізаванай, шырока разгорнутай антырэлігійнай кампаніі. Рэпрэсіям і ганенням падвяргаліся і Праваслаўная царква, і іншыя рэлігійныя абшчыны, якія існавалі ў БССР. Выканаўцы гэтага плана ўвасаблялі ў сабе ўсе самыя агідныя рысы бальшавізму, былі пазбаўленыя чалавечага сумлення і маралі, бязлітасна і жорстка дзейнічалі ў дачыненні да вернікаў,

403 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 392, арк. 80–81.

404 НАРБ, ф. 952, воп. 4, спр. 4, арк. 249–251: Докладные записки уполномоченных Совета по делам религиозных культов при облисполкомах о деятельности религиозных общин и сект. 10.01–21.12.1956.

405 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: ДАБВ, ф. 1п, воп. 10, спр. 13, арк. 5: Протокол V Пленума Брестского ОК КП(б)Б, 26.03.1953.

406 Тамсама, арк. 23.

407 ДАБВ, ф. 1п, воп. 11, спр. 11, арк. 228: Протокол VI Брестской областной партийной конференции, 31.01.— 1.02.1954.

408 Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси*, с. 514.

нягледзячы на ўказанні Масквы, больш за тое, даволі часта ішлі насуперак яе дырэктывам[409].

У выніку гэтай барацьбы Касцёл быў пазбаўлены вышэйшай духоўнай іерархіі[410] і семінарый. Ён быў вымушаны існаваць у варожых умовах. Пастаянныя арышты і пераслед каталіцкага духавенства, пасеяны ўладамі недавер паміж вернікамі і святарамі прывялі да таго, што дзяржава здолела рэалізаваць план па адмежаванні ксяндзоў ад вернікаў. Такім чынам, святары замкнуліся ў вузкім коле давераных асоб і перасталі выказваць сваё меркаванне перад астатнімі. Пасля смерці Сталіна барацьба супраць Каталіцкага касцёла вялася больш прадуманымі і не такімі бязлітаснымі метадамі, як раней.

У 1956 г. у заходніх абласцях БССР назіраўся невялікі рост колькасці ксяндзоў у параўнанні з 1953 г. Тым не менш шматлікія спробы вернікаў адрадзіць Каталіцкі касцёл ва ўсходніх абласцях засталіся беспаспяховымі. Палітыка ўрада і Камуністычнай партыі БССР была накіравана на поўнае выкараненне рэлігіі, асабліва каталіцтва, як найбольш варожай сілы, што *"падтрымлівалася заходнімі краінамі"*. Пасляваенная паслядоўная антыкаталіцкая палітыка ў БССР прывяла да значнага змяншэння колькасці касцёлаў і прадстаўнікоў духавенства. Але цалкам знішчыць Каталіцкі касцёл улады не здолелі. Дзякуючы дзейнасці нешматлікіх святароў, што засталіся служыць, і вернікаў, ён працягваў існаваць.

---

409 Прыклады такіх дзеянняў асабліва добра можна прасачыць у ліставанні па гэтых пытаннях кіраўніцтва заходніх абласцей БССР з прадстаўнікамі ўлады ў Мінску і Маскве (з удзелам упаўнаважаных Савета па справах рэлігійных культаў).

410 Падрабязней на гэту тэму гл.: L. Mikhajlik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, s. 173–174.

## 1. Русіфікацыя і саветызацыя публічнага жыцця ў БССР

Пасля смерці Сталіна ў сакавіку 1953 г. усё часцей у саюзных рэспубліках, асабліва ў Літве і Украіне, гучаў лозунг: *“Канец русіфікацыі, больш правоў для нярускіх народаў!”*[1] Лаўрэнцій Берыя, каб захапіць уладу ў СССР, выкарыстоўваў нацыянальныя памкненні людзей, зацікаўленых у сапраўдным адраджэнні іх мовы і культуры. Гэта была апошняя і кароткатэрміновая спроба беларусізацыі партыйнага і дзяржаўнага апарату БССР. Берыя непасрэдна ўдзельнічаў у прыняцці пастановы ЦК КПСС, у якой крытыкавалася кіраўніцтва Беларусі, у тым ліку за памылкі ў нацыянальнай палітыцы. Але яго спроба паставіць на чале рэспублікі беларуса Міхаіла Зімяніна была беспаспяховай. 25 чэрвеня 1953 г. Зімянін, выступаючы на беларускай мове на чарговым пленуме ЦК КПБ, казаў пра недахопы ў рэалізацыі нацыянальнай палітыкі ў БССР. Аргументаваў гэта тым, што ў партыйных структурах рэспублікі працавала толькі 62 % беларусаў, а ў сямі раённых камітэтах партыі ніводнага беларуса наогул не было[2]. Зімянін прапанаваў, каб у дзейнасці ЦК КПБ, Савета Міністраў БССР, а таксама ўсіх органаў мясцовай улады выкарыстоўвалася беларуская мова. *“Мы павінны размаўляць з народам на яго роднай мове”*,— казаў Зімянін[3].

Большасць удзельнікаў пленума ўспрыняла выступленне Зімяніна крытычна. Прысутныя падтрымлівалі першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Патолічава, рускага, які не ведаў беларускай мовы, і асуджалі тых, хто крытыкаваў яго палітыку. Кропку ў канфлікце паставілі падзеі ў Маскве, звязаныя з арыштам Берыі. Патолічаў застаўся першым сакратаром ЦК КПБ, засталася без змен і нацыянальная палітыка. Варта пры гэтым адзначыць, што знаходжанне Патолічава на такой пасадзе з’яўлялася парушэннем раней прынятай пастановы ЦК УКП(б), паводле якой пасады першых сакратароў рэспублік павінны былі займаць мясцовыя камуністы, а не рускія, накіраваныя з Масквы[4]. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: чаму БССР была адзінай сярод суседніх рэспублік, дзе вышэйшую партыйную пасаду займаў не прадстаўнік тытульнай нацыі? Пэўна для Масквы было выгадна, каб яе стаўленік надалей кіраваў у БССР і пры гэтым садзейнічаў ажыццяўленню русіфікацыі і саветызацыі насельніцтва. Гісторык з Гродна Сяргей Токць лічыць, што ў большасці партыйнай эліты беларускага паходжання адсутнічала нацыянальная свядомасць, яе прадстаўнікі адчувалі сябе ў першую чаргу савецкімі людзьмі, што ў іх разуменні гучала горда. Больш за тое, гэтыя людзі даволі часта не валодалі беларускай мовай, лічылі

---

1 Падрабязней на гэту тэму гл.: “Правда Украины”, 13.06.1953; “Советская Литва”, 18.06.1953; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 335–375.

2 Л. Лыч, *Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі (верасень 1943 — кастрычнік 1964 г.)*, Мінск 2009, с. 176–185.

3 НАРБ, ф. 4п, воп. 20, спр. 296, арк. 22.

4 Н. С. Хрущёв, *Воспоминания. Избранные фрагменты*, Москва 1997, с. 274.

яе вясковай, смешнай, мовай, якая не мае ніякай сімвалічнай каштоўнасці[5]. Такім чынам, пачатак палітычнай "адлігі" ў СССР для беларусаў, у адрозненне ад іх суседзяў, не прынёс нічога, акрамя паскоранага працэсу русіфікацыі і страты нацыянальнай ідэнтычнасці. Прымусовая русіфікацыя беларусаў праводзілася праз парушэнне канстытуцый СССР і БССР і з маўклівай згоды беларускіх камуністаў.

Пэўныя магчымасці для адраджэння беларускай мовы і культуры прадугледжвалі рашэнні XX з'езда ЦК КПСС, які адбыўся ў лютым 1956 г. у Маскве. Мікіта Хрушчоў у сваім выступленні сцвярджаў, што *"сацыялізм не толькі не ліквідуе нацыянальныя адрозненні і спецыфічныя асаблівасці, а наадварот — гарантуе ўсебаковае развіццё і росквіт культуры ўсіх народаў і нацыянальнасцей. Таму нашым абавязкам з'яўляецца не пагарда да гэтых спецыфічных рыс і адрозненняў, а ўзяцце іх пад увагу ва ўсёй нашай практычнай працы па кіраванні гаспадарчым і культурным будаўніцтвам"*[6]. Апроч таго, Хрушчоў заявіў пра імкненне да пашырэння правоў рэспублік і ліквідацыі шматлікіх абмежаванняў, якія засталіся са сталінскіх часоў. Гэту заяву Хрушчова магчыма разглядаць у якасці пэўнага кроку насустрач пажаданням нацыянальных кадраў у саюзных рэспубліках.

Але першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Патолічава, як савецкага інтэрнацыяналіста і рускага, не цікавілі лёсы беларускай мовы і нацыянальнай культуры. У ліпені 1956 г., калі замест Патолічава пасаду сакратара заняў беларус Кірыл Мазураў[7], з'явіліся рэальныя шансы на беларусізацыю. У адрозненне ад сталінскага перыяду, у той час можна было дзейнічаць, не баючыся арыштаў і рэпрэсій. У БССР пачалі вяртацца незаконна асуджаныя раней за "буржуазна-нацыяналістычную дзейнасць" людзі. Такім чынам, былі створаныя пэўныя ўмовы для адраджэння беларускай культуры. Асабліва важным было тое, што гэтаму працэсу не замінала Масква, усё залежала ад ініцыятывы і рашэнняў беларусаў, якія працавалі ў органах партыйнай і савецкай улады. Найбольш уплываць на развіццё беларускай мовы і культуры мог Мазураў. Ён меў рэальныя магчымасці прыпыніць працэс русіфікацыі насельніцтва БССР. І сапраўды, першапачаткова Мазураў спрабаваў праводзіць уласную палітыку беларусізацыі. Ён, як і шматлікія іншыя камуністы рэспублікі, прыняў меркаванне партыйнага кіраўніцтва, што непазбежным элементам дэмакратызацыі з'яўляецца развіццё нацыянальнай культуры[8]. Яўген Мірановіч лічыць, што Мазураў, як адданы ідэалам КПСС камуніст, своечасова заўважыў, што Хрушчоў і Цэнтральны камітэт партыі, нягледзячы на свае публічныя заявы, разглядалі

---

[5] S. Tokć, *Kwestia narodowościowa w działalności lokalnych struktur władzy radzieckiej i służb specjalnych w zachodnich obwodach BSRR w latach 1944–1955*, [y:] *Internacjonalizm czy…? Działania organów bezpieczeństwa państw komunistycznych wobec mniejszości narodowych (1944–1989)*, pod. red. Joanny Hytrek-Hryciuk, Grzegorza Straucholda, Jarosława Syrnyka, Warszawa–Wrocław 2011, s. 494.

[6] *Materiały XX Zjazdu Komunistycznej Partii Związku Radzieckiego, 14–25 lutego 1956 r. Referaty, wybór przemówień, uchwały i rezolucje*, Warszawa 1956, s. 92.

[7] E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, Warszawa 2007, s. 273.

[8] *Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК*, т. 5, Минск 1986, с. 42–43.

русіфікацыю ў якасці аднаго з галоўных элементаў адзінства савецкай дзяржавы[9]. Гэта з'явілася прычынай таго, што Мазураў хутка адмовіўся ад плана дэрусіфікацыі Беларусі.

Леанід Лыч, у сваю чаргу, лічыць, што адсутнасць жадання ў Мазурава ангажавацца ў адраджэнне беларускай мовы і культуры была звязана з тым, што ён не меў падтрымкі не толькі ў цэнтральным партыйным апараце ў Мінску, але таксама і ў абласцях, дзе кіруючыя пасады займалі прысланыя Масквой апаратчыкі, якія не мелі ніякага жадання інтэгравацца ў беларускае грамадства з яго традыцыямі. Працэс падтрымкі русіфікацыі Беларусі для іх быў жыццёва неабходным, таму што і надалей яны планавалі сваё існаванне ў асяроддзі развіцця рускай культуры і мовы[10].

У яшчэ больш складанай сітуацыі захавання сваёй мовы і культуры знаходзілася польская нацыянальная меншасць. Пасля масавых расстрэлаў у 1937–1938 гг., ліквідацыі Польскага нацыянальнага раёна палякі не мелі магчымасці займаць пасады ў органах партыйнай і савецкай улады. Знішчэнне польскамоўнай адукацыі, цэнтраў польскай культуры і друку ўключыла польскую меншасць у фарсіраваны працэс русіфікацыі. Гэты злачынны ўдар, які быў нанесены па польскасці ва ўсходніх раёнах БССР, выклікаў вялікія людскія страты, а таксама ліквідацыю далейшай магчымасці развіцця польскай мовы і культуры. Гэтыя страты не ўдалося аднавіць да сённяшняга дня, таму што на працягу ўсяго савецкага перыяду такога жадання не было ў кіраўніцтва ні ў Мінску, ні ў Маскве. Апроч таго, усе тыя, хто мог бы пасля смерці Сталіна заняцца польскім адраджэннем, былі забіты. Усе астатнія нешматлікія прадстаўнікі інтэлігенцыі палічылі за лепшае больш не вяртацца да "польскага пытання"[11].

Палякі з былых паўночна-ўсходніх тэрыторый Другой Рэчы Паспалітай пасля 17 верасня 1939 г. трансфармаваліся з карэнных польскіх грамадзян у польскую нацыянальную меншасць Заходняй Беларусі, якой сілай навязалі грамадзянства СССР. Жорсткія і бязлітасныя рэпрэсіі ў 1939–1953 гг., вымушанае палітычнай сітуацыяй перасяленне палякаў у Польшчу ў 1944–1946 гг., так званая рэпатрыяцыя ў 1955–1959 гг., наступствы калектывізацыі, а таксама ліквідацыя польскіх школ і арганізацыйных структур Каталіцкага касцёла прывялі польскую супольнасць у заходніх абласцях БССР у стан выжывання. Цалкам дэзінтэграваная як ва ўсходніх, так і ў заходніх рэгіёнах Беларусі польская меншасць, не маючы прадстаўніцтва ў органах улады (якое магло б абараніць яе нацыянальныя інтарэсы), апынулася на ўскраіне грамадска-палітычнага жыцця БССР. У адрозненне ад палякаў у Літве, польская меншасць у БССР не змагла выкарыстаць для паляпшэння свайго становішча

9 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku, Białoruś*, s. 273.

10 Л. Лыч, *Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі*, с. 187–188.

11 Да такіх інтэлігентаў можна аднесці Галіну Раманоўскую з Мінска. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, Białystok 2010, s. 151–152.

змены, якія адбываліся пасля смерці Сталіна і XX з’езда КПСС[12]. Насуперак заяве Хрушчова на XX з’ездзе КПСС пра садзейнічанне ўсебаковаму развіццю нацыянальных асаблівасцей[13], мясцовымі ўладамі ў БССР актыўна праводзілася русіфікацыя беларусаў і палякаў.

Нацыянальныя мовы ў савецкіх рэспубліках адыгрывалі важную ролю ва ўмацаванні нацыянальнай свядомасці насельніцтва. Там, дзе паспяхова супрацьдзейнічалі русіфікацыі, развівалася мясцовая культура, а нацыянальная мова рабілася галоўнай мовай камунікацыі як у прыватнай, так і ў публічнай прасторы. І наадварот, там, дзе нацыянальная мова адсоўвалася на другі план, русіфікацыя развівалася ў геаметрычнай прагрэсіі.

Стратэгічнай памылкай беларускіх дзяржаўных дзеячаў і нацыянальнай інтэлігенцыі была недаацэнка ролі адукацыі на роднай мове. У прынцыпе, па-іншаму і не магло быць. Прысланыя з усходу СССР на кіруючыя пасады рускамоўныя партыйныя і савецкія дзеячы везлі з сабой педагагічныя кадры для працы ў школах і ВНУ на рускай мове. Такім чынам, настаўнікі і выкладчыкі рабіліся інструментам у руках улады, якая імкнулася русіфікаваць БССР. Яны адчувалі сябе гаспадарамі, а часам у іх паводзінах праяўляліся элементы дыскрымінацыі мясцовага насельніцтва (у першую чаргу ў выкарыстанні роднай мовы ў публічных месцах). Былі выпадкі, калі дырэктары школ забаранялі настаўнікам размаўляць на беларускай мове ў школе і на вуліцы[14].

У падобнай сітуацыі апынуліся і палякі. Адным са шматлікіх прыкладаў дыскрымінацыі палякаў з’яўляецца дзейнасць школы ў вёсцы Сонічы Гродзенскага раёна, дзе жылі пераважна палякі. Жыхар гэтай вёскі Ян Садоўскі казаў у інтэрв’ю журналістцы газеты “Czerwony Sztandar”: *“У шасідзясятыя гады ў школе нам забаранялі размаўляць на польскай мове нават на перапынках”*[15]. Шматлікія настаўнікі, якія прыехалі з усходніх раёнаў СССР, часта былі ініцыятарамі правядзення размоў з бацькамі пра перапрафіляванне школ з беларускай мовы навучання на рускую[16]. Нават настаўнікі мясцовага паходжання, якія скончылі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, у беларускамоўных школах выкладалі свае прадметы на рускай мове, бо самі навучаліся на гэтай мове ва ўніверсітэце[17]. Наступствам адсутнасці зацікаўленасці ў развіцці беларускамоўнай адукацыі ў БССР стала скарачэнне школ з беларускай мовай выкладання. У 1957 г. у Брэсце з 15 такіх школ засталася толькі адна, у Гродне з 13 – 2, а ў Пінску з 12 не засталося ніводнай[18].

---

[12] Падрабязней пра становішча палякаў у Літве ў гэты час гл.: A. Srebrakowski, *Polacy w Litewskiej SRR 1944–1989*, Toruń 2001.

[13] *Materiały XX Zjazdu komunistycznej Partii Związku Radzieckiego, 14–25 lutego 1956 r. Referaty, wybór przemówień, uchwały i rezolucje*, s. 89.

[14] “Наша слова”, 2.12.1992.

[15] L. Komaiszko, *Grodzieńszczyzna: chcemy mieć tę polskość.* 3. *Na teraz i potem*, “Czerwony Sztandar”, 15.12.1988.

[16] Л. Лыч, *Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі*, с. 209.

[17] “Звязда”, 12.05.1957.

[18] “Звязда”, 17.09.1992.

Крэмль, фарсіруючы палітыку русіфікацыі, у 1958 г. правёў школьную рэформу[19]. У выніку яе з асабістай ініцыятывы Хрушчова пачаўся працэс укаранення рускай мовы ў школьную адукацыю саюзных рэспублік[20]. Паводле Пастановы ЦК КПБ "Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і далейшым развіццём народнай адукацыі ў Беларускай ССР" з красавіка 1959 г. навучанне на беларускай мове і яе вывучэнне цалкам залежалі ад жадання вучняў і іх бацькоў. Прыняцце гэтай пастановы прывяло да таго, што фактычна ў пачатку 1960-х гг. выкладанне на беларускай мове ў гарадскіх школах спынілася[21]. У сярэдніх школах Мінска ў 1969 г. 90 % вучняў наогул не вывучалі беларускай мовы[22]. Беларускамоўнае навучанне ў гэты час захавалася выключна ў вёсках і маленькіх гарадах[23].

Школьная рэформа ў СССР і прапановы Хрушчова былі накіраваны на тое, каб у школах з рускай мовай выкладання цалкам выключыць вывучэнне нацыянальных моў рэспублік у якасці абавязковага прадмета. Мэтай гэтай рэформы нібыта быў клопат пра дзяцей, якія занадта перагружаны школьнай праграмай. А на самой справе такія дзеянні ўлад прыводзілі да ўніфікацыі і ўзмацнення русіфікацыі насельніцтва. Савецкія прапагандысты казалі ў той час пра "добраахвотную адмову" цэлых нацыянальных груп ад навучання на мовах рэспублік і нават ад іх вывучэння, прадстаўлялі гэтую з'яву ў якасці перамогі ідэі сяброўства паміж народамі на этапе будаўніцтва камунізму.

У студзені 1959 г. на святкаванне 40-й гадавіны ўтварэння БССР у Мінск з афіцыйным візітам прыехаў Мікіта Хрушчоў. Беларускамоўнае выступленне на ўрачыстым сходзе К. Мазурава выклікала ў Хрушчова абурэнне. У сувязі з гэтым ён некалькі разоў публічна заявіў: *"Чым хутчэй мы ўсе будзем размаўляць па-руску, тым хутчэй пабудуем камунізм"*[24].

У сакавіку 1965 г., пасля абрання Пятра Машэрава на пасаду першага сакратара ЦК КПБ, па беларускай мове быў нанесены чарговы ўдар. У БССР пачаўся імклівы працэс пераводу школ з беларускай мовы навучання на рускую. Галоўная задача Машэрава заключалася ў тым, каб Беларусь стала ўзорнай рэспублікай у рэалізацыі савецкай нацыянальнай палітыкі, гэта значыць, у стварэнні ў СССР адной гістарычнай і культурнай супольнасці — савецкага народа. Выкананне задачы патрабавала адмовы беларусаў і іншых нацыянальнасцей ад уласнай самасвядомасці, мовы і культуры. Трагедыяй Беларусі было тое, што яе вышэйшае кіраўніцтва, у адрозненне ад партыйнай эліты Прыбалтыйскіх рэспублік, было глыбока ўпэўненае ў неабходнасці рэалізацыі такой нацыянальнай палітыкі

---

[19] Падрабязней на гэту тэму гл.: Л. Нарядкина, *Школьная реформа 1958 года и национальное образование,* "Фундаментальные исследования", 2005, № 4, с. 35–36; Л. Кумель, *Образование в эпоху Хрущёва:* "*оттепель в педагогике?*, "Неприкосновенный запас", 2003, № 2.

[20] B. Lewićkyj, *Polityka narodowościowa Z.S.S.R. w dobie Chruszczowa*, Paryż 1966, s. 94.

[21] E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 275.

[22] НАРБ, ф. 42, воп. 7, спр. 2630, арк. 108: Письмо министра образования БССР Л. Сухнат в ЦК КПБ, 24.12.1987.

[23] E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 275.

[24] Ю. Коряков, *Языковая ситуация в Белоруссии и типология языковых ситуаций*, диссертация на соискание ученой степени кандидата филологических наук. МГУ им. М. В. Ломоносова., Москва 2003, с. 39–40.

і з вялікім энтузіязмам яе ўкараняла[25]. Пасля пятнаццацігадовага кіраўніцтва рэспублікай Машэравым сітуацыя з беларускамоўным навучаннем даволі істотна пагоршылася. Адлюстраваннем "клопату" пра нацыянальную мову і культуру беларусаў з'яўляецца стан іх сталіцы. Як бачна з размешчанай ніжэй табліцы, у Мінску ў 1980–1987 гг. не было ніводнай школы з беларускай мовай навучання.

**Табліца 8. Мовы навучання ў школах БССР у 1980–1987 гг.**

| Год | 1980–1981 | | | | 1986–1987 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вёска | Горад | Вёска і горад | У тым ліку ў Мінску | Вёска | Горад | Вёска і горад | У тым ліку ў Мінску |
| Усяго школ | **5 636** | **924** | **6 559** | **150** | **4 711** | **993** | **5 704** | **178** |
| З рускай мовай навучання | 699 | 908 | 1 607 | 150 | 719 | 987 | 1 706 | 177 |
| З беларускай мовай навучання | 4 900 | 9 | 4 909 | — | 3 978 | 5 | 3 983 | — |
| З дзвюма мовамі навучання | 36 | 7 | 43 | — | 14 | 1 | 15 | 1 |

Крыніца: НАРБ, ф. 42, воп. 7, спр. 2630, арк. 108: Письмо министра образования Л. Сухнат в ЦК КПБ, 24.12.1987.

З пачатку 1960-х гг. у нацыянальных аўтаноміях і рэспубліках Савецкага Саюза праводзілася палітыка, накіраваная на стварэнне з іх насельніцтва адзінай супольнасці — савецкага народа[26]. Для гэтага выкарыстоўваліся ўсе сродкі, якія мелі ўлады, за выключэннем тых, што былі звязаныя з жорсткімі рэпрэсіямі. Улады ў Маскве імкнуліся праз русіфікацыю асіміляваць беларусаў, а таксама палякаў, ліквідаваць іх нацыянальную ідэнтычнасць і самабытнасць. Менавіта ў 1960-я гг. савецкае і партыйнае кіраўніцтва пачало вынішчаць у вёсцы беларускасць, якая, паводле яго меркавання, з'яўлялася перашкодай на шляху да больш хуткага аб'яднання ўсіх народаў БССР у савецкую супольнасць. У выніку самыя папулярныя ў вёсцы беларускія газеты "Калгасная праўда" і "Сельская гаспадарка Беларусі" пачалі выдавацца на рускай мове[27]. Улічваючы, што гэтыя газеты з'яўляліся друкаваным органам партыі, ніхто з прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, а таксама простага насельніцтва Беларусі, не кажучы пра беларусаў на дзяржаўнай службе і партыйнай працы, гэтаму рашэнню не супраціўляўся. Тым больш што такая пагарда да беларускай мовы для Беларусі не была незвычайнай з'явай. Першыя выпадкі знявагі беларускамоўных чытачоў назіраліся ва ўсіх заходніх абласцях адразу пасля вайны, калі газеты пачалі масава друкаваць на рускай мове.

25 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 273–274.

26 П. Семёнов, *Программа КПСС о развитии советских национально-государственных отношений*, "Советское государство и право", Москва 1961, № 12, с. 2.

27 Л. Лыч, *Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі*, с. 217.

23 жніўня 1947 г. накіраваны з усходу СССР першы сакратар Пінскага абласнога камітэта партыі ў сваім лісце ў ЦК КП(б)Б пісаў: “*Пасля вайны нацыянальны склад Пінскай вобласці значна змяніўся. У раёнах вобласці засталася і працуе вялікая колькасць дэмабілізаваных з арміі грамадзян рускай нацыянальнасці. Чыгунка і водны транспарт, установы і прадпрыемствы збольшага ўкамплектаваны кадрамі рускай нацыянальнасці. Гэта частка насельніцтва пазбаўлена магчымасці чытаць і выкарыстоўваць мясцовы друк у сваёй працы ў сувязі з няведаннем беларускай мовы. Усе гэтыя абставіны прывялі да неабходнасці бюро абласнога камітэта партыі звярнуцца ў ЦК з просьбай аб дазволе выдання абласной газеты на рускай мове*”[28]. Малакалькасная руская меншасць цынічна пазбаўляла беларускую большасць права на атрыманне інфармацыі ў друку на роднай мове.

У 1960-я гг. культурныя ўстановы даволі актыўна пераходзілі на выкарыстанне рускай мовы. У 1960 г. на беларускай мове надрукавана толькі 26,5 % асобных кніжных выданняў, праз дзесяць гадоў — 19,6 %, а ў 1980 г. — 12,3 %. Змест беларускамоўнай літаратуры ў асноўным быў непрывабным для чытачоў. Здаралася так, што творы беларускіх класікаў моладзь чытала ў перакладзе на рускую мову[29].

Леанід Лыч сцвярджае, што прымусовая і пастаянна прагрэсіруючая русіфікацыя ўсіх сфер жыцця ў БССР была звязана з тым, што ў Беларусі, як у пасляваенны час, так і да пачатку перабудовы, не з’явіліся асобная сіла і сапраўдны лідар беларускага народа, якія не толькі разумелі б месца беларускай мовы і культуры ў жыцці насельніцтва, але і былі б гатовыя смела выступіць у абарону нацыянальнай самабытнасці незалежна ад наступстваў для кар’еры і нават для бяспекі свайго жыцця[30].

Варта пры гэтым прызнаць, што спробы абароны беларускай мовы і культуры ў гэты час былі. Але, можа, не такога маштабу, як хацеў бы Леанід Лыч. У 1976 г., пераважна ў асяроддзі беларускай інтэлектуальнай эліты, быў распаўсюджаны напісаны ананімным аўтарам “Ліст да рускага сябра”[31]. Ён перапісваўся ўручную і тысячамі экзэмпляраў перадаваўся з рук у рукі. У лісце адлюстроўваўся катастрафічны стан беларускай мовы, у тым ліку беларускамоўнай адукацыі. Роўныя шансы развіцця беларускай і рускай моў, пра якія гаварыла савецкая камуністычная прапаганда, аўтар параўноўваў з шансамі Чырвонага Каптурка і Шэрага Ваўка падчас іх сустрэчы ў лесе. У снежні 1986 г. група беларускіх інтэлектуалаў, занепакоеная русіфікацыяй грамадска-палітычнай і гаспадарчай сфер жыцця, накіравала М. Гарбачову ліст, у якім прасіла даць указанне ўладам БССР змяніць стаўленне да беларускай мовы і культуры. Ліст меў дадатак, дзе на сямі аркушах апісваўся прыгнечаны стан беларускай мовы[32].

---

28 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 570, арк. 438–439: Письмо секретаря Пинского ОК КП(б)Б Тетюшева к секретарю ЦК КП(б)Б Гусарову, 23.08.1947.

29 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 274–275.

30 Л. Лыч, *Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі*, с. 246.

31 Аўтарам ліста быў беларускі паэт Аляксей Каўка. Падрабязней на гэту тэму гл.: А. Кавка, *Письмо русскому другу*, “Скарыница”, 1991, с. 167.

32 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, s. 278.

Палітыку русіфікацыі ў БССР актыўна праводзілі не толькі прыехаўшыя з усходу СССР рускія, але і прызначаныя Крамлём на розныя пасады прадстаўнікі мясцовага насельніцтва. У 1970-я гг. больш за 70 % сакратароў абкамаў партыі былі беларусамі. У іх руках практычна знаходзілася ўся паўната ўлады ў рэгіёнах. Калі б яны былі нацыянальна свядомымі і сапраўднымі прадстаўнікамі беларускага народа, а не стаўленікамі Крамля, то маглі б шмат зрабіць для развіцця беларускай культуры. Іх праца, кар'ерны рост і чаканні вышэйшага кіраўніцтва ў структурах улады знаходзіліся ў супярэчнасці з нацыянальнай культурай і роднай мовай. Прыведзеная ніжэй табліца адлюстроўвае, наколькі ўплывовай сілай у супрацьдзеянні працэсу русіфікацыі маглі б стаць беларусы, якія займалі пасады сакратароў абкамаў партыі. З гэтай табліцы таксама бачна, што палякі ў сістэме палітычнай улады БССР не карысталіся поўным даверам. Яны наогул не займалі пасад сакратароў абласных камітэтаў партыі.

**Табліца 9. Сакратары абласных камітэтаў КПБ**

| **Год/** | **1946** | | **1976** | | **1981** | | **1986** | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пералік** | **Колькасць** | **%** | **Колькасць** | **%** | **Колькасць** | **%** | **Колькасць** | **%** |
| Рускія | 24 | 40,0 | 7 | 23,3 | 6 | 20,0 | 6 | 20,7 |
| Украінцы | 2 | 3,3 | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) |
| **Беларусы** | **32** | **53,3** | **23** | **76,7** | **24** | **80,0** | **23** | **79,3** |
| **Палякі** | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) |
| Габрэі | 2 | 3,3 | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) | (–) |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 3–3а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Radzieckiej 1944–1991*, Grodno-Białystok 2013, s. 366.

Беларускія партыйныя дзеячы, праводзячы русіфікацыю ў БССР, крытыкавалі тых, хто спрабаваў гэтаму супрацьдзейнічаць, напрыклад пісаў пра гэты працэс у замежных сродках масавай інфармацыі. Першы сакратар Гродзенскага абкама партыі Леанід Кляцкоў, выступаючы 4 лютага 1966 г. на XII абласной партыйнай канферэнцыі, сказаў: *"Варожую прапаганду на нашу рэспубліку, у сярэднім 11 гадзін у суткі, вяшчаюць шмат заходніх радыёстанцый. Галоўныя намаганні нацыяналістычнай прапаганды накіраваны на падрыў сяброўства паміж народамі СССР, сяброўства беларускага і рускага народаў. Адным з любімых прыёмаў буржуазных ідэалагічных дыверсантаў з'яўляецца тэзіс пра так званую "гвалтоўную русіфікацыю" беларускага народа"*[33].

Насаджэнне рускай мовы ў Беларусі, пастаянная знявага беларускай мовы і стварэнне ўмоў для яе высмейвання выклікалі агрэсію ў грамадстве да людзей, якія размаўлялі па-беларуску. Надзвычайным выпадкам такой агрэсіі стала забойства ў пачатку 1966 г. у Мінску Ігара Хадановіча за тое, што ён гаварыў на сваёй роднай мове. Уладзімір Караткевіч[34] у сваім дзённіку з нагоды гэтай трагедыі

33 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 830, арк. 22: Протокол XII Гродненской Областной Партийной Конференции, 4.02.1966.

34 Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984) — беларускі савецкі пісьменнік, паэт, драматург, сцэнарыст і публіцыст, класік беларускай літаратуры.

пісаў: *“У адзін з тых дзён хавалі бедалагу Ігара Хадановіча. Таленавіты хлопчык, бедны хлопчык. Няшчасны лёс… Гэтая свалата, якая забіла яго, і словы яе: “Раечка, подожди, я тут одного пшека научу говорить по-русски” стаяць у вушах. І вось свалоце, забойцу дадуць максымум восем год, а чалавеку, які абяцаў расьцьвісьці ў неабыякога празаіка,— магіла. Я люблю людзей, але менавіта таму гэткіх, як тое быдла, што гаспадарыць у нашым горадзе, ды яшчэ ногі на стол кладзе,— я прылюдна вешаў бы. Зьбіць, а пасьля вярнуцца з бандай яшчэ раз, навалiцца на сплываючага крывёй і дабіць”*[35].

16 жніўня 1968 г. міністр адукацыі БССР Мурашка, выступаючы на нарадзе абласнога актыву ў Брэсце, казаў: *“Школа павінна сфарміраваць у маладога пакалення камуністычны светапогляд, выхаваць вучняў у духу калектывізму, любові да сваёй радзімы, уменне рашуча супрацьдзейнічаць любым праявам буржуазнай ідэалогіі”*[36]. Удзельнікі нарады найбольш важнымі задачамі ў сферы адукацыі палічылі наступныя: узбраенне вучняў *“у моцныя веды”*, матэрыялістычны светапогляд, ідэйную ўстойлівасць і камуністычную маральнасць, падрыхтоўку школьнікаў да актыўнага палітычнага жыцця[37]. Пры гэтым ніхто не ўзгадаў аб праблемах беларускамоўнай школьнай адукацыі. Русіфікацыя ўсіх сфер дзейнасці ў вобласці, згодна з рашэннямі гэтай нарады, павінна была працягвацца.

Ва ўмовах, калі беларуская ўлада і нацыянальна свядомая частка беларускага грамадства мелі розныя мэты і памкненні, даволі цяжка было падтрымліваць і развіваць нацыянальную ідэнтычнасць беларусаў. Яшчэ больш складана было існаваць палякам. Толькі сям’я і рэшткі Каталіцкага касцёла заставаліся адзінымі асяродкамі, якія супраціўляліся дэпаланізацыі і русіфікацыі палякаў у БССР.

Савецкая ўлада няспынна праводзіла разгалінаваную і паслядоўную палітыку асіміляцыі беларускіх палякаў і інтэграцыі іх у савецкае грамадства. Яна абапіралася на тэорыю, што польскасць у Беларусі з’яўлялася наступствам шматвяковай яе акупацыі польскай дзяржавай, што тут не было карэнных палякаў, а толькі апалячаныя беларусы[38]. Таму намаганні ўлад былі накіраваныя на знішчэнне польскасці як чужога элемента ў БССР.

Пры гэтым у афіцыйным дыскурсе панавала меркаванне пра развіццё культуры, традыцый нацыянальных меншасцей. *“Насельніцтва савецкіх рэспублік з’яўляецца шматнацыянальным,—* гаварылася на XXVI з’ездзе КПСС[39].*— Таму натуральным з’яўляецца тое, што ўсе народы нашай краіны маюць права на сваё прадстаўніцтва ў партыйных і дзяржаўных органах улады.* […] *Акрамя*

[35] Падрабязней на гэту тэму гл.: У. Караткевіч, *Трэба цярабіць сваю сцежку. Дзённік 1965–1966 гадоў.* Публікацыя А. Сінькевіч, падрыхтоўка да друку П. Жаўняровіча, літаратурна-мастацкі часопіс “Дзеяслоў”, Мінск 2015, № 5, с. 226–227; С. Абламейка, *За што Караткевіч не любіў Менск*, https://www.svaboda.org/a/27373544.html, 20.11.2015.

[36] ДАБВ, ф. 1п, воп. 23, спр. 17, арк. 117: Протокол III Пленума Брестского Областного Комитета Партии, 16.08.1968.

[37] Тамсама, арк. 130.

[38] РДАНГ, ф. 5, воп. 18, спр. 60, арк. 12.

[39] Праходзіў 23 лютага — 3 сакавіка 1981 г. у Маскве.

*гэтага, яны маюць свае спецыфічныя патрэбы ў сферах мовы, культуры і звычаяў.* […] ***У нашай краіне з павагай ставяцца да нацыянальных пачуццяў і нацыянальнай годнасці кожнага чалавека*** (вылучана мною — *Т. Г.*). *КПСС змагалася і заўсёды будзе рашуча змагацца з чужымі сацыялізму праяўленнямі, такімі як шавінізм або нацыяналізм, супраць усялякага роду нацыяналістычных перагібаў. Мы выступаем супраць тэндэнцый, накіраваных на штучнае сціранне нацыянальных рысаў”*[40].

Міхаіл Гарбачоў на першым пасля пачатку перабудовы з’ездзе КПСС у 1986 г. сказаў: *“Традыцыяй нашай партыі, якая свой пачатак бярэ ад Леніна, з’яўляюцца асаблівая ўважлівасць і ўзважлівасць ва ўсім, што датычыцца нацыянальнай палітыкі, інтарэсаў кожнага народа і народнасці, нацыянальных пачуццяў, і адначасова прынцыповая барацьба з праяўленнямі нацыянальнай абмежаванасці і ганарыстасці, нацыяналізму і шавінізму, нягледзячы на тое, у якія строі яны апранаюцца”*[41].

Нацыянальная палітыка Масквы ў дачыненні да Беларусі была люстраным адбіткам палітыкі цэнтральных беларускіх улад у дачыненні да беларускіх палякаў. Масква русіфікавала БССР, а беларускія ўлады палякаў. Прыведзеная вышэй заява Гарбачова не адпавядала рэчаіснасці і адрасавалася замежным гасцям з’езда, якія не маглі ведаць рэальны стан спраў з рэалізацыяй на практыцы нацыянальнай палітыкі ў СССР.

Улічваючы палітычную сітуацыю ў Савецкім Саюзе, у тым ліку ў БССР, звязаную з перабудовай, можна прыйсці да высновы, што калі б у той час палякі Беларусі, якія займалі пасады кіраўнікоў у органах улады, а таксама ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, аб’ядналіся і стварылі нефармальную арганізацыю, абапіраючыся на канстытуцыі СССР і БССР, рашэнні з’ездаў партыі, вопыт Літвы адносна вырашэння “польскага пытання”, патрабавалі рэалізацыі сваіх канстытуцыйных правоў, то, магчыма, атрымалася б кардынальна змяніць іх становішча ў Беларусі. З-за саветызацыі і русіфікацыі так званай польскай эліты і звычайнага канфармізму з яе боку гэта не рэалізавалася і ў тых умовах ажыццявіцца не магло.

Не даводзілася чакаць ад палякаў, выхадцаў з сямей працоўных і сялян, інтэлігентаў у першым пакаленні, якія здолелі атрымаць вышэйшую адукацыю і падняцца па кар’ернай лесвіцы, дзякуючы ўладзе, нейкіх гераічных учынкаў, у выніку якіх можна было ўсё страціць. Да таго ж усе яны, без выключэння, былі ўведзены ў дарослае жыццё русіфікаванай і саветызаванай школай, у адрыве ад сваёй роднай мовы, культуры, рэлігіі і Польшчы. Шматлікія з іх, а можа быць і большасць, адчувалі сябе больш савецкімі грамадзянамі, чым палякамі. Яны бачылі двудушнасць савецкай палітычнай сістэмы, у якой права было створана напаказ, а не для дакладнага яго выканання. Яны таксама разумелі, што ў выпадку парушэння наменклатурнага правіла “не высоўвацца” іх чакалі небяспека страты ўсіх дасягненняў у працы, звальненне і цяжкасці з працаўладкаваннем.

---

40 *XXVI Zjazd Komunistycznej Partii Związku Radzieckiego. Podstawowe dokumenty*, Warszawa 1981, s. 89.

41 *XXVII Zjazd komunistycznej Partii Związku Radzieckiego. Podstawowe dokumenty*, Warszawa 1986, s. 84.

Вялікая доля адказнасці за няспынную русіфікацыю беларускіх палякаў пасля смерці Сталіна і XX з’езда КПСС, а таксама падчас хрушчоўскай адлігі ляжыць на камуністычных уладах Польскай Народнай Рэспублікі. ПНР не толькі не выкарыстала гэтыя гістарычныя падзеі, каб дапамагчы беларускім палякам у адраджэнні польскамоўнай адукацыі і польскай культуры, садзейнічаць аб’яднанню палякаў у культурна-асветныя таварыствы па прыкладзе беларусаў у Польшчы[42], але нават дыпламатычныя прадстаўніцтвы — пасольства ў Маскве[43] і Генеральнае консульства ў Мінску — не падтрымлівалі ніякіх сувязей з польскай нацыянальнай меншасцю ў БССР. Варта таксама адзначыць, што, нягледзячы на вялікую колькасць праведзеных двухбаковых польска-савецкіх сустрэч, ніколі ў перыяд з 1956 да 1986 г. польскія дыпламаты не падымалі пытанняў культурна-асветнай дзейнасці палякаў у БССР і магчымасці польскамоўнай адукацыі[44].

Адсутнасць распрацаванай палітыкі польскіх улад у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці ў БССР яшчэ больш развязвала рукі кіраўніцтву Савецкага Саюза і Савецкай Беларусі, якія актыўна праводзілі дэпаланізацыю і татальную русіфікацыю беларускіх палякаў.

Усё гэта разам узятае паўплывала на тое, што ў 1956–1986 гг. у БССР не адбылося адраджэння польскага культурна-адукацыйнага жыцця, у адрозненне ад суседняй Літвы. Польскія дзеці і моладзь былі пазбаўлены магчымасці не толькі навучацца на роднай мове, але, больш за тое, не маглі нават вывучаць польскую мову ў беларускіх школах насуперак раней прынятым партыйным рашэнням і ўказанням. Праводзіліся мэтанакіраваныя русіфікацыя і дэпаланізацыя палякаў, а таксама прымусовае далучэнне іх да савецкай супольнасці. Менавіта на гэтых прынцыпах грунтавалася нацыянальная палітыка беларускіх камуністычных улад, якія служылі вялікадзяржаўным інтарэсам Крамля, а не ўласнаму народу. Пры гэтым варта зазначыць, што прызначаныя Масквой партыйныя і савецкія ўлады Беларусі не маглі па-іншаму ставіцца да палякаў, калі не менш зневажальна адносіліся да беларускай мовы і культурных патрэб беларусаў.

---

42 Дазволіўшы ў 1956 г. беларусам у Польшчы стварыць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, а таксама друкаваць штотыднёвік “Ніва”, улады ПНР маглі патрабаваць узамен у Масквы пэўных саступак у нацыянальнай палітыцы, датычнай палякаў у БССР.

43 Пра бяздзейнасць польскага пасольства ў Маскве па пытанні польскай нацыянальнай меншасці ў БССР гл.: S. Uszakiewicz, *Być Polakiem*, “Głos znad Niemna”, 1992 nr 3 (14).

44 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Stosunki dyplomatyczne Polski 1944–1977 r. Informator*, t. 1: *Europa — państwa socjalistyczne*, Warszawa 1978.

## 2. Саветызацыя польскай супольнасці ў БССР

Пасля вайны былыя паўночна-ўсходнія тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай Савецкі Саюз разглядаў у якасці законна і справядліва вернутых у свой склад, бо раней яны належалі Расійскай імперыі. У сучаснай Расіі такі погляд зрабіўся краевугольным каменем новай гістарычнай палітыкі, апалагетам якой лічыцца прафесар Наталля Нарачніцкая[45]. Трэба зазначыць, што ва ўмовах існавання незалежнай Беларусі такі падыход з’яўляецца вельмі небяспечным, бо бярэ пад сумненне прыналежнасць гэтых зямель беларускай дзяржаве. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР галоўнай задачай для Крамля стала яе ўніфікацыя і інтэграцыя з усходнебеларускімі абласцямі. З мэтай хутчэйшага і паспяховага выканання гэтай задачы Заходняй Беларусі навязвалася савецкая сістэма палітычнага, эканамічнага, духоўнага і грамадскага жыцця, іншымі словамі, адбывалася саветызацыя гэтых зямель.

Галоўная ідэя афіцыйнай палітыкі маскоўскіх улад і іх стаўленікаў у БССР зводзілася да таго, што ў Беларусі палякаў не было, а тыя, хто дэклараваў сваю польскую нацыянальнасць, з’яўляліся апалячанымі беларусамі[46]. Таму асноўнай задачай органаў улады была інтэнсіўная саветызацыя польскамоўных беларусаў[47]. Пры гэтым выкарыстоўваліся ўсе магчымыя сродкі.

Савецкая дзяржава, рэалізуючы афіцыйную ідэалогію пралетарскага інтэрнацыяналізму, стварала для сваіх унутраных патрэб палітычны міф савецкага народа — шматнацыянальнага, рускамоўнага, адарванага ад нацыянальных і традыцыйных культурных каранёў[48]. Саветызацыю зазнала ўсё мясцовае насельніцтва Заходняй Беларусі, асабліва палякі і польскамоўныя беларусы.

На думку начальніка Брэсцкага абласнога ўпраўлення КДБ Цімчанкі, мясцовыя палякі, а таксама палякі, якія перыядычна прыязджалі з Польшчы ў БССР, з’яўляліся сур’ёзнай перашкодай на шляху паспяховай саветызацыі Брэсцкай вобласці. Небяспека была ў тым, што яны нібыта падбухторвалі мясцовае насельніцтва па прыкладзе Польшчы дамагацца роспуску калгасаў, вяртання вернікам касцёлаў і вывучэння рэлігіі ў школах[49]. Лічылася, што са-

---

45 У сваіх шматлікіх тэлевізійных выступленнях на тэму Другой сусветнай вайны галоўным вінаватым у яе развязванні Нарачніцкая крывадушна лічыць Польшчу, якая не дазволіла Чырвонай арміі прайсці праз сваю тэрыторыю дзеля аказання дапамогі Чэхаславакіі ў вайне з гітлераўскай Германіяй. Больш за тое, яна публічна заяўляе, што нібыта рыхтаваўся сумесны паход Польшчы і Германіі супраць СССР. Апошняе, на яе думку, прымусіла Савецкі Саюз падпісаць пакт Молатава-Рыбентропа, які падзяліў Польшчу паміж двума агрэсарамі, што развязалі вайну.
Падрабязней на гэту тэму гл.: Н. Нарочницкая, *Партитура Второй мировой. Кто и когда начал войну?,* Москва 2009; яна ж, *Великие войны XX столетия,* Москва 2007.

46 РДАСПГ, ф. 5, воп. 18, спр. 60, арк. 12–13.

47 Тамсама, арк. 13. Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543: Докладные записки ЦК КП(б) Белоруссии в ЦК ВКП (б) (Копии). Начато 21 апреля 1947, окончено 31 декабря 1947.

48 Z. J. Winnicki, *Uwagi o wpływie i skutkach stosowania niektórych metod i środków depolonizacji na obszarze Ziem Białoruskich, na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie*, [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, red. E. Skrobocki, Grodno 2003, s. 34.

49 ДАБВ, ф. 1п, воп. 13, спр. 20, арк. 17: Протокол VI Пленума Брестского Областного Комитета Партии, 27.12.1956.

ветызацыі перашкаджалі таксама польскамоўныя заходнія радыёперадачы, якія трансліраваліся на Беларусь з ЗША і Германіі (пераважна з г. Мюнхена). Загадчык аддзела агітацыі і прапаганды абласнога камітэта партыі ў Брэсце Шумілін у сувязі з гэтым казаў: *"На тэрыторыі нашай вобласці вельмі дрэнна заглушваюць радыёперадачы Бі-бі-сі, "Толасу Амерыкі" і Радыё "Свабода". А што датычыцца перадач гэтых варожых нам радыёстанцый на польскай мове, то яны наогул не заглушаюцца, аднак мы ведаем, што большасць нашага насельніцтва добра ведае польскую мову. У сувязі з гэтым нам неабходна прыняць усе меры, каб гэтыя станцыі заглушыць"*[50].

Толькі ў адной Брэсцкай вобласці да працы, звязанай з саветызацыяй палякаў і беларусаў, у 1957 г. было прыцягнута больш за 20 тысяч агітатараў, праведзена радыёфікацыя 1 360 мясцовасцей (што складала 57 % ад агульнай іх колькасці), усталяваныя 118 тысяч радыёпрыёмнікаў[51]. Пры гэтым існаваў супраціў правядзенню саветызацыі. Выступаючы на абласной партыйнай канферэнцыі 21 лютага 1968 г., начальнік Брэсцкага абласнога ўпраўлення КДБ адзначыў, што толькі ў 1967 г. на мяжы было затрымана 5 тысяч "ідэалагічна шкодных матэрыялаў". У Брэсце выяўлена некалькі моладзевых груп, якія выступалі з крытыкай савецкай улады, у Лунінецкім раёне арыштаваны настаўнік, які адправіў за мяжу антысавецкія матэрыялы[52]. З гэтага выступлення старшыні КДБ бачна, пад якім пільным кантролем знаходзілася заходнебеларускае грамадства, а таксама шчыльнае ўзаемадзеянне беларускіх і польскіх службаў бяспекі.

Канчатковай мэтай саветызацыі мясцовага насельніцтва заходніх абласцей Беларусі было выхаванне новага савецкага чалавека, бязмежна адданага ідэалам КПСС і савецкага ўрада. У выпадку з палякамі дадаткова прадугледжваліся іх дэпаланізацыя і атэізацыя.

Працэс пазбаўлення палякаў нацыянальнай самасвядомасці і веры складаўся з наступных элементаў:

— дыскрымінацыі палякаў у грамадска-палітычным жыцці;

— узмоцненай прапагандысцкай кампаніі, якая пераконвала ў тым, што мясцовыя палякі з'яўляліся апалячанымі беларусамі;

— стварэння комплексу спецыяльных прывілеяў для палякаў, якія адмаўляліся ад сваіх польскіх каранёў;

— стварэння ў БССР умоў, у якіх немагчыма было адрадзіць польскамоўную адукацыю і выкладанне ў школах польскай мовы ў якасці роднай дзецям з польскіх сямей; а таксама выкарыстання любых сродкаў, каб выціснуць польскую мову з усіх сфер штодзённага жыцця;

— адрыву ад каталіцкай веры і Каталіцкага касцёла.

---

50 Тамсама, арк. 21.

51 ДАБВ, ф. 1п, воп. 14, спр. 15, арк. 6, 15: Протокол VIII Пленума Брестского Областного Комитета КПБ, 18.10.1957.

52 ДАБВ, ф. 1п, воп. 23, спр. 23, арк. 143–144: Протокол XIV Брестской Областной Партийной Конференции, 21.02.1968; ДАРФ, ф. Р-6991, воп. 6, спр. 153, арк. 16.

*I. Дыскрымінацыя палякаў у грамадска-палітычным жыцці*

Паскораная і прымусовая русіфікацыя, а таксама барацьба з Каталіцкім касцёлам былі аднымі з галоўных элементаў дыскрымінацыі палякаў і парушэння іх канстытуцыйных правоў. Апроч таго, да 1970-х гг. існавалі шматлікія перашкоды для паступлення палякаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы[53]. Палякі і беларусы, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў міжваеннай Польшчы, з вялікімі цяжкасцямі знаходзілі працу па сваёй спецыяльнасці. Гэта стала адной з прычын таго, што значная іх частка выехала з БССР у Польшчу падчас перасялення і рэпатрыяцыі[54]. Савецкая ўлада такім чынам садзейнічала выезду за межы Беларусі найбольш патрыятычна настроеных і нацыянальна свядомых палякаў, каб хутчэй асіміляваць тых, хто застанецца. Усё гэта было накіравана на знішчэнне польскасці ў Беларусі.

Вельмі малая колькасць палякаў, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў 1940-я — 1950-я гг., а таксама адсутнасць да іх палітычнага даверу — вось прычыны таго, што ў гэты перыяд ніхто з іх не займаў высокіх пасад у партыі і ў савецкіх органах улады ў БССР[55]. Напрыклад, у Сапоцкінскім раёне, дзе больш за 90 % насельніцтва складалі палякі, у 1958 г. сярод 33 спецыялістаў толькі 2 чалавекі былі палякамі, пры гэтым яны мелі сярэднюю адукацыю[56]. Да канца 1940-х — пачатку 1950-х гг. палякаў з БССР, нягледзячы на тое, што яны былі грамадзянамі Савецкага Саюза, не прызывалі ў армію[57]. Улады адносілі іх да палітычна ненадзейнага элемента. Палякі, якія працавалі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і дзяржаўных установах, знаходзіліся пад пастаянным кантролем сваіх начальнікаў, партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый[58]. Толькі ў пачатку 1970-х гг. некаторыя з іх здолелі падняцца па кар'ернай лесвіцы і заняць пасады кіраўнікоў у партыйным і адміністратыўным апаратах ніжэйшага і сярэдняга звяна[59]. Аднак іх

[53] М. Дабрынін, *Палякі заходняй Беларусі: "Сучасны стан і перспектывы развіцця роднай мовы"*, [у:] *Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі*, ч. 2, Брэст 1988, с. 252.

[54] НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 40: Служебные записки ЦК КП(б)Б, высланные в ЦК ВКП(б), 21.04.-31.12.1947.

[55] Негатыўнае стаўленне палякаў да савецкага ладу праяўлялася, як правіла, ва ўсіх палітычных кампаніях, якія праводзіліся ўладамі. Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Wialiki, *Polacy w BSRR w latach 1944–1989;* М. Дабрынін, *Палякі заходняй Беларусі: "Сучасны стан і перспектывы развіцця роднай мовы"*, [у:] *Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі*, ч. 2, Брэст 1988, с. 252; *Polska mniejszość narodowa na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności*, red. Z. J. Winnicki i T. Gawin, Białystok 2010, s. 56.

[56] ДАГАГВ, ф. 8, воп. 14, спр. 7, арк. 91–93: Информация о работе организационно-партийной, комсомольской, промышленности, сельского хозяйства, о работе сельских советов и торговли Сопоцкинского РК КП(б)Б от 31.05.1955 до 31.03.1959.

[57] ДАГАГВ, ф. 8, воп. 1, спр. 17, арк. 13–16: Постановления, решения, письма партийных, советских хозяйственных органов о промышленности, сельском хозяйстве, о идеологической и административной работе от 20.02.1948 до 13.10.1948.

[58] Падрабязней на гэту тэму гл.: Э. Ярмусик, *Католический Костёл в Беларуси в 1944–1990 годах*, Гродно 2006, с. 313–332.

[59] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 969, арк. 1–262; Тамсама, спр. 970, арк. 1–285; спр. 1100, арк. 1–305; спр. 1101, арк. 1–293: Анкеты поляков — участников XIV і XVI Гродненских областных партийных конференций.

удзел у структурах улады, у параўнанні з рускімі, беларусамі і ўкраінцамі, быў нязначны і малакольскасны.

Камуністычная партыя ў сістэме палітычнай улады ў БССР выконвала, паводле канстытуцыі, кіруючую і накіроўваючую ролю. Беспартыйныя не мелі магчымасці займаць адказныя пасады фактычна ва ўсіх сферах. Кадры на гэтыя пасады ў асноўным вылучалі абласныя і раённыя камітэты партыі, у якіх у 1956–1986 гг. колькасць палякаў была нязначнай[60]. Калі савецкае кіраўніцтва дазваляла сабе дыскрымінаваць па нацыянальнай прыкмеце палякаў членаў КПСС, то, безумоўна, яно з лёгкасцю дыскрымінавала тых палякаў, якія не былі ў партыі.

*II. Узмоцненая прапагандысцкая кампанія, якая пераконвала мясцовых палякаў у тым, што яны з'яўляюцца апалячанымі беларусамі*

Пасляваенная савецкая гістарыяграфія актыўна прапагандавала тэзіс аб тым, што палякі, якія засталіся ў Беларусі, з'яўляюцца акаталічанымі, паланізаванымі беларусамі, у лепшым выпадку касцельнымі палякамі, а часцей — беларусамі-каталікамі[61]. Канчатковай мэтай гэтай ідэалагічнай кампаніі савецкай улады было змяншэнне польскага асяродка ў БССР, а ў далейшай перспектыве — яго поўная адсутнасць. Рэалізацыяй гэтай мэты з асаблівай руплівасцю займалася савецкая школа, якая выхоўвала дзяцей з польскіх сямей такім чынам, каб тыя саромеліся сваёй нацыянальнасці, культуры, гісторыі і польскай мовы, варожа ўспрымалі польскасць[62].

Палітыка дэпаланізацыі асабліва актыўна праводзілася падчас перапісу насельніцтва, калі палякам прыпісвалася іншая нацыянальнасць. Насуперак пратэстам і дакументальнаму пацвярджэнню польскай нацыянальнасці, іх запісвалі беларусамі і рускімі. Такім чынам, часцей адбывалася так, што польскаму насельніцтву не ўдавалася захаваць сваю нацыянальнасць. Асабліва гэта датычылася дзяцей з беларуска-польскіх сямей, большасць якіх супраць волі бацькоў запісвалі беларусамі[63]. Яркім прыкладам такога адміністрацыйнага гвалту над асобай з'яўляюцца ўспаміны старшыні сельскага савета з в. Касцяневічы Таісіі Палянскай, якая распавядала, якім чынам праводзіўся перапіс у 1979 г.: "[…] *Была такая ўстаноўка, што ў Беларусі мы ўсе беларусы. А каталікі хацелі быць палякамі. Праваслаўныя запісваліся беларусамі. А з каталікамі даводзілася гутарыць, доўга даказваць, каб беларусамі сталі. У нас жа больш за 4 000 чалавек было ў сельсавеце. А пасля рэзка пайшло*

60 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 376–383.

61 Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna i historiografia białoruska,* s. 71.

62 Падрабязней на гэту тэму гл.: Z. J. Winnicki, *Uwagi o wpływie i skutkach stosowania niektórych metod i środków depolonizacyjnych na obszarze Ziem Białoruskich na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie,* [у:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, red. E. Skrobocki, Grodno 2003, s. 45; ён жа, *Metody osłabiania poczucia świadomości narodowej. Uwagi o wpływie i skutkach zastosowania niektórych metod i środków depolonizacyjnych na obszarze Ziem Białoruskich na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie*, "Magazyn Polski" 2002, nr 3–4 (24–25), s. 24–31.

63 В. Карбалевич, *Место Польши в политике Беларуси*, [у:] *Наш радавод,* Гродна-Беласток 1999 (2000), кн. 8, с. 575.

*ўніз*”[64]. Аналагічныя гісторыі дэпаланізацыі палякаў у Іўеўскім, Ашмянскім, Смаргонскім і Астравецкім раёнах тагачаснай Маладзечанскай вобласці ўзгадваў у сваіх успамінах беларускі настаўнік з Ліды Леанід Бондар[65]. Палякам, якія дабіліся пэўных чыноў у савецкай арміі, ваенна-марскім флоце, памежных войсках і іншых ваенных фарміраваннях, прапаноўвалі змяніць польскую нацыянальнасць на любую іншую, абраную па асабістым жаданні[66], або адбывалася так, што яны самі добраахвотна запісваліся беларусамі ці рускімі[67].

Сродкі масавай інфармацыі адыгрывалі даволі значную ролю ў антыпольскай прапагандзе. Кіно, тэлебачанне, радыё і друк актыўна ўпэўнівалі палякаў у тым, што яны з'яўляюцца беларусамі. Уся гэтая агітацыйная кампанія была накіравана ў першую чаргу на моладзь, каб маладыя людзі, атрымліваючы пашпарт ці ваенны білет, запісваліся беларусамі або рускімі. Прыклады такога кшталту гісторый даволі часта змяшчаліся на старонках газеты "Głos znad Niemna"[68].

*III. Стварэнне комплексу спецыяльных прывілеяў для палякаў, якія адмаўляліся ад сваіх польскіх каранёў*

Палякі, зацікаўленыя ў прасоўванні па кар'ернай лесвіцы, часта мусілі адмаўляцца ад польскай нацыянальнасці, мовы і культуры. Такое патрабаванне не было замацавана афіцыйнымі дырэктывамі або ўказаннямі. Палітычная атмасфера ў Савецкім Саюзе, пабудаваная на падмане, гвалце і двудушнасці ўлад, схіляла палякаў да адмовы ад сваёй польскасці. Гэта настолькі заблытвала сітуацыю з нацыянальнай ідэнтычнасцю, што ў членаў адной сям'і ў дакументах маглі быць запісаны тры розныя нацыянальнасці. Напрыклад, Мечыслаў Грыб (генерал-лейтэнант міліцыі ў адстаўцы, былы старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь) паходзіў з падобнай сям'і. Сам Мечыслаў называе сябе праваслаўным беларусам, яго бацька ў 1944 г., каб быць мабілізаваным не ў савецкую армію, а ў польскую, запісаўся палякам, маці доўгі час вагалася з перасяленнем у Польшчу, родная сястра называе сябе полькай-каталічкай. Цяжка ўявіць, што М. Грыб ва ўмовах савецкай палітычнай сістэмы змог бы так высока падняцца па кар'ернай лесвіцы, захаваўшы польскую ідэнтычнасць і каталіцкае веравызнанне[69].

Іншым яркім прадстаўніком партыйнай і савецкай наменклатуры, які зрабіў кар'еру ў часы БССР, быў Мечыслаў Гіруць, выхадзец з польскай каталіцкай сям'і. Ён займаў пасады першага сакратара Ваўкавыскага раённага камітэта партыі, а таксама намесніка старшыні Гродзенскага абласнога

64 З. Бартосік, *Герой Савецкага Саюза — дзетазабойца? 04.12.2014 г.,* http://www.svaboda.org/a/hieroj-savieckaha-sajuza-dzietazabojca/26723536.html#relatedInfoContainer, [24.06.2016].

65 Л. Бондар, "*Аб польскай і рускай веры*", "Уперад", 25.03.1988.

66 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 387–388.

67 A. Jakowlew, *Wspomnienia własne. Pamiętniki Polaków na Wschodzie. Białoruś, Ukraina, Kazachstan — losy pokoleń,* t. 1, Warszawa 2006, s. 41.

68 T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, s. 77.

69 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 389–390.

выканаўчага камітэта. Пасля вайны ён і яго бацькі гвалтоўна былі запісаны беларусамі. А родныя брат і сястра захавалі польскую нацыянальнасць. Вышэйшае кіраўніцтва, ведаючы гісторыю сям'і Мечыслава Гіруця, не дазваляла яму займаць больш значныя пасады[70].

Старшыня Гродзенскага раённага выканаўчага камітэта Раман Алізаровіч (выхадзец з польскай патрыятычнай каталіцкай сям'і) не адмовіўся ад сваёй нацыянальнасці. Ён займаў пасаду старшыні больш за 20 гадоў. За гэты час раён па сельскагаспадарчых паказчыках часта быў лепшым у вобласці, у БССР і нават ва ўсім Савецкім Саюзе. Пры гэтым кіраўнікі раёнаў, якія не мелі такіх дасягненняў, у адрозненне ад Алізаровіча хутка прасоўваліся па службе, іх ганаравалі званнем Героя Сацыялістычнай Працы. З такімі дасягненнямі ў працы, а таксама працаздольнасцю, чалавек з беларускай або рускай нацыянальнасцю ў пашпарце вельмі хутка зрабіў бы бліскучую кар'еру[71].

*IV. Стварэнне ў БССР умоў, у якіх немагчыма было адрадзіць польскамоўную адукацыю і выкладанне ў школах польскай мовы ў якасці роднай дзецям з польскіх сямей; а таксама выкарыстанне любых сродкаў, каб выціснуць польскую мову з усіх сфер штодзённага жыцця*

Улады БССР, у параўнанні з кіраўніцтвам іншых савецкіх рэспублік, вельмі актыўна змагаліся са спробамі адраджэння навучання на польскай мове і з выкладаннем яе ў школах. Першае, што яны зрабілі, гэта парушылі ўзяты на сябе абавязак арганізацыі вывучэння польскай мовы ў школах, перапрафіляваных з польскамоўных у рускамоўныя ці ў школы з беларускай мовай навучання. Па-другое, улады БССР не згадзіліся з меркаваннем камісіі ЦК КПСС, якая ў выніку праведзенай у 1954 г. праверкі лічыла магчымым аднавіць выкладанне польскай мовы ў школах у заходнебеларускіх абласцях згодна з жаданнем мясцовых палякаў. Супраць такога рашэння асабліва катэгарычна выступалі сакратары ЦК КПБ Патолічаў і Гарбуноў, сакратары Гродзенскага абласнога камітэта партыі Панамароў і Мачулін, а таксама сакратар Маладзечанскага абласнога камітэта КПБ Прытыцкі. Меркаванне гэтых камуністаў для ЦК КПСС стала вырашальным[72]. Апошняя магчымасць адраджэння выкладання польскай мовы ў школах была страчана ў траўні 1955 г., калі ўлады БССР праігнаравалі распараджэнне Савета Міністраў СССР № 3947Р ад 9 траўня 1955 г., якое дазваляла дзецям палякаў вывучаць польскую мову ў якасці роднай[73]. Кіраўніцтва абласцей, утойваючы гэты дакумент пры падтрымцы рэспубліканскіх улад, імкнулася далей рэалізоўваць палітыку дэпаланізацыі і русіфікацыі беларускіх палякаў.

70 Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 390.

71 Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 390–391.

72 Падрабязней на гэту тэму гл.: РДАНГ, ф. 5, воп. 18, спр. 60, арк. 8–17; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 368–376.

73 ДАГВ, ф. 1171сч, воп. 2, спр. 591, арк. 38.

Польская мова фактычна была выціснута з усіх сфер штодзённага жыцця. Нешматлікімі асяродкамі, дзе яшчэ размаўлялі на ёй, былі сям'я і Каталіцкі касцёл. Палякі, якія жылі ў памежнай з Польшчай паласе, мелі яшчэ адну магчымасць для практыкавання польскай мовы: прагляд польскага тэлебачання і праслухоўванне радыё. Нягледзячы на тое, што ПНР была палітычным саюзнікам СССР і членам Варшаўскага дагавора, яе тэлебачанне начальнік Гродзенскага ўпраўлення КДБ на XIV абласной партыйнай канферэнцыі ў студзені 1971 г. назваў каналам варожай для СССР прапаганды[74].

*V. Адрыў ад каталіцкай веры і Каталіцкага касцёла*

Пасля XX з'езда КПСС у 1956 г. у Савецкім Саюзе рабіліся спробы дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця. Але ў дачыненні да рэлігіі "адлігі" не адбылося[75], наадварот, у 1955–1964 гг. рэалізоўвалася агрэсіўная атэістычная кампанія. У гэты перыяд у заходніх абласцях БССР было закрыта больш за 100 касцёлаў, тысячы прыдарожных крыжоў і капліц знішчаны. У адрозненне ад Сталіна, які фізічна вынішчаў духавенства і вернікаў, Хрушчоў прыгнятаў іх маральна[76]. У публічных дакументах і ў выступленнях прадстаўнікоў савецкай улады гаварылася пра існаванне свабоды сумлення і рэлігіі ў СССР, але ў рэальнасці правы вернікаў абмяжоўваліся. Зразумела гэта з выступлення супрацоўніка Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР Ціткова, які на міжрэспубліканскім семінары прапагандыстаў навуковага атэізму ў г. Арджанікідзэ ў Паўночна-Асецінскай АССР 26 снежня 1963 г. казаў: *"Не дапускаць прымянення асуджаных партыяй метадаў адміністравання ў дачыненні да рэлігійных аб'яднанняў і служкаў культу — гэта не пажаданне, а патрабаванне ЦК КПСС, і асобы, якія замахваюцца на свабоду веры і богаслужэння для грамадзян усіх веравызнанняў, павінны атрымаць строгае пакаранне"*[77]. Выступленне Ціткова газеты надрукавалі за выключэннем прыведзенага вышэй фрагмента.

У перыяд хрушчоўскай адлігі храмы не толькі закрываліся, але і разбураліся. 29 лістапада 1961 г. у Гродне быў падарваны помнік гісторыі і культуры, касцёл XIV ст. — Фара Вітаўта[78]. У краіне ваяўнічага атэізму іншы сцэнарый быў немагчымы. За два месяцы да знішчэння храма начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення КДБ Іваноў на X партыйнай канферэнцыі сцвярджаў: "[…] *Імперыялістычныя разведкі і варожыя элементы ўнутры дзяржавы для арганізацыі падрыўной працы супраць нашай дзяржавы шырока выкарыстоўваюць рэлігійны фанатызм вернікаў. Рэлігія з'яўляецца*

74 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 968, арк. 157: Стенограмма Гродненской областной партийной конференции, 28–29.01.1971.

75 Э. Ярмусик, *Католический костёл в Беларуси*, с. 319.

76 R. Miedwiediew, *Chruszczow. Biografia polityczna*, Warszawa 1990, s. 257.

77 ДАРФ, ф. Р-6991 воп. 3, спр. 1423, арк. 221.

78 Падрабязней на гэту тэму гл.: Portal informacyjny, *Wschodnia Gazeta Codzienna*, Kresy24.pl/belsat.eu/zpb.org, [20.12.2012]; В. Саяпин, *Гродненские костёлы. Послевоенная история, документы и фотографии,* Гродно 2012, с. 31–52.

*надзейным прыкрыццём шпіянажу і дыверсіі"*[79]. Працягваючы сваё выступленне з надуманымі абвінавачваннямі ў бок каталікоў, Іваноў зазначыў, што "*галоўнай дыверсійнай сілай агрэсіўнага паўночна-атлантычнага блока НАТА і яго разведак з'яўляецца Ватыкан і Каталіцкі касцёл.* […] *Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што пад маскай служкаў рэлігійнага культу або актыўных вернікаў даволі часта хаваюцца небяспечныя дзяржаўныя злачынцы, дэмаралізаваныя асобы, дармаеды, якія імкнуцца жыць за кошт другіх, а таксама іншыя падонкі чалавечага грамадства"*[80]. Нягледзячы на абсурднасць гэтых меркаванняў, яны ўспрымаліся прадстаўнікамі органаў улады ў якасці праўдзівых.

Улады БССР выкарыстоўвалі розныя спосабы пабудовы безрэлігійнага грамадства. Паводле савецкіх законаў дзецям забаранялася наведваць богаслужэнні, а святарам, як і бацькам, займацца іх духоўным выхаваннем. Настаўнікі абавязаны былі сачыць за тым, каб вучні не хадзілі ў касцёл. Тым не менш арганізоўваліся тайныя рэлігійныя курсы, дзе дзеці атрымлівалі мінімальную духоўную адукацыю і рыхтаваліся да першай споведзі[81]. Тыя палякі, якія займалі пасады кіраўнікоў у органах улады, часта хрысцілі сваіх дзяцей у касцёлах Літвы, там жа дзеці прыступалі да першай споведзі[82].

У гэты перыяд улады ў Маскве і Мінску былі асабліва занепакоены падрыхтоўкай ІІ Ватыканскага Сабору. Лічылася, што ён будзе мець антыкамуністычны характар[83]. 7 лютага 1964 г. Прэзідыум ЦК КПБ прыняў пастанову "Аб мерапрыемствах па далейшым узмацненні атэістычнага выхавання насельніцтва", паводле якой трэба было пашырыць кола ідэалагічнага актыву, што змагаўся з рэлігіяй. Прапаноўвалася ўкараніць такія формы прапаганды, як навукова-практычныя канферэнцыі, клубы атэістаў, тэматычныя вечары, школы мінімальных ведаў аб прыродзе і іншыя. Да гэтай дзейнасці прыцягвалі інтэлігенцыю — выкладчыкаў ВНУ, навуковых супрацоўнікаў, настаўнікаў, урачоў, супрацоўнікаў культурна-адукацыйных устаноў. У Гродне антырэлігійнай прапагандай актыўна займаўся выкладчык педагагічнага інстытута Якаў Мараш[84]. Ва ўсіх установах, на заводах, фабрыках і ў калгасах праводзілася атэістычная дзейнасць[85]. Пры гэтым трэба зазначыць, што каталікі супольна і арганізавана супраціўляліся антырэлігійнай палітыцы дзяржавы.

Начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення КДБ К. Кузняцоў наступным чынам характарызаваў рэлігійную сітуацыю ў Гродзенскай вобласці ў пачатку 1970-х гг.: "*У нашай вобласці ў параўнанні з іншымі абласцямі*

[79] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 734, арк. 288: Протокол X Гродненской Областной Партийной Конференции, 6–7.09.1961.

[80] Тамсама, арк. 288.

[81] T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 16.

[82] Э. Ярмусик, *Католический Костёл в Беларуси*, с. 15.

[83] ДАРФ, ф. Р-6991, воп. 2, спр. 461, арк. 35: Материалы, касающиеся подготовки к II Ватиканскому Собору в Риме (информации, информационные записки), 14.05.1962–28.09.1962.

[84] ДАГАГВ, ф. 5910, воп. 1, спр. 49, арк. 39–45.

[85] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 74, спр. 9, арк. 128.

*рэспубліці захавалася значная колькасць касцёлаў. Калі па ўсёй рэспубліцы іх засталося 106, то ў нашай — 67. У 38 з іх функцыянуюць ксяндзы. Палова з іх была асуджана ў мінулым за антысавецкую дзейнасць. Каталіцкае духавенства прадстаўляе сабой арганізаваную рэакцыйную сілу, якая адмоўна ўплывае на вернікаў, а таксама на палітычную сітуацыю ў вобласці. Яны займаюць непрымірымую пазіцыю па пытанні рэлігіі, спрабуюць вывесці касцёл з-пад дзяржаўнага кантролю і стварыць апазіцыю сацыялістычнаму ладу.* […] *За "падрыўную" дзейнасць у 1969–1970 г. датэрмінова былі высланы назад у ПНР 7 ксяндзоў, якія праводзілі свой адпачынак у Гродзенскай вобласці*"[86]. Падрыўная дзейнасць святароў зводзілася да таго, што яны з дазволу мясцовых ксяндзоў удзельнічалі ў набажэнствах або самі іх праводзілі. Кузняцоў выступіў з прапановай, каб усіх, хто супрацiўляецца закрыццю касцёлаў, прыцягвалі да крымінальнай адказнасці[87]. Ён таксама казаў, што ў Гродне раскрыта чарговая антысавецкая група, якая *"з варожых пазіцый асуджала палітыку КПСС і савецкага ўрада"*, і члены яе нібыта імкнуліся стварыць падполле для вядзення палітычнай барацьбы з існым ладам[88]. У гэты перыяд павялічылася колькасць знішчаных агітацыйных матэрыялаў, партрэтаў і бюстаў Уладзіміра Леніна. У 1970 г. было 7 такіх выпадкаў, адзін з іх адбыўся ў будынку абласнога выканаўчага камітэта, дзе не толькі быў пашкоджаны бюст Леніна, але і падпалены кабінет[89].

У канцы 1970-х гг. антырэлігійная кампанія яшчэ больш узмацнілася, гэта было звязана з выбарам Яна Паўла ІІ на пасад Папы Рымскага. Дзейнасць беларускіх улад прывяла да таго, што ў 1979 г. у БССР засталося толькі 88 дзеючых касцёлаў са святарамі. Апроч таго, было яшчэ 24 касцёлы, у якіх ніводнаму з ксяндзоў не дазвалялася праводзіць службы[90]. У снежні 1980 г. сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін з Мінска казаў, што рэлігійная сітуацыя ў Гродзенскай вобласці была самай складанай у БССР[91].

Забастоўка ў жніўні 1980 г. у Гданьску, падпісанне дамоў паміж яе ўдзельнікамі і польскімі ўладамі, стварэнне незалежнага прафесійнага саюза "Салідарнасць" безумоўна ўплывалі не толькі на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Польшчы, але таксама на суседнія краіны, у тым ліку і на СССР[92]. Так, першы сакратар Гродзенскага абласнога камітэта партыі Леанід Кляцкоў на гэты конт казаў: "[…] *У сувязі з апошнімі падзеямі ў ПНР, выкарыстаннем нашымі класавымі ворагамі рэлігіі для дыверсійных мэт, у вобласці назіраецца некаторы рост актыўнасці ў выкарыстанні рэлігіі для ідэалагічных дыверсій* […], *павелічэнне*

86 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 968, арк. 161–162: Стенограмма XIV Гродненской Областной Партийной Конференции, 28–29.01.1971.

87 Тамсама, арк. 163–164.

88 Тамсама, арк. 158.

89 Тамсама, арк. 160.

90 A. Hlebowicz, *Kościół w niewoli*, s. 36.

91 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 1322, арк. 163,165: Протокол XVIII Гродненской Областной Партийной Конференции, 25–26.12.1980.

92 Падрабязней на гэту тэму гл.: L. Wałęsa, *Droga nadziei*, Kraków 1990.

*рэлігійнай актыўнасці духавенства і вернікаў. Гэта праяўляецца ў іх патрабаваннях, якія датычацца адкрыцця раней знятых з рэгістрацыі касцёлаў, у групавой катэхізацыі дзяцей і марудным скарачэнні рэлігійных абрадаў*”[93].

Варта адзначыць, што з восені 1980 г. на ажыўленне рэлігійнага жыцця ў заходнебеларускіх абласцях паўплывала трансляцыя па першай праграме польскага радыё святочных і нядзельных набажэнстваў[94]. Пры гэтым атэістычная прапаганда па-ранейшаму мела прыярытэт і лепшыя рэсурсы. Першы сакратар Гродзенскай абласной камсамольскай арганізацыі Марыя Бірукова зазначала, што ў атэістычнай дзейнасці задзейнічаныя больш за 1 200 прапагандыстаў, 93 % з якіх мелі вышэйшую адукацыю, а больш за 90 % з’яўляліся членамі КПБ[95].

У адрозненне ад Гродзенскай вобласці, рэлігійная сітуацыя ў Брэсцкай вобласці выглядала крыху інакш і давала ўладам надзею на поўную перамогу над рэлігіяй. 25 снежня 1985 г. першы сакратар Брэсцкага абласнога камітэта партыі Яфрэм Сакалоў казаў на партыйнай канферэнцыі: “*У апошні час партыйныя і савецкія органы ўлады, грамадскія арганізацыі крыху актыўней пачалі займацца атэістычным выхаваннем. Паступова пачала змяншацца рэлігійная абраднасць*”[96]. На канферэнцыі было прынята рашэнне аб аб’яднанні атэістычнай прапаганды з працай па ўцягванні вернікаў у грамадскае жыццё, задавальненні іх духоўных патрэб праз укараненне савецкіх абрадаў і свят.

На працягу ўсяго савецкага перыяду вялася барацьба з Каталіцкім касцёлам у БССР, а таксама адбывалася атэізацыя беларускага грамадства. 2 ліпеня 1984 г., за 9 месяцаў да пачатку гарбачоўскай перабудовы, ЦК КПСС прыняў пастанову “Аб супрацьдзеянні замежнай каталіцкай прапагандзе”. А ў лістападзе гэтага ж года была зацверджана пастанова “Аб супрацьдзеянні антыкамуністычнай актыўнасці Ватыкана і яго раскольніцкай дзейнасці, накіраванай на сацыялістычныя дзяржавы, а таксама на нацыянальна-вызваленчы і антываенны рух”[97]. Пастановы сведчылі пра сур’ёзныя асцярогі, якія існавалі ў кіраўніцтва партыі і савецкага ўрада ў сувязі з пантыфікатам Яна Паўла ІІ. У гэты перыяд заставалася крытычнай сітуацыя з дзейнасцю касцёлаў у БССР, асабліва востра стаяла праблема недахопу ксяндзоў. Паводле даных на ліпень 1984 г. пастаянных каталіцкіх святароў мелі 12 парафій у Пінскай дыяцэзіі, 2 парафіі ў Ломжынскай дыяцэзіі і 36 — у Віленскай. Сярэдні ўзрост ксяндзоў складаў 64,7 года[98].

У сярэдзіне 1980-х гг., з пачаткам перабудовы, палітычная сітуацыя ў Савецкім Саюзе паступова змянялася, у тым ліку адбываліся змены ў стаўленні да рэлігіі агулам і да Каталіцкага касцёла ў прыватнасці. Вернікі пачалі больш

---

93 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 1322, арк. 30: Протокол XVIII Гродненской Областной Партийной Конференции, 25–26.12.1980.

94 R. Dzwonkowski SAC, *Kościół katolicki w ZSSR*, s. 78.

95 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 1322, арк. 134.

96 ДАБВ, ф. 1п, воп. 76, спр. 1, арк. 46: Протокол XXI Брестской Областной Партийной Конференции, 20–21.12.1985.

97 R. Dzwonkowski SAC, *Kościół katolicki w ZSSR*, s. 77.

98 Тамсама, с. 77.

актыўна патрабаваць ад улад вяртання раней адабраных касцёлаў і рэгістрацыі ў іх святароў. Паступова мясцовыя ўлады сталі ісці на ўступкі вернікам, задавальняючы іх патрабаванні[99]. Тым не менш у 1985–1986 гг. не адбылося карэннага пералому ў адносінах паміж савецкім урадам і Ватыканам. Польскія камуністы абвінавачвалі ў гэтым Ватыкан і Папу Яна Паўла II. Супрацоўнік польскага пасольства ў Маскве Міхальскі ў службовай запісцы на гэты конт пісаў: *"Савецкая ўлада хоча мець нармальныя стасункі з Ватыканам, так як і з кожнай іншай дзяржавай. Перашкодай для гэтага з'яўляецца палітыка Папы. Да цяперашняга часу ён не прызнае савецкіх дзяржаўных межаў (Прыбалтыйскія рэспублікі), вядзе антысацыялістычную палітыку і хацеў бы падпарадкаваць сабе Рускую праваслаўную царкву. Сумесна з дзеючай адміністрацыяй ЗША Папа спрабуе ўмешвацца ва ўнутраныя справы СССР (напрыклад, патрабаванне зарэгістраваць Уніяцкую царкву). Савецкія ўлады з гэтым зміріцца не могуць. Таму нармалізацыя адносін з'яўляецца справай далёкай. Такі стан рэчаў верагодна будзе прычынай таго, што Папа не будзе запрошаны на святкаванне 1000-годдзя хрышчэння Русі"*[100].

Дэпаланізацыя і жорсткая барацьба з Каталіцкім касцёлам прывялі да прымусовай саветызацыі значнай часткі палякаў у БССР. У іх не было магчымасці выкарыстаць правы, якія гарантавалі канстытуцыі СССР і БССР. У 1956–1986 гг. польскае грамадскае і культурнае жыццё ў Беларусі прыпынілася. Дэзінтэграваная польская нацыянальная меншасць у інтарэсах сваёй бяспекі не спрабавала гэтаму супрацьдзейнічаць. Вышэйшыя дзяржаўныя органы ўлады ПНР таксама не прадпрымалі ніякіх дзеянняў, каб прыпыніць дэпаланізацыю беларускіх палякаў. З успамінаў былога партыйнага і савецкага дзеяча Мечыслава Гіруця вынікае, што ніколі на шматлікіх сумесных савецка-польскіх перамовах і сустрэчах польскі бок не падымаў пытання аб праблемах палякаў у БССР[101]. Да таго ж першае пакаленне беларускіх палякаў, якое зрабіла кар'еру ў органах партыйнай і савецкай улады, актыўна ўдзельнічала ў працэсе саветызацыі насельніцтва БССР, выконваючы ўказанні і распараджэнні свайго кіраўніцтва.

99 T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 286

100 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-69 k. 4: Notatka w sprawie radzieckiej polityki wyznaniowej i tendencji jej zmian w okresie przebudowy sporządzona przez W. Michalskiego.

101 Інтэрв'ю з М. Гіруцем, запісанае 12 жніўня 2012 г. у г. Гродна Тадэвушам Гавіным.

## 3. Польскае нацыянальнае жыццё ў Беларусі ў часы "росквіту" савецкай дзяржавы

Польская нацыянальная меншасць у БССР у 1956–1986 гг. існавала ў даволі складаных умовах. Была ліквідавана польскамоўная адукацыя, у дзяцей з польскіх сямей адсутнічала магчымасць вывучаць родную мову, спынілася дзейнасць усіх польскіх грамадскіх, культурных і асветных арганізацый. З пачатку 1950-х гг. і да канца 1988 г. нацыянальнае жыццё палякаў фактычна існавала толькі ў межах рэлігійнай сферы. Выключэннем былі Дні польскай культуры, якія праводзіліся ў БССР у 1958, 1964, 1972 і 1976 гг. Паколькі ўлады ПНР не ажыццяўлялі ўласнай усходняй палітыкі, у тым ліку не падымалі пытання пра праблемы палякаў, якія жылі ў СССР, то гэтыя Дні польскай культуры ніякім чынам не маглі паўплываць на інтэграцыю палякаў у БССР і абарону іх нацыянальных правоў. Больш за тое, Дні польскай культуры з'яўляліся фармальнымі мерапрыемствамі, якія арганізоўваліся па загадзя падрыхтаваных планах і пад пільным кантролем партыйных органаў, а таксама мелі ідэалагічна-прапагандысцкія задачы і зусім не ўлічвалі інтарэсаў палякаў, што жылі ў Беларусі[102].

Яўген Мірановіч наступным чынам ахарактарызаваў жыццё польскай меншасці ў савецкай Беларусі: *"Палякі ў БССР у перыяд фарсіраванага будаўніцтва новага савецкага грамадства (1956–1986) проста былі і існавалі, такая, а не іншая пазіцыя была звязана са штодзённай барацьбой за існаванне"*[103]. Захаванне польскасці, не кажучы ўжо пра росквіт і развіццё польскага грамадскага і культурна-асветнага жыцця, у гэты перыяд было амаль немагчымым. Прычынай гэтага з'яўлялася палітыка савецкіх і партыйных улад, накіраваная ў першую чаргу на саветызацыю польскага насельніцтва. Яго далучэнне да будаўніцтва новага грамадска-палітычнага ладу выключала ўсялякія прыкметы самастойнага нацыянальна-культурнага і гаспадарчага жыцця палякаў.

Стан нацыянальнага жыцця беларусаў у той час таксама быў незайздросным. Ніводны з партыйных з'ездаў КПБ не разглядаў пытанняў развіцця беларускай нацыянальнай культуры. На XXIV з'ездзе КПБ, які праходзіў 17–19 лютага 1960 г. у Мінску, гаварылася выключна пра сацыялістычную культуру: *"Неабходна выхоўваць савецкіх людзей у духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму і патрыятызму, брацкага сяброўства народаў, высокіх прынцыпаў маралі новага грамадства. Праводзіць непрымірымую барацьбу супраць нацыяналізму, касмапалітызму і іншых праяўленняў буржуазнай ідэалогіі, супраць забабонаў мінулага ў свядомасці людзей"*[104]. Барацьба супраць нацыяналізму ў тагачасных умовах азначала барацьбу супраць нацыянальнага

[102] В. Мазец, *Асіміляцыя нацыянальных меншасцяў у БССР у 1945–1985 гг. як вынік нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі*, [у:] *Репрессивная политика советской власти в Беларуси*, вып. 3, Минск 2007, с. 216.

[103] Protokół posiedzenia komisji powołanej przez Centralną Komisję do Spraw Stopni i Tytułów Naukowych w celu postępowania habilitacyjnego dra Tadeusza Gawina. Архіў аўтара.

[104] НАРБ, ф. 4п, воп. 2, спр. 244, арк. 564: Резолюция XXIV съезда КПБ.

самавызначэння беларусаў і палякаў, беларускай і польскай культуры і ўсяго, што звязана з польскасцю ў БССР. Кожны, хто выступаў за арганізацыю навучання польскіх дзяцей на роднай мове, абвяшчаўся нацыяналістам, і яго чакалі адпаведныя негатыўныя наступствы[105].

Савецкая палітыка была накіравана на вынішчэнне як беларускай, так і польскай свядомасці ў БССР. Напрыклад, на XXV з'ездзе КПБ другі сакратар Ф. Сурганаў на тэму "Аб праекце новай праграмы КПСС" казаў: *"КПБ бачыць сваю задачу ў тым, каб паслядоўна і далей ажыццяўляць прынцыпы інтэрнацыяналізму ў вобласці нацыянальных адносін, умацоўваць сяброўства з усімі савецкімі народамі, як адно з найважнейшых заваяванняў сацыялізму, не паслабляючы пры гэтым барацьбу супраць праяў нацыяналізму, ідэалізацыі мінулага, супраць аджыўшых звычаяў і нораваў* [...]. *Беларускі народ лічыць рускую мову сваёй другой роднай мовай. Працэс добраахвотнага вывучэння побач з роднай рускай мовы мае вялікае значэнне"*[106]. Пры гэтым ніхто не пытаўся ў беларусаў, і тым больш у палякаў, якую мову яны лічаць роднай і ці жадаюць вывучаць рускую. Ніякага добраахвотнага выбару ў гэтых пытаннях не было. Вывучэнне рускай мовы было абавязковым ва ўсіх школах БССР без выключэння. Палякі, якія размаўлялі па-польску і імкнуліся захаваць сваю польскасць, дыскрымінаваліся ўладамі БССР.

Гісторык з Гродна Алесь Смалянчук слушна заўважыў, што нацыянальная палітыка партыйных і савецкіх улад была эксперыментам на беларускай зямлі з мэтай поўнай дэнацыяналізацыі насельніцтва[107]. Лепшым спосабам для беларускіх улад пазбавіцца ад "польскага пытання" з'яўлялася перасяленне палякаў у Польшчу. Але гэта задача ў пасляваенных умовах, калі разбураныя вайной прамысловасць і сельская гаспадарка патрабавалі таннай працоўнай сілы, была невырашальнай. Новыя савецкія "асаднікі" ("каланізатары"), якія прыехалі з усходу СССР, займалі ў асноўным пасады кіраўнікоў у сістэме палітычнай і гаспадарчай улады. Мясцовае насельніцтва заходніх абласцей (і беларусы, і палякі), як правіла, выконвала ролю абслуговага персаналу. Прадстаўнікі савецкага кіраўніцтва ў БССР насцярожана ставіліся да польскага насельніцтва, бо, на іх думку, палякі не мелі савецкай патрыятычнай свядомасці і не лічылі сябе сапраўднымі савецкімі грамадзянамі[108].

---

[105] Аўтар гэтай манаграфіі ў 1988 г. з групай аднадумцаў пачаў дзейнасць, накіраваную на адраджэнне польскай мовы ў беларускіх школах. Адразу пачаўся ціск з боку вайсковага камандавання, патрабаванні адмовіцца ад гэтай дзейнасці. Апроч таго, улады Гродзенскай вобласці спрабавалі ўздзейнічаць праз бацьку, які працаваў на тытунёвай фабрыцы, каб той паўплываў на сына. Гэта было абсурдна, бо ў той час аўтар гэтых слоў быў дарослым чалавекам у званні падпалкоўніка. Гэта толькі адзін прыклад, як улады супрацьйляліся адраджэнню польскасці. Такі ціск зведалі ўсе польскія актывісты. Да перабудовы дзейнасць па адраджэнні польскай мовы і культуры ў БССР магла скончыцца абвінавачваннем у распальванні нацыянальнай варожасці з усімі адпаведнымі наступствамі. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna (Pamiętniki — 1987–1993). Odrodzenie polskości na Białorusi*, Grodno–Lublin 1993, s. 5–98.

[106] НАРБ, ф. 4п, воп. 2, спр. 248, арк. 500: Стенограмма XXV съезда КПБ.

[107] А. Смалянчук, *Нацыянальная структура насельніцтва Беларусі ў XX стагоддзі*, [у:] *Беларусь у XX стагоддзі*, вып. 1, Мінск 2002, с. 161.

[108] НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 543, арк. 42: Служебная записка ЦК КП(б)Б в ЦК ВКП(б), 1947 г.

Палітычная сістэма Савецкага Саюза, у тым ліку і БССР, у сваім функцыянаванні абапіралася на кіруючыя кадры, галоўнымі дасягненнямі якіх лічыліся не адукацыя і прафесіяналізм, а партыйнасць і бязмежная адданасць савецкай дзяржаве і яе кіраўніку. Членства ў КПСС было пропускам для кар'ернага росту ва ўсіх сферах. Паколькі партыя, як сведчыла Канстытуцыя СССР, была кіруючай і накіроўваючай сілай, то ўся ўлада ў БССР знаходзілася ў яе руках. Пры гэтым колькасць членаў партыі той ці іншай нацыянальнасці ніякім чынам не ўплывала на прыняцце рашэнняў, звязаных з дзяржаўным развіццём БССР. Прызначанае Масквой кіраўніцтва Беларусі фактычна не працавала ў нацыянальных інтарэсах мясцовага насельніцтва.

Палякі, члены камуністычнай партыі БССР, былі адзінай вылучанай групай у польскай супольнасці, якая мэтанакіравана ўцягвалася ў палітычнае жыццё. Нягледзячы на гэта, у Гродзенскай вобласці ў 1946 і 1949 гг. яны мелі самы нізкі працэнтны паказчык прыналежнасці да партыі: менш за 1 % ад усіх членаў партыі. У лічбах гэта сітуацыя выглядала наступным чынам: у 1946 г. — 35 палякаў былі партыйнымі, у 1949 г. — 59 [109]. Паступова адбываўся колькасны рост палякаў-камуністаў. Гэта можна прасачыць на прыкладзе Гродзенскай вобласці, дзе заўсёды была найбольшая колькасць польскага насельніцтва ў маштабе ўсёй рэспублікі. Яўны пералом у гэтым пытанні адбыўся ў пачатку 1960-х гг. У прыведзенай ніжэй табліцы бачна, што ў 1961 г. у КПСС уступіла ў 25 разоў больш палякаў, чым у 1949 г., і ў тры разы больш, чым у 1956 г. Гэта было звязана з жаданнем палякаў не быць у беларускім грамадстве выключна фізічнай сілай, якая абслугоўвала ўладу.

**Табліца 10. Нацыянальны склад Гродзенскай абласной партыйнай арганізацыі ў 1956–1980 гг.**

| Год/ Нацыянальнасць | 1956 | | 1961 | | 1970 | | 1975 | | 1980 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусы | 8 497 | 67,9 % | 17 032 | 63,01 % | 31 586 | 63,17 % | 35 853 | 64,53 % | 42 339 | 63,5 % |
| Рускія | 2 423 | 19,3 % | 5 985 | 22,14 % | 8 861 | 17,72 % | 10 231 | 18,41 % | 11 771 | 17,6 % |
| **Палякі** | **463** | **3,7 %** | **1 464** | **5,41 %** | **4 551** | **9,1 %** | **5 864** | **10,55 %** | **7 668** | **11,5 %** |
| Украінцы | 454 | 3,6 % | 1 283 | 4,74 % | 1 949 | 3,89 % | 2 245 | 4,04 % | 2 593 | 3,88 % |
| Габрэі | 205 | 1,64 % | 573 | 2,12 % | 615 | 1,23 % | 624 | 1,18 % | 594 | 0,89 % |
| Літоўцы | 9 | 0,07 % | 53 | 0,19 % | 98 | 0,19 % | 99 | 0,17 % | 111 | 0,16 % |
| Татары | 16 | 0,12 % | 48 | 0,17 % | 97 | 0,19 % | 114 | 0,2 % | 139 | 0,2 % |
| Іншыя нацыянальнасці | 279 | 2,23 % | 145 | 0,53 % | 255 | 0,51 % | 280 | 0,5 % | 329 | 0,49 % |
| Усяго | 12 346 | 100 % | 26 583 | 100 % | 48 006 | 100 % | 55 310 | 100 % | 65 544 | 100 % |

Крыніцы: На падставе статыстычных справаздач пра стан Гродзенскай партыйнай арганізацыі ў 1956–1980 гг.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 2131, арк. 5, 7; спр. 2118, арк. 1–2; спр. 2173, арк. 6; спр. 2188, арк. 65; спр. 2202, арк. 17; спр. 2086, арк. 40.

Цэнтральнае партыйнае кіраўніцтва БССР кожны год атрымлівала з абласцей даныя пра колькасны і нацыянальны склад абласных партыйных арганізацый.

109 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 50, арк. 35: Протокол Первой Областной Партийной Конференции, 19–21. 12. 1946 г.; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 408–409.

На падставе гэтых лічбаў ЦК КПБ рыхтаваў разгорнутую справаздачу пра агульную колькасць членаў партыі ў БССР. У штогадовых справаздачах, напрыклад па Гродзенскай вобласці, адзначаліся нацыянальнасці камуністаў, у тым ліку ўлічваліся палякі, немцы, фіны, балгары, кітайцы, карэйцы, іспанцы і іншыя[110]. Дзякуючы гэтаму, партыйнае кіраўніцтва БССР мела поўную інфармацыю пра палякаў — членаў партыі. Тым не менш яны свядома выключаліся з публічнага дыскурсу. У інфарматары "Камуністычная партыя Беларусі ў лічбах"[111] змяшчаюцца даныя пра нацыянальны склад КПБ у 1941–1978 гг. У надрукаванай там табліцы адлюстравана інфармацыя пра членаў КПБ 15 нацыянальнасцей. Сярод іх 2 туркмены, 3 малдаваніны, 22 грузіны, 2 азербайджанцы, 8 эстонцаў, 3 казахі, але няма палякаў[112]. Анатоль Вялікі такі падыход аўтараў інфарматара лічыць дзіўным і незразумелым, бо палякі ў БССР да 1989 г. па колькасным складзе ў КПБ займалі пятае месца пасля беларусаў, рускіх, украінцаў і габрэяў[113].

Паколькі палякі ў БССР не мелі поўнага даверу з боку ўлад, нават іх партыйнасць не давала ім магчымасці займаць высокія пасады. Напрыклад, ніхто з іх не быў кіраўніком савецкіх і партыйных арганізацый Гродзенскай вобласці[114]. Прыведзеныя ніжэй чатыры табліцы адлюстроўваюць пасады ў партыйным апараце раёнаў і гарадоў, якія займалі палякі. Звяртае ўвагу тое, што большасць палякаў-камуністаў была прадстаўлена ў сферы, звязанай з агітацыяй і прапагандай. Такім чынам, саветызацыяй мясцовага польскага насельніцтва займаліся палякі. Верагодна, паводле меркавання вышэйшых улад, палякі-камуністы павінны былі карыстацца большым даверам, чым накіраваныя з усходу СССР спецыялісты ў сферах прапаганды і агітацыі.

**Табліца 11. Загадчыкі арганізацыйных аддзелаў раённых (гарадскіх) камітэтаў КПБ**

| Год/ | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Нацыянальнасць** | **Усяго** | [%] | **Усяго** | [%] | **Усяго** | [%] | **Усяго** | [%] |
| Рускія | 33 | 15,3 | 19 | 12,6 | 16 | 10,1 | 20 | 12,5 |
| Украінцы | 1 | 0,7 | 3 | 2,0 | 4 | 2,5 | 3 | 1,9 |
| Беларусы | 125 | 83,3 | 127 | 84,1 | 132 | 83,0 | 133 | 83,1 |
| **Палякі** | **1** | **0,7** | **2** | **1,3** | **6** | **3,8** | **3** | **1,9** |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 60–60а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, s. 414.

110 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 2086: Отчёт о состоянии Гродненской Партийной Организации за 1949 год.

111 *Коммунистическая партия Белоруссии в цифрах 1918–1978*, Минск 1978, с. 102–121.

112 Тамсама, с. 102–106.

113 A. Wialiki, *Polacy w BSRR 1944–1989,* [у:] *Polska mniejszość narodowa*, s. 66.

114 І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.),* Мінск 2010, с. 313.

**Табліца 12. Загадчыкі аддзелаў прапаганды і агітацыі раённых (гарадскіх) камітэтаў КПБ**

| Год/ Нацыянальнасць | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | [%] | Усяго | [%] | Усяго | [%] | Усяго | [%] |
| Рускія | 15 | 10,1 | 18 | 12,1 | 15 | 9,5 | 23 | 14,6 |
| Украінцы | 2 | 1,4 | 1 | 0,7 | 6 | 3,9 | 2 | 1,3 |
| Беларусы | 126 | 85,1 | 124 | 83,2 | 133 | 84,2 | 131 | 82,4 |
| **Палякі** | **3** | **2,0** | **5** | **3,4** | **4** | **2,5** | **3** | **1,9** |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 64–64а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, s. 414.

**Табліца 13. Загадчыкі прамыслова-транспартных аддзелаў раённых (гарадскіх) камітэтаў КПБ**

| Год/ Нацыянальнасць | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | [%] | Усяго | [%] | Усяго | [%] | Усяго | [%] |
| Рускія | 8 | 16,3 | 10 | 18,5 | 18 | 28,6 | 20 | 31,8 |
| Украінцы | 4 | 8,2 | 1 | 1,9 | 4 | 6,3 | 1 | 1,6 |
| Беларусы | 37 | 75,5 | 42 | 77,8 | 40 | 63,5 | 41 | 65,1 |
| **Палякі** | - | - | **1** | **1,9** | **1** | **1,6** | - | - |

Крыніца: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 68, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; Тамсама, с. 414.

**Табліца 14. Загадчыкі сельскагаспадарчых аддзелаў раённых (гарадскіх) камітэтаў КПБ**

| Год/ Нацыянальнасць | 1981 | | 1986 | | 1987 | | 1988 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | [%] | Усяго | [%] | Усяго | [%] | Усяго | [%] |
| Рускія | - | - | 7 | 6,0 | 8 | 7,3 | 11 | 9,7 |
| Украінцы | - | - | 1 | 0,8 | 1 | 0,9 | 2 | 1,8 |
| Беларусы | 9 | 100 | 104 | 88,9 | 98 | 89,1 | 99 | 87,6 |
| **Палякі** | - | - | **4** | **3,4** | **2** | **1,8** | **1** | **0,9** |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 72, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; Тамсама, с. 415.

Як бачна з табліц, сярод загадчыкаў аддзелаў палякі былі прадстаўлены ў невялікай колькасці. Прычын такога стану спраў як мінімум дзве. Адна з іх заключаецца ў тым, што палякаў у партыі было няшмат, а другая — у нежаданні ўлад прасоўваць палякаў па партыйнай лініі, што выклікалася недаверам да іх.

Пасляваеннае ўключэнне палякаў у актыўную дзейнасць Гродзенскай абласной партыйнай арганізацыі можна прасачыць на прыкладзе правядзення праз пэўны час (1–2 гады) канферэнцый камуністычнай партыі. Першая праходзіла 19–21 снежня 1946 г. у Гродне. На гэтай канферэнцыі звярталася ўвага на малую колькасць членаў КПСС у раёнах, дзе ў той час большасць насельніцтва складалі палякі. Да такіх раёнаў былі залічаныя Сапоцкінскі, Воранаўскі, Радунскі і Поразаўскі. Апроч таго, падчас канферэнцыі гаварылася пра слабое супрацоўніцтва прадстаўнікоў улады з мясцовымі актывістамі[115].

[115] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 50, арк. 28: Протокол I Областной Партийной Конференции, 19–21.12.1946.

Па колькасці дэлегатаў, запрошаных на партыйную канферэнцыю, і па прэстыжнасці іх пасад у савецкім і партыйным апаратах можна меркаваць пра давер, які партыя мела да прадстаўнікоў той ці іншай нацыянальнасці. Як правіла, на гэтыя канферэнцыі ў якасці дэлегатаў "выбіраліся" камуністы, якія займалі адпаведныя пасады ў сістэме палітычнай улады ў рэспубліцы[116]. Нацыянальны склад дэлегатаў І Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі адлюстраваны ў табліцы 15.

**Табліца 15. Нацыянальны склад дэлегатаў І Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі (колькасць, %)**

| Нацыянальнасць / Агульная колькасць дэлегатаў | Беларусы | Рускія | Украінцы | Габрэі | Палякі | Татары | Эстонцы | Асецiны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 381 | 103 | 206 | 47 | 16 | **4** | 3 | 1 | 1 |
| 100 % | 26,78 % | 53,56 % | 12,22 % | 4,16 % | **1,04 %** | 0,78 % | 0,26 % | 0,26 % |

Крыніца: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 51, арк. 238: Стенограмма І Гродненской Областной Партийной Конференции.

Удзел палякаў у палітычным жыцці рэспублікі быў мізэрным. Нават габрэі, якіх пасля Халакосту ў вобласці засталася невялікая колькасць, мелі ў чатыры разы большае прадстаўніцтва дэлегатаў, чым палякі. Рускія, беларусы і ўкраінцы, накіраваныя з усходу СССР, вызначалі, як павінна была развівацца вобласць у пасляваенны перыяд. Да таго ж колькасць рускіх дэлегатаў была большай, у параўнанні з беларусамі, у два разы.

Не лепшым чынам выглядала сітуацыя і з палякамі, "выбранымі" дэпутатамі абласнога Савета дэпутатаў працоўных у 1948 г. З 64 дэпутатаў толькі 5 чалавек былі польскай нацыянальнасці. Гэта значыць, 16 раёнаў вобласці і Гродна прадстаўлялі толькі 5 палякаў. Большасць раёнаў Гродзенскай вобласці не мелі "свайго" прадстаўніка ў абласным савеце. Яго нацыянальны склад выглядаў наступным чынам (без уліку пяці палякаў): беларусаў было 39, рускіх — 17, украінцаў — 2, габрэяў — 1 чалавек[117]. Варта заўважыць, што падчас выбараў дэпутатаў кіраўніцтва вобласці часткова ўлічвала нацыянальную характарыстыку таго ці іншага раёна, выключэнне складалі мясцовасці з перавагай польскага насельніцтва. Прадстаўніцтва рускіх у абласным савеце штучна павялічвалася за кошт памяншэння квоты для палякаў.

116 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 537–559.

117 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 163, арк. 38: Протокол заседания І сессии Гродненского Областного Совета Депутатов трудящихся, первое заседание в 1948 г.

Падобная сітуацыя з удзелам палякаўназіралася і падчас працы II Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі, якая праходзіла ў 1949 г.[118] Палякаў сярод 208 дэлегатаў было ў два разы менш, чым на першай канферэнцыі, усяго 2 чалавекі, і тыя з'яўляліся не мясцовымі жыхарамі, а накіраванымі з усходніх абласцей СССР[119]. Малая колькасць палякаў з усходу ў кіраўніцтве Заходняй Беларусі з'яўлялася вынікам іх масавага знішчэння ў 1937–1938 гг. Пасля генацыду палякаў план вышэйшых партыйных і савецкіх органаў улады выкарыстоўваць іх для распаўсюду камуністычных ідэй на былых польскіх тэрыторыях страціў сваю актуальнасць.

Запоўненыя ўласнаручна анкеты дэлегатаў партыйнай канферэнцыі адлюстроўваюць іх нізкі ўзровень пісьменнасці[120]. Большасць з іх атрымала толькі пачатковую адукацыю. Дэлегаты польскай нацыянальнасці Баляслаў Васек і Франц Кец, якія мелі вышэйшую адукацыю, на фоне іншых выглядалі даволі прыстойна. Але яны не займалі кіруючых пасад у сістэме партыйных і савецкіх органаў улады[121]. Як ужо адзначалася вышэй, нават да палякаў-камуністаў не было поўнага даверу. Адукацыя таксама не адыгрывала значнай ролі. Напрыклад, у Гродзенскай вобласці на пасады кіраўнікоў прызначаліся тыя члены партыі, якія скончылі толькі пачатковую школу[122]. Калі савецкая ўлада дазваляла сабе дыскрымінаваць палякаў-камуністаў, якіх сама выбрала і накіравала для ўсталявання новага ладу ў заходніх абласцях БССР, то ў дачыненні да мясцовага насельніцтва, у тым ліку польскага, магла дазволіць яшчэ больш зняважлівае стаўленне.

Цэнтрам падрыхтоўкі партыйных і савецкіх кадраў для палітычнай сістэмы ўлады ў БССР была Вышэйшая партыйная школа пры ЦК КПБ у Мінску, асабліва "здольных" накіроўвалі ў такую ж школу ў Маскву. Атрыманне адукацыі ў гэтых школах з'яўлялася гарантыяй атрымання высокай пасады ў структурах органаў улады. Для палякаў навучанне ў партыйных школах было абмежаваным. Так, у 1947 г. з 24 чалавек, накіраваных на двухгадовую летнюю вучобу ў мінскую Вышэйшую партыйную школу, толькі адзін — Вацлаў Клімашэўскі (прапагандыст Ваўкавыскага раённага камітэта партыі) — быў палякам[123].

118 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 195, арк. 150, 152, 154: Стенограмма II Гродненской Областной Партийной Конференции, 23–24.01.1949.

119 Гэтымі дэлегатамі былі Васек Баляслаў 1913 года нараджэння (член партыі з 1937 г., службовец, аграном Воранаўскай сельскай доследнай станцыі, меў вышэйшую адукацыю) і Кец Франц 1908 года нараджэння (член партыі з 1940 г., дырэктар культурна-асветнай вучэльні ў Гродне, меў вышэйшую адукацыю). Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 196, арк. 42, спр. 197, арк. 10: Анкеты делегатов II Партийной Конференции в Гродно.

120 Тамсама.

121 Прасочваючы гісторыю прасоўвання Франца Кеца ў структурах органаў улады, можна прыйсці да высновы пра дыскрымінацыю яго на нацыянальнай глебе. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 326, 386.

122 Падрабязней пра анкетныя даныя дэлегатаў, кіраўнікоў абласных, гарадскіх і раённых органаў улады, якія ўдзельнічалі ў II Гродзенскай партыйнай канферэнцыі, гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 196, спр. 197; ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 195, арк. 155: Стенограмма II областной партийной конференции от 23–24 января 1949 г.

123 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 100, арк. 26: Протоколы заседаний № 23–28 Бюро Гродненского Областного Комитета Партии, 06–07.1947.

Палітыка савецкіх улад у БССР адносна ліквідацыі польскіх школ у 1948 г. (пасля перасялення часткі палякаў у Польшчу ў 1944–1946 гг.) была накіравана на канчатковую саветызацыю і русіфікацыю польскага насельніцтва. Праведзеная ў 1955–1959 гг. рэпатрыяцыя, верагодна, упэўніла кіраўніцтва БССР у тым, што "польскае пытанне" перастала існаваць. Менавіта гэтым можна растлумачыць факт адсутнасці даных пра ўдзел палякаў у партыйных канферэнцыях 1959 і 1961 гг., а таксама тое, што ў абвяшчэнні мандатных камісій пра нацыянальны склад дэлегатаў гэтых канферэнцый палякі зусім не ўзгадваліся[124]. Напэўна, улады ў той час прытрымліваліся палітыкі публічнага замоўчвання існавання палякаў у БССР. Калі з-за адсутнасці ў архіве анкет не атрымалася даведацца, ці ўдзельнічалі палякі ў партыйнай канферэнцыі ў 1959 г., то ў 1961 г. пра іх удзел партыйнае кіраўніцтва Гродзенскай вобласці не ўзгадала ў справаздачы.

Такім чынам, з канца 1950-х гг. удзел палякаў-камуністаў у палітычным, грамадскім і гаспадарчым жыцці Гродзенскай вобласці быў выключаны з публічнага дыскурсу. Падчас правядзення партыйных канферэнцый у Брэсцкай і Мінскай абласцях нават у 1988 г. мандатныя камісіі не агучвалі ўдзелу ў іх палякаў. Мэтай такой стратэгіі ўлад было ігнараванне не толькі далучанасці палякаў да палітычнага жыцця абласцей, але і іх праблем, звязаных з нацыянальным развіццём у БССР[125]. Варта адзначыць, што ўпершыню пасля доўгага перапынку ўдзел палякаў быў агучаны мандатнай камісіяй XXX з'езда КПБ (30–31.01.1986 г.) у Мінску. Тады дэлегаты польскай нацыянальнасці былі названы асобна, а не ў графе "іншыя нацыянальнасці"[126]. Але з гэтага не вынікала, што падчас абласных канферэнцый будзе прызнаны ўдзел у іх палякаў.

Устанавіць колькасць палякаў, якія ўдзельнічалі ў Гродзенскай партыйнай канферэнцыі 1961 г., а таксама іх прозвішчы ўдалося, дзякуючы прагляду ўсіх анкетных даных дэлегатаў, што ёсць у ДАГАГВ. Варта зазначыць, што ў 1954 г. упершыню ў пасляваенны час колькасць дэлегатаў-беларусаў нязначна, але перавысіла колькасць рускіх[127].

124 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 651, арк. 82–84.

125 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 556–559.

126 І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі*, с. 174.

127 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 419.

**Табліца 16. Удзел палякаў, членаў КПБ, у абласных партыйных канферэнцыях у Гродне**

| Год/ Нацыянальнасць | 1959 | 1961 |
|---|---|---|
| Беларусы | 245 | 314 |
| Рускія | 130 | 152 |
| **Палякі** | **Адсутнасць даных**[a] | **Адсутнасць даных**[b]. **У архіве ўдалося знайсці анкеты 11 дэлегатаў, якія ўласнаручна ўпісалі польскую нацыянальнасць** |
| Украінцы | 21 | 36 |
| Іншыя нацыянальнасці | 18 | 24 |
| Усяго дэлегатаў | 414 | 526 |

a) Адсутнасць анкет дэлегатаў канферэнцыі ў архіве.
b) ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 736, арк. 1–519. Былі знойдзены анкеты 11 палякаў, якія размяшчаліся сярод анкет дэлегатаў іншых нацыянальнасцей.

Крыніцы: Стэнаграмы II, V, XIII і X Гродзенскіх абласных партыйных канферэнцый: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 459, арк. 165, 167; спр. 651, арк. 82–84; спр. 734, арк. 87–89; спр. 195, арк. 150.

Пачынаючы з 1966 г., удзел палякаў-камуністаў у адвольна выбраных намі партыйных канферэнцыях павялічваўся, як і колькасць саміх членаў партыі. Тым не менш гэта ніякім чынам не паўплывала на адносіны ўлад да польскай нацыянальнай меншасці ў БССР. Надалей адбывалася яе дыскрымінацыя і прымусовая русіфікацыя. Партыйнае і савецкае кіраўніцтва, не вырашаючы праблемы нацыянальнага і культурна-асветнага жыцця беларускіх палякаў, актыўна працавала над тым, каб павялічваць колькасць палякаў-камуністаў. Яны, як прыхільнікі савецкай улады, павінны былі займацца прапагандай камуністычных ідэй і саветызацыяй насельніцтва. Паколькі адбываўся рост колькасці палякаў, членаў КПБ, то павялічвалася і колькасць дэлегатаў ад іх на партыйных канферэнцыях. Яны выбіраліся ў пярвічных партыйных арганізацыях у залежнасці ад квот, што прызначаліся абласнымі камітэтамі партыі. Квоты залежалі ад колькасці членаў КПБ кожнай асобна ўзятай нацыянальнасці.

**Табліца 17. Палякі, члены КПБ, якія ўдзельнічалі ў абласных партыйных канферэнцыях у Гродне (колькасць)**

| Год/ Нацыянальнасць | 1966 | | 1971 | | 1975 | | 1980 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусы | 285 | 53,29 % | 375 | 68,62 % | 407 | 67,96 % | 445 | 68,08 % |
| Рускія | 175 | 32,72 % | 103 | 18,84 % | 122 | 20,37 % | 113 | 17,2 % |
| **Палякі** | **20** | **3,74 %** | **32** | **5,85 %** | **52** | **8,68 %** | **69** | **10,55 %** |
| Украінцы | 38 | 7,1 % | 24 | 4,39 % | Няма даных | - | 17 | 2,6 % |
| Іншыя нацыянальнасці | 14 | 2,61 % | 12 | 2,19 % | 17 | 2,83 % | 8 | 1,22 % |
| Усяго | 532 | 100 % | 546 | 100 % | 598 | 100 % | 652 | 100 % |

Крыніцы: Асабістая апрацоўка: Стэнаграмы XII, XIV, XVI, XVIII Гродзенскіх абласных партыйных канферэнцый: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 830, арк. 202, 204, 206; спр. 968, арк. 359–360; спр. 1322, арк. 98.

Варта адзначыць, што членства палякаў у КПБ у маштабе ўсёй рэспублікі было самым нязначным у параўнанні з іншымі нацыянальнасцямі. Колькасць партыйных вагалася ад 1,63 % да 4,9 % ад усяго польскага насельніцтва[128]. Членства ў КПБ рускіх, украінцаў і габрэяў адносна колькаснага складу нацыянальных груп было ў некалькі разоў большым. Нягледзячы на тое, што ў 1956 г. па колькасці членаў КПБ палякі знаходзіліся ў Гродзенскай абласной партыйнай арганізацыі на трэцім месцы, да 1971 г. гэта ніяк не ўплывае на склад дэлегатаў партыйных канферэнцый у Гродне. Колькасна меншая група ўкраінцаў-камуністаў мела беспадстаўна большае прадстаўніцтва на канферэнцыях, чым палякі. Пасля 1970 г. палякі, члены КПБ, ужо былі чацвёртымі пасля беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, а з 1978 па чарзе з украінцамі займалі трэцяе месца[129].

Тагачасны генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў у адным з публічных выступленняў сказаў: “[…] *Усе камуністы ў нас — да якой бы нацыянальнасці не належалі — члены адной маналітнай ленінскай партыі. Яны маюць аднолькавыя правы і абавязкі, нясуць роўную адказнасць за лёсы дзяржавы*”[130].

Леанід Брэжнеў часткова меў рацыю, сапраўды, адказнасць за лёс дзяржавы дзялілася пароўну. Але што датычыцца аднолькавых правоў, то ў выпадку з палякамі, членамі КПБ, гэтая роўнасць адсутнічала. Беларусь з’яўлялася адной з рэспублік СССР, сябрам ААН, але пры гэтым не мела рэальнага суверэнітэту і была пазбаўлена магчымасці праводзіць уласную нацыянальную і культурную палітыку. Імкненне кіраўніцтва ў Маскве да русіфікацыі саюзных рэспублік і саветызацыі іх насельніцтва ставіла пад сумненне перспектыву захавання і развіцця польскага нацыянальнага жыцця ў БССР[131].

Такім чынам, палякі ў БССР у дадзены перыяд не мелі магчымасцей арганізаваць развіццё польскамоўнай адукацыі і культурна-асветнай дзейнасці.

128 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 420

129 Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 406–420.

130 *Коммунистическая партия Белоруссии в цифрах*, с. 98.

131 І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі*, с. 174.

Сярод палякаў, членаў КПБ, з-за страху за жыццё і далейшую кар'еру не было нікога, хто б агучыў праблему польскай меншасці ў БССР. Савецкая ўлада здолела падзяліць палякаў на дзве часткі. Першая частка (складалася з членаў КПБ) прыняла правілы гульні, навязаныя савецкай сістэмай, і адмовілася ад публічнага дэманстравання свайго польскага паходжання. Пры гэтым палякі-камуністы маглі разлічваць на прасоўванне па кар'ернай лесвіцы толькі да пэўнай прыступкі, а таксама карыстацца абмежаванымі прывілеямі і матэрыяльнымі выгадамі, якія давала савецкая дзяржава. Другая частка займалася абслугоўваннем існага рэжыму і адчувала прымус саветызацыі і русіфікацыі. Гэтыя палякі ў выніку мусілі зрабіцца часткай савецкага народа, радзімай якога быў Савецкі Саюз, а роднай мовай — руская. Падобны сцэнарый быў падрыхтаваны і для тытульнай нацыі БССР — беларусаў.

## 4. Палякі з Беларусі на службе ў камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы

Удзел палякаў у сістэме партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў улады БССР да сённяшняга дня яшчэ цалкам не вывучаны. Тым не менш на падставе даступных матэрыялаў і даных, якія датычацца гэтага пытання, паспрабуем хаця б часткова вызначыць іх месца і ролю ў будаўніцтве так званага сацыялістычнага грамадства ў БССР. Паказчыкам запатрабаванасці палякаў у грамадскім жыцці рэспублікі была магчымасць іх дзейнасці ў структурах, якія складалі палітычную сістэму БССР, а менавіта: у камуністычнай партыі, дзяржаўных інстытутах, прафсаюзах, камсамоле і кіраўніцтве гаспадарчага комплексу.

Стаўка, зробленая ў пасляваенны час на кіраўнічыя кадры, накіраваныя з усходу Савецкага Саюза для ўсталявання савецкай улады ў заходніх абласцях БССР, не прынесла чаканага выніку. Намеснік старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта М. Грыбаедаў у адным са сваіх выступленняў на гэты конт казаў: *"Пытанне вылучэння кадраў з мясцовага насельніцтва на сённяшні дзень з'яўляецца самым актуальным і сур'ёзным. Некаторыя райвыканкамы і райкамы партыі не хочуць да канца разабрацца і вырашыць сур'ёзна пытанне падбору кадраў з мясцовага насельніцтва, баючыся больш прыкласці намаганняў, каб навучыць іх працаваць, яны няправільна мяркуюць, што таварышы, якія прыехалі з іншых абласцей, з'яўляюцца знаўцамі любой справы, і толькі яны могуць выправіць стан спраў. Напрыклад, у Сапоцкінскім раёне* [...] *справа дайшла да таго, што вартаўнікі і конюхі ў райвыканкам і райкам партыі былі падабраны з прыехаўшых. Можна такіх фактаў прывесці шмат. Не лепш справа выглядае ў Васілішкаўскім, Лідскім і Радунскім раёнах"*[132].

Нягледзячы на патрабаванні абласнога кіраўніцтва, на месцах узровень даверу партыйных і савецкіх каланізатараў ("савецкіх асаднікаў") да мясцовага насельніцтва заходніх абласцей быў вельмі нізкім. Яны не давяралі не толькі палякам, але і беларусам, нават тым, якія да 17 верасня 1939 г. змагаліся супраць польскіх улад, актыўна ўдзельнічалі ў дзейнасці КПЗБ, за што зведалі арышты і шматгадовыя турэмныя зняволенні[133].

Асаблівы недавер выклікалі тыя мясцовыя жыхары (незалежна ад нацыянальнасці), якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў Польшчы. Дырэктар Гродзенскага педагагічнага інстытута Лявіцкі казаў: "[...] *У нас працуюць прынамсі да дзесяці чалавек, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ва ўмовах Польшчы.* [...] *І справа не ў тым, што яны не ўмеюць расшыфраваць УКП(б). Яны цудоўна ўмеюць расшыфраваць, але яны іншыя па сваёй схеме, па сваёй логіцы, з імі патрэбна іншая праца"*[134].

---

[132] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 260, арк. 61: Стенограмма V Пленума Гродненского Областного Комитета Партии, 18.07.1950. Варта пры гэтым звярнуць увагу на той факт, што ў Сапоцкінскім раёне ў той час пражывала больш за 90 % палякаў.

[133] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 89, арк. 63: Стенограмма II Пленума Гродненского Областного Комитета Партии, 26.01.1947.

[134] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 164, арк. 13–14.

Крэмль, як і абласное кіраўніцтва ў БССР, разумеў, што ўніфікаваць заходнія вобласці з астатняй часткай СССР выключна сіламі накіраваных з усходу дзяржаўных і партыйных супрацоўнікаў не атрымаецца, што для вырашэння гэтай задачы трэба выкарыстоўваць і мясцовае насельніцтва, у тым ліку і палякаў[135]. Але на працягу ўсяго савецкага перыяду палякі так і не былі дапушчаны да вышэйшых партыйных пасад. У Цэнтральным камітэце КПБ у асноўным былі прадстаўлены супрацоўнікі трох нацыянальнасцей: беларусы, рускія і ўкраінцы. Калі палякаў не дапусцілі да працы ў цэнтральным апараце партыі, то зразумела, што яны не маглі займаць пасады сакратароў ЦК КПБ[136]. Падобная сітуацыя была на абласным узроўні. Прыведзеная ніжэй табліца паказвае, што палякі ў абласных камітэтах партыі займалі самыя нізкія пасады — інструктараў абкамаў партыі.

135 Падрабязней на гэту тэму гл.: РДАНГ, ф. 5, воп. 18, спр. 60, арк. 8–17: Записки, письма, телеграммы... о работе с местным населением в западных областях БССР, 01.1954–11.1956.

136 Падрабязней на гэту тэму гл.: І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі*, с. 310.

**Табліца 18. Нацыянальны склад партыйных кадраў на ўзроўні абкамаў КПБ**

| Нацыянальнасць | 1.07.1971 г. | | 1.02.1976 г. | | 1.01.1981 г. | | 1.01.1986 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Чал. | % | Чал. | % | Чал. | % | Чал. | % |
| Сакратары абкамаў КПБ | | | | | | | | |
| Рускія | 5 | 16,7 | 7 | 23,3 | 6 | 20,0 | 6 | 20,7 |
| Украінцы | 2 | 6,7 | - | - | - | - | - | - |
| Беларусы | 23 | 76,7 | 23 | 76,7 | 24 | 80 | 23 | 79,3 |
| Іншыя, у тым ліку палякі | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Загадчыкі аддзелаў абкамаў | | | | | | | | |
| Рускія | 14 | 23,0 | 13 | 21,0 | 12 | 18,5 | 11 | 15,3 |
| Украінцы | 3 | 4,9 | 3 | 4,8 | 4 | 6,1 | 5 | 6,9 |
| Беларусы | 43 | 70,5 | 46 | 74,2 | 48 | 73,8 | 55 | 76,4 |
| **Палякі** | - | - | - | - | **1** | **1,5** | - | - |
| Намеснікі загадчыкаў аддзелаў | | | | | | | | |
| Рускія | 6 | 20,0 | 2 | 5,1 | 4 | 9,3 | 5 | 11,6 |
| Украінцы | 1 | 3,3 | 3 | 7,7 | 1 | 2,3 | 2 | 4,7 |
| Беларусы | 22 | 73,3 | 33 | 84,6 | 38 | 88,4 | 36 | 83,7 |
| **Палякі** | **1** | **3,3** | - | - | - | - | - | - |
| Загадчыкі сектараў абкамаў КПБ | | | | | | | | |
| Рускія | 9 | 18,8 | 10 | 20,4 | 13 | 26,0 | 10 | 20,4 |
| Украінцы | 3 | 6,2 | 2 | 4,1 | 3 | 6,0 | 3 | 6,1 |
| Беларусы | 36 | 75,0 | 37 | 75,5 | 34 | 68,0 | 36 | 73,5 |
| Іншыя, у тым ліку палякі | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Інструктары абкамаў КПБ | | | | | | | | |
| Рускія | 33 | 18,2 | 35 | 18,1 | 49 | 21,5 | 46 | 19,2 |
| Украінцы | 5 | 2,8 | 3 | 1,6 | 5 | 2,2 | 5 | 2,1 |
| Беларусы | 142 | 78,5 | 150 | 77,7 | 169 | 74,1 | 183 | 76,3 |
| **Палякі** | **1** | **0,6** | **3** | **1,6** | **4** | **1,8** | **5** | **2,1** |

Крыніца: І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, Мінск 2010, с. 310.

Не лепшым чынам выглядала сітуацыя і з прысутнасцю палякаў у савецкіх органах улады — абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтах. Адзінай пасадай, якую палякам дазволена было займаць, з’яўлялася служба ў якасці старшынь райвыканкамаў. Праўда, у 1980-я гг. паляку Станіславу Андрыеўскаму ўдалося стаць старшынёй Гродзенскага гарадскога выканаўчага камітэта[137]. Гэта быў адзіны прыклад за ўвесь савецкі перыяд.

[137] *Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада*, рэд. В. Швед., В. Карнялюк, Гародня — Wrocław 2012, с. 339.

**Табліца 19. Нацыянальны склад савецкіх кадраў БССР**

| Нацыянальнасць | 1.04.1971 г. | | 1.04.1976 г. | | 1.07.1981 г. | | 1.07.1986 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Чал. | % | Чал. | % | Чал. | % | Чал. | % |
| Старшыні аблвыканкамаў | | | | | | | | |
| Рускія | - | - | 3 | 50 | 1 | 16,7 | 1 | 16,7 |
| Украінцы | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Беларусы | 6 | 100 | 3 | 50 | 5 | 83,3 | 5 | 83,3 |
| Іншыя, у тым ліку палякі | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Першыя намеснікі старшынь аблвыканкамаў | | | | | | | | |
| Рускія | 2 | 33,3 | 1 | 16,7 | - | - | - | - |
| Украінцы | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Беларусы | 4 | 66,7 | 5 | 83,3 | 5 | 100 | 12 | 100 |
| Іншыя, у тым ліку палякі | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Намеснікі старшынь аблвыканкамаў | | | | | | | | |
| Рускія | 7 | 38,9 | 3 | 16,7 | 3 | 16,7 | 4 | 22,2 |
| Украінцы | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Беларусы | 11 | 61,1 | 15 | 83,3 | 15 | 83,3 | 14 | 77,8 |
| Іншыя, у тым ліку палякі | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Старшыні гарвыканкамаў | | | | | | | | |
| Рускія | 8 | 24,2 | 6 | 18,2 | 4 | 11,8 | 2 | 5,6 |
| Украінцы | 1 | 3,0 | 1 | 3,0 | 2 | 5,9 | 3 | 8,36 |
| Беларусы | 24 | 72,2 | 26 | 78,8 | 28 | 82,3 | 30 | 83,3 |
| **Палякі** | - | - | - | - | - | - | **1** | **2,8** |
| Старшыні вясковых райвыканкамаў | | | | | | | | |
| Рускія | 17 | 14,5 | 15 | 12,9 | 13 | 11,1 | 14 | 12,0 |
| Украінцы | 3 | 2,6 | 7 | 6,0 | 2 | 1,7 | 1 | 0,9 |
| Беларусы | 94 | 80,3 | 92 | 79,3 | 99 | 84,6 | 98 | 83,8 |
| **Палякі** | **3** | **2,6** | **2** | **1,7** | **3** | **2,6** | **4** | **3,4** |

Крыніца: I. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, Мінск 2010, с. 310.

Як ужо было адзначана ў папярэднім раздзеле, на абласныя партыйныя канферэнцыі праз пэўны час "выбіраліся" для абавязковага ўдзелу дэлегаты, якія займалі кіруючыя пасады, што знаходзіліся ў наменклатурным спісе абкама партыі. Па выпадкова абраных намі канферэнцыях можна прасачыць (вылічыць) прысутнасць палякаў у гэтых органах улады. Так, напрыклад, у дзвюх пасляваенных Гродзенскіх абласных партыйных канферэнцыях (1949 і 1954 гг.) удзельнічалі 5 палякаў, пры гэтым толькі адзін з іх быў мясцовым[138].

З цягам часу адбываліся змены: кіруючыя пасады ў апараце ўлады пачалі займаць прадстаўнікі мясцовага польскага насельніцтва. Як бачна з прыведзенай

[138] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 196, арк. 42; спр. 197, арк. 10; спр. 460, арк. 1–117; спр. 462, арк. 1–143: Анкеты делегатов II и V Гродненской Областной Партийной Конференции.

ніжэй табліцы, з 1960-х гг. і да 1980 г. у Гродзенскай вобласці існавала група мясцовых палякаў, якія былі далучаны да кіраўніцтва ў партыйных і савецкіх органах. Так, у 1975 г. у г. Слоніме ўлада знаходзілася ў руках палякаў. Першым сакратаром Слонімскага РК КПБ быў Эдуард Наготка, а старшынёй райвыканкама Казімір Лушнеўскі, які адначасова быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Да 1980 г. Станіслаў Андрыеўскі меў трывалую пазіцыю ў кіраўніцтве горада Гродна, займаючы пасаду першага сакратара Кастрычніцкага РК КПБ, а Раман Алізаровіч быў старшынёй Гродзенскага раённага выканаўчага камітэта.

Шэраг палякаў, як адлюстроўвае прыведзеная ніжэй табліца, у 1960-я — 1980-я гг. займалі розныя кіруючыя пасады ў сістэме раённых партыйных, савецкіх органаў улады і камсамольскай арганізацыі Гродзенскай вобласці. Прасочваецца тэндэнцыя, што палякі, прадстаўленыя ў кіраўніцтве камсамола, разглядаліся ў якасці кадравага рэзерву і ў будучым вылучаліся на вышэйшыя пасады. Пазней, у 1986 г., найбольш уплывовымі палякамі ў структуры кіраўніцтва Гродзенскай вобласці былі вышэйзгаданыя Раман Алізаровіч (старшыня Гродзенскага раённага выканкама) і Станіслаў Андрыеўскі (старшыня Гродзенскага гарадскога выканкама). Як у 1975 г. у Слоніме, так у 1986 г. у Гродне і Гродзенскім раёне ўлада належала прадстаўнікам польскай нацыянальнай меншасці.

**Табліца 20. Палякі, прадстаўленыя ў кіраўніцтве партыйных і савецкіх органаў улады і камсамола, удзельнікі X, XII, XIV, XVI, XVIII Гродзенскіх абласных партыйных канферэнцый**

| | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Год нарадж. | Парт. стаж | Сацыяльны статус | Адукацыя | Пасада, месца працы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1961 г., X Гродзенская абласная партыйная канферэнцыя | | | | | | |
| | Магільніцкі Адам Іванавіч | 1930 | 1954 | служачы | вышэйшая | сакратар Смаргонскага РК КПБ |
| 1966 г., XII Гродзенская абласная партыйная канферэнцыя | | | | | | |
| | Андрыеўскі Станіслаў Міхайлавіч | 1936 | 1963 | служачы | вышэйшая | сакратар Гродзенскага гарадскога камітэта камсамола |
| | Магільніцкі Адам Іванавіч | 1930 | 1954 | служачы | вышэйшая | сакратар Гродзенскага гарадскога камітэта КПБ |
| | Наготка Эдуард Іванавіч, дэпутат абласнога савета | 1934 | 1959 | служачы | вышэйшая | сакратар Гродзенскага абласнога камітэта камсамола |
| 1971 г., XIV Гродзенская абласная партыйная канферэнцыя | | | | | | |
| | Андрыеўскі Станіслаў Міхайлавіч | 1936 | 1963 | служачы | вышэйшая | намеснік загадчыка арганізацыйна-партыйнага аддзела Гродзенскага АК КПБ |
| | Астапчык Вацлаў Іванавіч, дэпутат раённага савета | 1943 | 1966 | служачы | незак. вышэйшая | першы сакратар Воранаўскага раённага камітэта камсамола |
| | Вярцінскі Рычард Эдмундавіч | 1943 | 1970 | служачы | незак. вышэйшая | першы сакратар Шчучынскага раённага камітэта камсамола |
| | Лебядзінскі Міхаіл Юльянавіч | 1941 | 1965 | служачы | незак. вышэйшая | першы сакратар Слонімскага раённага камітэта камсамола |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Магільніцкі Адам Іванавіч, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР | 1930 | 1954 | служачы | вышэйшая | сакратар Гродзенскага гарадскога камітэта КПБ |
| | Навумовіч Ядвіга Баляславаўна, дэпутат раённага савета | 1943 | 1967 | служачая | вышэйшая | загадчыца аддзела прапаганды і агітацыі Берастравіцкага РК КПБ |
| | Алізаровіч Раман Адамавіч, дэпутат раённага савета | 1935 | 1961 | служачы | вышэйшая | старшыня Гродзенскага раённага выканаўчага камітэта |
| | Пушнянкова Нэлі Казіміраўна, дэпутат раённага савета | 1942 | 1966 | служачая | вышэйшая | першы сакратар Ваўкавыскага раённага камітэта камсамола |
| 1975 г., XVI Гродзенская абласная партыйная канферэнцыя | | | | | | |
| | Андрыеўскі Станіслаў Міхайлавіч | 1936 | 1963 | служачы | вышэйшая | намеснік загадчыка арганізацыйна-партыйнага аддзела Гродзенскага АК КПБ |
| | Буяк Браніслаў Адольфавіч, дэпутат раённага савета | 1936 | 1962 | служачы | вышэйшая | сакратар Свіслацкага РК КПБ |
| | Вярцінскі Рычард Эдмундавіч, член пленума РК КПБ | 1943 | 1969 | служачы | вышэйшая | загадчык арганізацыйнага аддзела Смаргонскага РК КПБ |
| | Картановіч Валянціна Баляславаўна, дэпутат раённага савета | 1944 | 1970 | служачая | вышэйшая | сакратар Воранаўскага РК КПБ |
| | Лапіч Браніслаў Іванавіч, дэпутат раённага савета | 1949 | 1975 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Мастоўскага раённага камітэта камсамола |
| | Лушнеўскі Казімір Іванавіч, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР | 1930 | 1955 | служачы | вышэйшая | старшыня Слонімскага раённага выканаўчага камітэта |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Наготка Эдуард Іванавіч, дэпутат абласнога савета | 1934 | 1959 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Слонімскага РК КПБ |
| | Абуховіч Віктар Антонавіч, дэпутат раённага савета | 1946 | 1972 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Гродзенскага раённага камітэта камсамола |
| | Алізаровіч Раман Адамавіч, дэпутат абласнога і раённага саветаў | 1935 | 1961 | служачы | вышэйшая | старшыня Гродзенскага раённага выканаўчага камітэта |
| | Сарока Іосіф Адольфавіч, дэпутат раённага савета | 1940 | 1967 | служачы | вышэйшая | загадчык арганізацыйнага аддзела Шчучынскага РК КПБ |
| | Хмялеўскі Часлаў Іосіфавіч, дэпутат раённага савета | 1946 | 1970 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Ваўкавыскага раённага камітэта камсамола |
| | Шылкань Ірэна Францаўна | 1946 | 1974 | служачая | вышэйшая | першы сакратар Воранаўскага раённага камітэта камсамола |
| 1980 г., XVIII Гродзенская абласная партыйная канферэнцыя | | | | | | |
| | Андрыеўскі Станіслаў Міхайлавіч, дэпутат гарадскога і раённага саветаў | 1936 | 1963 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Кастрычніцкага РК КПБ г. Гродна |
| | Буяк Браніслаў Адольфавіч, дэпутат раённага савета | 1936 | 1962 | служачы | вышэйшая | сакратар Свіслацкага РК КПБ |
| | Вярцінскі Рычард Эдмундавіч, дэпутат раённага савета | 1943 | 1969 | служачы | вышэйшая | загадчык арганізацыйнага аддзела Смаргонскага РК КПБ |
| | Лушнеўскі Казімір Іванавіч, дэпутат абласнога і раённага саветаў | 1930 | 1955 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Слонімскага РК КПБ |
| | Алізаровіч Раман Адамавіч, дэпутат абласнога і раённага саветаў | 1935 | 1961 | служачы | вышэйшая | старшыня Гродзенскага раённага выканаўчага камітэта |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пушнянкова Нэлі Казіміраўна, дэпутат раённага савета | 1942 | 1966 | служачая | вышэйшая | сакратар Воранаўскага РК КПБ |
| | Пенцюль Вацлаў Феліксавіч, дэпутат раённага савета | 1940 | 1964 | служачы | вышэйшая | загадчык арганізацыйнага аддзела Воранаўскага РК КПБ |
| | Пуйдак Часлаў Станіслававіч, дэпутат раённага савета | 1951 | 1974 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Лідскага раённага камітэта камсамола |
| | Паўловіч Мар'ян Станіслававіч, дэпутат раённага савета | 1940 | 1966 | служачы | вышэйшая | намеснік старшыні Свіслацкага раённага выканаўчага камітэта |
| | Русіновіч Мар'ян Браніслававіч, дэпутат раённага савета | 1952 | 1977 | служачы | вышэйшая | першы сакратар Воранаўскага раённага камітэта камсамола |
| | Смаляк Станіслаў Іванавіч, дэпутат раённага савета | 1946 | 1966 | служачы | вышэйшая | загадчык арганізацыйнага аддзела Лідскага РК КПБ |
| | Сарока Іосіф Адольфавіч, дэпутат раённага савета | 1940 | 1967 | служачы | вышэйшая | сакратар Шчучынскага РК КПБ |
| | Шылкань Ірэна Францаўна | 1946 | 1974 | служачая | вышэйшая | другі сакратар Ашмянскага РК КПБ |

Крыніцы: Апрацоўка аўтара на падставе: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1 спр. 519, арк. 1–519. Анкеты дэлегатаў X Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі, 28.08.1961; Тамсама, спр. 830, арк. 1–542. Анкеты дэлегатаў XII Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі, 4.02.1966; Тамсама, спр. 969, арк. 1–262; Тамсама, спр. 970, арк. 1–285. Анкеты дэлегатаў XIV Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі, 28–29.01.1971; Тамсама, спр. 1100, арк. 1–305; спр. 1101, арк. 1–293. Анкеты дэлегатаў XVI Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі, 25.11.1975; Тамсама, спр. 1323, арк. 1–347; спр. 1324, арк. 1–304. Анкеты дэлегатаў XVIII Гродзенскай абласной партыйнай канферэнцыі, 25–26.12.1980; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno–Białystok 2013, s. 538–555.

Такім чынам, ва ўсёй БССР вышэйшую партыйную пасаду на гарадскім і раённым узроўнях — першага сакратара гарадскога (раённага) камітэта КПБ — займалі толькі 2 палякі ў Гродзенскай вобласці: Наготка Эдуард са Слоніма і Андрыеўскі Станіслаў з Гродна. Пры гэтым у Воранаўскім раёне, дзе налічвалася каля 85 % палякаў, у партыйным кіраўніцтве нікога з іх не было. Найбольшая колькасць прадстаўнікоў польскай меншасці была задзейнічана ў апараце кіраўніцтва камсамола Гродзенскай вобласці. Так, 11 палякаў займалі

пасады першых сакратароў раённых і гарадскіх арганізацый УЛКСМ, яны разглядаліся абкамам партыі як перспектыўныя кіраўнікі органаў партыйнай і савецкай улады.

Наступная табліца адлюстроўвае колькасць палякаў (у маштабе БССР), якія займалі пасады сакратароў гарадскіх, раённых камітэтаў КПБ, у параўнанні з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей.

**Табліца 21. Першыя, другія і трэція сакратары раённых і гарадскіх камітэтаў КПБ у 1971–1986 гг.**

| Год/ Нацыянальнасць | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | 1986 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % |
| Рускія | 79 | 17,6 | 64 | 14,1 | 66 | 13,7 | 71 | 14,8 |
| Украінцы | 17 | 3,8 | 10 | 2,2 | 12 | 2,5 | 10 | 2,1 |
| Беларусы | 349 | 77,6 | 370 | 81,7 | 390 | 81,1 | 388 | 80,8 |
| **Палякі** | **5** | **1,1** | **9** | **2,0** | **12** | **2,5** | **10** | **2,1** |
| Габрэі | - | - | - | - | - | - | - | - |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 43–43а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno — Białystok 2013, s. 425.

Колькасць першых сакратароў раённых і гарадскіх камітэтаў КПБ прадстаўлена ў табліцы 22.

**Табліца 22. Першыя сакратары раённых і гарадскіх камітэтаў КПБ у 1971–1986 гг.**

| Год/ Нацыянальнасць | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % |
| Рускія | 28 | 18,7 | 22 | 14,7 | 16 | 10,0 | 21 | 13,2 |
| Украінцы | 5 | 3.3 | 3 | 2,0 | 4 | 2,5 | 2 | 1,3 |
| Беларусы | 115 | 76,7 | 123 | 82,0 | 137 | 85,6 | 133 | 83,6 |
| **Палякі** | **2** | **1,3** | **2** | **1,3** | **3** | **1,9** | **3** | **1,9** |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 43–43а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno — Białystok 2013, s. 426.

Уся паўната ўлады ў СССР, у тым ліку і ў БССР, належала партыйным органам розных узроўняў. Камуністычная партыя адыгрывала асноўную ролю ў падборы і расстаноўцы кадраў ва ўсім Савецкім Саюзе. Як адзначалася раней, немагчыма было займаць кіруючыя пасады ў савецкіх органах улады тым, хто не ўступіў у партыю. У пасляваенны час уніфікацыяй Заходняй Беларусі з іншымі абласцямі БССР і насаджэннем новага палітычнага ладу займаліся выключна накіраваныя з усходу Савецкага Саюза рускія, беларусы, украінцы, габрэі, а таксама невялікая колькасць палякаў і прадстаўнікоў іншых

нацыянальнасцей, якія былі членамі КПСС[139]. Час паказаў, што такая палітыка была асуджана на правал. У канцы 1940-х гг. і асабліва пасля смерці Сталіна і XX з'езда КПСС у Беларусі паступова адбывалася замена кіраўнікоў, дасланых з усходніх рэгіёнаў Савецкага Саюза, на служачых з мясцовага насельніцтва[140]. У асноўным гэта былі беларусы. Мясцовых палякаў да 1971 г. не дапускалі да кіраўніцтва ў органах партыйнай і савецкай улады ў гарадах, раёнах і абласцях рэспублікі. Як бачна з табліц 22, 23, 24, толькі ў 1971 г. упершыню 5 палякаў з мясцовага насельніцтва заходніх абласцей БССР, выхаванцы савецкай школы, якія мелі вышэйшую адукацыю і давер з боку партыйнага і савецкага кіраўніцтва, занялі пасады першага (2 чалавекі), другога (2 чалавекі) і трэцяга (1 чалавек) сакратароў КПБ. Матэматычныя падлікі паказваюць, што палякам прасоўвацца па кар'ернай лесвіцы на пасаду першага сакратара раённага (гарадскога) камітэта партыі было ў той час у 57 разоў складаней, чым беларусам, і ў 14 разоў цяжэй, чым рускім. Такая сітуацыя з невялікімі зменамі захоўвалася на працягу ўсяго савецкага перыяду. Так, напрыклад, у 1986 г. паляку стаць першым сакратаром гарадскога (раённага) камітэта КПБ было ў 44 разы цяжэй, чым беларусу, і ў 7 разоў — чым рускаму.

Невялікая колькасць палякаў у кіраўніцтве гарадскіх (раённых) камітэтаў партыі і іх адсутнасць у структуры ЦК КПБ і абласных партыйных камітэтаў сведчаць пра іх дыскрымінацыю па нацыянальнай прыкмеце і пра недавер да іх (у параўнанні з рускімі і ўкраінцамі, якія таксама з'яўляліся прадстаўнікамі нацыянальнай меншасці). Яшчэ большы недавер у кадравым пытанні ў гэты перыяд улады мелі да габрэяў. Прыведзеныя ніжэй табліцы паказваюць колькасць палякаў, якія ў 1971–1986 гг. працавалі ў гарадскіх (раённых) камітэтах КПБ на пасадах другога і трэцяга сакратароў.

**Табліца 23. Другія сакратары раённых і гарадскіх камітэтаў КПБ у 1971–1986 гг.**

| Год/ Нацыянальнасць | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рускія | 24 | 16,0 | 17 | 11,3 | 26 | 16,3 | 19 | 11,9 |
| Украінцы | 8 | 5,3 | 4 | 2,6 | 6 | 3,7 | 3 | 1,9 |
| Беларусы | 116 | 77,3 | 129 | 85,4 | 125 | 78,1 | 136 | 85,0 |
| **Палякі** | **2** | **1,3** | **1** | **0,7** | **3** | **1,9** | **2** | **1,2** |
| Габрэі | - | - | - | - | - | - | - | - |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 52–52а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno — Białystok 2013, s. 427.

139 І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі*, с. 192.

140 Першая "гучная" замена адбылася ў студзені 1949 г., калі замест дасланага яшчэ ў 1944 г. з Масквы Пятра Калініна пасаду першага сакратара Гродзенскага абкама партыі заняў Сяргей Прытыцкі, адзін з нешматлікіх былых членаў КПЗБ, каму вярнулі членства ў КПБ. Гл.: ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 201, арк. 4: Протокол I Пленума Гродненского ОК КП(б)Б, 24.01.1949.

**Табліца 24. Трэція сакратары раённых і гарадскіх камітэтаў КПБ у 1971–1986 гг.**

| Год/ Нацыянальнасць | 1971 | | 1976 | | 1981 | | 1986 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рускія | 27 | 18,0 | 25 | 16,4 | 24 | 14,9 | 31 | 19,3 |
| Украінцы | 4 | 2,7 | 3 | 2,0 | 2 | 1,2 | 5 | 3,1 |
| Беларусы | 118 | 78,7 | 118 | 77,6 | 128 | 79,5 | 119 | 73,9 |
| **Палякі** | **1** | **0,7** | **6** | **3,9** | **6** | **3,7** | **5** | **3,1** |

Крыніцы: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 56–56а, прыватны архіў А. Вялікага з г. Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno — Białystok 2013, s. 428.

Яшчэ менш палякі былі прадстаўлены на адказных пасадах у Вярхоўным Савеце БССР, Савеце Міністраў БССР, прафсаюзных рэспубліканскіх і абласных арганізацыях. З наступнай табліцы бачна, што ў маштабе рэспублікі палякам давяралі працу з моладдзю на пасадах сакратароў гарадскіх і раённых камітэтаў камсамола.

**Табліца 25. Нацыянальны склад кіруючых кадраў БССР на 01.01.1989 г., чал. (%)**

| | Усяго | Рус. | Бел. | Укр. | Палякі | Інш. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Савецкія кадры** | | | | | | |
| Загадчыкі аддзелаў Вярхоўнага Савета БССР | 6 | - | 5 (83,3 %) | - | - | 1 (16,7 %) |
| Загадчыкі аддзелаў Савета Міністраў БССР | 20 | 3 (15 %) | 17 (85 %) | - | - | - |
| Прафсаюзныя кадры | | | | | | |
| Старшыні БРК прафсаюзаў | 21 | 1 (4,8 %) | 19 (90,5 %) | 1 (4,8 %) | - | - |
| Старшыні абласных саветаў прафсаюзаў | 6 | - | 6 (100 %) | - | - | - |
| Камсамольскія кадры | | | | | | |
| Сакратары абласных камітэтаў камсамола | 25 | 5 (20 %) | 19 (76 %) | 1 (4 %) | - | - |
| Сакратары гарадскіх і раённых камітэтаў камсамола | 481 | 56 (11,6 %) | 404 (84 %) | 9 (1,9 %) | 11 (2,3 %) | 1 (0,2 %) |
| Гаспадарчыя кадры | | | | | | |
| Міністры, старшыні дзяржкамітэтаў, кіраўнікі рэспубліканскіх устаноў | 64 | 10 (15,6 %) | 53 (82,8 %) | 1 (1,6 %) | - | - |
| Намеснікі міністраў, старшынь дзяржкамітэтаў, кіраўнікоў рэспубліканскіх устаноў | 169 | 38 (22,5 %) | 117 (69,2 %) | 10 (5,9 %) | 2 (1,2 %) | 2 (1,2 %) |

Крыніца: І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, Мінск 2010, с. 316.

У перыяд з 1956 г. да 1986 г. палякі найчасцей займалі кіруючыя пасады ў сельскай гаспадарцы БССР. Так, з ліку прадстаўнікоў польскай нацыянальнасці ў гэты час старшынямі калгасаў працавалі 67 чалавек, старшынямі саўгасаў — 25 чалавек, кіраўніком прадпрыемства Міністэрства сельскай гаспадаркі — 1 чалавек, кіраўнікамі раённых аб'яднанняў па забеспячэнні сельскай гаспадаркі — 3 чалавекі, старшынямі саветаў раённых аграпрамысловых аб'яднанняў — 4 чалавекі[141]. Слаба ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі меншасцямі выглядаў удзел палякаў у навукова-даследчай і выкладчыцкай працы ў БССР. У канцы 1986 г. сярод палякаў было толькі 17 дактароў навук і 175 кандыдатаў навук, пры гэтым украінская меншасць, якая саступала па колькасці палякам, мела 56 дактароў і 818 кандыдатаў навук, а ў некалькі разоў меншая габрэйская нацыянальная меншасць налічвала 66 дактароў і 528 кандыдатаў навук[142].

Як ужо адзначалася, палякі ў пасляваенны час у БССР у асноўным выкарыстоўваліся савецкай і партыйнай уладай у якасці фізічнай працоўнай сілы для абслугоўвання патрэб рэжыму. З 1970-х гг. пачалося пераборлівае і вельмі стрыманае ўключэнне палякаў у структуры савецкай, партыйнай і гаспадарчай улады на гарадскіх і раённых узроўнях. Пры гэтым папярэдне яны працавалі ў камсамольскіх арганізацыях, рыхтуючыся такім чынам да атрымання кіраўнічых пасад. Стаўка рабілася на палякаў, якія нарадзіліся ў БССР, скончылі савецкія школы, прайшлі выхаванне ў піянерскіх і камсамольскіх арганізацыях і мелі вышэйшую адукацыю. Нягледзячы на тое, што па колькасці ў КПБ у Гродзенскай вобласці палякі займалі трэцяе месца пасля беларусаў і рускіх, іх удзел у органах улады быў мізэрным. У гэтай сувязі напрошваецца выснова, што мясцовыя палякі, якія былі грамадзянамі Савецкага Саюза, у параўнанні з іншымі нацыянальнымі меншасцямі цярпелі дыскрымінацыю на нацыянальнай глебе.

Як справядліва лічыць Леанід Лыч, палітыка цэнтральных улад БССР была накіравана на ўмацаванне кадравага патэнцыялу рэспублікі службоўцамі, якія цалкам ад іх залежалі. Таму падчас расстаноўкі кіруючых кадраў улічвалася ў першую чаргу паслухмянасць. Перавага, як правіла, аддавалася тым, хто не меў у Беларусі сваіх каранёў. Такія людзі заўсёды былі гатовы выканаць любы загад начальства[143]. Толькі такім чынам можна растлумачыць непрапарцыянальна большы ўдзел рускіх і ўкраінцаў у сістэме савецкай улады.

141 І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі*, с. 206.

142 Тамсама, с. 208. Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 183–218.

143 Л. Лыч, *Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі*, с. 76.

## 1. Палякі ў перыяд перабудовы

Пачатак 1980-х гг. Савецкі Саюз сустрэў ва ўмовах эканамічнай стагнацыі і паглыблення сацыяльных праблем. Не хапала не толькі прадуктаў харчавання і прамысловых тавараў, але і металу, паліва, будаўнічых матэрыялаў — таго, што выраблялася ў краіне ў вялікіх колькасцях. Адбывалася схаваная інфляцыя, якая праяўлялася праз так званы чорны рынак. Таксама квітнела спекуляцыя. Дзяржаўная маёмасць у вялікіх маштабах выкарыстоўвалася наменклатурай для атрымання асабістых даходаў. Несуразмерна шмат рэсурсаў патрабавала сфера абароны. Вайсковыя выдаткі складалі не 16 %, а 40 % дзяржаўнага бюджэту, прадукцыя ваенна-прамысловага комплексу (ВПК) — не 6 %, а 20 % валавога грамадскага прадукту. З 25 млрд. рублёў выдаткаў на навуку каля 20 млрд. ішло на ваенна-тэхнічныя даследаванні і распрацоўкі. Па памеры рэальных даходаў насельніцтва СССР займаў адно з апошніх месцаў нават сярод сацыялістычных краін[1].

Як трапна заўважыў Міхаіл Гарбачоў, "[…] *спарахнела сама сістэма, яе застойная, старая кроў ужо не мела жыццёвых сіл*"[2]. Смерць Канстанціна Чарненкі дала магчымасць прыхільнікам рэформаў у партыі абраць у красавіку 1985 г. на пасаду генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова, які фактычна стаў на чале дзяржавы. Каб прыпыніць пагаршэнне спраў у сацыяльна-эканамічнай сферы, ён ініцыянаваў скліканне 23 красавіка 1985 г. Пленума ЦК КПСС[3]. У сваім выступленні Гарбачоў агучыў праблемы палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сфер, а таксама прапанаваў новы палітычны курс партыі, які быў падтрыманы ўдзельнікамі пленума. Такім чынам, адбылася афіцыйная прэзентацыя канцэпцыі новай палітыкі камуністычнай партыі, якая атрымала назву "перабудова"[4]. Звычайныя людзі, якія не былі звязаны з наменклатурай, з вялікім энтузіязмам падтрымалі перабудову, разглядалі яе ў якасці магчымасці выхаду на новую мадэль развіцця дзяржавы — дэмакратычнай, свабоднай, якая паважае правы чалавека і яго годнасць. Адкрытасць і дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця перыяду перабудовы давалі шанц народам і народнасцям СССР на паўнавартаснае нацыянальнае развіццё.

Нацыянальнае пытанне ў Савецкім Саюзе было складаным і цяжкім у вырашэнні, бо Сталін неабгрунтавана, не зважаючы на рэальныя абставіны,

---

1 Р. Г. Пихоя, *Власть. Номенклатура. Собственность. Об одной из причин распада СССР,* [у:] *Historia est testis temporum. Księga Pamiątkowa z okazji jubileuszu 90-lecia Profesorów Richarda Pipesa, Piotra Wandycza, Zbigniewa Wójcika,* pod redakcją Jana Malickiego, Warszawa 2017, s. 143–166; М. Горбачёв, *Понять перестройку… Почему это важно сейчас*, Москва 2006, с. 47.

2 Менш чым за тры гады да гэтага адзін за другім пайшлі з жыцця тры лідары краіны (Генеральныя сакратары ЦК КПСС), некалькі прыкметных членаў Палітбюро. У канцы 1980 г. памёр Мікалай Касыгін. У студзені 1982 г.— Міхаіл Суслаў. У лістападзе гэтага ж года — Леанід Брэжнеў. У траўні 1983 г. — Арвід Пельшэ. У лютым 1984 г. — Юрый Андропаў. У снежні — Дзмітрый Усцінаў. У сакавіку 1985 г. — Канстанцін Чарненка. Гл.: Тамсама, с. 46.

3 РДАНГ, ф. 2, воп. 3, спр. 708, арк. 1–150: Протокол заседания апрельского Пленума ЦК КПСС, 23.04.1985.

4 РДАНГ, ф. 2, воп. 3, спр. 709, арк. 1–16: Апрельский Пленум ЦК КПСС (23.04.1985). Подлинники постановлений и материалов Пленума ЦК КПСС на 16 листах.

вызначыў межы саюзных і аўтаномных рэспублік і абласцей. Ненармальнымі з нацыянальнага пункту гледжання былі канфігурацыі Грузіі і Абхазіі, Арменіі і Азербайджана, іншых рэспублік. Усё рабілася з разлікам на тое, каб ніхто з народаў не мог нават уявіць сябе па-за межамі Савецкага Саюза. Ствараліся здвоеныя рэспублікі, пры гэтым часам аб'ядноўваліся зусім далёкія па сваіх традыцыях народы. Рэспублікі і нацыянальныя аўтаноміі былі цесна прывязаны да Расіі. Любыя міжнацыянальныя спрэчкі і прэтэнзіі Сталін разглядаў як праяву антысавецкага супраціву і не губляў час на ўгаворы[5].

Масавыя пратэсты зімой 1986 г. у Казахстане, звязаныя з прызначэннем на пасаду першага сакратара ЦК партыі рускага з Масквы Генадзя Колбіна, прывялі да сутычак паміж студэнтамі і міліцыяй у Алма-Аце і іншых гарадах[6].

Арганізаваныя формы прыняў рух крымскіх татар, якія ў 1944 г. былі гвалтоўна дэпартаваныя ў лагерныя пасяленні Урала, Сібіры, Сярэдняй Азіі. У 1987 г. яны патрабавалі вяртання ў родныя мясціны, а таксама аднаўлення аўтаномнай рэспублікі крымскіх татар. Сігналы пра іх пратэсты і дэманстрацыі дайшлі да Крамля[7].

Міхаіл Гарбачоў, пералічваючы праблемы рэпрэсаваных народаў, крымскіх татар, немцаў Паволжа, балкарцаў, чачэнцаў, карачаеўцаў, калмыкаў, інгушоў і іншых, не ўзгадаў пра палякаў. Усе гэтыя праблемы патрабавалі прадуманага і ўзважанага падыходу. Было зразумела, што без уліку тагачаснай дэмаграфічнай сітуацыі і выпрацоўкі дэмакратычнай дамоўленасці вырашыць іх не атрымаецца[8].

Праблемы польскай нацыянальнай меншасці ў СССР партыйным і савецкім кіраўніцтвам у перыяд перабудовы пастаянна замоўчваліся, не былі яны ўлічаны і ў Пастанове пленума ЦК КПСС ад 20 верасня 1989 г., што тычылася нацыянальнай палітыкі партыі. У пастанове адзначалася: *"Належыць прыняць усе неабходныя меры з мэтай рашэння праблем Крымскіх татар, савецкіх немцаў, грэкаў, курдаў, карэйцаў, месхецінскіх туркаў і іншых нацыянальнасцей"*[9].

У 1988 г. пачаўся крывавы канфлікт у Нагорным Карабаху[10]. На той час у Азербайджане пражывала 500 тысяч армян, а ў Арменіі — 200 тысяч азербайджанцаў. Нягледзячы на зварот Гарбачова 26 лютага 1988 г. "Да

---

5 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 149.

6 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: *Волнения в Алма-Ате 1986 года:* "*восстание против русских*", http://russian7.ru/post/volneniya-v-alma-ate-1986-go-goda-vosstani/, [14.09.2017].

7 ДАРФ, ф. 9654, воп. 10, спр. 117, арк. 3: Письменная корреспонденция Верховного Совета СССР с гражданами, касающаяся национального вопроса, 1990–1991.

8 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 150–151.

9 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-70, k. 1: Notatka sporządzona przez R. Badowskiego na temat Polaków w ZSRR — sytuacja obecna, 12.10.1989.

10 Раён Закаўказзя ў 1920 г. быў адвольна ўключаны ў склад Азербайджана, хаця 85 % насельніцтва там складалі армяне. У лютым 1988 г. насельніцтва Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласці (НКАВ) Азербайджана (85 % — армяне) патрабавала ўключыць яе ў склад Армянскай ССР. Рашэнне аб гэтым прыняў абласны савет, і яго адразу падтрымалі шматтысячнымі дэманстрацыямі і мітынгамі ў Арменіі, што выклікала рэзкую рэакцыю ў Азербайджане. Як лічыць М. Гарбачоў, палітыка Баку заўсёды была накіравана на тое, каб выгнаць армян з НКАВ, як гэта было зроблена ў Нахічаванскай АССР, дзе пасля рэвалюцыі таксама пераважала армянскае насельніцтва, а да 1980 г. 95 % жыхароў складалі ўжо азербайджанцы. Гл.: М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 151.

працоўных, да народаў Азербайджана і Арменіі"[11], ужо на наступны дзень пралілася кроў армян, якіх, у тым ліку жанчын і дзяцей, выкідвалі з вокнаў, успорвалі ім жываты. У выніку загінула 30 чалавек, 197 было паранена[12].

З другой паловы 1988 г. дынаміка нацыянальных працэсаў узрастала. 1 кастрычніка 1988 г. адкрыўся ўстаноўчы з'езд Народнага фронту Эстоніі. Праз тыдзень быў створаны Народны фронт Латвіі. Прайшоў устаноўчы сход "Саюдзіса" ў Літве[13]. Найбольшы супраціў дзейнасці нацыянальных дэмакратычных сіл быў арганізаваны цэнтральнымі і мясцовымі ўладамі ў БССР. У гэты перыяд Беларусь прагрэсіўныя і актыўныя беларускія дзеячы асацыявалі з Вандэяй, таму яна атрымала назву "Вандэя перабудовы"[14]. Нягледзячы на гэта, 19 кастрычніка 1988 г. быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту (БНФ) "Адраджэнне"[15]. У склад камітэта ўвайшлі наступныя арганізацыі: Саюз беларускіх пісьменнікаў, Саюз кінематаграфістаў, Саюз мастакоў Беларусі і рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва". Сярод членаў камітэта былі простыя рабочыя, моладзь і вядомыя ў Беларусі прадстаўнікі інтэлігенцыі, напрыклад Зянон Пазняк, Васіль Быкаў, Алег Трусаў, Алесь Бяляцкі, Юрый Дракахруст, Вінцук Вячорка, Аляксандр Суша, Міхась Ткачоў і іншыя[16].

11 лістапада 1988 г. арганізацыйны камітэт прыняў адозву "Да грамадзян Беларусі", у якой былі названы палітычныя мэты руху. Заяўлялася, што БНФ *"падтрымлівае пачатую лепшымі сіламі КПСС перабудову на аснове дэмакратыі і гуманізму"*, выступае за дэмакратыю і рэальны суверэнітэт Беларусі, за падпарадкаванне эканомікі інтарэсам людзей, за выкананне правоў чалавека[17]. Фронт, як шырокі грамадскі рух, у зваротах арганізацыйнага камітэта заклікаў да дэмакратычнай кансалідацыі грамадства, да дыялогу ўлад з ідэалагічнымі апанентамі. Аднак камуністычнае кіраўніцтва БССР успрыняло стварэнне Фронту варожа.

30 кастрычніка 1988 г. улады з прымяненнем сілы і слёзатачывых газаў разагналі арганізаваны камітэтам БНФ мітынг падчас адзначэння "Дзядоў" у Мінску. Пасля гэтых падзей камітэт Фронту вынес вотум недаверу кіраўніцтву БССР. Беларускія ўлады, у сваю чаргу, з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі і тайных інструкцый, накіраваных у партыйныя камітэты, арганізавалі паклёпніцкую кампанію супраць БНФ і яго дзеячаў. Многія з іх былі арыштаваны, аштрафаваны, збіты, а таксама сістэматычна запалохваліся.

---

11 Редакционная статья, *Социалистический интернационализм — источник нашей силы*, "Правда", 1988, № 58.

12 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 152.

13 Тамсама, с. 150–151.

14 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, Białystok 2010, s. 97–98.

15 Падрабязней на гэту тэму гл.: O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*, Białystok b.d.w., s. 279–281.

16 A. Czwołek, *Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010)*, Gdańsk 2013, s. 49.

17 *Да грамадзян Беларусі. Адозва Арганізацыйнага Камітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне"*, "Навіны Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне»", 1988, nr 1, 1988, с. 5–6; T. Gawin, *Polskie odrodzenie*…, s. 180.

Найбольш актыўна гэтая кампанія вялася супраць лідара камітэта — Зянона Пазняка. Некалькі дзеячаў арганізацыйнага камітэта БНФ, якія былі членамі КПСС, у выніку ціску мусілі выйсці з камітэта[18]. Нягледзячы на гэта, дзякуючы арганізацыйнаму камітэту БНФ, 19 лютага 1989 г. на мінскім стадыёне "Дынама" прайшоў дазволены ўладамі мітынг з лозунгамі: *"Фабрыкі — працоўным, зямлю — сялянам, уладу — народу"*.

Камуністычныя ўлады Беларусі, напужаныя палітычнай актыўнасцю грамадзянскай супольнасці, не давалі камітэту дазволу на правядзенне ў Мінску ўстаноўчага сходу БНФ. З вялікімі арганізацыйнымі цяжкасцямі, але з'езд усё ж такі адбыўся. Праўда, за мяжой, у Вільні, 24–25 чэрвеня 1989 г. У ім удзельнічалі 399 дэлегатаў. З'езд прыняў Статут і Праграму руху[19]. Праграма складалася з наступных раздзелаў: "Суверэнітэт", "Дэмакратыя", "Правы чалавека", "Эканоміка", "Сацыяльная справядлівасць", "Экалогія" і, што было вельмі важна для палякаў у БССР, раздзела, прысвечанага нацыянальнаму пытанню. Упершыню ў Беларусі былі публічна агучаны прапановы выхаду з СССР, выключэння з беларускай канстытуцыі артыкула, які замацоўваў за КПСС кіруючую і накіроўваючую ролю ў дзяржаве, а таксама выказана патрабаванне гарантыі грамадзянскіх правоў і свабод. У той час гэта была вельмі смелая праграма і, як паказала практыка, цалкам рэальная для ажыццяўлення.

БНФ "Адраджэнне" як грамадска-палітычная арганізацыя і яе лідар Зянон Пазняк зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё дэмакратыі ў Беларусі і ў атрыманне ёй дзяржаўнай незалежнасці. У першыя гадзіны жнівеньскага путчу (19–21 жніўня 1991 г.) апазіцыя БНФ публічна назвала дзеянні путчыстаў спробай арганізацыі дзяржаўнага перавароту і выдала па гэтым пытанні афіцыйную заяву. БНФ быў у той час галоўным арганізатарам мітынгаў з лозунгамі супраць путчу. 22 жніўня 1991 г. апазіцыя БНФ выступіла з прапановай пазбаўлення пасад старшыні Вярхоўнага Савета БССР, міністра юстыцыі, старшыні дзяржаўнага камітэта БССР па радыё і тэлебачанні, а таксама ўсіх тых, хто падтрымаў путчыстаў. Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР, а таксама партыі БНФ беларускі народ абавязаны дэмакратызацыяй грамадска-палітычнага жыцця, прыняццем новых дзяржаўных сімвалаў (бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня"). Дзякуючы падтрымцы БНФ, Станіслаў Шушкевіч быў абраны на пасаду старшыні беларускага парламента і адначасова першага кіраўніка незалежнай і суверэннай Рэспублікі Беларусь[20].

У красавіку 1989 г. адбыліся крывавыя падзеі ў сталіцы Грузіі Тбілісі. Грузінскія ўлады адмовіліся весці перамовы з прадстаўнікамі дэмакратычных сіл. У выніку сілавога вырашэння пытання 16 чалавек загінулі, многія былі паранены[21]. Падзеі, звязаныя з пагромамі і збіццём людзей у Тбілісі, занялі асаблівае

---

18 С. Навумчык, *Сем гадоў адраджэння, альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995),* Варшава-Прага 2006, с. 11–20.

19 W. Wiaczorka, *Białoruski Front Narodowy "Odrodzenie"*, "Obóz", 1993, nr 25/26, s. 85–86; С. Букчин, *Белорусская трагедия 1986–1999. Страна и народ в зеркале публицистики,* Warszawa 2000, с. 57–62.

20 T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988-2005. Historia działalności,* s. 183-184.

21 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 157.

месца ў выступленнях на I З'ездзе народных дэпутатаў СССР 25 траўня ў Маскве. Большасць дэпутатаў патрабавала недапушчэння ў будучым падобных спосабаў вырашэння праблем у *"дэмакратычнай прававой сацыялістычнай дзяржаве"*[22]. У розных рэгіёнах Савецкага Саюза — Прыбалтыйскіх рэспубліках, Украіне, Малдове, Грузіі, Сярэдняй Азіі і іншых — усё часцей сталі гучаць патрабаванні аб пашырэнні развіцця мовы тытульнай нацыі, эканамічным суверэнітэце і іншых правах.

Нацыянальнае пытанне ў СССР у другой палове 1980-х гг. стала настолькі сур'ёзным, што яго закранаў М. Гарбачоў 27 красавіка 1989 г. падчас сустрэчы з Войцехам Ярузельскім у Маскве. "*У цяперашні час для СССР гэта найважнейшае пытанне,* — казаў савецкі лідар. — *Выбух нацыянальных праблем з такой сілай быў для нас нечаканасцю, пры гэтым кожная з іх мела сваю падаплёку. Абуджэнне нацыянальных амбіцый праяўляецца ў Прыбалтыйскіх рэспубліках, іншыя праблемы ёсць у Грузіі і Арменіі, тут здзіўляе адсутнасць ва ўлад рэспублік умення працы з людзьмі, недаацэнка лозунга аўтаноміі і адначасова страх нацыяналізму і шавінізму"*[23]. Гарбачоў, між іншым, назваў тры самыя важныя прычыны такога становішча: *"Самі ствараем нацыянальныя праблемы, асабліва ў сферы адукацыі, мовы, культуры, сродкаў масавай інфармацыі, кадравай палітыкі.* [...] *Рэлігійная матывіроўка як новая з'ява. Галоўнай праблемай, аднак, з'яўляюцца справы ў эканоміцы, недахопы ў забеспячэнні прадуктамі харчавання і прамысловымі таварамі"*[24].

Польская нацыянальная меншасць у БССР была дэзінтэграваная, з аднаго боку, у выніку савецкай антыпольскай палітыкі, якая праводзілася ў 1921–1985 гг.,[25] з другога боку — адсутнасцю ўсялякай зацікаўленасці ў яе існаванні з боку ўлады ПНР[26] (асабліва пасля рэпатрыяцыі 1955–1959 гг.). Яна сустрэла перабудову няздольнай арганізавана выступіць з патрабаваннямі адраджэння культурна-асветнай дзейнасці, нацыянальнага развіцця.

Пасля вымушанага выезду ў пасляваеннае дзесяцігоддзе з БССР найбольш нацыянальна свядомай часткі палякаў, тут засталіся ў асноўным іх слаба адукаваныя групы, галоўным чынам жыхары вёсак і малых гарадоў. У Беларусі сярод беларусаў, у адрозненне ад суседняй Літвы, пасля вайны вельмі рэдка праяўляліся незалежніцкія настроі. Тут амаль ніхто не думаў пра стварэнне ў будучым незалежнай і суверэннай беларускай дзяржавы. Слабасць беларусаў у нацыянальным пытанні магчыма стала адной з прычын таго, што Масква не дала культурнай аўтаноміі палякам у БССР, у адрозненне ад Літвы, дзе, дзякуючы прызнанню існавання вялікай польскай меншасці, была створана

22 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-69, k. 3.

23 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-75, k. 5: Wizyta W. Jaruzelskiego w Moskwie, 27–28.04.1989.

24 Тамсама, арк. 5–6.

25 Гэтую палітыку варта падзяліць на два перыяды: адзін для ўсходніх абласцей БССР (пачынаючы з 1921 г. і да 17 верасня 1939 г.), другі — для заходніх абласцей БССР (пасля 17 верасня 1939 г. і да 1985 г.). Першы перыяд падрабязна апісаны ў I раздзеле працы.

26 Нават пасля пачатку перабудовы ў СССР кіраўніцтва Таварыства па сувязях з замежжам "Палонія", складаючы план працы з палякамі за мяжой на 1986–1990 гг., не ўзгадала пра наладжванне кантактаў і супрацоўніцтва з палякамі ў СССР. Гл.: AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-1031.

магчымасць для захавання і развіцця нацыянальнай свядомасці і польскай мовы. У БССР палякі былі непатрэбны ў ролі супрацьдзеяння беларускаму нацыяналізму, бо яго фактычна не было. Савецкім уладам у Маскве не трэба было ў Беларусі разыгрываць "польскую карту", якую ў выпадку неабходнасці можна было б выкарыстаць супраць беларусаў у якасці "пудзіла". У ніводнай з саюзных рэспублік СССР палякі не сутыкнуліся з такой дыскрымінацыяй, як у БССР. У Літоўскай ССР у вёсках, якія знаходзіліся побач з беларускай мяжой, існавалі польскія школы. Польская мова не забаранялася літоўскімі ўладамі. Многіх дзяцей бацькі-палякі адпраўлялі з БССР у польскамоўныя школы ў Літве, каб такім чынам абараніць іх ад непазбежнай русіфікацыі[27].

Адданыя Маскве ўлады БССР праводзілі татальную палітыку асіміляцыі і саветызацыі беларускіх палякаў. Варта адзначыць, што палякі, якія атрымалі дзяржаўныя пасады ў БССР, не прасоўваліся па службовай лесвіцы ў залежнасці ад сваіх прафесійных здольнасцей, адукацыі і дзелавітасці. Яны выбіраліся маскоўскімі "асаднікамі", якім павінны былі верна служыць, а таксама мусілі быць гатовымі падаўляць нацыянальныя імкненні мясцовага насельніцтва[28].

У БССР, паводле даных апошняга савецкага перапісу насельніцтва, які быў праведзены ў 1989 г., пражывала 417 720 палякаў. Але гэтая лічба сур'ёзна заніжана. Яе можна назваць апошнім савецкім падманам, які тычыўся перапісу насельніцтва[29]. Колькасць палякаў на фоне іншых нацыянальнасцей у БССР адлюстроўвае прыведзеная ніжэй табліца.

[27] T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 73–74.

[28] У траўні 1988 г. група палякаў спрабавала ўвесці выкладанне польскай мовы ў сярэдняй школе ў в. Ласосна Гродзенскага раёна. Адміністрацыя школы і чыноўнікі з Гродна ўсялякімі спосабамі спрабавалі не дапусціць гэтага. Найбольш тады здзівіла пазіцыя па гэтым пытанні настаўнікаў, якія паходзілі з польскіх сямей. Жаданне выслужыцца перад сваёй адміністрацыяй і прадстаўнікамі ўлады з Гродна зрабіла іх праціўнікамі вывучэння польскай мовы ў школе. Падобных выпадкаў у той час было шмат. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna, Pamiętniki — 1987–1993. Odrodzenie polskości na Białorusi*, Grodno-Lublin 1993.

[29] Падрабязней на гэту тэму гл.: Служебная записка, составленная консулом Дунаем из Минска во время встречи секретаря ЦК ПОРП тов. Стемпеня с Полонией в Гродно 13 июля 1989 г., AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-936, k. 1–5; Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna i historiografia białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości*, Wrocław 2003.

**Табліца 26. Палякі ў БССР на фоне іншых нацыянальнасцей у 1959–1989 гг.**

| Пералік | Колькасць чалавек і працэнт | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1959 | 1970 | 1979 | 1989 |
| Агульная колькасць насельніцтва | 8 055 714<br>100 % | 9 002 338<br>100 % | 9 532 516<br>100 % | 10 151 806<br>100 % |
| Беларусы | 6 532 035<br>81,1 % | 7 289 610<br>81, 0 % | 7 567 955<br>79,4 % | 7 904 623<br>77,9 % |
| Рускія | 660 159<br>8,2 % | 938 161<br>10,4 % | 1 134 117<br>11,9 % | 1 342 099<br>13,2 % |
| **Палякі** | **538 881**<br>**6,7 %** | **382 600**<br>**4,3 %** | **403 169**<br>**4,2 %** | **417 720**<br>**4,1 %** |
| Украінцы | 133 061<br>1,7 % | 190 839<br>2,1 % | 230 985<br>2,4 % | 291 008<br>2,9 % |
| Габрэі | 150 084<br>1,9 % | 148 011<br>1,6 % | 135 450<br>1,4 % | 111 977<br>1,1 % |
| Татары | 8 654<br>0,1 % | 10 031<br>0,1 % | 10 911<br>0,1 % | 12 552<br>0,1 % |
| Літоўцы | 8 363<br>0,1 % | 8 092<br>0,1 % | 6 933<br>0,1 % | 7 606<br>0,1 % |

Крыніцы: Асабістая апрацоўка на падставе: *Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года. Национальный состав населения Республики Беларусь и распространённость языков. Статистический сборник*, т. 1, Минск 2001, с. 16; R. Dzwonkowski SAC, *Polacy na dawnych kresach wschodnich. Z problematyki narodowościowej i religijnej*, Lublin 1994.

Вядомы даследчык польскасці на былых крэсах Рэчы Паспалітай прафесар кс. Раман Дзванкоўскі (з Таварыства каталіцкага апостальства) сцвярджае, што ўсе без выключэння пасляваенныя перапісы насельніцтва ў СССР служылі палітыцы асіміляцыі і таму не могуць быць прызнаны дакладнымі і праўдзівымі. Асабліва гэта датычыцца палякаў, якім без іх згоды прыпісвалі іншую нацыянальнасць[30].

Нягледзячы на супраціў палякаў[31], працэс іх асіміляцыі прагрэсіраваў згодна з чаканнямі ўлад у БССР. Больш чым саракагадовая наступальная палітыка савецкага кіраўніцтва дала плён: многія з палякаў добраахвотна адмаўляліся ад сваёй нацыянальнасці[32], а некаторыя, каму ўлады дазволілі кар’ерны рост, не

30 R. Dzwonkowski SAC, *Papież Jan Paweł II. Spotkania z Polakami na Wschodzie 1993, 1999, 2001, 2002*, Warszawa-Lublin 2012, s. 32–33.

31 *List do redakcji "Czerwonego Sztandaru" Reginy Stelmach i Justyny Mieszczanowicz z Oszmiany*, "Czerwony Sztandar", 1989, nr 255; J. Hryńczuk, *Nawet się popłacze. Głos z Białorusi*, "Czerwony Sztandar", 1990, nr 6; W. Gordzianiec, *List do redakcji*, "Głos znad Niemna", 1992, nr 19 (30); T. Frońska, *List do redakcji*, "Głos znad Niemna", 1993, nr 20 (54); M. Woropaj, *List do redakcji*, "Głos znad Niemna", 1992, nr 12 (23); W. Łysko, *List do redakcji*, "Głos znad Niemna", 1993, nr 19 (53); J. Surwiło, *Rachunków nie zamykamy*, Wilno 2007, s. 187; T. Hołownia, prezes Oddziału ZPB w Indurze, spisane wspomnienia z prywatnego archiwum domowego; S. Uszakiewicz, *Być Polakiem*, "Głos znad Niemna", 1992, nr 3 (14); *Wywiad Laury Michajlik z Wiktorem Maculewiczem, Prezesem Oddziału ZPB w Brasławiu*, "Głos znad Niemna", 1992, nr 6 (17).

32 Z. J. Winnicki, *Uwagi o wpływie i skutkach stosowania niektórych metod i środków depolonizacyjnych na obszarze Ziem Białoruskich na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie*, [y:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, red. E. Skrobocki, Grodno 2003, s. 45; S. Kulikowski, *Chcemy mieć tę polskość*, "Gazeta Współczesna", 1989, nr 17 (11 620); T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, s. 27.

зважаючы на тое, што ў пашпарце мелі запіс пра польскую нацыянальнасць, свядома пра яе забывалі. Такім чынам яны не сталі беларусамі або рускімі і не перасталі быць палякамі, але перайшлі на пазіцыі так званага савецкага чалавека — чалавека без роду і каранёў. Варта заўважыць, што ўсё гэта адбывалася пасля смерці Сталіна, калі не было ўжо пагрозы прымусовых высылак у аддаленыя раёны СССР або масавых расстрэлаў, як падчас "польскай аперацыі" ў 1937–1938 гг. Але ўлады здолелі стварыць такую атмасферу нецярпімасці ў дачыненні да палякаў, што яны ўсё часцей не хацелі звязваць сваю будучыню з польскім народам, яго гісторыяй і культурай[33].

Перабудова дала палякам у Беларусі і ва ўсім СССР чарговы шанц на развіццё ўласнай культуры. Палітыка галоснасці садзейнічала імкліваму выхаду з небыцця, абуджэнню і адраджэнню шматтысячных польскіх мас. Вынікам савецкай палітыкі дэпаланізацыі і саветызацыі было акурат тое, што польскі рух адраджэння ў БССР пачаўся без удзелу палякаў, якія займалі адказныя пасады кіраўнікоў у партыйным апараце, у структурах савецкай улады, і гэта было яго асноўнай слабасцю. Гэта быў рух, у якім з самага пачатку актыўна ўдзельнічалі настаўнікі, навуковыя супрацоўнікі і выкладчыкі ВНУ, інжынеры, творчая інтэлігенцыя, дзяржаўныя служачыя ніжэйшага звяна, працоўныя і сяляне, а таксама вялікая колькасць пенсіянераў. Апошнія ў той час адчувалі сябе найбольш свабоднымі і незалежнымі ад улады людзьмі[34].

Палякі ў БССР уключыліся ў перабудову толькі ў 1987 г., патрабуючы ад улад вырашэння праблемных пытанняў, звязаных з іх роднай мовай, польскай культурай і рэлігійным жыццём[35]. Гэты працэс адносна позна пачаўся і марудна развіваўся да таго часу, пакуль не набыў у самым канцы 1980-х гг. узрыўны характар. Узнікае пытанне: што насамрэч было прычынай гэтага нацыянальнага пад'ёму? Навучанае шматгадовым вопытам польскае насельніцтва Беларусі першапачаткова ўспрыняло заявы ўлад пра новы палітычны курс асцярожна і недаверліва. Палякі, якія жылі ў розных рэгіёнах БССР, усё часцей задавалі сабе пытанні: ці сапраўды прыйшоў час вырашаць свае польскія праблемы? Калі так, то ці атрымаецца іх вырашыць? У іх асяроддзі існавала сур'ёзная боязь, звязаная з папярэднім досведам. У палякаў не было ўпэўненасці ў тым, што сталінскія рэпрэсіі сталі апошнім актам у справе дэпаланізацыі былых польскіх крэсаў. Таксама яны памяталі пра хрушчоўскую адлігу, калі менш

---

33 Атмасфера нецярпімасці, якая панавала ў савецкім грамадстве, стала прычынай таго, што многія з палякаў, атрымаўшы прэстыжную адукацыю, вельмі часта саромеліся свайго польскага паходжання, якое, дарэчы, з'яўлялася перашкодай для іх кар'ернага росту. Распаўсюджанай з'явай у той час было і тое, што палякі, асабліва ў гарадах і прыгарадах, каб дасягнуць вышэйшага ўзроўню жыцця, адмаўляліся ад сваёй рэлігійнасці і нацыянальнай самасвядомасці. Гл.: A. Jakowlew, *Wspomnienia własne. Pamiętniki Polaków na Wspomnienia własne*, [у:] *Pamiętniki Polaków na Wschodzie. Białoruś, Ukraina, Kazachstan — losy pokoleń,* t. 1, Warszawa 2006, s. 41.

34 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 449, 451.

35 L. Komaiszko, *Samouświadomienie,* cz. 1: *Młodzi Polacy na Białorusi,* "Czerwony Sztandar", 1988, nr 178 (10 829); A. Siemionow, *Nasze początki*, [у:] *Jak feniks z popiołu… Polacy na Ziemi Lidzkiej w latach 1987–1997*, red. A. Kołyszko, Lida 1997; T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 91; AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-697, k. 1: Notatka na temat nowo powstałego Klubu Miłośników Kultury Polskiej w Lidzie z 4 stycznia 1988 roku sporządzona przez KG PRL w Mińsku.

асцярожныя з іх паверылі, што польская дзяржава дапаможа захаваць польскасць на беларускіх землях, а тым часам ПНР адмежавалася ад іх і канчаткова забыла пра існаванне палякаў у Беларусі[36].

Як ужо адзначалася раней, пачынаючы з 1971 г. палякі актыўна прыцягваліся да кіраўніцтва на раённым і гарадскім узроўнях. Прыведзеная ніжэй табліца адлюстроўвае іх агульную колькасць у дадзены перыяд на пасадах першых, другіх і трэціх сакратароў камітэтаў партыі ў БССР у адвольна выбраныя гады.

**Табліца 27. Сакратары гарадскіх (раённых) камітэтаў КПБ у БССР у 1987–1989 гг.**

| | Пасада | 1987 | | 1988 | | 1989 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | [кольк.] | [%] | [кольк.] | [%] | [кольк.] | [%] |
| Рускія | I сакратар | 19 | 12,0 | 19 | 11,9 | 19 | 12,0 |
| | II сакратар | 20 | 12,7 | 25 | 15,6 | 25 | 15,9 |
| | III сакратар | 31 | 19,5 | 30 | 19,0 | 29 | 18,2 |
| | Усяго | 70 | 14,7 | 74 | 15,5 | 73 | 15,4 |
| Украінцы | I сакратар | 1 | 0,6 | 1 | 0,6 | 2 | 1,3 |
| | II сакратар | 2 | 1,3 | 1 | 0,6 | 1 | 0,6 |
| | III сакратар | 5 | 3,1 | 5 | 3,2 | 5 | 3,1 |
| | Усяго | 8 | 1,7 | 7 | 1,5 | 8 | 1,7 |
| Беларусы | I сакратар | 136 | 85,5 | 136 | 85,0 | 134 | 84,3 |
| | II сакратар | 134 | 84,8 | 130 | 81,2 | 125 | 79,6 |
| | III сакратар | 117 | 73,6 | 117 | 74,0 | 122 | 76,7 |
| | Усяго | 387 | 81,3 | 383 | 80,1 | 381 | 80,2 |
| **Палякі** | **I сакратар** | **3** | **1,9** | **4** | **2,5** | **4** | **2,5** |
| | **II сакратар** | **2** | **1,3** | **3** | **1,9** | **5** | **3,2** |
| | **III сакратар** | **5** | **3,1** | **6** | **3,8** | **3** | **1,9** |
| | **Усяго** | **10** | **2,1** | **13** | **2,7** | **12** | **2,5** |

Крыніцы: Асабістая апрацоўка на падставе: Інфарматар пра склад партыйных кадраў БССР, с. 43а-43б, 48а-48б, 52а-52б, 56а-56б. Прыватны архіў А. Вялікага з Мінска; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno-Białystok, 2013, s. 440.

З табліцы бачна, што ў кіруючым партыйным апараце БССР сярэдняга звяна працавала ў розныя гады ад 10 да 13 палякаў. Таксама яны былі прадстаўлены ў сістэме выканаўчай улады, напрыклад працавалі старшынямі гарадскіх выканаўчых камітэтаў (Гродна, Брэст) і раённых выканкамаў[37]. У Мінскай вобласці прадстаўнікі польскай нацыянальнасці займалі вышэйшыя пасады ў ахове здароўя і міліцыі[38]. У працы Вярхоўнага Савета БССР (1990–1995) прымалі ўдзел 11 палякаў, у тым ліку адзін з іх, Аляксандр Паўлоўскі з Гродна, прадстаўляў інтарэсы польскай нацыянальнай меншасці[39]. У перыяд 1986–1990 гг. у Вярхоўным Савеце

[36] M. Jagiełło, *Po prostu Polacy. Wywiad z Józefem Klasą, Sekretarzem Generalnym Towarzystwa "Polonia"*, "Czerwony Sztandar", 1989, nr 98.

[37] Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, (далей: ДАБВ), ф. 1п, воп. 85, спр. 4, арк. 89; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 556–557, 560.

[38] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, (далей: ДАМВ), ф. 1, воп. 84, спр. 4, арк. 38, 42, 129, 140, 142, 153; спр. 3, арк. 72, 152; спр. 2, арк. 189; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 558–559.

[39] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 560–562.

БССР засядалі 11 палякаў, якія ў асноўным з'яўляліся вылучэнцамі з асяроддзя калгаснікаў. Толькі адзін з іх — Станіслаў Андрыеўскі, былы камсамольскі і партыйны работнік, — быў старшынёй Гродзенскага выканаўчага камітэта[40]. Амаль ніхто з гэтых палякаў не далучыўся да польскага нацыянальнага адраджэння ў часы перабудовы. Гэта з'яўляецца галоўнай прычынай таго, што вынікі польскага нацыянальнага руху ў БССР былі вельмі сціплымі[41].

Чаму палякі, прадстаўнікі розных органаў улады ў Беларусі, не ўключыліся ў рух польскага нацыянальнага адраджэння? Якія прычыны і падставы таго, што яны так кансерватыўна аднесліся да "польскага пытання"? Яны былі палякамі, мелі запіс аб польскай нацыянальнасці ў пашпарце, не адмовіліся ад яе дзеля кар'еры. Чаму іх нейтральнасць, а часамі абыякавасць, у рэдкіх выпадках варожасць служылі інтарэсам партыйнай і савецкай улады БССР у захаванні *status quo* "польскага пытання"?[42] Існуе некалькі адказаў. Першы і самы галоўны: у савецкі час адбывалася пільная кадравая селекцыя палякаў, накіраваная на тое, каб выбраныя ўладай прадстаўнікі польскай нацыянальнасці былі бязмежна адданымі і паслухмянымі савецкаму і партыйнаму кіраўніцтву, былі гатовыя выканаць любы яго загад. Ненадзейныя людзі не дапускаліся да наменклатуры. Другі, не менш важны адказ зводзіцца да таго, што "польскія" камуністычныя эліты, якія былі русіфікаваныя, дэпаланізаваныя і саветызаваныя, не працавалі ў інтарэсах Беларусі і яе насельніцтва, а дзейнічалі выключна на карысць "савецкай імперыі". Праблемы палякаў у Беларусі іх не цікавілі, больш за тое, яны, займаючы пасады кіраўнікоў, лічылі сябе абранымі сярод прадстаўнікоў польскай супольнасці. Іх натуральным асяроддзем існавання стала савецкая, камуністычная наменклатура, якой яны былі ўдзячныя за жыццё на новым, лепшым узроўні. Трэці адказ — страх страты стабільнасці, працы ў новых умовах, эканамічная няўпэўненасць, а магчыма таксама і страх перад расплатай за несанкцыянаваную палітычную дзейнасць. Саветызацыя як палякаў, так і беларусаў, а таксама "жалезная заслона" сталі наступнай прычынай ізаляцыі беларускіх палякаў ад іх этнічнай радзімы, прывялі ў шматлікіх выпадках да разрыву сямейных сувязей, да адсутнасці магчымасці свабодных выездаў у Польшчу, а тым самым да страты кантактаў з краінай сваіх продкаў, імкнення да падтрымкі польскай мовы і культуры. Савецкая ўлада гвалтоўна прымусіла палякаў існаваць у чужым для іх моўным і культурным асяроддзі.

У перыяд, які мы разглядаем, існавала таксама адносна вялікая група палякаў (34 чалавекі[43]), якія займалі кіруючыя пасады ў гаспадарчым апараце Гродзенскай вобласці. Гэта былі дырэктары буйных дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў, старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў,

[40] AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-697, k. 2: Notatka służbowa dotycząca mniejszości narodowych na terenie radzieckiej Białorusi sporządzona przez KG w Mińsku M. Obiedzińskiego, 19.10.1987.

[41] Падрабязней на гэту тэму – у наступным раздзеле.

[42] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna, (Pamiętniki — 1987–1993). Odrodzenie polskości na Białorusi*, s. 5–127.

[43] Пісьмовы рапарт былога дэпутата ВС БССР (1990–1995) Аляксандра Паўлоўскага перададзены аўтару гэтай працы 30.08.2012 г.

а таксама начальнікі розных абласных службаў. Разам са шматлікімі дэпутатамі абласных і раённых саветаў яны стваралі моцную і ўплывовую палітычную сілу. Але і сярод гэтай групы, як і ў партыйнай і савецкай наменклатуры, не знайшоўся чалавек, які змог бы аб'яднаць людзей для агучвання праблем польскай нацыянальнай меншасці перад вышэйшымі ўладамі. "Маўчанне" палякаў з савецкай наменклатуры ў такі важны для польскай супольнасці ў БССР час прывяло да таго, што нацыянальнае адраджэнне палякаў было даволі неэфектыўным.

У пасляваенны час самым масавым польскамоўным асяродкам быў Каталіцкі касцёл, прыходы якога засталіся адзінымі цэнтрамі ў Беларусі, вакол якіх канцэнтравалася жыццё польскай нацыянальнай меншасці[44]. Генеральны консул ПНР у Мінску генерал-палкоўнік Мечыслаў Абедзінські на гэты конт заўважыў: *"Адсутнасць польскіх свецкіх культурных цэнтраў стала прычынай таго, што інтэлігенцыя, якая вядзе свой радавод з польскай нацыянальнай меншасці, у асноўным прыстасавалася да мясцовых умоў, асімілявалася, знаходзячы ў такім выбары сваё прафесійнае, грамадскае і культурнае развіццё. Збольшага гэта ўжо другое і нават трэцяе прафесійна актыўнае пакаленне. Многія з іх нават не прызнаюцца пра сваё паходжанне, а калі і кажуць пра яго, што назіраецца ў асяроддзі партыйнага актыву, то робяць гэта для таго, каб дагадзіць свайму суразмоўцу"*[45].

Польскае наменклатурнае асяроддзе таксама было дэзінтэграванае, што зрабілася чарговай прычынай адсутнасці ў ім ініцыятывы выкарыстаць перабудову ў інтарэсах свайго нацыянальнага адраджэння.

Алег Малашэнка з Гродна[46] называў наступную прычыну такога стану спраў: "*Палякі, члены партыі, якія займалі ў той час кіруючыя пасады, не былі палякамі ў сэнсе культурным. Галоўным дакументам, які іх ідэнтыфікаваў, быў партыйны білет, а там не было лозунга "Палякі ўсіх краін, аб'ядноўвайцеся!" Рэальна яны суадносілі сябе са сваімі патрэбамі. Галоўны іх інтарэс быў накіраваны на выкананне загадаў зверху, за што давалася спецыяльная ўзнагарода. Галоўнай для іх небяспекай была любая несанкцыянаваная партыяй дзейнасць"*[47]. Цяжка з гэтым сцвярджэннем не пагадзіцца.

Перабудову, якую пачаў Міхаіл Гарбачоў, прынялі ўсе палякі, што жылі ў БССР, у тым ліку і польская наменклатура. Пры гэтым апошняя дзейнічала паводле загадаў і распараджэнняў вышэйшага начальства, у планах якога

---

[44] AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-697, k. 1.

[45] Тамсама, к. 2.

[46] Алег Малашэнка – вядомы беларускі дысідэнт. Калі быў студэнтам Гродзенскага педагагічнага інстытута, публічна выступіў у абарону польскіх студэнтаў, збітых польскімі ўладамі ў Варшаве ў 1968 г. падчас студэнцкіх пратэстаў. Па яго справе асабіста старшыня КДБ Юрый Андропаў дакладваў Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Леаніду Брэжневу на пасяджэнні Палітычнага бюро. Больш падрабязна за гэту тэму гл.: Д. Бабич, *Он был в России больше чем поэт*…, "Комсомольская правда", 16.10.1992; ён жа, *Как жучки точили книги Быкова в гранках — История одной операции КГБ*, 16.02.1993.

[47] Электронны ліст ад Алега Малашэнкі на тэму разважанняў пра палякаў у БССР у 1956–1991 гг. да аўтара працы, 11.08.2016.

не было вырашэння “польскага пытання” такім чынам, як гэта гарантавалі канстытуцыі СССР і БССР. Польскія грамадскія арганізацыі, што займаліся польскім нацыянальным адраджэннем, сутыкнуліся ў сваёй працы з супрацьдзеяннем беларускіх улад, якія хацелі, каб “польскае пытанне” заставалася, як і раней, закансерваваным. У гэтым супрацьстаянні актыўная польская супольнасць не магла разлічваць на палякаў, якія займалі высокія пасады ў БССР. Гістарычны шанц на польскае нацыянальнае адраджэнне ў гэтай сувязі не быў цалкам выкарыстаны.

## 2. Адраджэнне арганізацыйнага, рэлігійнага жыцця і школьніцтва

З нагоды стварэння 17 траўня 1987 г. у Лідзе клуба аматараў польскай культуры, які быў зарэгістраваны пры гарадскім Доме культуры[48], Генеральны консул ПНР у Мінску генерал-палкоўнік Мечыслаў Абедзіньскі пісаў 4 студзеня 1988 г. у Варшаву: *"Консульства з поўным задавальненнем падкрэслівае, што гэта першая ў пасляваеннай гісторыі Беларусі паланійная арганізацыя на гэтай тэрыторыі. Гэта з'яўляецца прарывам у існуючых да цяперашняга часу паводзінах афіцыйных органаў БССР, і факт гэты будзе безумоўна станоўча ўплываць на далейшую нашу паланійную дзейнасць. Зважаючы на вышэйсказанае, гэта першая паланійная арганізацыя ў Лідзе патрабуе асаблівай палітычнай апекі, арганізацыйнай і маральнай падтрымкі"*[49]. У пачатку 1988 г. у г. Баранавічы Брэсцкай вобласці створаны клуб аматараў польскай мовы і культуры. Каштоўным у гэтай ініцыятыве было тое, што адным з арганізатараў справы стала Тэрэса Селівончык — дырэктар гарадскога Клуба будаўнікоў, дзяржаўны чыноўнік[50]. У сувязі з гэтым магчымасці дзейнасці польскай арганізацыі нашмат пашыраліся.

Даследчык з Магілёва Ігар Пушкін лічыць, што, нягледзячы на пасляваенную саветызацыю палякаў у заходніх абласцях БССР, яны так і не сталі цалкам савецкімі, у сэнсе дэнацыяналізаванымі інтэрнацыяналістамі. Пра гэта сведчыла тое, што яны першымі ў Беларусі сярод нацыянальных меншасцей пачалі працэс культурнага адраджэння[51].

Сваёй актыўнасцю ў стварэнні польскіх грамадскіх арганізацый палякі ў Лідзе і Баранавічах апярэдзілі палякаў у Літве, якім толькі 5 траўня 1988 г. удалося адкрыць польскую рэспубліканскую грамадскую арганізацыю (Stowarzyszenie Społeczno-Kulturalne Polaków na Litwie)[52]. Стварэнню адпаведнага клімату для польскага адраджэння ў БССР садзейнічалі палітычныя падзеі, якія адбыліся ў СССР і ў Польшчы ў 1987–1988 гг. Напрыклад, падпісанне 21 красавіка 1987 г. у Маскве Дэкларацыі аб супрацоўніцтве ў сферы ідэалогіі, навукі і культуры паміж урадамі СССР і ПНР[53]. 11–18 красавіка 1988 г. пад кіраўніцтвам М. Гарбачова адбыліся тры нарады ў ЦК КПСС з першымі сакратарамі

---

48 Падрабязней пра стварэнне першай польскай арганізацыі ў БССР, яе ініцыятараў і спіс членаў праўлення гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 444–446; L. Komaiszko, *Samouświadomienie,* cz. 1: *Młodzi Polacy na Białorusi,* "Czerwony Sztandar", 1988, nr 178 (10 829); A. Siemionow, *Nasze początki*, [у:] *Jak feniks z popiołu… Polacy na Ziemi Lidzkiej w latach 1987–1997*, red. A. Kołyszko, Lida 1997; T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 91.

49 AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-697, k. 2: Notatka na temat nowo powstałego Klubu Miłośników Kultury Polskiej w Lidzie z 4 stycznia 1988 roku sporządzona przez KG PRL w Mińsku.

50 A. Siemionow, *List z Białorusi. W Baranowiczach*, "Goniec Kresowy", 1992, nr 11; Z. J. Winnicki, *Szkice kresowe*, Wrocław 1995; T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 91.

51 І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, Мінск 2010, с. 183.

52 AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-934, k.b.n; J. Sienkiewicz, *Nasza racja stanu*, Toruń 2000, s. 10.

53 AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-959, k. 1–5; *Artykuł redakcyjny*, "Trybuna Ludu", 1987, nr 93.

ЦК рэспубліканскіх камуністычных партый і першымі сакратарамі абласных партыйных камітэтаў, якіх папярэдзілі, каб яны не грэбавалі пытаннямі нацыянальных адносін у падначаленых ім рэспубліках і абласцях[54].

Як сцвярджала тагачаснае кіраўніцтва таварыства "Палонія" ў Варшаве, *"адлюстраваннем новага погляду савецкіх улад на польскую этнічную групу ў СССР з'яўлялася рашэнне палітбюро ЦК КПСС, якое дазваляла з траўня 1988 г. стварэнне польскіх грамадска-культурных арганізацый пры савецка-польскіх таварыствах сяброўства. Яно дало фармальныя падставы для прыняцця таварыствам "Палонія" і консульскімі ўстановамі ПНР у СССР рашэння аб грамадска-культурнай і адукацыйна-патрыятычнай дзейнасці ў асяроддзі савецкай Палоніі"*[55]. Гэтае сцвярджэнне паказвае, наколькі польскае вышэйшае кіраўніцтва ў сваіх дзеяннях, датычных польскай меншасці ў СССР, залежала ад рашэнняў савецкага ўрада, што з'яўляецца адказам на пытанне, чаму да гэтага польскія ўлады нічога не зрабілі, каб дапамагчы палякам у БССР наладзіць гарантаваную канстытуцыяй польскамоўную адукацыю.

Цэнтральны камітэт КПБ як падначалены партыйны орган ЦК КПСС быў вымушаны адрэагаваць на пастанову Палітбюро і прыняць сваю ўласную пастанову, якая б вызначала ўмовы стварэння і дзейнасці польскіх грамадскіх ініцыятыў у БССР[56].

Тут варта вярнуцца да вышэйпрыведзенага сцвярджэння Ігара Пушкіна аб тым, што палякі ў заходніх абласцях Беларусі так і не сталі цалкам савецкімі. Мы адзначым, што саветызацыя і русіфікацыя мелі свае вынікі. У Гродне, дзе ў параўнанні з іншымі гарадамі жыла найбольшая колькасць палякаў, не адбылося стварэння самастойнай польскай грамадскай арганізацыі, як у Лідзе і Баранавічах. Гэта з'яўляецца сведчаннем таго, наколькі ў вялікіх прамысловых цэнтрах моцнай была савецкая прапаганда ў адносінах да палякаў, якія знаходзіліся пад пастаянным ідэалагічным уздзеяннем. І многія з іх сталі савецкімі людзьмі без нацыянальнасці, размаўлялі на чужой мове і далучыліся да чужой культуры.

Нягледзячы на тое, што партыя страчвала свае пазіцыі ў грамадстве, яна і надалей хацела мець кантроль над усімі працэсамі, што адбываліся ў краіне. Гэта стала прычынай таго, што ўлады праявілі ініцыятыву стварэння ў Гродне "сваёй" паслухмянай польскай арганізацыі. Толькі дзеянні невялікай групы гродзенскіх палякаў і актыўная дапамога беларускага пісьменніка Аляксея Карпюка не дазволілі ўладам стварыць такую арганізацыю[57]. Падобныя спробы ўвесь час рабілі савецкія кіраўнікі ў іншых беларускіх гарадах і мястэчках. З перспектывы часу можна з усёй упэўненасцю сцвярджаць, што калі б ім удалося ў Гродне стварыць кантраляваную ўладамі польскую арганізацыю, то поспехі палякаў у Беларусі на ніве польскага адраджэння былі б вельмі сціплымі,

54 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 385.

55 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-75, k. 2.

56 D. Werowska, *Stowarzyszenie Polaków w Grodnie*, "Czerwony Sztandar", 1988, nr 194 (10 845).

57 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 66–68.

і дакладна ні ў Гродне, ні ў Ваўкавыску ніхто б не займаўся адкрыццём польскамоўных школ. Улады БССР не хацелі вырашыць “польскае пытанне” такім чынам, як яно было вырашана ў суседняй Літве. Яны маглі б далучыць да гэтага працэсу першых сакратароў райкамаў партыі, старшынь раённых і гарадскіх выканкамаў польскай нацыянальнасці. Але, прызначаючы безыніцыятыўных, з нізкіх пасад, страціўшых польскую самасвядомасць чыноўнікаў на “польскі фронт”[58], улады дэманстравалі б іншым наменклатурным палякам, наколькі яны несур’ёзна ставяцца да польскага адраджэння ў Беларусі. Тым не менш, насуперак намерам і намаганням савецкага кіраўніцтва, 10 жніўня 1988 г. створана незалежнае Польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча ў Гродне, фармальна зарэгістраванае пры абласным аддзяленні Беларускага фонду культуры[59].

У Брэсце ініцыятыва стварэння ў 1989 г. Польскага культурна-асветніцкага таварыства імя Рамуальда Траўгута належала прафесару Брэсцкага педагагічнага інстытута Міхаілу Дабрыніну. У перыяд са жніўня 1988 г. да чэрвеня 1990 г. у БССР з’явілася некалькі дзясяткаў мясцовых польскіх грамадскіх арганізацый[60], асноўнай мэтай якіх было польскае нацыянальнае адраджэнне ў Беларусі[61]. Арганізацыйная праца польскіх дзеячаў у гэты час прывяла да таго, што 16 чэрвеня 1990 г. на базе ўсіх раней створаных польскіх грамадскіх арганізацый паўстаў Саюз палякаў на Беларусі (СПБ)[62]. Гэтая без перабольшвання гістарычная падзея завяршыла перыяд самаарганізацыі палякаў у Беларусі. Польская нацыянальная меншасць у БССР, такім чынам, набыла свайго прадстаўніка для абароны і вырашэння пытанняў у партыйных і савецкіх органах улады. СПБ стаў сапраўды незалежнай і самастойнай рэспубліканскай польскай грамадскай арганізацыяй.

Сведчаннем таго, што ўсялякая польская дзейнасць у БССР савецкім уладам была абсалютна чужой, і для стрымлівання яе развіцця, а ў канчатковым выніку і для яе ліквідацыі, выкарыстоўваліся розныя спосабы, з’яўляюцца наступныя факты. Адразу пасля стварэння СПБ у яго дзейнасць увесь час спрабаваў умешвацца Гродзенскі абласны камітэт КПБ, які імкнуўся ўзяць працу Саюза пад кантроль свайго ідэалагічнага аддзела. Адбываўся ціск і з боку рэспубліканскіх партыйных арганізацый. Так, праз некалькі месяцаў пасля

---

58 *В областном отделении Белорусского фонда культуры. Создание польской культурно-просветительной секции*, “Гродненская правда”, 2.07.1988, с. 4.

59 Падрабязней на тэму яго стварэння і спіса членаў галоўнага праўлення гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 444–464.

60 Падрабязней пра палітыку стрымлівання стварэння новых польскіх арганізацый Беларускім фондам культуры на чале з яго старшынёй Іванам Чыгрынавым гл.: І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, с. 175–176.

61 Падрабязней на тэму гісторыі іх стварэння гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 154–168.

62 Падрабязней на тэму яго стварэння, спіс членаў галоўнага праўлення СПБ гл.: T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 49–52; H. Giebień, *Związek Polaków na Białorusi (BSRR-RB) w latach 1988–2004*, [у:] *Polska mniejszość narodowa w Europie Środkowowschodniej. Nowe problemy i wyzwania wobec współczesnych przemian w państwach regionu*, red. Z. J. Winnicki, Wrocław 2005, s. 113; Z. J. Winnicki, *Szkice kresowe*, Wrocław 1995; І. Пушкін, *Нацыянальныя супольнасці Беларусі: грамадска-палітычная і культурна-асветніцкая дзейнасць (1990–2005)*, Магілёў 2007, с. 74–85.

паўстання СПБ па рашэнні ЦК КПБ пракуратура БССР занялася праверкай яго дзейнасці. У выніку праверкі была падрыхтавана інфармацыйная запіска ад 22 кастрычніка 1990 г. на імя першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова, падпісаная пракурорам БССР. У запісцы Каталіцкі касцёл беспадстаўна абвінавачваўся ў цесных сувязях з СПБ, у прапагандзе нацыяналістычных настрояў у краіне, а ксяндзы — у закліках да вернікаў ствараць польскія грамадскія аб'яднанні. Біскупа Тадэвуша Кандрусевіча абвінавачвалі ў тым, што ён часта прысутнічаў на пасяджэннях праўлення СПБ, што не адпавядала рэчаіснасці. Пракуратуру хвалявала тое, што пры дапамозе і актыўным удзеле СПБ быў адкрыты помнік Адаму Міцкевічу ў Лідзе, усталяваны помнікі вайскоўцам польскай арміі, якія загінулі падчас вайны ў г.п. Сапоцкін і в. Навумавічы Гродзенскага раёна. Саюз палякаў на Беларусі абвінавачваўся ў правядзенні ў Гродне санкцыянаванага ўладамі мітынгу, прысвечанага адраджэнню польскай мовы і культуры. На гэтым мітынгу СПБ прыняў рэзалюцыю, у якой крытыкаваў мясцовае і рэспубліканскае кіраўніцтва за незадавальняючае вырашэнне праблем польскай нацыянальнай меншасці. Мясцовыя ўлады спрабавалі прыпісаць СПБ знішчэнне помнікаў Леніну ў г.п. Сапоцкін і Парэчча Гродзенскага раёна. Праўда, па гэтым пытанні пракуратура напісала, што факты, якія б пацвярджалі гэта, не былі выяўлены[63].

Напрыканцы пракурор зрабіў наступную выснову: *"Вынікі праведзенай праверкі Саюза палякаў Беларусі сведчаць аб тым, што за дзейнасцю польскага руху неабходны пастаянны кантроль і нагляд з боку савецкіх і праваахоўных органаў"*[64].

На падставе праверкі пракуратуры БССР і высноў Міністэрства юстыцыі БССР Гродзенскаму абкаму партыі ЦК КПБ прадпісваў: узмацніць кантроль за дзейнасцю СПБ, накіроўваць яго працу ў канструктыўнае рэчышча праз камуністаў, якія былі сябрамі Саюза[65]. Апроч таго, партыйнае кіраўніцтва БССР інфармавала ЦК КПСС, што асобныя грамадскія арганізацыі ў Беларусі імкнуцца "адарваць" ад Расіі частку яе тэрыторыі[66].

Гарбачоўская перабудова дала магчымасць змяніць у БССР да лепшага сітуацыю з Каталіцкім касцёлам, які ў савецкай дзяржаве разглядаўся як вораг № 1 сярод іншых канфесій. У Беларусі барацьба з ім набыла асабліва жорсткі характар. На ўсходзе БССР яшчэ да вайны Касцёл быў канчаткова знішчаны, у заходніх абласцях колькасць дзеючых каталіцкіх прыходаў заставалася невялікай[67].

Партыйнае і савецкае кіраўніцтва Беларусі разглядала каталіцкіх святароў, якія збольшага былі палякамі, у якасці актыўных дзеячаў апалячвання

[63] Падрабязней на гэту тэму гл.: НАРБ, ф. 4п, воп. 156, спр. 775, арк. 43–47: Информационная записка прокуратуры БССР.

[64] Тамсама, арк. 47.

[65] І. Пушкін, *Удзел нацыянальных меншасцей у грамадска-палітычным жыцці савецкай Беларусі (1919–1990 гг.)*, с. 180.

[66] Тамсама, с. 180.

[67] Па стане на ліпень 1984 г. пастаянна працуючых ксяндзоў было 12 у Пінскай епархіі, 2 — у Ломжынскай і 36 — у Віленскай. Сярэдні ўзрост ксяндзоў дасягнуў 64,7 г. Гл.: A. Hlebowicz, *Kościół w niewoli. Kościół rzymskokatolicki na Białorusi i Ukrainie po II wojnie światowej,* Warszawa 1991, s. 41–43.

і акаталічвання беларускага насельніцтва. Іх прысутнасць у прыходах і духоўная дзейнасць ацэньваліся ўладамі як вельмі важныя фактары ў захаванні веры і нацыянальнай самасвядомасці вернікаў, а таму рабіліся прынцыповай перашкодай на шляху да атэізацыі і саветызацыі беларусаў і палякаў. Касцёлы, вакол якіх аб'ядноўвалася польскае насельніцтва, улады лічылі бастыёнамі польскага нацыянальнага супраціву, якія трэба было знішчыць.

У сярэдзіне 1980-х гг. у межах перабудовы адбыліся прынцыповыя змены ў дачыненні да рэлігіі, у тым ліку і да Каталіцкага касцёла. Супольнасці вернікаў, якія безвынікова шмат гадоў запар патрабавалі вяртання касцёлаў і рэгістрацыі ў іх святароў, пачалі атрымліваць станоўчыя адказы на свае звароты[68]. У гэты перыяд упершыню пасля вайны ўлады дазволілі адкрыць прыходы ва ўсходніх абласцях БССР — у Мінску, Магілёве, Барысаве, Оршы, Бабруйску, Гомелі, Полацку, Мазыры, Лельчыцах[69]. У значна большым маштабе і больш актыўна вярталася раней страчаная касцельная ўласнасць у заходніх абласцях[70]. На рост актыўнасці каталіцкіх вернікаў у Беларусі паўплываў візіт кардынала Юзафа Глемпа з Польшчы ў пачатку верасня 1988 года[71].

Аднак партыйныя ўлады БССР не збіраліся цалкам спыняць барацьбу з Каталіцкім касцёлам. У рашэннях XXIV Мінскай абласной партыйнай канферэнцыі, якая адбылася ў 1988 г., адзначалася, што трэба *"аб'ектыўна супрацьдзейнічаць уплыву клерыкальнай прапаганды, а таксама ўзрастаючай актыўнасці духавенства і вернікаў"*[72]. Падобныя ўстаноўкі па гэтым пытанні былі прыняты на партыйнай канферэнцыі ў Гродне[73]. У рашэннях Пленума ЦК КПСС, які адбыўся ў гэты ж час, гаварылася, што трэба *"звярнуць увагу на фарміраванне камуністычнай маралі і атэістычнага выхавання ў падрастаючага пакалення"*[74]. Ні Гарбачоў, ні кіруючая "эліта" партыі насамрэч не былі гатовыя да сапраўдных змен і не планавалі канчаткова спыніць праслед рэлігіі і вернікаў.

Актыўнасць насельніцтва прывяла да таго, што ўжо ў 1990 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала 160 каталіцкіх прыходаў, у якіх налічвалася 60 ксяндзоў (дванаццаці святарам было ўжо па 80 гадоў)[75]. Вяртанне касцёлаў часам адбывалася ў складаных умовах, калі вернікі, напрыклад, былі вымушаны праводзіць

---

68 Э. Ярмусик, *Католический Костёл в Беларуси в 1945–1990 годах*, с. 212, 214, 219–220; T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, s. 286.

69 A. Hlebowicz, *Kościół w niewoli, s.* 43–44.

70 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Dzwonkowski SAC*, Papież Jan Paweł II*, s. 19–27.

71 Падрабязней на гэту тэму гл.: AAN, Wydział Zagraniczny KC PZPR, sygn.: LXXVI-674, k. 29–34: Poufna informacja o niektórych problemach wizyty Kardynała J. Glempa na terenie BSRR do polskiego MSZ sporządzona przez konsula generalnego PRL w Mińsku Mieczysława Obiedzińskiego, 9.09.1988; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 453.

72 Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (далей: ДАМВ), ф. 1п, воп. 83, спр. 74, арк. 170: Протокол XXIV Минской Областной Партийной Конференции, 23.12.1988.

73 ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 1681, арк. 25: Протокол XXI Гродненской Областной Партийной Конференции, 16.12.1988.

74 РДАНГ, ф. 2, воп. 5, спр. 98, арк. 13.

75 Z. Szuba, *Katolicy obrządku łacińskiego i Polacy w ZSRR, stan obecny,* [у:] *Polacy w Kościele katolickim w ZSRR,* red. ks. E. Walewander, Lublin 1991, s. 63; T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 287.

акцыі пратэсту, сілай забіраць ключы ад храмаў і іх "акупаваць". У выпадку з так званым Чырвоным касцёлам у Мінску вернікі арганізавалі галадоўку[76]. Улады даволі лёгка аддавалі разбураныя імі і часам храмы, дастаткова было афіцыйнага звароту вернікаў, як гэта было ў выпадку з касцёлам у Оршы, і пытанні вырашаліся станоўча[77].

Але вяртанне касцёлаў вырашала толькі частку праблем каталікоў у Беларусі. У гэты час паўстала пытанне адсутнасці ксяндзоў. Святары вымушаны былі абслугоўваць па некалькі прыходаў, некаторыя з якіх размяшчаліся на вялікай адлегласці адзін ад аднаго. Дапамога 25 ксяндзоў, якія прыехалі з Польшчы, была як ніколі запатрабаванай[78].

Прыняты 1 кастрычніка 1990 г. Закон СССР "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях" стаў чарговым крокам у справе далейшага развіцця рэлігійнага жыцця і вырашэння праблемы забеспячэння прыходаў у БССР святарамі[79]. Закон дазволіў адкрыць у 1991 г. у Гродне Вышэйшую духоўную семінарыю, у якую на навучанне было прынята 43 чалавекі[80].

Такім чынам адбывалася паступовае аднаўленне касцельнай іерархіі, якая не існавала ў Беларусі больш за сорак гадоў. У ліпені 1989 г. Папа Ян Павел II узвёў у сан біскупа і прызначыў апостальскім адміністратарам Мінскай дыяцэзіі і ўсёй Беларусі ксяндза Тадэвуша Кандрусевіча[81]. У траўні 1991 г. Ватыкан паставіў чарговых біскупаў у Беларусі: ксяндза Аляксандра Кашкевіча ў Гродзенскай дыяцэзіі і ксяндза-пралата Казіміра Свёнтака ў Пінскай[82].

Непаразуменні ў асяроддзі палякаў і беларусаў падчас адраджэння Касцёла выклікала мова літургіі. У пасляваенны перыяд і да пачатку перабудовы Касцёл асацыяваўся з польскасцю, набажэнствы праводзіліся ў асноўным на польскай мове. З моманту нацыянальнага адраджэння палякаў, як і абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў, на гэтым фоне ўсё часцей узнікалі канфлікты. Шматлікія беларусы пачалі патрабаваць выкарыстання беларускай мовы ў літургіі[83].

Саюз палякаў на Беларусі ў гэтым пытанні прытрымліваўся меркавання, што выбіраць мову набажэнстваў мусяць толькі самі вернікі, а не палітыкі і грамадскія дзеячы. Гэтае права павінны паважаць Касцёл, улады рэспублікі і дзяржаўныя ўстановы. Пры гэтым СПБ разумеў, што прысутнасць польскай мовы ў касцёле з'яўлялася для палякаў, якія ў ім складалі большасць, вельмі

---

76 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Szostakowski, *Kościół i ludzie. Msza po 42 latach,* "Kurier Wileński", 1990, nr 72 (90); J. Mincewicz, *Nabożeństwo w Świrze po 29 latach,* "Kurier Wileński", 1990, nr 165 (90); C. Goliński, *Batalia o kościół*, "Głos znad Niemna", 1991, nr 5 (7); T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 288.

77 C. Goliński, *Odrodzony kościół w Orszy,* "Kurier Wileński", 1990, nr 147.

78 T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 288.

79 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 390; Э. Ярмусик, *Католический Костёл в Беларуси в 1945–1990 годах*, с. 219.

80 L. Komaiszko, *Wyższe Seminarium Duchowne w Grodnie,* "Kurier Wileński", 1991, nr 102.

81 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Białoruś. Czas odrodzenia*, red. I. Roszkowska, Warszawa 1990, s. 29; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 309.

82 T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 309.

83 J. Waszkiewicz, *Polonizacyjne zakusy*, "Głos znad Niemna", październik 1990, wydanie specjalne.

важным фактарам, дазваляла ім захаваць не толькі веру, але і сваю прыналежнасць да польскай нацыянальнай супольнасці ў Беларусі.

Адраджэнне рэлігійнага жыцця паступова прывяло да пераходу ад разумення касцёла як польскага асяродка да ўспрымання яго ў якасці супольнасці ўсіх беларускіх каталікоў з магчымасцю для кожнага з іх маліцца на сваёй роднай мове. Гэта ўзмацніла пазіцыю Каталіцкага касцёла ў Беларусі і дазволіла яму набыць сваё ўласнае новае аблічча і тым самым заняць аўтаномнае месца ў гісторыі Беларусі[84].

Пытанне, звязанае з адраджэннем польскамоўнай адукацыі, было больш складаным у вырашэнні, чым рэлігійныя справы. Прычын было некалькі. Першая, і, магчыма, самая галоўная, звязана са знішчэннем у 1948 г. уладамі базы для польскамоўнай адукацыі і парушэннем такім чынам узятых на сябе абавязкаў па падтрыманні нацыянальных меншасцей. Другая, не менш важная, была ў тым, што адраджэнне выкладання на польскай мове ў дзяржаўных установах улады ўспрымалі як магчымасць да вяртання Польшчы на беларускія тэрыторыі. Гэтая беспадстаўная боязь выклікала не толькі бескампрамісны супраціў развіццю польскамоўнай адукацыі, але і была каталізатарам да аб'яднання беларускіх чыноўнікаў для арганізаванага супрацьстаяння ініцыятывам беларускіх палякаў.

Як выглядала сітуацыя з польскай мовай у Гродзенскай вобласці праз два гады пасля пачатку перабудовы, бачна са службовай запіскі, падрыхтаванай 3 верасня 1987 г. і накіраванай у польскае міністэрства замежных спраў генеральным консулам ПНР Мечыславам Абедзіньскім. У дакуменце гаварылася: *"У Гродзенскай вобласці 30 % насельніцтва складаюць палякі, у тым ліку пражываюць 157 чалавек польскіх грамадзян з консульскімі пашпартамі.* […] *Нягледзячы на гэта, няма ні школы, ні курсаў польскай мовы. Адзінае — гэта кс. Міхал Арановіч у касцёле Бернардынаў праводзіць катэхізацыю дзяцей на польскай мове. Пра польскае школьніцтва першы сакратар абласнога камітэта КПБ заявіў, што ўлады маюць намер па гэтым пытанні правесці анкетаванне, і калі будзе дастатковая колькасць жадаючых, то тады магчыма адкрыццё школы або курсаў польскай мовы"*[85].

Праз год, 16 снежня 1988 г., першы сакратар Гродзенскага АК КПБ Леанід Кляцкоў на чарговай партыйнай канферэнцыі заявіў: *"Мы павінны ствараць усе неабходныя ўмовы для вывучэння роднай мовы прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей"*[86]. Гэтая заява давала надзею палякам на вывучэнне польскай мовы ў школах, а таксама на адкрыццё польскіх школ у Гродзенскай вобласці, дзе ў маштабах усёй Беларусі пражывала найбольшая колькасць палякаў. На партыйнай канферэнцыі 23 снежня 1988 г. у Мінску гэтае пытанне зусім не ўзнімалася[87].

---

[84] Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem a tożsamością. Rosyjskie, ukraińskie i białoruskie interpretacje idei i koncepcji w polskiej polityce wschodniej (1990–2010)*, Wrocław 2013, s. 432–436.

[85] AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-697, k. 1: List z KG PRL w Mińsku do Departamentu Konsularnego Ministerstwa Spraw Zagranicznych, 03.09.1987.

[86] ДАГАГВ, ф. 1, воп. 1, спр. 1681, арк. 186.

[87] ДАМВ, ф. 1п, воп. 83, спр. 74, арк. 26, 170.

У Гродне і Гродзенскай вобласці, нягледзячы на заяву першага сакратара АК КПБ, на практыцы аднавіць польскамоўную адукацыю ўдавалася толькі пасля пераадольвання перашкод, якія ўвесь час чынілі чыноўнікі ўсіх узроўняў улады. Партыя не вызвалілася ад заганнай практыкі, калі ад дэкларацыі ідэі да яе ажыццяўлення пралягаў доўгі і цярністы шлях. Больш за тое, чыноўнікі паводзілі сябе такім чынам, нібыта ведалі, што ўся гэта кампанія з перабудовай з'яўляецца часовай і таму не трэба спяшацца з рэалізацыяй указанняў, у тым ліку і партыйных правадыроў.

Самая складаная сітуацыя з увядзеннем польскамоўнай адукацыі была ў Брэсцкай вобласці. Пры гэтым першы сакратар Брэсцкага АК КПБ Анатоль Зелянкоўскі крывадушна казаў 16 снежня 1988 г. на партыйнай канферэнцыі: *"Нам заўсёды неабходна памятаць і прытрымлівацца наказу Леніна — "Ніводнай прывілеі ні для якой-небудзь нацыянальнасці, ні для якой-небудзь мовы!* [...] *Ні найменшай несправядлівасці для нацыянальных меншасцей! — гэта прынцып рабочай дэмакратыі"*[88]. Паміж словамі і дзеяннямі брэсцкіх улад была вялікая прорва. Дэкларатыўныя заявы рабіліся ў духу перабудовы, але ўсе чыноўнікі разумелі, што на практыцы іх ніхто не будзе выконваць.

Польскія грамадскія арганізацыі спрабавалі перацягнуць на свой бок у вырашэнні пытання польскамоўнай адукацыі палякаў, якія займалі пасады кіраўнікоў у структурах улады. Большая частка гэтых польскіх кіраўнікоў у Гродне, Шчучынскім, Воранаўскім, Навагрудскім, Лідскім і іншых раёнах Гродзенскай вобласці непрыхільна або абыякава ставілася да польскага нацыянальнага адраджэння[89]. Прычыны такога стаўлення хаваліся ў атаясамленні сябе з кіруючымі партыйнымі і савецкімі органамі ўлады, боязі страціць прывілеі і давер, які ім быў падараваны. Для іх партыйная прыналежнасць была больш важнай, чым нацыянальная ідэнтычнасць. Сваю польскасць палякі-чыноўнікі ўспрымалі як спадчыну, якая іх абцяжарвала.

Партыйныя і савецкія ўлады па праблеме польскамоўнай адукацыі апроч заяў нічога больш не рабілі. Так, напрыклад, для г.п. Сапоцкін Гродзенскага раёна, прымаючы рашэнне пра паглыбленае вывучэнне асобных прадметаў у мясцовай школе, абласное ўпраўленне адукацыі абрала англійскую мову[90]. І гэта ў школе, дзе больш за 90 % вучняў былі польскай нацыянальнасці. Польскую мову пасля працяглай барацьбы бацькоў са школьнай адміністрацыяй атрымалася ўвесці ў 1988–1989 навучальным годзе толькі ў якасці факультатыўнага прадмета.

Чарговым прыкладам пагардлівага стаўлення да польскамоўнага навучання ў БССР былі асноўныя мерапрыемствы развіцця народнай адукацыі, зацверджаныя бюро ЦК КПБ 27 верасня 1988 года[91]. У гэтым дакуменце галоўная

---

88 Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (далей: ДАБВ), ф. 1п, воп. 85, спр. 89, арк. 27: Протокол Брестской Областной Партийной Конференции, 16.12.1988.

89 T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, s. 124–125.

90 ДАГВ, ф. 730, воп. 2, спр. 867, арк. 131–132: Корреспонденция Министерства образования БССР по вопросам народного образования, 05.01.1988–20.06.1988.

91 *Основные мероприятия дальнейшего развития народного образования в БССР*, "Знамя юности", 1988, № 198 (10 982).

ўвага надавалася вывучэнню рускай і беларускай моў і зусім не ўзгадвалася пра польскамоўную адукацыю.

Такі падыход беларускіх улад да "польскага пытання" яшчэ больш мабілізаваў польскія арганізацыі да змагання за свае нацыянальныя правы. Уся іх дзейнасць была накіравана на ўвядзенне выкладання польскай мовы ў школах Беларусі[92]. Самым галоўным у гэтай барацьбе было пераадоленне страху і комплексу непаўнавартаснасці, якія выпрацаваліся ў палякаў у выніку пастаяннай ідэалагічнай апрацоўкі, накіраванай на іх саветызацыю і русіфікацыю.

У красавіку 1989 г. у Гродне па ініцыятыве мясцовай улады быў арганізаваны круглы стол, прысвечаны праблемам міжнацыянальных адносін[93]. Гэта была чарговая магчымасць агучвання "польскага пытання" ў Гродзенскай вобласці.

У жніўні 1989 г. для публічнай дыскусіі надрукаваны праект абласной праграмы "Родная мова"[94], які мог стаць значным крокам на шляху адраджэння польскамоўнай адукацыі ў рэгіёне. У праекце было напісана, што трэба *"стварыць умовы для свабоднага і роўнага развіцця культуры і моў прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасцей, якія пражываюць у Гродзенскай вобласці"*[95]. Важнай падзеяй у 1989 г. было адкрыццё на факультэце філалогіі Гродзенскага ўніверсітэта двух груп — руска-польскай і беларуска-польскай. Такім чынам, пачалася падрыхтоўка настаўнікаў польскай мовы[96].

Апроч таго, рашэнні Бюро ЦК КПБ ад 27 лістапада 1989 г. тэарэтычна далі палякам усе магчымасці для іх нацыянальнага адраджэння. Пры гэтым, як адзначалася вышэй, самі ўлады не выказвалі ніякай ініцыятывы. Таму польскія арганізацыі і бацькі мусілі шматразова звяртацца да савецкага кіраўніцтва з патрабаваннямі наладжвання польскамоўнай адукацыі, а таксама выкарыстоўваць розныя формы пратэсту супраць парушэння іх канстытуцыйных правоў. Варта адзначыць, што ўлады, прымаючы рашэнні аб культурным развіцці нацыянальных меншасцей, спадзяваліся, што ім не трэба будзе іх выконваць, што яны змогуць, напрыклад, адгаварыць палякаў ад патрабаванняў адкрыцця польскіх школ[97].

Нягледзячы на абвешчаную роўнасць моў[98], польскую мову ўлады пастаянна імкнуліся дыскрымінаваць, дазваляючы яе выкладанне толькі ў межах гурткоў і факультатываў. Шмат прыкладаў, якія пацвярджалі негатыўнае стаўленне адміністрацый школ да выкладання польскай мовы, агучана на ўстаноўчым з'ездзе Саюза палякаў на Беларусі[99].

---

92 Падрабязней на гэту тэму гл.: "Czerwony Sztandar", 1988, nr 287 (10 938).

93 О. Жигулин, *Межнациональные отношения: Пять часов размышлений*, "Гродненская правда", 1989, № 67 (11 806).

94 *Проект областной программы "Родная мова"*, "Гродненская правда", 1989, № 163 (11 902).

95 Тамсама.

96 Тамсама.

97 T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 63.

98 *Закон Белорусской Советской Социалистической Республики о языках в Белорусской ССР*, Минск 1990, "Советская Белоруссия", 1990, № 23 (17 804).

99 Архіў СПБ, папка з дакументамі ўстаноўчага з'езда Саюза палякаў Беларусі.

Пераадольваючы супраціў улад, польскія арганізацыі, у тым ліку і СПБ, змаглі дасягнуць пэўных вынікаў па пытанні польскамоўнай адукацыі ў БССР. Дзякуючы іх намаганням, у 1990 г. польская мова пачала выкладацца ў 174 школах, праўда, толькі ў 39 з іх яна з'яўлялася прадметам у межах агульнай школьнай праграмы, у астатніх вывучалася на факультатыўных занятках. У 1990 г. польскую мову вывучалі 8 252 вучні[100].

Галоўнай мэтай кіраўніцтва СПБ было адраджэнне раней закрытых уладамі польскамоўных школ у Гродне і іншых гарадах Беларусі. У гэтым пытанні ўлады як у Гродзенскай вобласці, так і ў Мінску, насуперак прынятым імі рашэнням, стаялі на пазіцыях рашучага супрацьдзеяння. Толькі шматтысячны пратэст палякаў, арганізаваны СПБ у Гродне 30 верасня 1990 г., прымусіў улады прыслухацца да канстытуцыйных патрабаванняў польскай нацыянальнай меншасці[101] і сесці за стол перамоў з кіраўніцтвам СПБ[102].

1 верасня 1991 г. актывісты СПБ здолелі адкрыць у Гродне два першыя класы з выкладаннем усіх прадметаў на польскай мове. Гэтыя класы ў будучым сталі фундаментам для польскай школы ў Гродне[103]. Падчас арганізацыі польскамоўных класаў СПБ сутыкаўся з крывадушнасцю ўлад і школьнай адміністрацыі. Дазвол рэспубліканскага і абласнога кіраўніцтва на развіццё польскамоўнай адукацыі ў Гродне ўсялякімі спосабамі блакіраваўся дырэктарамі і настаўнікамі. Калі б палітыка ў дачыненні да палякаў з боку ўлады была шчырай і добразычлівай, а таксама праводзілася паводле закона, то ніхто б з чыноўнікаў са сферы адукацыі і прадстаўнікоў школьнай адміністрацыі не адважыўся б ёй супрацьстаяць.

Рашучая барацьба беларускіх палякаў у 1987–1991 гг. за свае канстытуцыйныя правы і нацыянальнае адраджэнне дазволіла ім стварыць незалежную, аб'яднаную агульнымі мэтамі польскую грамадскую арганізацыю — Саюз палякаў на Беларусі, які выступіў у ролі сапраўднага прадстаўніка інтарэсаў польскай нацыянальнай меншасці ў БССР. Перабудова падштурхнула каталіцкіх вернікаў да больш актыўнай дзейнасці, звязанай з вяртаннем раней адабраных уладамі касцёлаў і манастырскіх будынкаў. Адраджэнню рэлігійнага жыцця садзейнічала аднаўленне касцельнай іерархіі.

Дзейнасць прадстаўнікоў польскай нацыянальнай меншасці ў гэты перыяд, а таксама вырашэнне пытанняў, звязаных з арганізацыяй польскамоўнай адукацыі ў Гродне, з'яўляюцца доказам таго, што нацыянальны рух палякаў у БССР, нягледзячы на цяжкасці і дастаткова непрыхільнае стаўленне ўлад да польскага адраджэння, меў будучыню.

---

100 *Referat sprawozdawczy ZG odczytany na II Zjeździe ZPB*, "Głos znad Niemna", 1993, nr 20 (4).

101 Р. Карачун, *Всё отмалчиваемся. Почему на митинге не слышно голоса руководителей местных Советов,* "Гродненская правда", 1990, № 188 (12 177).

102 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O byciе Polakiem*, s. 463; ён жа, *Polskie odrodzenie*, s. 130.

103 Класы з польскай мовай навучання знаходзіліся ў двух адміністрацыйных раёнах горада. У школе № 3 Кастрычніцкага раёна і школе № 21 Ленінскага раёна. Настаўніцамі ў гэтых класах былі запрошаныя з Польшчы Веслава Сабішак і Ніна Алекса. Гл.: T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 165–166.

## 3. Стаўленне цэнтральнай і рэгіянальных улад БССР і апазіцыйных рухаў да актывізацыі польскіх арганізацый

Палітычная стратэгія партыйных і савецкіх органаў улады адносна актывізацыі дзейнасці беларускіх палякаў у Гродне і іншых гарадах БССР, як слушна заўважыў Аляксей Карпюк у лісце да Міхаіла Гарбачова, грунтавалася на прынцыпе: трымаць, не пускаць, не дазваляць і нічога не змяняць[104]. *"Тое, што ўлады не заўважаюць значнай колькасці палякаў у Беларусі,*— пісаў Карпюк,— *упарта не жадаюць улічваць іх нацыянальныя праблемы, з'яўляецца ў наш час недаравальным"*[105].

Палітыка савецкай улады адносна польскай нацыянальнай меншасці ў пачатковы перыяд перабудовы была вельмі падобная на пасляваенную. Кожная ініцыятыва беларускіх палякаў, накіраваная на паляпшэнне сваёй культурнай і моўнай сітуацыі, імгненна стрымлівалася ўладамі. Гэта значыць, што ва ўсіх раёнах і гарадах Беларусі, дзе палякі змаглі аб'яднацца і запатрабаваць увядзення выкладання польскай мовы ў школах як вучэбнага прадмета або адкрыцця польскіх школ, яны адразу сустракалі супраціў прадстаўнікоў дзяржаўных органаў[106].

Паўстае пытанне: чым быў выкліканы такі моцны супраціў партыйных і савецкіх улад адраджэнню польскамоўнай адукацыі ў БССР? Верагодна меркаваннем пра тое, што моладзь, якая магла б атрымаць адукацыю на польскай мове або свабодна размаўляць на ёй, мела б большыя магчымасці далучэння да заходняй культуры. Моладдзю, якой даступныя іншыя маральныя і культурныя каштоўнасці, было б цяжэй маніпуляваць. Такія маладыя людзі маглі б у будучым імкнуцца да інтэграцыі Беларусі з Заходняй Еўропай, што, у сваю чаргу, супярэчыла сканструяванай на працягу многіх дзесяцігоддзяў прамаскоўскай і прарасійскай палітыцы Крамля, накіраванай на канчатковую русіфікацыю і саветызацыю насельніцтва. Партыйныя і савецкія ўлады БССР, як стаўленікі Масквы і яе "асаднікі", гэта добра разумелі і таму супраціўляліся польскаму нацыянальнаму адраджэнню.

Палітычная тактыка беларускіх улад у той час грунтавалася на ігнараванні польскай дзейнасці, нежаданні яе развіваць, стрымліванні і г.д. Ігнараванне праяўлялася ў замоўчванні ў сродках масавай інфармацыі як праблем палякаў, так і спраў польскіх грамадскіх арганізацый. Чыноўнікі сваімі паводзінамі давалі зразумець, што перабудова перабудовай, а яны тут у Гродне і іншых гарадах лепш, чым Крэмль, ведаюць патрэбы палякаў. Яны глядзелі на польскіх

---

[104] Падрабязней на гэту тэму гл.: Письмо А. Карпюка Михаилу Горбачёву, от 29 апреля 1987 г. Архіў Польскага культурна-асветніцкага таварыства імя Адама Міцкевіча, папка № 2; T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 7–9.

[105] Тамсама.

[106] Падрабязней на гэту тэму гл.: ДАГВ, ф. 730, воп. 1, спр. 5, арк. 6: Отчёт о работе начальных, семилетних и средних школ на начало 1944–1945 гг.; T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 5–127; ён жа, *Zwycięstwa i porażki*, s. 5–211; ён жа, *Polskie odrodzenie*, s. 119–131, 261–271.

дзеячаў як на вар'ятаў і былі ўпэўненыя, што абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці з'яўлялася імпульсіўным, што ўсё хутка скончыцца, а праблема як узнікла, так і знікне.

Асабліва ўлады супраціўляліся кантактам польскіх грамадскіх дзеячаў з Генеральным консульствам ПНР у Мінску. Першае іх самастойнае рашэнне, звязанае з запрашэннем генеральнага консула Мечыслава Абедзіньскага ў Гродна, і ўсталяванне кантактаў з консульствам выклікала ў абласнога партыйнага кіраўніцтва беспадстаўнае абурэнне. Марыя Бірукова, другі сакратар абласнога камітэта КПБ, выклікала на размову старшыню Польскага культурна-асветніцкага таварыства (ПКАТ) імя Адама Міцкевіча, каб указаць сферу дзейнасці арганізацыі. Партыя імкнулася адабраць у таварыства права запрашаць польскіх дыпламатаў у Гродна[107].

Партыйнае кіраўніцтва Гродзенскай вобласці рабіла ўсё, каб падпарадкаваць сабе дзейнасць ПКАТ. З гэтай мэтай старшыня таварыства быў папярэджаны, што ўсе польскія ініцыятывы ў будучым павінны ўзгадняцца з ідэалагічным аддзелам абкама КПБ[108]. Нягледзячы на ціск з боку ўлад, польскія арганізацыі працягвалі сваю дзейнасць у справе адраджэння польскасці ў Беларусі.

Меншы супраціў, а часам наогул яго адсутнасць, сустракаўся падчас арганізацыі ПКАТ культурных мерапрыемстваў. Запрашаючы польскія ансамблі з Літвы, таварыства імкнулася паказаць беларускім палякам, што ўсё тое, што маюць палякі ў Літве, могуць і павінны мець палякі ў Беларусі. Такія сустрэчы давалі глебу для разважанняў і пошукаў адказаў на пытанне: чаму ў суседняй Літве палякі мелі шырокую сетку польскіх школ, сваю газету і магчымасць развіваць польскую культуру, а ў БССР, дзе пражывае іх большая колькасць, гэтага няма, і такая сітуацыя склалася не ў розных дзяржавах, а ў адной — у СССР[109].

Варта прызнаць, што ў часы перабудовы да нацыянальных праблем палякаў у СССР больш сур'ёзна і адказна падыходзіла цэнтральнае савецкае кіраўніцтва ў Маскве. 11 красавіка 1989 г. у Маскву былі запрошаны старшыні польскіх грамадскіх арганізацый з усяго Савецкага Саюза. Там, у адрозненне ад Мінска і Гродна, чыноўнікі ўважліва выслухалі праблемы, якія хвалявалі прадстаўнікоў польскай нацыянальнай меншасці. У гэтым не было нічога дзіўнага, Масква бачыла, наколькі гэтыя праблемы былі важнымі не толькі для асобна ўзятай рэспублікі або вобласці, але і для ўсяго СССР, а таксама да чаго магло прывесці іх ігнараванне[110].

Візіт старшыні ПКАТ у Маскву і агучванне там праблем польскай нацыянальнай меншасці ў БССР не прывялі да змен у стаўленні беларускай улады да палякаў. Кожная чарговая польская ініцыятыва сутыкалася з пэўнымі складанасцямі, якія, паводле меркавання савецкага і партыйнага кіраўніцтва, павінны былі адбіць у палякаў ахвоту да нацыянальнага адраджэння. Асабліва

107 T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 106–107.

108 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 469.

109 Тамсама, с. 469–470.

110 Тамсама, с. 470.

востры канфлікт паміж уладамі і ПКАТ узнік летам 1989 г., калі таварыства ўпершыню пасля вайны вырашыла накіраваць польскую моладзь з БССР на вучобу ў ВНУ Польшчы, а школьнікаў адправіць на адпачынак у польскія летнія лагеры[111]. За год да гэтага 22 прадстаўнікі польскай нацыянальнай меншасці выехалі на навучанне ў Польшчу з Літвы, і ўлады гэтаму не перашкаджалі[112]. Чаму ж партыйныя і савецкія ўлады ў БССР супрацьдзейнічалі выезду моладзі? Падчас кожнай сустрэчы з прадстаўнікамі польскай нацыянальнай меншасці яны давалі зразумець, што выезд маладых палякаў на вучобу ў Польшчу разглядаўся імі ў якасці спробы падрыхтоўкі будучых ледзьве не рэвалюцыянераў, якія пасля вяртання будуць займацца ліквідацыяй сацыялістычнага ладу[113]. На такое стаўленне ўлад БССР да Польшчы моцна ўплывалі палітычныя і сацыяльныя змены, што адбываліся ў суседняй краіне.

Пры гэтым адсутнасць адзінства па пытанні супрацьдзеяння працы ПКАТ у асяроддзі партыйных і савецкіх органаў улады ў Гродне (адкуль павінна была выехаць на навучанне найбольшая колькасць моладзі), кан'юнктурнасць асобных чыноўнікаў і рашучая падтрымка таварыства з боку ЦК КПСС садзейнічалі выезду 55 маладых палякаў на вучобу ў Польшчу[114].

Паспяховым вынікам дзейнасці ПКАТ з'явілася таксама атрыманне згоды ад улад г. Ліды на стварэнне помніка Адаму Міцкевічу. Гэтую ініцыятыву атрымалася рэалізаваць дзякуючы таму, што мэрам Ліды быў беларус Сямён Домаш, ураджэнец заходняй Беларусі. Ён ведаў і разумеў праблемы мясцовага польскага насельніцтва. Апроч таго, Сямён Домаш актыўна ўключыўся ў перабудову і падтрымліваў дэмакратычныя перамены ў СССР. Ён не толькі даў дазвол на ўсталяванне помніка ў Лідзе, але і сам непасрэдна ўдзельнічаў у працэсе ажыццяўлення гэтай ініцыятывы. Адкрыццё помніка адбылося 2 ліпеня 1989 г. У гэтай урачыстасці ўпершыню пасля вайны змог афіцыйна паўдзельнічаць і асвяціць помнік каталіцкі ксёндз[115].

Чарговая ініцыятыва ПКАТ была звязана з эксгумацыяй парэштка ў 35 салдат польскага войска, якія 22 верасня 1939 г. былі ўзяты ў палон і расстраляны чырвонаармейцамі ў в. Калеты Гродзенскага раёна. Улады не адразу падтрымалі гэтую справу. Толькі пасля перамоў, якія цягнуліся больш за месяц, удалося атрымаць згоду на эксгумацыю і пахаванне вайскоўцаў. Пры гэтым улады не дазволілі размясціць на надмагіллі прапанаваны ПКАТ надпіс, у якім віна за трагедыю ў калецкім лесе ўскладалася на Чырвоную армію[116]. Такі супраціў чыноўнікаў быў зразумелы, бо яны, нягледзячы на змены, што

111 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 30–36.

112 AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-1032, k.b.n.

113 T. Gawin, *Ojcowizna,* s. 32–36.

114 T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 29–36; ён жа, *Polskie odrodzenie*, s. 109–111.

115 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 471–472; A. Siemionow, *Polak z wyboru*, s. 45–47.

116 Падрабязней на гэту тэму гл.: L. Komaiszko, *Po pół wieku do bratniej mogiły*, "Czerwony Sztandar", 1989, nr 233 (11 184); *Pogrzeb żołnierzy września w Kaletach*, "Trybuna Ludu", 1989, nr 299; Е. Скробоцкий, *Траурный митинг в Калетах*, "Гродненская правда", 1989, № 193 (11 932); T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 36.

адбываліся падчас перабудовы, адчувалі сябе пераемнікамі і паслядоўнікамі той савецкай палітыкі.

З вялікімі цяжкасцямі ПКАТ спрабавала вырашыць праблему адсутнасці польскамоўнай адукацыі ў БССР. Усе намаганні былі марнымі, калі справа даходзіла да намесніцы міністра народнай адукацыі БССР Людмілы Сухнат, якая з'яўлялася ярай праціўніцай увядзення вывучэння польскай мовы ў школах.

У кастрычніку 1989 г. ПКАТ здолеў прадставіць праблемы польскай нацыянальнай меншасці дэпутатам парламента БССР. Найбольш вострым аказалася пытанне польскамоўнай адукацыі[117]. Беларускія парламентарыі, якія ўдзельнічалі ў гэтай сустрэчы, не былі схільныя да ўвядзення адукацыі на польскай мове ў навучальных установах. У якасці аргументаў стрымлівання польскіх ініцыятыў называліся праблемы, звязаныя з беларускім адраджэннем. Паводле парламентарыяў, палякі павінны былі казаць пра аднаўленне польскамоўнай адукацыі толькі пасля таго, як скончыцца адраджэнне беларускай мовы. Пазіцыя ПКАТ пра паралельныя працэсы развіцця беларускай і польскай моў і пра ўзаемную дапамогу палякаў і беларусаў, якія шмат стагоддзяў жылі разам на беларускай зямлі, негатыўна ўспрымалася дэпутатамі. Яны лічылі, што для беларускага нацыянальнага адраджэння большай пагрозай з'яўлялася актыўнасць палякаў, а не дзейнасць рускіх, якія падтрымліваліся Крамлём, а таксама дэнацыяналізаванымі беларусамі.

Тактыка ўлад адносна стварэння польскіх арганізацый зводзілася да таго, каб ініцыянаваць іх узнікненне і ставіць на чале іх падначаленых сабе польскіх дзеячаў. Прыкладамі такіх дзеянняў чыноўнікаў могуць быць сітуацыі, якія склаліся ў Ваўкавыску і Воранаве[118]. Так, у Воранаве, дзе больш за 85 % насельніцтва складалі палякі і дзе намеснікам раённага аддзела адукацыі быў паляк, польскія арганізацыі з дапамогай ПКАТ не змаглі пазбавіцца ад апекі ўлад і дамагчыся адкрыцця польскай школы.

Нягледзячы на тое, што партыйная сістэма ў часы перабудовы была аслаблена, а дэмакратызацыя ў БССР у 1989–1990 гг. набірала тэмпы, партыя і далей імкнулася кантраляваць выбары дэпутатаў усіх узроўняў, у першую чаргу — у Вярхоўны Савет БССР і СССР, каб не дапусціць туды актывістаў як польскага, так і беларускага адраджэння. Але нават у такіх умовах ПКАТ здолела далучыць да справы выезду польскай моладзі на вучобу ў ВНУ Польшчы ў 1989 г. дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Галіну Уласевіч[119].

Значнай гістарычнай падзеяй для палякаў у БССР было аб'яднанне ўсіх польскіх арганізацый у Саюз палякаў на Беларусі, якое адбылося 16 чэрвеня 1990 г. Улады, не маючы магчымасці забараніць палякам правесці ўстаноўчы сход, усялякімі спосабамі імкнуліся не дапусціць рэгістрацыі СПБ[120].

---

117 T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 473.

118 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 159; ён жа, *Zwycięstwa i porażki*, s. 221–222.

119 ДАРФ, ф. 9654, воп. 3, спр. 647, арк. 3.

120 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 135–168.

Змены ў СССР, звязаныя з палітыкай перабудовы, з кожным годам былі ўсё больш відавочнымі. У ліпені 1990 г. скончыў працу XXVIII з'езд КПСС, які прыняў праграму будаўніцтва гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму. У жніўні 1990 г. ратыфікаваны Закон "Аб друку і сродках масавай інфармацыі", які забараняў цэнзуру ў СМІ, у кастрычніку 1990 г. — Закон "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях", а таксама Закон "Аб грамадскіх аб'яднаннях і палітычных партыях"[121]. Гэтыя змены ў савецкім заканадаўстве прымусілі ўлады ў БССР прыслухацца да патрабаванняў палякаў, што датычыліся іх нацыянальнага развіцця.

Перыяд позняй восені 1990 г. можна лічыць для СПБ удалым, таму што яго адносіны з уладамі Гродзенскай вобласці значна палепшыліся, хаця СПБ яшчэ не быў афіцыйна зарэгістраваны. Праўда, і ў гэты час сустракаліся розныя перашкоды, напрыклад на шляху арганізацыі выступленняў ансамбляў з Польшчы. З найбольшымі складанасцямі Саюз палякаў на Беларусі сутыкнуўся падчас запрашэння ў Гродна варшаўскага Вялікага тэатра з прадстаўленнем "Мы, Першая брыгада" ("My, Pierwsza Brygada")[122].

Напружаная палітычная сітуацыя, якая склалася ў саюзных рэспубліках, у тым ліку ў Літве, у канцы 1990 г. і пачатку 1991 г., прымусіла ўлады ў Маскве шукаць спосабы ўтрымання гэтай рэспублікі ў складзе СССР. Не маючы да сённяшняга дня доступу да дакументаў маскоўскіх цэнтральных архіваў КДБ СССР і ЦК КПСС, цяжка адназначна казаць, якія дакладна праводзіліся мерапрыемствы. Аднак, аналізуючы сітуацыю, якая склалася вакол СПБ, можна меркаваць, што кіраўніцтва ў Маскве спрабавала "гуляць польскай картай". Каб утрымаць Літву, улады планавалі арганізаваць у процівагу літоўскім нацыяналістам (і, магчыма, беларускім) польскую аўтаномную адзінку, якая б падпарадкоўвалася непасрэдна Маскве[123]. Гэтыя планы маскоўскага кіраўніцтва супраць Літвы ўскосна ўплывалі і на палякаў у БССР. Маніпуляваць іх дзейнасцю ўлады спрабавалі пры дапамозе СПБ, на які імкнуліся націснуць прысланыя з Масквы людзі[124]. Пазіцыя СПБ у гэтым пытанні была прынцыповай і адназначнай: культурнай аўтаноміі — так, тэрытарыяльнай, якая псавала б адносіны не толькі паміж палякамі і беларусамі ў БССР, але і паміж Польшчай

---

121 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 389–390.

122 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 475–477.

123 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Maszkiewicz, *Polska mniejszość w krajach b. ZSRR w kontekście polityki wschodniej RP (wybrane zagadnienia)*, [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009. Ocena minionego dwudziestolecia*, red. Z. J. Winnicki i T. Gawin, Białystok 2009, s. 211–239; ён жа, *Między bezpieczeństwem a tożsamością. Rosyjskie, ukraińskie i białoruskie interpretacje idei i koncepcji w polskiej polityce wschodniej (1990–2010)*, s. 483–487; K. Różycki, *Przed dwudziestu laty Polska miała szansę odzyskać Kresy. Rozmowa z dr. Janem Ciechanowiczem*, "Angora", 24.01.2010.

124 Раней аўтар гэтай працы лічыў, што накіраваныя Масквой эмісары ў БССР не кантактавалі з беларускімі ўладамі. Гэта быў памылковы пункт гледжання. Пры тагачаснай арганізаванай сістэме партыйнага кіраўніцтва ў СССР улады ў Мінску і Гродне не толькі павінны былі ведаць пра гэта, але і выконваць атрыманыя распараджэнні. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 478, зноска 185.

і Беларуссю,— не[125]. Візіт Фелікса Мяркулава[126], пасланніка маскоўскіх улад, за два дні да крывавых падзей у Вільні, у выніку якіх савецкія войскі і спецслужбы захапілі тэлевізійную вежу, адбываўся з мэтай зандзіравання настрояў у польскім асяроддзі БССР, у тым ліку ў СПБ. Можна меркаваць, што сустрэча Мяркулава са старшынёй СПБ была адной з шэрагу сустрэч, якія павінны былі ўцягнуць польскіх дзеячаў у арбіту маскоўскай палітыкі.

Польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча, пазней СПБ, праводзячы дзейнасць у межах польскага нацыянальнага адраджэння, павінна было мець на ўвазе, што, актывізуючы гэтую працу, можна не толькі выклікаць адмоўную рэакцыю з боку беларускіх улад, але і сутыкнуцца з незадаволенасцю прадстаўнікоў беларускай нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыі і тых, хто падтрымліваў яе.

Палякі і беларусы пачалі сваё нацыянальнае адраджэнне практычна адначасова, пасля абвяшчэння палітыкі перабудовы. На самым пачатку гэтага працэсу дзеячы беларускага руху і іх прыхільнікі памылкова вызначылі пагрозу для свайго нацыянальнага развіцця. У якасці ворагаў беларускага адраджэння яны разглядалі не рускіх, з іх імперскім цэнтрам у Маскве, і русіфікаваных, саветызаваных і адданых савецкаму ладу беларусаў, а палякаў, непадатлівых у сваёй большасці працэсу саветызацыі[127]. Варшава, польскія арганізацыі і палякі ў БССР наўмысна, верагодна па ўказанні Масквы, абвінавачваліся ў паланізацыі Беларусі, а таксама ў тым, што яны імкнуцца адарваць былыя польскія ўсходнія тэрыторыі ад БССР. Гэтыя неабгрунтаваныя абвінавачванні з'яўляліся асноўнай прычынай антыпольскіх выступленняў і публікацый у СМІ[128].

Свядома тут не паглыбляемся ў тэму паклёпніцкіх кампаній і пераследу палякаў як з боку беларускіх апазіцыйных арганізацый, так і з боку іх прыхільнікаў, бо гэтае пытанне добра даследавана польскімі і беларускімі навукоўцамі[129]. Найбольш грунтоўнымі з'яўляюцца працы польскага даследчыка з Вроцлава Юліяна Вінніцкага[130].

---

125 M. Maszkiewicz, *Polska mniejszość w krajach b. ZSRR w kontekście polityki wschodniej RP*, s. 213.

126 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 478–479.

127 M. Bućko, *Głos w dyskusji,* [у:] *Polska polityka wschodnia. Materiały konferencji zorganizowanej w dniach 28–29 października 2005 roku we Wrocławiu,* Wrocław 2005, s. 146–158.

128 Падрабязней на гэту тэму гл.: У. Сосна, *Адкуль палякі на Беларусі,* "Літаратура і мастацтва", № 6, 08.02.1991; П. Васілеўскі, "*Молімся польскаму Богу", альбо па гэты бок "крэсаў"*, ЛіМ, № 16, 19.04.1991; А. Сідарэвіч, *Забастоўка ў Вярэйках, або "Ешчэ Польска не згінэла"*, ЛіМ, № 36, 07.09.1990; У. Арлоў, *Колькі пытанняў Рышарду Кацынэлю,* ЛіМ, № 46, 16.11.1990; Г. Далідовіч, *Ісці новым шляхам,* ЛіМ, № 25, 21.06.1991.

129 Пры гэтым абсалютна нельга пагадзіцца з абвінавачваннямі ў адрас БНФ, якія высоўвае ў сваёй працы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Тадэвуш Кручкоўскі. Ён піша, што нібыта БНФ стрымліваў у пачатку 1990-х гг. адраджэнне польскамоўнай адукацыі. Гэтыя абвінавачванні не пацвярджаюцца фактамі. T. Kruczkowski, *Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności*, Słonim 2003, s. 242.

130 Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna i historiografia białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości*, Wrocław 2003; ён жа, *Struktura narodowościowa i formalnoprawne położenie mniejszości narodowych w Republice Białoruś*, [у:] *Z badań nad problematyką narodowościową państw Europy Środkowej i Wschodniej*, "Acta Universitatis Wratislaviensis", 1998, nr 2049; ён жа, *Szkice polsko-białoruskie*, Wrocław 1998; ён жа, *Narodowa koncepcja historii jako doktrynalne założenie metodologiczne współczesnej historiografii*

Галоўным прадстаўніком беларускіх апазіцыйных арганізацый у БССР у перыяд 1989–1991 гг. з'яўляўся Беларускі народны фронт (БНФ) на чале з Зянонам Пазняком[131]. БНФ у той час быў моцнай і ўплывовай палітычнай сілай, меркаванне якой трэба было ўлічваць. Шэраг дастаткова вядомых асоб, якія падтрымлівалі праграму і дзеянні БНФ, абраны ў Вярхоўны Савет СССР падчас вясенніх выбараў 1989 года[132]. Праз год, вясной 1990 г., у Вярхоўны Савет БССР ад БНФ былі абраны некалькі дзясяткаў яго сяброў, што дазволіла яму мець у беларускім парламенце апазіцыю ў складзе 37 народных дэпутатаў БССР, а з 1 кастрычніка 1991 г. стварыць фракцыю БНФ[133].

Наладжванне ўзаемавыгадных і сяброўскіх адносін з апазіцыйнымі сіламі было адной з найважнейшых мэт СПБ з самага пачатку яго дзейнасці. Нармалізуючы стасункі з БНФ, СПБ пазбаўляў савецкія ўлады магчымасці выкарыстоўваць Фронт супраць адраджэння польскасці ў БССР. У выпадку, калі б БНФ падтрымаў улады (да чаго яны заклікалі), вырашэнне важных для беларускіх палякаў пытанняў, звязаных з адкрыццём польскамоўных школ, было б практычна немагчымым. Улады ўвесь гэты час спрабавалі пераканаць беларусаў у тым, што нельга адраджаць польскамоўную адукацыю, калі яшчэ не наладжана навучанне на беларускай мове[134]. Пры гэтым самі па ўласнай ініцыятыве пытаннем беларускамоўнай адукацыі не займаліся.

Савецкія і партыйныя органы ўлады, а разам з імі падначаленыя ім спецыяльныя службы, увесь час спрабавалі абвастрыць адносіны паміж СПБ і БНФ, а таксама паміж СПБ і нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыяй, разумеючы пры гэтым заканамернасць: там, дзе двое б'юцца,— трэці абавязкова пераможа[135]. Апроч таго, галоўным ворагам незалежнасці Беларусі ўвесь гэты час улады называлі Польшчу і беларускіх палякаў. Старшыня беларускага КДБ Эдуард Шыркоўскі, выступаючы на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета БССР у 1990 г., казаў пра спробы штучнай паланізацыі беларускага насельніцтва, асабліва ў заходніх рэгіёнах Беларусі. *"Польскі бок,—* сцвярджаў Шыркоўскі,— *праводзіць мэтанакіраваную інтэнсіфікаваную*

---

*białoruskiej*, [у:] *Nadzieje, złudzenia, rzeczywistość. Studia z historii Polski XX wieku. Księga dedykowana Profesorowi Tadeuszowi Wyrwie*, red. W. Hładkiewicz i M. Szczerbiński, Gorzów Wielkopolski 2004; ён жа, *Ustrój polityczno-administracyjny Republiki Białoruś — zarys problematyki*, [у:] *Białoruś*, red. B. J. Albin i W. Baluk, Wrocław 2004; K. Frąckiewicz, *Białoruska opozycja narodowa a problematyka "odrodzenia" polskości w BSRR-RB*, [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009*, s. 161–179; Z. J. Winnicki, *Metody osłabiania poczucia świadomości narodowej. Uwagi o wpływie i skutkach zastosowania niektórych metod i środków depolonizacyjnych na obszarze Ziem Białoruskich na polską świadomość narodową w drugiej połowie XX wieku i współcześnie*, "Magazyn Polski", 2002, nr 3–4 (24–25), s. 24–31.

131 Пра іншыя палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі і прафесійныя саюзы, якія мелі не такі моцны ўплыў у БССР, як БНФ, гл.: A. Czwołek, *Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010)*, Gdańsk 2013, s. 52–78.

132 Народнымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета СССР сталі Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Сяргей Габрусеў, Аляксандр Дабравольскі, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Жураўлёў, М. Ігнатовіч. *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 1, Мінск 1993, с. 440.

133 T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 181.

134 T. Gawin*, Ojcowizna,* s. 16, 21, 32, 63.

135 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: В. Карбалевич, *Место Польши в политике Беларуси,* [у:] *Наш радавод,* Гродна-Беласток 1999 (2000), кн. 8, с. 579.

*палітыку ў дачыненні да насельніцтва* […] *у накірунку паланізацыі і каталіцтва, спрабуючы змяніць яго грамадзянскую пазіцыю. Пры гэтым імкнецца да канкрэтнай мэты — стварэння добра арганізаванай, ідэйна аб'яднанай польскай дыяспары на Беларусі, якая можа стаць прапагандыстам палітыкі РП і ў выпадку неабходнасці — сродкам аказання ўплыву на міжнароднай арэне. Такая палітыка Польшчы ў перспектыве можа быць пагрозай для суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці РБ*"[136]. Выступленне старшыні КДБ прыпісвала СПБ дзеянні, якімі ён не займаўся, а таксама дыскрэдытавала яго дзейнасць і давала аргументы для крытыкі з боку тых, хто з самага пачатку быў супраць яго афіцыйнай рэгістрацыі ў БССР.

Палякі, аб'яднаныя ў СПБ, і беларусы — прыхільнікі БНФ, або тыя, якія падтрымлівалі беларускую апазіцыю, імкнуліся да стварэння дэмакратычнай, суверэннай, прававой і незалежнай дзяржавы. Беларусы, як і палякі, зазналі прымусовую русіфікацыю і саветызацыю. Уладамі была амаль знішчана беларускасць. На гэты конт генеральны консул ПНР у Мінску пісаў: "*У меркаванні інтэлігенцыі беларуская мова з'яўляецца мовай вясковай, простай, а тыя, хто яе выкарыстоўвае, нібыта знаходзяцца на ніжэйшым культурным узроўні. У беларускіх сем'ях карыстаюцца рускай мовай, грамадскасцю гэта прызнаецца ў якасці таго, што ўхваляецца. Руская мова ва ўстановах, на вуліцы, у транспарце стала паўсюднай публічнай з'явай. Сярод інтэлігенцыі лічыцца мовай "свецкай", таксама, як у мінулую эпоху ў вышэйшых сферах грамадства лічылася французская мова*"[137].

Важна, што беларусы ў сваёй дзейнасці ў кірунку нацыянальнага адраджэння не мелі падтрымкі ва ўласнай дзяржаве, у адрозненне ад беларускіх палякаў, якім у той час дапамагала Польшча. Фактычна ў перыяд перабудовы вырашаліся лёс і будучыня Беларусі. Гэтая будучыня, паводле меркавання Галоўнага праўлення СПБ, павінна была будавацца на грунце саюза з беларускімі дэмакратычнымі аб'яднаннямі і палітычнымі партыямі, якія імкнуліся да незалежнасці і суверэнітэту рэспублікі, а не на канфліктах з імі, што было ў інтарэсах камуністычнай улады. Гэты саюз перад магчымай небяспекай страты незалежнасці быў патрэбны ўсім — і палякам, і беларусам, якіх звязвала паміж сабой сумесная гісторыя шасці стагоддзяў існавання ў Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Першым і вельмі важным крокам на шляху да супрацоўніцтва СПБ з БНФ стала падпісаная ў Гродне дэкларацыя, якая датычылася стварэння сумеснага перадвыбарнага блока "Саветы — 90". СПБ і БНФ прынялі на сябе абавязак узаемнай падтрымкі ў выбарах у Вярхоўны Савет БССР 4 сакавіка 1990 г.[138] Клімат у двухбаковых адносінах яшчэ больш палепшыўся пасля ўстаноўчага з'езда СПБ 16 чэрвеня 1990 г., удзел у якім прыняла шматлікая дэлегацыя ад БНФ на чале з адным з яго лідараў Міхасём Ткачовым. Падчас

---

[136] Тамсама, с. 579.

[137] AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-697, k. 2–3: Poufna notatka służbowa dotycząca mniejszości narodowych na terenie radzieckiej Białorusi, 19.10.1987.

[138] T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 126.

свайго выступлення на з’ездзе Ткачоў заклікаў да супрацы[139]. СПБ вельмі добра арганізаваў супрацоўніцтва з дэмакратычнай апазіцыяй у Гродне, якая, нягледзячы на асобныя паклёпніцкія нападкі на СПБ у цэнтральным і мясцовым друку, не толькі падтрымлівала стасункі з Саюзам палякаў, але і дапамагала яму ў барацьбе з уладамі за будаўніцтва польскамоўнай школы ў Гродне. Прыкладам супрацоўніцтва з боку беларускага нацыянальнага руху з’яўляецца выступленне двух яго прадстаўнікоў на мітынгу, прысвечаным адкрыццю польскай школы ў Гродне 30 верасня 1990 г., – Аляксея Пяткевіча з БНФ і Віктара Дзмітрыева з Дэмакратычнай партыі Беларусі[140].

Знакавай датай у найноўшай гісторыі Беларусі з’яўляецца 6 сакавіка 1991 г., калі СПБ з БНФ падпісалі рэзалюцыю, у якой заклікалі грамадзян рэспублікі на ўсесаюзным рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г. прагаласаваць за суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь[141]. Варта прызнаць, што гэта быў вельмі небяспечны крок у дзейнасці СПБ. У Беларусі ў гэты час відавочна дамінавала пазіцыя захавання СССР, якую пацвердзілі вынікі праведзенага рэферэндуму. Большасць беларусаў прагаласавалі за захаванне Савецкага Саюза. Тым не менш падпісанне рэзалюцыі заклала моцны фундамент пад будучы саюз СПБ з беларускім дэмакратычным рухам за незалежнасць Беларусі. Кіраўніцтва СПБ і яго актыў падтрымалі беларускую апазіцыю падчас правядзення ў Гродне мітынгу БНФ, прысвечанага падзеям 19–21 жніўня 1991 г., калі адбылася няўдалая спроба адхілення М. Гарбачова ад улады. Старшыня СПБ у сваім выступленні на мітынгу ад імя ўсёй арганізацыі публічна пацвердзіў, што СПБ і надалей будзе падтрымліваць барацьбу беларускай дэмакратычнай апазіцыі за суверэнітэт і незалежнасць Беларусі[142]. Супрацоўніцтва з беларускім дэмакратычным рухам і ў першую чаргу з яго галоўнай сілай — БНФ, было адным з найважнейшых прыярытэтаў у дзейнасці СПБ. Падтрымка БНФ дазваляла не толькі паскорыць польскае нацыянальнае развіццё ў Беларусі, але, як паказаў папярэдні вопыт, вырашыць шматлікія пытанні з уладамі. Так, як і меркаваў у свой час Аляксей Карпюк, нацыянальнае адраджэнне палякаў у Беларусі рабілася пэўным стымулам для адраджэння беларусаў.

Варта адзначыць, што супрацоўніцтва СПБ з БНФ будавалася на ўзаемавыгадных умовах. Падчас сустрэчы лідараў гэтых арганізацый (Тадэвуша Гавіна і Зянона Пазняка) 23 лістапада 1991 г. у Гродне была ўхвалена і прынята наступная дамоўленасць: СПБ у сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці абавязваўся падтрымліваць імкненне БНФ да стварэння незалежнай і суверэннай дзяржавы, а таксама надання беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай; БНФ, у сваю чаргу, браў абавязкі садзейнічаць адраджэнню ў Беларусі польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы як навучальнага прадмета

139 “Głos znad Niemna”, wrzesień 1990, wydanie specjalne; T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 51–52.

140 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, Grodno 1998, s. 20; T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 482.

141 Мікола Маркевіч, прыватны архіў, папка № 1: Рэзалюцыя і лістоўка, якія тычацца агульнасаюзнага рэферэндуму 17 сакавіка 1991 г.

142 T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 111.

ў школах[143]. Гэтая дамоўленасць канчаткова пазбаўляла чыноўнікаў магчымасці настройваць БНФ супраць СПБ і наадварот. Як паказала гісторыя, СПБ і БНФ выканалі ўзятыя на сябе абавязацельствы. Напрыклад, Фронт дапамагаў СПБ у барацьбе з уладамі за атрыманне дазволу на будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Гродне і Ваўкавыску.

Перыяд 1988–1991 гг. быў вырашальным для актывізацыі дзейнасці польскіх арганізацый у БССР. Савецкі Саюз, які пачаў распадацца, пераўтвараўся ў нетрывалае палітычнае ўтварэнне. У выніку скарачаліся магчымасці ўлад БССР супрацьдзейнічаць польскаму нацыянальнаму адраджэнню. СПБ, разумна выкарыстоўваючы палітычны момант і атрымаўшы падтрымку беларускіх дэмакратычных сіл, прымушаў чыноўнікаў ісці на ўступкі ў вырашэнні польскіх праблем у Беларусі. Дзякуючы гэтаму, за такі кароткі перыяд быў закладзены падмурак будучага польскага нацыянальнага адраджэння. У тагачаснай палітычнай сітуацыі ў БССР значна ўзрасла роля СПБ як сапраўднага прадстаўніка польскай нацыянальнай меншасці. Ён з’яўляўся генератарам ідэй у аднаўленні цалкам разбуранай польскасці ў Беларусі. Безумоўна, у гэты перыяд СПБ адыграў вельмі важную ролю ў грамадска-палітычным жыцці БССР. Яго дзейнасць была накіравана на набыццё беларускай дзяржавай суверэнітэту і незалежнасці. Тым самым СПБ садзейнічаў будаўніцтву ў Беларусі адкрытай грамадзянскай супольнасці. Саюз палякаў на Беларусі стаў часткай беларускіх дэмакратычных сіл.

[143] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 483; ён жа, *Polskie odrodzenie*, s. 180–184.

## 4. Змены ў заканадаўстве БССР, датычныя нацыянальнасцей, і іх значэнне для развіцця польскага нацыянальнага руху

Улады БССР, нягледзячы на ратыфікацыю Міжнароднай дамовы аб палітычных і грамадзянскіх правах, што была прынята ААН у 1966 г. і прадугледжвала забарону дыскрымінацыі ў адносінах да нацыянальных меншасцей, парушалі права палякаў на развіццё іх культуры, мовы[144] і веравызнання. Калі да 1966 г. партыйнае і савецкае кіраўніцтва БССР не прытрымлівалася савецкіх законаў, якія тычыліся развіцця нацыянальных меншасцей, то з гэтага моманту яно парушала публічна ўзятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы.

Варта падкрэсліць, што ўлады, ігнаруючы канстытуцыі СССР і БССР, якія давалі права палякам навучаць сваіх дзяцей на іх роднай мове, не мелі намеру змяняць сваю пазіцыю па гэтым пытанні і пасля таго, як пачалася перабудова. Стаўленне да польскай нацыянальнай меншасці павінна было застацца нязменным. Курс на дэпаланізацыю, які абапіраўся на прымусовую русіфікацыю і саветызацыю, улады планавалі працягваць.

Можна з усёй упэўненасцю сцвярджаць: калі б не гарбачоўская перабудова, ціск Масквы на кіраўніцтва ў Мінску і пісьмовыя пратэсты супраць існуючай дыскрымінацыі палякаў, што дасылаліся ў вышэйшыя органы ўлады, а таксама рашучая дзейнасць Польскага культурна-асветніцкага таварыства (пасля — Саюза палякаў на Беларусі), то самі ўлады БССР па сваёй асабістай ініцыятыве нічога б не зрабілі. Паслядоўнае супраціўленне польскаму адраджэнню з боку ўлады, яе непрыхільнае стаўленне да палякаў і Польшчы[145] былі асноўнымі прычынамі стрымлівання задавальнення законных правоў польскай меншасці ў БССР.

У Савецкім Саюзе была пабудавана такая сістэма палітычнай улады, у якой ніводнае рашэнне не магло быць прынята без ухвалення яго ў якасці ініцыятывы ЦК КПСС. Гэты прынцып датычыўся ўсіх сфер жыцця — палітычнай, эканамічнай, культурнай. У перыяд перабудовы найбольшая ўвага партыі была накіравана на вырашэнне нацыянальнага пытання.

Значным момантам, які паўплываў на змены ў нацыянальнай палітыцы СССР, быў Пленум ЦК КПСС (люты 1988 г.), які абавязаў партыйныя арганізацыі саюзных рэспублік да больш актыўнага ўвядзення навучання і выкладання моў розных нацыянальнасцей у школах. Пры гэтым не дапускалася ніякае абмежаванне ў справе выкладання роднай мовы нацыянальнай меншасці[146]. Рашэнні пленума, такім чынам, дазволілі палякам пачаць яшчэ больш актыўныя выступленні за развіццё польскамоўнай адукацыі і патрабаваць ад улад у межах дзеючых законаў адкрыцця польскіх школ.

144 A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. 2: *Polacy na Białorusi*, Warszawa 2001, s. 11.

145 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 75.

146 РДАНГ, ф. 2, воп. 5, спр. 98, арк. 13: Протокол № 6 заседания Пленума ЦК КПСС о ходе перестройки средней и высшей школы, а также о заданиях партии в деле её реализации, 17–18.II.1988.

Савецкае і партыйнае кіраўніцтва ў БССР не спяшалася з рэалізацыяй пастановы Лютаўскага пленума ЦК КПСС. Толькі праз 9 месяцаў, 23 лістапада 1988 г., з'явілася першая інфармацыя адносна вывучэння польскай мовы ў школах[147]. 27 красавіка 1989 г. Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі БССР прыняло рашэнне аб выкладанні польскай мовы ў пачатковай школе (у II–IV класах), пачынаючы з 1989–1990 навучальнага года (1 гадзіна на тыдзень у II класе і 3 гадзіны на тыдзень у III і IV класах)[148].

Увядзенне польскай мовы ў школьныя праграмы беларускамоўных і рускамоўных школ стала гістарычнай падзеяй, бо ўпершыню пасля 1948 г. гэтая мова вярнулася ў навучальныя ўстановы БССР. Тым не менш улады рабілі ўсё, каб палякі гэты шанц цалкам не маглі рэалізаваць. Угаворваннямі і запужваннямі складанасцямі ў навучанні дзяцей польскай мове яны спрабавалі пераканаць бацькоў, што лепш вывучаць польскую мову ў школьных гуртках і на факультатыўных занятках. Колькасць гадзін на выкладанне польскай мовы ў школьнай праграме была значна меншай, чым на вывучэнне рускай і беларускай моў[149]. Пытанне ўвядзення ўрокаў польскай мовы ў V–XI класах заставалася адкрытым і ў дакументах Міністэрства адукацыі не было разгледжана. Пры гэтым паўсюль, дзе бацькі патрабавалі выкладання польскай мовы, улады са складанасцямі, але ішлі на ўступкі — дазвалялі факультатыўнае навучанне гэтай мове.

Чарговай падзеяй, якая паўплывала на нацыянальнае адраджэнне палякаў у БССР, стала прыняцце 14 красавіка 1989 г. Праграмы супрацоўніцтва паміж Цэнтральнымі камітэтамі Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП) і Камуністычнай партыі Беларусі. З польскага боку яе падпісаў член палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Мечыслаў Ажахоўскі, з савецкага — член ЦК КПСС, першы сакратар КПБ Яфрэм Сакалоў[150]. У 9 пункце гэтай праграмы было запісана, што як ПАРП, так і КПБ будуць усялякімі спосабамі падтрымліваць культурна-адукацыйную дзейнасць нацыянальных меншасцей у сваіх рэспубліках[151].

Цэнтральны камітэт КПБ, падпісаўшы гэты дакумент, не распаўсюдзіў інфармацыю пра праграму сярод грамадскасці, не надрукаваў яе ў газетах. Гэта не дазволіла палякам абаперціся на дакумент у сваёй грамадскай дзейнасці. Узнікае пытанне: чаму праграма, падпісаная на такім высокім узроўні, не атрымала шырокага распаўсюду ў публічнай прасторы? Адказ можа быць толькі адзін: з-за двудушнай палітыкі вышэйшага партыйнага кіраўніцтва БССР у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці. На афіцыйным узроўні прымаліся і падпісваліся дакументы, выкананне якіх зацягвалася або цалкам прыпынялася. Так, напрыклад, улады Украіны значна раней падпісалі дамову з ПНР, паводле якой узялі на сябе пэўныя абавязкі, звязаныя з дапамогай

---

147 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 487–489; Архіў ПКАТ імя Адама Міцкевіча, папка № 2.

148 Тамсама.

149 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 488–489.

150 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-26, к.б.н.

151 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem*, s. 489–490. Змест Праграмы гл.: AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-26, к.б.н.

польскай нацыянальнай меншасці ва УССР. Партыйнае кіраўніцтва БССР падпісала не дамову, а праграму. Дамова, згодна з міжнародным правам, з'яўляецца больш адказным і абавязваючым бакі да выканання дакументам, чым праграма. Гэтая нібыта дробязь шмат у чым характарызавала ўлады БССР і іх намеры адносна вяртання канстытуцыйных правоў польскай нацыянальнай меншасці. Нягледзячы на падпісаную з ПНР Праграму супрацоўніцтва, кіраўніцтва Беларусі працягвала стрымліваць дзейнасць польскіх арганізацый, і, больш за тое, імкнулася ліквідаваць усе ініцыятывы, звязаныя з польскім адраджэннем.

Правы нацыянальных меншасцей, у тым ліку і польскай, былі яшчэ больш пашыраны рашэннямі Пленума ЦК КПСС, які адбыўся ў Маскве 19–20 верасня 1989 г. У парадку дня галоўным было пытанне "Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах"[152]. Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў у сваім выступленні зазначыў: "[…] *Мы павінны гарантаваць магчымасці стварэння нацыянальных раёнаў у месцах кампактнага пражывання нацыянальнасцей* […]. *Атрымаюць прастору для свайго далейшага развіцця ўсе мовы нашай шматнацыянальнай Радзімы* […]. *Мы абавязаны прызнаць права на выкарыстанне роднай мовы ўсіх нацыянальных меншасцей*"[153]. Пленум пастанавіў:

*"1. Прыняць платформу КПСС "Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах" і лічыць паслядоўнае яе ажыццяўленне задачай усіх партыйных арганізацый, кожнага камуніста.*

*2. Пленум даручае Палітбюро ЦК КПСС, ЦК кампартый саюзных рэспублік, абкамам партыі распрацаваць канкрэтныя планы дзейнасці партыйных арганізацый для рэалізацыі ідэй, выказаных у платформе КПСС "Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах"*[154].

У заключнай пастанове пленума ад 20 верасня 1989 г., як заўважыў польскі бок, што назіраў за яго працай, не былі згаданы праблемы польскай нацыянальнай меншасці ў СССР[155]. Але ўсё ж такі фармальна рашэнні пленума пашыралі магчымасці для адраджэння ўсіх нацыянальнасцей, у тым ліку і палякаў. Бюро ЦК КПБ у Мінску, выконваючы пастановы Верасьнёўскага пленума ЦК КПСС, прыняло 27 лістапада 1989 г. план мерапрыемстваў для рэалізацыі ідэй, выкладзеных у платформе КПСС "Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах"[156]. Ніжэй пералічым некаторыя з пунктаў плана, што непасрэдна павінны былі паўплываць на развіццё польскай нацыянальнай меншасці ў БССР. Так, у другім пункце гаварылася: *"Ва ўстаноўленым парадку разгледзець пытанні стварэння ў складзе мясцовых саветаў народных дэпутатаў*

152 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 388.

153 РДАНГ, ф. 2, воп. 5, спр. 292, арк. 80, 93–94: Протокол № 16 заседания Сентябрьского пленума ЦК КПСС от 19–20.09.1989.

154 РДАНГ, ф. 2, воп. 5, спр. 294, арк. 1: Постановление Сентябрьского пленума ЦК КПСС о национальной политике партии в современных условиях, а также материалы к нему, 19–20.09.1989.

155 AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-70, k. 1.

156 НАРБ, ф. 4п, воп. 160, спр. 963, арк. 31–36: Протокол 80 заседания Бюро ЦК Компартии Беларуси от 27 ноября 1989 г.

*пастаянных камісій па міжнацыянальных адносінах, а таксама мэтазгоднасці стварэння нацыянальных сельскіх саветаў у месцах кампактнага пражывання насельніцтва некарэннай нацыянальнасці (літоўцы, палякі, татары і інш.)"*[157].

Прыцягвае ўвагу тое, што да нацыянальных меншасцей не былі залічаныя рускія. Гэта значыць, што ўладамі БССР рускія разглядаліся ў якасці прадстаўнікоў прывілеяванай нацыянальнасці. Апроч таго, партыйнае кіраўніцтва, прымаючы рашэнне разгледзець мэтазгоднасць стварэння нацыянальных саветаў у БССР, насуперак пастановам Пленума ЦК КПСС не падымала пытання пра арганізацыю нацыянальных раёнаў. Пры гэтым Воранаўскі раён Гродзенскай вобласці мог прэтэндаваць на такі статус. У чацвёртым пункце плана ўказвалася, што трэба *"ўдасканальваць практыку падбору і вылучэння кадраў, няўхільна забяспечваць рэальнае прадстаўніцтва ў саветах народных дэпутатаў, дзяржаўных і грамадскіх органах упраўлення грамадзян усіх нацыянальнасцей, якія пражываюць у рэспубліцы"*[158]. Пяты пункт тычыўся адукацыі: *"Вывучыць і вырашыць пытанні аб увядзенні выкладання ў агульнаадукацыйных школах родных моў нацыянальных меншасцей, якія кампактна пражывалі ў рэспубліцы, а таксама, дзе магчыма, аб адкрыцці класаў і школ з навучаннем на літоўскай, польскай і іншых мовах"*[159].

Тэме вывучэння праблем нацыянальных меншасцей былі прысвечаны дзявяты і сямнаццаты пункты:

9. *"Сістэматычна вывучаць, аналізаваць і абагульняць прапановы па нацыянальным пытанні і міжнацыянальных адносінах, якія змяшчаюцца ў лістах працоўных, дасланых на адрасы партыйных, савецкіх органаў, ідэалагічных аддзелаў, рэдакцый газет, часопісаў, тэлебачання і радыё*[160].

17. *Стварыць пры Міністэрстве народнай адукацыі БССР навукова-даследчую групу па вывучэнні праблем нацыянальнай дзяржаўнасці, рашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі ў 20–30-я гады. Арганізаваць падрыхтоўку гэтай групай публіцыстычных матэрыялаў па актуальных праблемах нацыянальных і міжнацыянальных адносін, вакол якіх адбываюцца зараз шырокія дыскусіі і спрэчкі, а пасля заканчэння працы выдаць спецыяльную манаграфію"*[161].

Адказнымі за рэалізацыю асобных пунктаў плана пленум прызначыў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, аблвыканкамы, ідэалагічны аддзел ЦК КПБ, Міністэрства адукацыі БССР, Акадэмію навук БССР, Інстытут гісторыі пры ЦК КПБ. Размытая адказнасць у выніку прывяла да таго, што за ажыццяўленне плана ніхто рэальна не адказваў. У адрозненне ад Масквы, Мінск пастаянна страхаваўся ў падыходзе да вырашэння нацыянальнага пытання. Улады БССР былі ўпэўнены ў тым, што ўся гэтая кампанія, звязаная з перабудовай, была часовай з'явай, а дакументы, якія яны прымалі, выкарыстоўваліся толькі для

157 Тамсама, арк. 32.

158 Тамсама, арк. 32.

159 Тамсама, арк. 33.

160 Тамсама, арк. 33–34.

161 Тамсама, арк. 36.

справаздачы перад маскоўскім кіраўніцтвам. Да таго ж беларуская грамадскасць ніякім чынам не інфармавалася нават пра фармальныя змены ў палітычным курсе. Нацыянальная палітыка Мінска будавалася такім чынам, каб захаваць існуючы стан замоўчвання праблем нацыянальных меншасцей. Адсюль супрацьдзеянні ўлад (насуперак законам) усім ініцыятывам палякаў, накіраваным на культурнае адраджэнне. Як ужо адзначалася вышэй, гэта была крывадушная палітыка савецкага і партыйнага кіраўніцтва БССР.

9 снежня 1989 г. у цэнтральнай газеце быў надрукаваны праект Закона "Аб мовах у Беларускай ССР"[162]. У гэтым законе, у адрозненне ад праекта "Родная мова", прынятага ў Гродзенскай вобласці[163], прадугледжвалася больш свабоды і грамадзянскіх правоў. Закон даваў магчымасць атрымання адукацыі на роднай мове, што дазваляла абгрунтаваць адкрыццё школ з польскай мовай выкладання[164].

Закон аб мовах быў прыняты 26 студзеня 1990 г. на XIV сесіі Вярхоўнага Савета БССР[165]. Паводле гэтага закона польская нацыянальная меншасць у Беларусі набыла права на атрыманне адукацыі на польскай мове. Такім чынам, з'явіўся заканадаўчы падмурак для адкрыцця польскамоўных школ у БССР. Варта звярнуць увагу на тое, што ў законе было прапісана абавязковае вывучэнне ўсімі вучнямі рускай мовы. Таму немагчыма было, напрыклад, палякам замест рускай мовы вывучаць польскую. Увядзенне выкладання польскай мовы ў школах адначасова змяншала колькасць гадзін на вывучэнне іншых прадметаў. Гэты факт улады вельмі часта выкарыстоўвалі, каб адгаварыць бацькоў ад патрабавання выкладаць іх дзецям польскую мову. Супраціў школьнай адміністрацыі і беларускіх улад польскамоўнай адукацыі насуперак прынятаму закону аб мовах з'яўляўся даволі моцным і быў накіраваны на перакананне палякаў у шкоднасці гэтай задумы. Інакш не магло і быць, паколькі нават кіраўніцтва Міністэрства адукацыі БССР выступала супраць польскамоўнай адукацыі. Намеснік міністра народнай адукацыі Т. Кардаш заявіў на гэты конт наступнае: "[…] *Увядзенне польскай мовы ў школах Гродзеншчыны можа прывесці да «другога Карабаху»*"[166]. Натуральна, што пасля такіх заяў прадстаўніка вышэйшага кіраўніцтва школьная адміністрацыя і мясцовыя ўлады працягвалі супраціўляцца ўвядзенню польскай мовы ў школы і адкрыццю польскіх школ[167].

Не змяніла карэнным чынам стаўленне ўлад да польскамоўнай адукацыі зацверджаная на пасяджэнні Савета Міністраў БССР ад 20 верасня 1990 г.

---

162 *Проект Закона БССР о языках в Белорусской ССР*, "Советская Белоруссия", 1989, № 281–282 (17 762–17 763).

163 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 119–131.

164 *Проект Закона БССР о языках в Белорусской ССР*, "Советская Белоруссия", 1989, № 281–282 (17 762–17 763).

165 *Закон Белорусской Советской Социалистической Республики о языках в Белорусской ССР*, Минск 1990; "Советская Белоруссия", 1990, № 23 (17 804).

166 T. Samborski, *Do szczęścia przez cierpienie*, "Tygodnik Ludowy", 25.08.1990.

167 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *O byciе Polakiem*, s. 493–494.

Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў[168]. Шосты артыкул Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", які тычыўся абароны мовы, не дапускаў ніякіх прывілеяў або абмежаванняў па моўных прыкметах, а публічная знявага і ганьбаванне нацыянальных моў, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, прапаганда варожасці на моўнай глебе цягнулі за сабой прадугледжаную законам адказнасць[169]. Але гэты артыкул на справе не выконваўся ў БССР. Польскае культурна-асветніцкае таварыства ў барацьбе за роўныя правы польскай мовы з іншымі (беларускай, рускай) увесь час сутыкалася з публічнай абразай польскай мовы, стварэннем перашкод для яе выкладання ў навучальных установах[170].

Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі" ад 29 кастрычніка 1991 г., як і раней прынятыя законы, пацвердзіў права польскай нацыянальнай меншасці на атрыманне адукацыі на сваёй роднай мове. У шостым артыкуле закона напісана: *"Згодна з пажаданнямі грамадзян і рашэннямі мясцовых выканаўчых органаў могуць ствараццa групы ў дашкольных установах і класы ў агульнаадукацыйных школах, у якіх выхаванне і навучанне цалкам або часткова ажыццяўляецца на мове нацыянальнай меншасці або вывучаецца яе мова. Згодна з узгадненнем з рэспубліканскім органам дзяржаўнага ўпраўлення, які праводзіць дзяржаўную палітыку ў сферы адукацыі, могуць ствараццa дзіцячыя дашкольныя ўстановы або агульнаадукацыйныя школы, у якіх навучанне і выхаванне вядуцца на мове нацыянальнай меншасці"*[171].

Важнай падзеяй для развіцця культурнай дзейнасці палякаў стала прыняцце 4 чэрвеня 1991 г. Закона "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь"[172], які гарантаваў: адраджэнне і развіццё культур нацыянальных супольнасцей Беларусі як часткі агульначалавечай культуры; фарміраванне культурнага асяроддзя, маральных прынцыпаў, эстэтычных поглядаў і густаў народа, далучэнне яго да мастацкай творчасці, да гуманістычных каштоўнасцей культуры[173].

Дзясяты артыкул закона гарантаваў польскай нацыянальнай меншасці права на развіццё сваёй культуры і мовы, на стварэнне нацыянальнай школы, прадпрыемстваў і ўстаноў культуры (тэатраў, музеяў, выдавецтваў і г.д.). Апроч таго, за палякамі замацоўвалася права на арганізацыю культурных аб'яднанняў, асацыяцый, культурна-асветных таварыстваў і суполак, нацыянальных культурных цэнтраў[174]. Грамадскія культурныя арганізацыі і творчыя саюзы атрымалі права, паводле артыкула 49 закона, самастойна заключаць дамовы

---

168 *Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і моў іншых нацыянальнасцей у БССР*, "Літаратура і мастацтва", 1990, № 39 (3553).

169 A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. 2: *Polacy na Białorusi*, s. 162.

170 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 7–76.

171 *Закон РБ "Об образовании в Республике Беларусь" от 29 октября 1991 г.,* № 1202-XII, "Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь", 1991, № 33, с. 598.

172 A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. 2: *Polacy na Białorusi*, s. 176–178.

173 Тамсама, с. 176.

174 Тамсама, с. 177.

(кантракты) з замежнымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі на любыя формы супрацоўніцтва ў сферы культуры[175].

Закон РБ "Аб культуры" фармальна ўрэгуляваў усе пытанні, звязаныя з запрашэннем ансамбляў з Польшчы і іншых краін у Беларусь, і пазбавіў чыноўнікаў магчымасці перашкаджаць гэтаму. Дзякуючы закону, больш інтэнсіўна пачалі наладжвацца кантакты беларускіх палякаў з Польшчай дзеля развіцця польскай культуры ў Беларусі.

Закон СССР ад 26 красавіка 1990 г. "Аб свабодным нацыянальным развіцці грамадзян СССР, якія пражываюць за межамі сваіх нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў або якія не маюць іх на тэрыторыі СССР"[176] быў падмуркам для стварэння ў чэрвені 1990 г. Саюза палякаў на Беларусі. Закон даваў вялікія магчымасці для адраджэння і развіцця польскасці ў Беларусі. Найбольш важнымі з іх, якія СПБ планаваў выкарыстаць у першую чаргу, былі:

- атрыманне згоды ўлад БССР на стварэнне ўмоў для развіцця польскай культуры, выкладання польскай мовы як вучэбнага прадмета ў школах, аднаўлення польскамоўнай адукацыі ў рэспубліцы;
- стварэнне магчымасцей для арганізацыі польскіх нацыянальных цэнтраў культуры і выдання польскамоўнага перыядычнага друку;
- стварэнне таварыстваў, аддзелаў СПБ, польскіх клубаў і дамоў культуры на тэрыторыі Беларусі.

Закон даваў права польскім арганізацыям мець сваіх прадстаўнікоў пры мясцовых саветах народных дэпутатаў і іх выканаўчых камітэтах. Заўвагі і прапановы гэтых прадстаўнікоў павінны былі ўлічвацца падчас прыняцця рашэнняў, якія тычыліся нацыянальных пытанняў. Гарантавалася таксама права ўстанаўлення кантактаў і падтрымання сувязей з падобнымі арганізацыямі ў СССР і за мяжой. Гэта давала магчымасць пашырыць супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі ў Польшчы. Важным элементам закона было тое, што польскія таварыствы маглі атрымаць статус юрыдычнай асобы. Закон дазваляў таксама нацыянальным меншасцям, у тым ліку і палякам, у месцах іх кампактнага пражывання ствараць нацыянальныя сельскія саветы і пасяленні[177].

Дзякуючы магчымасцям, якія даваў новы закон, 16 чэрвеня 1990 г. быў створаны Саюз палякаў на Беларусі і зацверджаны яго статут[178]. У той час у БССР яшчэ не было ніводнага закона, на падставе якога магчыма было б зарэгістраваць створаную грамадскую арганізацыю. Такім чынам, актыўная дзейнасць польскай нацыянальнай меншасці ў БССР апярэдзіла заканадаўства БССР[179].

---

[175] Тамсама, с. 178.

[176] *Закон СССР от 26 апреля 1990 года "О свободном национальном развитии граждан СССР, проживающих за пределами своих национально-государственных образований или не имеющих их на территории СССР",* [у:] *Свод законов СССР,* Москва 1990.

[177] Тамсама.

[178] Р. Карачун, *Создан Союз Поляков,* "Гродненская правда", 1990, № 117 (12 106).

[179] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 144.

Стварэнне СПБ і яго актыўная дзейнасць, напэўна, сталі прычынай прыняцця 28 ліпеня 1990 г. Вярхоўным Саветам БССР Пастановы "Аб рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў у БССР"[180]. Пастанова абавязвала Савет Міністраў рэспублікі выдаць да 1 верасня 1990 г. Часовае палажэнне аб парадку стварэння і дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў грамадзян у БССР[181].

У Маскве 7 кастрычніка 1990 г. быў прыняты Закон СССР "Аб грамадскіх аб'яднаннях"[182]. Але ён не вырашыў праблемы хуткай рэгістрацыі СПБ, неабходнай для яго актыўнай дзейнасці на тэрыторыі іншых абласцей, таму што ўступаў у дзеянне толькі з 1 студзеня 1991 г. Паводле статута ПКАТ, яго дзейнасць абмяжоўвалася тэрыторыяй Гродзенскай вобласці.

Улады БССР, якія яшчэ імкнуліся спыніць польскае адраджэнне, беспадстаўна доўга зацягвалі працэс рэгістрацыі СПБ. Невядома, ці атрымаў бы СПБ афіцыйную легітымацыю, калі б не візіт Міхаіла Гарбачова 26–28 лютага 1991 г. у Беларусь. Кіраўніцтва БССР ведала, што СПБ будзе спрабаваць данесці да Гарбачова пытанне аб рэгістрацыі. Напэўна, улады БССР не хацелі лішніх клопатаў і праблем. І таму напярэдадні візіту Гарбачова, 25 лютага 1991 г., арганізацыя была зарэгістравана[183].

Восень 1991 г. стала пераломнай у гісторыі Беларусі. Пасля няўдалага путчу Янаева[184] да ўлады ў СССР прыйшлі прадстаўнікі дэмакратычных сіл. 19 верасня 1991 г. Станіслаў Шушкевіч[185], народны дэпутат, прыхільнік дэмакратыі і незалежнасці Беларусі, быў абраны старшынёй Вярхоўнага Савета БССР і фактычна стаў на чале беларускай дзяржавы[186]. Такім чынам, пачалі стварацца новыя ўмовы і магчымасці для адраджэння польскасці ў Беларусі. Гэтыя магчымасці грунтаваліся на двух фактарах. Першы — Станіслаў Шушкевіч быў прыхільнікам дэмакратычных змен, якія прадугледжвалі развіццё ўсіх нацыянальных меншасцей, у тым ліку і польскай. Другі — яго маці Галіна Раманоўская[187] з'яўлялася польскай актывісткай у БССР да 1937 г., калі пачаліся рэпрэсіі. Усё гэта давала палякам надзею на разуменне іх праблем і патрэб з боку кіраўніцтва Беларусі.

Поспех польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі ў новай палітычнай сітуацыі залежаў ад таго, як раней прынятыя прававыя дакументы, што

---

180 *Постановление Верховного Совета Белорусской ССР "О регистрации объединений в Белорусской ССР"*, "Советская Белоруссия", 1990, № 187 (17 968).

181 Савет Міністраў БССР не выканаў задачу. Палажэнне так і не было падрыхтавана.

182 *Закон СССР "Об общественных объединениях"*, "Советская Белоруссия", 1990, № 239 (18 020).

183 Archiwum ZPB, Statut Związku Polaków na Białorusi zatwierdzony przez Ministerstwo Sprawiedliwości RB 25 lutego 1991 r., Świadectwo nr 0181. Партыйныя і савецкія ўлады ў Мінску, рыхтуючыся да візіту М. Гарбачова ў БССР, баяліся выступленняў палякаў, незадаволеных зацягваннем пытання афіцыйнай рэгістрацыі СПБ. 22 лютага 1991 г. чыноўнік Міністэрства юстыцыі Леанід Глеб патэлефанаваў старшыні СПБ і павіншаваў яго з афіцыйнай рэгістрацыяй рэспубліканскай польскай арганізацыі. Як высветлілася пазней, СПБ у той час яшчэ не быў зарэгістраваны, а паведамленне Л. Глеба павінна было астудзіць незадаволенасць палякаў. Гл.: T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 82.

184 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie*, s. 137–143.

185 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Кто есть кто в Беларуси*, Москва 1999, с. 156.

186 *На VI чрезвычайной сессии Верховного Совета БССР*, "Советская Белоруссия", 1991, № 185 (18 266).

187 Падрабязней на гэту тэму гл.: L. Ratajczak, *Matka Prezydenta*, "Głos znad Niemna", 1993, nr 19 (53); T. Gawin, *O byciе Polakiem*, s. 86, 352, 442, 500.

павінны былі садзейнічаць культурнаму развіццю польскай меншасці, будуць інтэрпрэтаваны беларускімі ўладамі; наколькі палякі, што займалі пасады ў кіраўніцтве, будуць гатовыя ангажавацца ў працэс вырашэння польскіх праблем; з якой рашучасцю і запалам будуць дзейнічаць арганізацыйныя структуры СПБ. Немалаважным было і тое, ці зможа СПБ пабудаваць канструктыўныя і дзелавыя адносіны з беларускімі ўладамі ў Мінску і ў рэгіёнах, а таксама з кіраўніцтвам Польшчы. Варта адзначыць, што ва ўмовах нават фармальных змен у заканадаўстве БССР у перыяд 1988–1991 гг. СПБ атрымаў магчымасці для паспяховага развіцця арганізацыйна-статутнай дзейнасці, накіраванай на польскае нацыянальнае адраджэнне ў Беларусі.

# VII. Палітыка ўлад Рэспублікі Беларусь у дачыненні да польскай меншасці ў 1991–2017 гг.

## 1. Палітыка цэнтральных і мясцовых улад у перыяд парламенцкага праўлення 1991–1995 гг.

У снежні 1991 г. канчаткова быў вырашаны лёс Савецкага Саюза[1]. 8 снежня 1991 г. кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны падпісалі ў Белавежскай пушчы дамову аб спыненні існавання СССР. 25 снежня 1991 г. Міхаіл Гарбачоў у тэлевізійным звароце склаў з сябе паўнамоцтвы прэзідэнта Савецкага Саюза[2]. Беларусь атрымала гістарычны шанц на будаўніцтва незалежнай і суверэннай дзяржавы[3]. Палітычныя падзеі, звязаныя з распадам СССР, паўплывалі на паляпшэнне стаўлення ўлад у Мінску, Гродне і іншых гарадах рэспублікі да палякаў Беларусі, у тым ліку да прадстаўніка іх інтарэсаў перад органамі ўлады — Саюза палякаў. Пераломным у адносінах паміж СПБ і цэнтральным кіраўніцтвам Беларусі стаў 1992 год.

9 студзеня 1992 г. кіраўнік дзяржавы Станіслаў Шушкевіч прыняў дэлегацыю Саюза палякаў на Беларусі. Гэтая сустрэча сведчыла пра тое, што часткова абноўленая некамуністычная цэнтральная ўлада РБ мела намер будаваць адносіны з нацыянальнымі меншасцямі інакш, чым раней, спрабуючы вырашаць іх праблемы, а не замоўчваць і хаваць іх ад шырокай грамадскасці. Размова з Шушкевічам паказала кіраўніцтву СПБ, што галоўныя пытанні, якія хвалявалі палякаў і тычыліся выкладання польскай мовы ў школах, адкрыцця польскамоўных школ, выдання польскамоўнага друку, магчыма было вырашыць у новых палітычных умовах[4].

Варта адзначыць, што з 1988 г. і да распаду СССР ніхто з партыйнага і савецкага кіраўніцтва Беларусі не выказаў жадання сустрэцца з беларускімі палякамі і выслухаць іх праблемы. Пры гэтым з боку СПБ былі спробы наладжвання камунікацыі. Такое стаўленне камуністычных беларускіх улад да палякаў чарговы раз сведчыла пра тое, што “польскае пытанне” яны разглядалі як часовае, якое змогуць утаймаваць. Сустрэча кіраўніцтва СПБ з С. Шушкевічам выявіла адсутнасць у польскай арганізацыі вопыту ўдзелу ў такіх перамовах і ўмення з усяго спектра праблем, што агучваліся, выбраць галоўныя і на іх сканцэнтравацца[5].

1 Падрабязней на гэту тэму гл.: Р.Г. Пихоя, *Власть. Номенклатура. Собственность. Об одной из причин распада СССР,* [у:] *Historia est testis temporum. Księga Pamiątkowa z okazji jubileuszu 90-lecia Profesorów Richarda Pipesa, Piotra Wandycza, Zbigniewa Wójcika,* pod redakcją Jana Malickiego, Warszawa 2017, s. 143–166; S. Ciesielski, *Pierestrojka a kwestia narodowa — Zakaukazie i Azja Centralna,* [y:] *Nie tylko Litwa. Geneza i przebieg upadku ZSRR w roku 1991,* t. 1, pod redakcją A. Srebrakowskiego i G. Straucholda, Łomianki 2017, s. 11–100.

2 М. Горбачёв, *Понять перестройку*, с. 351–363.

3 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Ruchniewicz, *Od BSRR do Republiki Białoruś (1986–1991),* [у:] *Nie tylko Litwa,* s. 293–326.

4 Падрабязней на гэту тэму гл.: Т. Гавін, *Польскамоўная адукацыя ў 1988–1996 гг. у Беларусі: праблемы адраджэння і роля беларускай супольнасці Гародні,* [у:] *Гарадзенскі соцыум. Горад і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X–XX стст. Зборнік навуковых артыкулаў,* Мінск 2016, с. 322–323; L. Michajlik, *Spotkanie odbyło się. Co dalej?,* “Głos znad Niemna”, nr 3 (14), 15.02.1992.

5 Тамсама. СПБ прадставіў старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіславу Шушкевічу 21 праблемнае пытанне, большасць з якіх знаходзілася ў кампетэнцыі мясцовых органаў улады. Тым не менш СПБ здолеў атрымаць плён ад гэтай сустрэчы.

Адхіленне ад улады камуністычнай партыі і абранне Станіслава Шушкевіча на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета РБ сталі важнымі падзеямі для беларускай дзяржавы[6]. Аднак шматлікія камуністы і далей займалі кіруючыя пасады ва ўсіх структурах улады — заканадаўчай, выканаўчай, судовай. Некаторыя з іх партыйныя кабінеты памянялі на кабінеты выканаўчай улады, а кабінеты ў ЦК КПБ на кабінеты ў Савеце Міністраў і Вярхоўным Савеце Беларусі. Дэмакратычныя сілы на чале з Шушкевічам не выкарысталі моманту распаду СССР, забароны дзейнасці КПСС і не ўвялі ў структуры ўлады новых, не звязаных са старой наменклатурай палітычных дзеячаў, якія б імкнуліся будаваць беларускую нацыянальную і незалежную дзяржаву. Гэта прывяло да паслаблення пазіцый прыхільнікаў дэмакратычных змен, у тым ліку Станіслава Шушкевіча.

Аднак у новых палітычных умовах СПБ нашмат лягчэй было рэалізаваць свае мэты і задачы, чым да распаду СССР. Там, дзе СПБ праяўляў актыўнасць у перамовах з уладамі і ведаў, чаго ў выніку хацеў дасягнуць, улады, як правіла, ішлі на ўступкі. 21 лютага 1992 г. Сапоцкінскі пасялковы савет (большасць у ім складалі члены СПБ) у Гродзенскім раёне прыняў рашэнне аб перайменаванні вуліц у пасёлку. Так, вуліца Леніна была названа ў гонар Яна Паўла II, Кастрычніцкая — у гонар генерала Юзафа Альшына-Вільчынскага[7], вуліцы Тэалінскай вернута яе старая назва. Да таго ж назвы вуліц напісалі на дзвюх мовах — беларускай і польскай[8]. Гэта адзіны прыклад палітычнай актыўнасці палякаў, звязаны з ліквідацыяй савецкіх назваў вуліц. Палякі мелі большасць і ў іншых мясцовых саветах. Напрыклад, у Воранаўскім раёне іх пражывала больш за 85 % ад агульнай колькасці насельніцтва. Але такой актыўнай дзейнасці з боку польскай меншасці тут не было. Больш за тое, у гэтым раёне, дзе на пасадзе загадчыка раённага аддзела народнай адукацыі знаходзіўся паляк, сябра СПБ, у адрозненне ад Гродна і Ваўкавыска, не былі прыкладзены намаганні для адкрыцця польскай школы[9].

Як ужо было адзначана вышэй, камуністы, якія перайшлі з партыйных камітэтаў у структуры выканаўчай і заканадаўчай улады, былі галоўнымі праціўнікамі польскага нацыянальнага адраджэння ў РБ. Адсутнасць культуры павагі да законаў штурхала іх да супрацьстаяння ўвядзенню выкладання польскай мовы ў школах і тым больш адкрыццю польскамоўных школ. Найбольш

6 M. Ruchniewicz, *Od BSRR do Republiki Białoruś (1986–1991),* [у:] *Nie tylko Litwa,* s. 302.

7 Генерал Юзаф Альшына-Вільчынскі — камандуючы аператыўнай групай "Гродна", адзін з удзельнікаў абароны горада ў 1939 годзе. 22 верасня 1939 г. вайскоўцамі Чырвонай арміі быў расстраляны разам з начальнікам штаба і ад'ютантам на вачах у жонкі недалёка ад пасёлка Сапоцкін. Падрабязней на гэту тэму гл.: Z. Mierzwiński, *Generałowie II Rzeczypospolitej*, Warszawa 1990, s. 195–199; B. Mieszczeriakow, *Na cmentarzu w Sopoćkiniach,* "Głos znad Niemna", nr 9 (11), październik 1991.

8 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna*, s. 130.

9 Варта прызнаць, што віна ў тым, што палякам не дазволілі адкрыць польскую школу ў Воранаве, ляжыць не толькі на раённых уладах, якія не жадалі выконваць беларускае заканадаўства, але і на палякаx: як на тых, што працавалі ў сістэме органаў мясцовай улады, так і на членах СПБ, якія не праявілі дастатковай актыўнасці і рашучасці ў вырашэнні гэтага пытання. Падобная сітуацыя была і ў г. Шчучыне, дзе загадчыкам раённага аддзела народнай адукацыі быў паляк Эдвард Дзікевіч. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 225–227.

спрыяльныя ўмовы для вырашэння пытання, звязанага з адкрыццём польскай школы, склаліся ў Гродне, дзе старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта быў Сямён Домаш, які паважаў існае заканадаўства і актыўна ўключыўся ў беларускае нацыянальнае адраджэнне[10]. Менавіта ён ад імя Гродзенскага выканаўчага камітэта ў лісце ад 6 лютага 1992 г. на адрас СПБ упэўніў польскую грамадскую арганізацыю, што да моманту пераходу дзяцей, якія навучаліся на польскай мове, з пачатковай школы ў сярэднюю пытанне аб адкрыцці польскамоўнай школы будзе вырашана[11].

Рэалізацыі пастаўленых СПБ задач садзейнічала падпісанне 23 чэрвеня 1992 г. Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча "Аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве"[12]. У артыкуле 14 дакумента гаварылася: *"Дагаворныя Бакі пацвярджаюць, што асобы, якія належаць да* […] *польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь, маюць права індывідуальна ці сумесна з іншымі членамі сваёй групы на свабоднае захаванне, развіццё і выражэнне сваёй этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай самабытнасці без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам"*[13].

Дагавор гарантаваў вельмі важную для польскай нацыянальнай меншасці магчымасць *"...ствараць, а таксама падтрымліваць дзейнасць уласных асветных, культурных і іншых устаноў, арганізацый і таварыстваў, якія могуць звяртацца за добраахвотнай фінансавай і іншай дапамогай, у тым ліку дзяржаўнай, у адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, мець магчымасць карыстацца сродкамі масавай інфармацыі, а таксама прымаць удзел у дзейнасці міжнародных няўрадавых арганізацый"*[14]. Дамова таксама давала права выкарыстоўваць у напісанні польскамоўнае гучанне імя і прозвішча[15].

Магчымасці СПБ у справе адкрыцця польскіх школ і выкладання польскай мовы ў навучальных установах пашырыліся пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Закона "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь" ад 11 лістапада 1992 года[16].

---

10 Раней, як адзначалася вышэй, быў старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта Ліды.

11 R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, Grodno 1998, s. 18. У сярэдніх школах № 3 Кастрычніцкага раёна Гродна і № 21 Ленінскага раёна працавалі першыя класы з польскай мовай навучання. СПБ разглядаў іх у якасці падмурка для стварэння ў Гродне польскамоўных школ.

12 A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, Warszawa 2001, s. 254–259; K. Fedorowicz, *Polityka Polski wobec Białorusi,* [у:] *Polityka wschodnia Polski. Uwarunkowania, koncepcje, realizacja,* red. A. Gil, T. Kapuśniak, Lublin — Warszawa 2009; H. Giebień, *Poska wobec mniejszości polskiej na Białorusi w latach 1991–2016 (do października 2016). Zarys problemu,* [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 541–559.

13 *Договор между Республикой Беларусь и Республикой Польша о добрососедстве и дружелюбном сотрудничестве.* Вступил в силу 30 марта 1993 г., [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, "ЭТАЛОН" версия 6.7, [11.10.2017].

14 Тамсама.

15 Падрабязней на гэтую тэму гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 254–259; *Договор между Республикой Беларусь и Республикой Польша о добрососедстве и дружелюбном сотрудничестве.* Вступил в силу 30 марта 1993 г., [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, "ЭТАЛОН" версия 6.7, [11.10.2017].

16 "Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь", 1992, № 35, ст. 550.

У пятым артыкуле закона гаварылася, што *"Рэспубліка Беларусь, паважаючы правы чалавека, гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія прылічваюць сябе да нацыянальных меншасцей, роўныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы і свабоды, у тым ліку:*

*а) права на атрыманне дапамогі з боку дзяржавы ў справе развіцця нацыянальнай культуры і адукацыі; б) права на вывучэнне і карыстанне роднай мовай; в) права на друк і распаўсюд інфармацыі на роднай мове; г) права на наладжванне культурных сувязей з суайчыннікамі за межамі Рэспублікі Беларусь; д) права вызнання любой рэлігіі, выканання нацыянальных і рытуальных абрадаў на роднай мове*[17];

[…]

*Любыя дзеянні, накіраваныя на дыскрымінацыю па нацыянальных прыкметах, стварэнне перашкодаў у рэалізацыі нацыянальнымі меншасцямі сваіх правоў, распальванне міжнацыянальнай варожасці, караюцца па законе"*[18].

Прыведзеныя вышэй дагавор і закон фармальна давалі даволі вялікія магчымасці для польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. Але, як паказаў час, рэалізаваць гэтыя магчымасці з-за супраціўлення мясцовых улад не паўсюль удалося. Закон 1992 г., у адрозненне ад раней прынятых савецкіх законаў, абмяжоўваў права прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, у тым ліку і палякаў, на стварэнне ў РБ нацыянальных раёнаў і нацыянальных саветаў[19]. Паўстае пытанне, чаму новая беларуская ўлада, якая імкнулася да дэмакратызацыі палітычнага ладу, пазбавіла нацыянальныя меншасці такой магчымасці. Напэўна, па гэтым пытанні супалі меркаванні як дзеячаў беларускага адраджэння, так і народных дэпутатаў — былых прадстаўнікоў савецкай наменклатуры. Хутчэй за ўсё яны баяліся, што дазвол палякам ствараць самакіравальныя нацыянальныя раёны і сельскія саветы можа прывесці да пагрозы нацыянальнай бяспецы Беларусі. Выступленне прадстаўніка КДБ Беларусі ўпэўніла кіраўніцтва краіны і дэпутатаў у слушнасці іх меркавання па гэтым пытанні[20].

У гэты перыяд (1991–1995 гг.) у Беларусі быў прыняты і шэраг іншых законаў, а таксама падпісаны дамовы паміж РБ і РП, якія стваралі спрыяльны клімат для дзейнасці польскай нацыянальнай меншасці[21]. Праўда, вельмі часта рэалізаваць гарантаваныя законамі і міжнароднымі дагаворамі правы было складана.

---

17 Тамсама; *Закон Республики Беларусь 11 ноября 1992 г. № 1926-XII. О национальных меньшинствах в Республике Беларусь. С изменениями и дополнениями,* [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, "ЭТАЛОН" версия 6.7, [11.10.2017].

18 Тамсама.

19 РДАНГ, ф. 2, воп. 5, спр. 294, арк. 1: Постановление Сентябрьского пленума ЦК КПСС о национальной политике партии в современных условиях, а также материалы к нему, 19–20.09.1989.

20 Гл. выступленне старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета РБ у 1992 г. В. Карбалевич, *Место Польши в политике Беларуси*, [у:] *Наш радавод*, Гродна-Беласток 1999 (2000), кн. 8, с. 579.

21 Спіс, назвы і змест прынятых законаў і падпісаных дагавораў гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 129–274.

Саюз палякаў на Беларусі з мэтай адраджэння польскамоўнай адукацыі ў Гродне імкнуўся дамагчыся ад улад перадачы памяшкання пад польскую школу. Вопыт перамоў упэўніў кіраўніцтва СПБ, што вырашыць гэтае пытанне так, як прапаноўваў старшыня Гродзенскага гарвыканкама, будзе дастаткова складана. Таму вясной 1993 г. СПБ змяніў тактыку, прыняўшы рашэнне, падтрыманае старшынёй Таварыства "Польская супольнасць" (Stowarzyszenie "Wspólnota Polska") прафесарам Анджэем Стэльмахоўскім, аб будаўніцтве польскай школы ў Гродне за кошт бюджэту РП. Гэтая тактыка дазваляла палякам ужо ў бліжэйшай будучыні мець сваю школу і, такім чынам, пачаць працэс аднаўлення знішчанай у 1948 г. польскамоўнай адукацыі.

Палітычная сітуацыя ў 1993 г. для СПБ была як ніколі спрыяльнай. У гэты час Сямён Домаш прасунуўся па службовай лесвіцы і стаў старшынёй Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта замест Дзмітрыя Арцымені, які быў праціўнікам адкрыцця польскай школы ў Гродне. Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта быў выбраны паляк Генрых Крупенка, які раней дапамагаў ПКАТ і СПБ. Намеснікам старшыні гарвыканкама працаваў Аляксандр Мілінкевіч, які лічыў, што беларускае нацыянальнае адраджэнне і польскае павінны адбывацца адначасова і дапаўняць адно аднаго[22].

Зусім іншая сітуацыя склалася ў Лідзе. Там, нягледзячы на патрабаванні бацькоў і дапамогу СПБ, не атрымалася, у адрозненне ад Гродна, закласці падмурак пад будучую польскую школу і стварыць у 1991–1993 гг. першыя класы з польскай мовай навучання. Ініцыятывам палякаў супрацьдзейнічалі старшыня Лідскага гарадскога выканаўчага камітэта Уладзімір Малец і загадчык гарадскога аддзела народнай адукацыі Аркадзь Мазоўка[23]. Чаму ў двух гарадах адной вобласці скláліся супрацьлеглыя падыходы да пытання польскамоўнай адукацыі? Напэўна, кіраўніцтва Беларусі і Міністэрства народнай адукацыі далі мясцовым уладам неабмежаваныя магчымасці ў вырашэнні гэтага пытання. Пры гэтым неафіцыйна яны падтрымлівалі дзеянні тых мясцовых кіраўнікоў, якія стрымлівалі аднаўленне польскамоўнай адукацыі ў сваіх рэгіёнах. Падобнае стаўленне назіралася і ў іншых гарадах Мінскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцей[24]. Варта адзначыць, што ўлады для рэалізацыі сваіх планаў супрацьдзеяння развіццю польскамоўнай адукацыі выкарыстоўвалі падначаленых і залежных ад іх палякаў, якіх прымушалі "добраахвотна" выступаць у мясцовым друку супраць навучання дзяцей на польскай мове. Такім чынам, у шматлікіх бацькоў з'яўляўся сумнеў адносна таго, ці варта абцяжарваць сваіх дзяцей навучаннем на польскай мове, калі

[22] 20 верасня 2017 г. Сямён Домаш, Генрых Крупенка і Аляксандр Мілінкевіч за дапамогу СПБ у адраджэнні польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы ў дзяржаўных адукацыйных установах РБ узнагароджаныя Срэбным медалём Stowarzyszenia "Wspólnota Polska" (SWP) з Варшавы. Медалі былі ўручаныя ў Гродне старшынёй SWP Дарыюшам Пятром Баніслаўскім, генеральным консулам РП у Гродне Ярославам Ксёнжкам і старшынёй СПБ Анжалікай Борыс. Гл.: *Nagrody i wyróżnienia na konferencji naukowej w Grodnie,* http://znadniemna.pl/25303/nagrody-wyroznienia-konferencji-naukowej-grodnie/, [22.09.2017].

[23] T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 230.

[24] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Odrodzenie polskości*, s. 188–201.

пасля заканчэння такой школы ў іх не будзе будучыні ў Беларусі, як упэўнівалі аўтары некаторых артыкулаў[25].

Візіты ў Беларусь польскага прэм'ер-міністра Ганны Сухоцкай у 1992 г. і прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы ў 1993 г. і іх сустрэчы з кіраўніцтвам СПБ, а таксама з прадстаўнікамі польскай меншасці ў Гродне (прэм'ера) і ў Баранавічах (прэзідэнта) павялічвалі аўтарытэт СПБ не толькі сярод беларускай грамадскасці, але і ў асяроддзі ўлад, якія разумелі, што Польшча сур'ёзна адносіцца да СПБ і да польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі.

Саюз палякаў на Беларусі з асветніцкай мэтай стварыў польскамоўную газету "Глос знад Немна" ("Głos znad Niemna"), зарэгістраваную Дзяржаўным камітэтам па справах друку ў Мінску 20 верасня 1990 года[26]. Газета была афіцыйна легалізавана на паўгода раней, чым адбылася рэгістрацыя самога СПБ. Перад распадам СССР такія станоўчыя для СПБ парадоксы здараліся.

17 лютага 1994 г. старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах друку Анатоль Бутэвіч прыняў запрашэнне галоўнага праўлення СПБ наведаць арганізацыю. У выніку перамоў кіраўніцтва СПБ з міністрам было вырашана, што ўрад РБ возьме на сябе 75 % выдаткаў, звязаных з выданнем газеты "Глос знад Немна". Гэта быў не толькі жэст добрай волі, але і сведчанне павагі да СПБ з боку беларускага ўрада ў асобе міністра Анатоля Бутэвіча[27].

Канстытуцыя РБ, прынятая ў сакавіку 1994 г., прадугледжвала пераход ад парламенцкай рэспублікі да прэзідэнцкай. Вярхоўны Савет РБ прызначыў першы тур выбараў прэзідэнта Беларусі на 23 чэрвеня 1994 г. Улады незалежнай парламенцкай РБ, дзе шматлікія структуры знаходзіліся пад грамадскім кантролем, вымушаны былі ўлічваць палітычныя настроі ў грамадстве. У сувязі з гэтым яны не мелі намеру праводзіць прэзідэнцкія выбары з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу, каб на пасаду прэзідэнта быў абраны раней ухвалены імі кандыдат. Таму ўсе кандыдаты ў прэзідэнты РБ пачалі актыўна змагацца за галасы выбаршчыкаў. Паколькі да лета 1994 г. СПБ здолеў аб'яднаць у сваіх шэрагах тысячы палякаў амаль з усіх заходніх абласцей Беларусі і г. Мінска, а таксама меў свае грамадскія структуры і ва ўсходніх абласцях, ніводны з прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта РБ не мог праігнараваць галасы беларускіх палякаў.

Прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч быў адным з кандыдатаў, які планаваў змагацца за галасы палякаў. 13 траўня 1994 г. ён накіраваў міністра адукацыі

25 Адным з такіх праўладных актывістаў быў паляк з Ліды В. Станевіч, які напісаў артыкул "Без амбіцый?" у "Лідскай газеце" ад 8.09.1992 г. Артыкул быў надрукаваны акурат у той час, калі вырашаўся лёс першага класа з польскай мовай навучання ў Лідзе. У выніку СПБ і бацькам-палякам не ўдалося дамагчыся арганізацыі польскамоўнай адукацыі ў горадзе.

26 Падрабязней на тэму выдавецкай дзейнасці СПБ гл.: A. Bubko, *"Magazyn Polski"*, [y:] *Polska mniejszość na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności,* red. Z. J. Winnicki i T. Gawin, Białystok 2010, s. 245–266; A. Dobroński, *Grodzieńsko-białostocki "Głos znad Niemna"*, [y:] *Polska mniejszość*, s. 223–244.

27 E. S. (E. Skrobocki), *Wizyta ministra,* "Głos znad Niemna", nr 8, 28.02–06.03.1993; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności,* s.177–178. Ва ўмовах сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі, калі ўрад цалкам адарваны ад народа і яму непадсправаздачны, цяжка ўявіць візіт міністра не толькі ў польскую грамадскую арганізацыю, але і ў любую іншую.

Віктара Гайсёнка на сустрэчу з галоўным праўленнем СПБ з мэтай вырашэння тых праблем, пра якія раней у сваіх лістах да ўлад пісаў Саюз палякаў на Беларусі[28]. Гэтая сустрэча верагодна павінна была зняць напружанасць у адносінах паміж урадам і СПБ, а таксама падрыхтаваць падмурак да бесканфліктных перамоў прэм’ер-міністра Кебіча з кіраўніцтвам Саюза палякаў і такім чынам дапамагчы заваяваць галасы польскай меншасці падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

Вячаслаў Кебіч прыехаў з візітам у галоўнае праўленне СПБ праз чатыры дні, 17 траўня 1994 г. Разумеючы, што СПБ галоўным чынам хвалююць пытанні польскамоўнай адукацыі, Кебіч на сустрэчу запрасіў кіраўніцтва Гродзенскай вобласці, а менавіта: старшыню аблвыканкама Сямёна Домаша, яго намесніка па справах адукацыі Мікалая Калацэя, старшыню гарвыканкама Генрыха Крупенку і загадчыка абласнога аддзела народнай адукацыі Аляксея Саўчыка. Сустрэча стала пераломнай для вырашэння праблем, звязаных з далейшым развіццём польскамоўнай адукацыі ў Беларусі[29].

Падчас перамоў было вырашана, што ў Гродне з’явяцца дзве польскія школы, адна з якіх (разам з Цэнтрам польскай культуры) будзе пабудавана на сродкі з беларускага бюджэту, другая (як і школа ў Ваўкавыску) — за кошт фінансавання РП. Гэта была канструктыўная сустрэча. Прэм’ер-міністр Кебіч не падымаў пытанняў, звязаных з выбарамі, хаця ўсім была зразумела мэта яго прыезду ў Гродна і размоў з прадстаўнікамі СПБ. Развітваючыся, Кебіч сказаў старшыні Саюза палякаў на Беларусі: *“У прэзідэнцкіх выбарах, якія хутка адбудуцца, вы можаце галасаваць за каго толькі жадаеце. Але ў мяне да Вас асабістая просьба — ні ў якім выпадку не галасуйце за Аляксандра Лукашэнку. Калі ён пераможа, то павядзе Беларусь у камуністычнае мінулае”*[30].

Прыезд прэм’ер-міністра Вячаслава Кебіча ў Гродна і яго сустрэча з кіраўніцтвам СПБ узмацнілі пазіцыі Сямёна Домаша, Генрыха Крупенкі, Аляксандра Мілінкевіча і іншых дзяржаўных дзеячаў, якія дапамагалі СПБ у дасягненні яго статутных мэт, асабліва ў справе адраджэння польскамоўнай адукацыі. З гэтага моманту іх заангажаванасць у вырашэнне “польскага пытання” была не выключна асабістай ініцыятывай і праяўленнем добрай волі, а зрабілася выкананнем палітычнай праграмы беларускага ўрада.

10 ліпеня 1994 г. на выбарах прэзідэнта РБ у другім туры перамог Аляксандр Лукашэнка[31]. Прэм’ер-міністр Вячаслаў Кебіч прызнаў выбар народа. Старая ўлада сыходзіла з гонарам і павагай да беларускага заканадаўства. Не пройдзе

---

[28] Падрабязней на тэму гэтай сустрэчы гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, s. 30–31.

[29] Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 32–34; Архіў СПБ, дакументы ўваходныя за 1994 г. Протокол встречи премьера Республики Беларусь с руководством СПБ от 17 мая 1994 г.

[30] M. Świgoń, J. Dziurbejko, *Donośna wizyta*, “Głos znad Niemna”, nr 20 (106), 23–29.05.1994; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 276.

[31] Падрабязней на тэму выбараў прэзідэнта РБ, наведвання галоўнага праўлення СПБ кандыдатамі ў прэзідэнты Александрам Лукашэнкам, Станіславам Шушкевічам і Зянонам Пазняком гл.: I. Artisz, *Spotkanie z Aleksandrem Łukaszenką*, “Głos znad Niemna”, nr 16, 25.04–1.05.1994; J. D., (Dziurbejko Józef), *Stanisław Szuszkiewicz w Domu Polaka w Grodnie*, “Głos znad Niemna”, nr 16, 25.04–1.05.1994; M. Aniszczenko, *Spotkanie z Zenonem Paźniakiem*, “Głos znad Niemna”, nr 16, 25.04–1.05.1994.

і некалькі гадоў, як прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка растопча беларускае права, зменіць Канстытуцыю, неправамоцна працягне свае прэзідэнцкія паўнамоцтвы на два гады. Чарговыя прэзідэнцкія выбары будуць сфальсіфікаваныя і, такім чынам, з гаранта Канстытуцыі, грамадзянскіх правоў і свабод Лукашэнка ператворыцца ў іх ліквідатара[32].

Нягледзячы на заяву Аляксандра Лукашэнкі падчас сустрэчы з кіраўніцтвам СПБ 17 красавіка 1994 г. у Гродне аб тым, што *"будзеце мець столькі польскіх школ, колькі вам будзе патрэбна"*[33], ужо праз некалькі месяцаў пасля выбараў рэчаіснасць аказалася зусім іншай.

Беларускі ўрад праз намесніка міністра эканомікі і фінансаў у снежні 1994 г. паведаміў СПБ, што ў дзяржаўным бюджэце няма сродкаў на рэалізацыю праекта, звязанага з будаўніцтвам другой польскай школы ў Гродне. Так урад Міхаіла Чыгіра адмовіўся выконваць абавязкі папярэдняга ўрада[34].

Чарговым фактам, які пагаршаў адносіны паміж урадам і СПБ, стала тое, што міністр адукацыі РБ Васіль Стражаў (насуперак беларускаму заканадаўству) выступаў супраць канцэпцыі развіцця польскамоўнай адукацыі ў Беларусі. У інтэрв'ю газеце "Звязда" міністр паставіў пытанне: *"Ці будзе правільна, калі ў Беларусі пачнуць з'яўляцца школы, у якіх усе прадметы з І па ХІІ класы будуць выкладацца на польскай мове?"*[35]. Гэта быў сур'ёзны сігнал для СПБ аб тым, што ў новай палітычнай сітуацыі аднавіць польскамоўную адукацыю ў Беларусі будзе даволі складана. Калі ўлічыць, што міністр не мог па сваёй асабістай ініцыятыве змяняць раней ухваленую беларускім урадам канцэпцыю функцыянавання польскіх школ, то, напэўна, у гэтым пытанні ён меў падтрымку з боку адміністрацыі прэзідэнта.

Вялікай стратай для СПБ было зняцце 24 снежня 1994 г. з пасады старшыні Гродзенскага выканаўчага камітэта Сямёна Домаша[36]. З таго моманту шматлікія пытанні, звязаныя з будаўніцтвам польскіх школ у Гродне і Ваўкавыску, неабходна было вырашаць з новым старшынёй, з якім яшчэ толькі наладжваліся працоўныя адносіны. Гэта ўскладняла дзейнасць СПБ у справе атрымання ўсіх дазволаў на будаўніцтва школ. У рэалізацыі іншых задач (не звязаных з аднаўленнем польскамоўнай адукацыі) СПБ амаль не сустракаў супраціву з боку ўлад. У перыяд 1991–1995 гг. намаганнямі СПБ і пры дапамозе Таварыства "Польская супольнасць" з Варшавы ў Гродне, Баранавічах і Браславе былі пабудаваны Польскія дамы для развіцця культурна-адукацыйнай дзейнасці[37].

---

32 А. Федута, *Лукашенко. Политическая биография* с. 242.

33 I. Artisz, *Spotkanie z Aleksandrem Łukaszenką*, "Głos znad Niemna", nr 16 (102), 25.04–01.05. 1994.

34 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, s. 36; Архіў СПБ, дакументы ўваходныя за 1994 г.: Ліст намесніка міністра эканомікі і фінансаў накіраваны на адрас Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта і старшыні Саюза палякаў Беларусі.

35 Газета "Звязда", 09.12.1994 г.

36 Сямён Домаш падчас выбарчай кампаніі не падтрымаў Аляксандра Лукашэнку. Больш за тое, выступаў супраць яго кандыдатуры ў якасці прэзідэнта. Гэта стала асноўнай прычынай пазбаўлення яго пасады старшыні Гродзенскага аблвыканкама.

37 H. Giebień, *Związek Polaków na Białorusi (BSRR-RB) w latach 1988–2004*, [у:] *Polska mniejszość narodowa w Europie Środkowo-Wschodniej. Nowe problemy i wyzwania wobec współczesnych przemian w państwach*

Плённа развівалася выдавецкая справа СПБ[38]. Раз на тыдзень польскамоўныя перадачы трансліраваліся Гродзенскім абласным радыё і тэлебачаннем[39].

СПБ, нягледзячы на складанасці, звязаныя з негатыўным стаўленнем некаторых прадстаўнікоў улад да польскамоўнай адукацыі, прасоўваў ідэю выкладання польскай мовы ў школах Беларусі, развіваў культурную і выдавецкую дзейнасць. Дзякуючы намаганням членаў Саюза палякаў, у 1993 г. польская мова выкладалася ў 300 школах, пры гэтым у 81 з іх — як абавязковы прадмет. Польскую мову вывучалі 14 252 вучні. Для параўнання, у 1990 г. польская мова вывучалася ў 174 школах, з якіх толькі ў 39 — у якасці абавязковага прадмета, усяго 8 252 школьнікі вучылі польскую мову[40].

Перыяд парламенцкага праўлення ў рэспубліцы ў 1991–1995 гг. для СПБ, нягледзячы на ўсе цяжкасці ў рэалізацыі статутных мэт і задач, быў найбольш спрыяльным часам. Былі відавочныя дасягненні ў справе адраджэння польскамоўнай адукацыі. Кожны год павялічвалася колькасць школ, у якіх выкладалася польская мова. Улады далі дазвол на будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Беларусі. Вялася культурная дзейнасць і развіваліся сродкі масавай інфармацыі, як друкаваныя, так і электронныя. Пасля перамогі Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах стаўленне цэнтральнай улады і мясцовага кіраўніцтва да канстытуцыйных патрабаванняў палякаў пачало змяняцца ў горшы бок. Выключэннем заставаліся гарады Гродна і Ваўкавыск. Спробы новага ўрада на чале з Міхаілам Чыгірам разгледзець праблемы нацыянальных меншасцей і распрацаваць механізм іх вырашэння былі асуджаны на правал і скончыліся безвынікова[41].

Чаму Аляксандр Лукашэнка (які публічна ўпэўніў палякаў у тым, што ён будзе садзейнічаць развіццю польскамоўнай адукацыі), яго ўрад і старая постсавецкая наменклатура ў структурах улады так негатыўна ставіліся да польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі? Прычын такога стаўлення некалькі, але можна вылучыць галоўныя. Па-першае, прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка, фарміруючы сваю адміністрацыю і новы ўрад, атачыў сябе кадрамі,

---

*regionu,* red. Z. J. Winnicki, Wrocław 2005, s. 99–144; T. Gawin, *Stan aktualny 2010 i perspektywy rozwoju Związku Polaków na Białorusi*, [y:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi,* s. 338.

38 Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Śleszyński, *Polityka historyczna a mniejszość polska na Białorusi w latach 1991–2017,* [y:] *Polacy na Białorusi,* s. 521–525.

39 Тамсама, с. 524.

40 Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Bobryk, *Społeczne uwarunkowania funkcjonowania oświaty w języku polskim na Białorusi (1988–2017),* [y:] *Polacy na Białorusi,* s. 483–500.

41 Віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Віктар Ганчар, які курыраваў справы нацыянальных меншасцей, сустрэўся ў трэцяй дэкадзе жніўня 1994 г. з кіраўнікамі рэспубліканскіх арганізацый нацыянальных меншасцей. Адбыўся даволі канструктыўны для абодвух бакоў дыялог, які даваў надзею на тое, што новы ўрад будзе сур'ёзна, у межах беларускага заканадаўства вырашаць праблемы нацыянальных меншасцей. Старшыня СПБ на гэтай сустрэчы перадаў прэм'еру спіс праблемных пытанняў, для вырашэння якіх патрабавалася ўмяшальніцтва ўрада і прэзідэнта. Але спадзяванні прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей не апраўдаліся. У хуткім часе Віктар Ганчар быў зняты з пасады віцэ-прэм'ера і перайшоў у апазіцыю да прэзідэнта Лукашэнкі. Новы чыноўнік такой актыўнасці, як Ганчар, не праявіў. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 283; А. Федута, *Лукашенко. Политическая биография,* Москва 2005, с. 189.

дзе ўраджэнцы Беларусі былі ў меншасці[42]. У асноўным гэта былі рускія, накіраваныя сюды на працу яшчэ ў савецкі час.[43] Імкненне Польшчы ўступіць у Еўрапейскі Саюз і НАТА трактавалася імі (таксама як і кіраўніцтвам Расіі) як пагроза для бяспекі Беларусі. У сувязі з гэтым палякі ў РБ (шмат у чым пад уплывам КДБ[44] і іншых спецыяльных службаў) разглядаліся ў якасці пятай калоны. У асяроддзі як цэнтральнай, так і мясцовых улад ствараліся ўмовы, якія не садзейнічалі далейшаму плённаму польскаму нацыянальнаму адраджэнню. Па-другое, кожная пабудаваная і адкрытая польская школа ў Беларусі звужала б прастору так званага рускага свету[45]. А гэта, натуральна, супярэчыла інтарэсам як Расіі, так і расіян, якія жылі ў Беларусі. Па-трэцяе, дэнацыяналізаваныя беларусы ў структурах улады, якія не былі заангажаваны ў працэс развіцця беларускамоўных школ, прытрымліваліся наступнага прынцыпу: "Няма беларускіх школ у рэспубліцы — не дазволім стварэнне і польскіх". У такіх умовах далейшае развіццё польскамоўнай адукацыі ў Беларусі можна было ажыццяўляць толькі ў рашучай канфрантацыі з уладай, пры падтрымцы законных патрабаванняў СПБ з боку шырокіх колаў беларускай грамадскасці, апазіцыйных палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

---

42 Выхадзец з беларускай глыбінкі, напужаны нечаканай вялікай уладай, старшыня саўгаса ў Магілёўскай вобласці, які не меў палітычнага досведу кіраўніцтва абласнымі і раённымі выканаўчымі структурамі, не з'яўляўся сапраўдным прыхільнікам дэмакратыі і беларускага нацыянальнага адраджэння, па-іншаму зрабіць не мог. Не ведаючы гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, заходняй культуры і яе каштоўнасцей, ён не мог ажыццяўляць палітыку інтэграцыі Беларусі з Еўропай і Еўрапейскім Саюзам.

43 У адміністрацыі прэзідэнта і ва ўрадзе быў шэраг былых савецкіх палкоўнікаў не беларусаў, якія займалі адказныя пасады. Так, напрыклад, палкоўнік Уладзімір Замяталін быў віцэ-прэм'ерам урада, які курыраваў справы, звязаныя з нацыянальнымі меншасцямі. Палкоўнік Урал Латыпаў быў міністрам замежных спраў, палкоўнік Сяргей Посахаў з'яўляўся памочнікам прэзідэнта РБ у яго адміністрацыі. Расіяне ў розны час займалі пасады міністра абароны, старшыні КДБ, міністра МНС, асабістай аховы прэзідэнта. Гэты спіс можна працягваць. Больш падрабязна на гэтую тэму гл.: M. Maszkiewicz, *Problemy ideologii państwowej na Białorusi,* [у:] *Białoruś – dalsza droga ku demokracji* (red. M. Iwanow), Wrocław 2012; s. 34–71; wersja angielska tekstu: *State Ideology in Belarus: Main Problems and Concepts,* "Warsaw East European Review", vol. 11/2012, Warszawa 2013; s. 79–100.

44 Прыклады такога стаўлення з боку КДБ да палякаў прыведзены вышэй.

45 Больш падрабязна на гэтую тэму гл.: Е. Холмогоров, *Русский мир, что это такое*, http://iamruss.ru/russkij-mir-chto-eto-takoe/, [16.09.2017]; Н. Нарочницкая, *Русский мир*, Москва 2007; яна ж, *Сосредоточение России. Битва за русский мир,* Москва 2015.

## 2. Польская нацыянальная меншасць і беларускія апазіцыйныя партыі

У развітых дэмакратычных дзяржавах палітычныя апазіцыйныя партыі з'яўляюцца іх неад'емнай часткай. Яны актыўна ўдзельнічаюць у палітычным і грамадскім жыцці дзяржавы, канстытуцыйным шляхам змагаюцца за галасы выбаршчыкаў і імкнуцца прыйсці да ўлады. У такіх краінах кіруючая партыя (або кіруючая кааліцыя) у выніку прайграных выбараў пераходзіць у апазіцыю, а апазіцыя становіцца на чале ўрада. Такі працэс для сучаснай дэмакратыі з'яўляецца цалкам нармальным, яму падпарадкаваны і яго прымаюць усе члены палітычных партый, якія ўдзельнічаюць у барацьбе за ўладу. Падобная палітычная сістэма мірнага дэмакратычнага прыходу да ўлады і перадачы яе ў выпадку прайграных выбараў функцыянавала ў вельмі кароткі перыяд існавання парламенцкай Рэспублікі Беларусь (1991–1994 гг.).

Карэнным чынам сітуацыя ў Беларусі змянілася пасля абрання прэзідэнтам краіны Аляксандра Лукашэнкі ў ліпені 1994 г. У сярэдзіне 1990-х гг. ён зрабіў захады, якія абмяжоўвалі развіццё і дзейнасць палітычных партый. Ужо праз 8 месяцаў, у сакавіку 1995 г., у выніку супрацьпраўных дзеянняў новай улады ў раёнах і абласцях Беларусі апазіцыйным партыйным дзеячам была абмежавана (або зусім адсутнічала) магчымасць патрапіць у парламент[46].

Усе наступныя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2001, 2006, 2010, 2015 гг.), парламенцкія (2000, 2004, 2008, 2012, 2016 гг.) і мясцовыя былі сфальсіфікаваны і таму не прызнаныя сусветнай дэмакратычнай супольнасцю. Калі ў сярэдзіне 1990-х гг. у Беларусі дзейнічала амаль сорак палітычных партый, то ў 2011 г. засталося толькі пятнаццаць[47]. У сярэдзіне 1990-х гг. найбольш моцнымі і добра арганізаванымі партыямі, якія мелі свае структуры ў рэгіёнах, былі Беларускі народны фронт "Адраджэнне" (БНФ), Беларуская сялянская партыя (БСП), Народна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДПБ), Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ), Беларускі сялянска-дэмакратычны саюз (БСДС), Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі (АДПБ) і Партыя народнай згоды[48]. У 1991–1992 гг. самую вялікую падтрымку беларускага электарату меў БНФ (травень 1991 г. — 7 %, сакавік

---

46 Яскравым прыкладам грэбавання беларускім заканадаўствам у справе правядзення дэмакратычных выбараў у парламент з'яўляецца Гродна, дзе ў 6 акругах кандыдаты ад палітычных апазіцыйных партый (пераважна ад БНФ) у першым туры набралі большую колькасць галасоў, чым іх супернікі. Мясцовыя ўлады, напужаныя такім вынікам галасавання, выкарысталі адміністратыўны рэсурс для таго, каб выбары ў другім туры прызнаць несапраўднымі. Такім чынам горад Гродна застаўся без сваіх дэпутатаў у парламенце. Падрабязней на гэту тэму гл.: *Вярхоўны Савет у выніку II туру выбараў 10 снежня абраны, Гародня ня мае ў ім ніводнага прадстаўніка*, "Пагоня", № 47 (146), 15–21.12.1995.

47 Падрабязней на тэму палітычнай апазіцыі ў РБ, яе дзейнасці, удзелу ў выбарах, узаемаадносін унутры і з грамадзянскай супольнасцю гл.: A. Czwołek, *Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010)*, Gdańsk 2013, s. 385–693.

48 К. Коктыш, *Трансформация политического режима в Республике Беларусь 1990–1999*, Москва 2000, с. 27; *Два берега белорусской политики*, "Имя", 1995, № 1, с. 4; М. Рухович, *Блокада прорвана!*, "Белорусская трибуна", 1989, № 3, с. 1.

1992 г. — 11,7 %). Іншыя палітычныя партыі карысталіся падтрымкай у межах некалькіх працэнтаў. Пасля 1994 г. на палітычнай сцэне з'явіліся новыя партыі, трансфармаваліся старыя, але найбольш уплывовымі заставаліся БНФ, Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) і БСДГ[49].

Польскія і беларускія даследчыкі па-рознаму ацэньваюць адносіны, якія склаліся паміж СПБ (сапраўдным прадстаўніком польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі) і БНФ (самай уплывовай апазіцыйнай палітычнай партыяй). Асобныя польскія гісторыкі бачаць у БНФ арганізацыю, якая дастаткова крытычна, з прадузятасцю ставілася да свабоднага развіцця польскай нацыянальнай меншасці. Вядомым польскім даследчыкам, які прытрымліваецца такога меркавання, з'яўляецца Юльян Вінніцкі[50]. Падобным чынам, толькі больш радыкальна, ацэньвае беларускую апазіцыю і польскі навуковец Казімеж Францкевіч, які абапіраецца ў сваіх даследаваннях у асноўным на працы дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Тадэвуша Кручкоўскага[51].

Казімеж Францкевіч сцвярджае: *"Немагчыма не заўважыць, што погляды Тадэвуша Гавіна значна адрозніваюцца ад ацэнак дзеячаў беларускай нацыянальнай апазіцыі іншымі прадстаўнікамі польскай нацыянальнай меншасці і польскімі даследчыкамі гэтай тэмы* […]. *Погляды Тадэвуша Гавіна характарызуюцца вялікім цярпеннем і разуменнем пачынанняў дзеячаў беларускай нацыянальнай апазіцыі, якія выцякаюць з яго вопыту і сяброўства, што магчыма перашкаджае яму больш крытычна падысці да пытання адносін гэтай жа апазіцыі да польскага нацыянальнага адраджэння"*[52]. Далей Францкевіч падкрэслівае: *"Нашы даследаванні паказваюць, што без комплексаў і асцярогі ставяцца да польскай нацыянальнай меншасці толькі Аляксандр Мілінкевіч і рускамоўная беларуская ліберальная апазіцыя на чале з яе лідарам Анатолем Лябедзькам"*[53].

Каб зразумець стаўленне беларускіх апазіцыйных партый да польскай нацыянальнай меншасці, варта разглядаць гэтае пытанне ў двух незалежных ракурсах — з аднаго боку ў плоскасці непасрэдных адносін і супрацоўніцтва паміж СПБ і апазіцыйнымі партыямі, з другога — у ракурсе ацэнкі ў беларускай гістарыяграфіі "польскага пытання".

Трэба прызнаць, што на пачатку польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі структуры БНФ і іх асяроддзе з трывогай, а часам і варожа

---

49 Падрабязней на тэму стварэння новых партый, ліквідацыі існых, іх палітычнай дзейнасці ў 1994–2010 гг. гл.: A. Czwołek, *Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010)*, s. 183–210, 297–303.

50 Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna i historiografia białoruska (po roku 1989) wobec Polski i polskości*, Wrocław 2003, s. 80–81, 96; ён жа, *Białoruskie środowiska niepodległościowe wobec polskiego odrodzenia narodowego w BSRR-RB. Uwagi,* [y:] *Nie tylko Litwa*, s. 327–352.

51 T. Kruczkowski, *Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności*, Słonim 2003, s. 249.

52 K. Frąckiewicz, *Białoruska opozycja narodowa a problematyka "odrodzenia" polskości w BSSR-RB*, [y:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009. Ocena minionego dwudziestolecia*, red. Z. J. Winnicki i T. Gawin, Białystok 2009, s. 178.

53 Тамсама, с. 178.

рэагавалі на ініцыятывы СПБ[54]. Для такога стаўлення было як мінімум дзве прычыны. Па-першае, страх перад прыхільнымі адносінамі каталіцка-польскага захаду Беларусі да Польшчы, і, такім чынам, перад "паланізацыяй" Гродзеншчыны і меркаваным імкненнем маладой суверэннай Польшчы да вяртання страчаных у выніку пакта Рыбентропа-Молатава, а таксама ялцінскіх пагадненняў тэрыторый. Другой прычынай была рэальная асцярога, звязаная з магчымым аб'яднаннем паўночна-заходніх раёнаў Гродзеншчыны з Польскім аўтаномным краем у Літве. Гэта значыць, боязь стварэння на беларуска-літоўскім памежжы своеасаблівай формы польскай нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі[55]. Кіраўнікі Літвы і Беларусі Вітаўтас Ландсбергіс і Станіслаў Шушкевіч два разы абмяркоўвалі гэтае пытанне, каб выпрацаваць сумесныя дзеянні, якія б перашкаджалі стварэнню такой аўтаноміі[56].

БНФ як прадстаўнік нацыянальна свядомай часткі беларускага грамадства змагаўся з савецкай і постсавецкай наменклатурай за стварэнне беларускай суверэннай, незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы, за наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай. Пры гэтым не вёў барацьбу з Саюзам палякаў на Беларусі (як памылкова сцвярджаюць некаторыя польскія даследчыкі), не выступаў супраць польскага нацыянальнага адраджэння, аднаўлення раней ліквідаванай польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы ў школах. Наадварот, у гэты цяжкі для СПБ час, звязаны з атрыманнем усіх неабходных дазволаў на будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Беларусі, лідары БНФ, як у Мінску, так і ў Гродне, падтрымлівалі СПБ[57].

Узнікае пытанне: калі БНФ не быў супраць аднаўлення польскамоўнай адукацыі ў Беларусі, то чаму ў польскай гістарыяграфіі гаворыцца пра яго антыпольскую пазіцыю? Адказ заключаецца ў тым, што асобныя польскія навукоўцы і беларускія даследчыкі, якія пішуць на польскай мове, прадузята ацэньваюць дзейнасць апазіцыі ў Беларусі і несумленна даследуюць падзеі, звязаныя з гэтым пытаннем[58].

---

54 Так, адзін з прыкметных дзеячаў БНФ у Гродне Валеры Задаля лічыў, што, калі палякі хочуць мець польскія школы, то, калі ласка, за свой кошт няхай будуюць, друкуюць падручнікі, утрымліваюць настаўнікаў. Больш падрабязна на гэту тэму гл.: В. Задаля, *Удивляться или возмущаться?,* "Гродненская правда", 13.10.1989; Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna,* s. 117–119, 121–123, выбраныя дакументы з папкі Тадэвуша Малевіча на тэму польска-беларускіх дачыненняў у Беларусі ў канцы 80-х — пач. 90-х гг.

55 P. Masłowski, *Próba utworzenia polskiej autonomii narodowo-terytorialnej na Wileńszczyźnie litewskiej 1989–1991*, [у:] *Kraje Europy Środkowej i Wschodniej na drodze przemian*, red. J. Kupczak, J. Albin, Wrocław 2004, s. 210–255.

56 http://kresy24.pl/showArticles/article_id/54/, [15.10.2016]. У папярэднім раздзеле былі прыведзеныя прыклады спроб уцягнуць палякаў Беларусі ў палітычныя гульні, якія пачала Масква супраць Літвы. Пытанне стварэння польскай нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі верагодна разглядалася Гарбачовым і Масквой даволі сур'ёзна. У канцы 1980-х і ў 1990–1991 гг. Зянон Пазняк (лідар БНФ) неаднаразова падкрэсліваў, што БНФ падтрымліваў імкненні палякаў Беларусі да нацыянальна-культурнай аўтаноміі, але пры гэтым таксама папярэджваў, што ён і яго арганізацыя не дапусцяць стварэння на тэрыторыі Беларусі польскай нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі. Варта прызнаць, што СПБ не даваў ніякіх нагодаў для абвінавачванняў у спробах стварэння польскай нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі. Але гэтае пытанне настолькі было балючым для БНФ, што кожны раз падчас сустрэч на ўзроўні кіраўніцтва БНФ і СПБ яно падымалася з боку старшыні Фронту.

57 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, Grodno 1998, s. 93.

58 Праблема ў тым, што ўсе публікацыі асобных аўтараў (якія не маюць ніякага дачынення да БНФ) з выступамі супраць адраджэння польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы ў школах успрымаюцца праціўнікамі супрацоўніцтва паміж БНФ і СПБ у якасці бэнээфаўскіх нападак на

Так, напрыклад, Казімеж Францкевіч, спасылаючыся на публікацыю Тадэвуша Кручкоўскага[59], піша: *"У перыяд урадаў Станіслава Шушкевіча — Зянона Пазняка беларускія ўлады, як цэнтральныя, так і мясцовыя, якія ў большасці складаліся з нацыянальна свядомых беларусаў, заблакіравалі будаўніцтва польскіх школ у Гродне, Лідзе, Навагрудку і Воранаве"*[60]. Праглядаючы старонку 249 працы Кручкоўскага, на якую спасылаецца Францкевіч, такога сцвярджэння мы не знайшлі. Памылковай у Францкевіча з'яўляецца і інфармацыя пра знаходжанне ва ўрадзе Зянона Пазняка. Праўдзівае ў выснове польскага даследчыка толькі тое, што будаўніцтва польскіх школ у Лідзе і Навагрудку заблакіравалі ўлады[61]. Але гэта былі прадстаўнікі старой камуністычнай наменклатуры, якія займалі кіруючыя пасады ў гэтых гарадах, напрыклад старшыні Лідскага гарадскога выканаўчага камітэта Уладзімір Малец і Навагрудскага раённага выканаўчага камітэта Анатоль Ліс[62].

Тадэвуш Кручкоўскі ў сваёй працы (*Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności*, Słonim 2003) на старонцы 242 увёў у навуковы ўжытак няпраўдзівы тэзіс аб тым, што ў пачатку і сярэдзіне 1990-х гг. у пытаннях адукацыі, культуры і палітыкі, датычных польскай нацыянальнай меншасці, вызначальную ролю адыгрываў БНФ, які ў той час знаходзіўся ў апазіцыі да беларускага ўрада. Развіваючы гэтую тэму, Кручкоўскі сцвярджае, што менавіта ўрад Вячаслава Кебіча заблакіраваў развіццё польскамоўнай адукацыі ў Беларусі. Адначасова ён зусім беспадстаўна прыпісвае прыняцце рашэння пра аднаўленне гэтай адукацыі Аляксандру Лукашэнку[63].

Уводзячы гэтае сцвярджэнне ў навуковы ўжытак, Кручкоўскі не спасылаецца на крыніцы. Пры гэтым варта звярнуць увагу, што Кручкоўскі, калі СПБ вёў з уладамі Беларусі перамовы, а часам і барацьбу (пікеты, дэманстрацыі) за аднаўленне польскамоўнай адукацыі, знаходзіўся за межамі Беларусі[64], апроч таго, не ўваходзіў у кіраўніцтва СПБ і, такім чынам, не мог ведаць усіх падрабязнасцей, звязаных з дзейнасцю ў справе польскага адраджэння. Тым не менш, несумленны падыход да гэтага пытання стаў прычынай таго, што шматлікія польскія навукоўцы выкарыстоўваюць сцвярджэнні Кручкоўскага і выбудоўваюць вобраз беларускай дэмакратычнай апазіцыі, які не адпавядае рэчаіснасці.

---

СПБ. Больш падрабязна на гэту тэму гл.: П. Капчык, *Каго рыхтуем: партнёраў ці "перабежчыкаў"?*, "Настаўніцкая газета", № 91, 12.11.1994; М. Кузняцоў, *Беларуская карта Польшчы*, "Чырвоная змена", № 129, 01.12.1994; У. Хількевіч, *Хлеб з маслам будзе толькі ў адукаваных,* "Звязда", № 253, 9.12.1994; С. Посохов, *Давайте научим орудия стрелять маслом, или Мир живёт по законам выгоды и силы,* "Народная газета", № 18, 26.01.1995.

59 T. Kruczkowski, *Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności*, Słonim 2003, s. 249.

60 K. Frąckiewicz, *Białoruska opozycja narodowa a problematyka "odrodzenia" polskości w BSSR-RB*, s. 162.

61 М. Гаравы, *Суд адмовіў палякам,* "Пагоня", № 39 (416), 17.06.1999.

62 Што датычыцца другой школы ў Гродне і школы ў Воранаве, то пра гэта гаворка будзе ісці ў наступным падраздзеле працы.

63 T. Kruczkowski, *Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności*, s. 242.

64 У 1989–1992 гг. Тадэвуш Кручкоўскі навучаўся ў аспірантуры Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук у Маскве.

Часта здараецца так, што не да канца прадуманае выказванне або сцвярджэнне можа пасля зрабіцца падставай для памылковых ацэнак даследчыкамі той ці іншай падзеі. Так, у красавіку 1993 г. адзін з лідараў БНФ у Гродне, журналіст і дэпутат гарадскога савета Валеры Задаля на старонках незалежнай беларускамоўнай газеты "Пагоня" напісаў: *"На Гродзеншчыне разыгрываюцца ў цяперашні час расійская і польская карты* [...]. *Замест былых камітэтаў КПБ у кожным раёне вобласці створаныя рэгулярныя органы Саюза палякаў на Беларусі* [...]. *Неабходна даць гэтаму адпор"*[65]. Нягледзячы на тое, што пазней Валеры Задаля змяніў сваё стаўленне да СПБ і да самай сваёй смерці (11 красавіка 2007 г.) у артыкулах у газеце "Пагоня" і іншых выданнях падтрымліваў польскае нацыянальнае адраджэнне, польскія даследчыкі не бралі гэтага пад увагу, а актуалізавалі яго пазіцыю супраць СПБ. Каб адлюстраваць, як змяніліся адносіны Валерыя Задалі да польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі, дастаткова прывесці толькі два са шматлікіх яго выказванняў на гэту тэму ў газеце "Пагоня". Так, 27 красавіка 1999 г. ён пісаў: *"Вось за гэты пікет і за гэтае вось справядлівае патрабаванне пабудовы і адкрыцця польскай школы ў Наваградку беларускі суд і пакараў Гавіна"*[66]. У газеце за 27 мая 1999 г. ён сцвярджаў: *"Палякі Гродна такія самыя грамадзяне як мы, беларусы, і маюць права на правядзенне сваіх мерапрыемстваў і арэнду гарадскіх памяшканняў, а адмова ім у гэтым з'яўляецца супрацьпраўнай"*[67].

Падобная сітуацыя склалася і з Алегам Трусавым, намеснікам старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, актыўным сябрам БНФ. Адказваючы па просьбе Шушкевіча на не да канца прадуманыя патрабаванні СПБ[68], перададзеныя старшыні Вярхоўнага Савета, ён не выказаў да праблем палякаў Беларусі разумення і талерантнасці[69]. Польская гістарыяграфія пра гэтае і іншыя выказванні Алега Трусава памятае[70], але зусім не згадвае, што СПБ у канчатковым выніку здолеў наладзіць з ім канструктыўныя адносіны. Сёння ніхто з даследчыкаў польскага адраджэння ў Беларусі не ўзгадвае, што Алег Трусаў 11 лістапада 1992 г. на прыёме ў польскім пасольстве ў Мінску публічна заявіў пра падтрымку выкладання польскай мовы ва ўсіх школах Гродзенскай вобласці як абавязковага школьнага прадмета[71].

---

65 Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna*, s. 81.

66 А. Лабовіч (Валеры Задаля), *Старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін аштрафаваны на 115 млн. рублёў,* "Пагоня", № 30 (407), 27.04.1999.

67 В. Задаля, *Палякам няма месца ў Гродне,* "Пагоня", № 36 (413), 27.05.1999.

68 Падчас сустрэчы 9 студзеня 1992 г. дэлегацыі СПБ са старшынёй Вярхоўнага Савета РБ Станіславам Шушкевічам апошняму перададзены ліст з 21 праблемным пытаннем адносна замаруджвання польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. СПБ прасіў Станіслава Шушкевіча пра ўмяшальніцтва і дапамогу. Падрабязней на тэму ліста гл.: Архіў СПБ, выходныя дакументы за 1992 г.

69 Змест ліста гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, s. 21.

70 Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna*, s. 122–123.

71 T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 189; ён жа, *Zwycięstwa i porażki*, s. 476–477.

Узаемаадносіны СПБ з усімі палітычнымі апазіцыйнымі партыямі, якія змагаліся за дэмакратыю і выкананне правоў чалавека ў Беларусі, будаваліся ў духу разумення і павагі. СПБ мог разлічваць на іх дапамогу ў справе адраджэння польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы ў школах. Так, публічную акцыю, арганізаваную на цэнтральнай плошчы Гродна 19 красавіка 1995 г. з патрабаваннямі будаўніцтва другой польскай школы за сродкі беларускага бюджэту, падтрымаў БНФ, а адзін з яго лідараў, народны дэпутат РБ Мікалай Маркевіч, непасрэдна ўдзельнічаў у мерапрыемстве[72].

СПБ, у сваю чаргу, таксама дапамагаў беларускім апазіцыйным палітычным партыям, калі была такая неабходнасць. Прыкладам можа быць арганізаваны СПБ 15–19 чэрвеня 1998 г. візіт парламенцкай дэлегацыі[73] на чале з Сямёнам Шарэцкім у польскі парламент у Варшаву і сустрэча Шарэцкага з прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім[74].

Дэпутаты разагнанага Аляксандрам Лукашэнкам Вярхоўнага Савета таксама падтрымлівалі польскую нацыянальную меншасць у Беларусі. Анатоль Лябедзька (лідар АГП) і Уладзімір Нісцюк (старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета РБ па справах друку) на пасяджэнні Камітэта ПАСЕ ў Вене ў канцы студзеня 1999 г. паднялі пытанне парушэння правоў палякаў у Беларусі і папрасілі Вярхоўнага камісара па справах нацыянальных меншасцей Макса ван дэр Стула ўзяць вырашэнне гэтай праблемы пад асабісты кантроль[75].

Каб не склалася ўражання, што СПБ узаемадзейнічаў і падтрымліваў партнёрскія адносіны толькі са структурамі БНФ у Гродне, варта прывесці ў якасці прыкладу адну са шматлікіх сустрэч з лідарамі БНФ з Мінска. 19 лістапада 1999 г. Галоўнае праўленне СПБ наведаў Вячаслаў Сіўчык, змагар за свабоду, суверэнітэт і дэмакратыю ў Беларусі, сябра як Вінцука Вячоркі, так і Зянона Пазняка, старшынь БНФ. Гэты чалавек за сваю палітычную і апазіцыйную дзейнасць неаднаразова арыштоўваўся, сядзеў у турме. Пасля сустрэчы з кіраўніцтвам СПБ у інтэрв'ю газеце "Глос знад Немна" Вячаслаў Сіўчык сказаў: "*Мы заўсёды высока цанілі арганізацыі, якія выказвалі салідарнасць з нацыянальнымі вызваленчымі сіламі, у тым ліку і Саюз палякаў на Беларусі. На працягу 10 гадоў сваёй дзейнасці гэтая арганізацыя даказала, што стаіць на пазіцыях дзяржаўнасці Беларусі.* [...] *Пакуль ва ўладзе ў Беларусі будзе заставацца сённяшняе кіраўніцтва, да таго часу будуць працягвацца антыпольскія дзеянні. Выратаваць нас зможа толькі салідарнасць. Калі мы ўсе зразумеем, дзеля чаго змагаецца тая ці іншая група нашага грамадства, калі будзем падтрымліваць іх*

72 R. Karaczun, *Wiec protestacyjny w Grodnie. Krzyk rozpaczy,* "Głos znad Niemna", nr 17, 01.05–07.05.1995.

73 Аляксандр Лукашэнка пасля праведзенага ў 1996 г. рэферэндуму незаконна распусціў Вярхоўны Савет РБ і прызначыў у парламент паслухмяных дэпутатаў. Польшча і Парламенцкая асамблея Савета Еўропы працягвалі прызнаваць Вярхоўны Савет Беларусі на чале з Сямёнам Шарэцкім.

74 Падрабязней на тэму візіту беларускіх парламентарыяў у польскі Сейм і Сенат гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 391–392. Пасля саміту АБСЕ ў Стамбуле прайшла яшчэ адна іх сустрэча ў канцы снежня 1999 г., на якой прэзідэнт Польшчы праінфармаваў Шарэцкага пра працу саміта. Падрабязней на гэту тэму гл.: У. Глод, *Квасneўскі сустрэўся з Шарэцкім,* "Пагоня", № 69 (446), 23.12.1999.

75 Тамсама, с. 436.

*канстытуцыйныя патрабаванні, то пераможам хутчэй. Я хацеў бы, каб гэтая барацьба была сумеснай"*[76].

Сапраўдная салідарнасць самых уплывовых палітычных партый (БНФ і АГП) з СПБ праявілася ў ліпені 2005 г., калі міліцыя і спецыяльныя службы незаконна і гвалтоўна выселілі Галоўнае праўленне Саюза палякаў на чале з Анжалікай Борыс з яго адміністрацыйнага будынка[77]. Вінцук Вячорка, Анатоль Лябедзька і Аляксандр Мілінкевіч з гэтай нагоды выступілі з заявай, у якой выказвалі падтрымку СПБ і Анжаліцы Борыс, і асудзілі дзеянні беларускіх улад[78]. За некалькі месяцаў да гэтага лідар АГП Анатоль Лябедзька і намеснік старшыні партыі БНФ Віктар Івашкевіч рашэнне Міністэрства юстыцыі ад 12 траўня 2005 г. пра ануляванне вынікаў VI з'езда СПБ назвалі "чысткай", бо ў кіраўніцтва Саюза прыйшлі непажаданыя для беларускіх улад людзі[79].

Падсумоўваючы вынікі супрацоўніцтва СПБ з беларускімі апазіцыйнымі партыямі, можна адзначыць, што, нягледзячы на пастаянную працу, якая праводзілася беларускімі ўладамі і іх агентурай унутры СПБ[80], яны не здолелі расколоць грамадзянскую супольнасць і раз'яднаць СПБ і апазіцыйныя арганізацыі (у першую чаргу БНФ). Усе абвінавачванні БНФ у варожым стаўленні да СПБ і чыненні перашкод польскаму нацыянальнаму адраджэнню, якія сустракаюцца ў польскай гістарыяграфіі і публіцыстыцы, з'яўляюцца не да канца абгрунтаванымі.

Пры гэтым у беларускай гістарыяграфіі, а таксама з боку асобных апазіцыйных грамадскіх і палітычных дзеячаў і прадстаўнікоў беларускай нацыянальна свядомай інтэлігенцыі да польскай нацыянальнай меншасці існуюць розныя стаўленні. Па сённяшні дзень застаецца шэраг супярэчнасцей паміж польскай нацыянальнай меншасцю і яе апанентамі[81]. Самымі балючымі пытаннямі з'яўляюцца наступныя: сумненні адносна існавання палякаў у Беларусі і выкарыстанне польскай мовы ў літургіі Каталіцкага касцёла.

---

76 TZ, (Tatiana Zaleska), *Budujemy europejską Białoruś. Rozmowa z wiceprzewodniczącym BFN Wiaczasławem Siuczykiem,* "Głos znad Niemna", nr 48 (395), 3.12.1999.

77 Беларускія ўлады не прызналі дэмакратычныя выбары, якія адбыліся 12 сакавіка 2005 г. на VI з'ездзе СПБ, калі на пасаду старшыні замест Тадэвуша Кручкоўскага была абрана Анжаліка Борыс. Ануляваўшы вынікі выбараў сілавым метадам з дапамогай беларускага АМАПу, вярнулі Кручкоўскага на пасаду старшыні. Падрабязней на гэту тэму гл. у апошнім параграфе гэтага раздзела.

78 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005*, Białystok 2006, s. 200.

79 Тамсама, с. 137–139. *Oświadczenie Ministerstwa Spraw Zagranicznych w sprawie decyzji władz Republiki Białoruś o uznaniu za nielegalny Zjazdu Związku Polaków na Białorusi, który odbył się w Grodnie w dniach 12 i 13 marca 2005 r.*; *Oświadczenie Zarządu Stowarzyszenia "Wspólnota Polska" w sprawie unieważnienia Zjazdu Związku Polaków na Białorusi.*

80 Былы пасол Польшчы ў Мінску Марыюш Машкевіч лічыць, што прадстаўніком агентуры як улады, так і спецыяльных службаў у СПБ быў Тадэвуш Кручкоўскі, які ўзначальваў СПБ у 2000–2005 гг. і не прызнаў свайго паражэння на выбарах. Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 197–198.

81 Супярэчнасці, якія існуюць у дадзенай плоскасці, грунтоўна разгледжаны і апісаны прафесарам Вроцлаўскага ўніверсітэта Юльянам Вінніцкім. Тут будуць прыведзены толькі некаторыя з іх, якія граюць вельмі важную ролю ў справе далейшага польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. Падрабязней на гэту тэму гл.: Z. J. Winnicki, *"Białoruskie środowiska niepodległościowe wobec polskiego odrodzenia narodowego w BSRR-RB". Uwagi,*[у:] *Nie tylko Litwa,* s. 327–352.

I. *Сумненні адносна існавання палякаў у Беларусі*

Меркаванне апанентаў СПБ па гэтым пытанні наступнае: у Беларусі няма і не было палякаў, а тыя, хто сябе лічыць такімі, з'яўляюцца апалячанымі і акаталічанымі беларусамі[82]. Варта пры гэтым адзначыць, што нават савецкая ўлада, якая не мела сімпатый да палякаў, праводзячы перапіс насельніцтва ў СССР, у графе "нацыянальнасць" пісала "палякі", а не "апалячаныя беларусы", "рускія" або "ўкраінцы". Апроч таго, такое трактаванне палякаў у беларускай гістарыяграфіі з'яўляецца парушэннем заканадаўства, якое лічыць прыналежнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь да нацыянальнай меншасці справай яго асабістага свабоднага выбару[83]. Да прыхільнікаў меркавання пра адсутнасць у Беларусі палякаў верагодна можна аднесці яскравую прадстаўніцу беларускай грамадзянскай супольнасці, лаўрэатку Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлану Алексіевіч. У інтэрв'ю польскай газеце "Rzeczpospolita" ад 5 студзеня 2017 г. на пытанне, ці патрэбнае польскае тэлебачанне ў Беларусі, яна адказала: *"Такая тэлевізія тут не патрэбна. Яе будзе глядзець невялікая група людзей, у лепшым выпадку католікі з Заходняй Беларусі"*. Варта адзначыць, што ў Беларусі па афіцыйных звестках налічваецца амаль 300 тысяч палякаў. Узнікае пытанне, ці ведае Святлана Алексіевіч пра тое, што ў Беларусі побач з іншымі нацыяльнасцямі жывуць палякі, ці яна свядома (як і некаторыя прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці) лічыць, што ёсць толькі апалячаныя і акаталічаныя беларусы.

У дачыненні да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей такога меркавання не існуе: габрэй, які нарадзіўся ў Беларусі, лічыцца габрэем, татарын — татарынам, літовец — літоўцам. А вось паляк — гэта апалячаны беларус[84]. Прыхільнікі тэорыі адсутнасці палякаў у Беларусі садзейнічаюць тым, хто змагаецца за пашырэнне "рускага свету", вызваляючы для яго прастору коштам непрызнання палякаў.

II. *Выкарыстанне польскай мовы ў літургіі Каталіцкага касцёла*[85]

Саюз палякаў на Беларусі лічыць палітыку выцяснення польскай мовы з літургіі Каталіцкага касцёла[86] незаконнай, нічым не абгрунтаванай. Яна пра-

---

82 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: H. Giebień, *Polska wobec mniejszości polskiej na Białorusi w latach 1991–2016 (do października 2016). Zarys problemu,* [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 550; яна ж, *Działalność Związku Polaków na Białorusi w latach 1987–2005 na tle sytuacji społeczno-politycznej w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Radzieckiej (Republice Białoruś),* Wrocław 2014, s. 299–331; M. Koprowski, *Wojna polsko-białoruska z "kompleksem" w tle,* "Najwyższy Czas", 2005, nr 33–34. Найбольш зневажальнымі з'яўляюцца публічныя заявы некаторых беларускіх навукоўцаў, у якіх яны называюць карэннае польскае насельніцтва Беларусі "касцельнымі" палякамі.

83 *Закон РБ "О национальных меньшинствах в Республике Беларусь" от 11 ноября 1992 г., № 1926-XII*, "Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь", 1992, № 35, с. 550.

84 Падрабязней на гэту тэму гл.: K. Frąckiewicz, *Białoruska opozycja narodowa a problematyka "odrodzenia" polskości w BSSR-RB*, s. 171–172; Z. J. Winnicki, *Współczesna doktryna*, s. 204.

85 Гэтае пытанне грунтоўна разгледжана Казімежам Францкевічам у працы *Białoruska opozycja narodowa a problematyka "odrodzenia" polskości w BSSR-RB*, s. 162–171.

86 На 1 студзеня 2016 г. у Беларусі існавала 470 прыходаў, працавала 414 ксяндзоў, 164 з якіх былі замежнікамі, 1 мітрапаліт, 8 біскупаў. Кіраўніцтва ажыццяўляецца пры дапамозе Канферэнцыі

водзіцца насуперак інтарэсам большасці вернікаў палякаў. Калі часткова можна зразумець тыя беларускія апазіцыйныя палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі, якія выступаюць за беларусізацыю Касцёла, лічачы яго адным са шматлікіх беларускіх інстытутаў, то зусім незразумелая роля іерархаў Каталіцкага касцёла ў Беларусі і святароў, якія насуперак волі вернікаў пераходзяць на беларускую мову за кошт ліквідацыі польскай[87]. Ужо робіцца правілам, калі ў некаторых касцёлах Беларусі раней абвешчаную ў раскладзе польскамоўную службу святар без усялякага ўзгаднення з вернікамі праводзіць па-беларуску[88].

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч шматразова заяўляў у сваіх публічных выступленнях, што галоўнай яго задачай з'яўляецца будаўніцтва беларускага Каталіцкага касцёла. Пры гэтым падкрэсліваў, што абавязкова трэба памятаць і пра тых вернікаў, якія размаўляюць на іншых мовах[89]. Моўная палітыка Тадэвуша Кандрусевіча прывяла да чаканых для яго вынікаў. У адным са сваіх інтэрв'ю ў верасні 2016 г. ён казаў, што ў Мінска-Магілёўскай епархіі (222 прыходы, 610 490 вернікаў)[90] толькі ў 16 % прыходаў служба праводзіцца на польскай мове, ва ўсіх астатніх — на беларускай[91]. Варта адзначыць, што ў шматлікіх касцёлах польская мова выцяснялася насуперак жаданням вернікаў[92]. Вядомы польскі даследчык, прафесар кс. Раман Дзванкоўскі таксама заўважыў, што элімінацыя польскай мовы з касцёлаў Беларусі адбываецца насуперак волі вернікаў[93]. Польскі грамадскі дзеяч

Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, якая была створана на падставе рашэння Ватыкана. Больш падрабязна на гэту тэму гл. гл.: E. Jarmusik, *Kościół katolicki w życiu społeczno-politycznym i kulturalnym Białorusi w latach 1991–2016*, [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 463.

87 СПБ заўсёды паслядоўна прытрымліваўся меркавання, што ў касцёле павінна быць месца як для польскай мовы, так і для беларускай. Выбар, на якой мове маліцца, залежыць толькі ад вернікаў, а не ад палітычных і грамадскіх дзеячаў, дзяржаўных органаў або духавенства.

88 У верасні 2015 г. у Нясвіжы экскурсія СПБ з Гродна, якая прыехала на абвешчаную ў раскладзе службу на польскай мове, малілася не на сваёй роднай мове. Як выявілася пасля службы, малады ксёндз, выпускнік Пінскай духоўнай семінарыі, слаба ведаў польскую мову і быў не гатовы праводзіць богаслужэнне па-польску.

89 E. Jarmusik, *Kościół katolicki w życiu społeczno-politycznym i kulturalnym Białorusi w latach 1991–2016*, [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 463–477.

90 http://catholic.by/2/ru/belarus/dioceses/minsk-mohilev2.html, [19.10.2016].

91 Тадеуш Кондрусевич: *Я первый совершу мессу на китайском языке*, http://www.belaruspartisan.org/life/356223/, [19.09.2016].

92 5 лютага 2000 г. дэлегацыя СПБ на чале з яго старшынёй, занепакоеная выцясненнем польскай мовы з касцёлаў ва ўсходніх абласцях Беларусі, падняла гэтае пытанне на сустрэчы з Казімірам Свёнткам (старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі ў 1999–2006 гг.) у яго рэзідэнцыі ў Пінску. Сустрэча адбылася па просьбе СПБ. Дэлегацыя праінфармавала кардынала Свёнтка пра вядомыя СПБ факты парушэння святарамі права палякаў маліцца на іх роднай мове і прасіла яго садзейнічаць справе талерантнага стаўлення да вернікаў-палякаў з боку ксяндзоў. Кардынал Казімір Свёнтак паабяцаў вырашыць гэтае пытанне. Старшыня СПБ пасля гэтай сустрэчы напісаў наступнае ў сваім дзённіку: "[…] *У цяперашні час у Каталіцкім касцёле ксёндз-кардынал і біскупы — палякі, пры гэтым праблемы, датычныя польскай мовы ў касцёле, не змяншаюцца, а наадварот павялічваюцца. Баюся (і ўсё на гэта ўказвае), што так, як зараз змагаемся з уладамі за ўвядзенне выкладання польскай мовы ў школах, то ў будучым можа быць так (калі не зменіцца палітыка Касцёла), што вымушаныя будзем змагацца за польскамоўную імшу ў касцёлах Гродна і ваколіц*". Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 504–505.

93 K. Frąckiewicz, *Białoruska opozycja narodowa a problematyka* "*odrodzenia*" *polskości w BSSR-RB*, s. 167; R. Dzwonkowski SAC, *Język polski w kościołach Białorusi i Ukrainy*, "Ład. Katolicki dwutygodnik społeczny",

у Беларусі Тадэвуш Малевіч, падтрымліваючы гэтае меркаванне, сцвярджае, што Каталіцкі касцёл у Беларусі захаваўся ў савецкі камуністычны час, дзякуючы вернікам-палякам і святарам, якія ў асноўным таксама мелі польскае паходжанне[94]. Ён задае пытанне іерархам Касцёла: чаму зараз, калі свабодна можна вызнаваць веру, справядлівыя патрабаванні палякаў маліцца на сваёй роднай мове не выконваюцца святарамі?[95] Сёння, як лічыць беларускі даследчык Эдмунд Ярмусік, у Беларусі няма іншага больш беларусізаванага інстытута, чым Каталіцкі касцёл[96].

Пры гэтым варта пагадзіцца, што святар падчас літургіі імкнецца звяртацца да вернікаў на больш зразумелай для іх мове. Такімі для пераважнай большасці каталікоў з'яўляюцца руская і беларуская. Адсутнасць ведання польскай мовы як старэйшым, так і маладым пакаленнямі палякаў з'яўляецца наступствам палітыкі іх русіфікацыі на Беларусі як у даваенны, так і ў пасляваенны час, а таксама сведчыць пра адсутнасць цікаўнасці да вывучэння польскай мовы сёння. Каталіцкі касцёл у гэтых умовах, каб пазбегнуць русіфікацыі, у пераважнай большасці выпадкаў выбірае для літургіі беларускую мову.

Мова падчас службы для палякаў мае вялікае значэнне[97], і польскія грамадскія арганізацыі робяць усё, каб не дапусціць там, дзе вернікі гэтага не жадаюць, выцяснення польскай мовы з Касцёла. Удзел у польскамоўным набажэнстве для шматлікіх палякаў з'яўляецца спосабам падкрэсліць сваю прыналежнасць да польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі[98].

Пры гэтым варта прызнаць, што Касцёл не зможа адрадзіць ні беларускай, ні польскай мовы ў беларускім грамадстве. У сярэднім практыкуючыя каталікі прыходзяць у касцёл адзін раз на тыдзень, удзельнічаюць у службе на працягу адной гадзіны. Гэтага недастаткова, каб вернікі пачалі цалкам размаўляць на беларускай ці польскай мовах, калі ў штодзённым жыцці яны выкарыстоўваюць выключна рускую мову. Адрадзіць свае родныя мовы беларусам і палякам дапаможа толькі выкладанне на іх у дзяржаўных навучальных установах, палякам

---

Warszawa, 13.12.1992, s. 6; ён жа, *Problemy Kościoła katolickiego obrządku łacińskiego w byłym ZSRR*, "Zeszyty Naukowe KUL", 1994, nr 1–2, s. 35–43; I. Kabzińska-Stawarz, *Polacy na Białorusi*, "Przegląd Wschodni", 1994, t. 2, z. 3, s. 35–43.

94 Ксёндз-арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у ацэнцы дапамогі Польшчы і накіраваных з Польшчы святароў ідзе яшчэ далей. 20 верасня 2016 г. у сваім выступленні на польскім радыё заявіў: *"Мы вельмі ўдзячныя польскім святарам, якія збудавалі тут шмат храмаў. Без дапамогі польскіх ксяндзоў і манашак немагчыма было б уявіць сабе такога развіцця Касцёла ў Беларусі"*. Тут варта нагадаць іерарху Каталіцкага касцёла ў Беларусі, што Польшча прысылала ксяндзоў і садзейнічала будаўніцтву касцёлаў з імкненнем дапамагчы польскай меншасці ў Беларусі. У прынцыпе, як паказаў час, беларускіх палякаў выкарыстоўвалі для таго, каб атрымаць дапамогу з Польшчы ў справе аднаўлення Каталіцкага касцёла, а калі гэтая задача была выкананая, пачалося актыўнае выцясненне польскай мовы з літургіі, што адбываецца і па сённяшні дзень.

95 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Malewicz, *O języku w Kościele*, [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi,* s. 185–190.

96 E. Jarmusik, *Kościół katolicki w życiu społeczno-politycznym i kulturalnym Białorusi w latach 1991–2016*, [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 471.

97 Больш падрабязна на гэту тэму гл.: R. Dzwonkowski SAC, O. Gorbaniuk, J. Gorbaniuk, *Postawy katolików obrządku łacińskiego na Białorusi wobec języka polskiego,* Lublin 2004.

98 Тамсама.

таксама будзе спрыяць шырока разгалінаваная сетка польскіх грамадскіх школ у Беларусі. Такім чынам, галоўнай задачай для польскай нацыянальнай меншасці на дадзены момант з'яўляецца далейшае развіццё польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы як навучальнага прадмета ў школах[99].

Стаўленне беларускіх апазіцыйных партый і грамадскіх арганізацый да польскай нацыянальнай меншасці і СПБ змянялася ад адкрытай варожасці да суіснавання і супрацоўніцтва[100]. Узаемадзеянне і супрацоўніцтва назіраецца і ў цяперашні час, дзякуючы актыўнасці старшыні СПБ Анжалікі Борыс[101]. Такія стасункі ў сённяшніх палітычных умовах асабліва неабходныя і важныя (прыклад Літвы паказаў, што не заўсёды нават у дэмакратычных дзяржавах правы польскай нацыянальнай меншасці цалкам выконваюцца) для таго, каб у вырашальны момант трансфармацыі палітычнага ладу ў Беларусі беларускія палякі не апынуліся ў ролі выключна прасіцеляў, да якой СПБ вымушае рэжым Аляксандра Лукашэнкі.

---

99 У сённяшняй палітычнай сітуацыі, калі ўлады дэзінтэгравалі СПБ, падпарадкавалі сабе яго частку і прымусілі працаваць па сваіх правілах (у выніку якіх у РБ не дадалося ніводнай польскай школы), рашэнне гэтага пытання Анжалікай Борыс з'яўляецца немагчымым. У такіх умовах СПБ павінен працаваць на будучыню, звязаную з прыходам да ўлады прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Таму так важна для СПБ працягваць супрацоўніцтва з імі.

100 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, Zwycięstwa *i porażki*, s. 236, 259, 272, 478–479.

101 У лістападзе-снежні 2016 г. узнікла пагроза скарачэння фінансавання з боку польскага міністэрства замежных спраў незалежнага беларускага тэлевізійнага канала "Белсат", які трансліруе свае перадачы на Беларусь з Польшчы. Скарачэнне фінансавання можа прывесці да спынення працы канала. У такой сітуацыі шэраг польскіх і беларускіх палітыкаў выступілі ў абарону "Белсата", паколькі яго ліквідацыя спрыяла б абмежаванню ўплыву беларускіх дэмакратычных сіл на грамадзянскую супольнасць у Беларусі, якая знаходзіцца ў сферы татальнай расійскай і афіцыйнай беларускай прапаганды. Такія вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы Беларусі, як Зянон Пазняк, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Мілінкевіч, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Уладзімір Някляеў, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч і іншыя выступілі са зваротам да прэзідэнта Польшчы і польскага ўрада ў абарону "Белсата". Пад гэтым зваротам падпісалася і Анжаліка Борыс. Лёгка можна ўявіць, якое было б стаўленне да палякаў у Беларусі з боку беларускіх дзеячаў, што змагаюцца за незалежную, дэмакратычную і суверэнную беларускую дзяржаву, калі б А. Борыс адмовілася падтрымаць тэлеканал "Белсат". Гл.: *Drastyczne obcięcie dotacji dla TV Biełsat! Romaszewska: Decyzja oznacza likwidację stacji. To jakiś okrutny żart!*, http://znadniemna.pl/20181/drastyczne-obciecie-dotacji-dla-tv-bielsat-romaszewska-decyzja-oznacza-likwidacje-stacji-jakis-okrutny-zart/, [6.10.2017]; *Зенон Позняк написал письмо президенту Польши*, https://charter97.org/ru/news/2016/12/31/236139/, [28.09.2017].

## 3. Змены становішча польскай меншасці ў перыяд цэнтралізацыі палітычнага жыцця ў Беларусі

У хуткім часе пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам Беларусі, палітычная сітуацыя ў сферы грамадзянскіх правоў і свабод карэнным чынам змянілася. Беларускае заканадаўства, якое гарантавала палякам свабоднае развіццё нацыянальнай культуры, мовы і польскамоўнай адукацыі, пачало каштаваць не больш за паперу, на якой яно было надрукавана. Як ужо адзначалася, у выніку палітычных змен у Беларусі польскае нацыянальнае адраджэнне магло адбывацца выключна ва ўмовах жорсткага супрацьстаяння і канфрантацыі палякаў як з цэнтральнай, так і з мясцовай выканаўчай уладамі.

Не лепшым чынам выглядала сітуацыя і з беларускім нацыянальным адраджэннем. Восенню 1994 г. па просьбе бацькоў у школах пачаўся масавы пераход з беларускай на рускую мову навучання. Працэс падтрымліваўся ўладамі. Міністр адукацыі (не беларус па паходжанні) Васіль Стражаў гэтаму не перашкаджаў. Праз некалькі гадоў вялікая праца па пераводзе школ Гродна на беларускую мову навучання, якая ажыццяўлялася кіраўніцтвам горада і вобласці ў 1991–1994 гг., а таксама беларускімі грамадскімі дзеячамі, была цалкам зведзена да нуля[102].

У канцы 1994 г. ужо стала зразумела, што стаўленне беларускіх улад да канстытуцыйных патрабаванняў палякаў у справе развіцця іх нацыянальнага адраджэння змянялася ў горшы бок. Верагодна цэнтральнае кіраўніцтва ў Мінску паставіла перад сабой мэту не дапусціць у Беларусі аднаўлення польскамоўнай адукацыі. Інакш кажучы, зняць з сябе адказнасць за абяцанні, дадзеныя па гэтым пытанні папярэднім урадам Вячаслава Кебіча. Для абгрунтавання афіцыйнай адмовы будаваць польскія школы ў Беларусі ўладам неабходна было падрыхтаваць адпаведнае меркаванне ў беларускім грамадстве. Гэтую задачу выконвалі цэнтральны і мясцовы друк.

Такія агульнарэспубліканскія газеты, як "Советская Белоруссия"[103], "Чырвоная змена"[104], "Настаўніцкая газета"[105], "Звязда"[106] пачалі рэгулярна атакаваць СПБ. У артыкулах перш за ўсё выказваўся сумнеў у неабходнасці адкрыцця ў Беларусі польскіх школ, прызнання былых салдат АК удзельнікамі вайны з нямецкімі фашыстамі і надання ім статусу ветэранаў вайны. Саюз палякаў

---

[102] Зняцце Сямёна Домаша з пасады старшыні Гродзенскага аблвыканкама гэты працэс толькі ўзмацніла. Новы старшыня Аляксандр Дубко пераводу школ з беларускай мовы на рускую не перашкаджаў, хаця як кіраўнік вобласці мог прыпыніць гэты працэс. Верагодна, гэта была палітыка, якая ўкаранялася цэнтральнай уладай.

[103] В. Саласюк, *Конференция, которой могло и не быть, но которая всё-таки оказалась необходима*, "Советская Белоруссия", № 218 (18 992), 13.10.1994; М. Ковалёв, *Не давать Аковцам почивать на лаврах*, "Советская Белоруссия", № 263–264 (19 037–19 038), 03.12.1994; ён жа, *Чужие на своей земле*, "Советская Белоруссия", № 235 (19 009), 01.11.1994.

[104] М. Кузняцоў, *Беларуская карта Польшчы*, "Чырвоная змена", № 129 (13 846), 01.12.1994.

[105] П. Капчык, *Каго рыхтуем: партнёраў ці "перабежчыкаў"?*, "Настаўніцкая газета", № 91 (4449), 12.11.1994.

[106] У. Хількевіч, *Хлеб з маслам будзе толькі ў адукаваных*, "Звязда", № 253 (22 524), 9.12.1994.

на Беларусі абвінавачваўся ў тым, што хоча стварыць культурна-тэрытарыяльную аўтаномію, а з часам далучыць яе да Польшчы[107]. Памочнік прэзідэнта Беларусі Сяргей Посахаў на высокім дзяржаўным узроўні прадэманстраваў яскравы прыклад неталерантнага стаўлення да беларускіх палякаў, калі назваў эксгумацыю і пахаванне польскіх вайскоўцаў, расстраляных Чырвонай арміяй у Гродне ў 1939 г., мерапрыемствам, якое пагражае цэласнасці Беларусі. Польшча і палякі ў РБ былі прадстаўлены ў артыкулах афіцыйных газет як сіла, што марыць пра Польшчу "ад мора да мора"[108].

Звяртаючы ўвагу на перыяд напісання гэтых антыпольскіх артыкулаў (кастрычнік 1994 г. — студзень 1995 г.), можна прыйсці да высновы, што гэта была арганізаваная ўладамі і добра прадуманая кампанія, мэта якой — не дапусціць нават частковага аднаўлення польскамоўнай адукацыі. Актыўным правадніком гэтай кампаніі быў ужо згаданы міністр адукацыі Васіль Стражаў, які паставіў пад сумнеў неабходнасць існавання ў Беларусі школ з польскай мовай навучання[109]. Такім чынам дзяржаўны чыноўнік выказаў пагарду беларускаму заканадаўству, у якім палякам, як і іншым нацыянальным меншасцям, гарантавалася права навучацца на роднай мове. Для СПБ гэта быў сігнал пра складанасці, якія чакаюць яго ў дзейнасці па аднаўленні польскамоўнай адукацыі ў РБ.

Аляксандр Лукашэнка пасля абрання прэзідэнтам РБ правёў чыстку ва ўсіх структурах цэнтральнай і мясцовай улады. Ва ўрад пачалі масава вяртацца былыя партыйныя і савецкія дзеячы, вядомыя сваім негатыўным стаўленнем да польскага нацыянальнага адраджэння[110]. СПБ не мог як раней разлічваць на разуменне і добразычлівыя адносіны з боку цэнтральнай улады ў справе будаўніцтва і адкрыцця польскіх школ.

Трапна заўважыў Аляксандр Фядута ў 1995 г. у артыкуле "Хворы зуб беларускай дэмакратыі", што афіцыйная беларуская прапаганда і палітычная эліта яшчэ паціху, але з кожным разам усё гучней і смялей вызнаюць антыпаланізм. Фядута пісаў: *"Сёння яны патрабуюць польскія школы, заўтра — нацыянальна-культурную аўтаномію, паслязаўтра — паўнавартасную, а там і да самавызначэння дойдзе. Не дапусцім Карабах у Беларусі!"*[111]

Нягледзячы на тое, што ўрад РБ адмовіўся ад раней узятых на сябе абавязкаў па будаўніцтве другой школы ў Гродне, СПБ спрабаваў вырашыць гэтае пытанне. Вельмі важнай для СПБ у такой сітуацыі была падтрымка яго патрабаванняў

---

107 Падрабязней на гэтую тэму гл.: T. Malewicz, *Związek Polaków a stowarzyszenia mniejszości narodowych,* [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności,* red. Z. J. Winnicki i T. Gawin, Białystok 2010, s. 267–270.

108 С. Посохов, *Давайте научим орудия стрелять маслом, или Мир живёт по законам выгоды и силы,* "Народная газета", № 18 (1035), 26.01.1995.

109 Т. Гавін, *Польскамоўная адукацыя ў 1988–1996 гг. у Беларусі: праблемы адраджэння і роля беларускай супольнасці Гародні,* [у:] *Гарадзенскі соцыум,* с. 327–328.

110 Яркім прыкладам такога чыноўніка з'яўляецца Марыя Бірукова (да распаду СССР яна была другім сакратаром Гродзенскага абкама партыі), якая была прызначана на пасаду намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама і пачала курыраваць адукацыю ў вобласці.

111 А. Федута, *Больной зуб белорусской демократии*, " Белорусская деловая газета", № 13 (174), 21.02.1995.

з боку беларускіх дэмакратычных сіл і палітычных партый, асабліва Беларускага народнага фронту. 12 студзеня 1995 г. Мікалай Маркевіч, сябра БНФ і народны дэпутат, упершыню ў гісторыі беларускага парламента, выступаючы па "польскім пытанні", падтрымаў будаўніцтва двух польскіх школ у Гродне і адной у Ваўкавыску. Ён звярнуў увагу дэпутатаў на тое, што *"грошы на будаўніцтва адной школы ў Гродне і адной у Ваўкавыску знайшліся, дзякуючы падтрымцы гэтага пытання грамадскімі арганізацыямі ў Польшчы. Ці азначае гэта,* – працягваў у сваім выступленні Маркевіч, – *што палякі павінны заўсёды самастойна займацца пошукам фінансавых сродкаў за мяжой дзяржавы, лаяльнымі грамадзянамі і падаткаплацельшчыкамі якой з'яўляюцца? Гэта падобна на дыскрымінацыю польскай супольнасці, асабліва калі ўлічыць тое, што руская супольнасць свае школы мае"*[112].

Вельмі важным і дастаткова сур'ёзным фактам, які падкрэсліў у сваім выступленні народны дэпутат Мікалай Маркевіч, было тое, што цэнтральнае кіраўніцтва Беларусі свядома праводзіла палітыку, накіраваную на парушэнне заканадаўства ў выкананні абавязкаў перад польскай нацыянальнай меншасцю. Больш за тое, Мікалай Маркевіч публічна абвінаваціў асобных высокапастаўленых палітыкаў (не называючы іх прозвішчы) у распальванні нацыянальнай варожасці ў Беларусі[113]. Такім чынам, праблемы СПБ былі вынесены на ўзровень беларускага парламента.

У новых палітычных умовах у краіне СПБ не здолеў пазбегнуць канфрантацыі з цэнтральнай уладай. Так, будаўніцтва польскай школы ў Гродне, якое пачалося 24 верасня 1995 г., стала магчымым дзякуючы шэрагу фактараў. Па-першае, гэта рашучая і бескампрамісная барацьба СПБ, накіраваная на рэалізацыю дадзенай мэты[114]. Па-другое, нягледзячы на рознага кшталту рознагалоссі, звязаныя з будаўніцтвам польскіх школ у вобласці, старшыня Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко падтрымліваў ініцыятыву СПБ[115]. Падтрымка Дубко, а таксама прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі і Беларускага народнага фронту бясспрэчна дапамаглі рэалізаваць ідэю будаўніцтва польскіх школ у Гродзенскай вобласці[116].

---

112 Падрабязней на гэту тэму гл.: Т. Гавін, *Польскамоўная адукацыя ў 1988–1996 гг. у Беларусі: праблемы адраджэння і роля беларускай супольнасці Гародні,* [у:] *Гарадзенскі соцыум,* с. 328–329. Поўны тэкст выступлення Мікалая Маркевіча ў парламенце гл.: Архіў СПБ, уваходныя дакументы за 1995 г.; R. Karaczun, *Odrodzona szkoła,* s. 40–41; "Głos znad Niemna", nr 4 (142), 30.01.-05.02.1995.

113 R. Karaczun, *Odrodzona szkoła,* s. 40–41.

114 Ціск на цэнтральную ўладу праз пікетаванне перад беларускім парламентам, правядзенне ў Гродне шматтысячнага мітынгу 19 красавіка 1995 г., накіраванне ў Мінск лістоў, петыцый і рэзалюцый з патрабаваннямі будаўніцтва польскіх школ. Падрабязнасці барацьбы СПБ за будаўніцтва школ гл.: R. Karaczun, *Wiec protestacyjny w Grodnie. Krzyk rozpaczy,* "Głos znad Niemna", nr 17 (155), 01.05–07.05.1995.

115 T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 299; ён жа, *Польскамоўная адукацыя ў 1988–1996 гг. у Беларусі: праблемы адраджэння і роля беларускай супольнасці Гародні,* [у:] *Гарадзенскі соцыум,* с. 328–329.

116 Дзесяць вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў Гродзенскай вобласці розных нацыянальнасцей (беларусы, рускія і палякі) — Мікола Маркевіч, Яўген Скрабоцкі, Таццяна Маліноўская, Аляксей Пяткевіч, Сяргей Габрусевіч, Канстанцін Жынь, Андрэй Майсяёнак, Мікалай Лук'янаў, Міхаіл Горлаў, Галіна Восіпава — падпісалі петыцыю аб падтрымцы законных патрабаванняў будаўніцтва дзвюх польскіх школ у Гродне. Петыцыя 8 студзеня 1995 г. была накіраваная ў Вярхоўны Савет

На этапе ўзвядзення польскай школы ў Гродне выразна выявіліся супрацьлеглыя падыходы да польскамоўнай адукацыі з боку цэнтральнай улады ў Мінску і мясцовай у Гродне. Калі ў Гродне абласная ўлада на чале з Аляксандрам Дубко і гарадская на чале з Генрыхам Крупенкам разумелі патрабаванні СПБ і спрабавалі іх вырашыць, то ў Мінску адміністрацыя прэзідэнта і сам прэзідэнт ігнаравалі просьбы палякаў, нават не давалі пісьмовых адказаў на іх лісты, перакладаючы, такім чынам, усю адказнасць за вырашэнне "польскага пытання" на ўрад. Чаму ўлады Мінска і Гродна па-рознаму ставіліся да праблем польскай меншасці? Можна меркаваць, што цэнтральнае кіраўніцтва ў Мінску і сапраўды баялася, што развіццё польскамоўнай адукацыі прывядзе да парушэння суверэнітэту краіны, яе тэрытарыяльнай цэласнасці і да звужэння прасторы ўплыву рускага свету. Апроч таго, пачаўшы працэс актыўнай русіфікацыі беларускіх школ, улады ў Мінску не маглі адначасова падтрымліваць польскамоўную адукацыю.

Што тычыцца ўлад Гродна, то іх прадстаўнікі паходзілі з мясцовага беларускага насельніцтва, якое жыло побач з палякамі на працягу дзесяцігоддзяў. Яны вельмі добра разумелі, што ўсе гэтыя інсінуацыі ў адрас палякаў былі штучнымі і не мелі нічога агульнага з рэчаіснасцю. Аляксандр Дубко па просьбе старшыні СПБ 31 кастрычніка 1995 г. падпісаў ліст ва ўрад Міхаіла Чыгіра, у якім утрымлівалася просьба аб вырашэнні пытання будаўніцтва другой школы ў Гродне за сродкі беларускага бюджэту[117]. Адчуваючы на сабе, як змянілася палітычная сітуацыя ў Беларусі і стаўленне да палякаў, Генрых Крупенка (паляк[118] па нацыянальнасці) гэты ліст не падпісаў[119]. Верагодна гэта зрабілася козырам у руках беларускай цэнтральнай улады ў Мінску, каб пытанне будаўніцтва другой польскай школы ў Гродне зняць з парадку дня. Так узнік падзел па "польскім пытанні" і ў асяроддзі мясцовай улады. Пасля рэферэндумаў 1995 і 1996 гг. адбыліся сур'ёзныя змены ў Канстытуцыі РБ, якія яшчэ больш умацавалі рэжым Аляксандра Лукашэнкі і тым самым пагоршылі ўмовы дзейнасці СПБ.

---

РБ. Падрабязней на гэтую тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 299–300; Архіў СПБ, выходныя дакументы за студзень 1995 г.; R. Karaczun, *Odrodzona szkoła,* s. 38–39.

117 Падрабязней на гэту тэму гл.: Т. Гавін, *Польскамоўная адукацыя ў 1988–1996 гг. у Беларусі: праблемы адраджэння і роля беларускай супольнасці Гародні,* [у:] *Гарадзенскі соцыум,* с. 328.

118 Калі вырашалася пытанне будаўніцтва першай польскай школы ў Гродне ў 1994 г., у беларускі ўрад быў скіраваны сумесны ліст ад мясцовай улады і СПБ з абгрунтаваннем неабходнасці з'яўлення польскай школы. Пад лістом падпісаліся старшыня аблвыканкама Сямён Домаш, старшыня гарвыканкама Генрых Крупенка і старшыня СПБ Тадэвуш Гавін. Гэта было прыкладам партнёрскіх адносін паміж СПБ і мясцовым кіраўніцтвам, а таксама вяршыняй талерантнасці і ўзаемаразумення ў вырашэнні праблем, звязаных з адраджэннем польскамоўнай адукацыі. Не прайшло і двух гадоў, як Генрых Крупенка, баючыся страціць сваю пасаду, стаў больш асцярожным у прыняцці падобных рашэнняў.

119 Гэта не дапамагло яму застацца на пасадзе. У верасні 1996 г. прэзідэнт А. Лукашэнка сваім указам вызваліў Г. Крупенку ад пасады старшыні Гродзенскага гарадскога выканкама. Падрабязней на гэту тэму гл.: *Указ Президента Республики Беларусь № 348 от 3 сентября 1996 года,* [у:] *Сборник Декретов и Указов Президента РБ за 1996 год,* Минск 1997. У абгрунтаванні Указа Прэзідэнта напісана: *"За грубае парушэнне службовых абавязкаў, якое праявілася ў ігнараванні меркавання грамадзян Беларусі* […]". Напэўна, мелася на ўвазе, што Г. Крупенка праігнараваў меркаванне тых грамадзян Беларусі, якія былі супраць будаўніцтва і адкрыцця польскай школы ў Гродне. У выніку гэта і было прычынай пазбаўлення яго пасады. Гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 333.

Калі прадстаўнікі вышэйшай улады лічылі, што СПБ можа пагражаць суверэнітэту Беларусі, то, натуральна, гэта актывізавала дзейнасць КДБ, накіраваную на дэзінтэграцыю арганізацыі і яе паслабленне, каб перашкодзіць далейшаму развіццю польскага нацыянальнага адраджэння, а ў рэшце рэшт яго зусім прыпыніць. Супрацьдзеянне КДБ стала настолькі відавочным, што СПБ вымушаны быў на гэта адрэагаваць. 12 лютага 1997 г. Саюз палякаў на Беларусі даслаў ва ўрад скаргу на дзеянні супрацоўнікаў КДБ[120].

Наступным сур'ёзным сігналам з боку Мінска, які паказваў змены стаўлення да нацыянальных меншасцей, стаў вывад Каардынацыйнага савета па справах нацыянальных меншасцей (старшынёй яго быў віцэ-прэм'ер урада) з Савета Міністраў і падпарадкаванне яго Дзяржаўнаму камітэту па справах рэлігій і нацыянальных меншасцей[121]. Члены Каардынацыйнага савета (як правіла, кіраўнікі нацыянальных аб'яднанняў), такім чынам былі пазбаўлены магчымасці наўпрост прадстаўляць свае інтарэсы і праблемы перад урадам РБ. Варта заўважыць, што ў Каардынацыйным савеце з прадстаўнікоў усіх нацыянальных меншасцей толькі СПБ падымаў пытанні, якія датычыліся правоў палякаў у Беларусі. Пасля таго як 21 верасня 1996 г. урачыста адкрылася польская школа ў Гродне[122], СПБ вельмі рашуча працягнуў барацьбу за будаўніцтва другой школы ў горадзе, а таксама школ у Ваўкавыску і Навагрудку[123].

У 1997 г. цэнтральная ўлада Беларусі мела дакладна выпрацаваную пазіцыю па пытанні далейшага развіцця польскамоўнай адукацыі. Яна імкнуліся не толькі прыпыніць гэты працэс, галоўнай мэтай была яго ліквідацыя. Пацвярджэннем гэтага стала выказванне старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах друку Уладзіміра Замяталіна на сустрэчы з кіраўніцтвам СПБ у ліпені 1997 г. у Мінску. Ён заявіў: *"У бліжэйшай гістарычнай перспектыве ў Беларусі не будзе ні польскіх, ні беларускіх, ні якіх-небудзь іншых школ, акрамя рускіх"*[124]. Такая заява расійскага "асадніка" ў беларускім урадзе была тым больш небяспечнай, што праз некалькі дзён пасля гэтай сустрэчы ён заняў пасаду намесніка старшыні Савета Міністраў РБ і пачаў курыраваць сферу адукацыі.

Намесніца старшыні Гродзенскага аблвыканкама па справах ідэалогіі была партыйная чыноўніца Марыя Бірукова, як ужо адзначалася, свядома перашкаджала не толькі будаўніцтву польскіх школ, але і выкладанню польскай мовы ў школах як вучэбнага прадмета, абавязковага для вывучэння згодна з праграмамі. У адказ на ініцыятыву СПБ пабудаваць польскую школу

120 Змест ліста гл.: Архіў СПБ, папка з выходнай карэспандэнцыяй за 1997 г.: Письмо председателя СПБ к вице-премьеру белорусского правительства В. Русакевичу; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 349–350.

121 R. Karaczun, *W obronie naszych racji*, "Głos znad Niemna", nr 7 (249), 17–23.02.1997.

122 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, с. 60–87.

123 Падрабязна і змястоўна тэму дзейнасці СПБ адносна польскага нацыянальнага адраджэння ў перыяд цэнтралізацыі палітычнага жыцця ў Беларусі адлюстравала Гэлена Глагоўская ў сваёй працы, гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku. Od Imperium Rosyjskiego do Unii Europejskiej*, Białystok 2012, s. 456–516.

124 Архіў СПБ, уваходныя дакументы за 1997 г., Notatka ze spotkania delegacji ZPB z Władimirem Zamietalinym, przewodniczącym Komitetu do Spaw druku w lipcu 1997 r.; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 284.

ў Навагрудку яна ў снежні 1997 г. заявіла, што ў Навагрудку не будзе польскай школы[125]. Асабістая непрымірымая пазіцыя Біруковай па пытанні адраджэння польскамоўнай адукацыі ў Гродзенскай вобласці стала адной з асноўных прычын таго, што шматлікія праекты будаўніцтва польскіх школ не былі ў выніку рэалізаваны[126]. Аляксандр Дубко некалькі разоў адмяняў свае ўласныя станоўчыя рашэнні, звязаныя з развіццём польскамоўнай адукацыі, менавіта пад ціскам Марыі Біруковай, якая мела па гэтым пытанні падтрымку ў Мінску ў асобе Уладзіміра Замяталіна.

Да канца 1997 г. стала зразумела, што пабудаваць польскую школу ў Навагрудку і другую ў Гродне будзе практычна немагчыма. Вырашэнне пытання польскамоўнай адукацыі ўладамі было зведзена да будаўніцтва і адкрыцця толькі дзвюх польскіх школ: у Гродне і Ваўкавыску. Больш за тое, фінансаванне іх будаўніцтва цалкам забяспечвала Польшча. Чаму беларускія ўлады, як цэнтральныя, так і мясцовыя, перашкаджалі аднаўленню польскамоўнай адукацыі ў Беларусі? Чаму Марыя Бірукова, якая з'яўлялася мясцовай беларускай, не толькі была супраць адкрыцця польскіх школ, але не займалася развіццём беларускамоўнай адукацыі? Ключ да адказу на гэтыя пытанні знаходзіўся ў Мінску. Урад РБ і прэзідэнт нібыта праводзілі беларускую нацыянальную палітыку, але насамрэч гэтая палітыка была цалкам прарасійскай. У прынцыпе, іначай і не магло быць, таму што пытаннямі адукацыі займаўся згаданы расійскі "асаднік" Уладзімір Замяталін. Калі б урад і прэзідэнт сапраўды планавалі развіццё беларускага нацыянальнага адраджэння, то такія людзі, як Замяталін, не курыравалі б справы адукацыі. Не падтрымліваючы беларускамоўнае навучанне, кіраўніцтва краіны тым больш не падтрымлівала польскамоўную адукацыю.

Пры гэтым СПБ працягваў дзейнасць, накіраваную на адкрыццё польскіх школ. Саюз палякаў на Беларусі імкнуўся ўсё ж схіліць улады да будаўніцтва другой школы ў Гродне (за кошт беларускага бюджэту) і ў Навагрудку (за сродкі Польшчы). У гэтай дзейнасці СПБ падтрымлівала беларуская дэмакратычная грамадскасць. Вядомы ў Беларусі палітычны аналітык Аляксандр Фядута (які нарадзіўся ў Гродне і таму даволі добра ведаў і адчуваў нацыянальныя праблемы рэгіёна) надрукаваў 12 чэрвеня 1998 г. у "Белорускoй деловой газете" артыкул пад назвай "O Litwo, Ojczyzna moja". У гэтым артыкуле Аляксандр Фядута як сведка нагадаў абяцанні, якія даў яшчэ кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка падчас перадвыбарнай сустрэчы ў СПБ. Між іншым ён напісаў: "*Палякі* [...] *лічаць Беларусь сваёй Радзімай. Што яны хочуць?* [...] *Хочуць жыць тут і заставацца сабой — беларускімі грамадзянамі польскай нацыянальнасці. Хочуць выканання пастаноў канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якія гарантуюць права грамадзян атрымліваць адукацыю на роднай мове. Хочуць справядлівасці. Нават калі будуць вымушаны за ўласныя грошы фінансаваць рэканструкцыю*

[125] Архіў СПБ, уваходныя дакументы за 1997 г.: Notatka z obrad Komitetu Organizacyjnego Obchodów 200 rocznicy urodzin Adama Mickiewicza w grudniu 1997 r.; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi*, s. 284.

[126] Марыя Бірукова гэтыя папрокі лічыла неабгрунтаванымі і несправядлівымі. Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 512–513.

*чарговай кацельні ў чарговым горадзе, як гэта было ў Ваўкавыску*[127]. *Не просяць улады аб дапамозе, просяць, каб ім не перашкаджалі"*[128].

Актыўная дзейнасць СПБ у справе аднаўлення раней знішчанай савецкай уладай польскамоўнай адукацыі прымусіла кіраўніцтва РБ прыняць меры супрацьдзеяння гэтаму. Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей распрацаваў прапановы, накіраваныя на дэзінтэграцыю СПБ і паслабленне яго дзейнасці. Прапановы для зацвярджэння былі накіраваны ў беларускі ўрад 3 траўня 1999 г.,[129] і па сённяшні дзень яны з'яўляюцца асноўнымі ў барацьбе супраць актыўнай працы СПБ. Забягаючы наперад, варта прызнаць, што, выконваючы гэтыя палажэнні, улады дасягнулі дэзінтэграцыі СПБ у 2005 г.

Прыведзеныя факты яскрава дэманструюць цынічнасць і двудушнасць Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей у выкананні беларускага заканадаўства. Замест дапамогі ў рэалізацыі канстытуцыйных правоў польскай нацыянальнай меншасці камітэт супрацьстаяў гэтаму. Практычна ён ажыццяўляў дзяржаўную праграму па ліквідацыі ўсялякай актыўнасці СПБ у справе аднаўлення польскамоўнай адукацыі, а таксама выцяснення выкладання польскай мовы на ўзровень факультатыўнага прадмета і навучання ў гуртках.

Тым не менш у 1997/1998 навучальным годзе польская мова ў розных формах выкладалася ў 325 школах Беларусі. Усяго яе вывучалі 19 353 вучні, з якіх толькі 7 145 чалавек вучылі польскую мову як прадмет школьнай праграмы. У 1996 г. адкрылася польская школа ў Гродне. У 1998 г. пачалося будаўніцтва польскай школы ў Ваўкавыску, якая ўжо ў верасні 1999 г. была ўрачыста адкрыта[130].

Адраджаючы польскамоўную адукацыю, СПБ ставіў сабе за мэту адкрыццё польскіх школ таксама ў Брэсце, Мінску, Навагрудку. Класы з выкладаннем усіх прадметаў на польскай мове, якія існавалі ў гэтых гарадах, былі добрым

127 Ваўкавыскія ўлады, каб прымусіць Польшчу адмовіцца ад фінансавання будаўніцтва польскай школы, прыдумалі рэканструкцыю бліжэйшай гарадской кацельні за сродкі польскага боку, бо, сцвярджалі яны, не хапала магутнасці кацельні для падключэння планаванай польскай школы. Іншымі словамі, улады вырашалі гарадскую праблему за кошт шматтысячных укладанняў у доларах з боку Польшчы. Гэту ўмову Польшча па просьбе СПБ прыняла і выканала. У іншым выпадку вырашэнне пытання, звязанага з будаўніцтвам школы, магло зацягнуцца або зусім адкласціся. Падобная сітуацыя склалася і ў Гродне ў 1995 г., калі ўлады дазвалялі ўзвядзенне польскай школы толькі ў выпадку будаўніцтва новага свінакомплексу для Гродзенскага раёна, паколькі побач са школай ён размяшчацца не мог. Толькі пасля доўгіх перамоў з Аляксандрам Дубко праблему атрымалася вырашыць без інвеставання ў будаўніцтва свінакомплексу.

128 А. Федута, *"O Litwo, Ojczyzna moja"*, "Белорусская деловая газета", 12.06.1998.

129 Падрабязней на гэту тэму гл.: C. Bieńkowski, *Stosunek władz centralnych RB do fenomenu odrodzenia polskiego. Zarys tendencji polityki wobec polskiej mniejszości narodowej,* [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009. Ocena minionego dwudziestolecia,* s. 152–160; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 268–277; ён жа, *Zwycięstwa i porażki*, s. 450–455.

130 Архіў СПБ, Teczka z dokumentami dotyczącymi sytuacji z polskością na Białorusi przygotowanymi na posiedzenie komisji Senackiej do Spraw Emigracji i Polaków za granicą w marcu 1998 r.; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 284–285.

падмуркам[131]. Мэта з'яўлялася дасягальнай, але для гэтага ў пералічаных гарадах (за выключэннем Навагрудка) не хапіла палякаў, якія былі б гатовыя яе рэалізоўваць. Кіраўнікі абласных структур СПБ у Мінску Канстанцін Тарасевіч і ў Брэсце Станіслаў Трацяк такія амбітныя мэты баяліся ставіць перад сабой[132]. Адміністрацыйны націск на іх з боку Галоўнага праўлення СПБ не даў чаканых вынікаў.

Зусім інакш склалася сітуацыя ў Навагрудку, дзе актыўнасць у стварэнні класаў з польскай мовай навучання праяўляў мясцовы аддзел СПБ на чале з Соф'яй Барадын. У 1997 г., дзякуючы плённай працы Саюза палякаў на Беларусі, планавалася падпісанне дагавора з уладамі горада на будаўніцтва польскай школы. Але праведзеныя цэнтральным кіраўніцтвам у Мінску кадравыя змены гэтую магчымасць перакрэслілі. Анатоль Ліс, новапрызначаны старшыня Навагрудскага райвыканкама, катэгарычна адмовіўся падпісаць гэты дагавор. Галоўнае праўленне СПБ рабіла ўсё, каб сітуацыю выправіць. Калі справа канчаткова зайшла ў тупік, СПБ падаў у суд на кіраўніцтва раёна за парушэнне канстытуцыйных правоў палякаў — жыхароў Навагрудка. Раённы суд у Навагрудку і абласны ў Гродне ніякіх парушэнняў з боку мясцовых улад не выявілі[133]. Пасля гэтых судовых пасяджэнняў стала відавочна, што кіраўніцтва ў Мінску вырашыла канчаткова спыніць развіццё польскамоўнай адукацыі[134].

Была яшчэ адна прычына, якая дапамагла мясцовым уладам у Навагрудку, Гродне і цэнтральным у Мінску выключыць пытанне будаўніцтва польскай школы ў Навагрудку з парадку дня. Супраць з'яўлення гэтай школы публічна выступаў генеральны консул РП у Гродне Сільвестар Шостак[135]. Улады падчас сустрэч з кіраўніцтвам СПБ увесь час падкрэслівалі, што супраць будаўніцтва школы ў Навагрудку выступаюць не толькі яны, але і польскі консул[136]. Варта заўважыць, што такія паводзіны Сільвестра Шостака супярэчылі інтарэсам не толькі СПБ, але і Польшчы[137].

---

131 U. Piwowar-Lesman, *Czuje się oszukany — radni nie chcą polskiej szkoły w Nowogródku*, "Trybuna", nr 139 (3135), 15.06.2000; M. Dobrynin, *Szkolnictwo polskie na Litwie, Białorusi i Ukrainie po drugiej wojnie światowej. Uwagi,* [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009,* s. 179–186.

132 Пазней гэтыя грамадскія дзеячы пачалі падтрымліваць беларускія ўлады ў справе дэзінтэграцыі СПБ. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia niszczenia niezależności*, s. 153–154.

133 Суды, якія залежалі ад выканаўчай улады ў РБ, іншага рашэння не маглі прыняць.

134 Падрабязней на тэму барацьбы за адкрыццё польскай школы ў Навагрудку гл.: T. Gawin, *Polska mniejszość narodowa na Białorusi w latach 1987–2005 a dyplomacja polska,* [у:] *Polska dyplomacja na Wschodzie w XX — początkach XXI wieku, praca zbiorowa* pod redakcją H. Strońskiego i G. Seroczyńskiego, Olsztyn-Charków 2010, s. 509–511; ён жа, *Zwycięstwa i porażki*, s. 361–531; ён жа, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 456–486.

135 *List prezesa ZPB do Ministra Spraw Zagranicznych RP Włodzimierza Cimoszewicza*, [у:] T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 542–544; ён жа, *Polska mniejszość narodowa na Białorusi w latach 1987–2005 a dyplomacja polska,* [у:] *Polska dyplomacja na Wschodzie w XX — początkach XXI wieku,* s. 509.

136 U. Piwowar-Lesman, *Czuje się oszukany — radni nie chcą polskiej szkoły w Nowogródku*, "Trybuna", nr 139 (3135), 15.06.2000.

137 Падрабязней на гэту тэму гл.: U. Piwowar-Lesman, *Czuje się oszukany — radni nie chcą polskiej szkoły w Nowogródku*, "Trybuna", nr 139 (3135), 15.06.2000; *List prezesa ZPB do Ministra Spraw Zagranicznych*

Кіраўніцтва СПБ спрабавала выратаваць сітуацыю, інфармуючы пра гэты інцыдэнт сусветныя і еўрапейскія структуры, якія займаліся правамі чалавека[138]. Такія дзеянні СПБ не падтрымала Польшча. Па ўсёй верагоднасці, пасіўнасць польскіх афіцыйных структур у пытанні будаўніцтва польскай школы ў Навагрудку і адсутнасць падтрымкі з іх боку ў рэалізацыі гэтага праекта маюць карані ў выказванні прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы 29 чэрвеня 1993 г. на сустрэчы з актывам СПБ у Баранавічах, дзе прысутнічалі і прадстаўнікі беларускай улады. На просьбу дапамагчы ў будаўніцтве польскай школы ў Навагрудку, скіраваную старшынёй мясцовага аддзела СПБ С. Барадын да прэзідэнта РП, апошні адказаў дакладна наступнае: *"Не буду тут ствараць другі Карабах і ўводзіць танкі, паколькі гэтая зямля і без таго насычаная крывёю"*[139]. Ніхто з прадстаўнікоў беларускай улады, якая супрацiўлялася адраджэнню польскамоўнай адукацыі, ніколі не карыстаўся падобнымі аргументамі.

У лістападзе 2000 г. адбыліся сур'ёзныя кадравыя змены ў кіраўніцтве СПБ. На V пазачарговым з'ездзе старшынёй арганізацыі быў абраны дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Тадэвуш Кручкоўскі[140]. Польская дыпламатыя ў Беларусі ўскладала на гэтую кандыдатуру вялікія надзеі, разлічваючы на лепшыя вынікі дзейнасці СПБ, асабліва ў сферы польскамоўнай адукацыі. Дыпламаты былі ўпэўнены ў тым, што ўсе цяжкасці СПБ былі звязаны з асобай дзеючага старшыні Саюза палякаў, які нібыта палітызаваў працу арганізацыі. Напэўна, такога меркавання прытрымлівалася польскае Міністэрства замежных спраў. Яно спадзявалася, што замена старшыні СПБ на чалавека больш памяркоўнага ў стасунках з уладамі і не ангажаванага ў палітычную дзейнасць дазволіць наладзіць партнёрскія адносіны з беларускім кіраўніцтвам і вырашыць задачы арганізацыі.

Як паказала развіццё падзей, надзеі на гэты выбар ускладалі і беларускія ўлады, якія разлічвалі такім чынам цалкам падначаліць сабе самую вялікую грамадскую арганізацыю ў Беларусі. У пачатку 2001 г., падчас афіцыйнага візіту ў Гродна, прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з актывам наменклатурных работнікаў Гродзенскай вобласці заявіў: "[…] *У сучасны момант грамадска-палітычная сітуацыя ў Гродзенскай вобласці нармалізавалася,*

*RP Włodzimierza Cimoszewicza*, [у:] T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 542–544; ён жа, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 485–486.

138 Архіў СПБ, выходныя дакументы за 1999 год: Письмо председателя СПБ № 01–5/112 от 10.02.1999 г. к Верховному Комиссару по делам национальных меньшинств госп. Максу ван дер Стулу, г. Гаага, Голландия; Тамсама, выходныя дакументы за 1998 г.: Ліст старшыні СПБ да амбасадара Ганса-Георга Віка кіраўніка місіі АБСЕ у Беларусі ад 15 верасня 1998 г.; T. Gawin, *Polska mniejszość narodowa na Białorusi w latach 1987–2005 a dyplomacja polska,* [у:] *Polska dyplomacja na Wschodzie w XX — początkach XXI wieku,* s. 509.

139 T. Malewicz, *Wewnętrzne i zewnętrzne przyczyny podziałów w Związku Polaków na Białorusi (albo jak zmarnowano ZPB),* [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009,* s. 114.

140 Падрабязней пра сітуацыю ў СПБ у 2000 г. і звязаныя з ёй кадравыя змены гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 485–487; *V Zjazd SZ ZPB. Ważna i wielka sprawa*, "Głos znad Niemna", nr 47, 24.11.2000.

*паколькі да кіраўніцтва Саюзам палякаў прыйшлі «нармальныя людзі»*”[141].

Новы старшыня пасля абрання яго на пасаду кіраўніка СПБ зрабіў недаравальную для такога ўзроўню грамадскага дзеяча публічную заяву аб тым, што СПБ больш не будзе супрацоўнічаць з беларускай грамадзянскай супольнасцю, яе грамадскімі арганізацыямі і палітычнымі партыямі[142]. Такім чынам, праблему, якая так доўга непакоіла беларускія ўлады, ён вырашыў адной заявай. Пры гэтым ён не атрымаў і нават не паспрабаваў атрымаць ад улады пэўныя выгады для арганізацыі. Адной з іх мог быць дазвол на будаўніцтва польскай школы ў Навагрудку.

СПБ у перыяд 2000–2005 гг. адмовіўся ад працягу барацьбы за будаўніцтва польскай школы ў Навагрудку. Таксама не рэалізаваў ніводнай інвестыцыі, звязанай з будаўніцтвам і адкрыццём Польскіх дамоў. У 2005 г. наклад газеты “Глос знад Немна” ў параўнанні з 2000 г. упаў больш чым у два разы. У 2002 г. абласное тэлебачанне спыніла трансляцыю штотыднёвых польскамоўных перадач[143]. Слушна заўважыў Войцех Сляшынскі: *“Згодніцкая палітыка часоў Тадэвуша Кручкоўскага не спрыяла значнаму павелічэнню актыўнасці арганізацыі ў сферы культурна-адукацыйнай дзейнасці* […]. *Улады абмяжоўвалі ўплыў на маладое пакаленне, пасля 2000 г. у Беларусі не была адкрыта ніводная польская школа”*[144].

Як бачна з прыведзеных фактаў, спадзяванні на Кручкоўскага з боку польскай дыпламатыі, Польшчы і польскіх грамадскіх дзеячаў (якія бачылі праблему развіцця польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі ў 1995–2000 гг. у палітызацыі СПБ[145]) не спраўдзіліся[146]. Пазбавіўшыся ад сапраўды адда-

---

[141] Змест гэтай заявы перадаў аўтару дадзенай манаграфіі былы старшыня Гродзенскага гарвыканкама Генрых Крупенка, які прысутнічаў на сходзе актыву Гродзенскай вобласці. Гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 328; T. Gawin, *Nasz los zależy od nas*, “Rzeczpospolita”, 02.05.2002.

[142] *Фрагменты выступления Тадеуша Кручковского на V Съезде СПБ*, “Głos znad Niemna”, nr 47, 24.11.2000 г., s. 5.

[143] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Stan aktualny i perspektywy rozwoju Związku Polaków na Białorusi*, [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności*, s. 276–277.

[144] Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Śleszyński, *Polityka historyczna a mniejszość polska na Białorusi w latach 1991–2016*, [у:] *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku* , s. 531.

[145] Менавіта дзякуючы палітычнай актыўнасці ў 1995–2000 гг. СПБ дасягнуў найбольшых вынікаў у сваёй дзейнасці. У гэты перыяд кіраўніцтва СПБ падтрымлівала працоўныя кантакты як з цэнтральнай уладай у Мінску, так і з мясцовым кіраўніцтвам. Як ужо адзначалася вышэй, у перыяд супрацоўніцтва СПБ з беларускімі грамадскімі арганізацыямі і палітычнымі партыямі, у тым ліку дзякуючы іх падтрымцы, атрымалася пабудаваць і адкрыць дзве польскія школы ў Беларусі: адну ў Гродне (1996), другую ў Ваўкавыску (1999). Таксама ўзведзеныя або адаптаваныя да культурна-адукацыйнай дзейнасці 14 Польскіх дамоў, у якіх дзейнічалі ў тым ліку польскія грамадскія школы. У гэты час стварающца штотыднёвыя польскамоўныя перадачы на радыё і тэлебачанні Гродна. Поспеху дасягнула газета “Глос знад Немна”, якая ў 2000 г. мела 8 330 падпісчыкаў. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Stan aktualny i perspektywy rozwoju Związku Polaków na Białorusi*, [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi,* s. 271–286.

[146] Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem a tożsamością. Rosyjskie, ukraińskie i białoruskie interpretacje idei i koncepcji w polskiej polityce wschodnie (1990–2010)*, Wrocław 2013, s. 434–436, 476–479.

ных польскаму нацыянальнаму адраджэнню дзеячаў[147], ён не толькі не развіў дзейнасць СПБ, але і страціў тыя пазіцыі ў беларускім грамадстве, якія раней былі заваяваны.

Вопыт дзейнасці СПБ у справе адстойвання правоў палякаў (галоўным чынам у сферы польскамоўнай адукацыі) выразна паказаў, што арганізацыя развівалася і дасягала мэты толькі тады, калі была ў стане даказаць уладам сваю рашучасць і гатоўнасць не толькі да перамоў, але і да правядзення публічных пратэстаў. Калі сіла, якую дэманстраваў СПБ, была значнай, то ўлады ішлі на ўступкі. Іншымі словамі, спрацоўваў прынцып: не сіла ў законе, а закон у сіле. На вачах у беларускай і польскай супольнасці ўлады публічна дэманстравалі (асабліва ў перыяд 2000–2005 гг.), што ў дачыненні да палякаў Беларусі, якія імкнуліся аднавіць і развіваць польскамоўную адукацыю, беларускае заканадаўства не дзейнічае.

[147] У 2001 г. Анджэй Кусяльчук быў пазбаўлены пасады галоўнага рэдактара газеты "Глос знад Немна", крыху пазней звольненыя журналісты Анджэй Пісальнік і Анджэй Пачобут. Пасля гэтага газета пачала страчваць сваю папулярнасць, наклад яе пастаянна змяншаўся, а наступныя галоўныя рэдактары не садзейнічалі таму, каб газета адпавядала патрабаванням чытачоў. У выніку газета спыніла сваё існаванне, што з'яўляецца вялікай стратай для польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі па сённяшні час. Апроч таго, ад дзейнасці ў кіраўніцтве СПБ былі адхіленыя актыўныя дзеячы, намеснікі старшыні арганізацыі Юзаф Пажэцкі і Веслаў Кеўляк. Гэты спіс можна працягваць.

# 4. Уплыў польска-беларускіх міждзяржаўных адносін на становішча польскай меншасці ў Беларусі

Рэспубліка Беларусь — адносна маладая еўрапейская дзяржава, якая не мае багатых дыпламатычных традыцый. У пачатку ХХ ст. спрабавала іх пабудаваць Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), абвешчаная ў сакавіку 1918 г. Але гэтыя спробы былі спынены эміграцыяй урада БНР у выніку польска-савецкай вайны[148]. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР) на працягу сваёй больш чым сямідзесяцігадовай гісторыі самастойную замежную палітыку не праводзіла[149]. БССР па сутнасці не з'яўлялася суверэннай дзяржавай, фактычна яна мела статус адміністрацыйнай адзінкі Савецкага Саюза[150].

Развіццё падзей у СССР у 1990–1991 гг. было выгадным для Польшчы. Ажыццяўлялася яе даўняя стратэгічная мара мець буфер на мяжы, якая аддзяляла Польшчу ад Расіі[151]. Ролю буфера ў гэтым геапалітычным раскладзе сіл павінны былі граць маладыя незалежныя дзяржавы, у тым ліку Беларусь. У інтарэсах Польшчы была распрацоўка канцэпцыі стаўлення да былых савецкіх рэспублік, якія межавалі з ёй або знаходзіліся блізка да яе тэрыторыі[152]. Гэта было асноўнай прычынай таго, што Польшча адна з першых прызнала незалежнасць Беларусі[153].

Першапачатковы перыяд двухбаковых дыпламатычных адносін паміж Польшчай і Беларуссю да распаду Савецкага Саюза (у 1989–1991 гг.) быў складаны. Так, візіт польскага міністра замежных спраў Кшыштафа Скубішэўскага ў кастрычніку 1990 г. у Мінск не прынёс чаканых вынікаў[154]. Гэта здарылася з-за некалькіх прычын, але галоўным з'яўлялася тое, што Беларусь у прыняцці міжнародных рашэнняў працягвала азірацца на Маскву[155].

---

148 Падрабязней на гэту тэму гл.: D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości*, Toruń 2010; яна ж, *Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918–1920 гг. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці*, Смаленск 2015.

149 E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010,* Białystok 2011, s. 13.

150 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, Warszawa 2007, s. 253–275.

151 Падрабязней на тэму сучасных беларуска-польскіх адносін гл.: Z. J. Winnicki, *Cywilizacyjno-kulturowe uwarunkowania współczesnych relacji białorusko-polskich*, [y:] *Polska i Białoruś we współczesnej Europie*, red. nauk. J. Tymanowski, A. Daniluk, J. Bryll, Warszawa 2015, s. 227–158.

152 M. Menkiszak, M. Piotrowski, *Polska polityka wschodnia*, [y:] *Polityka zagraniczna RP 1989–2002*, red. R. Kuźniar, K. Szczepanik, Warszawa 2002.

153 Афіцыйна дыпламатычныя адносіны паміж Польшчай і Беларуссю былі наладжаны 2 сакавіка 1992 г. падчас візіту міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі ў Варшаву. Гл.: M. Kępka, *Stosunki polsko-białoruskie*, "Rocznik Polskiej Polityki Zagranicznej", 1992, s. 148–149.

154 Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 384–385. K. Fedorowicz, *Białoruś w polskiej polityce wschodniej*, [y:] *Stosunki polsko-białoruskie. Historia i polityka*, t. I, Siedlce 2009, s. 89–90; K. Skubiszewski, *Polityka zagraniczna i odzyskanie niepodległości. Przemówienia oświadczenia, wywiady 1989–1993*, Warszawa 1997, s. 124; *Да візіту К. Скубішэўскага*, "Свабода. Беларуская газэта", кастрычнік 1990, № 11; В. Кебич, *Искушение властью. Из жизни премьер-министра*, Минск 2008, с. 188–189.

155 Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010*, s. 37–39; A. Chodubski, *Stosunki polsko-białoruskie w latach dziewięćdziesiątych*, [y:] *Polska polityka zagraniczna*

Пасля жнівеньскага путчу ў Маскве Вярхоўны Савет БССР 25 жніўня 1991 г. прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці. 19 верасня гэтага года назва краіны зменена на Рэспубліку Беларусь і зацверджана нацыянальная сімволіка — герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Гэты час быў спрыяльны для падпісання паміж Польшчай і Беларуссю дэкларацыі "Аб добрасуседстве"[156], што і адбылося 10 кастрычніка 1991 г. у Варшаве. Дэкларацыю падпісалі прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч і прэм'ер-міністр Польшчы Ян Кшыштаф Бялецкі. Трэба адзначыць, што дэкларацыя "Аб добрасуседстве" нічым не адрознівалася ад той, якая планавалася да падпісання падчас візіту міністра Скубішэўскага ў Мінск. Такім чынам, пасля аслаблення пазіцый СССР у свеце пачала зніжацца залежнасць Беларусі ад Масквы[157].

Дэкларацыя пацвярджала прынцыпы непарушнасці пасляваенных межаў, тэрытарыяльнай цэласнасці, мірнага вырашэння спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы, забеспячэння правоў і асноўных свабод чалавека, а таксама, што было вельмі важна як для беларускай, так і для польскай нацыянальных меншасцей, бакі абавязваліся прытрымлівацца міжнародных нормаў па іх абароне. Гэтая дэкларацыя была першым дакументам, які рэгуляваў адносіны паміж Польшчай і Беларуссю. Таксама яна адкрыла шлях для наладжвання сталых дыпламатычных узаемаадносін, што адбылося 2 сакавіка 1992 года[158].

Безумоўна, падрыхтоўка дэкларацыі і яе падпісанне ў Варшаве садзейнічалі паляпшэнню адносін паміж беларускімі ўладамі і Саюзам палякаў на Беларусі. 1 верасня 1991 г. у Гродне ўпершыню пасля вайны адкрыліся два першыя класы з вывучэннем усіх прадметаў на польскай мове, якія сталі падмуркам для будаўніцтва польскай школы. Павялічылася колькасць школ, у якіх польская мова выкладалася ў якасці абавязковага прадмета школьнай праграмы. 22 верасня 1991 г. СПБ атрымаў ад улад Гродзенскага раёна дазвол на ўсталяванне на могілках у пасёлку Сапоцкін помніка генералу Юзафу Альшына-Вільчынскаму, яго ад'ютанту і 31 вайскоўцу, якія загінулі 22 верасня 1939 г. у баях з чырвонаармейцамі[159]. Таксама ўпершыню за пасляваенны час 9–10 лістапада 1991 г. у г. Баранавічы прайшоў фестываль польскай песні для дзяцей і моладзі. СПБ у сваёй дзейнасці ўжо не адчуваў неабгрунтаванага супраціву з боку цэнтральнай і мясцовай улады, як гэта было раней[160]. Пацяпленне ў адносі-

---

*w procesie przemian po 1989 roku*, red. A. Żukowski, Olsztyn 1999, s. 148; H. Głogowska, *Białoruś w polityce polskiej między Niemcami a Rosją*, [у:] *Polska między Niemcami a Rosją*, red. T. Wallas, Poznań 1999, s. 176; R. Radzik, *Kim są Białorusini?*, Toruń 2002, s. 188–207.

156 H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 392.

157 Падчас візіту Кебіча ў Варшаву ён меў сустрэчу з прэзідэнтам Польшчы Лехам Валэнсам і выступленне ў польскім парламенце. Падрабязней на гэту тэму гл.: В. Кебич, *Искушение властью*, с. 312–313.

158 M. Kępka, *Stosunki polsko-białoruskie*, "Rocznik Polskiej Polityki Zagranicznej", 1992, s. 149–150.

159 B. Mieszczeriakow, *Na cmentarzu w Sopoćkiniach*, "Głos znad Niemna", nr 9 (11), październik 1991.

160 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 161–209.

нах паміж Беларуссю і Польшчай стварала спрыяльны клімат для польскага нацыянальнага адраджэння ў РБ.

Беларусь, атрымаўшы незалежнасць, спрабавала пры падтрымцы і дапамозе Польшчы пераарыентаваць сваю замежную палітыку, вырашыць некаторыя эканамічныя праблемы[161]. Але эканамічна слабая Польшча, якая толькі некалькі гадоў таму пазбавілася камуністычнага праўлення, да таго ж мела на сваёй тэрыторыі раскватараваныя расійскія войскі і баялася ўскладненняў у адносінах з Расіяй, змагла толькі часткова дапамагчы Беларусі[162]. Гэтай дапамогі было недастаткова для таго, каб Беларусь здолела будаваць незалежную ад Расіі эканамічную і замежную палітыку.

1992 год быў насычаны двухбаковымі беларуска-польскімі кантактамі на ўзроўні прэм'ер-міністраў. У гэты год падпісаны пагадненні, якія зацвярджалі галоўныя прынцыпы транспамежнага супрацоўніцтва. Таксама былі адкрыты амбасады Беларусі ў Польшчы (амбасадар Уладзімір Сянько) і Польшчы ў Беларусі (амбасадар Альжбета Смулкова), адбыўся візіт у Мінск польскага прэм'ер-міністра Ганны Сухоцкай, а ў Гродне была арганізавана яе сустрэча з польскім актывам[163].

Найбольш важнай падзеяй у беларуска-польскіх адносінах стаў візіт у Варшаву (23–25 чэрвеня 1992 г.) старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча, падчас якога з прэзідэнтам Польшчы быў падпісаны двухбаковы дагавор "Аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве"[164].

Варта адзначыць, што ў дагаворы шмат увагі надавалася нацыянальным меншасцям: польскай у Беларусі і беларускай у Польшчы (артыкулы 13–16). Польская меншасць паводле артыкула 14 атрымала права (індывідуальна ці сумесна з іншымі членамі сваёй групы) на свабоднае захаванне, развіццё і выяўленне сваёй этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай самабытнасці без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам. Апроч таго, што артыкул 15 гарантаваў магчымасць аднаўлення польскамоўнай адукацыі ў Беларусі, польская нацыянальная меншасць атрымала права ствараць, а таксама падтрымліваць дзейнасць уласных асветных, культурных і іншых устаноў. У артыкуле 16 гаварылася, што бакі будуць развіваць канструктыўнае супрацоўніцтва ў галіне абароны правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей, разглядаючы яго як фактар умацавання ўзаемаразумення і добрасуседскіх адносін паміж беларускім і польскім народамі[165].

Беларусь даволі сур'ёзна ставілася да падрыхтоўкі і падпісання дагавора "Аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве". Так, напярэдадні афіцыйнага візіту ў Варшаву Станіслаў Шушкевіч прыехаў у Гродна (17 чэрвеня 1992 г.). Напэўна, ён вырашыў абмеркаваць з кіраўніцтвам Гродзенскай

[161] Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010*, s. 39–40.

[162] Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 40–41.

[163] Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 385–402, 581.

[164] A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 254–259.

[165] Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 255–257.

вобласці ўсе пытанні, якія тычыліся дзейнасці польскай нацыянальнай меншасці, паколькі тут пражывала больш за 75 % усіх палякаў Беларусі[166].

Перыяд 1992–1995 гг. у адносінах паміж Беларуссю і Польшчай быў даволі насычаным і плённым[167]. 28–29 чэрвеня 1993 г. у Беларусь прыязджаў прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса. Падчас візіту ён сустрэўся са старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам, выступіў у беларускім парламенце, а таксама ўдзельнічаў у сустрэчы з палякамі ў Баранавічах і Навагрудку[168]. У Баранавічах Лех Валэнса асобна сустрэўся з Галоўным праўленнем СПБ, якое агучыла тыя праблемы польскай меншасці, у вырашэнні якіх СПБ спадзяваўся на дапамогу як прэзідэнта, так і польскага ўрада. Напярэдадні сустрэчы з Лехам Валэнсам не абышлося без спрэчных і напружаных момантаў, якія прадэманстравалі, наколькі кіраўніцтва Брэсцкай вобласці і г. Брэста, у параўнанні з уладамі Гродзенскай вобласці, кансерватыўна і непрыхільна ставілася да беларускіх палякаў. Польскі бок прапанаваў, каб самалёт, на якім павінен быў прыляцець у Баранавічы прэзідэнт Лех Валэнса, сустракалі, акрамя кіраўнікоў Брэсцкай вобласці, прадстаўнікі СПБ. Улады выступілі супраць гэтай прапановы[169]. СПБ у знак пратэсту заявіў, што, паколькі сустрэча Леха Валэнсы ў гарадскім Доме культуры абвешчана як сустрэча з палякамі, арганізацыя не жадае, каб там прысутнічалі прадстаўнікі кіраўніцтва Брэсцкай вобласці. У выніку першы сакратар польскай амбасады ў Мінску Марэк Галкоўскі вырашыў гэтае спрэчнае пытанне, узяўшы з сабой дэлегацыю СПБ на сустрэчу Леха Валэнсы на ваенным аэрадроме ў Баранавічах[170].

---

166 Для размовы са Станіславам Шушкевічам быў запрошаны ў абласны выканаўчы камітэт старшыня СПБ. Ён прадставіў у чарговы раз усе тыя пытанні польскай меншасці, рашэнне якіх патрабавала ўмяшальніцтва як урада РБ, так і кіраўніка краіны. Напэўна, падчас перамоў у Варшаве польскі бок закрануў пытанне пра перадачу памяшкання пад польскую школу ў Гродне. Абгрунтаваннем такога меркавання можа лічыцца наступны факт. Калі беларуская дэлегацыя знаходзілася ў Варшаве, старшыні СПБ патэлефанавалі старшыня таварыства "Wspólnota Polska" і міністр адукацыі Польшчы праф. Анджэй Стэльмахоўскі. Размова датычылася выключна аднаго пытання: ці пагодзіцца СПБ на прапанову беларускіх улад аб перадачы пад польскую школу ў Гродне будынка былога абкама КПБ. СПБ ад гэтай прапановы адмовіўся, бо будынак абкама — гэта архітэктурны і гістарычны помнік (т. зв. Новы замак, былы каралеўскі палац), які не прыстасаваны для размяшчэння там школы. Таксама гэта магло выклікаць незадаволенасць і пратэсты з боку беларускай інтэлігенцыі і грамадскіх арганізацый, партый, у тым ліку і БНФ. Такім чынам, прыняцце гэтай прапановы магло пазбавіць СПБ падтрымкі беларускай грамадзянскай супольнасці. Магчыма, прыезд Станіслава Шушкевіча ў Гродна меў на мэце ўзгадніць з кіраўніцтвам вобласці пытанне перадачы Новага замка пад польскую школу.

167 Каляндар падзей, звязаных з візітамі і сустрэчамі беларускіх і польскіх афіцыйных асоб, а таксама спіс мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў гэты перыяд беларускай нацыянальнай меншасцю ў Польшчы і польскай у Беларусі, гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 581–587.

168 Тамсама, с. 403–404.

169 Калі ў лістападзе 1992 г. у Гродна на сустрэчу з актывам СПБ і палякамі Гродзеншчыны прылятала прэм'ер-міністр Польшчы Ганна Сухоцка, то старшыня Гродзенскага абласнога выканкама Дзмітрый Арцыменя сам патэлефанаваў старшыні СПБ і прапанаваў разам сустрэць у аэрапорце прэм'ера Польшчы. Падрабязней на тэму сустрэчы гл.: L. Michajlik, I. Artisz, J. Dziurbejko, *Jesteśmy Polakami — to brzmi dumnie,* "Głos znad Niemna", nr 24 (34), 16–31.12. 1992; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 236–237.

170 Падрабязней на гэту тэму гл.: I. Artisz, J. Dziurbejko, *Spotkania,* "Głos znad Niemna", nr 30 (64), 26.07–01.08.1993; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 255–257.

Размова з Лехам Валэнсам не прынесла тых вынікаў, на якія разлічваў СПБ. Падчас сустрэчы ў праўленні баранавіцкага аддзела арганізацыі прэзідэнту быў перададзены афіцыйны ліст з пералікам праблем польскай меншасці, якія маглі быць вырашаны з дапамогай польскага боку. Лех Валэнса дакумент прыняў і перадаў яго міністру Мечыславу Вахоўскаму. У выніку ніякай рэакцыі на гэты ліст не было[171].

Пасля таго як Аляксандр Лукашэнка ў ліпені 1994 г. стаў прэзідэнтам Беларусі, беларуска-польскія кантакты і супрацоўніцтва працягваліся[172]. У тэлеграме на яго імя з нагоды перамогі на выбарах Лех Валэнса пісаў: *"Існаванне незалежнай беларускай дзяржавы з'яўляецца для Польшчы ўмовай падрымання стабільнасці ў Цэнтральнай Еўропе"*[173]. Маршалак польскага Сейма Юзаф Алексы, які прысутнічаў на інаўгурацыі прэзідэнта Беларусі 20 ліпеня 1994 г., у сваім выступленні заявіў: *"Польшча зацікаўлена ў тым, каб разам з Беларуссю ісці па шляху пераўтварэнняў да інтэграцыі з Еўропай"*[174]. Візіт у кастрычніку 1994 г. польскай парламенцкай дэлегацыі ў Мінск, у лістападзе — старшыні прэзідыума Вярхоўнага Савета РБ Мечыслава Грыба ў Польшчу і яго сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы, прэм'ер-міністрам, маршалкамі Сейма і Сената, візіт у Польшчу ў студзені 1995 г. Аляксандра Лукашэнкі (з нагоды 50-годдзя вызвалення канцлагера Асвенцім) і яго сустрэча з Лехам Валэнсам давалі надзеі на тое, што польска-беларускае супрацоўніцтва будзе развівацца[175].

Плённыя двухбаковыя адносіны паміж Беларуссю і Польшчай у перыяд з 1991 да 1995 г., і ў першую чаргу непасрэдныя кантакты паміж кіраўнікамі краін і прадстаўнікамі ўрадаў, станоўча ўплывалі на развіццё дзейнасці СПБ. У гэты час СПБ здолеў атрымаць дазвол на будаўніцтва дзвюх польскіх школ у Гродне і адной у Ваўкавыску, дамагчыся адкрыцця Цэнтра польскай культуры ў Гродне. Таксама ўлады не перашкаджалі будаўніцтву Польскіх дамоў у Беларусі для арганізацыі ў іх культурна-адукацыйнай дзейнасці. У 1995 г. у Гродне пачалося ўзвядзенне першай у Беларусі школы з польскай мовай навучання. Культурна-адукацыйная і выдавецкая дзейнасць СПБ перыядычна фінансавалася беларускімі ўладамі. Гэта быў час, калі СПБ разглядаўся беларускім кіраўніцтвам, асабліва ў Гродне, у якасці партнёра для супрацоўніцтва, накіраванага на развіццё незалежнай і суверэннай Беларусі.

Кожная сустрэча на вышэйшым узроўні кіраўніцтва Беларусі і Польшчы станоўча ўплывала на дзейнасць СПБ. Не была выключэннем і сустрэча прэзідэнтаў гэтых краін 30 сакавіка 1996 г. у Віскулях у Белавежскай пушчы. Пасля яе прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі ў Генеральным

171 Тамсама, с. 257.

172 Новая кіруючая кааліцыя ў Польшчы (Саюз дэмакратычнай лявіцы (СДЛ) – Польская сялянская партыя (ПСП) у гэтых кантактах усё больш азіралася на Расію, гл.: M. Habowski, *Stosunki Białorusi z Polską*, [у:] *Białoruś w stosunkach międzynarodowych*, red. I. Topolski, Lublin 2009, s. 241; Гл.: E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010*, s. 44.

173 "Biuletyn Białoruski", 1994, nr 1, s. 16.

174 Тамсама, с. 7.

175 H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 405–407.

консульстве Польшчы сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай дэмакратычнай апазіцыі. А ўвечары на прыёме ў польскім консульстве прысутнічалі старшыні Брэсцкага і Гродзенскага аблвыканкамаў, туды ж быў запрошаны старшыня СПБ. У грамадскай дзейнасці вельмі часта бывае так, што на працягу некалькіх месяцаў арганізацыя не можа дамовіцца з уладамі па якім-небудзь пытанні, а пасля выпадковая сустрэча ў нефармальнай абстаноўцы вырашае ўсе праблемы[176].

З восені 1996 г. двухбаковыя беларуска-польскія адносіны пачалі пагаршацца. Канстытуцыйны рэферэндум 24 лістапада 1996 г., а перад гэтым зняцце з пасады старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах Віктара Ганчара выклікалі не толькі занепакоенасць у беларускай дэмакратычнай супольнасці, але таксама пратэсты ў Польшчы[177]. Акрамя польскіх афіцыйных структур і палітыкаў, з заявамі з нагоды палітычнай сітуацыі, якая склалася ў Беларусі, выступіў і старшыня Саюза беларусаў у Польшчы Яўген Вапа[178].

Пасля рэферэндуму 1996 г. уся ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належала аднаму чалавеку — прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Створаны ім марыянетачны парламент гэту ўладу павінен быў легітымізаваць у вачах беларускай і замежнай супольнасці. У выніку рэферэндуму тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў быў працягнуты на два гады. З гэтага часу ўсе дзеянні Лукашэнкі накіраваныя выключна на ўтрыманне ўлады. Паколькі Польшча не толькі крытыкавала згортванне дэмакратыі ў Беларусі, але і аказвала як маральную падтрымку, так і матэрыяльную дапамогу[179] беларускай дэмакратычнай апазіцыі, то гэта не магло не паўплываць на беларуска-польскія адносіны і стаўленне беларускіх улад да СПБ.

Змены ў адносінах да палякаў Беларусі з боку прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі выявіліся падчас яго візіту ў Гродна ў жніўні 1996 г. На пытанні старшыні СПБ, які прысутнічаў на сустрэчы з прэзідэнтам, не было дадзена ніводнага адказу[180]. Больш за тое, адразу пасля візіту, 3 верасня 1996 г., зняты з пасад і звольнены старшыня Гродзенскага выканаўчага камітэта Генрых

---

176 У 1996 г. СПБ атрымаў пісьмовыя пагрозы з боку мясцовых улад у Гродне: калі СПБ не пабудуе за кошт польскага бюджэту новую свінаферму замест той, якая знаходзілася побач з пляцоўкай пад польскую школу, то горад не дасць дазволу на адкрыццё школы пасля заканчэння яе будаўніцтва. На працягу некалькіх месяцаў не атрымлівалася вырашыць гэтае пытанне такім чынам, каб дэмантаж і перавод свінафермы рабіліся за сродкі яе ўладальніка. На ўрачыстай вячэры ў Брэсце падчас размовы паміж старшынямі СПБ і Гродзенскага аблвыканкама гэтае пытанне было вырашанае. Аляксандр Дубко ўпэўніў, што больш ніхто не будзе турбаваць СПБ па гэтай праблеме і слова стрымаў. Магчыма пра гэта яшчэ раней дамовіліся прэзідэнты і таму Дубко так лёгка пагадзіўся аплаціць усе выдаткі, звязаныя з фермай, з бюджэту Гродзенскай вобласці. А магчыма была і іншая прычына: разуменне кіраўніком вобласці, наколькі неэтычнай з'яўлялася спроба ўлад вырашыць пытанне будаўніцтва свінафермы за кошт польскага боку. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 327–329.

177 Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 413–423; E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010*, s. 93–101.

178 E. Wappa, *Oświadczenie*, "Czasopis", 1996, nr 12, s. 2.

179 Адным з прыкладаў такой дапамогі можна лічыць фінансаванне Беларускага Радыё "Рацыя" і беларускага тэлевізійнага канала "Белсат".

180 Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Karaczun, *Jak w Grodnie witano Prezydenta,* "Głos znad Niemna", nr 34 (224), 26.08–01.09.1996.

Крупенка і загадчыца Ленінскага раённага аддзела адукацыі Людміла Маляўка, якія падтрымлівалі будаўніцтва польскай школы ў Гродне[181].

З гэтага часу (з восені 1996 г.) стала зразумела, што ўлады будуць супрацьдзейнічаць будаўніцтву другой польскай школы ў Гродне і адкрыццю такіх школ у іншых гарадах Беларусі.

У 1997–1999 гг. улады пачалі праводзіць працу, накіраваную на дэзінтэграцыю СПБ, мяркуючы, што калі яны змогуць падзяліць і падпарадкаваць сабе самую актыўную і вялікую польскую грамадскую арганізацыю, то шматлікія праблемы, звязаныя з яе актыўнасцю, знікнуць[182]. У гэтай працы па дэзінтэграцыі СПБ прэзідэнт і ўрад разлічвалі на КДБ і Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей[183]. Кіраўніцтва СПБ, нягледзячы на тое, што беларуска-польскія адносіны пагаршаліся, працягвала камунікаваць як з цэнтральнай, так і з мясцовымі ўладамі, каб дасягнуць пастаўленых мэт развіцця польскага адраджэння[184].

СПБ у пэўнай ступені з'яўляўся закладнікам у Беларусі, ён адказваў за палітыку Польшчы і крытыку беларускага рэжыму. 22 студзеня 1999 г. Сейм Польшчы прыняў пасланне да народа Беларусі, у якім выказаў маральную падтрымку Вярхоўнаму Савету 13 склікання[185]. У пасланні гаварылася пра павагу да ўсіх дэмакратычных сіл, якія змагаліся з рэжымам[186]. У адказ беларускі ўрад з мэтай ціску на Польшчу заявіў пра магчымасць не перарэгістраваць СПБ[187]. Усю віну за гэта ўлады ўскладалі на СПБ, які ў сваёй дзейнасці (як сцвярджаў Камітэт па справах рэлігіій і нацыянальнасцей) парушаў беларускае заканадаўства. Камітэт накіраваў ліст у Міністэрства юстыцыі РБ з прапановай адмовіць СПБ у перарэгістрацыі[188].

Вяршыняй незадаволенасці кіраўніцтва Беларусі падтрымкай з боку Польшчы беларускай грамадзянскай супольнасці, а таксама дзейнасцю СПБ з'явілася публічнае выступленне Аляксандра Лукашэнкі 18 верасня 1999 г. у тэатры оперы ў Мінску з нагоды 60-годдзя далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Ён

---

181 *Указ президента РБ № 348 от 3 сентября 1996 года,* [у:] *Сборник Декретов и Указов Президента РБ за 1996 год,* Минск 1997.

182 М. Гаравы, *Палякаў збіраюцца заклікаць "к порядку",* "Пагоня", № 37 (414), 3.06.1999. У дадзеным артыкуле разглядаецца ліст Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей, накіраваны ў Савет Міністраў РБ, у якім даволі дакладна напісана, што трэба зрабіць, каб паслабіць актыўную дзейнасць СПБ і прывесці яго да дэзінтэграцыі.

183 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polska mniejszość narodowa na Białorusi w latach 1987–2005 a dyplomacja polska,* [у:] *Polska dyplomacja na Wschodzie w XX — początkach XXI wieku,* s. 513; ён жа, *Historia niszczenia niezależności Związku Polaków na Białorusi (1988–2005),* [у:] *Białoruś trudna droga do demokracji,* red. M. Iwanow, Wrocław 2006, s. 83–103.

184 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, с. 364, 368, 372–373.

185 Г. Барбарыч, *Палякі салідарныя з апазіцыяй,* "Пагоня", № 6 (383), 26.01.1999.

186 H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 418–419.

187 У 1999 г. беларускімі ўладамі была абвешчана планавая перарэгістрацыя ўсіх грамадскіх арганізацый і палітычных партый.

188 Міністэрства юстыцыі перарэгістравала СПБ, пры гэтам заявіла, што не знайшло ў дзейнасці СПБ парушэнняў беларускага заканадаўства і Статута арганізацыі. Гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki,* s. 446–447; AK. (Andrzej Kusielczuk), *Viktoria! Dwudziestego czwartego września Związek Polaków na Białorusi został ponownie zarejestrowany,* "Głos znad Niemna", Nr 39 (386), 1.10.1999.

заявіў: *“Сотня-другая ў Гродне і іншых гарадах Беларусі, якія высока аплачваюцца Захадам, спрабуюць навязаць уладам польскае пытанне, мы ім гэта не дазволім зрабіць”*[189]. Верагодна сам прэзідэнт Лукашэнка не верыў у тое, што казаў. У падрыхтаваным да друку Беларускім Тэлеграфным Агенцтвам (БЕЛТА) артыкуле гэты фрагмент яго выступлення адсутнічаў[190].

Гэтая заява прэзідэнта была дырэктыўным указаннем структурам заканадаўчай і выканаўчай улады аб тым, якім чынам трэба будаваць адносіны з СПБ. Таксама гэта быў сігнал для кіраўніцтва Польшчы, які сведчыў, што працяг дапамогі беларускай грамадзянскай супольнасці паўплывае на абмежаванне свабоды дзейнасці СПБ. Сур’ёзны канфлікт паміж прэзідэнтамі Польшчы і Беларусі адбыўся ў Стамбуле падчас сустрэчы лідараў 52 краін — членаў АБСЕ. Лукашэнка ў сваім выступленні крытыкаваў Польшчу і яе прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага за ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Беларусі[191].

Напружаныя адносіны паміж Беларуссю і Польшчай, якія пастаянна пагаршаліся, а таксама заява Аляксандра Лукашэнкі ў тэатры оперы ў Мінску 18 верасня 1999 г. на святкаванні 60-годдзя ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР былі асноўнымі прычынамі таго, што 15 лістапада 1999 г. СПБ атрымаў ліст ад улад Гродна, у якім паведамлялася, што няма неабходнасці будаваць другую польскую школу ў горадзе[192]. З гэтага часу амаль усе адукацыйныя ініцыятывы СПБ не падтрымліваліся ўладамі. Змена старшыні СПБ, як было ўжо адзначана вышэй, павінна была, на думку польскай дыпламатыі, вырашыць гэту праблему. Але, як паказаў час, такая ракіроўка не прынесла чаканых вынікаў[193].

---

189 А. Лукашенко, *Единство Беларуси: Освящённое историей и устремлённое в будущее,* Минск 1999, с. 20–21.

190 БЕЛТА, *Уз’яднанне Беларусі стала гістарычным справядлівым дзеяннем,* “Звязда”, № 180 (2378), 21.09.1999; *Воссоединение Беларуси стало исторически справедливым деянием,* “Рэспубліка”, № 231 (2174), 21.09.1999.

191 Падрабязней на гэту тэму гл.: П. Мажэйка, *Лукашэнка зноў выкарыстаў палякаў,* “Пагоня”, № 65 (442), 25.11.1999; AD, (Andrzej Dubikowski), *Bezpieczny świat w nowym milenium. Słowa już padły czekamy na czyny,* “Głos znad Niemna”, nr 47 (394), 26.11.1999; N. Malinowska, *Bezpieczna Europa. Udział w szczycie OBWE delegacji z Białorusi,* “Głos znad Niemna”, nr 46 (393), 19.11.1999.

192 Архіў СПБ, уваходныя дакументы за 1999 год; (Andrzej Dubikowski), *Bezpieczny świat w nowym milenium. Słowa już padły czekamy na czyny,* “Głos znad Niemna”, nr 47 (394), 26.11.1999.

193 Узнікаюць пытанні, чаму старшыня СПБ Тадэвуш Кручкоўскі, які быў прыхільнікам інтэграцыі Беларусі з Расіяй (M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem, a tożsamością*, s. 476–477) адкрыта дэклараваў сваё непрыхільнае стаўленне да беларускага нацыянальнага руху, падтрымліваў палітыку беларускіх улад і падпарадкаваў ім дзейнасць СПБ, на пасадзе кіраўніка самай моцнай арганізацыі, гатовай змагацца за польскае нацыянальнае адраджэнне, не змог атрымаць ад улад прэферэнцый у справе развіцця польскамоўнай адукацыі ў РБ. Чаму ўсё тое, што з такімі вялікімі цяжкасцямі было здабыта Саюзам палякаў на Беларусі, за перыяд яго праўлення альбо было страчана, альбо знаходзілася на стадыі ліквідацыі? Адказаць на гэтыя пытанні магчыма толькі ў выніку правядзення грунтоўнага даследавання. Вядома адно: мэта, якую ставілі перад сабой беларускія ўлады (зніжэнне актыўнасці СПБ у справе адраджэння польскамоўнай адукацыі) была дасягнутая. Незалежна ад таго, як развіваліся беларуска-польскія адносіны, улады мелі падначаленае ім кіраўніцтва СПБ. Гэта значыць, што дзейнасць польскай арганізацыі рэгламентавалася беларускімі ўладамі, яна не мела магчымасці самастойна прасоўваць ініцыятывы, звязаныя з нацыянальным адраджэннем.

Сітуацыю павінна была змяніць Анжаліка Борыс, якая 12 сакавіка 2005 г. на VI з'ездзе СПБ была абрана на пасаду старшыні арганізацыі. Беларускія ўлады разумелі, што пасля абрання А. Борыс яны страцяць магчымасць не толькі накіроўваць дзейнасць СПБ у патрэбнае ім рэчышча, як было раней, але і кантраляваць яго. Іншымі словамі, новае кіраўніцтва СПБ не будзе, як раней, беспярэчна ім падпарадкоўвацца. Гэта стала галоўнай прычынай прызнання рашэння VI з'езда несапраўдным насуперак беларускаму заканадаўству і Статуту СПБ[194].

Гэтыя падзеі яшчэ больш абвастрылі адносіны паміж Польшчай і Беларуссю. Працягам пагаршэння беларуска-польскіх стасункаў стала правядзенне пры падтрымцы беларускіх улад і пры дапамозе Тадэвуша Кручкоўскага паўторнага з'езда СПБ 27 жніўня 2005 г. у Ваўкавыску, на якім на пасаду старшыні СПБ абралі Юзафа Лучніка. Такім чынам, умяшальніцтва ўлады стварыла сітуацыю, пры якой дзейнічаў адзін Саюз палякаў на Беларусі і два яго кіраўніцтвы: адно на чале з Анжалікай Борыс, другое — з Юзафам Лучнікам. Польшча прызнала кіраўніцтва Анжалікі Борыс, а беларускія ўлады — Юзафа Лучніка[195].

У гэтай сітуацыі ў ролі пераможцаў выступілі ўлады Беларусі. Яны змаглі дэзінтэграваць самую вялікую ў РБ не толькі нацыянальную, але і грамадскую арганізацыю. Пры гэтым улады і звязаныя з імі беларускія даследчыкі, а таксама дзяржаўныя прапагандысты беспадстаўна абвінавацілі ў дэзінтэграцыі СПБ дэлегатаў з'езда, якія абралі Анжаліку Борыс нібыта з парушэннямі беларускага заканадаўства і Статута СПБ[196]. У польскай гістарыяграфіі некаторыя даследчыкі не толькі прытрымліваюцца падобнага меркавання, але, больш за тое, дэзінтэграцыю СПБ звязваюць з выбраннем Анжалікі Борыс на пасаду старшыні СПБ, з ангажаваннем яе і асобных членаў СПБ у палітычную дзейнасць у Беларусі[197]. Гэтае сцвярджэнне, як трап-

---

194 Падрабязней на тэму ўмяшальніцтва беларускіх улад у падрыхтоўку VI з'езда СПБ, падтрымкі Тадэвуша Кручкоўскага ў справе паўторнага абрання яго на пасаду старшыні СПБ гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005*, s. 114–134; T. Malewicz, *Wewnętrzne i zewnętrzne przyczyny podziałów w Związku Polaków na Białorusi (albo jak zmarnowano ZPB),* [у:] *Polska mniejszość na Białorusi 1988–2009,* s. 116–117.

195 Падрабязней на тэму падтрымкі СПБ Анжалікі Борыс Польшчай, а таксама падтрымкі кіраўніцтва Юзафа Лучніка з боку беларускіх улад, ролі ў гэтым спецыяльных службаў, у тым ліку КДБ, адміністрацыі прэзідэнта РБ, усіх органаў выканаўчай улады і СМІ, гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005,* s. 200–286; M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem, a tożsamością*, s. 477–478.

196 На самой справе гэта была загадзя спланаваная і добра падрыхтаваная беларускімі ўладамі і сілавымі службамі спецыяльная аперацыя па перадачы кіраўніцтва СПБ у рукі чалавека, зацверджанага ўладамі. Анжаліка Борыс такім чалавекам не з'яўлялася, таму паўсталі ўсе праблемы, звязаныя з выбраннем яе на пасаду старшыні СПБ. На карысць прыведзенага сцвярджэння сведчыць факт узнагароды вышэйшых кіраўнікоў адміністрацыі прэзідэнта, цэнтральнага і мясцовага апаратаў КДБ, МУС, юстыцыі і іншых органаў улады з фармулёўкай "За ўзорную падрыхтоўку і правядзенне на найвышэйшым узроўні мерапрыемстваў, якія ўмацоўваюць стабільнасць у сферы міжнародных адносін". Так кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Віктар Шэйман, які падпісаў загад аб узнагароджванні, назваў мерапрыемствы, накіраваныя на дэзінтэграцыю СПБ. Падрабязней на тэму зместу загада, а таксама спіса ўзнагароджаных дзяржаўных і спецыяльных служачых гл.: A. Poczobut, *Decydenci i marionetki*, "Głos znad Niemna", nr 21 (677), 22.09.2005; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 408–410.

197 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Zasada, *Polska–Białoruś — sąsiedztwo skazane na niepowodzenie?*, [у:] *Polska i Białoruś we współczesnej Europie*, s. 138–140; J. Maroszek*, Działalność Związku Polaków na Białorusi*

на заўважыў тагачасны маршалак польскага Сейма Уладзімеж Цімашэвіч, не мае нічога агульнага з рэчаіснасцю, паколькі, як ён заявіў: *“На пасаду старшыні СПБ была выбрана польская настаўніца з Гродна, дагэтуль палітычна не актыўная”*[198].

Нелегальнае кіраўніцтва СПБ на чале з Анжалікай Борыс (менавіта такі статус улады яму прыпісалі) больш не магло легальна праводзіць сваю дзейнасць у кірунку актыўнага адраджэння польскамоўнай адукацыі ў Беларусі. “Арганізацыя” Лучніка, як паслухмяная беларускай уладзе марыянетка, не праяўляла (і не павінна была праяўляць) ініцыятывы ў развіцці польскай культурна-адукацыйнай працы. Час паказаў, што кіраўніцтва Беларусі не памылілася ў выбары, паколькі праўладная польская арганізацыя не толькі не прасунулася ўперад у справе польскага адраджэння, але і страціла тое, што незаконна прысвоіла[199].

Першая спроба нармалізаваць сітуацыю ў СПБ была зроблена польскім МЗС сумесна з беларускім бокам восенню 2008 г., але яна правалілася. Польскі цэнтральны друк абвінавaціў міністэрства замежных спраў у Варшаве ў тым, што яно рэалізуе па ўказцы Лукашэнкі яго план па наладжванні спраў у СПБ[200]. Другой спробай нармалізацыі дзейнасці СПБ стала сустрэча міністра замежных спраў Польшчы Радаслава Сікорскага з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам у лютым 2010 г. у Кіеве[201]. Размова, якая датычылася выключна палякаў у Беларусі і СПБ, доўжылася каля гадзіны. Пасля сустрэчы Сікорскі заявіў: *“Прэзідэнт Беларусі ўпэўніў мяне ў тым, што можа быць створана група экспертаў, якая за кароткі тэрмін знойдзе рашэнне, што будзе задавальняць абодва бакі”*[202]. Сікорскі звярнуўся да польскіх палітыкаў і СМІ з прапановай, каб яны ў сваіх выступленнях і публікацыях не абвастралі адносіны з Беларуссю, а таксама сітуацыю, якая склалася ў СПБ. Толькі такім чынам, лічыў міністр, магчыма было выпрацаваць спрыяльныя і карысныя для польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі рашэнні[203].

За некалькі дзён да гэтай сустрэчы прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі прыняў дэлегацыю СПБ на чале з Анжалікай Борыс і выказаў сваю салідарнасць

*pod kierownictwem Józefa Łucznika 2005–2009,* [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009,* s. 102–107.

198 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005,* s. 133–134.

199 Забраўшы пры падтрымцы беларускіх улад друкаваны орган СПБ “Głos znad Niemna”, які меў у лепшыя часы сваёй дзейнасці каля 10 тысяч падпісчыкаў, СПБ пад кіраўніцтвам М. Лысага зрабіў яго банкрутам, хаця першапачаткова ўлады абяцалі фінансавую дапамогу для яго выдання. Заняпад газеты чарговы раз адлюстроўвае тое, наколькі беларускія ўлады былі не зацікаўленыя не толькі ў развіцці польскай грамадскай дзейнасці, але таксама і ў развіцці польскамоўнага друку ў РБ.

200 Падрабязней на гэту тэму гл.: H. Giebień, *Polska wobec mniejszości polskiej na Białorusi w latach 1991–2016 (do października 2016). Zarys problemu,* [у:] *Polacy na Białorusi,* s. 551–559; “Rzeczpospolita”, 20.09.2008 i 22.09.2008; M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem, a tożsamością*, s. 387.

201 Быў запрошаны на інаўгурацыю прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча.

202 http://www.newsweek.pl/swiat/sikorski-z-lukaszenka-o-polakach-na-bialorusi,54318,1,1.html, [27.10.2016].

203 Тамсама.

з арганізацыяй, а таксама заклікаў Еўрапейскі Саюз прызнаць СПБ пад кіраўніцтвам А. Борыс[204].

Усе спробы нармалізаваць беларуска-польскія адносіны (а таксама сітуацыю ў СПБ) па сённяшні дзень не прывялі да чаканага канструктыўнага выніку. На гэта было некалькі прычын. Трагічная смерць Леха Качыньскага 10 красавіка 2010 г. у авіяцыйнай катастрофе пад Смаленскам прывяла да страты самага вернага справам СПБ высокага ўзроўню дзяржаўнага дзеяча. Сфабрыкаваныя асяроддзем Аляксандра Лукашэнкі чарговыя прэзідэнцкія выбары 2010 г. выклікалі негатыўную рэакцыю ў дэмакратычнай сусветнай супольнасці, у тым ліку ў Польшчы. Гэта зноў рэзка пагоршыла польска-беларускія адносіны і справы СПБ[205].

Пасля прыходу да ўлады ў Польшчы ў кастрычніку 2015 г. палітычнай партыі "Права і Справядлівасць" аднавіліся беларуска-польскія перамовы на ўзроўні міністраў замежных спраў[206]. У пачатку 2016 г. з польскага боку распачаліся спробы нармалізацыі адносін з Беларуссю. 22 сакавіка 2016 г. адбыліся візіт міністра замежных спраў Польшчы Вітальда Вашчыкоўскага ў Мінск і яго сустрэча з міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Макеем. На прэс-канферэнцыі пасля сустрэчы міністр Вашчыкоўскі заявіў: *"Польшча гатовая дапамагчы Беларусі ва ўсіх накірунках будаўніцтва сучаснай, добра кіраванай, бяспечнай і суверэннай дзяржавы"*. Падчас сустрэчы міністраў закраналіся праблемы польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі[207]. Вашчыкоўскі адзначыў, што бакі дамовіліся далей размаўляць па гэтым пытанні і весці практычны дыялог[208]. На наступны дзень польскі міністр сустрэўся з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Пацяпленне беларуска-польскіх адносін, якое было ініцыявана міністрам Вашчыкоўскім, ужо 20 ліпеня 2016 г. прынесла першы сур'ёзны вынік у выглядзе падпісанай у Варшаве дамовы "Аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі паміж Беларуссю і Польшчай"[209]. Важным аспектам для СПБ і палякаў

---

[204] http://www.newsweek.pl/polska/spotkanie-andzeliki-borys-z-prezydentem-kaczynskim,54157,1,1.html, [27.10.2016].

[205] Пытанне нармалізацыі сітуацыі ў СПБ было настолькі сур'ёзным, што знайсці рашэнне, якое б задавальняла абодва бакі канфлікту, было вельмі складана. Польскія грамадскія дзеячы, якія пераследаваліся і арыштоўваліся на 15–30 сутак (Юзаф Пажэцкі, Анджэй Пачобут, Мечыслаў Яскевіч, Анджэй Пісальнік, Веслаў Кеўляк) не жадалі сядаць за стол перамоў з тымі, хто здрадзіў усяму таму, за што яны змагаліся на працягу існавання СПБ. Калі Анжаліка Борыс, Анжаліка Арэхва, Анджэй Пачобут, Мечыслаў Яскевіч, Анджэй Пісальнік, Юзаф Пажэцкі і іншыя польскія грамадскія дзеячы змагаліся за права палякаў развіваць сваю культурна-адукацыйную дзейнасць, то Юзаф Лучнік, Станіслаў Сямашка, Казімір Знайдзінскі і іншыя былі ўцягнутыя беларускімі ўладамі ў палітычную дзейнасць, падтрымлівалі рэжым Аляксандра Лукашэнкі і не займаліся адукацыйнымі праблемамі польскай меншасці. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Stan aktualny 2010 i perspektywy rozwoju Związku Polaków na Białorusi*, [у:] *Polska mniejszość na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności,* s. 271, przyp. 1, s. 286, przyp. 37.

[206] Да гэтага 8 год у Польшчы ва ўладзе знаходзілася правячая кааліцыя партый Грамадзянская платформа (ГП) і Польскай сялянскай партыі (ПСП).

[207] Трактаваць гэта варта як дыялог пра стан і лёс СПБ.

[208] http://www.polskieradio.pl/5/3/Artykul/1598030, Witold-Waszczykowski-w-Minsku-Polska-gotowa-pomoc-Bialorusi, [30.10.2016].

[209] Дамову падпісалі намеснік міністра замежных спраў РБ Алена Купчына і намеснік міністра замежных спраў РП Марэк Зюлкоўскі.

у Беларусі ў гэтым дакуменце было тое, што беларускі бок абавязваўся стварыць усе неабходныя ўмовы для развіцця польскай адукацыі. Дамова пашырыла магчымасці для актыўнай дзейнасці ў сферы польскамоўнай адукацыі для польскіх грамадскіх арганізацый.

Афіцыйны візіт маршалка Сената Польшчы Станіслава Карчэўскага ў Мінск 5 снежня 2016 г. і яго сустрэчы з старшынямі абедзвюх Палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам сталі чарговай спробай ліквідацыі дэзінтэграцыі СПБ, але чаканых вынікаў для польскага боку не прынеслі. Пры гэтым Станіслаў Карчэўскі сказаў, што ўлады Беларусі ведаюць праблему і гатовы яе вырашаць[210]. Варта заўважыць, што гатоўнасць беларускага боку не ішла далей за выстаўленне невыканальнага патрабавання да Польшчы і СПБ Анжалікі Борыс аб аб'яднанні дзвюх арганізацый у адну, падкантрольную ўладам Беларусі[211]. Візіт маршалка Сената праблему дэзінтэграцыі СПБ не вырашыў, але стварыў спрыяльны клімат для правядзення IX з'езда СПБ у Гродне 10 снежня 2016 г. Яго дэлегаты ўпершыню з 2005 г. не зазналі прэвентыўных арыштаў, запужванняў і затрыманняў[212].

Як адзначалася вышэй, дамова "Аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі паміж Беларуссю і Польшчай" давала магчымасці для адраджэння польскамоўнай адукацыі. Перашкодай для іх рэалізацыі стала ігнараванне пытання польскамоўнай адукацыі кіраўніцтвам СПБ, падпарадкаванага беларускім уладам. Гэтая "польская арганізацыя" ўжо 12 гадоў сваёй бяздзейнасцю свядома стрымлівае развіццё польскай культурна-адукацыйнай дзейнасці ў РБ, што шкодзіць як польскай нацыянальнай меншасці, так і польскаму дзяржаўнаму інтарэсу. Слабасць іншых польскіх арганізацый, якія існуюць у Беларусі, выкліканая нізкай актыўнасцю і недастатковай харызматычнасцю іх лідараў, дазваляе ўладам тармазіць іх культурніцкія і адукацыйныя ініцыятывы.

Працу па развіцці польскай культурна-адукацыйнай дзейнасці пастаянна ажыццяўляў дэзінтэграваны СПБ пад кіраўніцтвам у розны час Анжалікі

[210] Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Szoszyn, *Białoruś: Ważą się losy Związku Polaków*, http://www.rp.pl/Polityka/311019934-Bialorus-Waza-sie-losy-Zwiazku-Polakow.html#ap-1, [4.11.2016]; *Polacy na Białorusi nie dadzą sobą manipulować! Nie — dla pomysłu połączenia z KGB-owskim związkiem*, https://reporters.pl/3305/polacy-na-bialorusi-nie-dadza-soba-manipulowac-nie-dla-pomyslu-polaczenia-z-kgb-owskim-zwiazkiem/, [8.11.2016]; *Karczewskiego i Miasnikowicza rozmowy o ZPB*, http://znadniemna.pl/19971/karczewskiego-miasnikowicza-rozmowy-o-zpb/, [5.12.2016]; *Marszałek Senatu RP spotkał się z Łukaszenką*, http://znadniemna.pl/19958/marszalek-senatu-rp-spotkal-sie-lukaszenka/, [5.12.2016]; *Co dalej ze Związkiem Polaków na Białorusi,* https://www.magnapolonia.org/lukaszenka-do-karczewskiego-zawsze-zylismy-w-zgodzie-i-przyjazni-mamy-bliska-a-czasem-wspolna-historie/, [12.12.2016]; A. Poczobut, *Ciepły człowiek i zabójstwa polityczne*, http://wyborcza.pl/7,75968,21090890, cieply-czlowiek-i-zabojstwa-polityczne.html, [12.12.2016]; В. Сямашка, *К. Паўлік: Беларусь і Польшча шмат у чым адна адной могуць падставіць плячо!*, http://www.racyja.com/palityka/konrad-paulik-belarus-i-polshcha-shmat/, [21.11.2016].

[211] Падрабязней на гэту тэму гл.: *Спикер Сената Польши: Мы не будем "торговать" независимыми СМИ, белорусской оппозицией и польским национальным меньшинством,* http://www.moyby.com/news/249463, [30.12.2016]; *Polacy na Białorusi nie dadzą sobą manipulować! Nie — dla pomysłu połączenia z KGB-owskim związkiem*, https://reporters.pl/3305/polacy-na-bialorusi-nie-dadza-soba-manipulowac-nie-dla-pomyslu-polaczenia-z-kgb-owskim-zwiazkiem/, [8.11.2016].

[212] Адзіным дэлегатам з'езда, якога беларускія ўлады з дапамогай ціску на ўлады касцельныя не дапусцілі да ўдзелу, быў ксёндз Аляксандр Шэмет, капелан, духоўны бацька Саюза палякаў на Беларусі з 1990 г. Гл.: R. Szoszyn, *Andżelika Borys jednoczy Polaków na Białorusi*, "Rzeczpospolita", 12.12. 2016.

Борыс, Анжалікі Арэхвы і Мечыслава Яскевіча[213]. Гэтая дзейнасць праходзіла ў складаных палітычных умовах супрацьстаяння з боку беларускіх улад. Таму вельмі важным з'яўляецца пытанне нармалізацыі сітуацыі ў СПБ, ліквідацыі яго дэзінтэграцыі[214]. Толькі адзіны, незалежны і аб'яднаны агульнымі мэтамі і задачамі СПБ пры падтрымцы Польшчы і беларускай грамадзянскай супольнасці зможа вырашыць з беларускімі ўладамі пытанне пра далейшае будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Рэспубліцы Беларусь.

[213] Падрабязней на гэту тэму гл.: Архіў СПБ Анжалікі Борыс: Sprawozdanie za lata działalności Związku Polaków na Białorusi 2012–2016 wygłoszone na IX Zjeździe ZPB10 grudnia 2016 r. przez prezesa ZPB Mieczysława Jaśkiewicza; Sprawozdanie prezesa Rady Naczelnej ZPB za lata 2012–2016 Andżeliki Borys z dnia 10 grudnia 2016 r.; Заява IX З'езду "Саюза палякаў на Беларусі" ад 10 снежня 2016 г.; Заявление IX Съезда Общественного Объединения "Союз поляков на Беларуси" о нормализации отношений с органами власти; Обращение делегатов IX Съезда Общественного Объединения "Союз поляков на Беларуси" к президенту Республики Беларусь А. Г. Лукашенко "О строительстве школы с польским языком обучения в г. Гродно"; Oświadczenie IX Zjazdu "Związku Polaków na Białorusi" o sytuacji polskiej społeczności na Białorusi; List delegatów IX Zjazdu ZPB do premier Rządu Rzeczypospolitej Polskiej Beaty Szydło. Пра дзейнасць СПБ у 2005–2010 гг., а таксама ў 2010–2012 гг. гл.: Справаздачы старшынь СПБ Анжалікі Борыс і Анжалікі Арэхвы перад дэлегатамі VII і VIII з'ездаў СПБ.
O działalności legalnie wybranych władz ZPB na VI Zjeździe ZPB w marcu 2005 r., гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 410–418.

[214] Пасол Польшчы ў РБ Конрад Паўлік 9 лістапада 2016 г. у інтэрв'ю Радыё "Рацыя" заявіў: *"Гэта праблема на нашым парадку дня пастаянна. Цягам апошняга візіту Вітальда Ваўшчыкоўскага было ж сумесна заяўлена, што бакі гатовыя абмяркоўваць і вырашаць УСЕ пытанні ў любых сферах. Але не ў мітынговым запале, а, як мне здаецца, крок за крокам у ціішыні кабінетаў. Веру, што даможамся канкрэтных вынікаў"*. Падрабязней на гэту тэму гл.: В. Сямашка, *Конрад Паўлік: Беларусь і Польшча шмат у чым адна адной могуць падставіць плячо!* http://www.racyja.com/palityka/konrad-paulik-belarus-i-polshcha-shmat/, [21.11.2016]; М. Карневіч, "*Нас называюць "лукашэнкаўцамі" і не прызнаюць", – афіцыйны Саюз палякаў пра магчымае аб'яднанне зь неафіцыйным,* https://www.svaboda.org/a/28106431.html, [21.11.2016].

# 5. Канцэпцыя беларускага народа ў дзяржаўнай ідэалогіі. Польская этнічная супольнасць

Беларусь — гэта краіна міжнацыянальнай і міжканфесійнай згоды. Так у сваіх публічных выступах і афіцыйных дакументах называюць яе прадстаўнікі беларускай улады[215]. Яны сцвярджаюць, што ў Беларусі няма ніякіх перадумоў і падстаў для ўзнікнення канфліктаў на нацыянальнай, расавай або моўнай глебе. І галоўнай мэтай дзяржавы з'яўляецца далейшае захаванне такой сітуацыі[216].

Важным фактарам, які забяспечвае мірнае суіснаванне і гарманічнае развіццё розных нацыянальных супольнасцей, лічыцца нацыянальная палітыка беларускай дзяржавы. У афіцыйных справаздачах улады гэтая палітыка выглядае даволі прыстойна. Не ведаючы рэчаіснасці, можна прыйсці да высновы, што Беларусь — гэта выспа дабрабыту ў Еўропе для ўсіх нацыянальнасцей. На самой справе гэта зусім не так. На практыцы ўлады Беларусі праводзяць дыскрымінацыйную нацыянальную і моўную палітыку нават у дачыненні да тытульнай нацыі РБ — беларусаў[217].

Права беларускіх палякаў на навучанне на польскай мове пастаянна абмяжоўваецца ўладамі. Польскі грамадскі дзеяч і журналіст Анджэй Пачобут з Гродна заявіў на гэты конт наступнае: *"На некалькі соцень тысяч палякаў у РБ дзейнічаюць па-ранейшаму толькі дзве польскія школы. Але і тут улада выкарыстоўвае абмежаванні. У гэтым годзе* (2016 г.— Т. Г.) *у польскай школе ў Гродне павінны былі быць тры першыя класы, столькі было жадаючых, але ўлады дазволілі сфарміраваць толькі два. Апроч таго, ліквідавалі адзіную ў Гродне польскую групу ў дзіцячым садку"*[218].

Адным з фактараў, які ўплывае на нацыянальную палітыку Беларусі, з'яўляецца дзяржаўная ідэалогія, якая пачала ўводзіцца з 2003 г. у якасці навучальнага прадмета ва ўсіх сярэдніх і вышэйшых установах адукацыі[219]. Высту-

215 Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, [у:] *Polityka etniczna współczesnych państw Europy Środkowo-Wschodniej*, red. H. Chałupczak, R. Zenderowski, W. Baluk, Lublin 2015, s. 97–148; W. Śleszyński, *Historia w służbie polityki. Zmiany polityczne a konstruowanie przekazu historycznego na ziemiach białoruskich w XX i XXI wieku,* Białystok 2018, s. 321-385.

216 Для ідэалагічнай апрацоўкі і пераканання маладога пакалення ў тым, што сучасная беларуская нацыя фарміравалася ва ўмовах пастаяннага ўзаемадзеяння з іншымі нацыямі, а гэта, у сваю чаргу, абумовіла этнічную талерантнасць беларусаў, выкарыстоўваюцца беларускія школьныя падручнікі. Гл.: *Национальная политика в Республике Беларусь*, [у:] *Учебное пособие для 11 класса общеобразовательных учреждений*, http://userdocs.ru/pravo/920/index.html?page=17, [4.11.2016].

217 Пацвярджэннем гэтага тэзіса з'яўляецца, напрыклад, тое, што ў Гродне, дзе пераважную большасць насельніцтва складаюць беларусы, па сённяшні дзень няма ніводнай беларускамоўнай школы. У 2016 г. на больш чым 300 тысяч насельніцтва ў горадзе працавала толькі адна беларускамоўная група ў дзіцячым садку, другая, дзякуючы актыўнасці бацькоў, павінна адкрыцца ў 2017 г. Гл.: *Гродненская семья добивается открытия белорусской группы в детском саду*, https://charter97.org/ru/news/2016/11/1/229679/, [07.08.2017].

218 R. Szoszyn, *Białoruś: Ważą się losy Związku Polaków*, http://www.rp.pl/Polityka/311019934-Bialorus-Waza-sie-losy-Zwiazku-Polakow.html#ap-1, [4.11.2016].

219 Падрабязней на тэму практыкі функцыянавання ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах гл.: Z. J. Winnicki, *Ideologia państwowa Republiki Białoruś — teoria i praktyka projektu. Analiza politologiczna*, Wrocław 2013, s. 381–397; E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, s. 97.

паючы з дакладам на семінары кіраўнікоў аддзелаў па ідэалагічнай працы 27 сакавіка 2003 г., прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сказаў: *"Грамадства не можа існаваць без цэласнага зводу ідэй, каштоўнасцей і нормаў, якія аб'ядноўваюць усіх грамадзян. Дзяржава без ідэалогіі, як і чалавек без думкі, не можа жыць і развівацца, тым больш супрацьстаяць унутраным і знешнім пагрозам і выклікам. Ідэалогія для дзяржавы — тое самае, што імунная сістэма для жывога арганізма.* [...] *Калі мы хочам бачыць Беларусь моцнай, квітнеючай краінай, то павінны, перш за ўсё, думаць пра ідэалагічны фундамент беларускага грамадства"*[220].

А. Лукашэнка, распрацоўваючы і ўкараняючы прынцыпы дзяржаўнай ідэалогіі, думаў не пра шматнацыянальнае грамадства ў Беларусі і не пра беларускія нацыянальна-патрыятычныя сілы, якія змагаюцца за сапраўды незалежную, суверэнную і дэмакратычную дзяржаву, а перадусім баяўся ўнутраных пагроз і выкарыстоўваў ідэалогію для ўтрымання асабістай улады ў краіне.

У сваім выступленні на вышэйзгаданым семінары Лукашэнка абвінаваціў беларускія нацыянальна-патрыятычныя сілы ў спробе пабудаваць (да прыходу яго да ўлады) дзяржаўную ідэалогію на прынцыпах крайняга нацыяналізму. Пры гэтым ён прывёў надуманыя прыклады ганенняў на рускіх у Беларусі[221]. Напэўна, гэтыя выказванні Лукашэнкі павінны былі выклікаць у беларускім грамадстве непрыняцце ідэй апазіцыйных арганізацый і партый. Вопыт амаль дзесяцігадовага знаходжання А. Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта ў той час паказваў, што закон у Беларусі — гэта ён і яго асяроддзе. Дзяржаўная ідэалогія павінна была дапамагчы падтрымліваць такі стан спраў.

Галоўны ідэолаг беларускай дзяржавы прафесар Яўген Бабосаў[222] у распрацаваным ім курсе лекцый піша: *"Беларуская мадэль этнакультурнага развіцця дапускае рэалізацыю жыццёвых інтарэсаў грамадзян усіх нацыянальнасцей,* [...] *дзякуючы якім яны кансалідуюцца ў скрайне шырокую сацыяльную супольнасць — беларускі народ.* [...] *Адным з істотных элементаў беларускай мадэлі этнакультурнага развіцця з'яўляецца фарміраванне агульнабеларускай ідэнтычнасці ва ўсіх грамадзян Беларусі незалежна ад іх нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасці"*[223]. Я. Бабосаў не вынайшаў нічога новага, прапаноўваючы беларускую мадэль этнакультурнага развіцця. Падобная мадэль існавала ў СССР. Да распаду Савецкага Саюза ўсе яго грамадзяне былі ўцягнуты ў стварэнне новай супольнасці — савецкага народа. Як вядома, гэтая супольнасць не была пабудавана, а беларусы і палякі, карэннае насельніцтва БССР, у той час зазналі прымусовую русіфікацыю і саветызацыю.

Беларуская мадэль этнакультурнага развіцця, паводле Бабосава, на практыцы не мае на мэце рэалізацыю жыццёвых інтарэсаў усіх нацыянальнасцей. Гэтая мадэль працуе выключна ў інтарэсах адной нацыянальнай групы — рускай,

---

220 Z. J. Winnicki, *Ideologia państwowa Republiki Białoruś — teoria i praktyka projektu. Analiza politologiczna*, s. 431.

221 Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 436.

222 E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, s. 98.

223 Е. Бабосов, *Основы идеологии Белорусского Государства. Курс лекций*, Минск 2012, с. 157.

якая ў Беларусі ўладамі пастаўлена ў прывілеяванае становішча. І зусім мадэль не задавальняе інтарэсы тытульнай нацыі — беларусаў.

У іншай сваёй працы Я. Бабосаў паставіў знак роўнасці паміж інтарэсамі дзяржавы (якую прадстаўляе ўлада) і беларускім народам (усімі грамадзянамі краіны). Ён сцвярджае: *"У цяперашні час больш дакладным робіцца разуменне таго, што без нацыянальнай ідэнтыфікацыі немагчыма вызначыць нацыянальныя інтарэсы, асабліва мэты і задачы ўнутранай і замежнай палітыкі дзяржавы, знайсці годнае месца Беларусі ў сучасным свеце. Нам неабходна ідэалогія, якая б не падзяляла дзяржаву і народ, а аб'ядноўвала іх у адно цэлае. Таму ядром нашай ідэалогіі можа і павінна быць нацыянальная ідэя.* […] *Калі б нацыянальную ідэю можна было назваць адным словам, то слова гэтае гучыць "беларускасць"*[224]. Далей аўтар удакладняе, што "беларускасць" ні ў якім выпадку не з'яўляецца толькі ідэнтыфікацыяй з беларускай мовай, культурай, ментальнасцю, а перш за ўсё атаясамліваецца з беларускай дзяржавай. Бабосаў лічыць, што беларуская мова і культура — другарадныя пытанні для беларускай нацыянальнай свядомасці, таму што *"беларускі народ складаюць не толькі беларусы, хаця складаюць яны большасць, але таксама рускія, украінцы, палякі, літоўцы, габрэі, татары. Усе яны з'яўляюцца дзецьмі адной Радзімы"*[225].

Незалежныя беларускія палітолагі і сацыёлагі разглядаюць дзяржаўную ідэалогію як утопію, якая служыць для абгрунтавання аўтарытарнага рэжыму палітычнай улады ў Беларусі[226]. Гэтая ідэалогія не ўтрымлівае нічога новага. Яна грунтуецца на савецкай мадэлі. Такое сцвярджэнне падтрымлівае вядомы беларускі тэолаг і філосаф Пётр Рудкоўскі. У сваёй новай працы "Беларускія пытанні ў святле еўрапейскіх адказаў" называе яе няўдалай альтэрнатывай камуністычнай ідэалогіі, да якой не маюць сур'ёзнага стаўлення нават тыя, хто выкладае яе ў школах і ўніверсітэтах, атрымліваючы за гэта значныя ўзнагароды[227]. У сваю чаргу, вядомы ў Беларусі польскі палітолаг Марыюш Машкевіч, закранаючы ў сваіх навуковых працах тэму беларускай дзяржаўнай ідэалогіі, называе яе элементам савецкай, камуністычнай спадчыны. Ён паказвае разнавіднасці беларускай ідэалогіі і адэптаў з ліку дзяржаўных чыноўнікаў, якія прасоўваюць яе ў беларускую рэчаіснасць[228].

---

224 Е. Бабосов, *Роль национальной идеи в обеспечении устойчивого развития Республики Беларусь*, [у:] *Национальная политика — основы устойчивого развития государства*, Минск 2007, с. 37.

225 Тамсама, с. 38.

226 P. Usau, *Związek Radziecki w granicach odrębnego państwa. "Ideologia państwa białoruskiego" — mechanizm jej propagowania i narzucania społeczeństwu*, [у:] *Społeczeństwo białoruskie '2007. Nadzieje, złudzenia, perspektywy*, red. M. Pejda, Warszawa — Mińsk 2007, s. 44–50; Тамсама, P. Rudkouski, *Białoruska ideologia państwowa jako "utopia teraźniejszości"*, s. 51–56.

227 Падрабязней на гэту тэму гл.: P. Rudkowski, *Białoruskie pytania w kontekście europejskich odpowiedzi*, Wrocław 2017.

228 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Maszkiewicz, *Problemy ideologii państwowej na Białorusi,* [у:] *Białoruś – dalsza droga ku demokracji* (red. M. Iwanow), Wrocław 2012, s. 34–71; wersja angielska tekstu: M. Maszkiewicz, *State Ideology in Belarus: Main Problems and Concepts* , "Warsaw East European Review", vol. 11/2012, Warszawa 2013, s. 79–100.

Трапна заўважыў Яўген Мірановіч, што адначасова са стварэннем дзяржаўнай ідэалогіі ў пачатку XXI ст. з заканадаўчай тэрміналогіі пачало знікаць такое паняцце як “нацыянальныя меншасці”[229]. Паўсюдна пачалося выкарыстанне тэрмінаў “нацыянальныя супольнасці” або “этнічныя супольнасці”[230].

Укараненне ў беларускае грамадства дзяржаўнай ідэалогіі з’яўляецца вельмі небяспечным і шкодным як для развіцця сапраўднай беларускасці, так і для польскасці ў Беларусі. Для беларусаў гэта небяспечна тым, што яны, як і ў савецкі час, русіфікуюцца, а дзяржава не толькі не набывае, але страчвае ўласцівыя кожнай незалежнай і суверэннай дзяржаве нацыянальныя рысы, што звязана ў першую чаргу з невыкарыстаннем у штодзённым і публічным жыцці беларускай мовы. Як ужо адзначалася, увядзенне ў палітычную рэчаіснасць дзяржаўнай ідэалогіі прывяло да знікнення паняццяў “нацыянальныя меншасці” і “тытульная нацыя”. Замест іх выкарыстоўваецца тэрмін “этнічныя супольнасці”, якія ствараюць беларускі народ. Дзяржаўнай мовай і мовай штодзённай камунікацыі для большасці прадстаўнікоў беларускага народа з’яўляецца мова рускай этнічнай супольнасці, якая складае толькі каля 10 % насельніцтва Беларусі[231].

Варта заўважыць, што такая сітуацыя склалася ў выніку палітыкі прэзідэнта Беларусі і падначаленай яму вертыкалі ўлады. Яны пад лозунгамі роўнасці ўсіх этнічных супольнасцей і свабоды выбару мадэлі культурнага развіцця выключылі беларускую мову і ўсе іншыя элементы будаўніцтва беларускай нацыянальнай свядомасці з публічнага жыцця. Беларускасць у якасці падмурка фарміравання беларускамоўнай нацыянальнай супольнасці ўспрымаецца ўладамі як праява нацыяналізму, які неабходна любымі сродкамі вынішчаць з усіх сфер грамадскага жыцця[232].

У сучасным еўрапейскім свеце Рэспубліку Беларусь цяжка залічыць да нацыянальных дзяржаў. Хаця фармальна, з пункту гледжання міжнароднага права, яна такой з’яўляецца. Беларуская мова і культура тытульнай нацыі — беларусаў адыгрываюць у палітычнай, культурнай, эканамічнай і іншых сферах публічнага жыцця маргінальную ролю, а сам народ зведзены да статусу адной з этнічных супольнасцей. Дзяржаўная сістэма ўлады ў Беларусі і палітычная думка накіраваны на ўкараненне ў грамадстве ідэі, што вышэйшай каштоўнасцю для яго павінны быць дзяржава і органы ўлады.

Пачынаючы з 1995 г. беларускія ўлады праводзяць палітыку выцяснення беларускай мовы з публічнай прасторы, адначасова спекулююць лозунгам поўнай свабоды выбару мовы адукацыі, выхавання і культурнага развіцця ўсіх

---

229 E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, s. 98.

230 І. Пушкін, *Нацыянальныя супольнасці Беларусі: грамадска-палітычная і культурна-асветніцкая дзейнасць 1990–2005 гг.*, Магілёў 2007, с. 71.

231 E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, s. 98.

232 Падрабязней на гэту тэму гл.: Е. Бабосов, *Основы идеологии Белорусского Государства. Курс лекций*, Минск 2012, с. 50–55; ён жа, *Идеология Белорусского Государства: Теоретические и практические аспекты*, Минск 2009, с. 66–70; ён жа, *Основы идеологии современного государства*, 3-е издание, переработанное и дополненное, Минск 2007, с. 62–66.

этнічных супольнасцей. Насамрэч свабоды выбару няма. Прыкладамі гэтага з'яўляюцца пастаянныя адмовы ўлады даваць дазвол на будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Навагрудку, Брэсце, іншых гарадах Беларусі, а таксама другой школы ў Гродне. Большасць беларускага насельніцтва без усялякага супраціву[233], маўкліва прыняла моўную палітыку прэзідэнта Лукашэнкі[234].

Мадэль этнічнай палітыкі, як адзначалася вышэй, пачала фарміравацца з 1995 г., калі Аляксандр Лукашэнка адмовіўся ад парламенцкай сістэмы кіравання дзяржавай і сканцэнтраваў усю паўнату ўлады ў сваіх руках і ў руках сваёй адміністрацыі. У той час было прынята рашэнне спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння, у тым ліку развіцця беларускай мовы, культуры і выкарыстання нацыянальных сімвалаў. Калі рэжым ставіўся такім чынам да тытульнай нацыі, то і да іншых этнічных супольнасцей выпрацоўваліся падобныя адносіны.

Пастаянныя спробы беларускай улады адмовіцца ад агульнапрынятага ў сусветнай практыцы паняцця "нацыянальныя меншасці" і замяніць яго тэрмінам "нацыянальныя супольнасці" варта разглядаць не інакш, як імкненне вывесці палякаў у Беларусі з-пад прававой абароны міжнародных дакументаў.

Па колькасці палякі займаюць у Беларусі другое месца (пасля рускіх) сярод усіх нацыянальных меншасцей. Іх правы і свабоды гарантуюцца шэрагам міжнародных дагавораў. Беларусь ратыфікавала ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Міжнародную дамову "Аб палітычных і грамадзянскіх правах" 1966 г. Паводле яе забараняецца дыскрымінацыя ў дачыненні да нацыянальных меншасцей, забяспечваецца права на развіццё культуры, свабоднае спавяданне рэлігіі і выкананне рэлігійных абрадаў, а таксама права карыстацца роднай мовай[235]. Апрача таго, Беларусь прыняла факультатыўны пратакол дамовы, які дае магчымасць асобным грамадзянам падаваць скаргу ў органы ААН у выпадку парушэння правоў, гарантаваных гэтай дамовай. Беларусь як член Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе павінна прытрымлівацца яе рашэнняў адносна праў і свабод нацыянальных меншасцей. За іх рэалізацыяй сочыць Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ[236].

---

233 Адзінай нацыянальнай супольнасцю, якая не пагаджалася з такой сітуацыяй, была польская. Яе інтарэсы прадстаўляў СПБ. Увесь гэты час, з моманту прыходу да ўлады А. Лукашэнкі, СПБ не толькі вёў перамовы з беларускімі ўладамі пра рэалізацыю сваіх нацыянальных патрэб, але і выказваў нязгоду з нацыянальнай палітыкай праз судовыя працэсы з уладамі, арганізацыю публічных пратэстаў у Гродне і Навагрудку. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 297–427.

234 *Моўная палітыка ў Беларусі ў 1990-я гады*, http://www.tbm-mova.by/monitoring16.html, [22.11.2016].

235 A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 11.

236 СПБ неаднаразова інфармаваў амбасадара Групы АБСЕ ў Мінску Ханса Георга Віка пра парушэнні ўладамі Беларусі права польскай нацыянальнай меншасці на навучанне дзяцей на польскай мове і пра перашкоды з боку ўлад у справе будаўніцтва польскамоўных школ у Гродне і Навагрудку. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 464–465, 466–468, 470–471. СПБ інфармаваў таксама пра гэтыя праблемы Вярхоўнага Камісара АБСЕ па справах нацыянальных меншасцей Макса ван дэр Стула ў Гаазе. Тамсама, с. 473–476; ён жа, *Polska mniejszość narodowa na Białorusi w latach 1987–2005 a dyplomacja polska,* [у:] *Polska dyplomacja na Wschodzie,* s. 509.

Правы палякаў таксама прапісаны ў двухбаковых дамовах, заключаных паміж Беларуссю і Польшчай. Найбольш важнымі з іх для польскай нацыянальнай меншасці з’яўляюцца дагавор паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча “Аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве” ад 23 чэрвеня 1992 г., дагаворы паміж урадамі Беларусі і Польшчы “Аб супрацоўніцтве ў сферы культуры, навукі і адукацыі” ад 27 лістапада 1995 г.[237], “Аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі” ад 20 ліпеня 2016 г.[238] Таксама статус нацыянальных меншасцей, у тым ліку і польскай, вызначаецца ўнутранымі законамі Рэспублікі Беларусь[239].

Усе без выключэння пералічаныя вышэй законы і дагаворы давалі палякам у Беларусі права на развіццё сваёй мовы і культуры. Артыкул 10 закона РБ “Аб культуры” ад 4 чэрвеня 1991 г., напрыклад, гарантаваў палякам права на стварэнне нацыянальнай школы, установ культуры (тэатраў, музеяў, выдавецтваў і г.д.). Але рэалізаваць гэтае права было вельмі складана або зусім немагчыма[240]. Тым больш што новы Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб культуры

237 Пералік і змест дагавораў гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 220–274; E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, [у:] *Polityka etniczna współczesnych państw Europy Środkowo-Wschodniej*, red. H. Chałupczak, R. Zenderowski, W. Baluk, Lublin 2015, s. 97–148.

238 Архіў СПБ Анжалікі Борыс, дакументы ўваходныя за 2016 год; https://men.gov.pl/ministerstwo/informacje/podpisanie-porozumienia-pomiedzy-polska-a-bialorusia-w-obszarze-edukacji.html, [07.08.2017].

239 Найбольш важнымі з іх з’яўляюцца: *Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года,* Мінск 2014;
Закон РБ “Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь” ад 11 лістапада 1992 г. са зменамі і дапаўненнямі ад 5 студзеня 2004 г. № 261–3 (“Нацыянальны рэестр прававых актаў РБ”, 2004 г., № 4, 2/1010), ад 7 мая 2007 г., № 212–3 (“Нацыянальны рэестр прававых актаў РБ”, 2007 г., № 118, 2/1309), [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, “ЭТАЛОН” версия 6.7, [11.10.2017];
Закон РБ “Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях” ад 17 снежня 1992 г. са зменамі і дапаўненнямі (“Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь”, 1993 г., № 2, арт. 18; 1995 г., № 13, арт. 125, “Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь”, 1999 г., № 95, 2/102), Закон Республики Беларусь от 31 октября 2002 г. № 137-З, О внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь “О свободе вероисповеданий и религиозных организациях”, [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, “ЭТАЛОН” версия 6.7 [11.10.2017];
Закон РБ “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” ад 26 студзеня 1990 г. № 3094-XI, с изменениями и дополнениями, [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, “ЭТАЛОН” версия 6.7, [11.10.2017];
*Кодекс Республики Беларусь об образовании. С изменениями и дополнениями по состоянию на 21 сентября 2016 г.,* Минск 2016;
Закон Республики Беларусь от 19 ноября 1993 г. № 2570-XII “О правах ребёнка”, с изменениями и дополнениями, [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, “ЭТАЛОН” версия 6.7, [11.10.2017]; і інш. Поўны іх пералік і змест гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, с. 129–202; E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, [у:] *Polityka etniczna współczesnych państw Europy Środkowo-Wschodniej*, red. H. Chałupczak, R. Zenderowski, W. Baluk, Lublin 2015, s. 97–148; K. Jurewicz-Bakun, *Prawa mniejszości polskiej na Białorusi a standardy międzynarodowe,* [у:] *Polska mniejszość na Białorusi,* s. 311–317.

240 Прыкладам такога ігнаравання ўладамі Беларусі законаў у дачыненні да палякаў можа быць Навагрудак, дзе выкарыстоўваліся ўсе метады, каб не дапусціць адкрыцця ў горадзе польскай школы. Дзеля надання гэтаму рашэнню законнага характару, яго прынялі на чарговай сесіі Навагрудскага раённага савета народных дэпутатаў, прызначаных уладай, а не выбраных народам. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 522–523; T. Malewicz, *Wewnętrzne i zewnętrzne przyczyny podziałów*

ад 20 ліпеня 2016 г., які пачаў дзейнічаць 3 лютага 2017 г.[241], на заканадаўчым узроўні выключыў пытанні, звязаныя з магчымасцю стварэння нацыянальнай школы і ўстаноў культуры для нацыянальных меншасцей[242].

У дадзены момант Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адукацыі прадугледжана, што, згодна з пажаданнямі навучэнцаў і іх законных прадстаўнікоў і паводле рашэння мясцовых выканаўчых, а таксама распарадчых органаў, узгодненага з Міністэрствам адукацыі, могуць ствараццa класы або ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі, у якіх навучанне і выхаванне адбываецца на мове нацыянальнай меншасці або вывучаецца яе мова. На такіх умовах больш за 20 гадоў дзейнічаюць польскія школы ў Гродне і Ваўкавыску. Нягледзячы на паляпшэнне двухбаковых міжнародных беларуска-польскіх адносін і дамову паміж беларускім і польскім урадамі "Аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі" ад 20 ліпеня 2016 г.,[243] Міністэрства адукацыі РБ распачало курс на абмежаванне навучання на польскай мове ў адзіных польскамоўных школах Беларусі ў Гродне і Ваўкавыску[244]. Насуперак пратэстам[245] шырокай польскай грамадскасці Міністэрства адукацыі плануе свае прапановы заканадаўча аформіць у лістападзе 2018 г., выходзячы з імі ў беларускі парламент. Такія дзеянні ўлада тлумачыць клопатам пра дзяцей, накіраваным на больш поўную іх сацыялізацыю ў Беларусі і гарантаванне рэалізацыі

*w Związku Polaków na Białorusi (albo jak zmarnowano ZPB),* [у:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009,* s. 112–113.

241 Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб культуры 20 ліпеня 2016 г. № 413-З, http://www.vuchoba.org/kodeks-respubliki-belaruse-ab-kuleturi-20-lipenya-2016-g-413-z.html, [07.08.2017]; *Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб культуры. Уступіў у сілу 3 лютага 2017 г.,* Мінск 2016.

242 Падрабязней гл.: http://istina.by/files/file/7-o-kulture-kodeks-respubliki-belarus/, [07.08.2017]; http://www.vuchoba.org/kodeks-respubliki-belaruse-ab-kuleturi-20-lipenya-2016-g-413-z.html, [07.08.2017].

243 Архіў СПБ Анжалікі Борыс. Дакументы ўваходныя за 2016 г. Дамова паміж беларускім і польскім урадамі "Аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі" ад 20 ліпеня 2016 г.; https://men.gov.pl/ministerstwo/informacje/podpisanie-porozumienia-pomiedzy-polska-a-bialorusia-w-obszarze-edukacji.html, [07.08.2017].

244 Абмежаванні тычацца таго, што шэраг прадметаў, якія адносяцца да грамадскіх дысцыплін, у гэтых школах павінны выкладацца на адной з дзяржаўных моў (беларускай або рускай), а таксама на адной з гэтых моў павінны здавацца дзяржаўныя выпускныя экзамены. Варта адзначыць, што гэта плануецца зрабіць насуперак раней прынятаму рашэнню беларускага ўрада пра будаўніцтва польскіх школ у Гродне (1996) і Ваўкавыску (1999), замацаванаму ў лісце ад 3 жніўня 1995 г. і накіраванаму ў Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт міністрам адукацыі і навукі Васілём Стражавым. Паводле ўказанняў, змешчаных у гэтым лісце, а таксама на падставе дзеючага беларускага заканадаўства ў сферы праў нацыянальных меншасцей 16 жніўня 1995 г. быў падпісаны дагавор паміж Саюзам палякаў на Беларусі і Гродзенскім гарадскім выканаўчым камітэтам. Дакумент вызначыў прававыя межы функцыянавання польскамоўнай школы ў Гродне. Па той жа схеме быў падпісаны дагавор, датычны польскай школы ў Ваўкавыску. Паводле гэтых дакументаў усе прадметы ў польскіх школах павінны выкладацца на польскай мове. Падрабязней на гэту тэму гл.: Архіў СПБ Анжалікі Борыс. Дакументы выходныя за 2017 г.: Письмо в адрес Председателя Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, подписанное Тадеушем Гавиным, Семёном Домашем, Генрихом Крупенко и Николаем Маркевичем 12 мая 2017 г. Змест ліста гл. таксама: http://znadniemna.pl/22691/gawin-domasz-krupienko-markiewicz-obronie-polskich-szkol-grodnie-wolkowysku/, [07.08.2017].

245 На тэму пратэстаў, арганізаваных СПБ на чале з Анжалікай Борыс і бацькоўскім камітэтам польскай школы ў Гродне на чале з Веславам Кеўлякам, гл.: Архіў СПБ Анжалікі Борыс. Дакументы выходныя за 2017 г.; http://znadniemna.pl/category/oswiata/page/1/ старонка 1 і далей, а таксама *Szansa na uratowanie polskiego szkolnictwa na Białorusi?*, http://znadniemna.pl/23154/szansa-uratowanie-polskiego-szkolnictwa-bialorusi/, [07.08.2017].

іх праў у авалоданні дзяржаўнымі мовамі[246]. Насамрэч гэта першы крок беларускіх улад да ліквідацыі адукацыі на польскай мове ў школах у Гродне і Ваўкавыску[247]. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: навошта беларускія ўлады імкнуцца да знішчэння і так абмежаванай у сваім развіцці польскамоўнай адукацыі ў Беларусі? Адказы на гэтае пытанне могуць быць наступнымі. Па-першае, улады не могуць спакойна ставіцца да развіцця адукацыі на польскай мове ў Гродне і Ваўкавыску ў той час, калі ў гэтых гарадах няма не толькі беларускамоўных школ, але і класаў. Дзейнасць польскіх школ дае станоўчы прыклад для тых беларусаў, якія змагаюцца за існаванне беларускіх школ. А гэта не ўваходзіць у планы ўлад, якія перманентна рэалізуюць палітыку русіфікацыі. Таму яны і імкнуцца да ліквідацыі польскіх школ. Па-другое, у гэтых школах адсутнічае ўплыў ідэалогіі рускага свету. У сувязі з гэтым варта чакаць, што беларускія ўлады будуць працягваць дзейнасць, накіраваную на паступовае згортванне польскамоўнай адукацыі ў Беларусі.

Такім чынам, нягледзячы на тое, што права на вывучэнне польскай мовы ў школах сфармулявана ў беларускім заканадаўстве адносна ліберальна, ёсць патэнцыйныя перашкоды, пераадольванне якіх патрабуе шмат часу і рашучасці. Застой у развіцці польскамоўнай адукацыі, які працягваецца ўжо больш за дзесяць гадоў, сведчыць пра тое, што гэтыя перашкоды з'яўляюцца рэзультатыўнымі, а існуючыя заканадаўчыя магчымасці не выкарыстоўваюцца, або, іншымі словамі, не працуюць. Тым не менш беларускія ўлады спекулююць тэзісам пра тое, што з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі адразу была вырашана праблема навучання грамадзян рэспублікі на іх родных

[246] У выніку прымусовай як даваеннай (усходняя Беларусь), так і пасляваеннай (БССР, РБ) русіфікацыі палякаў Беларусі гэты працэс зайшоў так далёка, што вучні польскіх школ у Гродне і Ваўкавыску ў штодзённым жыцці ў асноўным размаўляюць на рускай або беларускай мовах. Яны дасканала валодаюць гэтымі мовамі. Таму няма ніякіх прычын для турботы з боку Міністэрства адукацыі РБ пра выкарыстанне вучнямі польскіх школ дзяржаўных моў. Больш за тое, гэтыя дзеці маюць праблемы з дасканалым авалоданнем польскай мовай. І менавіта гэта павінна непакоіць міністэрства адукацыі. Апроч таго, у межах падпісанай у Варшаве 20 ліпеня 2016 г. дамовы паміж урадамі Беларусі і Польшчы пра супрацу ў сферы адукацыі (параграф 1, арк. 6) беларускі бок узяў на сябе абавязкі стварэння ўмоў для развіцця адукацыі польскай нацыянальнай меншасці, а не для яе згортвання, што прадугледжвае праект новага Кодэкса аб адукацыі.

[247] Такое меркаванне мае гістарычныя падставы. Палякі Беларусі ўжо мелі падобны вопыт. Так, у 1937–1938 гг., калі масава закрываліся польскія школы ў БССР, улады гарантавалі палякам, што калі ў класах навучаецца больш за 15 вучняў польскай нацыянальнасці, то класы і школы застануцца. Тым не менш, польскамоўная адукацыя ў 1938 г. у БССР была цалкам ліквідаваная. У пасляваенны час, закрываючы польскія школы ў заходняй Беларусі, улады абяцалі захаваць у іх выкладанне польскай мовы ў якасці школьнага прадмета. Але ўсе гэтыя абяцанні не былі выкананыя. Сучасная Беларусь з'яўляецца правапераемніцай БССР. І ў сферы адукацыі беларускія ўлады праводзяць амаль ідэнтычную савецкай палітыку. Таму заява намесніцы міністра адукацыі РБ Раісы Сідарэнка пра тое, што ў выпадку прыняцця прапанаваных у Кодэкс аб адукацыі дапаўненняў статус дзяржаўных устаноў адукацыі ў Гродне (школа № 36) і Ваўкавыску (школа № 8) не зменіцца, а вучні будуць працягваць навучацца на польскай мове, успрымаецца польскай супольнасцю ў Беларусі з недаверам. Падрабязней на гэту тэму гл.: Архіў СПБ Анжалікі Борыс. Дакументы ўваходныя за 2017 год, Письмо заместителя министра образования Сидоренко Р.С. к Гавину Т.Ф. от 31 мая 2017 года; *Gawin, Domasz, Krupienko i Markiewicz w obronie polskich szkół w Grodnie i Wołkowysku,* http://znadniemna.pl/22691/gawin-domasz-krupienko-markiewicz-obronie-polskich-szkol-grodnie-wolkowysku/, [07.08.2017].

мовах, і што большасць з іх карыстаецца гэтай магчымасцю[248]. На самой справе гэтае сцвярджэнне не толькі з'яўляецца падманным, але ўлады ўсялякімі спосабамі (у тым ліку адміністрацыйнымі) адбіваюць у грамадзян жаданне праяўляць сваю нацыянальную самасвядомасць[249].

Змены, датычныя нацыянальнай палітыкі, уведзеныя ў беларускае заканадаўства пасля 2003 г., мелі касметычны характар. Дзяржаўная ідэалогія, на думку беларускіх улад, стварала фундамент для бесканфліктнага існавання розных этнічных супольнасцей[250]. Ствараліся і ствараюцца далей рознага кшталту праграмы, накіраваныя на захаванне культурнай спадчыны народаў, якія жывуць у Беларусі. Дзяржава павінна падтрымліваць прадстаўнікоў этнічных супольнасцей у справе развіцця адукацыі і культуры[251]. У выпадку з польскай нацыянальнай меншасцю не было дапамогі ў сферы наладжвання польскамоўнай адукацыі або выкладання польскай мовы ў якасці навучальнага прадмета ў школах у месцах кампактнага пражывання палякаў[252].

Указам прэзідэнта Беларусі ад 5 траўня 2006 г. Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей рэфармаваны ў апарат упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей, які падпарадкоўваецца Савету Міністраў РБ[253]. Пры ім працуе Каардынацыйны савет, у які ўваходзяць прадстаўнікі нацыянальных супольнасцей. Тэарэтычна яны маюць магчымасць уплываць на нацыянальную палітыку ў Беларусі, але на практыцы апарат упаўнаважанага працуе такім чынам, каб ініцыятывы нацыянальных супольнасцей стрымліваць. Так, напрыклад, усе прапановы СПБ па развіцці польскамоўнай адукацыі ніколі не знаходзілі разумення і падтрымкі з боку ўпаўнаважанага[254]. Працу Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей вядомы ў Беларусі польскі грамадскі дзеяч Тадэвуш Малевіч ацаніў наступным чынам: *"Дзяржаўны камітэт ніколі не ўнёс ніводнай прапановы для вырашэння хаця б адной праблемы па адраджэнні польскай мовы або польскамоўнай адукацыі: не дапамагаў вырашаць праблемы выдання падручнікаў на польскай мове, павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, падрыхтоўкі метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў… НІЧОГА!* […] *Нідзе і ніколі польскамоўная адукацыя або выкладанне польскай мовы не з'явіліся дзякуючы*

248 В. Касовіч, *Забеспячэнне адукацыйных патрэб нацыянальных меншасцей у Рэспубліцы Беларусь*, [у:] *Нацыянальная палітыка і міжнацыянальныя адносіны на Беларусі ў XX стагоддзі*, Мінск 1997, с. 161–169.

249 E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, s. 97–148.

250 Тамсама, с. 97–148.

251 *Программа развития конфессиональной сферы, национальных отношений и сотрудничества с соотечественниками за рубежом на 2006–2010 годы. Согласована Советом Министров Республики Беларусь 30.11.2006 г.*, Минск 2006, с. 20–21.

252 М. Л. Рыбаков, *О межнациональных отношениях и государственной национальной политике в Республике Беларусь*, [у:] *Этносоциальные и конфессиональные процессы в современном обществе. Сборник научных статей*, Гродно 2010, с. 20.

253 *Указ Президента Республики Беларусь, 5 мая 2006 г. № 289 "О структуре Правительства Республики Беларусь"*, http://www.pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=p30600289&p2={NRPA}, [24.11.2016].

254 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 460–463, 476–481.

*ініцыятыве Камітэта, беларускіх улад або іх органаў адукацыі”*[255]. Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей усім сваім складам супрацоўнікаў актыўна ўдзельнічаў у справе дэзінтэграцыі СПБ у 2005 г.[256]

Апарат упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей разам з іншымі міністэрствамі і ведамствамі распрацаваў у 2011 г. план этнічнай палітыкі на 2011–2015 гады[257]. Гэты план не прадугледжваў развіцця польскамоўнай адукацыі ў Беларусі, а намаганні грамадскасці ў гэтым накірунку не падтрымліваліся ўладамі[258]. Нягледзячы на тое, што план гарантаваў фінансавую падтрымку выдавецкай дзейнасці арганізацый нацыянальных меншасцей, апарат упаўнаважанага нічога не зрабіў для таго, каб не дапусціць ліквідацыі (па фінансавых прычынах) адзінай штотыднёвай польскамоўнай рэспубліканскай газеты “Глос знад Немна”[259].

Асноўнай ідэяй этнічнай палітыкі, якая праводзілася беларускімі ўладамі пасля 1995 г., з’яўлялася недапушчэнне пераходу нацыянальных праблем на палітычны ўзровень. Пры гэтым стрымліваліся любыя тэндэнцыі, якія садзейнічалі абуджэнню эмоцый на ніве нацыянальнай адасобленасці. З адукацыйнай палітыкі выдаляліся выхаваўчыя, культурныя і інфармацыйныя элементы, якія б спрыялі развіццю беларускай нацыянальнай свядомасці[260]. Гэта рабілася для таго, як сцвярджаюць праўладныя беларускія даследчыкі, каб выключыць любую пагрозу, звязаную са з’яўленнем і распаўсюдам нацыяналістычных рухаў[261].

Беларускія ўлады, стрымліваючы развіццё польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы як навучальнага прадмета, унесенага ў школьныя праграмы, узамен прапаноўвалі і працягваюць прапаноўваць вывучаць яе

[255] Гл.: ліст намесніка старшыні СПБ Тадэвуша Малевіча да старшыні Камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Аляксандра Білыка ад 14 жніўня 1998 г. Тамсама, с. 461–463.

[256] Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem a tożsamością*, s. 476–480; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005*, s. 281–282.

[257] Падрабязней на гэту тэму гл.: *Программа развития конфессиональной сферы, национальных отношений и сотрудничества с соотечественниками за рубежом на 2011–2015 годы*, http://www.belarus21.by/ru/zakonod/new_url_1750943773, [25.11.2016].

[258] У новым навучальным 2015/2016 годзе дзяцей, жадаючых вучыцца на польскай мове ў першых класах, у школе № 36 г. Гродна назбіралася на 3 класныя камплекты. Улады горада дазволілі стварыць толькі два першыя класы. Астатніх дзяцей, насуперак пратэстам бацькоў, пазбавілі канстытуцыйнага права навучацца на роднай мове.

[259] Пры гэтым варта адзначыць, што ўлады, забіраючы газету ў СПБ Анжалікі Борыс (абранай на свабодных і дэмакратычных выбарах у 2005 г. на пасаду старшыні арганізацыі) і перадаючы яе прызначанаму імі старшыні СПБ Юзафу Лучніку, упэўнівалі і яго, і грамадскасць у фінансавай падтрымцы друку газеты. Тым не менш фінансаванне прыпынілася. Улады такім чынам мэтанакіравана прывялі газету да заняпаду і пазбавілі некалькі тысяч палякаў магчымасці мець сваё выданне на польскай мове. Беларускія ўлады, маючы поўны кантроль над супрацоўнікамі, якія працавалі ў газеце, не жадалі працягваць фінансаванне лаяльнай да іх польскамоўнай газеты. Такое стаўленне можна растлумачыць прыкладам з савецкіх часоў, калі ўлады дэкларавалі ў дачыненні да ўсіх нацыянальных меншасцей роўнасць і роўныя магчымасці, але ў рэчаіснасці гэта рэалізаваць было немагчыма.

[260] E. Mironowicz, *Polityka etniczna Republiki Białoruś*, s. 97–148.

[261] Н. В. Бурая, *Уплыў дзяржаўнай палітыкі на развіццё нацыянальных і канфесійных адносін у Беларусі (1992–2004)*, “Весці БДПУ”, серыя 2, 2007, № 1, с. 47.

ў якасці факультатыва і ў нядзельных школах[262]. Такую адукацыйную палітыку ў дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці Тадэвуш Малевіч называе дыскрымінацыйнай[263]. Саюз палякаў на Беларусі, які прадстаўляў у органах улады інтарэсы беларускіх палякаў, не з'яўляецца (пасля яго дэзінтэграцыі ўладамі ў 2005 г.) паўнапраўным суб'ектам у беларускай палітыцы, як гэта было раней. Ён ніякім чынам не ўплывае на фармаванне дзяржаўнай палітыкі адносна польскай нацыянальнай меншасці. Палякі ў Беларусі па віне ўлад[264] сталі адной з перашкод для развіцця беларуска-польскіх адносін ва ўсіх сферах палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця[265].

Пры гэтым варта заўважыць, што беларускае заканадаўства ў сферы правоў і свабод нацыянальных меншасцей цалкам адпавядае міжнародным стандартам, зацверджаным у сістэме ААН і АБСЕ[266]. Нормы, вызначаныя ратыфікаванымі Беларуссю міжнароднымі дакументамі, беларускім заканадаўствам неаднаразова пашыраліся. Аднак на практыцы рэжым Аляксандра Лукашэнкі, насуперак пратэстам польскай нацыянальнай меншасці, працягвае ажыццяўляць класічную палітыку прымусовай дзяржаўнай русіфікацыі (асіміляцыі). Пасля 1999 г. улады не выканалі ніводнага патрабавання СПБ у справе развіцця польскамоўнай адукацыі ў Беларусі і выкладання польскай мовы як навучальнага прадмета ў месцах кампактнага пражывання палякаў. А. Лукашэнка і падначалены яму ўрад так і не выканалі ўзятае ўрадам В. Кебіча абавязацельства пабудаваць другую польскую школу ў Гродне за кошт сродкаў беларускага бюджэту[267]. З 2003 г. у Беларусі не выдадзена ніводнага школьнага падручніка, каб забяспечыць нармальную дзейнасць польскіх школ у Гродне і Ваўкавыску. Праблемай польскай нацыянальнай меншасці з'яўляецца адсутнасць канкрэтных прыкмет магчымых змен у стаўленні да яе патрэб з боку ўлад. У сувязі з гэтым можна прыйсці

262 І. А. Пушкін, А. А. Чугай, *Палітыка-прававыя асновы ўдзелу нацыянальных супольнасцей у грамадскім і гаспадарчым жыцці Беларусі*, [у:] *Современное белорусское общество: актуальные вопросы идеологической работы*, Могилев 2007, с. 72–77.

263 T. Malewicz, *Związek Polaków a stowarzyszenia mniejszości narodowych*, [у:] *Polska mniejszość na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności*, s. 269–270.

264 Паколькі гэта яны былі арганізатарамі і выканаўцамі дэзінтэграцыі СПБ.

265 Пачынаючы з 2014 г. Польшча спрабавала наладзіць двухбаковы дыялог з Беларуссю. 17 красавіка 2014 г. па ініцыятыве польскага боку адбылася тэлефонная размова прэзідэнта РБ Аляксандра Лукашэнкі з прэм'ер-міністрам Польшчы Дональдам Тускам. 10 чэрвеня 2014 г. упершыню пасля шасцігадовага перапынку ў Варшаве адбыліся беларуска-польскія палітычныя кансультацыі з удзелам намеснікаў міністраў замежных спраў Алены Купчыны і Катажыны Пелчынскай-Наленч. 28–29 жніўня 2014 г. упершыню за многія гады па ініцыятыве Польшчы адбыўся рабочы візіт міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея ў Польшчу. Падрабязней пра іншыя двухбаковыя беларуска-польскія сустрэчы гл.: С. Мусиенко, *Беларусь и Польша: двусторонние отношения*, [у:] *Polska i Białoruś we współczesnej Europie*, red. J. Tymanowski, A. Daniluk, J. Bryll, Warszawa 2015, s. 17–30.

266 *О государственной политике в сфере межнациональных отношений и развитии этнонациональных культур в Республике Беларусь*, http://www.belarus21.by/ru/main_menu/nat/opyt_raboty/new_url_1905945413, [07.02.2014]; K. Jurewicz-Bakun, *Prawa mniejszości polskiej na Białorusi a standardy międzynarodowe,* [у:] *Polska mniejszość na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności*, s. 312–317; T. Białek, *Międzynarodowe standardy ochrony praw mniejszości narodowych i ich realizacja na przykładzie Białorusi, Litwy i Ukrainy*, Warszawa 2008, s. 126–129 .

267 R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, s. 32–35.

